ЛЕАНІД ЛЕВАНОВІЧ

# ПАВОДКА СЯРОД ЗІМЫ

РАМАН

АПАВЯДАННІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989

ББК 84Бел7
Л 34

Рэцэнзент *Павел Дзюбайла*

Роман «Паводок среди зимы» повествует о нелегких послевоенных годах, о голодухе и сталинском деспотизме. Читатель снова встретит героев, которых полюбил в романе «Щеглы», есть и новые персонажи. По-разному складываются их судьбы. Финагент Иван Сыродоев любит Ольгу, тайно встречается с ней, но она растит сына, «безбатьковича». Мать Ивана резко осуждает ее. Непростые вопросы задает жизнь председателю колхоза Казакевичу, уполномоченному по заготовкам Жмуровскому.

Рассказы о наших современниках, их заботах, радостях и надеждах.

Л $\frac{4702120201-150}{М\ 302(03)-89}$ 11—89

ISBN 5-340-00322-1

Одна неправда нам в убыток
И только правда ко двору!

*А. Твардоўскі*

# I

Восень заўсёды падкрадваецца неўзаметку. Яшчэ прыгравае сонца, усё вакол зялёнае, яшчэ цвітуць гуркі, на доўгай гарбузовай касе смела ўсміхаецца вялізная пяцікутная жоўта-залатая кветка. Лета не хоча здавацца. І раптам прачнешся раніцаю — на вуліцы туман, густы, белы, як малако. А калі ён развеецца, на бярозе ярчэй засвецяцца жоўтыя лісцікі, бульбоўнік пачарнее, бы абвараны, і раса на траве халодная, аж коле ў босыя пяткі.

Звычайна на трэцім перапынку хлапчукі выбягалі на ўзгор'е і скакалі з абрыву ў пясчаную ямку. На дне яе жвірысты пясок быў халаднаваты, хоць зверху трохі праграваўся, ды неўзабаве парэпаныя ад цыпак ногі перамешвалі яго, перата ўкалі, як проса ў ступе.

Скакалі хлапчукі не проста так сабе. Тут ішло зацятае спаборніцтва — хто далей скокне. Не раз быў чэмпіёнам Андрэйка Сахута. Але нечакана для ўсіх уперад вырваўся Парасчын Данілка. Андрэйка гэтага не мог пераважыць. Калі б Паўлік, ягоны даўні сябрук, было б не так крыўдна, а то смаркаты Данька раптам сігануў далей за ўсіх. Мабыць, і Паўліка гэта раздражніла, ён шмаргануў носам і са здзіўленнем у голасе сказаў:

— Смелы еты байструк. У матку ўдаўся. Яна ваўка забіла...

— Хто байструк? А то ў нос як дам зараз! — замахнуўся брудным кулачком Данька.

— Ну, паспрабуй! — натапырыўся Паўлік.— Як дам выспятка, дык і пакоцішся прама ў Бесядзь.

Пагроза не напалохала Даньку, і ён схапіў свайго крыўдзіцеля загрудкі, хлапчукі паваліліся на пясок.

— Хопіць вам. Счапіліся,— кінуўся разнімаць іх Андрэйка.

Данька пасунуўся ўбок і скакаць болей не стаў. Андрэйка тым часам моцна разагнаўся і скокнуў. Праляцеў далей за ўсіх. Праўда, не ўтрымаўся на нагах, каленямі і рукамі зарыўся ў пясок.

— Во, бачыў? Андрэйка далей за цябе скокнуў! — крыкнуў узрадаваны Паўлік.— Так што не задзірай свой байстручыны нос...

Гэткай абразы Данька сцярпець не мог і схапіў Паўліка за каўнер кашулі, але тут заліўся звонам званок. Дзятва з усіх бакоў сыпанула да школы, як пчолы ў вулей перад дажджом.

Андрэйка з Паўлікам убеглі ў клас, калі там была ўжо Ганна Мікітаўна.

— Сядайце хутчэй,— сказала яна.— Будзеце пазніцца, пакіну пасля ўрокаў.

Хлапчукі моўчкі падаліся на свае месцы. Андрэйка сядзеў на першай парце побач з Варонінай Нінкай. Яна зірнула на суседа з дакорам, а потым закінула за спіну касіцу і ціха шапнула:

— Калі цябе пакінуць пасля ўрокаў, дык і я застануся...

Малы Сахута здзіўлена зірнуў на тварык, абсыпаны рабаціннем, бы перапёлчына яйка, упэўнена прашаптаў у адказ:

— Не пакіне. У мяне двоек няма.

З Нінкай ён сядзеў сёлета першы год: пасадзіла Ганна Мікітаўна. Андрэйку так хацелася тады запярэчыць, крыкнуць на ўвесь клас: не хачу сядзець з дачкою паліцая, але пабаяўся настаўніцы, ведаў яе мала, вучыла яна іх першы год, бо Пётр Еўдакімавіч Мамута, былы дырэктар школы, паехаў на вучобу ў Мінск. Андрэйка быў упэўнены, што Пётр Еўдакімавіч не пасадзіў бы яго з гэтай канапатай Нінкай. Раней яна сядзела на апошняй парце і хоць заўсёды старалася зубрыць урокі, акуратна пісала, даволі часта атрымлівала двойкі.

З кожным днём усё халаднела зямля, чысцела і бяднела на пахі паветра, а неба быццам гусцела, налівалася блакітам. Хлапчукі ўсё радзей у час перапынку скакалі на ўзгор'і. Андрэйкаў рэкорд так і застаўся непабітым. Апраналіся вучні цяплей, некаторыя ўжо хадзілі абутыя: хто ў галёшах, падвязаных вяровач-

кай, хто ў лапціках, хто ў старых кірзачах. Нарэшце дачакаўся новых баціначак і Андрэйка. Марына прывезла іх з райцэнтра.

Былі яны незвычайныя: цёмна-зялёныя, з чорнымі шнуркамі і чорнымі абцасамі. Ні ў кога ў Хатынічах такіх не было. Чырвоны, акурат печаны рак, ад радасці і хвалявання Андрэйка абуў бацінкі, пратупаў па хаце і здзівіўся: ногі як не свае, ісці цяжка, бо падэшвы чаравікаў не гнуліся, абцасы зрабілі яго высокім, яму здавалася, што ён зачэпіцца за маснічыну абцасам і бразнецца на падлогу.

— Што ты як на хадулях? Хадзіць не ўмееш? — усміхнулася маці. У яе вачах свяцілася радасць: які вялікі вырас малодшы сын, і ёсць у яго абутак, ногі не прамочыць, не захварэе.

— Нічога, навучыцца хадзіць. Першыя бацінкі ў жыцці... Ета ж табе ўжо дванаццаты год,— сказала Марына.

— Не першыя,— запярэчыла маці.— Перад вайною мы купілі яму ў Саковічах баціначкі. І цындалікі ў яго былі...

— А што за цындалікі? Дзе яны? Не помню іх,— стаяў пасярод хаты Андрэйка, разгублены, узрадаваны і шчаслівы.

— Як жа ты не помніш? Рудзенькія такія цындалікі. На гузічак зашпільваліся. Згарэлі яны. Маруська іх спярша насіла... А баціначкі былі навюсенькія. Тысячы акурат палучылі тады...

— Тысячы грошай? За бацінкі? — не паверыў сваім вушам Андрэйка.

— Ды не. Мы з бацькам за вас, за дзяцей, палучалі грошы. Сямёра ж вас было. І сем тысяч дапамогі. Уласць савецкая плаціла грошы... Купілі тады апратку сякую-такую. А то ж былі босыя і голыя. Мануфактура была дужа дарагая. Ды і прывозілі ў краму яе рэдка...

— Адкуль у нас сямёра дзяцей? Я дайжа не ведаю, як іх звалі ўсіх,— Андрэйка прысеў да стала, бо адчуваў, што ногі наліліся ў цеснаватых баціначках свінцовым цяжарам, але здымаць новы абутак не хацелася, а на вуліцы ішоў дождж — не пойдзеш, бо запэцкаеш зялёныя, як гуркі з грады, баціначкі.

— Першай у нас была Шурка. Памерла яшчэ да калгаса,— маці паднесла да вачэй фартух.— Тады

Петрачок, сыночак. І яго няма, бяднягі. Паклаў недзе галовачку... Невядома, дзе і магілка яго. А можа, і костачкі дождж абмывае...— плечы маці ўздрыгнулі, яна закрыла твар далонямі.

— Мама, ну хопіць табе... Можа, і жывы яшчэ наш Пятрок. Вяртаюцца яшчэ і цяпер людзі. Хто з палону, хто са шпіталя...

Пра тое, што Пятрок яшчэ дзесьці жыве, звычайна гаварыла маці, а сёння, каб суцешыць, яе словы паўтарыла Марына.

— Ох, Андрэйка, татулечка мой любы, ты кажаш, што не ведаеш, як і звалі каго... Была ў нас дзевачка, Зінкаю звалі. Памерла, калі цябе яшчэ не было. Забалеў жывоцік, ды ўсё мацней баліць. Крычала яна, гаротніца. Прывезлі ў бальніцу. Ды не далі радачкі. Згарэла як свечка.

— Я толькі і ведаю Колю. Ён яшчэ мне сніцца. Мы, бывае, і б'ёмся з ім у сне,— прызнаўся Андрэйка.— Помню трохі Маруську... Як праз туман...

— Маруська напалохалася ад немцаў. Пачала хварэць. І памерла... Колькі дзетачак забрала вайна праклятая,— уздыхнула маці.

За акном мільганулася постаць, і на парозе паявіўся Васька ў расшпіленай ватоўцы, з-за пазухі ў яго тырчалі скручаныя ў трубачку сшыткі. Кніжак ён у школу ніколі не насіў.

— Матка, есці хочу як з ружжа,— сказаў ён, распранаючыся.

Андрэйка адразу сігануў на сярэдзіну хаты: карцела пахваліцца бацінкамі, але Васька тупаў у парозе, потым адразу падаўся да стала, нават не зірнуўшы на брата, адшчыкнуў скарынку ад бохана хлеба, які падала маці.

— Васька, ты і не бачыш, што ў Андрэйкі на нагах,— Марыне таксама хацелася пахваліцца пакупкай.

— А што ў яго? Чуні новыя? — Васька выцягнуў шыю і, не ўстаючы, зірнуў цераз стол, перастаў жаваць хлеб, нават папярхнуўся.— Ну, Жэўжык! Вой-та бацінкі. Заглядзенне. Адкуль яны ўзяліся?

— Адкуль? Марына купіла,— з гонарам сказаў Андрэйка і з удзячнасцю зірнуў на сястру. Словам ён не выказаў ніякай падзякі, ды і не ўмеў гэтага рабіць. Але сястра адчувала, што малодшы брат бясконца ёй удзячны, і гэта радавала яе.

— Шанцуе Жэўжыку. Зімой кажушок пашылі. Цяпер баціначкі купілі. А я дык да сёмага класа ў лапцях шлэпаў. Бацінкі мае рот разявілі ўжо,— Васька высунуў ногі ў старых, разбітых салдацкіх ботах, якія саўсім адваліліся.

— Зато ты другі год сядзіш у сёмым класе,— упікнуў яго Андрэйка.

— А ета не твая справа, Жэўжык,— хмура адказаў Васька, узяў лыжку і пачаў сёрбаць гарачую капусту.

Андрэйка сказаў праўду. Мінулую зіму Васька хадзіў у школу ў Белую Гару. Вучыўся без ахвоты, нахапаў двоек, часта прапускаў урокі. А вясной зусім кінуў школу. Ён сыходзіў з дому, маўляў, ідзе ў Белую Гару, але за вёскай разам з Віцькам, Паўлікавым братам, яны паварочвалі да Бесядзі, вудзілі рыбу — у Дубніку былі схаваныя вудзільны, смажылі ўлоў на кастры, елі, закусваючы сакаўным шчаўем. Вечарамі Васька позна гуляў. Бацька лаяўся на яго: «Пойдзеш увечары, зачыню хату і не пушчу. Начуй на дварэ. Хто за цябе вучыцца будзе, латруга ты еткі?»

Бацька сапраўды запіраў дзверы, але маці цішком адчыняла. А потым Васька налаўчыўся адчыняць сам: адкідваў кручок нямецкім шомпалам, які хаваў пад страхою.

Неўзабаве бацька атрымаў запіску дырэктара школы, што Ваську нельга дапускаць да экзаменаў, бо амаль усю чацвёртую чвэрць ён прагуляў і застаецца на другі год, таксама як і Віцька.

Усё лета Васька працаваў нараўне з дарослымі мужчынамі: касіў, вазіў сена і хлеб на станцыю ў Лабанаўку, ездзіў з бацькам у лес па дровы. З набліжэннем восені бацька ўсё часцей усчынаў размову пра школу: трэба скончыць сем класаў, атрымаць атэстат, а тады думаць, што рабіць далей. Пра тое, каб вучыцца ў восьмым класе ў Саковічах, бацька і не заікаўся, бо там трэба плаціць грошы — паўтараста рублёў у год. А дзе іх узяць?

Ісці зноў у Белую Гару Васька наадрэз адмовіўся.

— Пайду ў Зарэчча. Віцька таксама туды пойдзе.

— А цераз Бесядзь як? Вясной разальецца. Зноў будзеш урокі прапускаць? Ідзі лепш у Белую Гару,— стаяў на сваім бацька.

Памалу Васька пераканаў усіх, што сямігодку ён

закончыць у Зарэччы. Разам з хлопцамі з Канчанскага боку ён майстраваў з жэрдак кладку цераз раку. Вучні пасёлка Мамонаўка-Парцюкоўка мелі сваю кладку напроці паселішча. Цяпер Васька вучыўся з большай ахвотай, бо разумеў, што адступаць няма куды, сямігодку трэба закончыць.

— Хачу табе, Васька, купіць боты гумовыя. Тады б ты ўсю восень і вясну смела хадзіў у іх у школу,— сказала Марына.

— О, боты было б добра! — Васька аж аблізнуўся.— А на зіму мы з Віцькам звалім сабе валёнкі. Віцька бачыў, як іх робяць. У іх быў вальшчык з Парцюкоўкі. Віцька і навучыўся ад яго... Матка, воўна трэба на валёнкі. Авечкі ж у нас ёсць.

— Ай, дзетачка, воўну ж мы здалі. Етыя ж... пастаўкі выканалі. Троху засталося. Можа, і хапіла б на валёнкі, дык жа трэба вязёнкі-рукавіцы звязаць. Можа, у Хадоры пазычу, калі сваёй воўны не хопіць.

Васька павесялеў і шчыра працаваў лыжкай. Балазе ўвосень было што есці.

Назаўтра Андрэйка прачнуўся раненька: хацелася скарэй абуць новыя чаравікі і пайсці ў школу. Хуценька паснедаў, сабраў свае сшыткі і кніжкі і выбег на вуліцу. Раніца была золкая, туманная. У вёсцы крычалі пеўні, рыкалі каровы, іх якраз выганялі ў поле.

Андрэйка нязвыкла марудна тупаў у новых бацінках, баючыся, каб не запэцкаць іх пяском, а ён, сыры пясок, так і прыліпаў да падэшваў, мысоў. Зрэдку хлопец азіраўся па баках: ці бачаць вяскоўцы, што ў яго новыя бацінкі. Вось каб толькі не запэцкаць іх, і ён сігаў так асцярожна, так унурыўся, глядзеў пад ногі, што ледзь не наступіў на каровіны бліны. У яго аж унутры ёкнула, так спалохаўся за бацінкі. Міжволі падумалася: куды лягчэй і ямчэй ён сябе адчуваў басанож, ногі, здаецца, самі вялі яго па знаёмай сцежцы, а цяпер ён ішоў пасярод дарогі, бо сцежка парасла муравой, рамонкамі, трава дужа росная, бацінкі намокнуць, і пясок будзе наліпаць яшчэ мацней. А мо разуцца? А перад школай абуць бацінкі? Але ж ногі запэцкаюцца. Як жа абуваць бацінкі на брудныя ногі?

Прыгадалася, як ішоў у першы клас у палатняных падсіненых штоніках, якія сама пашыла маці. І хоць яна старалася скроіць іх лаўчэй, усё роўна між ног боўталася матня-сесла, бо калі шчытней пашыць, та-

ды нагі не паднімеш, цераз парог не пераступіш... Затое сіняя сацінавая кашуля была пашыта хвацка, сядзіць на малым як улітая. Завяршала ўбранне першакласніка чырвоная цясёмачка, якой падпяразана кашуля. Ногі босыя, на галаве выгаралы за лета льняны віхор, адтапыраныя вушы былі чыстыя: бацька вымыў у лазні з асаблівым стараннем.

І вось прамінула ўжо тры гады. Цяпер Андрэйка сігаў у новых бацінках і адчуваў сябе вялікім і шчаслівым. Задаволена падумаў, што ён цяпер будзе вышэй за Нінку, хоць яна і цыбатая, а ён на абцасах усё роўна стане вышэй і нават будзе ўпоравень з пераросткамі, бо лапці і галёшы без абцасаў. У школе ўсе зайздросцілі Андрэйку, а ён хадзіў важна, на ўроках сядзеў, выставіўшы нагу на праход ля парты. Ганна Мікітаўна таксама заўважыла абнову, спынілася каля Андрэйкі і сказала, здаецца, нягучна, а пачуў увесь клас:

— Якія ў цябе прыгожыя баціначкі, Сахута. Зялёныя. Я такіх дык і не бачыла раней. Вось, дзеці, Андрэйка добра вучыцца, бацька за гэта купіў яму новыя бацінкі. І вы таксама старайцеся вучыцца добра, каб і вам бацькі набылі новы абутак.

У Андрэйкі ледзь не сарвалася з языка, што бацінкі купіла сястра Марына, а бацьку ў калгасе грошай не плоцяць, яму толькі працадні запісваюць — палачкі ставяць, грошы абяцаюць выдаць пазней, але змоўчаў. Краем вока згледзеў, як падціснула босыя ногі Нінка, схавала іх пад парту, спахмурнела, гатовая заплакаць. «У яе ж няма бацькі... Маці не мае за што купіць ёй чаравікі»,— Андрэйку ўпершыню зрабілася вельмі шкада яе. Раней, калі ўсе дражнілі дзяўчынку «Нінка-паліцайка», то і ён крычаў таксама, не зважаючы на яе слёзы, а цяпер яму захацелася зрабіць ёй што-небудзь добрае, суцешыць, але што зрабіць і як суцешыць, не ведаў. Нінчынага бацьку, паліцая Вароніна, ён не помніў, той уцёк з немцамі і як у ваду кануў, мо жыве дзесьці, а мо і загінуў. Ад маці, іншых дарослых Андрэйка чуў, што паліцай Варонін быў звер зверам, а яму ўсё роўна чамусьці шкада гэтай канапатай Нінкі. «Мой бацька быў на фронце... Калі б ён там зрабіў нешта кепскае, дык няўжо б і мяне пасадзілі ў турму?» — задумаўся малы Сахута, нават забыў пра новыя чаравікі.

— Сахута, ідзі да дошкі. А то ўсё ў акно чамусьці пазіраеш. Мабыць, не церпіцца на ўзгор'е выбегчы,— усміхнулася Ганна Мікітаўна.

Андрэйка аж здрыгануўся ад нечаканасці, рэзка падняўся, але пайшоў памалу: баяўся спатыкнуцца і ўпасці. Дамоў ён ледзь прыплёўся: гэтак націснулі ногі новыя бацінкі, хутчэй разуўся, выбег на гарод. Маці жала бульбоўнік, падаткнуўшы падол за пояс, узрадавалася, убачыўшы сына:

— Ну як, сынок, натрудзіў ногі?

— Троху ціснуць. Разносяцца,— па-даросламу сур'ёзна адказаў сын.

— Анягож, разносяцца, памякчэюць і параскашнеюць тады,— запэўніла маці.— Рві стручкі квасолі. Напарым у чыгуне. Ты ж любіш параную квасолю.

Хлапчук узяўся зрываць тоўстыя, але яшчэ зеленаватыя стручкі, і ў гэты час пачулася журботнае і звонкае «курлы-курлы». Ён падняў галаву і застыў на месцы: над выганам, у сінім чыстым небе, вострым касяком ляцелі журавы.

— Мам, зірні, журавы ляцяць! — радасна крыкнуў хлапчук.

Маці прыставіла казырком далонь да вачэй і ўглядалася ў неба. Сын падбег да яе, паказаў рукой:

— Вунь яны! Ды багата іх!

— Ага, бачу-бачу, сынок. Вось табе і восень на двары. Скора бульбу пачнём капаць... Ох, пралятае лецечка, і не ўгледзіш,— уздыхнула маці.

Кацярына Сахута любіла восень, баялася доўгай зімы і галоднай вясны. Восень ёй стала даспадобы асабліва ў апошнія, пасляваенныя гады. У маладосці яна любіла вясну, калі сыходзіў снег, шырока разлівалася Бесядзь, дзеці, акурат птушкі з клеткі, вылятаді на вуліцу з цеснай хаты. Сонейка цёплае, яркае, не трэба сляпіць вочы пры лучыне. А потым луг укрыецца фарбамі, нібы казачны дыван. «У маі, як у раі»,— казалі хатыньчане... А цяпер, калі ўсё вынішчыў немец паганы, радавала восень: было чым накарміць дзяцей. Яно і раней вяскоўцы не раскашавалі, хіба на каляды елі што хацелі, а потым пост пачынаўся, а там і прыпасы канчаліся. Таму цяпер Кацярына часта згадвала бацькаву прымаўку: восенню і ў кошкі — ляпёшкі, а ў вераб'я — піва. Радавала, што неблагая ўрадзіла бульба, мо нарэшце хопіць на ўсю зіму. Мінулай вясной давя-

лося купіць — выручыла Марына, аддала ўсю зарплату.

А журавы засмуцілі Кацярыну: закацілася яе лецейка, старасць не за гарамі, а старэйшая дачка яшчэ ходзіць у дзеўках, плаціць за іх падаткі, купляе братам абновы, а ў самой ні палітона людскага, ні чаравікаў... Журавы тым часам расцягнуліся шырокаю дугой, зрабілі круг над вёскай, быццам развітваліся з ёй, зноў выраўняліся ў доўгі вострый і прыгожы клін, праляцелі над Бесяддзю, скіравалі да цёмнай сцяны лесу.

Увечары Андрэйка расказаў бацьку пра журавоў.

— Паляцелі ўжо? Я бачыў, як яны рыхтаваліся ў дарогу. За Дубнікам на лузе было іх процьма. Лётаюць, падскокваюць. А то разгоніцца каторы, прабяжыць, памахае крыллем, потым — цуп. Стане, ашчыпваецца. Дзе якое пёрка замінае — выскубвае. Зноў узлятае...— апавядаў бацька.

— А ты блізка быў? І яны не баяліся? — Андрэйка аж рот разявіў ад здзіўлення.

— Блізка не падыходзіў, каб не палохаць. З-за кустоў назіраў. Першы раз у жыцці такое бачыў. Да чаго разумныя птахі! — падзівіўся бацька, твар у яго быў задуменны, а сінія вочы неяк затуманіліся, ласкава пазіралі на сына.

Ноччу Андрэйку прысніўся сон. Зайшоў нібыта ён за Дубнік, а там журавы, лётаюць, падскокваюць, курлыкаюць, быццам клічуць да сябе яго, Андрэйку. Сядзеў ён, сядзеў, аж ногі здранцвелі, захацелася яму пужнуць журавоў, каб узляцелі. Выбег з-за кустоў, памчаў, размахваючы рукамі. Але птахі не баяліся яго, гагаталі, бы гусі, як смяяліся з яго, малога. Ён усё бегаў і крычаў. Раптам адзін жораў, вялізны, шэры, узмахнуў шырознымі крыламі, кінуўся да хлапчука, прасунуў шыю між Андрэйкавых ног і падняў яго ўгору. З абодвух бакоў таксама ляцелі журавы і трымалі хлапчука за порткі. Падняліся ўжо высока, вецер свістаў увушшу. Андрэйка зірнуў уніз і жахнуўся: яны ляцелі над Бесяддзю, мінаючы вёску. Падалося яму, што маці стаіць на гародзе і пазірае ўгору. «Адпусціце мяне! Я хачу дамоў! Адпусціце!» — закрычаў Андрэйка і пачаў лупцаваць журавоў па крыллях. «А палохаць нас будзеш? — бліснуў чырвоным круглым вокам першы жораў і праскрыпеў: — Калі не будзеш, адпусцім...» — «Не буду! Вось пабачыце, не буду!» — крычаў і плакаў хлапчук. Журавы ляцелі ўжо над полем.

Зверху былі відны купкі кустоў вакол Шамаўскага ручая, роў зверху здаўся зусім неглыбокім і вузкім. Кусты раптам пачалі набліжацца, роў скончыўся. Птахі ляцелі над Галным балотам. Першы жораў моцна ўзмахнуў крыллем, крутнуўся і скінуў хлопца з сябе. Андрэйка скаціўся ў мяккую зялёную траву. Ён зусім не ўдарыўся, але чамусьці ўсё цела балела, у роце ўсё пасмягла, хацелася піць...

І тут ён прачнуўся. У грудзях моцна, як не выскачыць, калацілася сэрца. Ён паляжаў трохі, супакоіўся, потым пачаў адзявацца.

— Нешта ты заспаў сянні,— сказала маці.— Добра, што нядзелька. У школу не трэба ісці. Дык можна і паляжаць.

— Які мне сон сніўся! Лётаў у сне. Журавы неслі...

— Калі ў сне лётаеш, тады расцеш... Аткліяў ты троху, ад'еўся. Увосень і кабан паросен,— усміхнулася маці.— Ідзі бягом мыйся. Снедаць будзем.

У тую раніцу ўсе былі дома, апроч Марыны, якая пайшла на дзяжурства ў Лабанаўку. Пасля заканчэння фельчарскага вучылішча яна працавала ў раённай бальніцы.

На стол маці спачатку паставіла чыгунок варанай бульбы, талерку гурочнага расолу, у які пакрышыла цыбулі і прэсных гуркоў. Усе елі гарачую бульбу і сёрбалі лыжкамі салёны расол. Андрэйка вельмі любіў маладую свежую бульбу з расолам. Потым маці наліла ў вялікую гліняную місу, якую яна называла латкай, булёну, затоўчанага лоем і цыбуляй. Васька асабліва любіў усялякія супы, крупені, ён мог, здавалася Андрэйку, адзін увабраць цалюткі чыгун. Андрэйку яшчэ падабалася малако крэпкае — гэта значыць тварог, заліты пастаялкай. Тугія кавалкі кіславатага твара́гу і салодкае халоднае малако — усё разам было вельмі смачна.

— А квасолю калі будзем есці? — не вытрымаў Андрэйка.

— У абед. Хай яна распарыцца добра,— адказала маці.— Цэлы чыгунок паставіла. Ежце, хоць распаражыцеся...

Ледзь дачакаўся Андрэйка абеду: гэтак хацелася яму фасолі. Пасёрбаў капусты, потым паеў шкрылёў — тушаных скрылькоў бульбы з салам, затым гарбузовага супу, салодкага, жоўта-белага.

— Ну, а цяпер квасоля,— маці ўзяла ў чалесніку невялікі чыгунок і паставіла на стале драўляны кружок.— Ежце колькі ўлезе.

Андрэйка ўзяў жменю цёплых, распараных струкоў, клаў іх па адным у рот, вылушчваў фасолінкі, шалупінне складваў на стале. Праз нейкі час каля Ваські і Андрэйкі высіліся курганкі пустых стручкоў. Распараныя, саладкаватыя фасолінкі — солі маці сыпала мала, соль усё яшчэ ашчаджалі — літаральна раставалі ў роце.

Быў яшчэ адзін восеньскі ласунак — параныя кіёўкі. Бярэш развараную кіёўку, а яна цёплая, важкая, зярняткі палопаліся, і ўгрызаешся ў сакаўную, саладкаватую іх мякаць, нібы іграеш на губным гармоніку.

І стручкі фасолі, і кіёўкі бываюць толькі ўвосень, пагэтаму Андрэйка асабліва любіў гэтую пару.

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, верасень 1949 г.*

*2 верасня. У мінскім прыгарадным калгасе «Чырвоны агароднік» створаны філіял мінскай музычнай школы імя Л. П. Александроўскай.*

*12. На экранах Масквы пачаў дэманстравацца новы мастацкі фільм «Канстанцін Заслонаў».*

*16. Калгасы, саўгасы і сялянскія гаспадаркі Беларускай ССР датэрмінова выканалі дзяржаўны план хлебанарыхтовак.*

*20. Адкрылася чарговая чацвёртая сесія Генеральнай Асамблеіі ААН. Дэлегацыю Савецкай Беларусі ўзначальвае міністр замежных спраў БССР К. В. Кісялёў.*

## II

Стаяла позняе бабіна лета, калі ў Лабанаўку прыехаў новы ўпаўнаважаны па нарыхтоўках Міхаіл Сямёнавіч Жмуроўскі. Ён замяніў Крупадзёрава, які знаходзіўся пад арыштам: папаўся на адной афёры.

Гэта здарылася на пачатку восені. Крупадзёраў адчуваў сябе поўным гаспадаром у раёне, лічыўся толькі з першым сакратаром райкома партыі Акапянам, а той

яму давяраў: раён адзін з першых у вобласці па выкананні плана нарыхтовак, нядоімшчыкаў мала — жалезнай рукой Крупадзёраў выціскаў усё, што патрабавалася. На яго сыпаліся скаргі: грубы з падначаленымі, бывае выпіўшым на рабоце. Акапян зрэдку ўшчуваў яго:

— Душа любезны, будзь асцярожней. З людзьмі не заядайся. Раён хваляць, але як надта зарвешся, гэта не выратуе.

— Сяргей Хачатуравіч, за мяне можаце быць спакойны. Крупадзёраў дзела знае туга,— ухмыляўся ўпаўнаважаны.

І ўсё ж ён папаўся. Падгаварыў яго дырэктар спіртзавода Круглікаў: навезлі з калгасаў багата бульбы, няма куды дзяваць, давай пару машын фуганём у Крычаў, прададзім, у цябе там ёсць знаёмыя хлопцы, грошы напалам. Крупадзёраў клюнуў. Дзве першыя машыны ўдалося рэалізаваць хутка, немалы барыш лёг у кішэню. Захацелася паўтарыць аперацыю, яшчэ дзве машыны памчалі ў Крычаў, і тут іх накрылі. Галоўным віноўнікам аказаўся Крупадзёраў, бо ён дамаўляўся ў Крычаве з гандлярамі, якія ўсё на яго і звалілі. Круглікава таксама знялі з работы, выключылі з партыі. Потым адбыўся суд. Круглікаву далі шэсць гадоў турмы. Пракурор Ясючэня патрабаваў прысудзіць Крупадзёрава да дзесяці гадоў зняволення, бо даўно не любіў яго, але адвакат пачаў даводзіць, што Крупадзёраў самаадданa выконваў свае службовыя абавязкі, раён заўсёды выцягваў план нарыхтовак, што ў падсуднага нялёгкі жыццёвы лёс, не дужа вялікая адукацыя, што з бульбай яго заблыталі, і таму трэба змякчыць меру пакарання. «Хто ж яго заблытаў? Свой кацёл на плячах для чаго? У нас забіраў усё да апошняга. А сам шпікулянт! Грошай напхаў кішэню. Вось табе і малаграматны»,— крыкнула жанчына з залы.

Пачуўшы гэта, Крупадзёраў яшчэ ніжэй апусціў шырокія дужыя плечы, мацней сцяў тонкія вусны, нервова тарганулася няголеная шчака, мурашкамі папоўз па спіне страх: а раптам раскапаюць ягоны падман — бо скончыў ён не шэсць класаў, як пісаў у анкетах. Праўда, у яго мелася даведка аб пачатковай адукацыі, а фактычна ён хадзіў у школу толькі адну зіму, у першы клас. Нечакана мільганула думка: а мо прызнацца, што ён зусім малапісьменны, таму і ўліп у гэтую

гісторыю з бульбай. Нездарма кажуць: тапелец і за саломінку хапаецца. Крупадзёраў ужо хацеў падняць угору сваю сухарлявую «жалезную» правую руку, якой баяліся старшыні ўсіх сельсаветаў раёна, але стрымаўся: могуць даць яшчэ болей за падман, ды і ўсе жахнуцца, што гэтакі невук займаў высокую і адказную пасаду ўпаўнаважанага па нарыхтоўках, з якім не адважваўся спрачацца і сам Акапян. Мабыць, таму і лютаваў Крупадзёраў, бо разумеў, што незаконна займае пасаду, і вылузваўся са скуры, каб апраўдаць давер начальства. Яго хвалілі, падтрымлівалі, ён пачаў думаць, што яму ўсё можна: што хачу, тое і раблю.

І вось ён сядзіць на лаве падсудных, ссутулены, абвялы, нізка апусціў цяжкую, бы з пахмелля, галаву. Да яго нарэшце дайшло, што яму пагражае турма і ніхто яго не выратуе. Крупадзёраў спадылба, як зацкаваны воўк, еў вачамі маладога суддзю Яўгена Васіленку. А той, русявы, з хлапечай грыўкай валасоў, з тонкім, амаль дзявочым тварам і нечакана басістым голасам, з прыкметным хваляваннем вёў судовы працэс — адзін з першых у сваім жыцці. Крупадзёраў дзівіўся, што вось гэты суддзя-хлапчук вырашае ягоны лёс. Двух засядацеляў: пажылога настаўніка ў круглых акулярах і маладую ружовашчокую даярку ў белай хустцы, завязанай пад бараду, ён у разлік не браў, бо заўсёды лічыў, што вырашае начальнік, той, хто кіруе, лейцы трымае. І так знізу і да самага верху. Крупадзёраў ёрзаў на мулкай драўлянай лаўцы, сціскаў раптам спацелыя далоні. Ён уздрыгнуў, калі яму далі апошняе слова, адчуў, што ў роце ўсё пасохла, язык не павярнуць. Загаварыў нягучна, глухаватым голасам, але памалу голас яго памацнеў. Пачаў з таго, што жылося яму цяжка, не забыў сказаць пра калецтва, што мала вучыўся, заўсёды і ўсюды, на любой пасадзе ўсе сілы аддаваў рабоце. «Прашу змякчыць мне меру пакарання. Я хачу чэсна працаваць, каб змыць віну...» — «Скажыце, калі ласка, што прымусіла вас пайсці на злачынства? Чаго вам не хапала?» — у голасе суддзі чулася чалавечая цікаўнасць, нават здзіўленне, маўляў, якога ражна табе не хапала, каб лезці ў гэтую авантуру. Крупадзёраў доўга маўчаў, нарэшце сказаў: «Праўду кажучы, я і сам не ведаю... Хацеў памагчы Кругліkаву... Ну, каб не пагніла бульба...» — «Дык чаму ж грошы не здаў дзяржаве? Нябось у сваю кішэню за-

пхнуў»,— крыкнуў нейкі мужчына. У зале пачуўся смех.

Суддзя і засядацелі пайшлі ў бакавушку, каб вынесці прысуд. Невялікая паўцёмная зала, бітком набітая людзьмі, загаманіла, загула. Крупадзёраў у залу не глядзеў — баяўся зірнуць, баяўся, што тая кабета, што крычала, ці гэты мужчына падыдзе і плюне яму ў твар.

«Устаць! Суд ідзе...» Галасы ў зале пацішэлі. Крупадзёраў пільна, нібы гіпнатызёр, пазіраў на суддзю. Той адкінуў з ілба грыўку валасоў і гучна загаварыў. Першыя словы дайшлі да Крупадзёрава быццам праз вату: шумела ўвушшу, кроў стукала ў скронях, а потым выразна пачулася: «... да васьмі гадоў зняволення...» Тут жа падхапіўся пракурор Ясючэня і прапанаваў запісаць прыватнае вызначэнне: Крупадзёраў пайшоў на злачынства, бо адчуваў, што яму ўсё дазваляецца. Суддзя разумеў, што гэта каменьчык у Акапянаў агарод, але пярэчыць не мог: ведаў, што гэта сапраўды так, чуў пра выступленне старшыні райвыканкома Пракапенкі на бюро райкома, у якім ён прызнаваў і сваю віну як кіраўніка раёна, гаварыў аб нізкай патрабавальнасці да некаторых таварышаў.

Акапян таксама прызнаў, што не заўсёды быў патрабавальным да Крупадзёрава, але ж той не маленькі, вопытны работнік, ведаў, што рабіў, і раз нашкодзіў, хай адказвае па ўсёй строгасці закону. Да новага ўпаўнаважанага Акапян вырашыў паставіцца з большай патрабавальнасцю і таму прыняў Жмуроўскага строга афіцыйна. Гаварылі нядоўга.

— Я думаю, душа любезны, што ў працэсе работы пазнаёмімся бліжэй,— сказаў Акапян, каб трохі змякчыць ўражанне ад такой насцярожанай сустрэчы.

Жмуроўскі моўчкі кіўнуў, скупа ўсміхнуўся. Быў ён у новенькай цёмна-сіняй форме з чатырма зорачкамі ў пятліцах, гладка паголены твар, невысокі, плячысты. Увесь яго выгляд выдаваў чалавека сур'ёзнага і дзелавога.

— Ну што ж, жадаю вам поспехаў, Міхаіл Сямёнавіч,— сказаў Акапян на развітанне.— Улічыце памылкі вашага папярэдніка. План ён выконваў, але сам аказаўся не на вышыні. Кіраўнік павінен быць прыкладам і ў асабістым жыцці, і паводзіць сябе прыстойна. Вось так, душа любезны.

— Дзякуй за парады і пажаданні. Не ведаю, ці змагу, але старацца буду... Ну, каб на вышыні...

Акапян адчуў іронію ў словах упаўнаважанага, зразумеў, што пажаданні выказаў не лепшым чынам, але паправіць што было позна: Жмуроўскі ўжо выйшаў з кабінета.

«Першы раз бачымся, а такое адчуванне, што ён падазрае мяне ў нейкіх грахах»,— падумаў Жмуроўскі па дарозе ў райвыканком — ішоў да старшыні райвыканкома Пракапенкі з візітам ветлівасці, бо як-ніяк давядзецца разам працаваць.

Пракапенка сустрэў новага ўпаўнаважанага таксама стрымана, але памалу разгаварыліся. У кабінет завітаў Даўгалёў, які працаваў цяпер намеснікам старшыні.

— Дык вы толькі нядаўна з арміі? Доўга вам давялося служыць,— сказаў Пракапенка.

— Ды ўсё не адпускалі. У Германіі служыў. Наводзілі там парадак. На пачатку зімы дэмабілізаваўся. Пад Мінскам працаваў намеснікам упаўнаважанага. А потым прапанавалі сюды. Праўду кажучы, не хацелася ехаць. Я і родам з Мінскай вобласці, але загад...

— Дзе давялося ваяваць? На якіх франтах? — спытаў Даўгалёў.

— Ой, многа дзе. І на Бранскім, і на Калінінскім... Там параніла...

— Дык, выходзіць, мы разам ваявалі! — узрадаваўся Даўгалёў.— І мяне пад Калінінам скубанула. Адтуль у шпіталь на Урал...

— А мяне яшчэ далей. Аж у самы Новасібірск. Адтуль трапіў на Другі Беларускі, дайшоў да Берліна...

— Ну, вам з Міхаілам Касьянавічам будзе пра што пагаварыць. Дарэчы, вы цёзкі,— пры гэтых словах Даўгалёў і Жмуроўскі пераглянуліся.— Не буду вас затрымліваць, Міхаіл Сямёнавіч. Раю паездзіць па раёне, пабыць ва ўсіх сельсаветах. Калі што якое, заходзьце да мяне. Чым змагу — дапамагу, што ведаю — падкажу.

«Зусім іншая размова,— адзначыў для сябе Жмуроўскі.— Вось табе і душа любезны...»

Даўгалёў таксама падняўся:

— Да мяне няма пытанняў, Антон Яўсеевіч?

— Не, ідзі працуй,— Пракапенка зразумеў, што Даўгалёў хоча завесці новага ўпаўнаважанага да сябе і

працягнуць гаворку. «З Крупадзёравым ён ніяк не мірыўся, а тут адразу пацягнуўся да Жмуроўскага,— падумаў Пракапенка, калі Даўгалёў і новы ўпаўнаважаны выйшлі.— Ды ён, відаць, не такі арап, новы нарыхтоўшчык, як Крупадзёраў. Але ж пасада ягоная... Хочаш не хочаш, прымушае і на горла браць, іншым разам і кулаком грукнуць...»

Амаль увесь першы месяц Жмуроўскі праездзіў па раёне, але паспеў пабываць далёка не ва ўсіх сельсаветах — іх мелася дваццаць пяць. Дарогі разбітыя, транспарт — старэнькая калымага...

Неяк надвячоркам ён вярнуўся ў Лабанаўку, і яму перадалі, што званілі з райкома — тэрмінова прасіў зайсці Акапян. Жмуроўскі нават не прысеў у сваім кабінеце, выпіў шклянку вады і пакіраваў у райком. Апроч Акапяна быў у кабінеце Пракапенка.

— Заходзь, душа любезны! Сядай, дарагі,— Акапян падняўся насустрач, паціснуў руку.— Мы чакаем цябе як бога.

— А ў чым справа? Што здарылася? — устрывожыўся Жмуроўскі.

— Здарылася тое, што наш раён выканаў план нарыхтовак па ўсіх відах прадукцыі. Мы тут падрыхтавалі паперу ў вобласць. Многія раёны ўжо адрапартавалі, а мы ўсё раскачваемся. Падпісвай, душа любезны, і сёння ж адправім,— Акапян падсунуў Жмуроўскаму стос паперак, зверху на іх паклаў сваю самапіску.

— Прабачце, Сяргей Хачатуравіч, лён яшчэ не адгрузілі,— адарваў галаву ад папер Жмуроўскі.

— Лён ляжыць на станцыі. Падрыхтаваны, адсарціраваны. Сёння-заўтра падгоняць вагоны, і мы шуганём яго на Оршу...— у голасе Акапяна чулася нецярпенне, маўляў, падпісвай і не дуры мне галаву.

— Вось тады і адрапартуем! — Жмуроўскі адсунуў ад сябе паперы, ручка скацілася з іх на стол і пакацілася далей. Пракапенка паспеў яе падхапіць, каб не звалілася на падлогу.

— Слухай, душа любезны,— Акапян падняўся, упёрся кулакамі ў стол, аж хрумснулі суставы, на твары пад скурай захадзілі жаўлакі.— Мы працавалі дзень і ноч... Увесь раён, усе людзі. І старыя і малыя. А вы зрываеце...

— Я нічога не зрываю,— спакойна, але рашуча ска-

заў Жмуроўскі.— Я не магу падпісваць ліпу. Уводзіць у зман дзяржаву...

— Гэта гучныя словы, душа любезны. Вы баіцеся за сваё крэсла. Вас напалохалі пажарам, калі два гады назад згарэў на станцыі лён. Дык снарад двойчы не трапляе ў адно месца.

— Ніхто мяне не палохаў. І скажу вам, Сяргей Хачатуравіч, што, апроч шчыкоткі, я нічога не баюся.

Пачуўшы гэта, Пракапенка ледзь не зарагатаў, але стрымаўся, кашлянуў, нягучна сказаў:

— Можа, і праўда, Сяргей Хачатуравіч, лепей пачакаць...

— Чакаць няма чаго. Зараз вы ўдвух едзьце на станцыю. Арганізуйце адпраўку лёну.

— От гэта дзелавая размова,— падняўся Жмуроўскі.— Я гатовы.

Пракапенка зірнуў на стомлены, запылены твар упаўнаважанага па нарыхтоўках, на чырвоныя ад недасыпання вочы, моўчкі падняўся, выйшаў услед за ім.

Раззлаваны Акапян, як тыгр у клетцы, тупаў па сваім кабінеце. «Ах ты, хлапчук! Кісейная барышня... Ён не можа падпісваць ліпу... Чысцюля... А сам яшчэ палец аб палец не стукнуў, каб план быў... Чакай, чакай,— Акапян спыніўся.— А мо ён хітраваць уздумаў? Яму ж выгадна зараз, калі раён у прарыве. Яго лаяць не будуць... Толькі прыступіў... Зваляць на Крупадзёрава ды на мяне... А потым на дзень-два адрапартуем раней — ужо яго заслуга! Ах ты, шчанюк. Заўтра ты ў мяне будзеш круціцца як вуж на патэльні...»

Тым часам Пракапенка дагнаў Жмуроўскага на вуліцы, прыпыніў.

— Міхаіл Сямёнавіч, ты сёння, мабыць, і не абедаў? — і не чакаючы адказу, прапанаваў: — Пайшлі да мяне. Павячэраем, а потым паедзем. Можа, там да раніцы давядзецца валаводзіцца...

— Калі праўду казаць, то і не абедаў,— прызнаўся Жмуроўскі.— А што гэта за гісторыя з пажарам? Я чуў краем вуха, а толкам і не ведаю...

— Гісторыя, браце, недарэчная,— пачаў Пракапенка.— Гады два назад было. Прыехала да нас камісія з Мінска. Здаецца, супрацьпажарны нагляд. А на станцыі ляжала багата лёну. Камісія і кажа начальніку станцыі: блізка ляжыць лён, упадзе іскра, загарэцца

можа. А начальнік быў у нас такі вясёлы, кучаравы, родам з Чарнігаўшчыны. У яго быў зуб залаты, і любіў ён усміхацца. Жанчыны па ім так і сохлі. Дык ён і кажа: «Як гэта ад іскры лён загарыцца? Вы яго запалкай не запаліце. Не верыце? Глядзіце». Чырк запалку, а лён як усхапіўся, дык і не далі рады. Увесь і згарэў. Суд быў. У начальніка аказалася многа сваякоў з тоўстымі кішэнямі. Некалькі дзесяткаў тысяч грошай унёс... Вось і даказаў...

Праз гадзіну яны былі на станцыі. Апоўначы далі вагоны. Да раніцы ўвесь лён быў адгружаны.

— Вось цяпер можна рапартаваць,— хістаючыся ад бяссоння, увайшоў Жмуроўскі ў кабінет Акапяна.

Той узрадаваўся, пачуўшы, што лён адпраўлены, і ўсё ж паўшчуваў упаўнаважанага:

— А суткі мы страцілі, душа любезны. Маглі ўчора адправіць... Былі б у перадавіках.

— Затое сумленне цалей будзе, Сяргей Хачатуравіч,— ціха сказаў Жмуроўскі.— Пайду адсыпацца.

— Шагай, душа любезны,— і ён нечакана для самога сябе, па-сяброўску паляпаў на плячы ўпаўнаважанага.

«Дзівак чалавек, учора быў злы як чорт, а сёння гатовы абдымацца,— падумаў Жмуроўскі.— Але і яго трэба зразумець. За ўсё здымаюць стружку. План выканалі, ён і рады. А мо крыўду і затаіў?»

Гарачы, няўрымслівы Акапян на гэты раз паціраў рукі ад радасці: план нарыхтовак спіхнулі, лён, які непакоіў яго даўно, адгрузілі. Можна ўздыхнуць з палёгкай. Учора ён сапраўды быў злы на ўпаўнаважанага, а сёння гатовы быў расцалаваць яго: ноччу ён шмат думаў і ў глыбіні душы прызнаваў, што Жмуроўскі паступіў правільна, не падпісаў ліпы, бо што карысці будзе ад тых нарыхтовак, калі мы страцім сумленне і чэснасць.

Жмуроўскі спаў на кватэры як забіты. За нялёгкую мінулую ноч яны багата аб чым пагаварылі з Пракапенкам, шмат чаго ўспомнілася.

Было Міхасю Жмуроўскаму няпоўных трыццаць гадоў, але яму часам здавалася, што пражыў ён доўгае жыццё. А іншым разам думалася: ён амаль яшчэ не жыў, вучыўся, доўга ваяваў, потым служыў у войску, у вайну і пасля вайны рэдка бачыўся з жонкай, рэдка лашчыў сваіх дзяцей — яны і зараз жывуць пад Мін-

скам. Сам вельмі рана адарваўся ад бацькі і маці: у іхняй вёсцы была толькі пачатковая школка, сямігодку канчаў у райцэнтры, дзе кватараваў у чужых людзей. Потым нейкі час працаваў у калгасе. Затым як чалавека адукаванага, хоць і занадта маладога, прызначылі фінагентам. Неўзабаве прапанавалі паехаць у Смаленск на фінансава-банкаўскія міжраённыя курсы. І правучыўся ён там паўтара года. Вярнуўся ў свой раён намеснікам упаўнаважанага па нарыхтоўках.

Пачалося новае жыццё. Бясконцыя паездкі па вёсках. Выбіваў малако, мяса. Ды і каго накіраваць на раён, як не яго, маладога, нежанатага. Праўда, неўзабаве ён ажаніўся, але ездзіць усё роўна даводзілася часта. Дваццаць другога чэрвеня 1941 года ён вяртаўся з камандзіроўкі, ехаў на коніку. Здалёк убачыў самалёты, якія ляцелі на ўсход. Спачатку ён падумаў, што гэта нашы. Самалёты зрабілі разварот над райцэнтрам, на чыгуначнай станцыі пачуліся выбухі бомбаў. І сэрца зашчымела ад жахлівай здагадкі: вайна.

Роўна тыдзень назад ён прыехаў з вайсковых курсаў камандзіраў запасу. Прыгадаліся словы начальніка курсаў: «Хлопцы, справа сур'ёзная. На свеце пахне порахам. Гімнасцёркі, уся форма павінна ляжаць у вас дома на тумбачцы каля ложка. Каб у любы момант дня і ночы былі гатовыя...» Не заязджаючы дамоў, паехаў у райком партыі. Там былі на месцы ўсе члены бюро. Здагадка пацвердзілася: фашысты прарвалі граніцу і шырокім фронтам наступаюць. Праз дзень атрымаў заданне: адвезці ў Гомель дакументы райкома і канторы ўпаўнаважанага па нарыхтоўках. Далі машыну і двух міліцыянераў. Да месца не даехаў. Вайскоўцы затрымалі машыну. Пажылы маёр загадаў: «Аўтамабіль мабілізуем. Адвязём вас у Гомель, здавайце паперы... Вось вам шафёр, ён адказвае за машыну». Вайсковец сеў за руль, і пакацілі далей. У Гомелі Жмуроўскі здаў у абком партыі дакументы, адвёў у абласны аддзел міліцыянераў. А сам падаўся ў ваенкамат. Там пачуў: «Не можам вас мабілізаваць. У вас бронь».— «Бронь дзейнічае на тэрыторыі свайго раёна. А я ж не магу вярнуцца дамоў. У Мінску ўжо немцы».— «Скажыце гэта ваенкому». Ваенком доўга не разважаў: мабілізаваць, даць каманду навабранцаў і выводзіць іх у кірунку Бранска. Ніколі Жмуроўскі не забудзе тыя дні, як вёў з памочнікам паўтараста чалавек мабілізаваных.

Ён і памочнік у вайсковай форме, а ўсе ў сваім, хто ў лапцях, хто ў ботах. Ішлі начамі, бо ўдзень не давалі спакою самалёты. І ўсё ж прывёў ён усіх. У Бранску дзень адпачылі, і далей — маршавы пераход да Арла. Там іх абмундзіравалі, падвучылі страляць і на Дзясну — трымаць абарону. Тут іхні полк трапіў у акружэнне, з баямі прабіліся да сваіх. Перафарміравалі — і пад Калінін. Там Жмуроўскага моцна параніла, і апынуўся ён у Новасібірску, дзе паўгода пракачаўся ў шпіталі.

Не ведаў ён тады, што ў сотні кіламетраў ад горада жыве яго жонка з сынам. Перад ад'ездам у Гомель ён паспеў адправіць сям'ю ў тыл і чатыры доўгія гады, як чатыры стагоддзі, пакутаваў ад цяжкіх думак пра лёс сям'і. Часта яму снілася жонка, яны цалаваліся, абдымаліся, малы сын прасіўся да бацькі на рукі. Бацька пяшчотна гладзіў яго мяккія бялявыя валасы... І толькі ўлетку сорак пятага, калі прыехаў у водпуск у Беларусь, знайшоў сваю сям'ю. Пачуўшы ад жонкі, што яна жыла ў Новасібірскай вобласці, ён аж заскрыгатаў зубамі: каб жа я ведаў!..

Як не хацелася яму ехаць у Нямеччыну ад любай жонкі, ад сына, без якога не ўяўляў свайго жыцця. Але ехаць мусіў.

Цяпер было лягчэй, прыходзілі пісьмы. А потым прыляцела дарагая вестка — тэлеграма: віншую з дачкой... Ён плакаў тады ад радасці, і камандзір дывізіі паабяцаў яму нечарговы водпуск. Генерал стрымаў слова: неўзабаве маёр Жмуроўскі атрымаў сем сутак па сямейным становішчы.

О, гэтыя сем сутак прамільгнулі, як сем гадзін! Яны былі запоўнены радасцю і любоўю настолькі, што некаторыя не зведаюць такога шчасця за доўгае-доўгае жыццё. Апошнія два гады службы Жмуроўскія жылі ўсёй сямейкаю ў ваенным гарадку.

І вось цяпер яны зноў у разлуцы. Але даўно няма вайны, Міхаіл Сямёнавіч ужо не вайсковец, хоць і носіць форму. Неўзабаве ён будзе мець кватэру, і жонка з дзецьмі прыедзе да яго.

Жмуроўскі быў унутрана задаволены, што не паддаўся, не падпісаў паспешліва рапарт, калі не ўсе планы былі выкананы. «Мы ж ваявалі за тое, каб па-людску ўсё было. Дык навошта нам ліпу разводзіць? Каго падманваць?» — разважаў ён. З цеплынёю думаў аб

начной гутарцы з Пракапенкам, аб вячэры ў ягонай хаце, і верылася, што з Пракапенкам яны будуць ладзіць. І намеснік старшыні райвыканкома Даўгалёў яму спадабаўся. Жмуроўскі разумеў жаданне Акапяна быць у перадавіках, каб людзі адчувалі маральнае задавальненне, каб і прэмію далі раёну. Ды важна, каб гэта было па справядлівасці.

Упаўнаважаны па нарыхтоўках часта ездзіў на раён. У вёсках яшчэ было багата зямлянак. Маленькімі падслепаватымі вокнамі сіратліва пазіралі яны на свет, нібы з дакорам заглядвалі ў душу. «Мабыць, удовы-салдаткі... Каторы год пакутуюць... Ізноў будуць зімаваць у зямлянках. Халадэча, сырасць... Малыя дзеці...» Сэрца Жмуроўскага заходзілася ад болю, ад разумення сваёй бездапаможнасці: кругом нястача, беднасць, а падаткі плаці, на пазыку падпішыся, мяса, малако здай... Затое радавалі яго новыя звонкія хаты, пабудаваныя са смалістых бярвён прыбяседскага лесу. Спадабалася яму Бесядзь, ціхая і чыстая рачулка, яе дубровы, асабліва за Хатынічамі, напроці Мамонаўкі-Парцюкоўкі. Жмуроўскі адчуваў, што палюбіць гэты край, і яму хацелася працаваць і жыць тут доўга.

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, кастрычнік 1949 г.*

*5. Шанхай. Усе газеты вітаюць устанаўленне дыпламатычных адносін паміж СССР і Кітайскай Народнай Рэспублікай.*

*7. Археалагічныя раскопкі сведчаць, што Мінск быў заснаваны на ўзгорку Замчышча і існаваў як княжацкі горад ужо ў XI стагоддзі.*

*9. У Мінску закончылася першая Усебеларуская спартакіяда сельскай моладзі.*

*З 10 па 20 кастрычніка ў Беларусі праводзіцца дэкада саду. Пасадка садоў, азеляненне сядзіб, вуліц і дарог — усенародная справа!*

## III

З кожным днём усё болей жаўцела бярозка каля Андрэйкавай хаты. Пусцела поле, толькі аксамітна зелянелі лапікі руні. Бульбу выкапалі, куры смела ха-

дзілі цяпер па ўсім гародзе. Андрэйку не трэба было іх пільнаваць, як улетку, каб не залезлі ў шкоду: у пшаніцу ці ў проса. Аднойчы бацька прынёс ад некага з Канчанскага боку чатыры яблынькі.

— Тры антонаўкі. А вось ета — летнік. Белы наліў называецца,— сказаў ён Андрэйку.— Зараз выкапаем ямы. Ну, дзе якую будзем саджаць? Летнік трэба бліжэй да хаты, каб цяплей было дрэўцу.

— А летнік рана паспявае? — спытаў Андрэйка.

— Канечне. Белы наліў — самае ранняе яблыка. Салодкае, сакаўное, аж свеціцца. Я буду капаць ямкі, а ты бяры вілачкі і прынясі гною. Пакладзём гнайку пад яблынькі.

Андрэйка подбегам кінуўся ў хлеў. Удзяўбнуў утаптанага кароваю гною, ледзьве ўзарваў пласцік і, згінаючыся — такі цяжкі быў гной,— панёс на гарод.

— Паменей бяры, сынок. Гной вельмі цяжкі,— сказаў бацька, спрытна капаючы шырокую ямку.

Наўзабаве ямкі былі гатовы. Андрэйка нанасіў гною. Бацька паклаў яго пад кожнае дрэўца: прысыпаў мяккай зямлёй, уліў у кожную ямку па вядру вады. У старым шчарбатым чыгуне разбоўтаў чырвона-жоўтай гліны.

— А гліна навошта? — дапытваўся малы.

— У гліну мы абмакнём зараз дрэўцы. Карэньчыкі зробяцца ліпкімі. Зямля да іх і прыліпне. А як будуць голыя карані, то засохне дрэўца,— бацька браў кожную яблыньку і саджаў карэннем у чыгун.

Потым бацька апусціўся наўколенцы каля ямы, сыпануў туды яшчэ цёмнай зямлі, прыпляскаў яе далонямі. Андрэйка не паспеў рот раскрыць, каб запытацца, навошта так рабіць, як бацька сказаў:

— Трэба зрабіць курганок. Яго макаўка павінна быць напроці цэнтральнага ствала. Ну, трымай яблыньку, каб не пахілілася, а я буду закапваць,— сказаў бацька.

Андрэйка з радасцю абедзвюх ухапіўся за тонкі халаднаваты ствол з голымі серабрыста-карычневымі галінкамі. Бацька яшчэ трохі павярнуў дрэўца, каб самыя доўгія карані — былі яны ружаватыя, а тонкія жоўта-белыя — ішлі на поўдзень, у бок Бесядзі. Калі карані ўжо схаваліся ў зямлі, бацька асцярожна пацягнуў дрэўца ўгору.

— Каб не было там пустаты. Каб усе карэньчыкі

зямля ахутала, як ватай,— растлумачыў ён сыну.— Ты прыкмячай усё, вучыся. Мяне бацька некалі вучыў. Мы з ім садзілі сад яшчэ да рэвалюцыі...

— А дзе ж ён, той сад?

— Вымерз перад вайною. Маразы былі лютыя. Багата садоў памерзла. І дзед памёр тою зімою...

Бацька моўчкі закапваў дрэўца. Андрэйка таксама прыціх, ён думаў са шкадаваннем, што рана памёр дзед, і другога дзеда — матчынага бацьку ён не ведаў. Толькі помніў бабу Васілісу, матчыну маці, ды і то ні разу не пагаварыў з ёй, а мо і гаварыў, ды забыўся. Затое пахаванне яе — а яна памерла, калі прагналі немцаў, урэзалася ў памяць назаўсёды...

І вось ужо ўсе яблынькі тырчалі ў зямлі, прывязаныя да калочкаў, тры ў радок, а чацвёртая — напроці другой. Андрэйка каторы ўжо раз агледзеў дрэўцы, з радасцю бегаў ад аднаго да другога і пратаптаў сцежку паміж імі. Ды і як тут не радавацца! У іх будзе свой сад! І яшчэ адна радасць чакала малодшага Сахуту — набліжалася свята Кастрычніка.

— Трэба Рабчыка закалоць,— сказаў аднойчы бацька.— А на Змітрыя купім у Саковічах на кірмашы свінку. Налета будуць парасяты... Добра б і кабанчыка яшчэ прыкупіць...

— А дзе ж тваё купіла? Многа ты зарабіў? — грукаючы ля печы вілкамі, азвалася маці.— Калі б Марына не падсабляла, дык апошнія порткі прадаў бы, каб налог заплаціць...

— Ты не больш зарабіла... Паеду зімой на лесанарыхтоўкі. Будуць грошы. А потым парасят прададзім...

— Яшчэ свінку не купіў, а ўжо яе парасят прадаеш,— упікнула маці.

— Трэба глядзець наперад,— бацька прыгладзіў свае рудаватыя кароткія вусы, усміхнуўся, прыхінуў да сябе сына.— Праўду я кажу, Андрэй, наперад трэба глядзець?

— Праўда, татка. Толькі наперад! — звонка прамовіў сын.

— Ну вось, жонка, а ты нешта гаворыш. Значыць, на Змітрыя паедзем на кірмаш.

Андрэйка ведаў, што Змітрыеў дзень заўсёды прыпадае на восьмае лістапада. Мінулай восенню бацька ездзіў на кірмаш з Марынаю і з Васькам. А сёлета мо і

яго возьмуць? Сэрца хлапчука замірала ад радаснага прадчування.

Неяк ён прачнуўся і пачуў, як у хляве вішчыць парсюк. Малы сігануў да акна. Тут увайшла маці.

— Ну во, Рабчыка ўжо заціснулі. Ты яго не шкадуй. А то доўга будзе вішчэць...

Андрэйка хуценька апрануў старую ватоўку, доўгія рукавы якой былі закатаныя, усунуў ногі ў буркі і шуснуў за парог.

Рабчык ужо ляжаў на гародчыку. Бацька распальваў жмут саломы: збіраўся смаліць кабанка. Васька таксама стаяў тут з нямецкім кінжалам у руках. Востра запахла паленым, і неўзабаве наляцелі сарокі, паселі на плоце, нецярпліва лёталі над гародам.

Кабан зрабіўся ўвесь чорны, яго перакацілі на другі бок. Маці прынесла вядро цёплай вады.

— Андрэйка, бяры карэц і палівай нам. А мы будзем скрэбці,— сказаў бацька.

Васька таксама арудаваў кінжалам. Рабчык зрабіўся жоўтым і чыстым, якім ніколі не быў пры жыцці. Бацька адрэзаў кавалак вуха, адкусіў трохі, смачна захрумстаў. На гладка паголенай шчацэ, каля вусоў, цямнелася палоска копаці — мабыць, правёў пальцам незнарок, і калі ён жаваў, палоска краталася, і Андрэйку было смешна пазіраць на бацьку.

— На, грызі,— падаў яму бацька астатак вуха. Другое адрэзаў Ваську.

Хлопцы грызлі навыперадкі. Цёплае вуха пахла саломай, смажаным салам, нечым падгарэлым — так пахне паленае альховае лісце. Мяккая саладкаватая свежына аж раставала ў роце.

— Так, хлопцы, цяпер нам трэба яго перакаціць на дзверы. Будзем на іх разбіраць, каб чыста было,— бацька падсунуў бліжэй да Рабчыка знятыя з хлява дзверы.— Ну, бярыцеся за пярэднія ногі.

Андрэйка таксама ўзяўся за нагу парсюка, яна была тугая, цвёрдая і яшчэ цёплая. Ён не паспеў пацягнуць з усяе сілы, як Рабчык ужо апынуўся на дошках.

— Сілён ты, Васька, малайчына! — сказаў бацька і дадаў: — Ды і Андрэйка ж падсобіў. Што б мы без яго рабілі?

— Вуха дык з'еў, Жэўжык, спрытна,— ухмыльнуўся Васька.

— Нічога, і ён скора будзе дужым... Ну што, хлопцы, пачнём разбіраць? Палі мне на рукі, Андрэйка...

А потым насмажыла маці паўнюткую скавараду сала і пячонкі. Тут ужо хлопцы параскашавалі. Васька еў адну скварку за другой і так шчыраваў, што бацька ўрэшце не вытрымаў:

— Трэба жаваць хоць троху. А ты глытаеш, як гусак.

— Праўда, Васілёк, не спяшайся. А то каб жывот не забалеў,— паўшчувала маці.

— Не забаліць,— аблізаў блiскучыя ад тлушчу губы Васька.— Жывот баліць, калі есці хочацца.

Андрэйка быў згодны з братам і таксама еў свежыну аж за вушамі трашчала. Колькі помніў сябе, яму заўсёды хацелася есці. Асабліва мучыў голад вясною і ўлетку. Андрэйка прыкмеціў: чым даўжэйшымі рабіліся дні, чым вышэй хадзіла сонца, тым мацней хацелася есці. Як чакаў ён улетку вечара, каб пасёрбаць крупені, з'есці сваю «долю» — кавалачак з далонь — прасната.

Як чакала хатыніцкая дзятва, калі нальюцца зернем каласкі — тады можна ласавацца пражмом, чакала, калі вырасце бульба-паспешка, а на градах набяруцца моцы крамяныя, з пупышкамі, гуркі!

...Дні праз два, надвячоркам, у хату ўвайшла суседка Хадора, як заўсёды захутаная хусткай, у куфайцы з адным гузікам і дзіравых, клееных-пераклееных, гумовых ботах.

— Здароў вам! — гучна павіталася і стала ў парозе.

— Праходзь, Хадора, сядай,— маці змахнула фартухом лаўку ля стала.

Хадора села, агледзела хату, правяла чамусьці жменяй па твары, быццам сцерла нябачную павуцінку, разгладзіла маршчыны.

— Ці ведаеш, Кацера, чаго я прыйшла?

— Ну, раз прыйшла, дык скажаш,— усміхнулася маці і села на ўслоне напроці.

— Свята ж скора. Кастрычнік надыходзіць. Сказаў старшыня, каб разам сустракалі. Па дзесяць двароў. Мы і вы — у лесніка Захара. Хату ён сабе паставіў вялізную, як стадола. Месца тамацька хопіць усім.

— Ды нам жа там не скакаць. Пасядзець, пагаманіць... А хата ў яго і праўда вялікая,— сказала маці, спрабуючы ўгадаць, куды хіліць Хадора і што ёй па-

трэбна.— Мацвей мой гаварыў, што прадукты калгас выдзяляе...

— Прадукты выдзяляе. А гарэлкі ніхто не выдзеліць. У краме не дакупішся... Трэба неяк самагонкі выцiснуць. Прычындалы ў нас ёсць. Забяромся ў роў Упярочны. Вада тамацька пад бокам у крыніцы, гліна ёсць. Дроўцаў падкінем. І гані сабе паціху...

Андрэйка ніколі не бачыў, як робяць самагонку, і таму падумаў: чым яе гоняць, адкуль яна бярэцца?

Хадора з маці тым часам дамаўляліся: колькі прарасціць зерня на солад, дзе яго змалоць, дзе знайсці чыгун-вярхняк. Перагаворы іхнія закончыліся паспяхова, і задаволеная суседка неўзабаве пайшла.

Назаўтра маці з Васькам пілавалі дровы на карацейшыя, чым звычайна, кругляччкі. Потым Васька іх калоў, Андрэйка насіў у хату і клаў на печы, каб яны хутчэй сохлі. Калі ўсё было падрыхтавана, хмурным восеньскім раннем маці і Хадора панеслі ў роў вёдры смуродлівай брагі. Андрэйка прыбег туды пасля ўрокаў. У рове, між кустоў, палала вогнішча вакол двух вялізных чыгуноў, пастаўленых адзін на другі. У верхні чыгун апускаўся канец трубы, якая ішла ў карыта, поўнае вады, а на другім канцы, па нітачцы, абкручанай вакол трубы капала ў бутэльку сіняватая вадкасць.

— Памочнік прыйшоў,— Хадора ласкава зірнула на Андрэйку. Ад крыніцы з вядром ішла маці.— Усе паспыталі ўжо. На-тка і ты глыні першачку,— Хадора лінула ў карэц з бутэлькі.

Андрэйка паднёс карэц да рота, у нос ударыў вострый, смуродлівы пах. Ён апусціў руку.

— Ну, як наша гаркуха? Дык ты ж не выпіў ніколькі! — здзівілася Хадора.— Пасінеў ад холаду. Пагрэйся.

— Выпі кроплю, сынок, каб прусакі ў жываце не завяліся. І пойдзеш двору,— сказала маці.— Няма чаго тут рабіць.

Хлапчук заплюшчыў вочы, сербануў глыток цеплаватай горкай вадкасці, якая апякла ўсё ў роце, і зайшоўся кашлем, аж слёзы навярнуліся на вочы.

— Значыцца-брат, моцная гарэлка, як мой Арцём кажа,— зарагатала Хадора, дастала з кішэні ватоўкі скарынку хлеба і падала Андрэйку. Хлеб гэты здаўся яму надзіва смачны.

І вось надышоў дзень свята. Уноч выпаў снег. Усё

навокал было белае і чыстае, нібы і прырода надумалася прыбрацца па-святочнаму. Але марозу не было, зямля ляжала няўмерзлая. Мяккі снег наліпаў на колы, і на дарозе цягнуліся за калёсамі жоўта-шэрыя палосы. Апоўдні Сахуты ўсёй сям'ёй, апроч Марыны, якая была на дзяжурстве ў бальніцы, выбраліся на свята. Андрэйка з Васілём ішлі паперадзе, бацька і маці ўслед за імі.

Леснікова хата падалася Андрэйку дужа вялікай: у першай яе палове высілася печ, толькі што пабеленая, чысцюткая, бы нявеста, у другім, большым пакоі бялелі на козлах габляваныя дошкі — іх паслалі замест сталоў, паўз іх доўгія лаўкі. Пахла смалой, капустай, падсмажанай бульбай і яшчэ нечым незразумелым.

На лаўках ужо шчыльна сядзелі жанчыны, аблепленыя дзятвой. Некалькі хлапчукоў прымасціліся на падлозе ў кутку і адтуль пазіралі на стол — у вачах свяцілася чаканне і вялікае нецярпенне. Пабліскваў лысінай і сівой барадою дзед Гылігор. Ён сціпана гаварыў нешта брыгадзіру Арцёму Шандабылу, той ківаў галавой, моршчыў гармонікам белы лоб. У хаце раптам стала ціха, быццам усе прыслухоўваліся да іхняй гутаркі, а хутчэй за ўсё адчулі, што настаў доўгачаканы міг пачатку ўрачыстасці. Арцём пачухаў патыліцу, пацёр цёмна-бурыя ад штодзённай працы рукі і гучна сказаў:

— Ну, дык што, брат-значыцца, давайце наліваць стаканы,— апошняе слова ён вымавіў з націскам на «ы».

— Можа ж, начальства якое прыйдзе праздравіць нас? — уставіла свае пяць грошай Параска.

— А што, брыгадзір табе не начальнік? — дзед Гылігор рашуча ўзяў бутэльку за горлечка.— Мацвей Сахута — член праўлення. А ляснік Захар Анціпавіч хіба не начальнік? От як зловіць ён цябе ў лесе ды спадніцу задзярэ...

— Дос табе балбатаць, боўдзіла старое,— штурхнула дзеда пад бок яго жонка Самкліда.

— Стары ўжо, а пры дзецях такое гаворыш,— прашапялявіла лесьнічыха, з дакорам гледзячы на Гылігора.

— Начальства будзець пазней,— павысіў голас Арцём.— Старшыня калгаса прыйдзе, з сельсавета і з раёна будуць. І ўчастковы Бравусаў тутацька. Бачыў,

мільганула чырвоная хвуражка... Так што, давайце пачнём. Слова скажыць Мацвей Дзянісавіч... як член праўлення нашага калгаса.

Мацвей Сахута падняўся, звыклым рухам абцягнуў гімнасцёрку, але Андрэйка прыкмеціў, што бацькавы рукі лёгенька ўздрыгваюць, і голас яго падаўся нейкім незнаёмым, глухаватым, асіплым. Ніколі не бачыў Андрэйка бацьку такім разгубленым, нерашучым, ён лічыў яго самым дужым і смелым.

— Таварышы, дарагія суседзі, мужчыны і жанчыны...

— І мы — шпінгалеты...— хіхікнуў нехта з кутка.

— Цыц, малышня! — сярдзіта зіркнуў у кут Арцём.

— Мы сабраліся сянні адзначыць вялікае свята, усенароднае... Я б сказаў, усясветнае свята, бо яго адзначаюць усе людзі на зямлі,— хвалюючыся, заікаючыся, гаварыў Мацвей Сахута. Памалу голас яго набываў натуральную гучнасць, цеплыню і ў той жа час патрэбную ўрачыстасць.— Свята Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі — самае дарагое свята ўсіх рабочых і калгаснікаў. Давайце за ета і вып'ем...

Андрэйка згледзеў, што бацькаў лоб пакрыўся бліскучымі пацеркамі поту, нібы ён выкасіў ладную дзялку лугу.

— От добра сказаў Дзянісавіч! Ну, будзем здаровенькія,— Арцём адным духам кульнуў поўную шклянку, панюхаў скарынку хлеба.— Ай, хвацкая гарэлка з нашага заводу. Малайцы, жанчынкі,— пахваліў Арцём аўтараў горкага зелля і захрумстаў салёным агурком.

Мацвей Сахута не дапіў сваю шклянку, і на яго дружна населі жанчыны: гаварыў прамову, запрашаў выпіць, а сам не дапіў.

— Так ня чэсна, Дзянісавіч,— гарачылася Параска.— Не папраўдзе ета. Мы ўсе выпілі, а ты не. І жонка, гледзячы на цябе, не дапіла... Кацера, не прыкідвайся нямоглай. Некалі тое было, некалі яшчэ будзе. Выпівайце...

— Мацвей і Каця! Не тармазіце рух,— падняўся дзед Гылігор.— Першую чарку трэба дапіць, а тады па сіле-вазможнасці... А то сычас горка вам скамандую...

— Дык ці ж ета вяселле? — усміхалася расчырванелая маці.— Ну, ладна, Мацвей, давай вып'ем. Каб добра ўсім нам жылося...

Маці дапіла гарэлку, зморшчылася, закашлялася.

— Ой, якая ж горкая! На сваю галаву мы такую зрабілі...

— А мне ўжо і весела стала,— Параска расшпіліла гузікі ватоўкі і раптам гучна заспявала:

Танцуй, Мацвей,
Не жалей лапцей,
Учора былі на базары,
Лапці новы заказалі...

У гэты час у калідоры пачуўся тупат, адчыніліся дзверы і ў хату ўвайшоў старшыня сельсавета Раман Свідэрскі, як заўсёды ў жоўта-зялёным англійскім шынялі, хромавых ботах, у зялёнай палінялай фуражцы, якую сцягнуў з галавы, пераступіўшы парог.

— Добры дзень у хату! Са святам вас усіх...— голас у яго быў хрыплаваты, але прарэзлівы, танклявы.

Свідэрскі ўсміхнуўся, яго тонкія губы рассунуліся ў бакі, паказаўшы драбнаватыя, пракураныя зубы. Вочы, блакітна-шэрыя, з чырвонымі пражылкамі, заставаліся халодныя, быццам жылі яны на гэтым хударлявым твары сваім асаблівым жыццём.

Услед за Свідэрскім, грукнуўшы мыліцамі, перасігнуў парог адзінаю нагою ў салдацкім чаравіку старшыня калгаса Макар Казакевіч, апрануты па-святочнаму: у цёмна-шэрым касцюме ў палоску, без шапкі, з расшпіленым каўняром рубахі. Апошнім увайшоў участковы Бравусаў. Казакевіч выглядаў маладжава. Прыгладзіўшы густы вожык сівеючых валасоў, нягучна сказаў:

— Са святам, людцы дарагія! — агледзеў стол, рыжыя кусцістыя бровы ўзляцелі ўгору, ён шырока ўсміхнуўся, радасна дадаў:

— Дык і не бедны стол, браточкі. Ёсць хлеб і да хлеба!

Усе, і жанчыны і мужчыны, скіравалі позіркі на стол густа застаўлены талеркамі, міскамі, быццам раней не бачылі гэтага свайго багацця. А на стале аж дошкі прагіналіся пад цяжарам талерак з капустаю, салёнымі гуркамі, апетытна жаўцелі баравічкі і лісічкі, узвышаліся высокія, бы капёшкі сена, міскі аладак у смятане, ляжалі кавалкі адваранай свініны, вабілі талеркі дрыгатлівага студзеню.

— Мора закусі, скажу я вам, братцы,— прыцмок-

нуў языком Бравусаў.— За такім сталом п'яных не павінна быць.

— Дык і не будзе! — рашуча заявіў дзед Гылігор, наліваючы шклянкі гасцям.— У нас такая завядзёнка: хто не п'е, таму не даваць, хто спіць, таго не будзіць, а хто п'е, таму наліваць. Дарагія таварышы-начальнікі, за стол! Арцём, Захар, запрашайце людзей.

Жанчыны пацясніліся на дошках, даючы месца новым гасцям.

Андрэйка ва ўсе вочы глядзеў на Бравусава. Ён успомніў, як гэты міліцыянер заходзіў да іх у хату, як Марына праводзіла яго. Тады ў міліцыянера былі не такія бліскучыя пагоны, а цяпер ззяюць, бы залатыя, і на іх дзве зорачкі. Успомніў Андрэйка, як прыходзіў да іх і дзядзька Макар, цяперашні старшыня калгаса, як яны абдымаліся з бацькам, паўдня гаманілі і не маглі нагаварыцца.

— Арцём Іванавіч, ці ўсе ў цябе людзі тут з дзесяцідворкі? — агледзеў застолле старшыня калгаса.

— Значыцца-брат, не саўсім. Няма Шкурдзюка Панаса і...

— Паехаў Панас у Мугулёў. Да сястры ў госці,— прагугнявіла Панасава жонка.

Бравусаў пільна зірнуў на яе, потым перавёў пагляд на лесніка Захара. Той, расчырванелы, заклапочаны, прыляпіўся ля краёчка стала. Бравусаў лепей за ўсіх ведаў, чаму няма тут Шкурдзюка. «Можа, і добра, што ён з'ехаў, прахіндзей. Напаскудзіў ён тады Захару з абрэзам. І мяне падвёў пад дурнога хату... Пасля чаркі яны б і счапіцца маглі з леснікам, а так усё будзе ціха,— падумаў Бравусаў, учэпістым вокам аглядаючы застолле, нібы вышукваў магчымага парушальніка парадку. Убачыў недапітую чарку ля Свідэрскага і адсунуў сваю.— Сам не п'е, гэты Свідэрскі, і другім не дае». Бравусаў са злосці чарпануў лыжкаю некалькі баравічкоў і, улучыўшы момант, калі Свідэрскі адвярнуўся, кульнуў чарку, закусіў грыбамі, якія былі незвычайна смачныя.

Тым часам старшыня калгаса ўсё высвятляў, каго яшчэ няма ў застоллі.

— Івана Сырадоева няма. Ці не ў Парцюкоўцы ён? — выказаў здагадку Арцём.

— Ён выконвае маё даручэнне. Адказвае за парадак у Мамонаўцы,— падаў голас Свідэрскі.

— Дык вы ж, Раман Піліпавіч, тамацька жывяце, у Мамонаўцы-Парцюкоўцы. Самі б і глядзелі за парадкам. А наш Іван хай бы з намі быў,— пасмялелая ад чаркі, сказала Параска.

— Я адказваю за парадак ва ўсім сельсавеце,— строга зірнуў на Параску Свідэрскі.— Мы з таварышам Бравусавым едзем зараз у Белую Гару,— выйшаў з-за стала Свідэрскі і пацягнуўся да свайго шыняля.

Бравусаў неахвотна падняўся, кінуў сумны, развітальны пагляд на багаты стол.

— Між іншым, Сырадоеў ахвотна застаўся ў Парцюкоўцы,— як бы апраўдваўся Свідэрскі і дадаў з ухмылкаю: — Прысуха ў яго там ёсць. Можа, і вяселле скора будзе.

— Даўно пара. Я не раз яму казаў: жаніся, хлопец, не муч дзяўчыну. Што, Аўціхавіч? — перавёў свае вясёлыя вочы на дзеда Гылігора Макар Казакевіч.— Гульнём скора на вяселлі?!

— Я заўсёды гатовы. На тым свеце не дадуць,— дзед зноў пачаў наліваць шклянкі.— Таварышы начальнікі, на дарожку...

— Не, Аўціхавіч, лепш на вяселлі вып'ем. А сянні трэба пабыць на Шамаўцы. Арцём Іванавіч, ета ж і там твая брыгада. Пайшлі павіншуем людзей. У каго там збор?

— У Цімоха Емяльянцава,— адказаў Арцём, апранаючы свой нязменны салдацкі бушлат.

— Ну што, таварышы дарагія, дзякуй за пачастунак. Святкуйце, весяліцеся. Свята ў нас сянні вялікае. І душа радуецца, што нам ёсць чым яго сустрэць... Увечары прыходзьце ў клуб. Гарманіста нанялі з Саковіч. Будзе музыка, танцы. Усё як трэба,— усхвалявана гаварыў Макар Казакевіч.

— Спасібачкі табе, старшынька, за тое, што кіруеш добра,— гучней за ўсіх лунаў голас Параскі.

Свідэрскі і Бравусаў таксама развіталіся і пайшлі. Апошнім пацягнуўся Арцём Шандабыла. На нейкі міг у лесніковай хаце зрабілася ціха. А потым зноў усчалася гамана. Жанчыны ўзяліся карміць малых дзяцей і тых, што спачатку туліліся на падлозе ў кутку. Сярод іх быў і Андрэйка. Маці паклікала яго да сябе, дала сваю лыжку.

— Паеш, сынок. Бяры, што на цябе глядзіць, тое і цягні.

Васька сядзеў недалёка ад старога Гылігора, піў і еў, як дарослы, і Андрэйка пазайздросціў брату ўсёй душой.

— Бабы, давайце-ка мы заспяваем,— Хадора апусціла на плечы тоўстую хусту, засталася ў адной тонкай у дробныя кветачкі.

— Як мужык за парог, дык ты спяваць гатова,— прашапялявіла леснічыха, якая ўрэшце супакоілася і села за стол, а то ўсё снавала па хаце.

— А мая ты таечка, я і пры мужыку заспяваю. І чарку вып'ем. Аўціхавіч, нешта ты задрамаў. У стакане пуста, у горле драпачыць. Даўно трэба прамачыць,— разышлася Хадора.

— Ой, Хадорачка, праўду кажаш,— ажывіўся дзед Гылігор, які ўжо і на самой справе ледзьве не заснуў.

За акном цямнела. Шэрае восеньскае сутонне цадзілася праз шкло. Святла не палілі, яно было пакуль што непатрэбнае. Самы час прыцемкамі заспяваць, і Хадора зацягнула:

Шумяць вербы каля грэблі,
Што я пасадзіла...

Моцныя жаночыя галасы дружна падхапілі песню. Дудзеў старэчым басам і дзед Гылігор. Нерашуча пачаў падцягваць і Мацвей Сахута. І толькі маўчун ляснік сядзеў ціха, стомлена прываліўшыся да стала. Калі гэту песню скончылі, Хадора з'ела аладку і сказала:

— А давайце-ка нашу. Яшчэ мая бабка мне пела,— і зацягнула высокім чыстым галасам:

Як пайду я, куды даўно хадзіла,
Ці не знайду я — каго верна любіла.
Як пайду я ў сад зеляненькі,
Сустрэў мяне а казак маладзенькі.
Як стаў у мяне дарожкі пытаці,
Я ж маладзенька зразумела сказаці:
Не на то мяне маць, мая маці, радзіла,
Каб я казакоў па дарожках вадзіла,
А на то мяне маць, мая маці, радзіла,
Штоб я ў доме дзянёчак рабіла:
Тонка прала і чысцюсенька ткала,
Бела бяліла й харашэнька пашыла.

Пасля песні на нейкі момант усталявалася цішыня. І ў гэтай цішы раптам птушкаю выпырхнуў, залунаў вясёлы Парасчын голас:

Як была я сем год удавою,
Я й не чула зямлі пад сабою,
Як пайшла я за старога дзеда,
Наелася аўсянага хлеба.
Ён і стар, ён і слаб, і малага росту,
Куды йдзець, вошы б'ець і дзярэ каросту...

— Ну і Парасся! Агонь-баба. Каб я быў маладзейшы...— падаў голас дзед Гылігор, але Самкліда замахала на яго рукамі, і выказаць, што б ён зрабіў, дзеду не ўдалося.

Затое Парасся не змаўчала:

Як была я малада,
Дык была я рэзва,
Як наелась гарбуза,
Тры дні на печ лезла...

Вакол усе зарагаталі, пачалі наліваць зноў чаркі. Весялосць набірала моц і шырыню.

Ужо добра ацямнела, калі Андрэйка з бацькамі ішоў дамоў. Васька з сябрукамі памчаў у клуб, адкуль даносіліся песні, глухаваты грукат бубна і пiліканне гармоніка. Новы клуб знаходзіўся недалёка ад кузні, акурат на сярэдзіне вёскі, далей стаялі старыя свірны, за імі вуліцу абступалі хаты Канчанскага боку. Андрэйку таксама хацелася вельмі ў клуб, але маці яго адгаварыла: позна ўжо, там будзе дарослых дужа багата, можа, хто і п'яны прыйдзе, напалохаюць яшчэ... Бацька падтрымаў матчыны ўгаворы: пабудзь дома, яшчэ находзішся ў клуб, як вырасцеш. Гэта мала суцешыла хлапца, і ён неахвотна тупаў побач з бацькам.

Дома бацька запаліў лямпу, светлую, хоць і невялічкую, сямілінейку. Андрэйка любіў чысціць шкло ад лямпы: ён старанна хукаў, каб яно запацела знутры, тады камячыў паперу і акуратна праціраў, і шкло ззяла чысцінёй. А сёння яму не хацелася гэта рабіць. Маці ўзяла даёнку і пайшла даіць карову. Не сядзелася ў хаце і Андрэйку, ён выйшаў на гародчык. Тут ярчэй бялеў снег, а неба здавалася ніжэйшым і цямнейшым. Зоркі яшчэ толькі праклюнуліся, як прасяныя зярняткі. Ён стаяў, пазіраў угору, слухаў цішыню. Адсюль гармонік быў не чуцен.

«А які тады быў дзень? Ці ляжаў снег у Петраградзе, калі штурмавалі Зімовы палац? А што было ў Хатынічах? Мусіць, спалі ўсе або сядзелі пры лучыне. Дзяўчаты і матка з імі, можа, былі на начлежках. Пралі кудзелі. І не ведалі, што рэвалюцыя перамагла. Што

будзе зусім іншае жыццё. Ні памешчыкаў, ні фабрыкантаў... Усе роўныя, усе свабодныя... Спытаю ў бацькі, можа, ён помніць, як рэвалюцыя прыйшла ў Хатынічы»,— падумаў Андрэйка і хуценька сігануў у хату.

Бацька сядзеў за сталом і гартаў каляндар, які зняў са сцяны. «Я ўжо вучуся чацвёрты год. А бацька толькі тры зімы хадзіў у школу. А маці зусім не вучылася. Нават распісацца не можа... Няўжо калі б не было рэвалюцыі, то і я б не вучыўся?» — думаў хлопец, распранаючыся. Ён сеў ля стала напроці бацькі, хацелася спытаць, але чамусьці не адважваўся, бо той так засяроджана чытаў каляндар.

— Цікавае там што, тата? — урэшце падаў голас сын.

— О, тут, брат, анцярэсныя штукі. А колькі людзей розных! І вучоныя, і паэты, і кіраўнікі розныя. І ў дужках напісана колькі гадоў пражыў. Некаторыя зусім рана згаралі. А во казах Джамбул дык дзевяноста дзевяць гадоў пражыў. Дзед Талаш, ну, еты з Палесся, пра якога Якуб Колас напісаў, дык больш сотні пражыў. Крэпкі дзядок. Скора Сталіну стукне семдзесят. Таксама не мала ўжо,— бацька пазяхнуў, бо пасля застолля яго хіліла ў сон.

— Тата, а калі б не было Кастрычніцкай рэвалюцыі, як бы мы жылі? Я б вучыўся ў школе ці не?

— Дзе ж бы ты вучыўся?! Пан Галынскі, думаеш, стаў бы цябе вучыць? Ого, трэба яму ета як мёртваму прыпарка. Быў бы ты парабкам, таварыш дарагі, як і я некалі. І навука б твая скончылася. Тры зімы адхадзіў, і дос,— бацька яшчэ раз пазяхнуў, падсунуў каляндар сыну, а сам пачаў сцягваць боты.

— А ты помніш тую ноч?.. Ну, у семнаццатым годзе, калі рэвалюцыя была?

Бацька зняў правы бот, узяўся за левы, але сынава пытанне прымусіла яго задумацца, і на нейкі момант ён забыўся і пра боты.

— Тую ноч, сынок, я не помню. Даўно ета было. Думаю, што мы нічога тады не ведалі. Праз некалькі дзён пачулі, што пан Галынскі ўцёк з Саковіч і што нібыта еты самы... як яго? Керанскі збег кудысьці за мяжу. Уладу ўзяў Ленін. Ну, бальшавікі, значыць...

— А Керанскі хто быў такі? — дапытваўся сын.

— Ліха яго ведае, хто ён быў. Мусіць жа, не мужык, а таксама пан, але, відаць, бяднейшы... Яго паставілі

зімой. Тады ж зімой была адна рэвалюцыя, калі царабацюхну турнулі... Скінулі з трона. Вось тады і паставілі етага... Керанскага. Толькі ён лічыўся непастаянным... Часовы ўрад называўся. А тады ў кастрычніку і яму далі выспятка,— бацька пазяхнуў, сцягнуў нарэшце другі бот.— Позна ўжо, сынок, кладзіся спаць. Падрасцеш, у кніжках усё прачытаеш. Пра ўсё даведаешся...

Бацька паставіў ля печы боты, паверх павесіў анучы, усунуў ногі ў атопкі і падсеў да стала. Твар у яго быў задуменны, хмурны. Мабыць, сынавы пытанні разварушылі яго, прымусілі моцна задумацца.

— Вось ты пытаешся, як жылі даўней. Цяжка жылося, а неяк усё прасцей было. А цяпер... Чым далей, тым болей усё заблытваецца, ускладняецца... Усё пановаму, па-новаму... А калі ж па-добраму, па-чалавечаму? Раней мучыў пан, а цяпер душыць план... Усё давай, давай...— бацька ўздыхнуў, паківаў галавою.— Эх, сынок, сынок, каб ты ведаў, колькі людзей палягло за ету рэвалюцыю! У грамадзянскую вайну на маіх вачах гінулі людзі, як мухі... А тады кылікцівізацыя етая ўсчалася... І я чуць-чуць не загрымеў на Салаўкі...

— А етыя Салаўкі далёка? — спытаўся сын.

— Далёка. Дзесьці ў Сібіры ці на Поўначы... Самых жылістых трудзягаў пахапалі і звезлі туды. Адзін Куцай-Гарнец вярнуўся... А тады, у трыццаць сёмым, ды і яшчэ пазней пісалі ў газетах: вакол нас і пасярод нас — ворагі народа. І чым далей, тым яны болей злуюць... етыя ворагі... І адкуль іх столькі ўзялося? Жылі людзі як людзі. Потам зямельку палівалі. І думаць не гадалі, што стануць яны ворагамі народа. А мо ён, супастат, і ёсць першы вораг?

— Хто ён такі, тата? Ну, еты вораг народа? Ён і цяпер жыве?

— Ён? Ды не, сынок, няма ўжо яго. Ета ў райвоне быў адзін... А ў вайну што ўжо лягло нашых людзей... Відаць, яшчэ і не злічылі, колькі іх загінула... І наш Пятрок во не вярнуўся. Ты ці помніш яго?

— Не, не помню,— праз слёзы выціснуў Андрэйка.

— Добры быў хлапец. Здаровы, слухмяны... Вайна забрала... Вось і цяпер усё бэсцім буржуяў, етых самых імпер'ялістаў. Таго і глядзі зноў успыхне вайна. Бонбу атамную зрабілі. І ўсё на беднага чалавека! Заместа таго каб накарміць яго, дык усё пужаюць.

Мацвей Сахута ўспомніў сваю застольную прамову, і яму зрабілася сорамна, бо гаварыў, як пішуць у газеце, гаварыў няпраўду. Ён з адчуваннем віны, з любасцю зірнуў на свайго цікаўнага сына і раптам пагладзіў яго па галаве, ціха сказаў:

— Вось бачыш, сынок, як усё няпроста ў жыцці? Але неяк жа будзе. Перажылі вайну, галадуху. Будзем жыць і далей. Як мой бацька, твой дзед Дзяніс, казаў: на вайну збірайся, а жыта сей... Пайшлі спаць, сынок,— бацька ўстаў, выпрастаўся, пацёр паясніцу.— Нешта сярэдзіну ломіць. Відаць, надвор'е зменіцца...

Бацька заваліўся на палок і неўзабаве захроп. Андрэйка яшчэ доўга сцішана сядзеў за сталом. Адшукаў у календары лісток з чырвонай лічбай «Сем» — матрос у бушлаце з кулямётнымі стужкамі накрыж, салдат з вінтоўкаю, а ўдалечыні крэйсер «Аўрора». Хлапчук доўга ўглядаўся ў гэты малюнак, і яму падалося, што чырвоная лічба пачала расплывацца ў крывавую барвовую пляму. Андрэйка асцярожна адарваў лісток і паклаў яго ў падручнік гісторыі, які ляжаў на акне.

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, лістапад 1949 г.*

*1. У Мінску адбыўся 50-тысячны мітынг, прысвечаны дзесяцігоддзю ўз'яднання беларускага народа ў адзінай Беларускай Савецкай дзяржаве.*

*4. Парыж. Паводле даставерных дадзеных, Белград стаў амерыканскім цэнтрам шпіянажу.*

*18. Складзена першая карта глебаў Беларусі.*

*29. Калькута. «Наш народ ніколі не будзе ваяваць супраць СССР»,— заявіў адзін з удзельнікаў Усеіндыйскай канферэнцыі прыхільнікаў міру, старшыня Усеіндыйскага кангрэса прафсаюзаў Шапіяр.*

## IV

Быў сонечны марозны дзень. Такія дні зрэдку надараюцца ў канцы года, калі самае нізкае сонца, але касыя промні яго свецяць зырка, з падсветкай, бы

армейскі пражэктар. Пётр Еўдакімавіч Мамута вяртаўся з Мінска ў Хатынічы. Ён яшчэ не быў упэўнены, што вяртаецца назусім: жонка напісала, што захварэла дзіця — самы меншы, пяцігадовы Юрка.

Нарадзіўся ён пасля вызвалення ад немцаў, калі настаўніка Мамуту выклікалі ў ваенкамат. Тацяна, жонка яго, залівалася слязьмі: як яна будзе з трыма малымі дзецьмі. Яна ўжо думала, што немца прагналі, прыйшлі нашы, яе Пятрок зноў будзе вучыць у школе, як некалі да вайны, а тут яго забіраюць на фронт. Але дні праз тры ён вярнуўся дамоў: адпусцілі, вайна вайною, а малых вучыць трэба. Тацяна залілася слязьмі ўжо ад радасці і так цалавала мужа, што Пётр Еўдакімавіч адчуваў сябе самым шчаслівым між людзей. На ўспамін аб гэтай радасці праз пэўны час і з'явіўся на свет Юрка, чацвёртае дзіця.

Калі яшчэ ішла вайна, Мамута вырашыў: пасля перамогі паступіць вучыцца, бо які ты кіраўнік школы, хай сабе і пачатковай, калі не маеш вышэйшай адукацыі. Пра гэта гаварыла яму і сакратар райкома партыі Азарава, некалі да вайны агітаваў яго вучыцца далей дзядок археолаг, які кіраваў раскопкамі ў Хатынічах. У душы настаўніка ўсё мацнела прага да ведаў. Але першыя пасляваенныя гады жылося вельмі цяжка, бедна, нават не было ў чым паехаць у Мінск, ды і Тацяна ўсё адгаворвала: такія дробныя дзеці, а ён хоча стаць студэнтам.

Прамінулі чатыры гады пасля перамогі. Мамута цвёрда вырашыў ехаць. Пасля сенакосу пагартаў ён падручнікі, канспекты з педвучылішча — на гарышчы зберагглося пару сшыткаў. Паехаў. Здаваў экзамены ён не дужа ўпэўнена і плаваў часцяком, але тройкі, а то і чацвёркі яму ставілі. Быў на сёмым небе ад радасці, калі ўбачыў сябе ў спісе першакурснікаў. Студэнт гістарычнага фукультэта сталічнага універсітэта. Гучыць! Тацяна нават не паверыла, што яго прынялі. Думала, ён жартуе, але неўзабаве прыйшоў выклік з Мінска, і Тацяніны спадзяванні, што муж не паедзе, развеяліся. Ужо і адгаворваць не выпадала, калі яна столькі год стрымлівала, адгаворвала і не ўтрымала, то цяпер не перайначыш, ды і разумела: каб дырэктарам быць, трэба мець дыплом. Моўчкі збірала яна мужа ў дарогу, затое Пётр Еўдакімавіч усё гаварыў і гаварыў, яго як прарвала:

— Не бядуй, Тацяна. Карова ў нас ёсць. Сена накасіў, дроў навазіў. Дзеці падраслі. Вальцы ўжо дванаццаць гадоў. Дзеці не голыя, не босыя. Бульбы навварыш, капусты, малака... Курэй многа. Будзеш сячы па адной. Мне там горш будзе...

— Дык навошта ехаць? — ухапілася як за саломінку жонка.

— Трэба скончыць універсітэт. А то прыедзе нейкі саплівы хлапчук пасля інстытута і скажа: «Злазь, Мамута, з майго месца»,— як маленькай ужо каторы раз даводзіў жонцы Пётр Еўдакімавіч.

Выехаў ён у Мінск са спазненнем на два дні, ды ў Лабанаўцы давялося суткі сядзець: столькі ехала людзей у горад, што не ўбіцца ў цягнік. Сяк-так дабраўся, але ж застаўся без інтэрната. Пераначаваў у аднаго хлопца-мінчаніна, з якім пазнаёміўся на ўступных экзаменах. Суседзі параілі кватэру: на Старажоўцы здаецца пакойчык. Гаспадыня, высокая грузная кабета, паказала яму невялікі катух: акно, металічны ложак, на ім дошкі, сяннік, тумбачка замест стала. Згадзіўся, дзе ж дзенешся. Дом быў вялікі, але падзелены напалам: другую палову займаў брат гаспадыні з сям'ёй, а тут жыла яна з дачкою і ўнучкай.

Раніцай Пётр выходзіў з дому, пехатой шпарыў да універсітэта, слухаў лекцыі, старанна запісваў прыгожым настаўніцкім почыркам, бо падручнікаў было мала і ўсе выкладчыкі папярэджвалі: пішыце лекцыі, а то ў кнігах няма гэтага курса. Абедаў ва універсітэцкай сталоўцы або на фабрыцы-кухні — карміліцы студэнтаў яшчэ з даваенных часоў. Увечары ахвотна насіў ваду гаспадыні, балазе калонка стаяла недалёка на вуліцы, сек дровы: у доме была печ, акурат вясковая, з плітой. Вера Іосіфаўна, гаспадыня, запрашала вячэраць. Спачатку ён адмаўляўся, а потым пазнаёміўся бліжэй, перастаў адмаўляцца, ды і зарабіў жа — вады прынёс, дроў насек, часам і сваё выкладваў на агульны стол, што меў.

Дачка гаспадыні Юзя, гэтакая ж высокая, шырокая ў касці, пышнагрудая маладзіца з густымі каштанавымі валасамі, мела чатырохгадовую дачку. Муж загінуў у канцы вайны. Ажаніліся ў сорак першым, потым, як вызвалілі Мінск, муж прыехаў з фронту ў водпуск. Пасля гэтай пабыўкі і нарадзілася дачка, але бацькі свайго яна не пабачыла. Юзя працавала швач-

кай, хадзіла на работу то ў першую, то ў другую змену, як і гаспадыня. Аднойчы ў суботу Мамута і Юзя пілавалі дровы. Потым ён узяўся калоць, але восеньскі дзень кароткі, сцямнела хутка.

— Ай, Пеця, кідай ты. Хіба заўтра дня не будзе? Надта шчыры ты працаўнік,— сказала Юзя і гулліва зірнула на яго.— Пайшлі павячэраем, пагамонім...

Юзя хуценька пакарміла малую, потым паклікала Пятра, які сядзеў у сваім катуху над канспектамі. Гаспадыня была на рабоце.

— Я сёння палучку атрымала. Купіла віна пляшку. Давай вып'ем. Колькі таго жыцця...

Павячэралі, выпілі віно. Юзя разгаварылася пра сваё жыццё. Кранулі Пятра яе словы: «Не тое што нажыцца, нават наглядзецца на мужа не паспела». Потым Юзя ўкладвала малую спаць, а Пётр чытаў у сваім катуху. Праз тонкую перагародку ён чуў, як варочаецца на ложку ў суседнім пакоі Юзя, ды і дзверы свае яна не зачыніла. Праз нейкі час яна паклікала:

— Пеця, будзь ласкавы, выключы святло, а то холадна, не хочацца з-пад коўдры вылязаць.

Ён увайшоў у яе пакой, у вочы кінулася: на белай падушцы ў абрамленні пышных валасоў бела-ружовы твар, круглыя белыя плечы. Пётр хутчэй пстрыкнуў выключальнікам, каб не бачыць гэтага...

— Пеця, прычыні дзверы, каб малая не пачула. Я табе нешта хачу сказаць...

— Дабранач. Заўтра скажаш,— Пётр павярнуўся ісці.

— Я магу забыць да заўтра. Ну хадзі сюды на хвілінку...

Пётр наблізіўся да ложка, і гарачыя мяккія рукі абхапілі яго за шыю... З гэтага ўсё і пачалося. Прыходзіла Юзя з работы, цішком сунулася ў яго пакой.

— Ты ведаеш, сёння ў кінатэатры паказваюць новы фільм. Я ўзяла два білеты. Давай сходзім. Не пайду ж я адна гэткаю цемраю...

— У мяне заўтра семінарскія заняткі. Могуць выклікаць. Буду стаяць як пень,— бараніўся Пётр.

— Ай, Пеця, дарагі ты мой, колькі ў цябе яшчэ будзе семінарскіх заняткаў!

І ён ішоў у кіно. А семінар даводзілася прапусціць, бо як пойдзеш, калі не падрыхтаваўся. А потым была

прэм'ера ў Купалаўскім тэатры. І як адмовіцца? Ні разу ж не быў. Сабраліся яны ісці, выйшлі з хаты.

— Пеця, што ты свае боты не пачысціў? — Юзя крытычна агледзела яго.

— Чаму? Чысціў,— Пётр зірнуў на свае старыя хромавыя боты.

— Спераду пачысціў, а ззаду абцасы — не. Так не гадзіцца. У тэатр жа ідзём,— Юзя ўзяла анучу.— Стаў нагу на прыступку... Цяпер другую...— Яна вышаравала анучкай абцасы, паднялася, абняла яго і моцна пацалавала ў губы. Пётр аж захістаўся.— Хто яшчэ так цябе будзе любіць?

Любіць Юзя ўмела, а галоўнае — вельмі хацела любові. Калі Пётр зачыняў свой катух на кручок, яна стукала, а потым дакарала:

— Ну, навошта ты зачыняешся, дурненькі? Будзеш зачыняць дзверы, вырву гэты кручок зусім...

Запярэчыць Пётр не паспяваў, ягоныя губы апякаў гарачы пацалунак. Яны абышлі амаль усе кінатэатры, перагледзелі ўсе спектаклі ў драматычных тэатрах. Аднаго разу Юзя сказала:

— Вось ты ходзіш абедаць на фабрыку-кухню. А там жа рэстаран добры. У мяне сёння палучка. Давай замочым.

Пётр аднекваўся, гаварыў, што ў яго баліць жывот, ён не можа нічога ні піць, ні есці.

— Дзівак чалавек, сто грамаў вып'еш, усё пройдзе...

Пасля рэстарана Пётр адважыўся ўсё сказаць Юзі і кончыць гэтую непатрэбную сувязь, ён знойдзе сабе іншую кватэру.

Яны ішлі па вуліцы. Быў позні вечар. Нанач браўся марозік, і ўсе дрэвы стаялі ў інеі. У скупым святле ліхтароў маладыя танклявыя дрэўцы свяціліся, ззялі, нібы крышталёвыя келіхі.

— Якая прыгажосць! Я зроду такога не бачыў,— міжволі вырвалася ў Пятра.

— І праўда, як у казцы. І ўсё для нас з табой. Гэта наша казка. Нават прырода нам спрыяе,— Юзя мацней прыхінулася да яго.

— Юзя, няўжо ты не разумееш? У мяне чацвёра дзяцей. Чацвёра! Добрая жонка. Я не магу яе кінуць...

— А ты не кідай. Вучыся. Жыві ў нас. Ты будзеш

як сыр у масле катацца... Скончыш універсітэт. Дзеці тваё падрастуць. Тады афармім развод. І ўсё будзе добра.

— Я не магу быць двурушнікам. Або так, або так... Гэта ж подласць. Маючы кучу дзяцей...

— Дурненькі! Хіба ж можа любоў быць подласцю! Каб ты ведаў, як я цябе люблю! — І гарачыя губы апякалі яго.

Вакол ішлі людзі, Пётр саромеўся, а Юзя, нібы п'яўка, прысмакталася да ягоных віснаў.

А потым Юзя сказала яму, ноччу, пасля гарачых абдымкаў:

— Пеця, у нас будзе дзіця...

Гэтыя словы, як гром, ударылі яго.

— Дзіця?! Ты што? Схадзі да доктара...

— Дык забаронена ж рабіць аборты, разумееш?

— Забаронена. Але робяць... Можа, ты памыляешся?

— Не, я не памыляюся. А можа, хай будзе, Пеця? Хата вялікая. Уяўляеш, сын у нас... Маленькі, як ты, светлавокі. Здаровенькі... Разумны, настаўнікам будзе ці, можа, міністрам стане, генералам...

Пётр маўчаў. Спаць спакойна з таго разу не мог: надта далёка зайшлі яго адносіны з Юзяй. Яна падабалася яму: маладая, прыгожая, здаровая і такая ласкавая. А як жа яго дзеці? Іх чацвёра... Маленькі Юрка, які чакае яго. Таццяна, з якой пражыта амаль паўтара дзесятка гадоў. Школа над Бесяддзю. Вёска, якую ён паспеў палюбіць... Навука не ішла яму ў галаву. Ён адчуваў, што на экзаменацыйнай сесіі будзе плаваць і наўрад, каб выплыў, апроч таго, што будзе сорамна, яму не дадуць стыпендыі. Быць на Юзіным утрыманні? Не, да гэтага дапусціцца нельга.

Усё часцей ён думаў, што універсітэт давядзецца кінуць. Вучыцца на дзённым аддзяленні яму ўжо не з рукі, трэба пераводзіцца на завочны факультэт. Але як растлумачыць усё гэта Юзі? Вінаваціць яе ва ўсім ён не хацеў: жанчына, маладзейшая за яго, паддалася мінутнай слабасці, вайна адабрала ў яе мужа ў самай красе жыцця... А вось ён, бацька чатырох дзяцей, уліп па самыя вушы... І тут прыйшло пісьмо ад Таццяны, кароткае, напісанае няроўнымі літарамі — яна скончыла некалі чатыры класы, пісанінай займацца не было калі: сям'я, гаспадарка забіралі ўвесь час. Як толькі прачытаў, што

захварэў Юрка, адразу падхапіўся. «Трэба ехаць неадкладна»,— трывожныя думкі нібы штурхалі яго.

Пётр Еўдакімавіч похапкам сабраўся. Усе ягоныя рэчы ўвайшлі ў невялікі, абшарпаны, яшчэ даваенны чамаданчык, з якім ён прыехаў сюды. На двары вісела бялізна, якую памыла ўчора Юзя, там і ягоная кашуля. Ён выйшаў на двор, прыгнуўся пад шнурам, на якім вісела бялізна. Вецер матляў адзенне, марозна-каляны рукаў ягонай кашулі ляпнуў па шчацэ. Пятру падалося на момант, што бялізна пахне Юзіным целам, ён аж прыжмурыўся і скрыгатнуў зубамі. Зняць кашулю рукі не падняліся. Як не сваімі нагамі ўвайшоў ён у хату. Юзя працавала на другой змене, Вера Іосіфаўна нешта шыла, каля яе круцілася і малая.

— Кепскія справы, Вера Іосіфаўна. Захварэў моцна мой меншы сын. Трэба ехаць...

— Дык ён дома ці ў бальніцы? — Вера Іосіфаўна пільна зірнула на кватаранта.

— Пакуль што дома. У нашай вёсцы няма бальніцы. Трэба везці ў суседнюю...

— А што там няма каму адвезці? Няўжо яны будуць чакаць, пакуль вы прыедзеце з Мінска?

— Чакаць не будуць... Але я бацька. Трэба ехаць,— з большай рашучасцю паўтарыў Пётр Еўдакімавіч.

— Канечне, вы — бацька. Вы павінны клапаціцца пра сваіх дзяцей. Трэба, дык едзьце.

Пётр Еўдакімавіч адчуў, што ён чырванее, быццам школьнік, які не падрыхтаваў урок. Ён разумеў, што Вера Іосіфаўна дагадваецца пра іх адносіны з Юзяй, а тая, можа, і расказала ўжо пра ўсё... Канечне, Вера Іосіфаўна не ўхваляла гэтыя адносіны, але да Пятра яна ставілася добразычліва, апошнім часам нават яшчэ з большай увагай, чымся раней. І гэтая фраза: «вы — бацька», магчыма, мела і свой падтэкст.

Кватарант крутнуўся ў пакойчык, абвёў вачамі яго сцены, нібы развітваўся, кінуў позірк на ложак, засланы коўдраю, як маланка мільгануў успамін пра тыя ночы з Юзяй. Ён няўцямна паправіў высокую, пульхную падушку — Юзіну падушку, якая ляжала на маленькай яго, прывезенай з дому. Нечакана зашчымела пад лыжачкай, і ён ледзьве не кінуўся цалаваць Юзіну падушку... З чамаданам выйшаў з пакойчыка. Вера Іосіфаўна зірнула на яго, спытала:

— А чаму вы з чамаданам? Можа, вазьміце наш саквояж. Ён лягчэйшы.

— Не, дзякуй. Я хачу хлеба купіць, таго-сяго...

— Грошы маеце? Магу пазычыць.

— Дзякуй, Вера Іосіфаўна. Стыпендыю на днях атрымаў.

«Добра, што за кватэру заплаціў»,— падумаў ён і, патупаўшы ля парога, сказаў:

— Перадайце Юзі, што я скора прыеду. Ну, бывайце здаровы!

— Шчасліва з'ездзіць. І каб усё было добра,— Вера Іосіфаўна пайшла за ім следам, правяла да веснічак.

Пётр Еўдакімавіч ішоў і спінаю адчуваў, што яна глядзіць услед, але ён не азірнуўся і з палёгкаю ўздыхнуў, калі павярнуў на іншую вуліцу.

...І вось Пётр Еўдакімавіч Мамута з чамаданам, які ён зачапіў на ручнік, перакінуў цераз плячо, размашыста крочыў па дарозе. Кіламетраў пятнаццаць ён ужо адмахаў, прамінуў Баравуху, Белую Гару. Набліжаліся Хатынічы. Ён адчуваў, што спіна ўжо ўзмакрэла, але хаду не прыцішаў. І толькі на ўзгорку, дзе стары гасцінец з абодвух бакоў абступалі тоўстыя бярозы, ён прыпыніўся.

Ужо бралася на вечар. Сонца схавалася за курганістым полем, за Бярозавым балотам, і неба на захадзе было ярка-чырвонае, што абяцала назаўтра ветраны дзень. Пётр Еўдакімавіч прыхінуўся да бярозы, доўгае заінелае вецце яе звісала ўніз, праз яго, гэтае вецце, ён глядзеў на вёску. Ахутаная перадвячэрняй смугою вёска адсюль была добра відаць: цёмна-серабрыстыя прысады ля шамаўскіх зямлянак, бы адчаканеныя са старога пацямнелага срэбра, заснежаныя хаты Канчанскага боку. Над некаторымі стрэхамі ружавелі слупкі дыму. На імгненне паўстаў уваччу вячэрні горад, заінелыя дрэвы, Юзя... Пятру Еўдакімавічу здалося, што гэта было даўно, было не з ім, што ён дзесьці вычытаў гэта ў кнізе ці бачыў у нейкім фільме.

Мамута не мог адсюль згледзець сваю хату, але чамусьці верылася, што і над ёю стаіць цёплы ружовы дымок, варыцца бульба ў грубачцы. «А мо Юрка ў бальніцы? І Таццяна з ім. А малыя адны дома...» Гэтая думка, як бізун, сцебанула яго. Пётр Еўдакімавіч адштурхнуўся ад бярозы, як баксёр ад канатаў рынга, і наддаў ходу.

Па дарозе думкі яго скіраваліся да школы, прыгадаў свой клас: летась ён вучыў трэцякласнікаў. Было іх каля сарака чалавек, шмат перарасткаў, некалькі другагоднікаў, якія вучыліся вельмі неахвотна, затое ўлетку амаль усе яны працавалі ў калгасе. Меліся і здольныя вучні. Прыгадаўся Андрэйка Сахута. Не раз бывала, калі на ўроку арыфметыкі Пётр Еўдакімавіч пытаўся, хто рашыў задачы, ціхутка падымалася ўгору запэцканая чарнілам маленькая Андрэйкава рука: значыць, ніхто сёння не паспеў у яго спісаць,— адзначаў для сябе настаўнік.

Аднойчы на ўроку беларускай мовы было ізлажэнне. Пётр Еўдакімавіч прачытаў тэкст, папярэдзіўшы вучняў, каб уважліва слухалі і пастараліся запомніць. Ён убачыў, што Сахута нешта крэмзаў на прамакатцы. Падышоў бліжэй, убачыў радок літар: «Што ты пісаў, Андрэй?» — «Нічога. Так проста...» — «А што гэта за літары?» — зацікавіла настаўніка. «Гэта тэкст, які вы прачыталі».— «Хіба ж ты разбярэш? Тут жа слоў няма. Адны літары».— «Я ўсё запомніў. А літары проста, каб не збіцца...» — «Ну, чытай. Паглядзім».— «На Оршу насядалі немцы...» — пачаў Андрэйка і прачытаў увесь тэкст, слова ў слова, нідзе не памыліўшыся. «Ну, малайчына! — настаўнік не стрымаўся і пагладзіў віхрастую галаву вучня.— А цяпер усе пішыце... Паўтараць мне не трэба».

Калі Мамута падыходзіў да свайго дома, ужо добра звечарэла. Акно першага пакоя свяцілася, а з коміна цягнуўся рэдзенькі слупок дыму. На душы ў настаўніка пацяплела, надзея, што дома ўсё добра, ажыла ў ім. Пётр Еўдакімавіч хуценька шаргануў нагамі ў сенцах аб саламяны мат, які ляжаў ля дзвярэй, пацягнуў на сябе клямку. Валька, старэйшая дачка, сядзела за сталом і нешта пісала, нізка схіліўшы галаву. Жонка сядзела на зэдліку напроці грубачкі, асветленая чырвонымі водбліскамі агню, на каленях у яе прыгрэўся Юрка, іншыя дзеці лёталі па хаце і адразу кінуліся да яго з крыкам: «Татка! Татка прыехаў».

Пётр Еўдакімавіч цмокнуў іх у шчаку, а Юрку, які таксама падляцеў да яго басанож, падняў на рукі, углядаючыся ў сынаў твар, нібы шукаў сляды хваробы. Юрка абхапіў бацьку за шыю цёплымі ручанятамі і, картавячы — «р» ён так і не вымаўляў,— зашчабятаў:

— А я паздалавеў ужо. І кашляць пеластаў... А які ты халодны, татка,— Юрка сцягнуў бацькаву шапку і хацеў надзець на сваю, стрыжаную нажніцамі галаву.

— Не трэба, Юрка, шапка халодная. І паліто з марозу,— Мамута хацеў ссадзіць сына на падлогу, але ён яшчэ мацней ашчаперыў бацьку за шыю.

Падышла Тацяна, вінавата-радасна зірнула ў вочы, абняла за плечы. Мамута адчуў, што гэты ланцуг яму не разарваць і што ён вярнуўся дамоў назаўсёды, нават і пра завочны факультэт думаць не хацелася.

Назаўтра пацягнула яго ў школу, хоць яшчэ ўчора ўвечары ён разважыў: першыя дні нікуды не паказвацца, каб унікаць размоў, пытанняў, роспытаў наконт вучобы, але ўседзець дома не мог.

Выбраўся ён па абедзе, пад канец другой змены. Ціха адчыніў дзверы ў калідор. З аднаго класа пачуў гучны голас Ганны Мікітаўны, у другім чуваць быў дзявочы галасок — нейкая дзяўчынка невыразна, сабе пад нос, чытала верш. Тут праводзіла ўрок чытання Валянціна Сцяпанаўна. Дзверы ў настаўніцкую былі незамкнёныя, ён увайшоў у маленькі катух, які нагадаў яму мінскае жытло. Тут усё было без перамен, толькі ўстаўлена другая рама і абклеена палоскамі газеты, каб не дзьмуў вецер. Ля стала, збітага з шалёвін, засланага газетамі, ужо трохі пабурэўшымі ад святла і з чарнільнымі кляксамі, тры табурэты, мясцовай, хатыніцкай, работы.

Мамута ведаў ад Тацяны, што новага дырэктара ў школу не прыслалі. Афіцыйна кіраўнік пачатковай школы называўся загадчыкам, але хатыньчане велічалі Мамуту «дзілектарам»... А мо хто цяпер прыедзе, падумалася яму і захацелася, каб хутчэй скончыўся ўрок, і ён даведаецца пра ўсё ад Ганны Мікітаўны, якая заставалася за «дырэктара». Раптам зазвінеў званок, і Мамута аж здрыгануўся: такім мілагучным, родным здаўся яму гэты звон — дрынканне старэнькага вышчарбленага меднага званка. У калідоры пачуліся тупат, звонкія дзіцячыя галасы. З тоўстым стосам сшыткаў і класным журналам, абгорнутым белай паперай, у настаўніцкую ўвайшла Ганна Мікітаўна. У паўзмроку яна адразу, мабыць, і не пазнала Мамуту.

— Ой, хто гэта тут? Пётр Еўдакімавіч? Ці гэта ваш цень? — здзівілася і ўзрадавалася яна.

— І я, і мой цень,— весела сказаў Мамута.— Добры вечар вам, Ганна Мікітаўна! Як вы тут маецеся?

— Ой, не пытайце! Так ужо маемся. Каб горай, дык і няма куды. Цягнем удзвюх з Валяй. Абяцалі новага загадчыка, выпускніка інстытута. Недзе ён заблудзіў, не даехаў да Хатынічаў. Ведама, хто ў гэтую глушэчу паедзе.

Мамута мысленна падзякаваў таму хлопцу, які не даехаў да Хатыніцкай школы.

— Раз ён не прыехаў, дык вас трэ было прызначыць загадчыкам. Узялі б яшчэ якую дзяўчыну ці хлопца пасля дзесяцігодкі...

— Не хачу я гэтага...— адмахнулася Ганна Мікітаўна.— Ламай галаву і пра дровы, і пра рамонт. А ў мяне дзеці малыя, гаспадарка ёсць. Сямён вечна ў краме... Старыя нямоглыя...

— Дык, можа, мне вярнуцца, Ганна Мікітаўна? — усміхнуўся ён.

— Мы з Валяй вам, Пётр Еўдакімавіч, у ножкі паклонімся, калі вернецеся назад.

— Ну, значыць, так таму і быць! Хто ўстаіць перад такімі жанчынамі, як вы з Валянцінай Сцяпанаўнай.

— Вы як былі жартаўніком, Пётр Еўдакімавіч, так і засталіся ім,— сказала Ганна Мікітаўна і з надзеяй зірнула на Мамуту: а можа, ён не жартуе, а сапраўды хоча вярнуцца. Гэты шчыры пагляд сказаў больш, чымся яе словы.

— Я не жартую, Ганна Мікітаўна. Цяжка быць студэнтам, калі ў цябе на печы чацвёра дзяцей. Некалі завочна скончу універсітэт...

— Дык гэта праўда? І адпусцілі вас?

— Проста я кінуў ды і прыехаў. Адпусцяць, дзе яны дзенуцца. Напішу, каб выслалі дакументы.

— Пётр Еўдакімавіч, даражэнькі, дайце я вас пацалую...

Мамута не паспеў нічога адказаць, як настаўніца цмокнула яго ў шчаку і, радасная, выбегла клікаць калегу. Потым яны сядзелі за сталом і абмяркоўвалі, як будуць працаваць далей. Абедзве настаўніцы ўгаворвалі Пятра Еўдакімавіча, каб ён заўтра ж ехаў у райана, каб прымаў на сябе дырэктарства і вучыў чацвёрты выпускны клас. Пётр Еўдакімавіч слухаў іх і ціха радаваўся.

## V

Макара Казакевіча выбралі старшынёй калгаса «Пяцігодку ў чатыры гады» зімою сорак пятага. Пасля таго як у шпіталі яму адчыкрыжылі вышэй калена нагу, ён ніколі не думаў, што яму яшчэ давядзецца кіраваць калгасам. Рамантаваць хамуты, сядзёлкі, шыць боты, валяць валёнкі — гэта можна. На большае ён ужо не разлічваў. Ды ён і любіў майстраваць, багата чаму навучыўся ад бацькі. Жыццё прымушала: мелі коней, то трэ было і збрую прыводзіць да ладу.

Перад калгасамі малады гаспадар Макар Казакевіч займеў сваю гаспадарку: трое коней, дзве каровы, пабудаваў вялізнае гумно і першы ў Хатынічах, а мо і ва ўсёй акрузе, купіў сабе конную малатарку за пяцьдзесят пудоў збожжа. І тут пачалася калектывізацыя. Беднейшыя адразу падалі заявы ў калгас. «Паперла галыдзьба да кучы,— бурчаў і лаяўся Макараў бацька, Тарас Кандратавіч.— А ты во столькі сілы ўклаў, жылы рваў... Усё цяпер ім аддай, чорту лысаму...»

Макар пакутаваў, ночы не спаў ад цяжкіх думак: толькі падняўся на ногі, пабудавалі хату-пяцісценку, а то ж у старой халупе туліліся, якую бацька зрубіў яшчэ на хутары. Стаяў іхні хутар ля дарогі ў Белую Гару, дзе бацька прыдбаў за грошы невялікі надзел зямлі яшчэ падчас сталыпінскай рэформы. Макару тады было якіх пяць гадоў, пераезду на хутар ён не памятаў, а вось як жылі там, як бегаў у школу ў Хатынічы, а зімой жыў у бабулі ў Канчанскім баку, бо снегам заносіла дарогу і хутар нагадваў здаля завеяны стажок сена, над якім сіратліва тырчаў калодзезны журавель,— гэта ўрэзалася на ўсё жыццё.

Уранні і ўвечары над «стажком» курэў шызы дымок. Далей таксама ляпіліся падобныя хутаркі: хітры Сталыпін хацеў раскідаць сялянскую грамаду і потым апірацца на хутараніна, які салёным потам паліваў свой надзел, меў на стале кавалак хлеба і ніякіх перамен не хацеў, а маліў божаньку за бацюхну-цара і ягоных мудрых служак. Многія з гэтых хутаран варожа сустрэлі рэвалюцыю, не спяшаліся яны прымаць і калектывізацыю. Нават пасля таго як хутаран перасялілі назад у вёску,— а пераехалі яны не з голымі рукамі, то і жылі багацей, чымся суседзі. Ды і працаваць не ленаваліся. Тарас Казакевіч умеў усё: рубіць хаты,

класці печы, майстраваць калёсы, сані, пчаліныя вуллі, рамантаваць вупраж і шыць боты.

Макар бачыў бацьку без работы толькі ў святыя дні, калі святое пісанне забараняла рабіць. Бацька нястомна працаваў, гэтаму ж вучыў і дзяцей, асабліва старэйшага сына — Макара, свайго першага памочніка. Спачатку ў сям'і нарадзіліся дзве дачкі, а потым доўгачаканы сын. І вось Макар ужо сам гаспадар, бацька траіх дзяцей, гаспадар руплівы, які ўмеў рабіць не толькі рукамі, але і галавой шурупіць. Стары Тарас радаваўся, гледзячы на спраўных, аж блішчаць, сынавых коней, укормленых парсюкоў, пародзістых кароў, што давалі па вядру малака. Тарас меў не такія ўжо вялікія гады — пераваліла за шэсцьдзесят, але быў ужо нямоглы, спрацаваўся зусім, і ягоныя нястомныя рукі толькі і маглі трымаць лыжку і цыгарку.

У бяссонныя ночы, шкадуючы сынаву гаспадарку, у якую і ён, бацька, уклаў нямала сілы, іншы раз ён думаў: ці недарэмна ён так высільваўся? Некаторыя ягоныя сябрукі жылі лягчэй, весялей, і ў шынок часцей завітвалі, і на ігрышчы хадзілі. А ён бачыў адно толькі работу з цёмнага да цёмнага. Аднойчы ён сказаў Макару:

— Хто яго ведае, сынок, дзе знойдзеш, а дзе згубіш... Можа, у етым кылікціве, калі б разумна справу наладзіць... дык і лепей было б... Калі б з галавою кіраўнікі ўзяліся...

Але сын незалюбіў гэтай гаворкі, нават не даслухаў.

— Што там у кылікціве? Голым задам свяціць? Табе, канечне, лацвей разважаць. Ты сваё аджыў... Хочаш, каб мае дзеці галодныя былі? Не пайду я ў еты калгас. Савецкая ўласць дала мне зямлю. Дык што, назад адбярэ? Цар і той не адбіраў. А чаму яна, наша савецкая ўласць, павінна адбіраць зямлю? Усё нажытае ўласным мазалём...

— Сынок, ці ж я табе вораг? Я проста выказаў сваю думку. Бо я век надрываўся, і ты будзеш жылы рваць. А гуртам лягчэй. І якую машынізацыю можна хутчэй прымяніць... Ты во аддаў паўсотні пудоў за малатарку, а яна ржавець будзець...

— Бацька, што ты мяне за калгас пачаў агітаваць? — дзівіўся сын, сярдзіта грукаў дзвярыма і выходзіў.

Тым часам большасць хатыньчан ужо ўступіла ў калгас, засталося паўтара дзесятка ўпартых кулакоў і серадиякоў. Прыходзілі да іх сельсаветчыкі з Саковіч — да вайны Хатынічы належалі да Саковіцкага сельсавета, прыязджалі ўпаўнаважаныя з раёна, але зрухаў не было.

Неяк ранічкай у хату ўвайшоў старшыня сельсавета Антон Пракапенка. Макар даўно ведаў яго, разам да дзевак хадзілі ў Саковічы, на кірмашах сустракаліся і чарку, здаралася, бралі.

— Макар, выйдзі на хвілінку,— сказаў ён, павітаўшыся.

Пракапенка быў бледны, усхваляваны.

— Што здарылася, Антон? Няўжо і цябе раскулачваць будуць? Дык ты ж пралетарый,— ухмыльнууўся быў Макар.

— Ой, глядзі, Макар, не да смеху будзе... Патрабуюць з раёна спісы... Ну, тых, каторыя не ўступілі. І кулакоў, і серадиякоў... Будуць раскулачваць. Відаць, арыштуюць...

— Арыштуюць, кажаш? І куды?

— Адкуль я ведаю. У Сібір, мабыць...

— І гэта цябе так напалохала? — Макар ужо чуў нямала пагроз, але ў душы не хацелася верыць, што гэта будзе, што нехта адбярэ ў яго кроўную маёмасць. Ёсць жа і ў іншых вёсках аднаасобнікі. І ніхто іх не чапае.

— Чаго мне палохацца? За цябе, дурня, перажываю. А напалохаць мяне спрабаваў Варонін. Ну і гад! Як усхапіўся: «Ідзі вон з хаты! А то засяку тапаром!» Вочы крывёю наліліся, сліна з рота пырскае. Парабкаў меў, кроў піў людскую... Дык што з ім, думаеш, чыкацца будзем?.. А ты падумай. У цябе дзеці малыя. Ды і самому трыццаці няма. Я не хацеў пры тваім бацьку гаварыць. Старыя, яны, сам ведаеш, жывуць учарашнім... Заўтра загадана даць у раён спісы. Сянні апошні дзень...

— Ну, а калі я хачу быць аднаасобнікам? Гэта ж не забаронена? — не здаваўся Макар.— Я пагляджу, як яно пойдзе... Падумаю...

— Ты кажаш пра аднаасобнікаў. Ёсць некаторыя бедалагі, па дурасці ўпарцяцца. Ну, і няхай пасядзяць, пакуль датумкаюць. Іх не чапаюць. А ў вас жа цэлае гняздо. У Вароніна ж не адзін абрэз ёсць. Ён не пася-

дзіць ціха. Будзе шкодзіць. Значыць, яго трэба прыбраць з дарогі... Ну, я пайшоў. Яшчэ хачу да Сахуты забегчы. Пішы, Макар, заяву. Інакш дабра не чакай...

Макару хацелася вылаяцца, але ён стрымаўся. Вяртаючыся ў хату, зачапіў у сенцах пустое вядро, яно грымнулася аб чыгун са свіной мешанкаю, пакацілася са звонам да дзвярэй. З хаты высунулася ўстрывожаная жонка.

— Тваю маць...— вылаяўся Макар.— Вядро не можаце на месца паставіць...

— Яно ж на вадзянцы стаяла. Дзе і заўсёды,— апраўдвалася жонка.

— Што ён сказаў? — ціха спытаў бацька і закашляўся.

— Што ён скажа? Усе пужаюць... Усе грозяць,— Макар дастаў з невялічкай драўлянай шафы бутэльку мутнаватай вадкасці, дрыжачай рукой наліў паўшклянкі, выпіў, узяў кавалачак мякіша, кінуў у рот.

Бацька нарэшце адкашляўся, дыхаў ён цяжка, бы загнаны конь, вочы яго былі чырвоныя, нават слязінка скацілася па шчацэ. Макару аж сэрца зашчымела, ён крутнуўся ў другую хату, кінуўся на ложак. Думкі блыталіся ў галаве, сон не браў, хаця ў мінулую ноч амаль што вочы не звёў — быў ля коней, можа, і задрамаў трохі пад раніцу.

«Паляжу трошкі, а потым пайду да Мацвея»,— вырашыў ён.

Нарэшце яго такі змарыў сон. Прахапіўся, бо ляпнулі дзверы ў сенцах, нехта ўвайшоў у хату.

— Здароў, дзядзька Тарас. А дзе ж Макар? — па голасе Макар пазнаў Сахуту Мацвея.

— Тут я. Ідзі сюды! — крыкнуў Макар.

Мацвей старанна выцер запыленыя боты, асцярожна ступіў у чыстую хату.

— Ну, брат, воўк у лесе здохне, што ты ўлёгся сярод белага дня,— здзівіўся Мацвей.

— Рабі не рабі — адзін хрэн,— махнуў рукою Макар, сеў на ложку, прыгладзіў ускудлачаныя валасы.

Сахута прысеў на табурэт ля стала, засланага бялюткім вышываным абрусам, на яго нават боязна было руку пакласці.

— Заходзіў да цябе...— пачаў быў Мацвей, але Макар не даў яму дагаварыць.

— Заходзіў, палохаў, агітаваў...

— От і ў мяне быў,— уздыхнуў спахмурнелы Мацвей.— Каця мая ў адну душу: дзяцей хочаш асіраціць? Пішы заяву. Каб умела, кажа, дык бы сама напісала. А я кажу: не дай божа свінні сядло, а бабе грамату... Пасварыліся зноў. Тры месяцы ўжо ваюем...

— Ну і да чаго вы даваюецеся? — у дзвярах стаяў, прыхінуўшыся да вушака, Макараў бацька.

— А ліха яго ведае, дзядзька Тарас... Гадамі выпінаўся, лез са скуры, нажываў усё, а цяпер аддай чорту лысаму...

— Дык вот і я кажу пра ета,— падхапіўся Макар.— А ў мяне вунь таксама агітатар завёўся. Бацька гарою за калгас...

— Я, сынок, адно разумею. Плёткаю абуха не пераб'еш... Калі хочаш застацца жыць, ідзі разам з людзьмі. Што ўсім, тое і табе будзе...— стары зноў закашляўся, ссутулены, пасунуўся на двор.

— Эхе-хе,— цяжка ўздыхнуў Сахута.— Відаць, няма іншага выхаду... Мусіць, давядзецца пісаць заяву...

— Што, і малатаркі не шкода? Лёгка яна табе далася? — Макар усхвалявана хадзіў па хаце, аж рыпелі жаласліва маснічыны.

— І малатаркі шкода. І коней шкода,— ледзь не са слязьмі ў голасе гаварыў Мацвей.— А галава, братка, даражэй... Сям'я, дзеці...

Калі Макараў бацька вярнуўся ў хату, сын з госцем сядзеў за сталом. Абодва былі ўзбуджаныя, расчырванелыя.

— Тата, выпі з намі кропельку. Можа, палягчэе табе,— сын ліпуў яму ў шклянку.— Вып'ем за калгас!

Стары Тарас зірнуў на аднаго, на другога, спрабуючы зразумець: праўду кажуць ці жартуюць.

— За новую жысць, дзядзька,— падняў сваю шклянку Сахута.

— Знаеш, бацька, у мяне быццам гара з плячэй звалілася. Падаём з Мацвеем заявы,— з пасвятлелым тварам сказаў Макар.

— З богам, сыночкі! — стары перахрысціўся і выпіў.— Тады і я пажыву яшчэ. Хачу паглядзець, як яно пойдзе...

Падаў у той дзень заяву ў калгас і Захар Махавікоў. Астатніх дзён праз колькі забралі ў раён. Вярнуўся праз тры гады, і то дзякуючы прабіўной жонцы Аўдулі, адзін Ахрэм Куцаёў, якога потым у вайну немцы паста-

вілі старастам. А сын Вароніна Сцяпан сам пайшоў у паліцыю. Куцаёў адбываў зараз пакаранне, а Варонін, мабыць, драпануў з немцамі, бо пра яго ніякіх чутак не было.

Не раз потым успамінаў Макар Антона Пракапенку, дзякаваў яму, добрым словам успамінаў бацьку-нябожчыка: пражыў ён гады два пры калгасе. Макар працаваў конюхам, а перад вайною прызначылі яго брыгадзірам другой брыгады — у яе ўваходзіў увесь Канчанскі бок. А першай брыгадай кіраваў Мацвей Сахута.

Пасля аперацыі бясконца доўгімі начамі ў шпіталі Макар думаў аб тым, як далей жыць: ні з касою, ні за плугам яму не хадзіць. А ў руках сілу мае. Быць пенсіянерам у сорак гадоў... Тады ў ягонай русай густой чупрыне прабіліся ніткі сівізны.

На сход, калі Макара выбіралі старшынёй калгаса, прыехаў Акапян. Выступаў Раман Свідэрскі, які толькі прыйшоў з фронту, горача крытыкаваў беспарадкі ў калгасе. Тады і пачуліся галасы: «Свідэрскага выбраць старшынёй. Раз ён усё бачыць, разумее, хай кіруе». Але Акапян настойліва прапанаваў яго, Казакевіча, вопытнага чалавека, былога брыгадзіра. Макар ніколі раней не сутыкаўся з Акапянам, толькі перад сходам пагаварылі, той сказаў, што ёсць думка бюро райкома партыі рэкамендаваць вас, таварыш Казакевіч, старшынёй калгаса. Макар пачаў адмаўляцца, маўляў, граматы ў яго малавата і нагі адной не хапае, што яму будзе цяжка справіцца. «Вы ж — франтавік, камуніст. Ёсць партыйная дысцыпліна... Вайна не скончылася. Ідзе барацьба з разрухай, голадам,— даводзіў Акапян, потым іншым тонам, мякчэй, дадаў: — А вы што, ужо спісалі сябе? Ранавата...»

Гэта неяк па-чалавечы кранула Макара: значыць, у яго сілы вераць, яму давяраюць адказную пасаду, вялікую і нялёгкую гаспадарку, не тое што колішні бацькаў хутар.

Ён разумеў, што на бюро, канечне, не Акапян вылучаў яго, бо не ведаў раней. Гэта Пракапенка ўгаварыў членаў бюро рэкамендаваць яго, інваліда Макара Казакевіча, старшынёй калгаса. З Пракапенкам пасля вайны ён бачыўся аднойчы: ездзіў у райсабес, зайшоў у райвыканком да Міхаіла Даўгалёва. Яны сядзелі, гаманілі па-зямляцку, калі ўвайшоў Пракапенка, заклапочаны, ён некуды спяшаўся, кіўнуў Ка-

закевічу, загаварыў з Даўгалёвым. Макар зразумеў, што Пракапенка не пазнаў яго, падумаў, што нехта з інвалідаў прыйшоў скардзіцца — да сакратара райвыканкома тады прыходзілі людзі па розных справах.

— А мы во тут з Макарам Тарасавічам і пра вас ўспаміналі,— пачаў Даўгалёў.

— Макар, даражэнькі,— кінуўся з абдымкамі да яго Пракапенка.— Даруй, не пазнаў. Багаты будзеш... Сёння ноч не спаў: клопату хапае на рабоце. А тут сын захварэў, цешчу пахаваў. Ну, а ты як?

Макар коратка расказаў пра сябе.

— Ну, галоўнае, што галава цэлая. Заходзь як-небудзь да мяне. А зараз іду ў райком,— Пракапенка моцна пацiснуў Макару руку.— Абавязкова заходзь... Пасядзім, пагамонім. Можа, якая дапамога трэба? Касьянавіч, разбярыся. Калі тваёй улады не хопіць, я падключуся...

— Дзякуй, Антон Яўсеевіч, нічога мне не трэба. Я проста зайшоў да земляка.

Так ні разу і не завітаў Казакевіч да старшыні райвыканкома. Патрэбы не было, а дурыць галаву занятаму чалавеку ён не меў ахвоты. Але затое як стаў старшынёй калгаса, бачыліся яны часта, і не раз выручаў яго Пракапенка. Спадчына ад Арцёма Шандабылы дасталася нялёгкая, небагатая. Зрэшты, вінаваціць былога старшыню не было ў чым. Ці ж ён вінаваты, што ворагі спалілі вёску, амаль усе калгасныя пабудовы, апроч старых свірнаў, у якіх было пуста, хоць шаром пакаці, мышы падохлі з галадухі.

Вайна скончылася. Вярталіся дамоў ратаі і сейбіты, касцы і будаўнікі. Жніво сорак пятага, першае жніво Макара Казакевіча як старшыні цягнулася доўга. Але план хлебанарыхтовак калгас «Пяцігодка ў чатыры гады» выканаў далёка не апошнім, разлічыўся з іншымі пастаўкамі: лён, каноплі, бульба. А што даваць на працадні?

Сяк-так наскрэблі па дваццаць капеек грошай, па дзвесце грамаў зерня, бульбы выйшла паўкіло на працадзень. Значыць, за сто працадзён, за тры, а то і чатыры месяцы работы чалавек атрымліваў дваццаць рублёў. А людзі ж голыя, галодныя, будавацца трэба многім, бо жывуць у зямлянках.

Першага справаздачнага сходу Макар Тарасавіч чакаў са страхам: пракоцяць... Як жа яго трымаць,

калі працадзень пусты? Адно зрабіў добрае: лазню калгасам пабудавалі, гумно пачалі будаваць, канюшню. Коні за лета ад'еліся. І старшыня папярэдзіў брыгадзіраў: каб пры першай магчымасці давалі людзям коней — каму дроў прывезці, каму сена, каму на зіму бульбянішча ўзараць: вясной будзе лягчэй.

І сапраўды, гаманы, бязладнага жаночага крыку, што хоць вушы затыкай, на сходзе было багата. Людзей набілася поўна ў большы клас школы: ён замяняў і клуб, і хату-чытальню. З Лабанаўкі прыехаў на сход старшыня райвыканкома Пракапенка. Справаздачу Макар Казакевіч зрабіў кароткую, і потым усчалося. Асабліва паднімалі голас жанчыны-салдаткі. Параска Баханькова сказала:

— Дзень у дзень я хадзіла на работу. Семсот працадзён зарабіла. А палучыла што? Сто сорак рублёў грошай. А налогу трэба заплаціць семсот рублёў. Адкуль я іх вазьму? А зерня далі столькі, што ў прыпол можна забраць. Маўляў, ета аванс, астатняе будзе потым...

— У цябе дужа шырокая спадніца. У прыпол паўтоны можаш забраць,— крыкнуў нехта з парога.

— А ў цябе язык дужа доўгі,— адбрыла яго Параска, у зале пакаціўся рогат.

Але старшыні калгаса было не да смеху.

— Праўду вы кажаце, жанчыны. Ды і мужчыны тут гаварылі. І сам я разумею... Здымайце мяне. Вось вам пячатка,— ён дастаў з кішэні вузельчык з пячаткаю, паклаў на стол.

Усе адразу прыціхлі, моўчкі пераглядваліся, нібы не чакалі такога павароту. Тады падняўся Пракапенка. І ён не адмаўляў: сапраўды становішча ў калгасе нялёгкае, але, на жаль, пакуль што і ў суседзяў не лепшыя справы, толькі закончылася вайна, усё разбурана і разбіта, кругом дзюркі, якія трэба залатаць...

— Я цвёрда веру, што калгас «Пяцігодка ў чатыры гады» праз нейкі час пад кіраўніцтвам таварыша Казакевіча будзе ў перадавіках...

— Адну мінутку, таварыш начальнік,— падняўся дзед Гылігор.— Гледзячы які перадавік. Адзін усё аддасць у етыя... у пастаўкі. А сам без парткоў застаецца, у пасканных ходзіць, сеслам трасе...

Рогат пакрыў ягоныя словы. Дзед Гылігор пачакаў,

пакуль трохі аціхне шум, дадаў высокім старэчым голасам:

— Дайце нам на працадзень кілаграм хлеба, два кілаграмы бульбы і рубель грошай, дык я гатоў начаваць у полі...

— З кім ты хочаш начаваць, дзед? Можа, з Параскай? — зноў пачулася ад парога.

— Вам бы толькі зубы скаліць! А тут жызня наша рашаецца,— пакрыўджана махнуў рукой дзед і сеў на месца.

Пракапенка счакаў, пакуль людзі насмяяліся, і гаварыў далей:

— Мне здаецца, што такі працадзень у вас можа быць. А пакуль што і ў старшыні такія ж заробкі, як і ў вас. У яго кішэні дзіравыя. Дзяржава таксама даць не можа. Дзе выхад? Даць больш можа зямля. На яе ды на свае рукі адна надзея. Трэба лепей гаспадарыць, таварышы дарагія. Я б вам параіў болей сеяць лёну, канапель. Спрадвеку ў Саковічах, у Белай Гары, у Хатынічах багата сеялі лёну. Ды які лён рос! А цяпер? Пырнік і лебяда заглушылі. План па каноплях вы не выканалі. Пасеяць трэба было пятнаццаць гектараў, а вы дзесяць пасеялі. Мы з Макарам Тарасавічам прыкідвалі. Гектар канапель даў найбольшы прыбытак. Значыць, не паўтара дзесятка гектараў трэба сеяць, а ўдвая больш!

— Ісцінная праўда! Вумна кажыць чалавек,— зноў падхапіўся дзед Гылігор.— Чаму лужыну за Шамаўскім руччом Пенькамоччам называюць? Пяньку спакон веку там мачылі. Дык і нам ета рабіць нада. Пад ляжачы камень вада не цячэць...

Сход закончыўся позна. Выбралі зноў Макара Казакевіча старшынёй калгаса. Пракапенка застаўся ў яго начаваць.

— Знаеш, Антон Яўсеевіч, у мяне ў самога душа баліць... Як падумаеш, цэлы год працуюць людзі. З цёмнага да цёмнага. За палачку. За працадзень, а ён пусты... Нічога не даём... Тут, брат, цяжэй, чым на фронце. Жанчыны нашы — не салдаткі. А самыя што ні на ёсць салдаты... Дык на фронце нас кармілі, абувалі, адзявалі, грошы плацілі...

— І наркомаўскіх сто грамаў давалі,— уставіў Пракапенка.

— Было і такое... А я пасылаю людзей на работу і нічога ім не плачу. Не кармлю, не адзяваю... Ды ім, кожнаму, у ногі трэба кланяцца,— ледзьве не са слязьмі на вачах гаварыў Макар.

— Нам цяпер выжыць — важней, чым жыць,— уздыхнуў Пракапенка.— І мы павінны выжыць. Іншага шляху ў нас няма...

Па вясне так і зрабілі: больш пасеялі лёну, канапель. Скарацілі плошчу пад бульбу. Старшыня разлічыў: калі даць болей гною, то агульны ўраджай, збор клубняў можа быць не меншы, а то і большы... Праўда, лета выдалася спякотнае. Лён сядзеў змарнелы, ранняя бульба дробная, як арэхі, слабавата раслі і каноплі.

Неяк гарачым днём аб'язджаў Казакевіч палі. Уз'ехаў на гару, дзе да вайны стаяў «маяк» — тапаграфічная вышка. Вышку ў вайну разбурылі, а месца гэтае так і завуць: гара Маяк. Хатынічы адсюль як на далоні, і Мамонаўка-Парцюкоўка відаць, а за ёй удалечыні жаўцела цыбуліна саковіцкай царквы. «Умелі будаваць, выбіраць месца. Дзе тыя Саковічы, адсюль вёрст сем, а то і болей, а царква відаць»,— падумаў ён, скіраваў коніка па дарозе ў вёску.

Конік затрусіў весялей, жвава замахаў хвастом, нібы супакойваў калёсы, каб не білі яму ў ногі. Калі фурманка скацілася з гары, Казакевіч прыцішыў коніка: прыглядаўся да бульбянага поля. Яно не парадавала: невысокі бульбоўнік стаяў абвялы, як абвараны. Бульба-скараспелка не ўрадзіла, была дробная, што жалуды. Лазоўка, позняя, магла яшчэ паправіцца, калі б пайшлі дажджы.

За бульбай поле было ўстаўлена абабкамі жыта, белыя жаночыя хусткі бялеліся ўжо каля Галнага балота — жанкі дажыналі жыта. Хацелася павярнуць коніка туды, і ў той жа час ён баяўся сустрэчы з людзьмі: жыта не ўрадзіла, было яно рэдкае, з дробным коласам. Пра такую збажыну гавораць: каласкі што камарыныя наскі. Здалёк угледзеў, што насустрач яму ідзе чалавек.

«Мабыць, Мацвей Сахута. Той ужо ўсе свае палі па дзесяць разоў перамераў. Нават за брыгадзірам і рахункаводам не можам каня замацаваць»,— сумна падумаў Казакевіч, пацягнуў за лейцы. Конік спыніўся, адразу пачаў скубці запыленыя рамонкі.

Мацвей Сахута з цыркулем-шагамерам набліжаўся да дарогі. Казакевіч цяжка выкуліўся з воза, каб размяць трохі нагу, бо паўдня ездзіў не злазячы.

— Ну што, Мацвей, дажынкі скора? — павітаўшыся, спытаў Казакевіч.

— Дажынкі скора, а хлеба няма,— ударлявы, цёмна-буры ад сонца і ветру твар Сахуты спахмурнеў.— Жыта храновае. Ячмень трохі лепшы па нізінах. І пшаніца там нічога. За Упярочным ровам сцяной стаіць. Там нізінка, з усяго поля вада вясной збіраецца. Каб пайшлі дажджы, то і бульба б яшчэ акрыяла, і каноплі б зашумелі, як лес.

— Паслязаўтра свята — Ілля,— Казакевіч зірнуў на неба, быццам шукаў прыкметаў на дождж.— Ілля наробіць гнілля, кажуць людзі. Малаціць трэба пачынаць.

— Яшчэ кажуць: Ілля ў ваду на с...— усміхнуўся Сахута.— Малацьбу пачынаем заўтра... Слухай, Макар, як нам быць? Жанкі пытаюцца, ці дадзім коней на кірмаш паехаць у Саковічы?

— Ну, а ты што ім сказаў?

— Я ў цябе пытаюся. Ты старшыня калгаса. Думаю, што трэба даць. Паехалі б ранічкай. Мо да нараду паспелі б...

Казакевіч ужо думаў пра гэта. З даўніх часоў на Іллю ў Саковічах бывае вялікі кірмаш. Збіраюцца людзі з усяго наваколля, з суседніх раёнаў Бранскай вобласці, магазіны выязджаюць, майстры вывозяць свае вырабы. З дзяцінства Макар памятае, як бацька вазіў яго, малога, на кірмаш.

— Да нараду не паспеюць. Нехта малых захоча звазіць... Купіць да школы якую апранаху. Хто яблык ці гурок павязе прадаць... Хай едуць і ідуць... Малацьбіты з паўдня каб працавалі і ўноч таксама. Астатнія хай перадыхнуць. Як ты мысліш?

— Думаю, што правільна. Яны потым да цёмнага будуць рабіць... Мне і самому трэба з'ездзіць. Васька жаніх ужо, а штаноў людскіх няма. Нешта трэба купіць і Андрэйку.

— Ну во, бачыш, у кожнага свой клопат. Прыходзь увечары на праўленне. Мы так і пастановім. Ты дамоў? Сядай, падвязу...

Фурманка пакаціла па пыльнай палявой дарозе. Пыл гэты пах збажынаю, рамонкамі і каланіцай.

На Іллю сапраўды пайшоў дождж, начамі ападала на зямлю густая жнівеньская раса, павесялела, узбадзёрылася бульба, паперлі ўгору каноплі, і к сярэдзіне верасня цёмна-зялёны канапляны палетак нагадваў малады хваёвы лес.

Усе хатыньчане, і старыя, і малыя, убіралі каноплі. Выйшлі на падмогу вучні трэцяга і чацвёртага класаў. Нялёгка выдраць з коранем высокую моцную сцябліну канапель, затое можна пацерці карычнева-зялёную макаўку, вылушчыць бліскучых зярнятак, кінуць іх у рот і з асалодай пахрумстаць. Сцябліны вязалі ў снапкі. Потым высокія кучаравыя чорнагаловыя снапкі ставілі ў ababкі, жанчыны абмалацілі іх. Дзякуючы канаплям на працадзень выйшла па паўрубля.

На другі год пасеялі канапель сорак гектараў, удвая болей запланаванага. Перад гэтым Казакевіч з'ездзіў да Пракапенкі: так, маўляў, і так, правільна вы казалі, гэта выгадная культура...

— Дарагі мой, план далі нам з вобласці. Зацверджана,— развёў рукі Пракапенка.— Дазволіць табе парушаць яго не магу. А ты глядзі сам... Табе відней. Зразумеў? — хітра зірнуў ён на старшыню калгаса.— Калі якая камісія ці што якое... У нас гаворкі не было. Усё? Акапян за цябе ўсёй душою. Але і яго не падводзь.

— Значыць, усе шышкі на мяне?

— Ну, дадзім вымову. Перажывеш,— паляпаў па плячы старшыню калгаса Пракапенка.— Хто не рызыкуе, той не мае...

Макар Казакевіч рызыкнуў. Год выдаўся дажджлівы. У нізінах лён вымак, праўда, на вышэйшых месцах стаяў блакітнай сцяною. А каноплі ўсюды былі густыя, рослыя, бы цёмны хваёвы лес.

Пайшоў калгас угору. Вось чаму радаваўся старшыня калгаса, гледзячы на святочны стол у хаце лесніка Захара Махавікова, душа старшыні спявала: ёсць у людзей хлеб, ёсць і да хлеба. Хоць прадукты выдавалі з калгаса, але было там багата свайго. Значыць, пабагацелі хатыньчане.

І таму вельмі здзівіўся Казакевіч, калі аднойчы прыехаў упаўнаважаны па нарыхтоўках Жмуроўскі, з ім брыгада прадагентаў і хатыніцкі агент Парфір Драздоў. Жмуроўскага Казакевіч не раз бачыў у раёне на нарадах, але гаварыць з ім не даводзілася.

— Макар Тарасавіч, мы да вас па справе. Прычым не дужа прыемнай,— пачаў Жмуроўскі, як павіталіся.

— Што за справа? — насцярожыўся Казакевіч.

— Ваш калгаснік Апанас Шкурдзюк не плаціць пастаўкі. Ні мяса, ні малака...

— Не, палову малака здаў,— удакладніў Драздоў.— А мяса ніводнага грама...

— Ён кажа: мая гаспадарка маладая, маю права не здаваць. Пабудаваў хату напроці матчынай. Гаспадарка тая самая, нават большай стала. Трое свіней гадуе. З маткі не бяруць падаткаў — старая, а ён малады, пачынаючы гаспадар,— Жмуроўскі зрабіў паўзу, чакаючы, што скажа старшыня, але той маўчаў, нібы абдумваў пачутае.— Сапраўды маладыя гаспадары маюць прывілеі. Дык гэта ж калі чалавек пачынае з нуля. Ці пераехаў аднекуль, ці ажаніўся... А тут зусім іншы выпадак. Факт злоснага парушэння. Шкурдзюку было выпісана папярэджанне, каб праз дзесяць дзён ліквідаваў нядоімку...

— А чаму я пра гэта не ведаў? — старшыня павярнуўся да Парфіра.

— Я дакладваў старшыні сельсавета. Да цябе, Макар Тарасавіч, разы два заходзіў, але не застаў на месцы,— Драздоў адвёў вочы ўбок.

Жмуроўскі зразумеў: старшыні калгаса агент не шукаў. Зрэшты, дастаткова, што далажыў у сельсавет.

— Дык хіба ты не ведаеш, дзе я жыву? Я б прапясочыў етага Шкурдзюка так, што ён назаўтра бягом памчаў бы ў раён,— Казакевіч памаўчаў, затым спытаў: — Што вы цяпер думаеце рабіць?

— Папярэджанне яму было. Прайшло пятнаццаць дзён. Шкурдзюк не здаў. Возьмем кабана. З намі прыёмшчык з нарыхтоўчай канторы. Узважым, выпішам квітанцыю... Іншага выйсця ў нас няма,— Жмуроўскі развёў рукі, маўляў, непрыемная справа, але вымушаны гэта рабіць.

— Макар Тарасавіч, Шкурдзюк у нас не адзін такі. Ёсць яшчэ нядоімшчыкі,— пасмялеў Драздоў.— Раней бядней жылі, а неяк выкручваліся, усё здавалі. А цяпер і маюць большыя гаспадаркі, а падаткі не хочуць здаваць,— і ён назваў некалькі прозвішчаў.

Казакевіч папрасіў паўтарыць, запісаў на паперку.

— Я разбяруся з імі. Ну, а сянні раз вы прыехалі, дык рабіце сваю справу...

З Апанасам Шкурдзюком размова была кароткая: папярэджанне давалі, вось санкцыя на тое, каб узяць кабана, пячатка, подпіс... Нахабны, зладзеяваты Апанас баяўся турмы як агню, баяўся афіцыйных бланкаў з пячаткамі. І таму ён прыціх адразу, а вось яго старая маці і жонка ўсчалі лямант на ўсе Хатынічы. Жмуроўскі моршчыўся, як ад зубнога болю, спрабаваў суцешыць жанчын, але ягоныя ўгаворы не дзейнічалі. Тады ён сказаў Шкурдзюку:

— Супакойце сваіх жанчын, а то мы забяром іх у міліцыю...

Шкурдзюк вылаяўся матам, крыкнуў, і жанчыны адразу сціхлі.

Парфір Драздоў слухаў гэты лямант з прыхаванай радасцю. Калі б жанчыны крычалі яшчэ мацней, то ён бы яшчэ болей радаваўся, бо ведаў, што цяпер усе нядоімшчыкі разлічацца, здадуць усё, што трэба. Праўда, да гэтай радасці прымешвалася і насцярога: Шкурдзюк можа адпомсціць яму, а мо і пабаіцца, не адважыцца шкодзіць яму, Драздову, бо калі што якое, усе здагадаюцца, Шкурдзюкова работа.

Ніхто не ведаў тады, што ў другім двары, стаіўшыся за вуглом, радаваўся яшчэ адзін чалавек — Захар Махавікоў. Для ягоных вушэй гэты лямант быў як музыка. Захар не мог дараваць Шкурдзюку тое здарэнне: ён быў упэўнены, што Апанас падсунуў яму пад страху абрэз, а потым заявіў участковаму Бравусаву, той забраў абрэз, адабраў стрэльбу, бо не было дазволу на яе. Тады ляснік ужо сушыў сухары, а як выклікалі ў міліцыю, у яго і паджылкі затрэсліся. І ён цяпер у душы дзякаваў начальніку міліцыі, бо лічыў, што той уратаваў яго ад каталажкі.

А ў канторы калгаса сядзеў за сталом і задуменна кудлаціў прыхопленую інеем чупрыну Макар Казакевіч, перачытваючы прозвішчы нядоімшчыкаў, не самых бедных калгаснікаў, не лайдакоў, і гаспадаркі яны мелі даволі моцныя, а вось, бач ты іх — нядоімшчыкі.

«Дзіўнае стварэнне чалавек. Чым болей ён мае, тым больш яму хочацца. У сорак пятым давалі на працадзень па дваццаць капеек, а цяпер — у шэсць разоў больш. І збожжа даюць, і бульбу, і на сваім агародзе лепей родзіць. А здаваць пастаўкі ўпіраюцца. Сумленнасць і свядомасць адстаюць ад эканамічнага забеспя-

чэння. Ад матэрыяльнай базы,— думаў старшыня, успомніў, як сам доўга не ўступаў у калгас.— Вялікая сямейка — калгас. Важна не толькі даць работу кожнаму, накарміць усіх, трэба яшчэ бачыць, хто як жыве, ці не крыўдзіць жонку, ці клапоціцца пра маці... Як чалавек гадуе дзяцей. А іх змалку ўсяму трэба вучыць. Даўно я ў школу не заходзіў»,— папракнуў сябе Казакевіч, насунуў на галаву шапку, ускінуў на плечы кажух, узяў мыліцы і пасігаў на вуліцу, бо пад вокны пад'ехаў конюх на яго, старшынёўскім, вазку — час быў абедаць. За першыя гады старшынёўства Казакевіч нажыў язву страўніка і цяпер стараўся не забываць пра абед, каб пасёрбаць чаго гарачага ў адну пару.

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, снежань 1949 г.*

*5. У калектыве перадавога на Заходняй чыгунцы Мінскага паравознага дэпо шырока разгарнулася спаборніцтва ў гонар 70-годдзя з дня нараджэння любімага правадыра савецкага народа таварыша Сталіна.*

*10. Пекін. Народна-вызваленчая армія збіла два гаміндануйскія самалёты і пашкодзіла тры ваенныя караблі.*

*11. У Маскву прыбыў поезд з падарункамі таварышу І. В. Сталіну аб працоўных Венгерскай Народнай Рэспублікі.*

*23. Магілёў. З велізарным патрыятычным уздымам сустрэлі працоўныя вобласці 70-годдзе з дня нараджэння таварыша Сталіна.*

## VI

Набліжаўся Новы год. Для хатыніцкіх настаўніц Ганны Мікітаўны і Валянціны Сцяпанаўны ён азначаў канец другой чвэрці і нялёгкага першага паўгоддзя, азначаў надыход канікул. Вялікіх зімовых канікул. З яшчэ большым нецярпеннем чакалі канікул дзеці. Бо ўлетку хоць і большыя канікулы, але вясковае дзіця прывязана да дому: то курэй ці гусей трэба пільнаваць, то цялят ці кароў пасвіць. А большыя дзеці працуюць у калгасе. А ўзімку вольніца, работы няма.

Ганна Мікітаўна ламала галаву, як адзначыць Новы год, бо яна ж фактычна дырэктар школы, з яе за ўсё спытаюць. Пра Новы год гаварыў і старшыня калгаса, які заязджаў нядаўна ў школу, пабыў на ўроку ў чацвёртым класе, распытаў, хто куды думае ісці вучыцца: хто ў Белую Гару, хто ў Зарэчча, а пасля сямігодкі збіраецца хадзіць у Саковічы ў дзесяцігодку, а хто мяркуе застацца ў калгасе. У роднай вёсцы.

— Ета вось цяпер здаецца, што ў нас, у Хатынічах, людзей багата. Сем'і былі вялікія... Страшэнную вайну мы перажылі, колькі загінула вашых старэйшых братоў, дзядзькоў. А ў некаторых з вас не вярнуўся дамоў бацька...— старшыня памаўчаў, бы ўшаноўваў іх памяць. У класе зрабілася надзвычай ціха, толькі дзесьці дзяўчынка шмарганула нюсам, мабыць, гатовая заплакаць па кімсьці з блізкіх.— А каторыя вярнуліся на мыліцах... Мы будзем старэць... Так у прыродзе заведзена. А вы, маладыя, павінны прыйсці нам на змену. Так спрадвеку вялося. І гэты ланцуг не павінен разрывацца. Вы цяпер вучыцеся розным навукам, кніжкі чытаеце. Вучыцца трэба рабіць. І майстраваць нешта. Хай ета будзе шпакоўня, табурэт, зроблены сваімі рукамі. Касіць вучыцца, дровы калоць. А дзяўчаткам — шыць, вышываць, ткаць, прасці,— некаторыя заўсміхаліся.— Вы думаеце, што крамніны ўсім хопіць? Але ж сподняе са свайго палатна здаравей...

Ганна Мікітаўна слухала і дзівілася: як умее старшыня гаварыць з вучнямі, бы ўсё жыццё працаваў настаўнікам, дакарала сябе, што раней не здагадалася яго запрасіць. Яна ведала, што ў яго свая немалая сямейка, хоць і паменела апошнім часам: дзве старэйшыя дачкі выйшлі замуж, некуды паехалі, старэйшы сын вучыцца ў сельскагаспадарчай акадэміі, другі сын, Валодзька, служыць у арміі, а малодшы, Сярожка, пасляваенны, яшчэ бегае без штаноў.

— І не толькі працаваць трэба вучыцца, але і спяваць, скакаць, на гармоніку іграць. Нам і гарманісты свае патрэбны. Вось падрастайце. Будзе ў каго ахвота і здольнасць, пашлём на курсы баяністаў. А то клуб у нас ёсць, а чакаем, пакуль аднекуль прыйдзе музыка...

— Мы думаем канцэрт падрыхтаваць да Новага года,— падала голас Ганна Мікітаўна.— Андрэйка Сахута ў нас вершы добра чытае. П'есу развучым...

Андрэйку старшыня ведаў, адшукаў яго віхрастую

галаву, падміргнуў, маўляў, не падкачай. Калі празвінеў званок і Макар Тарасавіч выходзіў з класа, усе дзеці дружна падняліся, глядзелі яму ўслед. Была ў іхніх вачанятах і павага, і ўдзячнасць, і спагада, і захапленне.

Канцэрт меркаваўся такі: Ганна Мікітаўна паставіць п'есу Маршака «Дванаццаць месяцаў», якая добра падыходзіць пад Новы год, а Валянціна Сцяпанаўна развучыць вершы, можа, хто і песню якую праспявае. Андрэйку Сахуту дасталася ў п'есе роля Прафесара. Тэкст ён вывучыў хутка, але на рэпетыцыях сарамеўся, адчуваў сябе скавана, рухаўся па сцэне як не сваімі нагамі, гаварыў ціха. А вось Нінка Вароніна, ціхоня, у класе, як мышка, совалася, а тут яе было не пазнаць: вочы блішчалі, гаварыла яна гучна, хадзіла, нібы лётала па сцэне. Андрэйка ўжо летась выступаў — чытаў верш. Быў ён малы, а сцэна нізкая — у школе праводзілі той канцэрт. Каб артыста было лепей відаць усім, паставілі на сцэне табурэт, хлапчук ускараскаўся на яго і чытаў з такім захапленнем, нават забыўся, што стаіць на табурэце і можа зваліцца.

Да Новага года рыхтаваліся ўсе: хто вучыў вершы, хто ролі, а сёй-той майстраваў цацкі на ёлку, бо купленых цацак не было ніводнай. Данька атрымаў заданне выразаць зорку і пафарбаваць яе ў чырвоны колер, іншыя хлопцы выразалі рыбак, ляпілі з ваты зайцоў, з кардону майстравалі птушак. Прыдаўся і чырвоны тэлефонны нямецкі дрот, яго рэзалі, бы каўбаскі, на колцы, нанізвалі на ніткі, і атрымліваліся прыгожыя чырвоныя пацеркі.

У чацвёртым класе панаваў асаблівы настрой, бо пранеслася чутка, што пасля канікул іх зноў будзе вучыць Пётр Еўдакімавіч, які вярнуўся дамоў. Большасць вучняў радаваліся, яго ведалі лепш, чым Ганну Мікітаўну, за тры гады прывыклі, любілі, але і пабойваліся, ён, бывала, і лаяў за нявывучаны ўрок, і пасля абеду мог пакінуць, праўда, ненадоўга: «Бяжы дамоў. Час абедаць. І за ўрокі садзіся». Вучань куляй імчаў дамоў, хоць не заўсёды адразу браўся за ўрокі.

З нецярпеннем чакаў Пятра Еўдакімавіча Андрэйка. Настаўнік яго заўсёды хваліў, урокі праводзіў цікава, толькі адно трывожыла малога Сахуту: раптам Пётр Еўдакімавіч перасадзіць ад яго Нінку Вароніну, да якой Андрэйка паспеў прывыкнуць, а цяпер, за час

рэпетыцый, яна адкрылася зусім іншай. Андрэйка часта думаў пра яе, хацелася быць з ёй побач, і ён ужо шкадаваў, што ў сямігодку Нінка пойдзе ў Зарэчча, а яму давядзецца ісці ў Белую Гару.

І прырода рыхтавалася да Новага года: ціскануў мароз, скаваў Бесядзь лёдам, выпаў снег, і накідала яго даволі многа. Падалі сняжынкі і ў навагодні вечар. Было ціха, і таму сняжынкі пырхалі павольна, кружыліся. Андрэйка бег у клуб і лавіў сняжынкі рукой. Былі яны мяккія, халодныя, раставалі, і амаль знаку ад іх не заставалася.

Клуб у навагодні вечар быў паўнюткі. На сцэне стаяў стол, засланы чырвоным сацінавым абрусам, куток, дзе тоўпіліся артысты, быў завешаны таксама чырвонай заслонай, якая мацавалася на тонкім дроце. Дзве вісячыя дванаццацілінейныя лямпы асвятлялі залу. Людзі паселі на доўгія ўслоны, на сцэну, апіраючыся на мыліцы, падняўся старшыня калгаса Макар Казакевіч, бліснуўшы новым хромавым ботам. Услед за ім пайшлі Пётр Еўдакімавіч і Ганна Мікітаўна.

Людзі сцішыліся, Макар Тарасавіч устаў, упёрся кулакамі ў стол, бо на адной назе стаяць яму было цяжкавата, і адкрыў вечар. Павіншаваў усіх з Новым годам, падзякаваў за добрую працу ў мінулым годзе і даў слова для даклада дырэктару школы — ён так і аб'явіў: «дырэктару» — Пятру Еўдакімавічу Мамуту. Зала загудзела, галасамі выказваючы ўхвалу і задавальненне, што Мамута вярнуўся, сёй-той заапладзіраваў, але большасць была непрывучаная пляскаць у ладкі, і таму апладысменты атрымаліся жыдкаватыя.

Пётр Еўдакімавіч быў у цёмна-сінім кіцелі, з-пад каўняра якога выглядаў бялюткі падкаўнерык, твар гладка паголены, усхваляваны. Гаварыў настаўнік пра тое, што Новы год — свята адметнае, святкуе яго ўвесь свет, з Новым годам людзі заўсёды звязваюць новыя надзеі, новыя спадзяванні. Ён коратка расказаў пра міжнароднае становішча, што на свеце зноў імперыялістычныя цемрашалы размахваюць бомбай, і не абы-якой, атамнай, але хай не забываюцца, што атамная бомба ёсць і ў нас, і, можа, яшчэ больш магутная. Кляйміў дакладчык Чэрчыля, Трумэна і Джона Фостэра Далеса.

Андрэйка сядзеў у кутку між артыстаў у акулярах без шкельцаў — Ганна Мікітаўна раздабыла недзе,— з

прывязанай барадой з пянькі. У руках трымаў каўпак, зроблены з блакітнага кардону, сшыты на конус. Каўпак ён надзене на галаву, як пачнецца спектакль. А пакуль што ён слухаў дырэктара, яму быў добра відаць ягоны твар у профіль — прамы нос, высокі белы лоб, на шыі кратаўся кадык. Пётр Еўдакімавіч трымаў у руках некалькі аркушаў паперы, мабыць, тэкст даклада, але заглядваў у яго рэдка.

«Адкуль ён столькі ўсяго ведае? І помніць усіх гэтых буржуяў. І ні разу не заікнецца»,— дзівіўся Андрэйка. У ягонай душы нараджалася пачуццё гонару за свайго настаўніка.

Нарэшце пачаўся спектакль. У зале спачатку чулася: «А чый-та еты, з барадою? А дзяўчынка чыя ета шустрая такая?» Нарэшце разабраліся, хто чый, і з вялікай, першароднай цікавасцю глядзелі на сцэну, лавілі кожнае слова. У клубе стаяла такая ціша, што чуваць было, як Ганна Мікітаўна суфліруе артыстам. Андрэйка не прыслухоўваўся да суфлёра, не чакаў падказкі, бо сваю ролю ведаў назубок. Спачатку ён вельмі хваляваўся, асабліва таму, што ў клубе былі бацька і маці, і Васька стаяў у гурце моладзі ля парога, а потым асвойтаўся, увайшоў у ролю і забыўся пра ўсё, толькі слухаў партнёраў, выразна і з пачуццём адказваў ім, нібы і сапраўды быў ён прафесарам. А як скончыўся спектакль, пачуліся галасы: «Малайцы дзеці!» Дзед Гылігор крыкнуў мацней за ўсіх:

— Анцярэсную спектаклю паказалі дзеці. Старшыня, трэба ім па два працадні запісаць. Стараліся ж, весялілі нас.

— Ну, дык і пахлопаем ім давайце,— падняўся на мыліцах старшыня калгаса і гучна пляскаў у ладкі.— Ета ім лепш, чымся працадні. І Ганне Мікітаўне, і ўсім настаўнікам дзякуй...

Цяпер дружна запляскалі мазолістыя рукі мужчын і жанчын.

Дамоў Андрэйка ішоў разам з бацькамі. Васька застаўся ў клубе на танцы. Узрадаваная маці ўсё гаварыла, як гэта Андрэйка так усё запомніў, што ні разу не збіўся. І бацька сказаў, што пастаноўка яму спадабалася.

— За канікулы, сынок, трэба ад'есца, падужэць. А то худы ты нешта,— заклапочана сказаў бацька.

Была палова дванаццатай, калі Сахуты прыйшлі

дамоў. Гірка старэнькіх ходзікаў апусцілася ледзьве не да падлогі. Бацька падцягнуў гірку вышэй, пазяхнуў:

— Канчаецца яшчэ адзін гадок. Апошнія мінуткі...

Маці залезла ўжо на печ, сказала адтуль:

— Кладзіся спаць, сынок. Позна ўжо. Ты намарыўся етак сянні. Хай галава адпачывае. Тушы лямпу.

— А мне не хочацца спаць. Я чытаў у газеце, што ўсюды ў гарадах ёлкі свецяцца. Людзі Новы год сустракаюць, а мы спаць кладзёмся,— уздыхнуў Андрэйка.

— Дык мы ж сустрэлі ўжо. Канцэрт паглядзелі,— бацька зноў пазяхнуў, пачухаў спіну.— Нешта паясніцу ломіць. Відаць, надвор'е пераменіцца. Вецер знізу павярнуў...

«Знізу»,— гэта азначала знізу ракі, паўднёвы вецер, бо цячэ Бесядзь на поўдзень. Гэта Андрэйка ўжо добра ведаў. Ён патушыў лямпу, кнот цьмяна блішчэў упоцемках нагарам, а потым глухая цемра ахутала хату. Спаў Андрэйка на ляжанцы, зробленай упрытык да печы. Бацька напаліў яе пад вечар, цагліны трымалі цеплыню, якая адчувалася пад тонкай дзяружкай. Малы Сахута яшчэ ніколі не спаў на мяккім, улетку ён клаўся на падлозе на ватоўцы і кажушку: не горача, раскоша. Засынаў адразу, бо за доўгі летні дзень налётаешся, находзішся, ног не чуеш. Але ў гэтую, навагоднюю, ноч сон не браў: перажытае хваляванне на сцэне не праходзіла, думалася, што зараз не спяць людзі ў гарадах, а ў Маскве на Краснай плошчы стаіць і ззяе агнямі вялізная ёлка. І ў Мінску, і ў Магілёве стаяць ёлкі.

Цяжка было ўявіць, як гэта ёлка ззяе агнямі. Яны ўчора паставілі ў школе ёлку, павесілі на галінкі самаробныя драўляныя рыбкі: акуні, чырванапёркі, зайкі з ваты, яловыя шышкі, чырвоныя караді з тэлефоннага дроту. На самай верхавінцы ўмацавалі чырвоную драўляную зорку. Андрэйка ціха ляжаў і думаў: як гэта не прапусціць той момант, калі наступіць Новы год, як адчуць яго. Старыя ходзікі роўна і гучна цікалі, як звычайна, адлічвалі хвіліны. Хлапчук не вытрымаў, прашлёпаў босымі нагамі па халоднай падлозе, намацаў пальцамі стрэлкі: карацейшая была ля курганка ўверсе, а даўжэйшая, мінутная, набліжалася да яе. «Праз пяць мінут будзе Новы год»,— з радасцю падумаў малы, стаў наўколенцы на лаве, угледзеўся ў акно, што выходзіла на двор, нібы хацеў убачыць Дзеда Мароза.

На дварэ было пуста, квола свяціўся снег, неба зацягнулі хмары, якія шпарка плылі кудысьці на поле. Ён зноў памацаў стрэлкі, цяпер яны абедзве сышліся на верхнім курганку — значыць, роўна дванаццаць гадзін.

«Вось яно, тое імгненне, калі наступае Новы год»,— Андрэйка прыслухаўся, але вакол было ціха, як і раней, толькі ў ягоных грудзях пад кужэльнаю кашулькаю гулка тахкала сэрца і шумела ўвушшу ад цішыні. Пальцы адчулі, што даўжэйшая стрэлка пасунулася ўправа, адлічваючы першыя хвіліны Новага года. Ланцужок таргануўся пад цяжарам гіркі, ходзікі нястомна цікалі, быццам радаваліся Новаму году, што ў іх наперадзе багата часу.

Андрэйка зноў шуснуў пад коўдру на сваёй ляжанцы, стаіўся, але сну не было. І Васька яшчэ не прыходзіў. Хлапчук у каторы ўжо раз пазайздросціў брату, які позна гуляе ў клубе. Бацька і маці дружна пахраппалі на печы, гучна ў цішы цікаў гадзіннік. Раптам пачулася «кукарэку» — загарланіў у хляве певень. Яго падтрымалі суседскія пеўні, па вёсцы пакаціўся петушыны грай.

Так і заснуў Андрэйка, не дачакаўшыся брата.

Назаўтра дзень быў хмурны, надвечар пайшоў дождж, ліў ён усю ноч. Уранні, калі Андрэйка зірнуў у акно, снегу не было анізвання, усё вакол цёмнае, мокрае, курганы на лузе жоўта-бурыя, у нізінах пабліскавала вада. Дождж пераставаў, а потым сыпаў зноў. Бесядзь падняла нямоцны яшчэ лёд, разламала яго, выйшла з берагоў і разлілася па лузе, амаль што як вясною.

Першыя дні канікул Андрэйка чытаў. Ён выпрасіў у Ганны Мікітаўны зачытаную, клееную-пераклееную цікавую кніжку Янкі Маўра «У краіне райскай птушкі» і газету «Піянер Беларусі». Кнігу ён праглынуў хутка, бо не мог адарвацца. І за сталом, калі сёрбаў у абед капусту, збоку ляжала кніга.

— От, несмысель, аслепнеш, калі будзеш так у кніжку ўглядацца,— маці злаўчылася, закрыла кнігу і адсунула яе ўбок.

Потым прачытаў Андрэйка сваю піянерскую газету, усе заметкі. Болей кніг не было. Газеты, якімі перад вялікаднем абклеілі хату, ён перачытаў яшчэ ўлетку. Там былі нумары абласной газеты «За радзіму», рэспубліканскай «Звязды», некалькі нумароў газеты «Социалистическое земледелие».

Чытаў малодшы Сахута пра вырошчванне кок-сагызу і бавоўны, артыкулы пра халодную вайну і абарону міру. Пра гэта найбольш пісалі кандыдаты філасофскіх і гістарычных навук, а пра новыя кнігі, пра літаратуру сацыялістычнага рэалізму даўжэзныя артыкулы друкавалі кандыдаты філалагічных навук. Хлопец прыкмеціў, што ва ўсіх газетах гэтыя кандыдацкія артыкулы змяшчаліся ўнізе другой старонкі з пераходам на трэцюю, якую займалі напалову, а то і цалкам. «Мусіць, яны важныя дзядзькі, гэтыя кандыдаты. Вялікія вучоныя, раз пішуць такія доўгія артыкулы»,— разважаў Андрэйка. І як ні доўгія былі іхнія артыкулы, усе, да якіх можна было дацягнуцца вокам, стоячы на лаве ці на ўслоне, а ў кутку на жорнах, хлопец прачытаў.

А на двары была гразюка — ні вясна ні лета. Андрэйкавы канькі-снягуркі, на якіх ён ужо няблага навучыўся катацца за тры зімы, чакалі лёду і снегу. Канькі падарыў Іван Сырадоеў, які прытарабаніў іх з Нямеччыны. Былі яны бліскучыя, што люстэрка, загнутыя, як палазы. Андрэйка прывязваў іх вяровачкамі да нагі, бо спартыўных чаравікаў ён яшчэ ў вочы не бачыў, а кляшнястыя кіпці-замкі, якія можна было падціскаць, падкручваючы болцікі, не трымаліся за бахілы. Абцасы новых бацінавак былі вузкія, і «клешні» іх не даставалі. Хлопец налаўчыўся падвязваць канькі аборамі і катаўся па дарозе, па замерзлай Бесядзі, пакуль лёд не засыпала глыбокім снегам. Рабіць не было чаго, чытаць — таксама. Але тут, на шчасце, Марына прынесла кнігу, навюткую, у прыгожай сіняй вокладцы.

— Вось табе, Андрэйка. Чытай, не спяшайся. Наша кніга. Купіла, сем рублёў аддала. Прачытала за два дзяжурствы. Хворых цяпер мала, дык у нас цішэй. Кніга цікавая. Пра лётчыка, які без ног лётаў і немцаў збіваў.

Андрэйка з радасцю і хваляваннем узяў кнігу, спачатку разгледзеў, бо не часта яму трапляла гэтакая новая і прыгожая кніга. Ён пагладзіў халаднаватую з вуліцы вокладку, на якой было напісана: «Борис Полевой. Повесть о настоящем человеке». Разгарнуў кнігу, папера была гладкая, пахла друкарскай фарбай, незнаёмым гарадскім пахам.

Увечары Андрэйка зачытаўся. Усе ляглі спаць, Ма-

рына, стомленая пасля дзяжурства, заснула, Васька, як заўсёды, пайшоў гуляць, малы ўкруціў кнот, каб як мага меншы быў агеньчык, і чытаў. Лямпа была «шахцёрка», з яе здымалі драцяны каўпак, і невялікі, зыркі агеньчык квола асвятляў хату. Кнот сцішана патрэскваў, шыпеў, калі Андрэйка перагортваў старонку, агеньчык спалохана ўздрыгваў, але не патухаў.

Маці ўжо разы два крыкнула яму з печы, каб клаўся спаць, але хлопец нібы не чуў. Нарэшце яна не вытрымала, басанож, у доўгай палатнянай кашулі, падышла да стала, схілілася над сынам:

— Які ты неслух, Андрэйка! Хочаш, каб я матузоў дала? Кладзіся спаць. Карасін у весь выпаліў. Будзеш пры лучыне ўрокі рабіць. Канікулы, называецца... Пагуляць бы схадзіў. Заўтра выганю на вуліцу. Паглядзі, да чаго дачытаўся, пад вачамі кругі цёмныя...

Андрэйка асцярожна закрыў кнігу пра лётчыка Марэсьева, ціхутка пасунуўся на сваю ляжанку. На другі дзень к абеду кнігу прачытаў. На вуліцы пырхалі сняжынкі, вецер павярнуў з поля — сіверка.

Бацька ўнёс дроў, з грукатам зваліў іх на ліст бляхі каля грубкі-ляжанкі, пацёр рукі:

— Будзе нанач марозік. Кончылася паводка. І то дзіва, каторы дзень цяплынь стаіць. Вада пазалівала ўсё. Я дык і не помню такога... Каб паводка сярод зімы. Акурат перад калядамі. Звычайна маразы трашчаць. Ідзеш, бывала, па вуліцы, дык снег рыпіць пад валёнкамі на ўвесь свет. А тут паводка...

— Ого, яшчэ будзе і марозу, і снегу. Яшчэ ўся зімачка наперадзе,— падала голас маці. Яна прала кудзелю на самапрадцы, круціла кола, націскаючы на дошчачку ўнізе, скубла мычку, і на шпульку наматвалася роўная і моцная нітка.

За грукатам кола не пачулі, як увайшоў у хату Данька, не вітаючыся, таптаўся ў парозе ў старой куфайцы з доўгімі рукавамі.

— А, Данька, праходзь,— сказала маці.— Андрэйка, злазь, ідзі сюды.

Андрэйка сядзеў на ляжанцы, яшчэ гартаў кніжку, бы шкадаваў, што яна ўжо скончылася, некаторыя старонкі перачытваў нанава. З кніжкай ён і саскочыў да сябрука. Данька патрымаў у руках кніжку, разглядаў з цікаўнасцю, аж язык высунуў.

— Дасі пачытаць?

— Бяры. Я ўжо прачытаў.

— Ці ж ета твая кніжка? Што ты аддаеш? Можа, яна Марыне яшчэ трэба? — сярдзіта сказала маці.— Васька няхай пачытае.

— Во як Васька прачытае, тады ты возьмеш,— хоць Андрэйка ведаў, што Васька не дужа кінецца чытаць цяпер кнігу, але зразумеў: маці не хоча аддаваць яе Даньку, мабыць, шкадуе або думае, што ён парве, а за яе ж грошы плочаны, цэлых сем рублёў.

— Пайшлі да нас гуляць. Паўлік прыйдзець. Яшчэ, можа, хлопцы збяруцца,— Данька са шкадаваннем аддаў назад кнігу, крутнуўся да дзвярэй.

— Схадзі пагуляй. На вуліцы падсушыла сянні. Можна пахадзіць,— маці зноў узялася прасці кудзелю.

Мігам ускінуў Андрэйка бурачкі, кажушок, які пашылі яму са старога парванага бабінага кажуха. Кравец з Парцюкоўкі жыў у іх тры дні, пакуль пашыў абнову. На галаву надзеў будзёнаўку і выбег следам за сябрам. На вуліцы Данька пахваліўся:

— А ў мяне карты ё.

— Якія карты? — не зразумеў Андрэйка.

— Ну, етыя, што ў дурня гуляюць. У ачко рэжуцца,— тонкай белай рукой ён выцягнуў з кішэні стос невялікіх кардонак, выразаных з вокладак кніг.— Тут во, бачыш, мы з Паўлікам намалявалі. Ета шоха пікей. А ета дзесятка бубёнка. Валет хрэсці — дурні на месці,— Данька зарагатаў і схаваў карты ў кішэню, нібы баяўся, што нехта іх адбярэ.

У Данькавай хаце, невялікай, з двума маленькімі вокнамі — адно на вуліцу, другое на гарод,— яны селі за стол, збіты з дошак, і пачалі гуляць «у дурня». Параскі Восіпаўны, Данькавай маці, дома не было, ніхто не замінаў. Улетку, калі пасвілі цялят, Андрэйка трохі падвучыўся гуляць у карты — і тады былі ў іх такія ж, самаробныя. Але ўдвух гуляць нецікава. Неўзабаве прыбеглі Паўлік і леснікоў Пецька, гульня пайшла з большым азартам.

— Давайце ў ачко. На сярнічкі,— прапанаваў Паўлік.

— Давайце,— Данька выцягнуў з кішэні зашмальцаваны карабок запалак.— А ты збегай дамоў і вазьмі,— сказаў ён Андрэйку.

Малодшы Сахута ведаў, што запалак дома не дадуць, бо іх ашчаджалі, гэтаксама як соль, цукар, газу,

у краме ўсё гэта мелася, ды не было грошай, каб купіць. Па дарозе ён думаў, як цішком узяць запалкі, успомніў, што яны ляжаць на пяколку ў пячурцы, а трохі ніжэй звычайна сушацца рукавіцы-вязёнкі.

Маці па-ранейшаму круціла самапрадку, бацька сядзеў ля грубкі, падшываў валёнак.

— Нешта ж ты скора нагуляўся,— маці на хвілю прыцішыла бег калаўрота, зірнула на сына.

— Вязёнкі забыў узяць. Халодна на вуліцы,— зманіў Андрэйка і адчуў, як загарэліся ад сораму вушы.

— Вязёначкі вазьмі. Можа, чаю вып'еш? Закіпіць скора. Будзем піць з салам,— павярнуўся ад печкі бацька.

Чай з салам хлопец упадабаў. Спачатку піў неахвотна, таму што з цукрам саладзей, прыемней, а потым цукар скончыўся, пачалі піць чай са свежым салам, халодным, прынесеным з марозу. Была нейкая асаблівая смаката ў гэтым. Але зараз не да чаю, калі сябрукі чакаюць, цікавая забава.

— Не, чаю не хачу,— хлопец хуценька дастаў з пячуркі свае вязёнкі, моцна сціснуў карабок запалак, каб яны не зашамацелі, крутнуўся за парог.

Хлопцы ўжо ўвайшлі ў азарт, перад кожным ляжала кучка запалак, а яшчэ большая кучка высілася на сярэдзіне стала — банк.

— Пачнём спачатку,— рашуча сказаў Данька.— Падзелім банк на трох,— ён спрытна разгроб на тры кучкі ўвесь банк.— Ставім па пяць штук...— перамяшаў карты, пачаў раздаваць.

Паўлік узяў дзве карты і задумаўся, уталопіўшы вочы ў столь.

— Ну, што маўчыш? Яшчэ ці дос? — нецярпліва спытаў Данька.

— Дос,— махнуў рукой Паўлік.

Пецька ўзяў дзве карты, выцер рукавом саплівы нос, зморшчыўся, нібы хацеў чхнуць, папрасіў яшчэ адну. Андрэйка таксама ўзяў дзве — васьмёрку і дзевятку. Значыць, у суме — семнаццаць. Можна было б і спыніцца, а раптам наступная карта кароль ці дама — тады пэўны выйгрыш. Пакуль ён думаў, Данька нецярпліва глядзеў на яго.

— Яшчэ! — рашуча сказаў Андрэйка.

Данька спіхнуў яму «кардонку», якая аказалася

бубновай шасцёркай. Дваццаць тры. Перабор. А Данька тым часам кінуў на стол свае дзве карты:

— Дзве дзесятачкі. Дваццаць. У каго лепш?

Лепш не было ні ў кога: Паўлік меў васемнаццаць, а Пецька і Андрэйка сядзелі з пераборам.

— Забіраю. Ставім яшчэ па пяць...— вёў рэй Данька.

На гэты раз у Андрэйкі аказаўся недабор, а ў Паўліка роўна дваццаць адзін — ачко. На трэці раз Андрэйка рызыкнуў — узяў чатыры карты і сеў з пераборам. Але нарэшце і яму пашанцавала: трапілі дзесятка і туз. Дрыжачай ад хвалявання рукой ён падгарнуў да сябе банк — запалак было болей, чым у ягоным карабку, бо ставілі па дзесяць. Час ляцеў неўзаметку. Андрэйка прайграў амаль усе сярнічкі, у карабку засталося некалькі штук. На вуліцы цямнела, маленькія падслепаватыя вокны не прапускалі святла.

— Дзе ваша лямпа? — зірнуў Паўлік на гаспадара.— Цёмна ўжо. Палі святло.

— Лямпа ё, а карасіну няма. Суседкі да нас збіраліся, пакуль увесь карасін выпалілі,— Данька шмыгнуў на печ, дастаў пук лучынак, запаліў адну, уторкнуў у дзірку ў печы.

Лучынка дыміла, трашчала, самаробныя карты і пры святле былі невыразныя, а тут і зусім цяжка было разабраць, што намалявана. Гульня страціла цікавасць.

— Можа, хопіць? У каго мала запалак засталося? — спытаў Данька. Сябрукі паказалі пустыя карабкі. Данька выдзеліў кожнаму па некалькі штук, з дзесятак выпала і Андрэйку.— А ета заўтрашні банк,— Данька згроб запалкі, загарнуў у кавалак газеціны і схаваў у пячурку.

— От, летась у вас было весела! Столькі хлопцаў і дзевак збіралася,— задуменна сказаў Паўлік.

Андрэйка прыгадаў зімовыя вечары, калі ў Парасчынай хаце было цесна, тлумна, заўзята пілікаў гармонік, збіраліся дзяўчаты амаль з усёй Шамаўкі, а хлопцы з усіх Хатыніч. Гарманіст прыходзіў з Лясковіч, з той самай спаленай вёскі, якая адрадзілася пасля вайны. Быў ён малады, прыгожы, з кучаравым чубам і тонкім дзявочым тварам, на якім кідаліся ў вочы пахлапечы прыпухлыя губы. Мабыць, таму і дражнілі гарманіста — «Роцік». Гармонік быў стары, музыка не дужа ўмелы, затое бубен звонкі, новы: хваліліся ляс-

ковіцкія хлопцы, што аблупілі сабаку і з ягонай скуры зрабілі бубен. А барабаншчыкаў-бубначоў і сярод хатыніцкіх хлопцаў было многа.

У цеснай хаце танцавалі «страданіе», «на рэчаньку», «дасаду», «сербіянку» і, вядома, польку. Угрэўшыся пасля танца, дзяўчаты выбягалі ў цёмныя сенцы, і хлопцы за імі. Адтуль неўзабаве чуліся смех, ускрыкі, піскі. Малыя таямніча пераглядваліся, ім здавалася, што там адбываецца нешта незвычайнае, не проста так сабе ціскаюцца хлопцы і дзяўчаты. Гарманіст Роцік у гэты час адпачываў, выціраў вышытай хусцінкай лоб, прыгладжваў валасы, некаторыя дзяўчаты бліжэй падыходзілі да яго. Сярод іх вылучалася Ганна Сырадоева, Іванава сястра. Андрэйка і не ўгледзеў, калі яна вырасла. Усё была малая, з тонкай касіцай, і раптам выцягнулася, грудзі наліліся, бы ядры, каса зрабілася пышнай і доўгай, тонкія цёмныя бровы выгнуліся дугамі над вачамі.

Гаспадыня, Параска, часцей за ўсё сядзела на печы і адтуль пазірала на моладзь. На яе смуглявым твары блукала светлая ўсмешка. Мабыць, успаміналя сваё кароткае шчасце — паўгода пажыла яна з мужам, а потым узялі яго на фінскую, адкуль ён так і не вярнуўся, не пабачыў і свайго сына.

Цяпер хлопцы і дзяўчаты збіраліся ў клубе. Там прасторы было больш і газа калгасная. Андрэйка не разумеў, чаму гаспадары, у якіх былі дочкі-нявесты або хлопцы-жаніхі не пускаюць да сябе моладзь ладзіць ігрышчы. А Параска не ленавалася мыць падлогу, не баялася гэтых турбот і клопатаў. Зрэшты, дзяўчаты і самі падлогу мылі, зрэдку і пляшку гаркухі прыносілі, хоць Параска за ёй не ганялася. Ды і Андрэйкавы бацькі, асабліва маці, не любілі, калі да яго прыходзілі хлопцы гуляць. Маці бурчала, маўляў, толькі бруд прыносяць, мый тады.

Хлапчукі сядзелі ў Парасчынай хаце пры лучыне, гульня ў ачко надакучыла, карты Данька схаваў.

— А пра што ета кніжка, Андрэйка, якую ты мне паказваў? — спытаў Данька.

Андрэйка пачаў расказваць, як лётчыка Аляксея Мерэсьева збілі ў баі, як ён, паранены, поўз па лесе зімою, як ледзь не трапіў у лапы да немцаў, як мядзведзь напаў на яго. Данька мяняў лучынкі, а хлопцы слухалі, бы зачараваныя.

За акном пачуліся крокі, увайшла расчырванелая Параска ў плюшавай жакетцы, захутаная вялікай клятчастай хустай.

— Што й та вы так прыціхлі? Стаіліся як мышы пад венікам. Я думала, што Данька адзін тутацька,— здзівілася Параска і нібы ўзрадавалася, што сын яе не адзін дома, а з сябрамі.

Параска зняла хусту, засталася ў тонкай цёмнай у дробныя жоўта-ружовыя кветкі, распранула плюшаўку.

— Дык што вы тута робіце? — дапытвалася гаспадыня.— Ці не ў карты гулялі ды хаваеце іх? Я ж бачыла, усё нешта рэзалі ды малявалі...

— Не, мам, карты нам надакучылі. Андрэйка прачытаў кніжку пра лётчыка. Расказвае нам. Ну, што было далей?

Андрэйка саромеўся цёткі Параскі, не адважваўся гаварыць далей, муляўся.

— Гавары, Андрэйка. І я паслухаю. Лётчыкі ж у небе лётаюць. Многа чаго бачаць. Ета ж анцярэсна,— разважала Параска.

Хлопцы заўсміхаліся, а Данька сказаў:

— Ета кніжка ваенная. Лётчыка паранілі, а тады ногі саўсім адрэзалі. Ён без ног на самалёце лётаў, скакаць навучыўся...

— Дык як жа ён, бязногі, скакаў? На мыліцах, ці што? Ета, відаць, несправядліва напісана,— не паверыла Параска.

Тады Андрэйка пачаў усхвалявана, горача апавядаць, як лётчык вучыўся хадзіць на пратэзах, потым бегаць, скакаць, што стары генерал — старшыня камісіі — не даваў дазволу яму ваяваць зноў на самалёце, пакуль не пераканаўся, што лётчык умее скакаць, значыць, ён здаровы.

— А што, ён «барыню» скакаў? — спытаў Паўлік.

— І «барыню», і «яблычка». Іншыя танцы,— смела дадаў ад сябе апавядальнік.

— Чаго не бывае на свеце,— уздыхнула Параска.— А ты ўсю кніжку ім расказаў?

— Дык я ж толькі прачытаў. Яшчэ не паспеў забыць,— сарамліва адказаў Андрэйка.— Я дам пачытаць яе Даньку. І вам, хлопцы, таксама.

Параска пачала даставаць з печы вячэру, хлапчукі заспяшаліся дамоў. На вуліцы марозіла. Пад нагамі звонка хрумстаў тонкі лядок. Рака яшчэ шумела, а луг

пабліскваў пад месяцам заінелай травой і свежым лёдам. Андрэйка развітаўся з сябрукамі, але ў хату не спяшаўся, доўга стаяў і глядзеў на зоркі. А іх столькі высыпала на небе! І тонкі сярпок маладзіка вісеў над вёскаю. Хлапчук чытаў нядаўна ў календары, што на небе багата розных сузор'яў, дзе іх можна зімою ўбачыць. Урэзалася ў памяць, што Венера цяпер добра відаць на захадзе. Андрэйка пасунуўся на гарод, дзе цямнеліся маладыя яблынькі, якія ён садзіў з бацькам. Неба на захадзе было ружаватае, а поле цёмнае, маўклівае, і зоркі над ім здаліся ярчэйшыя, чым над лугам. Сярод іх вылучалася адна, буйная блакітна-зялёная, яна вісела ніжэй, свяціла ярчэй, быццам міргала.

«Можа, гэта і ёсць Венера? Эх, каб тэлескоп быў»,— уздыхнуў хлапчук. Ён ведаў, што тэлескопа няма ў іхняй школе, няма яго, відаць, і ў раёне. Што гаварыць пра тэлескоп, калі запалак і газы не хапае... Затое ў яго ёсць канькі-снягуркі. Замерзне паводка, і можна будзе катацца па ўсім лузе, ад вёскі да самага лесу. О, які абшар!

Ніколі яшчэ не чакаў Андрэйка марозу, як на гэты раз.

## VII

Неяк у канцы дня Жмуроўскаму пазванілі з райкома партыі, прасілі ўранні быць у першага сакратара разам са сваім галоўным бухгалтарам. Калі яны прыйшлі, у кабінеце Акапяна ўжо сядзеў бухгалтар маслапрома, хударлявы мужчына з нездаровым жаўтаватым тварам і круглымі цёмнымі вачамі. Акапян, нахмураны, заклапочаны, прыўзняўся на стуле, падаў ім руку:

— Сядайце, таварышы, ёсць тут адна справа... Трэба нам разабрацца...

Упрытык да стала Акапяна стаяў меншы столік, ля яго два крэслы, на адным горбіўся бухгалтар маслапрома, на другое Акапян паказаў Жмуроўскаму. Той на момант разгубіўся, бо адчуў няёмкасць, што яго падначалены вымушаны будзе сесці адзін убаку. Паспрыяла няёмкасці і другая акалічнасць: уранні Жмуроўскі таропка галіўся і трохі парэзаў брытвай падбародак з левага боку, і калі ён сядзе на крэсла, то якраз гэты

парэз і выставіць Акапяну. Таму Жмуроўскі пакіраваў да акна і сеў там, галоўны бухгалтар прымасціўся побач.

Акапян не заўважыў гэтай замінкі, бо дужа ўглядаўся ў паперы, якія ляжалі перад ім. Нарэшце ён узняў стомленыя вочы, пільна і строга зірнуў на Жмуроўскага, потым на галоўнага бухгалтара.

— Чым вы растлумачыце, душа любезны, Міхаіл Сямёнавіч, і ваш галоўны бухгалтар...— Акапян зірнуў у паперы,— таварыш Карпаў, што дадзеныя маслапрома і дадзеныя вашай канторы разыходзяцца? У вас адна лічба ў справаздачы, а ў іх другая. Дык колькі ж на самой справе здадзена малака? Выходзіць, што на маслапроме ў нас працуюць прахадзімцы і зладзеі?

— Чаму так? Трэба разабрацца. Магчыма, нехта з нашых прадагентаў памыліўся. Адукацыя ў іх, самі ведаеце, якая. Не думаю, каб тут свядома нехта заблытаў...

— Мяне не цікавіць адукацыя вашых прадагентаў. Вучыць іх працаваць — ваш абавязак...

— Я гэта ведаю, Сяргей Хачатуравіч, але...

— Але вы не ведаеце ўсёй сур'ёзнасці становішча ў раёне. Паводка затапіла дзесяткі стагоў сена. Давядзецца зноў раскрываць вясной гумны, карміць саломаю са стрэх жывёлу,— Акапян нервова хадзіў па кабінеце.— А вы чакаеце, што я кіну ўсе справы і займуся рэвізіяй нарыхтовак малака.

— Мы самі разбяромся. Статыстыкі займаюцца гэтым зараз.

— Нам патрэбна дакладная лічба. Вобласць патрабуе. Пара навесці парадак у вашай канторы. І чым хутчэй, тым лепш.

— Я ўсяго тры месяцы ў раёне,— спрабаваў абараніцца Жмуроўскі.

— Тры месяцы — гэта не тры дні. Гэта дзевяноста дзён! Можна багата чаго зрабіць за такі тэрмін. А вы ўсё прыглядаецеся, душа любезны...— Акапян ледзьве не крычаў.

— Я не прыглядаюся, а сумленна выконваю свае абавязкі,— павысіў голас і Жмуроўскі.— Ні сена, ні малака не прыбавіцца ад таго, што вы будзеце мяне распякаць у прысутнасці майго падначаленага. Гэта парушэнне службовай этыкі.

— Бач, куды хапіў? — узвіўся Акапян.— Пару-

шэнне службовай этыкі! Пакрыўдзілі кісейную барышню... Вы — камуніст, адказны работнік.

— Але, я — адказны работнік,— падняўся Жмуроўскі, усхваляваны, напяты, як струна.— Але ў такім тоне не збіраюся працягваць гаворку далей,— і рашуча выйшаў з кабінета, краем вока згледзеў, што Акапян аж застыў ад здзіўлення і нечаканасці такога павароту.

Карпаў сядзеў бледны, унурыўшы галаву ў плечы. І толькі на твары бухгалтара маслапрома не зварухнуўся ніводзін мускул.

На вуліцы Жмуроўскі ўздыхнуў на поўныя грудзі, чуючы, як тахкае сэрца, пастаяў трохі на ганку, бы чакаў, што яго зноў паклічуць у кабінет Акапяна.

На душы было прыкра, што не стрымаўся, але варухнулася думка: можа, і правільна зрабіў, юрыдычна я не падначалены яму, няма чаго крычаць. Жмуроўскі адчуваў, што Акапян увесь час імкнецца зрабіць яго паслухмяным і згаворлівым. Ён чуў, што з ранейшым упаўнаважаным па нарыхтоўках яны ладзілі, а ён, Жмуроўскі, адмовіўся падпісаць паспешлівы рапарт у вобласць...

Пакіраваў у сваю кантору, увайшоў у кабінет. Праходзячы міма пакоя, дзе сядзелі статыстыкі, убачыў, што яны абклаліся кнігамі ўліку, паперамі: шукаюць памылку. Хацеў запытацца наконт гэтай памылкі, але перадумаў: калі знойдуць, адразу яму даложаць, а ён зараз можа не стрымацца і сапсаваць настрой усім і пашкодзіць працы. Ён сядзеў, чакаў званка з райкома, але ніхто не званіў. Дзень ужо канчаўся, калі да яго зайшоў усхваляваны галоўны бухгалтар:

— Міхаіл Сямёнавіч, знайшлася памылка. Нашы статыстыкі наблыталі. Ды і прадагент Канаплёў напісаў невыразна... Цяпер усё сышлося. На маслазавод я пазваніў, а ў райком вы самі будзеце?..

Жмуроўскі ўбачыў, што рукі ў Карпава дробна ўздрыгваюць, а твар яшчэ малады, але галава ўжо з глыбокімі залысінамі, чырвоны ад хвалявання.

— Добра. Я пазваню. А вы, калі ласка, выклічце назаўтра Канаплёва. Трэба яму даць прачуханку.

Як толькі выйшаў галоўны бухгалтар, Жмуроўскі паклаў руку на тэлефон, але трубку не здымаў, думаў, бы саграваў металічную каробку, каб яна была дабрэйшай і ласкавейшай. Нарэшце сабраўся з духам, зняў

трубку і пачуў у адказ, што Акапяна няма, паехаў на раён і сёння ўжо не будзе.

«Можа, і лепей. З раніцы ўсё будзе іначай»,— суцешыў сябе Жмуроўскі.

Уранні, калі ён пазваніў, у трубцы пачуўся голас сакратаркі:

— Сяргей Хачатуравіч заняты. У яго таварыш з вобласці...

Потым упаўнаважанага па нарыхтоўках захапілі справы, заходзілі прадагенты, ён так і не пазваніў Акапяну, хоць увесь час помніў, што яму трэба гэта зрабіць, і таму ўздрыгнуў, калі раптам рэзка зазвінеў тэлефон.

— Міхаіл Сямёнавіч? Ты на месцы? — пачуўся голас Пракапенкі. Пасля той незабыўнай ночы на станцыі, калі грузілі лён, яны перайшлі на «ты».— Як настрой?

— Настрой бадзёры. Ідзём на дно.

— На дно не спяшайся. Вада замерзла. Лёд ужо тоўсты. Ілбом не праб'еш. Да цябе зараз зойдзе адзін таварыш з вобласці. Чакай. Ну, трымайся!— весела сказаў Пракапенка, і ў трубцы пачуліся гудкі.

«Мабыць, ён ведае пра стычку з Акапянам,— падумаў Жмуроўскі.— А што гэта за намёкі: ілбом не праб'еш? А мо проста так сказаў? Што гэта я, бы кісейная барышня? — ён агледзеў свой стол, што лішняе трэба прыбраць, бо невядома, хто такі гэты таварыш з вобласці.— Але чаму не запрасілі ў райком, раз гэты таварыш быў у Акапяна?»

Жмуроўскі схаваў некаторыя паперы ў шуфляду, падняўся, хадзіў па кабінеце, поўны трывогі і непакою. Зноў быў узяўся пазваніць Акапяну, ды адклаў да сустрэчы з таварышам з вобласці. А мо тут ёсць якая сувязь? Неўзабаве ў дзверы пастукалі, увайшоў галоўны бухгалтар Карпаў.

— Міхаіл Сямёнавіч, ледзь дазваніўся да Бярозаўскага сельсавета. Перадаў, каб заўтра Канаплёў быў у вас...— Карпаў памаўчаў хвіліну, быццам хацеў нешта сказаць і не адважваўся: — Ну, як адрэгаваў Акапян?

Адказаць Жмуроўскі не паспеў — пасля кароткага стуку дзверы расчыніліся, і на парозе стаяў сярэдняга росту грузнаваты чалавек у кіцелі і галіфэ колеру хакі, у белых бурках — тыповае адзенне тагачаснага кіраў-

ніка. У руках незнаёмец трымаў далёка не новы партфель.

— Добры дзень! Я і ёсць той самы таварыш з вобласці,— усміхнуўся ён, падаў руку.— Лугаўцоў з аблвыканкома...

— Добры дзень, Васіль Пятровіч. Сядайце, калі ласка. А гэта наш галоўны бухгалтар,— ён прадставіў Карпава. Лугаўцоў падаў руку і яму, сеў, паставіўшы побач партфель.

Жмуроўскі ведаў, што намеснік старшыні аблвыканкома Лугаўцоў некалі працаваў тут, у Лабанаўцы, першым сакратаром райкома партыі. Той факт, што ён сам прыйшоў да яго, прыйшоў адзін, сведчыў аб тым, што размова будзе не для чужых вушэй. Мабыць, адчуў гэта і Карпаў, ціха сказаў:

— Можа, я пайду, Міхаіл Сямёнавіч? — асцярожны Карпаў заўсёды стараўся адысці ўбок, бо лічыў, што чым далей ад начальства, тым лепей.

— Як, Васіль Пятровіч, таварыш Карпаў нам патрэбен будзе?

— Ну, калі спатрэбіцца, дык мы яго знойдзем,— Лугаўцоў паставіў партфель на калені, дастаў адтуль нейкую паперу.

Калі за галоўным бухгалтарам зачыніліся дзверы, госць паклаў паперу на стол, разгладзіў яе далонню, пільна зірнуў на Жмуроўскага, неяк вінавата ўсміхнуўся, маўляў, не хочацца мне пра гэта гаварыць, але, сам разумееш, служба.

— Значыць, такая справа, Міхаіл Сямёнавіч. Адзін чалавек, а дакладней, Шкурдзюк Апанас, жыхар вёскі Хатынічы, напісаў у Мінск, што вы незаконна забралі, ён так і піша: «сілком выцягнулі з хлява кабана»... Скаргу пераслалі нам... У мяне тут яшчэ былі справы, я і прыехаў...

— Было такое,— уздыхнуў Жмуроўскі, гледзячы ў акно, падумаў: «Вось чаму Акапян быў такі злы. Нехта пазваніў яму пра гэтую скаргу... Ён цяпер скарыстае гэта супраць мяне. Давядзецца пазмагацца»,— на душы ўпаўнаважанага па нарыхтоўках зрабілася пуста, тужліва і маркотна.— Можна падумаць, што я сабе забраў гэтага кабана... Мы некалькі разоў вусна папярэджвалі Шкурдзюка, што на льготы ён права не мае. Папярэдзілі пісьмова. Ён хоць бы хны... Тады пракурор падпісаў санкцыю. Мы паехалі... Ніякага пару-

шэння тут няма. Старшыня сельсавета настойваў, каб зрабіць такім чынам, бо па-добраму Шкурдзюк упарта не здаваў... Мы ўзялі, узважылі, выпісалі яму квітанцыю. Там жа, у Хатынічах. Усё зроблена ў адпаведнасці з інструкцыяй...

— Ёсць у вас гэтая санкцыя, папярэджанне? — спытаў Лугаўцоў, пазначаючы нешта ў сваім блакноце.

— Канечне, ёсць. Я скажу, каб прынеслі,— падняўся Жмуроўскі.

— Не трэба. Вы скажыце, каб зрабілі копіі. Я на ўсякі выпадак прыхаплю іх з сабой. Каб нейкі букваед потым не чапляўся... А мы яшчэ з вамі пагамонім...

Жмуроўскі перадаў Карпаву, каб падрыхтавалі копіі патрэбных дакументаў, вярнуўся ў кабінет, сеў, насцярожана чакаючы, што скажа госць яшчэ.

— Ну, як вам тут працуецца? Як жывецца? — спытаў Лугаўцоў.— Раён нялёгкі. Я гэта ведаю. А тут яшчэ паводка зімовая... Добра, што мароз ударыў.

— Раён цяжкі. Але наша работа ўсюды нялёгкая. Дарэчы, у Хатынічах — эканамічна даволі моцны калгас. Гэты самы Шкурдзюк мае трое свіней. А ў некаторых і ўзяць няма чаго... А план трэба выконваць.

— У Хатынічах я ўчора быў. Мы з Акапянам ездзілі... Гаварыў я з гэтым Шкурдзюком. У сельсавеце быў... гутарыў са старшынёй. Свідэрскі за вас гарою. Кіраўніцтва раёна пра вас добрай думкі. З Акапянам мы таксама ўсё абмеркавалі...

Жмуроўскі насцярожыўся пачуць, маўляў, мы ўсё разумеем, але вы не адпавядаеце сваёй пасадзе і гэтак далей...

— Сяргей Хачатуравіч пра вас добрай думкі. Ён сказаў, што вы прынцыповы, патрабавальны чалавек.

— Так ён і сказаў? — не вытрымаў, каб не перапытаць.

— Але, ён хваліў вас. Адгрузку лёну вы паскорылі. Кадры вас падводзяць. Зрэшты, не вы падбіралі іх. Ён спадзяецца, і я далучаюся да яго таксама, што парадак у вашай канторы будзе. Цяпер вельмі важна арганізаваць нарыхтоўку малака. Пачынаецца ацёл кароў і на фермах, і ў калгасных дварах.

Лугаўцоў памаўчаў, нібы даваў час упаўнаважанаму лепш асэнсаваць яго словы, потым спытаўся, як уладкавалася тут сям'я, ці працуе жонка.

— Кватэру атрымалі. Перад Новым годам пераеха-

лі... Жонка пакуль не працуе. Яна настаўніца. Абяцаў загадчык райана ўзяць на палову стаўкі, а з новага навучальнага года — на поўную. Вось так і жывём, Васіль Пятровіч,— настрой у Жмуроўскага палепшыўся, яму было прыемна гаварыць з гэтым памяркоўным, разважлівым чалавекам. Узрадавала, што ён спакойна, глыбока разабраўся з гэтай скаргай, і Жмуроўскаму не давялося апраўдвацца і даказваць, што ён не вінаваты.

— Дзеткі ёсць у вас? — неяк па-свойску, шчыра спытаў Лугаўцоў.

— Ёсць. Сын ходзіць у трэці клас. А дачка яшчэ малая. Чатыры гадкі... Пасляваенная...

— А дзе ў вайну вам давялося быць?

І пачаліся ўспаміны... Увайшоў Карпаў, падаў копіі папер. Лугаўцоў хуценька прачытаў іх, задаволена хмыкнуў, маўляў, усё, як трэба, схаваў у партфель і зноў распытваў Жмуроўскага, дзе яго параніла, дзе лячылі ў шпіталі, а потым расказаў пра свае партызанскія гады, пра многія вёскі, дзе даводзілася быць у вайну, пра Лясковічы, якія спалілі з людзьмі, пра Хатынічы, спаленыя амаль цалкам пры адступленні фашыстаў.

Іх гаворку перапыніў Пракапенка.

— Дзе тут наш госць? — гукнуў ён адразу ад парога.— Ну, ці высветлілі вы свае адносіны?

Пракапенка павітаўся са Жмуроўскім за руку, сеў напроці Лугаўцова.

— Са справай мы разабраліся. А потым вайну ўспомнілі. Разгаварыліся. Так што я вінаваты,— Лугаўцоў выцягнуў з кішэні круглы гадзіннік.— Ого, час ляціць...

— Пайшлі, Васіль Пятровіч. А то Арына мая званіла. Кажа, бульба стаіць на стале. Адубела ўжо... Мароз — добра на паводку, а бульба лепей гарачанькая... Дарэчы, званілі з Белай Гары. Бесядзь стала. Каб цяпер сняжку падкінула. Стагі б перавезлі. Лес траляваць трэба... Ну, пайшлі, пасядзім перад ад'ездам.

— Дык вы ўжо сёння ад'язджаеце, Васіль Пятровіч? Я думаў, што вы і да мяне зойдзеце. Кватэру паглядзіце,— Жмуроўскаму не хацелася развітвацца з Лугаўцовым.

— Я сёння павінен быць у Крычаве. Там чакаюць. Заўтра ў іх сесія выканкома. Другім разам і да вас зайду. Абавязкова. Жадаю вам поспехаў! — Лугаўцоў

моцна і шчыра паціснуў руку ўпаўнаважанаму па нарыхтоўках.

— А мы яшчэ ўбачымся, Міхаіл Сямёнавіч,— Пракапенка падміргнуў упаўнаважанаму, калі Лугаўцоў адвярнуўся.— А то пойдзем з намі? Мая гаспадарка ўжо больш наладжаная. І ўспаміны прадоўжым.

— Не, дзякуй вялікі. У мяне яшчэ спраў куча...

І першая, неадкладная справа — пазваніць Акапяну. Цяпер Жмуроўскі зразумеў, што Акапян ведаў пра скаргу, але не ведаў яе сутнасці. Скаргаў у вышэйшыя органы ён баіцца, бо пасля адной з іх атрымаў вымову за «незаконны» рамонт Дома культуры. Пра гэта ў раёне ведалі ўсе, расказалі і новаму ўпаўнаважанаму. Жмуроўскаму нават зрабілася сорамна: як ён мог падумаць, што Акапян выкарыстае скаргу супраць яго, каб адпомсціць, дамагчыся звальнення або прымусіць быць паслухмяным.

І быў Жмуроўскі блізкі да ісціны. Акапян сапраўды ўзлаваўся не на жарты пасля сутычкі ў райкоме. Успомніў і той выпадак, калі Жмуроўскі не падпісаў рапарт аб выкананні паставак, бо лён яшчэ не адгрузілі. І хоць пазней Акапян у глыбіні душы апраўдаў новага ўпаўнаважанага па нарыхтоўках, але незадаволенасць ім засталася: маўляў, ён хоча быць праведнікам, чэсным, чысценькім, а яны — бюракраты, кар'ерысты, лакіроўшчыкі, хай ён так пакруціцца, каб выканаць гэтыя пастаўкі, тады будзе ведаць, якой цаною ўсё даецца...

А напярэдадні пазваніў Лугаўцоў і сказаў, што ёсць скарга на ўпаўнаважанага і што яму даручана разабрацца. «Што ён за чалавек, гэты Жмуроўскі?» — спытаў ён. «Як вам сказаць? Яршысты, самалюбівы. Зарываецца...» — «Мабыць, я сам пад'еду. Разбяруся на месцы...»

Тады ў райкоме ён не паспеў сказаць пра скаргу, так нечакана Жмуроўскі рвануў з кабінета. І Акапян вырашыў даць бой: цяпер я цябе скручу, душа любезны, і будзеш ты ў мяне шаўковы... Ён не любіў, калі яму пярэчылі, з гадамі гэтая рыса ўсё выразней акрэслівалася ў яго характары. Толькі Пракапенкі ён пабойваўся, бо ведаў, якім аўтарытэтам карыстаецца старшыня райвыканкома і сярод людзей, і ў абласнога начальства, разам з Лугаўцовым партызаніў, а той у добрых адносінах са старшынёй аблвыканкома. Да та-

го ж ён мясцовы, тутэйшы чалавек. Акапян іншы раз лавіў сябе на думцы, што ён, Акапян, сын сонечнай Арменіі, тут чужы, прышлы, хоць паўтара дзесятка гадоў пражыў у Беларусі, жонка тутэйшая, дзеці напалову беларусы, знешне больш падобныя на маці, валасы светлыя, праўда, трохі кучаравыя, як у бацькі.

Пракапенку ён зайздросціў, што той глыбока ведае раён, людзей, усё вырашае спакойна, дзелавіта, без панікі і мітусні. Гарачаму, няўрымсліваму Акапяну здавалася, што ўсё можна і трэба рабіць хутчэй, як таго і патрабуе партыя, як дыктуе час. Тут нярэдка ўзнікалі канфлікты, Пракапенка іншы раз уступаў напору Акапяна, а часцей адгаворваў, маўляў, трэба лепей абдумаць, абмазгаваць.

Пасля размовы з Лугаўцовым Акапян задумаўся: трэба падрыхтаваць Пракапенку, пераканаць яго, што суправаджаць госця павінен ён, Акапян. І ён рашуча ўзяўся за тэлефон.

— Званіў Лугаўцоў. Ёсць скарга на Жмуроўскага. З Хатыніч нехта напісаў. Прыедзе сам разбірацца. Я даўно не быў у тым баку. Мо разам з госцем і з'езджу, калі ты не пярэчыш...

— З'ездзі, у мяне тут спраў хапае,— скаргаў Пракапенка не любіў, не цярпеў ананімшчыкаў, таму ахвотна згадзіўся з прапановай Акапяна.

Зрэшты, іншага адказу Акапян і не чакаў, бо ясна, што двум кіраўнікам зусім неабавязкова ехаць у Хатынічы. Па дарозе Акапян меркаваў пазнаёміцца бліжэй з госцем, настроіць яго супраць Жмуроўскага. Але ўсё было не так, як ён сабе ўяўляў. Лугаўцоў успамінаў вайну, расказваў, як узрывалі мост на Бесядзі, якія былі тутэйшыя вёскі пасля вызвалення.

Спачатку яны заехалі ў Белую Гару, дзе іх чакаў старшыня сельсавета Свідэрскі. Рухавы, падцягнуты, у нязменным вайсковым шынялі з жоўта-зялёнага англійскага сукна, ён выбег на ганак, як толькі згледзеў райкомаўскі вазок.

У сельсавеце былі нядоўга. Лугаўцоў агледзеў памяшканне, прыкмеціў, што партрэты вядомых дзеячаў пажаўцелі, а плакаты ўжо добра заседзелі мухі — наставілі сваіх кропак.

— А плакацікі мяняць трэба, таварышы дарагія.— хмыкнуў госць.

Акапян пачырванеў, злосна зіркнуў на Свідэрскага.

— Памяняем неадкладна... Па вясне пабелім сцэны, падрамантуем,— запэўніў старшыня сельсавета.

— А Мікіту Сяргеевічу нехта нават кляксу пасадзіў,— Лугаўцоў тыцнуў пальцам на вялікую чарнільную пляму, якая цямнелася ўнізе на партрэце Хрушчова.

Ніхто з іх тады не мог і падумаць, што праз некалькі гадоў партрэты Мікіты Сяргеевіча будуць вісець на першым, самым відным месцы.

— Як вы з паводкаю справіліся? Падмачыла моцна? — павярнуўся Лугаўцоў да Свідэрскага.

— Сена трохі заліло. Праўда, ніводнага стога не знесла вада. Марозік ціснe. Пачнём скора перавозіць. А на будучае ўрок: звозіць сена бліжэй да ферм. Ці хоць на высокае месца, як у Хатынічах робяць. Ля вёскі на курганах вялізныя стагі. І паводка да іх не дабралася...

Лугаўцоў падаў Свідэрскаму скаргу.

— Вось пачытайце і скажыце сваю думку.

Старшыня сельсавета чытаў доўга, моршчыў белы вузкі лоб, кусаў тонкія сухія вусны. Але чым далей чытаў, тым больш супакойваўся, святлеў з твару. Акапян згледзеў у халодных сталёва-шэрых вачах яго прыхаваную радасць і нават здзіўленне: з-за такой драбязы прыехала высокае начальства аж з вобласці.

— Паклёп, Васіль Пятровіч. Паклёп на Жмуроўскага, паклёп на савецкія органы, на ўладу нашу,— усхвалявана загаварыў Свідэрскі.

— Так ужо і на ўладу,— падняў угору густыя бровы Лугаўцоў.

— Еты самы Шкурдзюк — добрая цаца. Мае дзве гаспадаркі, а падаткі не плоціць... Удовы-салдаткі ў нітку выцягваюцца, а разлічваюцца з усімі пастаўкамі. А ён, куркуль... З ім толькі так і трэба. Што з ім чыкацца? Жмуроўскі дзейнічаў правільна. Ніякіх тут парушэнняў,— гарачыўся Свідэрскі.

— Ну, добра, паедзем, паглядзім. Таўкач муку пакажа, як старыя людзі гавораць,— Лугаўцоў павярнуў да дзвярэй.

У Хатынічах разабраліся даволі хутка. Апанас Шкурдзюк быў якраз дома. Жонка яго падняла гвалт, пусціла слязу, маўляў, дужа пакрыўдзілі іх. Сам гаспадар, спалоханы, збянтэжаны, зацята маўчаў, бо зразумеў, што начальства высокае пабудзе і паедзе, а Сві-

дэрскі застанецца і не раз прыпомніць яму гэтую скаргу.

— Тут абмылка выйшла, таварышы начальнікі. Было ў газетцы прапячатана... Ну, што маладому гаспадару ёсць ільготы. Дык і не здаваў я... Але цяпер нядоімкі няма,— труслівы Шкурдзюк падціснуў хвост, цыкнуў на жонку, каб сціхла.

Акапян зразумеў, што дарэмна заварыў кашу, што на гэты раз прыцісНуць Жмуроўскага яму не ўдасца, і перавёў размову ў іншае рэчышча.

— Васіль Пятровіч, можна лічыць скаргу закрытай. Таварыш Шкурдзюк асазнаў сваю памылку. Больш ён такога не дапусціць...

— Хвакт, больш такога не будзе,— пасмялелы Шкурдзюк весялей зірнуў на гасцей.— Можа б, паабедалі, таварышы начальнікі. Чыгун капусты ў печы вялікі. На ўсіх хопіць. Ды і каляды на дварэ...

— Калядаваць няма калі. Яшчэ трэба ў школу заехаць... Хаця, прызнацца, даўно не еў гарачай капусты з вясковай печы,— шчыра ўсміхнуўся Лугаўцоў.

Шкурдзюкова жонка спрытна кінулася да печы. Госці паселі за стол. Лугаўцоў пачаў гаворку пра вайну, партызанскія часы, калі адмаўляцца ад абеду не даводзілася. Акапян з цікавасцю слухаў, яму было цікава ведаць, як жывуць людзі, што вараць на абед. Толькі Свідэрскі сядзеў хмуры, моршчыўся, нібы яму балеў зуб; пачастункаў ён не любіў, заўсёды адмаўляўся, лічыў, што, калі ў некага паабедае, чарку вып'е, тады не зможа патрабаваць з таго чалавека ўсё, што належыць па законе. А мо ён прадчуваў што нядобрае? Не, не мог ён прадчуваць, якой цаной давядзецца яму плаціць за гэты абед.

У школе доўга не затрымаліся: настаўнікі разышліся, ведама, канікулы, вартаўніца Хоўра распальвала дровы ў грубцы, здзівілася, убачыўшы такіх важных гасцей.

— Ну як, дровы не сырыя? Не дымяць? — спытаў Лугаўцоў.

— Ды не, дровы аблетавыя. У класах цёпла. Ета во цяперацька прахладна, таплю праз дзень. Дзеці ж гуляюць, не ходзяць сюды... Можа, дзілектара пазваць? — паднялася Хоўра.

— Не трэба. Хай адпачывае,— сказаў Лугаўцоў, агледзеў адзін клас, другі, зазірнуў у катух-настаўніц-

кую.— Цесная школка. Будаваць трэба новую. Хатынічы вёска вялікая. Сямігодку пара адкрываць... У будучыню трэба глядзець...

Акапян і Свідэрскі згоднаківалі галовамі.

Калі ехалі праз вёску, насустрач трапіўся хлапчук у будзёнаўцы, які імчаў па дарозе на блішчастых каньках-снягурках.

— Чый гэта такі будзёнавец? — зацікавіўся Лугаўцоў.

— Ета брыгадзіра Сахуты Мацвея сын. Круглы выдатнік,— з гонарам сказаў Свідэрскі.

— Што ж, у добрага бацькі — добрыя дзеці,— Лугаўцоў падняў каўнер паліто, бо мароз мацнеў, калючы ўсходні вецер дзьмуў з-за Бесядзі.

У Лабанаўку прыехалі, калі ўжо добра ацямнела. Акапян запрашаў Лугаўцова да сябе, але той сказаў, што абяцаў завітаць да Антона Яўсеевіча, што ў іх партызанская дружба... На гэтым і развіталіся.

Уранні Акапян пазваніў на маслапром і дазнаўся, што памылку знайшлі, наблыталі ў канторы ўпаўнаважанага па нарыхтоўках. Акапяну захацелася пазваніць Жмуроўскаму і паўшчуваць яго, але разважыў, што лепей пачакаць, пакуль ён пазвоніць сам.

Жмуроўскі не ведаў пра гэтыя думкі Акапяна, але разумеў, што той чакае яго званка. Пра тое, што памылка іхняя, ён ведае. З маслапрома пазванілі галоўнаму бухгалтару Карпаву, дзівіліся: Акапян дапытваецца ў іх пра памылку; чаму не далажылі яму самі.

«Трэба ўсё-такі пазваніць. А то нібы хлапчук які, у жмуркі гуляю»,— паўшчуваў сябе ўпаўнаважаны па нарыхтоўках, зірнуў на гадзіннік: быў час абеду. Але на ўсякі выпадак вырашыў пазваніць. У трубцы пачуўся густы, хрыплаваты голас Акапяна:

— Слухаю вас.

— Сяргей Хачатуравіч, добры дзень. Гэта Жмуроўскі. Я з павіннай галавою. Наша памылка была. Мы тут разабраліся. Каму трэба, шыю намылілі...

— Ну што ж, душа любезны, павінную галаву і меч не сячэ. А памылкі бываюць. Конь на чатырох нагах і то спатыкаецца. Мы — людзі, на сваіх дваіх. Словам, хто нічога не робіць, той і не памыляецца. Вы, Міхаіл Сямёнавіч, не крыўдуйце на мяне... Я трохі пагарачыўся... Тут паводка нервы выматала. Ночы не спаў...

— Я не крыўдую, Сяргей Хачатуравіч... Ды і таксама распетушыўся.

— Ну і добра, душа любезны,— весела сказаў Акапян, хвіліну памаўчаў і дадаў: — Вазьміце пад кантроль нарыхтоўку малака. Гэта зараз самае важнае. Каб мы не апынуліся ў абозе, душа любезны... Да мяне няма пытанняў? Прэтэнзій, скаргаў? — у голасе Акапяна зноў пачуліся вясёлыя ноткі, маўляў, на цябе скардзяцца, а ты можаш на мяне.— Кватэрай задаволены?

— Дзякуй, Сяргей Хачатуравіч, кватэра нармальная.

— Дарэчы, час абедаць, душа любезны. Бывайце здаровы,— у трубцы пачуліся гудкі, але Жмуроўскі яшчэ доўга трымаў яе ў руках, і гэтыя аднастайныя гудкі падаліся яму прыемнымі, мілагучнымі.

## VIII

Была светлая марозная раніца. Паснедаўшы, Андрэйка ўзяўся прыладжваць канькі. Моцна прывязаў іх аборамі, а каб яшчэ шчыльней трымаліся за бахілы, усунуў палачку і накруціў на яе вяровачкі, што ішлі ад пярэдняй пятлі да задняй. Пакратаў нагою — канькі бы прыліплі да бурак. На двары ля варотцаў стаяла ягоная піка — цапок з расплясканым на канцы моцным цвіком. Гэтай пікаю трэба было папіхацца, бо выгнутыя снягуркі рэзалі лёд слабавата.

Прама ад хаты, з горкі, Андрэйка пакіраваў у бок правулка на балота. Імчаў ён хутка, міма Гылігоравай хаты снягуркі вынеслі яго на лёд. Праўда, вада тут стаяла малая, і з лёду тырчала, выбівалася белымі, бліскучымі ад інею касмылямі трава, сям-там выторкваліся ладныя рудаватыя купіны. Лёд у гэтых мясцінах пабялеў, бо пад ім не мелася вады — яна пайшла ў зямлю,— крышыўся, разламваўся на бліскучыя друзачкі. А далей сляпуча блішчала пад сонцам неаглядная прастора: аж да самай асмужанай сцяны лесу. І нідзе пакуль што не было нікога. Андрэйку не хацелася дзеўбаць пікай, бо тады ўвага скіроўваецца ўніз, каб у бахілу не дзеўбануць. Ён з асалодаю паласаваў лёд канькамі, разагнаўшыся, падымаў адну нагу і вычэрчваў кругі на адным каньку. Вось і рэчышча Бесядзі. Сям-

там лёд прарэзалі трэшчыны, яны паказвалі, што лядовы панцыр яшчэ не дужа тоўсты — якіх-небудзь дзесятак сантыметраў, пад вясну ён бывае таўсцей удвая.

Андрэйку зрабілася вусцішна: вось ён едзе, а пад лёдам віруе вада... Вунь пад тым крутым берагам Петракова ямка. Летась хлапчук ледзьве не ўтапіўся ў ёй. Купаліся, дурэлі. На правым беразе, ад вёскі, пясчаная каса. Пясок дробны, бялюткі, што цукар, разагрэты сонцам. Вылезеш з вады і бухнешся на гарачы пясок, потым перавернешся на спіну. Сонца свеціць у твар, а знізу грэе пясок. Хораша! Пазіраеш у неба, ва ўсім целе лёгкасць і бязважкасць, нібы плывеш на воблаку.

Прыйшлі і большыя хлопцы, пачалі купацца, скакалі з высокага берага ў вір, пырскаліся вадой, рагаталі. Андрэйка плаваў яшчэ слабавата, з абрыву не скокнуў ні разу. Ён боўтаўся ля берага і не заўважыў, як цячэнне аднесла яго далей. Паспрабаваў стаць на дно і з галавою апынуўся пад вадой, яна трапіла ў рот, і ён пачаў задыхацца. З усяе сілы пачаў малаціць рукамі ўгары, але яго цягнула ўніз. «Гэта ж я таплюся»,— ліхаманкава мільганула думка, вочы былі расплюшчаныя, жоўтыя сонечныя промні прасвечвалі ваду. Рукі яго нібы наліваліся свінцовым цяжарам, ён усё слабей узмахваў імі... Ачуняў на пяску, яго трэслі, ціскалі жывот, потым з рота хлынула жоўта-бурая вада. Доўга ляжаў ён на пяску, пакуль Віцька зноў паляпаў яго па шчоках, весела сказаў: «Ну, Жэўжык, цяпер будзеш жыць. А мы думалі, ты дурэеш... А тады малыя крыкнулі: «Андрэйка топіцца!» Ну, я даў нырца і выцягнуў цябе... Матцы не кажы дома, а то не пусціць болей к Бесядзі. Будзеш сядзець дома...»

Згадаў Андрэйка пра тое летняе здарэнне, і падалося яму, што было тое вельмі даўно... Ён ужо ўгрэўся, хоць у твар дыхаў свежы марозны ветрык, хацелася імчаць яшчэ хутчэй, балазе канькі, здаецца, самі беглі: ледзь адштурхнешся пікаю — і панесліся. Душа радавалася ад імклівага руху, яркага сонца, бліскучага лёду, якому, здавалася, ні канца ні краю.

Лес ужо быў недалёка. Андрэйка разагнаўся з усяе сілы, ён рытмічна згінаўся і разгінаўся, дзёўбаючы пікаю, і раптам убачыў прама перад сабою цемнаваты лапік паніўкі, піка застыла ў ягоных руках, канькі неслі прама ў пролубку, звярнуць ці затармазіць ён не паспее, ды можна пакаўзнуцца і ўпасці, гэта яшчэ горай,

таму як мог шырэй расставіў ногі, лёд затрашчаў, але канькі ўжо вынеслі малога рызыканта на цвёрдае месца.

Хлапчук агледзеўся: ці няма дзе яшчэ пролубкі, і павольна паехаў далей. У грудзях тахкала, як не выскачыць сэрца. Азірнуўся назад, зразумеў, што пролубка была на старым рэчышчы Бесядзі — некалі рака цякла ля самага лесу, а потым пачала хінуцца да вёскі.

Андрэйка з жахам падумаў: хвіліну назад ён мог утапіцца, калі б шуснуў з разгону пад лёд, то і не выбраўся... Уявіў, як бедавала б маці, перажываў бацька. У іхняй сям'і і так вялікія страты: Зінка памерла да вайны, Маруська яшчэ калі немцы стаялі ў вёсцы, Коля пасля вайны, Пятрок не вярнуўся з фронту...

Страшныя і ў той жа час радасныя думкі апанавалі Андрэйку: якое шчасце, што ён праскочыў гэтую паніўку, ён зноў бачыць сонца, зноў дыхае, заўтра пойдзе ў школу, бо канікулы скончыліся... Успомнілася Нінка, з якой ён сядзіць побач. Яна б, мусіць, плакала, калі б дазналася, што яго ўжо няма...

Назад ехаў Андрэйка паволі, асцярожна, і толькі калі прамінуў раку, уздыхнуў вальней, мацней налёг на піку, і зноў вецер засвістаў у вушах. Сонца паднялося вышэй, касыя зыркія промні білі ў вочы, аж сляпілі. На Градзі высіліся тры стагі сена. Іней на іх паўднёвых баках раставаў, дымілася лёгкая пара.

Добра, што гэтыя стагі вада не дастала, падумаў хлапчук, успомніўшы бацькавы словы: у Другім Вугле, ля Бабінай Гары паводка заліла два стагі, і знізу сена падгніе. Бацька вельмі перажываў, бо мінулым летам ён быў адказным за стагоўку.

Прыгадалася Андрэйку, як бацька прывязваў граблі да доўгага шосціка і кіраваў на луг. Хлапчукі пасвілі цялят, як толькі луг вызваляўся ад копаў сена, яны пускалі цялят усё далей. К абеду ўжо ўсё балота было чыстае, цяляты вольна хадзілі аж да Бесядзі. Пастушкі сабраліся ля стагоў: адзін стог ужо завяршылі, другі ўвачавідкі рос, а трэці толькі пачыналі. Бацька размераў пад яго пляцоўку, убіў калкі па краях, каб атрымаўся раўнабедраны прамавугольнік, хоць і не вучыў ён геаметрыю, але стагаваць сена ўмеў і любіў, стагі выходзілі роўныя, прыгожыя, ніякі моцны вецер не задзіраў ім вярхушку-чупрыну. Вяршылі другі стог Вольга і Параска, астатнім ужо не было дзе павярнуцца,

жанчыны спусціліся на палок, і з палка, каля якога было багата сена, скокнулі ўніз. Бацька хадзіў круга стажка і доўгімі граблямі абчэсваў яго, прыгладжваў, каб потым вецер не ўздзіраў сена, якое не прылягло шчыльна, падаваў граблямі гэтыя касмылі сухой, шапатлівай травы Вользе і Парасцы, тыя ўкладвалі, раўнялі, таксама прыгладжвалі.

Вось ужо і Параска скацілася на палок, засталася Вольга адна. Была яна ў белай хустцы і сіняй палінялай кофце і нагадвала здаля вялікую дзіўную птушку, якая ходзіць па самай макаўцы стога.

Бацька яшчэ раз абышоў духмяную высозную сцірту сена, прыдзірліва агледзеў спрактыкаваным вокам свежы стог, крыкнуў Вользе: «Ну, закругляйся там. Можаш злязаць». Вольга яшчэ разы тры ўзмахнула граблямі, адступаючы на край, быццам замятала свае сляды, зірнула ўніз: «Ой, як вісока! Ану-ка, пацаны, далей адыдзіцеся і адвярніцеся. А то зараз схватаграхвірую...»

Усе заўсміхаліся. Малыя вельмі неахвотна павярнулі свае стрыжаныя галовы, хоць ім так хацелася азірнуцца: а раптам задзярэцца спадніца Вольгіна і можна будзе ўбачыць нешта таямнічае, а можа, і тое, што «фатаграфуе» і пра што яны не раз чулі ад большых хлопцаў, якія ўмелі хвацка лаяцца, хоць гэта ўмелі і ўсе малыя хлапчукі, і навучыліся яшчэ да школы, бо амаль усе дарослыя лаяліся пры любым выпадку, не зважаючы на дзяцей...

Андрэйка задумаўся, памалу штурхаўся пікаю, з разгону канькі ўскочылі на траву. Ён азірнуўся і пазнаў гэтае месца: тут летась знайшоў жаўрукова гняздо. Тады ўжо вечарэла, ён бег заганяць дамоў бычка, які вольна хадзіў па балоце: забаранялі пасвіць, «закрывалі» поплаў толькі пасля вясновага Міколы, 22 мая. Дык вось Андрэйка басаном імчаў па мяккай маладой траве, і раптам ледзьве не з-пад самых ног выпырхнуў жаўранак, нізка паляцеў і сеў недалёка.

Хлапчук спыніўся, пачаў аглядаць усе купіны і знайшоў акуратнае круглае гняздзечка, у ім было пяць рабенькіх яечак. Хацелася пакратаць іх рукой, але дарослыя гаварылі, што птушка тады кідае гняздо. Андрэйка нічога не чапаў, а месца прыкмеціў. Потым ён прыбягаў сюды, калі паявіліся птушаняткі. Як толькі ён набліжаўся, яны выцягвалі шырокія жоўтыя раты

на тонкіх шыйках. Малы глядзеў, ціха пасміхаўся і адыходзіў, каб не трывожыць птахаў.

Аднойчы ён прыбег, гняздо ўжо было пустое. У траве запішчала птушанё, растапырыла крылцы і шмыганула пад купіну. Андрэйка злавіў шэранькае птушанятка, трымаў на далоні. Птушанё трапяталася, імкнулася выбавіцца з хлапечых рук, і раптам ён адчуў на далоні нешта цёплае і вільготнае: там быў маленькі каўцячок — птушанё са страху справіла патрэбу на далонь... Андрэйка нават зірнуў на сваю руку, чырвоную ад марозу, бо вязёнкі ён зняў, угрэўся. Час быў ісці дамоў: накатаўся, а як успомніў палонку, у якую ледзьве не ўваліўся, дык аж сэрца ёкнула.

Дома ён нічога не сказаў пра здарэнне на лёдзе. Маці, убачыўшы яго, расчырванелага, з радасцю сказала:

— Ад'еўся за канікулы наш Андрэйка. Вунь і шчокі зачырванеліся, як у снегіра. Сядай за стол. Будзем зараз абедаць.

У хаце былі ўсе, нават Марына прыйшла. Андрэйка ўбачыў на стале нейкі прадаўгаваты карабок, нібы пенал. Здымаючы канькі, ён увесь час пазіраў на гэты карабок, які прыцягваў позірк, быццам магніт. Васька і Марына пасміхаліся з ягонай цікаўнасці.

Нарэшце малы не вытрымаў:

— А што ў етай каробачцы, га? Ты купіла, Марына?

— Тут, Андрэйка, даміно. Ты, мусіць, і не бачыў ніколі,— Марына раскрыла карабок і высыпала на стол багата ружаватых, амаль бурачнага колеру, драўляных дошчачак, на кожнай з іх былі зеленаватыя ямачкі, здаля нібы канаплінкі паблісквалі яны.— Вось паабедаем і згуляем у даміно.

Сям'я Сахутаў канчала абед — завяршала яго грэцкая каша з дробненькім салам, калі ў хату ўвайшоў дзядзька Парфір.

— Здароў вам! Хлеб-соль! — гукнуў ён.

— Праходзь, Пархвірачка, сядай з намі абедаць,— узрадавалася маці, бо Парфір быў яе родным братам.

— Дзякуй, толькі ад свайго стала,— Парфір зняў старую, яшчэ вайсковую, зімовую шапку, павесіў на цвік ля парога, прыгладзіў рэдкія валасы на лысіне, сеў на лаву.

— Ну што, Андрэйка, адгуляў канікулы? — спытаў дзядзька.— Бачыў я, ты ўсё на коніках лётаеш.

— Я во казала яму: пабудзь дома, а то ў паніўку ўсунешся,— падала голас маці.

У Андрэйкі аж здрыганулася рука, і некалькі разварaных крупінак кашы паляцелі на стол: адкуль маці ведае?..

— Не рассыпай кашу. Цяпер кожнае зярнятка як золата,— ціха сказаў бацька і мацней дадаў: — Яно добра пакатацца. Я сам, каб умеў, дык бы праехаў...

— А што, Леў Талстой у семдзесят гадоў катаўся на каньках, ездзіў вярхом на кані, на паляванне хадзіў,— важна зазначыў Васька, устаючы з-за стала.

— Ці пад'еў, сынок? А то нешта рана ты падняўся з-за стала,— маці з любасцю зірнула на сына, які за апошнія гады вырабіўся ў плячыстага здаровага дзецюка.

— Трохі перакусіў. Каб яшчэ столькі, тады б наеўся,— Васька выцер рукой чырвоныя, даволі тоўстыя губы.

— Дык паеш яшчэ, сынок. У пятроўку етага не будзе. А цяпер наядайся. Сядай,— маці ўсур'ёз успрыняла яго словы, ды і ведала, што Васька мае добры апетыт.

Васька ўжо ўзяў карабок з даміно, пачаў раскладваць пласцінкі на акне. Андрэйка таксама шмыгануў да акна. У яго ледзь-ледзь не сарвалася з языка: «Мам, адкуль ты ведаеш? Я сапраўды ледзь не ўскочыў у паніўку...» І ўсё ж ён стрымаўся, бо калі расказаць пра здарэнне і маці, і бацька будуць хвалявацца кожны раз, як толькі ён паедзе катацца. Маці з Марынай хуценька прыбралі посуд, паслалі на стол абрус, бялюткі, ільняны, з чырвонымі ўзорыстымі палосамі па краях.

Дзядзька з бацькам гутарылі аб калгасных справах. Дзядзька бедаваў, што сёлета цяжка будзе выканаць план нарыхтовак — як прадагента яго трывожыў свой клопат: сена не хопіць, па вясне давядзецца зноў раскрываць гумно, саломаю са страхі карміць кароў.

— Марына, ты абяцалася паказаць, як гуляюць у даміно,— прыстаў да сястры малы.

— Давайце згуляем,— ахвотна падтрымаў пляменніка дзядзька Парфір.— Здымайце абрус, а то папсуём...

Марына хуценька згарнула абрус, Васька разлажыў пласцінкі, «канаплінкамі» ўніз, перамяшаў іх.

— Бярыце. Кожны па сем. Мы ж учацвярых будзем? Тады я з дзядзькам. А Марына з Андрэйкам.

Дзядзька Парфір растлумачыў, як трэба гуляць, з чаго можна заходзіць, пачынаць гульню, што такое «дупель», «рыба», колькі трэба запісаць ачкоў, каб даць «казла». Андрэйка слухаў з цікавасцю, асабліва яго здзівіла «рыба». Вядома, зразумеў ён не ўсё, Марына таксама гуляла слаба, і таму неўзабаве яны прайгралі — атрымалі «казла». Малы ледзь не захліпаў ад крыўды, а Васька ўвайшоў у азарт, вочы яго заблішчалі, ды і дзядзька развесяліўся.

— Зараз я цябе пракачу, Андрэйка. У цябе такіх няма. Давай пяць-пяць. Што, няма?

Андрэйка доўга ўглядаўся ў свае пласцінкі — пяцёрак не было.

— Няма,— ціха адказаў ён.

— Станаві, Васька. Андрэйку я пракаціў. І ў цябе няма? Значыць, я трохі даў маху. Тады ў Марыны ёсць...

— Ёсць, дзядзька. Зараз я вас пракачу. Пяць-тры ў вас няма. І ў Ваські таксама. Андрэйка, выстаўляй троечны дупель, а то ён засохне...

— А ты не падказвай. Так не чэсна,— пакрыўдзіўся Васька.

— Ён першы раз гуляе,— абараняла малога брата Марына.— Усё. Я закрываю. Лічыце ачкі...

Але дзядзька з Васькам зноў перахапілі ініцыятыву, наступны раз дзядзька закрыў пустышным дупелем і гучна сказаў:

— Устаць! Ахвіцэрскі казёл.

Андрэйка і праўда ўстаў, Марына не зварухнулася з месца, Васька рагатаў, маці з бацькам таксама пасміхаліся. Але болей за ўсіх смяяўся дзядзька Парфір, аж ягоны нос, парослы рудаватымі валасінкамі, нібы хадзіў упрысядкі. Цяпер Парфір быў зусім не той гладка паголены, укормлены мужчына ў афіцэрскай форме, з бліскучымі пагонамі. Дзядзька з'ехаў з цела, вусы і кусцістыя бровы пасівелі, няголенае шчэцце тапырылася на шчоках, як на полі ржэўнік.

Пакуль ішла гульня, Андрэйка не раз дзівіўся, адкуль дзядзька ведае, якія пласцінкі даміно ў яго ёсць і якіх няма, нават падумаў, мо дзядзька падглядвае, але ж ён пазіраў толькі на свае пласцінкі ды на стол, дзе падлічваў, што выйшла. Значыць, трэба вучыцца

добра лічыць,— зрабіў для сябе выснову малы Сахута. Тым часам пачало цямнець, дзядзька разы два пазяхнуў, а потым сказаў:

— Ну, вы гуляйце ўтраіх. Пайду дамоў. Карове сена трэба падкінуць, парсюку даць, а то мой хызяін раззлуецца...

— Які хызяін? — зацікавіўся Андрэйка.

— Які? У кожным двары ёсць свой хызяін. А які ён, ніхто не ведае. Ніхто яго не бачыў... Мой бацька, дзед ваш Патап, расказваў. Стрыножыў ён ноччу коней на балоце. Дай, думае, пайду дамоў. Прылягу трохі. Увайшоў у хату, толькі лёг, чуе — вароты ў пуні зарыпелі. Што за ўказзя? Выйшаў. Бачыць, усё зачынена, і коўраты на круку... Хызяін правяраў...

— Можа, злодзей які заходзіў? — сказаў Васька.

— Дык нічога ж не ўкраў. Не, ёсць хызяін у кожненькім двары,— упэўнена сказаў дзядзька.— Вось пчолы вазьмі. У аднаго вядуцца, у другога — раз, і адсыпаліся ўсе да адной...

— Хто ўмее даглядаць, у таго жывуць,— умяшалася ў гаворку Марына.

— Хызяін ручыць. Хто праведна жывець, таму ён пасабляе, а хто анціхрыст, таму ён шкодзіць. У евангелі напісана: не крадзі, не лайдач, не рабі шкоды бліжняму свайму, і бог цябе будзе любіць...

А можа, гэта бог выручыў мяне, падумаў Андрэйка, нібы на крылах перанёс мяне цераз паніўку? Не, ён добра памятае, што вакол нікога не было, каб ён разгубіўся, шуснуў пад лёд, то і бог не памог бы, хіба які сом падштурхнуў бы, ды і самы зімою, мабыць, спяць...

— Дзе ён той бог? Які ён? Яго ж ніхто не бачыў. То яго і няма,— сур'ёзна разважыў Васька.

— Не бачыў, таму што не дастойныя. Грашаць многа. А ў царкву не ходзяць, пасты не блюдуць, малітвы не сатвараюць. А хто праведна жыве, таму і бог дае,— гнуў сваю лінію дзядзька Парфір.

— А чаму ён у пятроўку, калі няма бульбы, нічога не дае? — не стрываў Андрэйка, складваючы пласцінкі даміно назад у карабок.

— Бог кажа: не лянуйся, рабі сам, а ён дапаможа. Маліся, і ўсё будзе...— разважаў дзядзька.

— І вы чулі, як ён так гаварыў? — дапытваўся малы.

— Я не чуў. Так сказана ў святым пісанні,— важка адказаў Парфір.— Маліцца трэба...

Андрэйка ніколі не чуў, каб маліўся бацька. Маці іншы раз сыпала на блін солі, хрысцілася і гаварыла:

— Хадзіце, святыя радзіцелькі. І татачка, і мамачка, і свёкарка, і свякровачка, і дзетачкі ўсе хадзіце. Паснедайце з намі... Што божачка паслаў, таму і рады...

Кладучыся спаць, яна хуценька шаптала: «Аградзі мя, госпадзі, сілаю часнога і жыватворнага твайго храста і сахрані мя ад усякага зла»,— і праз колькі хвілін яна ціхутка пахрапвала. Ні Марына, ні Васька не ведалі ніводнай малітвы. Дзядзька Парфір не першы раз заводзіў гаворку пра нячыстую сілу, пра сатану, якая правіць светам. Андрэйка заўсёды пярэчыў, не згаджаўся. Дзядзька пасміхаўся, як усё роўна дражніўся, яшчэ болей пацвельваўся: маўляў, і кніжкі сучасныя пішуць анціхрысты, сатана, а праўда толькі ў святым пісанні... На гэты раз Андрэйка, мабыць, пакрыўджаны пройгрышам у даміно, не стрымаўся і сказаў тое, што чуў раней ад маці.

— Дзядзька, а хіба гэта праведна, калі вы вешаеце воўну над цэбрам вады, каб яна зрабілася цяжэйшай. А тады здаяце... Гэта ж не чэсна!

Парфір сярдзіта зіркнуў на пляменніка, надзьмуўся, аж шыя пачырванела. Маці з бацькам пераглянуліся, Марына адвярнулася і цішком смяялася. Толькі Васька спакойна і засяроджана складваў пласцінкі даміно.

— Ты памыляешся, хлопец. Я ачышчаў воўну над вадою. Каб у ёй не было бруду, калючак. Авечкі ж усюды бегаюць... А воўну трэба здаваць чыстую... Так што не выдумляй лішняга. Грэх — узводзіць на чалавека напрасліну... Бог не даруе...

Не ведаў тады Андрэйка, што праз нейкі час хітры дзядзька выкарыстае ягоны атэізм у сваіх мэтах і ўгаворыць зрабіць прыкры ўчынак.

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, студзень 1950 г.*

*4. Баранавічы. Паравозныя калоны Баранавіцкага дэпо «Пяцігодка ў чатыры гады» датэрмінова выканалі свой пацігадовы план.*

*17. Мазыр. З абласнога цэнтра ў раёны выехала група лектараў. Яны будуць чытаць лекцыі на*

*тэму: «26 год без Леніна пад кіраўніцтвам Сталіна па ленінскім шляху».*

*20. У пасёлку Ганцавічы Пінскай вобласці ўступіла ў строй першая чарга мэблевай фабрыкі.*

*20. У Маскву прыбыў прэм'ер Дзяржаўнага Адміністрацыйнага Савета і міністр замежных спраў Кітайскай Народнай Рэспублікі пан Чжоу Энь-лай.*

## IX

Пётр Еўдакімавіч Мамута рыхтаваўся да школьных заняткаў з асаблівым хваляваннем: паўгода не вучыў ён дзяцей, бо сам слухаў лекцыі ва універсітэце. Узяў ён сабе чацвёрты, выпускны клас. Выпускнікоў трэба падцягнуць, каб і ў Белагорскай, і ў Зарачанскай школах былі добрай думкі пра хатыніцкіх вучняў, а значыць, і пра іхніх настаўнікаў, і пра Мамуту, загадчыка школы, якім ён стаў зноў.

Пасля размовы з Ганнай Мікітаўнай ён пайшоў у раён. Да сакратара райкома партыі Азаравай зайсці не адважыўся: добра помніў, як агітавала яна вучыцца, і вось табе — кінуў навуку. Зазірнуў спачатку да Міхаіла Даўгалёва, якога ведаў лепш, не раз у Хатынічах спатыкаліся, куды прыязджаў Даўгалёў да сваёй маці, і ў лазні нават мыліся, і парыліся разам. Яму Пётр Еўдакімавіч мог адкрыцца смялей, вядома, пра Юзю, пра любошчы ён не збіраўся прызнавацца нікому. Даўгалёў мог і падтрымаць — пазваніць загадчыку райана, каб той зноў прыняў Мамуту на працу, тым больш што ранейшая яго пасада незанятая.

Сустрэў Даўгалёў настаўніка з радасцю, адразу засыпаў пытаннямі: чаму не ў Мінску, як вучоба, як сямейка маецца...

— Ну, Касьянавіч, вы мне гэтулькі пытанняў задалі, што і адказваць на якое не ведаю,— усміхнуўся Мамута, усцешаны ўвагаю і прыхільнасцю намесніка старшыні райвыканкома.— Пачну з таго, што вучобу я кінуў...

— Мусіць, жонка адклікала датэрмінова? — пільна зірнуў на яго Даўгалёў.

— Не так жонка, як дзеці. Напісала яна, што захварэў малы Юрка, самы меншы сын мой. Я і прыехаў. А тады падумаў, падумаў — і вырашыў не ехаць. Цяжка быць студэнтам, калі дома чацвёра дзяцей... Завочна паспрабую... А цяпер хачу вярнуцца ў сваю школу. Месца там пакуль што вольнае. Можа, каго падшукалі? Пайду зараз у райана, разведаю...

Даўгалёў зразумеў настаўніка правільна і не прымусіў яго прасіць дапамогі.

— Мне прасцей разведаць,— і зняў трубку тэлефона.

Загадчык райана быў на месцы, яго кабінет знаходзіўся ў гэтым жа будынку, на другім паверсе. Пачаў Даўгалёў размову так:

— Іван Архіпавіч, скажы мне, калі ласка, якія ў нас школы яшчэ не ўкамплектаваны? Так, так,— Даўгалёў запісваў на паперы назвы школ, хмурыў лоб, потым зірнуў на Мамуту, нібы размова зайшла пра яго.— А што ў нас у Хатынічах? А заяўку давалі. Хто гэты вайсковец? Без спецыяльнай адукацыі? Тут трэба падумаць... У мяне во сядзіць Мамута. Так, Пётр Еўдакімавіч. Кажа: не хачу вучыцца, а хачу жаніцца. Ну, у яго ж чацвёра дзяцей, а на стыпендыю, сам ведаеш, не разгонішся... Не, сур'ёзна, ён хоча вярнуцца дамоў. Вучыцца будзе завочна. Дык з дарагой душою, кажаш? Зараз ён зойдзе да цябе...

Даўгалёў паклаў трубку, развёў рукі, быццам хацеў абняць праз стол Мамуту. Той, узрадаваны, падхапіўся.

— Ну, усё ў парадку. Ты правільна зрабіў, Пётр Еўдакімавіч. Сваіх дзяцей гадаваць трэба. Вучыць іх...— Даўгалёў памаўчаў, уздыхнуў.— Наша бяда, што ў школах цяпер вельмі мала мужчын... Я помню, да вайны настаўнік у вёсцы — самы паважаны і самы адукаваны чалавек быў. Перад ім яшчэ здаля мужыкі картуз сцягвалі, кланяліся. Вайна забрала багата людзей. Лепшых людзей... Давай, браток, прымай школу. Я таксама думаю паступаць на завочнае ў сельгасакадэмію. Быў сказаў Люсі сваёй, што паеду вучыцца, дык яна на мяне як узбурылася: што, кажа, гарадскія спадніцы захацеў панюхаць. Тое самае, кажа, і там, хоць і духамі пырскаюцца... Прыеду ў Хатынічы, зайду ў школу...

— Прыязджай, Касьянавіч,— перайшоў непрыкметна на «ты» і Мамута.— Прыязджай, госцем бу-

дзеш. За лета хачу лазню сабе паставіць. У мяне ж за хатаю ручай Канчанскі, бярэзнік, салоўка спявае. А вада крынічная, як крышталь. Ведаеш, братка, мне ў Мінску сніліся нашы Хатынічы, Бесядзь, школа наша...

— І жонка, канечне, снілася,— не то спытаў, не то сцвердзіў Даўгалёў.— Тацяну я тваю помню. Першая прыгажуня ў Хатынічах... Ды і ты ж, Пётр Еўдакімавіч, не зломак...

Мамуту раптам кінула ў жар, ён хутчэй падхапіўся, падзякаваў Даўгалёву і сігануў у калідор.

...Была марозная студзеньская раніца, калі Пётр Еўдакімавіч ішоў у школу. Выбраўся ён з дому амаль на гадзіну раней. Тацяна ўслед за ім выйшла ў сенцы:

— Нічога не забыў?

— Ды не, здаецца. Хіба што цябе не пацалаваў...

Тацяна прыхінулася да яго, пачала горача цалаваць: пры дзецях яны ніколі не цалаваліся.

— Я так рада, што ты вярнуўся...

У Мамуты зашчымела сэрца, даўкі камяк падкаціў да горла, хацелася абдымаць і мілаваць жонку, і ў той жа час прамільгнуў успамін: круглыя белыя плечы Юзі на белай падушцы, чырвоныя поўныя губы... Ён рашуча пацягнуў за клямку дзверы, удыхнуў на вуліцы марознае паветра і шырокім, бадзёрым крокам пакіраваў да школы. У клас увайшлі ўдваіх: ён і Ганна Мікітаўна. Дзеці дружна падняліся за партамі. «Як выраслі яны за гэты час!» — міжволі падумаў Пётр Еўдакімавіч.

— Добры дзень, дзеці. Сядайце. З сённяшняга дня вас будзе зноў вучыць Пётр Еўдакімавіч...

— Ура! — крыкнуў нехта на задняй парце. Некаторыя дзеці заўсміхаліся.

— Ну вось, бачыце, Пётр Еўдакімавіч, як вучні радуюцца, што вы вярнуліся да нас,— павярнулася да яго Ганна Мікітаўна.

Мамута бачыў па тварах дзяцей, што яны ўзрадаваліся яго прыходу. Праўда, яны ўсе ўжо ведалі аб ягоным вяртанні, бо ён жа выступаў у клубе з дакладам. Але яго непакоіла Ганна Мікітаўна. Няўжо яна не хацела стаць загадчыкам школы? Ён прыслухоўваўся да яе голасу, быццам хацеў пачуць у ім ноткі шкадавання. Але не, нічога такога ён не пачуў.

— Ну што ж, Пётр Еўдакімавіч, тады з вашага дазволу я пайду. Жадаю вам поспехаў! — светла-карыя,

бы спелыя жалуды, вочы зірнулі на Мамуту — суму і шкадавання ў іх не было.

Пётр Еўдакімавіч моўчкі кіўнуў, вучні зноў падняліся — развітваліся з настаўніцай.

Нейкае раўнівае пачуццё на імгненне варухнулася ў ім: вучні прывыклі да Ганны Мікітаўны, палюбілі яе. А здаецца, не так даўно — восенню сорак трэцяга, яна баялася зайсці ў клас, чырванела, як школьніца, а ён суцяшаў, што ўсё будзе добра, яна асвойтаецца, з яе выйдзе настаўніца, бо яна любіць школу і дзяцей... Здаецца, ён не памыліўся. Яго ўразіла, як упэўнена, свабодна адчувала сябе ў класе Ганна Мікітаўна, якая ўнутраная сіла чулася ў яе густым, бы трохі прастуджаным, грудным голасе.

Відаць, нялёгка яму давядзецца заваяваць аўтарытэт і павагу вучняў зноў. А ён, думалася з трывогаю, развучыўся за паўгода, не ведае, з чаго пачаць урок. Праўда, ён шмат чаго пачуў цікавага на лекцыях ва універсітэце, у тэатрах і ў кіно, шмат чаго перадумаў, перажыў. Ён адчуваў сябе іншым чалавекам, што іначай глядзіць на дзяцей, быццам стаў мудрэйшым, сталейшым і дабрэйшым.

Затое забыў, як завуць некаторых дзяцей з ягонага былога трэцяга класа. А як яны змяніліся! І сядзяць не там, дзе ён прывык іх бачыць. Побач з Андрэйкам Сахутам сядзіць — ён не паверыў сваім вачам — Ніна Вароніна, дачка паліцая.

Мусіць, Прося ўгаварыла Ганну Мікітаўну перасадзіць яе дачушку, падумаў Мамута, і нават узнікла жаданне пасадзіць яе зноў на апошнюю парту, але ён адгаварыў сябе ад такога паспешлівага кроку. Зрэшты, двойку можна ўляпіць ёй незалежна ад таго, дзе яна будзе сядзець. У першым класе ён часцяком ставіў ёй нават «калы», і гэтыя адзнакі былі заслужаныя, памылак на пісьме яна рабіла страшэнна многа, і ён ставіў двойкі і «калы» з асалодай, хоць у душы і адчуваў, што так рабіць нельга.

Іншыя вучні пісалі і вучыліся не лепшым чынам, але ёй, Варонінай, настаўнік ставіў двойкі з большай ахвотай, быццам помсціў за бацьку: «Збег некуды, гад. Не паспелі злавіць... Калі б не стараста Куцай-Гарнец, то ён бы справадзіў мяне на той свет. Ды і людзей баяўся. Хадзілі чуткі, што і Прося адгаворвала яго...»

Пётр Еўдакімавіч згледзеў, што Андрэйка Сахута

ва ўсе вочы пазірае на яго, а Нінка сядзіць, нізка схіліўшы твар, сцялася ўся, нібы ў чаканні ўдару, крыўды. «Бедная дзяўчынка, ці ж яна вінаватая... А я, як той дурань, злосць на ёй зрываў»,— упікнуў сябе настаўнік, падсунуў бліжэй класны журнал і пачаў пераклічку. Амаль кожнаму вучню ён нешта гаварыў, пытаўся, хто як вучыцца, што ў каго дома, якія змены. Прозвішча Варонінай было недалёка ў спісе, ён пастараўся назваць гэтае прозвішча спакойным, роўным голасам, як і іншых дзяцей выклікаў. Нінка паднялася хуткім рыўком, нібы яе падштурхнула спружына, зірнула на яго, і Пётр Еўдакімавіч аж здрыгануўся — гэтулькі недзіцячага суму, устрывожанасці было ў вялікіх шэрых вачах. «На маці падобная. І вочы Просіны»,— адзначыў Пётр Еўдакімавіч і нечакана для сябе сказаў:

— І Ніна падрасла. Малайчына. Ты цяпер і вучыцца павінна лепш. Андрэйка калі што якое... дапаможа. І другія дзеці...

Вароніна зноў зірнула на яго і хуценька села, нізка схіліўшы твар. Настаўніку заманулася падысці да яе і пагладзіць па галаве, але ён стрымаўся, вырашыў, што так выдзяляць яе будзе непедагагічна, але даў сабе зарок памагаць ёй, не крыўдзіць дарэмна, бо яна такая ж сірата, як шмат хто іншыя.

Аднойчы ўранні на першым уроку Пётр Еўдакімавіч спытаў у дзяжурнага, хто адсутнічае. Той назваў некалькі прозвішчаў. У гэты час дзверы ціха адчыніліся — на парозе стаяў задыханы, расчырванелы Андрэйка Сахута.

— Дазвольце зайсці? — сказаў ён і апусціў вочы.

У адной руцэ хлопец трымаў шапку, у другой — двухлітровы графін, абшыты зеленаватай матэрыяй. Да матэрыі была прымацавана вераўчаная ручка, да яе прывязаны корак, чорны, гумовы. Цераз плячо вісела торбачка з кнігамі, пашытая з салдацкай пілоткі.

Пётр Еўдакімавіч усё зразумеў і хутчэй аўтаматычна, чым свядома, знарочыста спытаў:

— Чаму ты спазніўся, Сахута?

— Я малако здаваў...

— Трэба раней выходзіць з дому.

— Я выйшаў рана. А там чарга. Сянні бралі аналізы на тлустасць.

— Сядай. Старайся болей не пазніцца.

Андрэйка ціха пасунуўся да свайго месца. Калі ён падышоў да парты, Ніна спрытна ўзяла з ягоных рук графін і паставіла на акно, размаляванае марозам. Мамута заўважыў гэта. Бач ты, якая шустрая, падумаў ён. Можа, і правільна зрабіла Ганна Мікітаўна, што пасадзіла іх побач.

Скончыліся ўрокі, празвінеў апошні званок, Андрэйка схапіў сваю торбачку з кнігамі і, падхоплены адзіным парывам, разам з усімі выбег на вуліцу.

— Сахута, графін забыўся! — пачуліся ззаду галасы.

Андрэйка схамянуўся, павярнуў назад. Ніна несла яго графін.

— Дзякуй табе,— Андрэйка ўзяў сваю пасудзіну, але бегчы ўжо не адважыўся, бо можна разбіць, а паціху пасунуўся дамоў.

Настрой быў сумны. Кожны дзень здаваць малако, выстойваць чаргу. Прыёмшчыца Матруна Махавікова, родная сястра лесніка Захара, жыла ў невялікай хаціне на той бок Канчанскага ручая, гэта трэба пераходзіць мост, потым бегчы на ўрокі. У хату з раніцы набівалася поўна людзей, і ўсе спяшаліся: каму на работу, у каго ў печы паліцца або дзеці малыя адны засталіся. Усе як на вуголлі. Здаралася, іншым разам жанчыны прапускалі яго наперад. Учора Параска крыкнула ад парога:

— Матруна, прымі во ў хлопца малако. А то на заняткі яму бегчы трэба. У яго ж памеранае,— і падштурхнула малога ў плечы: — Ідзі смялей.

Матруна, круглатварая жанчына ў белым фартуху паверх куфайкі, убачыла яго.

— Вылівай малако ў бітон. Давай кніжачку...

Андрэйка пачакаў, пакуль яна ўпісала ў кніжку два літры малака, і бягом памчаў у школу, разам са званком убег у клас. А сёння Матруна пачала наліваць малако ў маленькія бутэлечкі, каб зрабіць аналіз, вызначыць працэнт тлустасці, а то кажуць, што некаторыя малако разводзяць вадою,— дык хлапчуку давялося прастаяць у чарзе паўгадзіны.

Дома Андрэйка паскардзіўся маці, што сёння спазніўся ў школу: здаваў малако і што графін забыўся, што іншыя дзеці не носяць малака, ідучы са школы бегаюць, коўзаюцца, дурэюць.

— Сынок мой любы. Няма каму ў нас яго насіць.

Бацька на рабоце. Ваську ў Зарэчча ў школу ісці. Няблізкі свет. Я пакуль гаспадарку дагледжу, у печы выпалю, есці навару, дык Матруна павязе малако ўжо ў Саковічы. Ды ета ж праз усю вёску трэба ісці дзеля етага... А ты ўжо заадно. Графінчык жа не такі ўжо і цяжкі,— угаворвала маці.

Андрэйка ўсё разумеў, але ўсё роўна было крыўдна, што няма яму вольніцы ні зімой, ні летам. Па абедзе сеў за ўрокі. Спачатку ён заўсёды рашаў задачы. Траляліся складаныя па шэсць-сем дзеянняў. Але рашаў ён задачкі хутка, з азартам. Потым выконваў пісьмовыя практыкаванні. Чытанне пакідаў на вечар, а цяпер падвязаў канькі і да цёмнага насіўся па раскоўзанай дарозе, бо лёд на лузе занясло снегам.

Пад вечар, калі Андрэйка накатаўся, адвязаў канькі, разуў буркі і залез на печ пагрэцца, у хату ўвайшоў бацька, а за ім і дзядзька Парфір. Маці чысціла шкло ад лямпы.

— А дзе ж ваш грамацей? — павітаўшыся, спытаў дзядзька.

— На печы сядзіць. Налётаўся на коніках. Распацеў, відаць. Хай трохі абсохне, адагрэецца,— сказала маці.— Чуеш, Андрэйка? Не спіш там?

— Не, не сплю,— высунуў хлапчук віхрастую галаву з-за коміна.

— Злязай, у даміно згуляем,— усміхнуўся дзядзька.

Андрэйка мігам скаціўся з печы, дастаў з этажэркі, што стаяла на куце, завешаная набожнікам, каробачку з даміно.

— Дык удвух жа нецікава. Тата, можа, ты будзеш? — сын павярнуўся да бацькі.

— Гуляйце з дзядзькам. Я во грубку распалю. Нанач мароз бярэцца,— бацька пайшоў па дровы.

Удвух гуляць у даміно сапраўды нецікава. Партнёры набіралі па чатырнаццаць пласцінак. Дзядзька ўмеў лічыць хутка і адразу бачыў, што ёсць у яго партнёра. Але сёння ён быццам знарок паддаваўся пляменніку — прайграваў. Андрэйка дзівіўся, нават узрадаваўся. Праўда, гулялі яны нядоўга. Дзядзька адсунуў пласцінкі ад сябе.

— Можа, хопіць? Другім разам згуляем. Вось ты, Андрэйка, бога не прызнаеш. Ты — піянер, табе нельга вучыць малітвы. А то ж во — парцейцы ёсць, якія ве-

руюць у рэлігію,— дзядзька Парфір зірнуў на бацьку, нібы прасіў ягонай падтрымкі.

— Якія ж яны парцейцы? Такіх няма,— не згадзіўся Андрэйка.

— Чаму няма? Вунь Іван Вулькін. Сырадоеў каторы, фінагент. Быў хросным бацькам у Пёклы з Парцюкоўкі. Дзіця хрысціў. Вось табе і камуніст,— ухмыльнуўся дзядзька.— Во каб у райком накатаў заяву. Далі б яму прачуханку. А то парцеец, называецца...

— Можа, ета няпраўда? — усумніўся хлапчук, бо Івана Сырадоева ён паважаў, у душы быў вельмі ўдзячны яму за канькі.

— Як няпраўда? Чэсны бог! Усё так было. У Парцюкоўцы ўсе пра ета гавораць. Кум — парцеец. Ой, трэба б яго падаткнуць. Ці ж так можна? Як на сходзе, дык ён крычыць, усіх павучаець, як трэба рабіць. А сам гоніць самагонку, на хрэсьбіны ходзіць...

— Дык і вы ж самагонку гоніце,— не здаваўся хлапчук.

— Калі ты бачыў? От, балбочаш абы-што,— заступілася за дзядзьку маці. Спачатку яна ўсё прыслухоўвалася да гутаркі, мяшаючы бульбу парсюку, а цяпер вырашыла падаць голас.— А Вулькін расшалудзіўся. Як надзене сваю хворму, дык, здаецца, ідзе і нікога не бачыць. Расступіся руда — гразь плывець...

Андрэйка сам, калі ўбачыў Івана Сырадоева ў цёмна-зялёным шынялі з бліскучымі гузікамі, у прыгожай фуражцы, дык аж спыніўся ад здзіўлення. Іван падышоў да яго, павітаўся, спытаў, як справы ў школе, як бегаюць канькі. «Ён добры. Але чаму ўсе на яго? Няўжо і праўда ён быў за кума? Угаварыла Пёкла... Ну і што калі быў? Але ж людзі цяпер гавораць»,— разважаў Андрэйка.

— Трэба б пісануць у райвон,— гнуў сваё дзядзька.— Бяры ручку, даставай сшытак...

— А не пападзе за ета? — павярнуўся ад грубкі бацька.— Як дазнаецца Іван, будзе помсціць.

— Як жа ён дазнаецца? Падпісваць жа мы не будзем. Грамадзянін Энскі. Напісана школьным почыркам. А колькі ў вёсцы дзяцей! Ты, Андрэйка, пару памылачак зрабі, каб не падумалі, што нейкі выдатнік нашрайбаваў,— даводзіў Парфір.

— Не буду я пісаць. Не хачу! — падхапіўся з-за стала Андрэйка.— Нячэсна так... рабіць.

— Чаго ты спужаўся? Нячэсна, кажаш? А патураць усякім прахадзімцам — па-твойму, чэсна? — насядаў дзядзька.

— Іван — не прахадзімец. Ён канькі мне прывёз.

— А, вунь яно што! Ты за конікі гатовы яму ўсё дараваць. Калі ён пачне красці, людзей абдурваць, дзяржаву нашу, дык і за ета будзеш яго хваліць? Не бойся, пішы. Ты ж піянер. Даваў клятву змагацца за ўсё наша, савецкае? Даваў. А тут спужаўся... Я калі гавару што пра бога, дык я ж беспартыйны. А ён жа камуніст. Уступіў у партыю, каб захапіць сабе пасаду. А ты яго абараняеш...

Андрэйка прыгадаў, як перапісваў на аркуш са сшытка ў клетачку піянерскую клятву. Яму далі для ўзору нечую «клятву», акуратна прыгожымі круглымі літарамі напісаную, па баках аркуш быў размаляваны дробненькімі кветачкамі. Мабыць, рабіла гэта дзяўчынка. Андрэйка старанна перапісаў і таксама размаляваў кветачкамі, з любасцю, прыгожа. Ён успомніў пра гэта, слухаючы дзядзьку.

Хлапчук не мог даўмецца, чаму дзядзька такі злы на Івана. Не ведаў ён, што Парфір сам хацеў стаць фінагентам, але яго не паставілі, бо мае толькі чатыры класы адукацыі, ды і стараваты ўжо, за паўсотню пераваліла, таму яго пакінулі прадагентам, а на пасаду фінансавага прызначылі Івана Сырадоева.

— Ета ж яго Свідэрскі ўпхнуў,— гнуў сваю лінію далей Парфір.— А на мяне Свідэрскі сярдзіты. Я ж у райвоне выступіў. Сабраў нас Акапян у райкоме і пытае: «Як, таварышы, план будзе?» Усе маўчаць, чухаюцца. А я кажу: «План будзе, калі ў нарыхтоўках парадак будзе».— «Што хочаш сказаць, душа любезны? Гавары канкрэтна». Ну я і рубануў: «Справядлівасці няма. Сельсаветчыкі прыкрываюць сваякоў розных. А з беднай салдаткі сем шкур лупяць. А канкрэтна я тут не магу сказаць. Не ўзяў з сабою запісаў. Баюся, што наблытаю». Тады Акапян зірк на ўпаўнаважанага па нарыхтоўках Жмуроўскага: «Міхаіл Сямёнавіч, разбярыся. Выслухай чалавека». Болей, кажа, няма пытанняў? Значыць, план павінен быць. Вы свабодны... І паўгадзіны не была нарада. Раз план будзе — вы свабодны.

— Ну, і правільна. А чаго анцімоніі разводзіць? — падышоў да стала бацька.

— Дык вось пасля таго мы і патрэслі Шкурдзюка Панаса,— ухмыльнуўся дзядзька.

Пра Апанаса Шкурдзюка, цыбатага, даўгалыгага мужчыну, міма хаты якога Андрэйка штодня бегаў у школу, ён шмат чуў ад маці. Яна неяк расказвала, што нібыта Апанас гады тры назад украў у Параскі кабана. Яна пайшла з Данькам у госці ў Лясковічы, папрасіла Хадору, каб тая ўвечары і ўранні пакарміла парсюка. Увечары Хадора дала яму есці, а назаўтра прыходзіць, а кабана і след прастыў. Потым і маці начамі сядзела ля акна, пільнавала свайго. Звечара яна клалася спаць, а потым уставала, запальвала капцілку-шахцёрку і прала на верацяно, бо яно не дае шуму. Бацька пасміхаўся з яе, маўляў, да нас ніхто красці не пойдзе, а яна яму сваё: «А помніш, вясной бульбу з пограба выграблі?» — «Дык мяне ж тады не было дома. Я на лесасплаве быў». Але маці ўсё роўна начамі сядзела ля акна, пакуль не закалолі парсюка. І таму Апанаса хлапчук не шкадаваў.

Расказ дзядзькі пра тое, як ён выступіў на нарадзе, зрабіў на хлапчука моцнае ўражанне, і калі дзядзька падсунуў зноў яму сшытак, Андрэйка не адпіхнуў яго, а задумаўся.

— Не ламай галаву, як пісаць. Я табе прадыктую,— прыкмеціў дзядзька сумненні пляменніка і пайшоў у наступ больш рашуча.— А ты не выводзь літары. І каб памылкі былі. Тады на цябе не падумаюць... Ніхто не дазнаецца.

— Ну, калі не падпісвацца, дык яно, можа, і трэба чыркануць. Пішы, сынок,— сказаў бацька.

Андрэйка макнуў у чарніліцу ручку, чыркануў на прамакатцы, каб не было кляксы, схіліў галаву і вывеў першыя літары...

А тым часам Пётр Еўдакімавіч правяраў дома сшыткі. На каленях у яго сядзеў Юрка і няўцямна ўглядаўся ў тое, што было накрэмзана на паперы. Пётр Еўдакімавіч хмурыўся, злаваў, бо столькі памылак нарабілі вучні ў дыктоўцы. Ён ужо стаміўся выпраўляць іх чырвоным чарнілам. І тут яму трапіў сшытак Ніны Варонінай. Прачытаў уважліва і здзівіўся — усяго тры памылкі. Законная тройка. Ён трохі падумаў і вывеў вялікую чацвёрку і збоку маленькі мінус. Хоць і з мінусам, але ж чацвёрка. Уявіў Просю, прычым не тую,

усохлую, худую, якую бачыў днямі, а маладую, вясёлую, прыгожую.

«Хто мог падумаць, што так жыццё павернецца?» — уздыхнуў настаўнік, беручы наступны сшытак. На каленях турзаўся Юрка, прасіўся далоў. Пётр Еўдакімавіч ссадзіў на падлогу сына, узяўся чытаць дыктант, а думкі яго былі далёка... Прачытаў і не паверыў сваім вачам: ніводнай памылкі. Ён зноў перачытаў — усё правільна.

— Хто ж гэта такі грамацей? — узрадаваўся настаўнік, зірнуў на вокладку сшытка.— Ага, Сахута. Малайчына, Андрэйка.

Настаўнік з радасцю вывеў вялікую прыгожую пяцёрку.

## X

Кароткі зімовы дзень дагараў, калі ў праўленне калгаса «Пяцігодка ў чатыры гады» заехаў старшыня Белагорскага сельсавета Свідэрскі. У доўгім кажусе ён здаваўся мажным, тоўстым, цяжкавата падняўся з саней, кінуў заінеламу ад марозу коніку бярэмца сена, патупаў валёнкамі на ганку, атрасаючы снег.

Макар Казакевіч быў у канторы, невялікай хаціне, пабудаванай на ўзгорку за Канчанскім ручаём. Візіту Свідэрскага ён не прыдаў асаблівай увагі, бо той заўсёды ездзіў у сваю Мамонаўку-Парцюкоўку па гэтай дарозе. Далей на ўзгорку да вайны стаяла школа, якую спалілі немцы. Казакевіч і кантору прапанаваў будаваць тут, каб праз нейкі час і новую школу паставіць на ранейшым месцы між бярэзніку, каб і хатыніцкім і мамонаўскім дзецям было аднолькава хадзіць. А потым перанесці сюды клуб, а можа, пабудаваць новы, большы, з бібліятэкай і залай для кіно і танцаў. Ведаў пра гэтыя планы і Свідэрскі, абедзвюма рукамі падтрымліваў іх, бо клапаціўся і пра сваіх дзяцей, якіх у яго была поўная хата: жонка хадзіла зараз шостым дзіцем.

— Макар Тарасавіч, я да цябе па справе,— павітаўшыся, сказаў Свідэрскі.

Казакевіч пільна зірнуў на худы, заклапочаны і хмурны твар старшыні сельсавета:

— Мог бы і без справы завярнуць, міма едучы. А то

ўсё толькі па неадкладных, важных справах ездзіш,— у Казакевіча быў добры настрой, і, убачыўшы сумны твар Свідэрскага, ён у глыбіні душы паспачуваў яму.— Не каб прыехаў, пляшку на стол. Маўляў, рабочы дзень скончыўся, на вуліцы мароз. Давай, Тарасавіч, трохі сагрэем душу... Глядзіш, і жыццё палепшала б, і надвор'е пацяплела б...

— Вось як план лесанарыхтовак выканаем, тады заеду з пляшкай. Нават дзве пастаўлю.

— Ого, калі тое будзе! — прысвіснуў Казакевіч.— Абяцанкі-цацанкі, а дурному радасць...

— Я сур'ёзна, Макар Тарасавіч,— госць падціснуў тонкія вусны, бо словы «калі тое будзе» канчаткова пераканалі яго: старшыня калгаса зусім не дбае пра лесанарыхтоўкі, а яго, Свідэрскага, могуць сурова пакараць за невыкананне плана. Ён добра помніў, што былога старшыню сельсавета знялі за зрыў плана лесанарыхтовак.— Трэба выпраўляць становішча. Лесанарыхтоўка — важная палітычная кампанія.

— А хто супраць? Ці хто не разумее етага? Усіх мужчын, хто можа трымаць у руках сякеру, мы адправілі ў лес.

— Вазіць трэба. Зрываецца план вывазкі!— павысіў голас Свідэрскі.

— Спярша трэба зваліць дрэва, абцерабіць сучча, размераць, папілаваць, кляймо паставіць. Адным словам, нарыхтуем, тады будзем вазіць,— спакойна сказаў Казакевіч і дадаў з усмешкаю: — Бабу і тую адразу не кульнеш, угаварыць трэба... А дрэва яно, брат, невядома куды ляжа, куды голле яго пацягне...

Свідэрскі не прыняў жарт, яшчэ болей сціснуў губы, жаўлакі захадзілі на шчоках.

— Макар Тарасавіч, сёння званіў Пракапенка з раёна. Такі разнос учыніў мне. Будзе і табе на арэхі. План вывазкі зрываем. Тое, што ляжыць у лесе, не ідзе ў залік. Што здадзена сплаўканторы, тое наша. І трэба ўсе сілы кінуць зараз на вывазку...

— А каго я кіну? — павысіў голас Казакевіч.— Баб пашлю з малымі дзецьмі? Жонку тваю адпраўлю? Ці сам з адной нагою, як бусел, буду сігаць там па дзялянцы?

— Ты маю жонку не чапай! — ускапіўся раптам Свідэрскі, і яго худы твар зрабіўся белы як палатно.

Казакевіч мацней сціснуў мыліцу, што стаяла каля акна, і працадзіў праз зубы:

— Раман Піліпавіч! Калі ты прыехаў вырашаць справы, дык давай будзем вырашаць. А калі ты прыехаў крычаць на мяне, дык вон адсюль!

Свідэрскі крута павярнуўся, грукнуў дзвярыма, заплятаючыся ў доўгім крыссі кажуха, ледзь не кульнуўся з ганка, адвязаў каня, уваліўся ў вазок, рэзка ўзмахнуў бізуном. Спалоханы конь ірвануў з ходу, і сані панесліся. На белым снезе засталося сіратлівае бярэмца сена, пераеханае полазам.

«Тваю маць...— ціха вылаяўся Казакевіч.— Прыехаў, сапсаваў настрой. Я ўжо цэлы тыдзень думаю пра лесанарыхтоўкі. Сані з падсанкамі адрамантаваны. Усе, хто можа, у лесе... Трэба заўтра з'ездзіць, паглядзець, што там робіцца»,— вырашыў старшыня калгаса. Іхнюю размову чулі бухгалтар і рахункавод, што сядзелі за перагародкаю ў суседнім пакойчыку, і ад гэтага на душы была яшчэ большая прыкрасць.

Уранні Макар Тарасавіч заехаў у краму да Сямёна Чукілы, купіў з дзесятак бляшанак кансерваў, паўпуда селядцоў — якраз напярэдадні прывезлі з сельпо.

— Што ў вас за свята, Макар Тарасавіч? Можа, імяніны? — дапытваўся крамнік.

— Ой, не пытайся. Па любові памінкі,— сумна пажартаваў Казакевіч.— Ты выпішы мне паперу для справаздачы. Еду ў лес. Падкарміць трэба людзей. Дарэчы, план я дапамог табе выканаць?

— Трохі падмаглі, Макар Тарасавіч. Каб яшчэ пяток такіх пакупнікоў,— бліснуў устаўным зубам крамнік.— Дык я б у перадавікі выскачыў.

— Просьба да цябе, Сямён. Давядзецца на пару дзён закрыць краму. У суботу і нядзелю. Аб'явім ударнік па вывазцы лесу. Буду прасіць і дырэктара школы... Усіх паднімем. Бацька твой не зможа? Як ён пачувае сябе?

— Стары ўжо. Куды яму... Хаця калі нагрузіць, дык ён лейцы трымаць будзе. Пагавару з ім.

Крамнік склаў у мяшок пакупкі, укінуў іх у старшынёўскі вазок. Макар Тарасавіч прыкрыў мех сенам, захутаўся ў кажух, зручней уладкаваўся: дарога няблізкая, а дзень марозны, з ветрам. Сеяўся дробны, калючы, бы шрот, снег. На лузе дарогу перамятала, але конік бег спраўна, і неўзабаве вазок уехаў у лес. Тут

было ціха. Высозныя сосны і елкі абступалі добраўкатаную і злёгку прыцярушаную снегам дарогу. Конь задаволена зафыркаў і пабег шпарчэй, хоць фурман і не тузаў лейцы.

Сцішаны заснежаны зімовы лес з маленства вабіў і чараваў Макара Казакевіча. Бялюткая, зіхатлівая чысціня — усе пні, гнілыя, трухлявыя, і тыя стаяць пад снегавымі шапкамі і выглядаюць малайцамі-лесавікамі. Усялякае ламачча, гнілое прэлае лісце — усё прыхарошана, заслана пульхнай бялюткай коўдрай.

А якое паветра ў зімовым лесе! Дзе яшчэ можа быць такое свежае, чыстае, з водарам хвоі, бярозавай кары паветра?! Удыхнеш, аж ноздры трапечуць і зліпаюцца. І ўсё цела ахоплівае бадзёрасць. Сэрца весела тахкае ў грудзях, кроў мацней пульсуе ў жылах. А як хораша думаецца ў зімовым лесе! Дробязнае і нікчэмнае, нібы асядае на сподзе душы, затое ўсплываюць думкі пра вечнае і высокае, пра мінулае і пра будучыню.

Макар Казакевіч задумаўся і не ўгледзеў, як даехаў да Гарбатага моста. Мосцік так сабе: нячэсанае бярвенне накідана на тоўстыя калоды. Цяпер і ён, зацэментаваны снегам і марозам, не грукатаў, вазок лёгка праслізнуў па ім. Гэты масток добра ўрэзаўся Макару ў памяць. Ён нават прыцішыў каня, каб лепей агледзецца. Вось, здаецца, тое месца, але цяпер не было тут ухабаў, нават невысокі насып высіўся з левага боку дарогі. А тады...

Міжволі прыгадалася... Было гэта яшчэ да калгасаў. Разам з Мацвеем Сахутам паехаў Макар вазіць лес. Абое былі заўзятыя гаспадары, заядлыя працаўнікі, а за лес плацілі добрыя грошы, то яны выпіналіся з усяе сілы, каб зарабіць паболей. Мацвей прапанаваў: коні ў нас ёсць, сані знойдзем яшчэ адны, запражом па двое саней. Нагрузім удвух бярвенні, адзін наперадзе ў санях, кіруе канём, а другі на задніх, а двое ўсярэдзіне будуць самі ісці. Так і зрабілі. Ускацілі бярвенне на сані, увязваць як след не было калі, паехалі. Мацвей паперадзе, затым двое саней без седакоў, і ён, Макар, на апошнім возе. Пакуль нагрузіліся, угрэліся, тут трохі перавялі дых, седзячы на санях. Пад'язджалі да Гарбатага моста, дарога збягала ў нізіну, і ля моста ўправа заносіла. Мацвей стрымліваў першага каня, упіраўся ў сані і пераехаў даволі ўдала. Потым кінуўся да другіх саней, ды не паспеў — сані занесла на ўхабе,

падсанкі перакуліліся, бярвенні скаціліся... Ото папоўзалі яны па глыбокім снезе, пакуль ускацілі бярвенне назад. Перапpавілі гэты воз, потым трэці, удвух прытрымліваючы сані, беручы як мага больш улева. Апошні воз не ўтрымалі: конь ірвануў, і сані занесла. Шчасце Мацвея, што ён паспеў адскочыць, а то збіла б з ног бервяном і мог бы скалечыцца. Зноў давялося высільвацца, каціць лясіны на сані.

Калі яны прыцягнуліся да сплаўканторы, ужо ацямнела, прыёмшчык збіраўся дамоў, грэўся ля цяпельца, дзе ў прысаку было некалькі бульбін. Ён добра ведаў Мацвея, дапамог разгрузіцца, пачаставаў лесавозаў печанай бульбай. Адсапліся яны трохі, абсушыліся, дасталі з хатулёў сала, хлеб, пачалі смажыць на лаўцах.

О, якое смачнае было тое сала, падсмажанае на лясным зімовым вогнішчы! Духмянае, пякуча-гарачае з халодным хлебам, прапахлым марозам і снегам. Падсілкаваліся, акрыялі Макар і Мацвей, цёмначы паехалі дамоў. Болей яны не ездзілі на дваіх санях з падсанкамі.

Цяпер, седзячы ў вазку, Макару падалося, што ён чуе пах таго смажанага сала. Ён шумна пацягнуў носам паветра, аж зліпліся ноздры: марозік не здаваўся, ціснуў і ўдзень. Дарога была раз'езджаная, але вялікіх ухабаў пакуль што не павыбівалі.

На лесасецы было тлумна, не раўнуючы бы на кірмашы ў Саковічах, толькі спеваў ды музыкі не хапала. Праўда, спявалі тут пілы, стукалі тапары, трашчалі дымныя вогнішчы, на якіх палілі галлё. Старшынёўскі вазок здаля ўгледзеў Мацвей Сахута — ён быў прызначаны адказным за лесанарыхтоўкі, пайшоў насустрач. Макар спыніў каня, бо ехаць між пнёў было рызыкоўна. Тым часам падышоў Мацвей, павіталіся. З усіх бакоў пацягнуліся да старшыні хатыньчане. Ён дастаў з-пад сена мех, падаў Сахуту. Той развязаў, пачаў выцягваць бляшанкі кансерваў, разгарнуў скрутак з селядцамі.

— Закусь добрая, Макар Тарасавіч. А той вадзіцы, што гусі не п'юць, не прывёз? — падсунуўся бліжэй Арцём Шандабыла.

— На вадзіцу, як ты кажаш, купіла не хапіла,— усміхнуўся старшыня.— Ты ж — брыгадзір, павінен быў пра ўсё паклапаціцца.

— Дык яно, брат-значыцца, трохі было. Можа, ка-

лі патрэсці біклажку, што ў дзеда Гылігора, то нешта і нацэдзім,— падміргнуў Шандабыла Цімоху Емяльянаву, які адной рукой, прыціснуўшы паперчыну да кульці, скручваў цыгарку.

— Ну, як тут у вас справы? — Казакевіч павярнуўся да Сахуты.

— Як бачыш. Павалілі многа дрэў. Вазіць ёсць што. Трэба пачынаць. Пакуль дарога стаіць...

— А ведаеш, я во ехаў і ўспомніў ля Гарбатага моста, як мы з табой на чатырох санях удвух вазілі лес. Помніш?

— Хіба ж такое забудзеш? — уздыхнуў Сахута.— Я тады ледзь без ног не застаўся... Во як працавалі. А вы цяпер кажаце, што вам цяжка...

— Вы скажыце дзякуй калгасу. Значыцца-брат, каб не ён, не калгас, многія б ужо шлунне сваё парвалі,— важка сказаў Арцём Шандабыла, прыкурваючы ад Цімохавай цыгаркі.— Гуртам лацвей рабіць. Вайна тармазнула, а то жылі б мы ўжо прыпяваючы...

— Ну дык што, браткі, заўтра пачынаем вазіць лес,— павярнуў размову ў іншае рэчышча Казакевіч.— А ў суботу і нядзелю аб'явім чырвоны ўдарнік. Паднімем усіх хатыньчан. А то нас дзяўбуць ужо за невыкананне плана.

— Сюды б таго, хто дзяўбе,— ухмыльнуўся Цімох.— Хай бы тапаром памахаў... Некалі Акапян з намі дзесяць дзён укалваў. І спаў з намі ў зямлянцы, і еў... А цяпер не відаць яго...

— Цяпер не той час. Тады вайна ішла. Калі добра ўсё наладзім, справімся з планам,— упэўнена сказаў Мацвей Сахута.

На лесасецы быў свой катлапункт, жанчыны варылі гарачы абед. Прыдаліся і кансервы, якія прывёз старшыня калгаса, і селядцы. Цімох пажартаваў, што пасля такога абеду будзе смага, а яму з адной рукою кепска, нават снегу не хапанеш.

— Ты языком наліжашся,— падсміхнула Параска.

— Снег — вада. А вада — не гарэлка, многа не вып'еш,— Цімох ускінуў сякеру на плячо і пайшоў па вырубцы, сігаючы цераз паваленыя дрэвы.

Старшыня калгаса павесялеў, падумалася: добра, што прыехаў, ды не з пустымі рукамі, цяпер ён сам ведае, што і як тут, і колькі зроблена, і як настроены лю-

дзі. Ён нават усміхнуўся, згадаўшы ўчарашнюю сутычку са Свідэрскім. «От з'ездзіў бы ён сюды, пабыў на дзялянках усіх калгасаў і зразумеў бы, каго трэба падганяць. Тады б ведаў, што сказаць раённаму начальству».

Макар Тарасавіч прадчуваў, што размовы з начальствам яму не мінуць, бо Свідэрскі абавязкова паскардзіцца Пракапенку, каб на ўсялякі выпадак мець адгаворку: старшыня калгаса «Пяцігодка ў чатыры гады» не паслухаўся ягоных прапаноў, сарваў план вывазкі лесу, важнай палітычнай і гаспадарчай кампаніі. У Свідэрскага ўсе кампаніі былі палітычныя: і падпіска на пазыку, і вясновая сяўба, і жніво, і ўборка бульбы... Думкі Казакевіча перапынілі Мацвей Сахута і Арцём Шандабыла: яны яшчэ раз перамералі выпрацоўку, прыкінулі разам са старшынёй калгаса, як лепш арганізаваць вывазку драўніны, каб і нарыхтоўка не спынялася.

Нізкае чырвонае сонца вісела над белымі стрэхамі Канчанскага боку, калі старшынёўскі вазок выкаціўся з лесу на прыбяседскі поплаў. Наперадзе два хлапчукі везлі на саначках чурбаны дроў і смалістыя корчыкі. Дарогу перамяло, і малыя ўпіраліся з усіх сіл, цягнучы свае вазы. Снегу тут набіла многа, і Казакевіч не стаў зварочваць каня, каб абагнаць малых дрывасекаў.

— Хлопцы, стойце! — крыкнуў Казакевіч.

Вецер быў з поля, у твар хлапчукам, і яны не пачулі. Казакевіч пад'ехаў бліжэй, крыкнуў мацней. Задні дрывасек азірнуўся — гэта быў Андрэйка Сахута. Спыніўся і першы фурман — Данька Парасчын. Расчырванелыя, што снегіры, хлапчукі цяжка дыхалі, Данька выцер рукавом сусолку ля носа, спалохана зірнуў на старшыню.

— Прывязвайце свае вазы да саней. Падвязу,— крыкнуў ён.— А зараз звярніце трохі набок, каб праехаць...

Хлапчукі спрытна прывязалі свае санкі, скокнулі ў вазок. Андрэйку старшыня пазнаў адразу, а ў Данькі запытаўся:

— А ты чый будзеш?

— Параскі Баханьковай сын. Данька.

— Матка ж твая ў лесе. З кім жа ты жывеш?

— А я начую ў цёткі Хадоры. А ўранні іду дамоў, таплю печ, карове сена даю, парсюка кармлю...

«А мой жа ты гаспадар маленькі»,— Казакевіч прыхінуў да сябе хлапчука, уголас сказаў:

— Малайчына, Данілка. Пацярпі трохі. Матка скора вернецца. І твой бацька, Андрэйка, таксама прыедзе. Ён вам перадае прывет. Я сянні бачыў яго і тваю матку, Данілка. Яны багата ўжо лесу навалілі. От цяпер вывезем яго да Бесядзі і закончым лесанарыхтоўку.

Тым часам пераехалі Бесядзь. Старшыня павярнуў каня не ўлева, да кузні, гэты шлях яму быў бліжэй, а ўзяў правей, па ледзь прыкметнай сцежцы, каб цераз правулак ля выгана выехаць на дарогу, а там хлопцам зусім будзе блізка. Макар Казакевіч распытаў хлопцаў, як яны вучацца, якія ўрокі любяць, здзівіўся, пачуўшы, што Андрэйка любіць усе прадметы, але найбольш геаграфію. Любімай навукай Данілкі аказалася гісторыя. Як толькі выехалі з правулка на дарогу, хлопцы заварушыліся, а Данька сказаў:

— Тут мы самі. Па дарозе лёгка везці.

— Ну, шчасліва, лесарубы! — памахаў ім старшыня.

Назаўтра ўранні дзяўчына-рахункавод сказала Казакевічу, што яго шукаў па тэлефоне старшыня райвыканкома Пракапенка, прасіў пазваніць яму. Казакевіч узяўся круціць ручку тэлефона, галёкаць у трубку, выклікаючы пошту, якая павінна злучыць яго з райвыканкомам. У трубцы чуліся трэск, нейкае папіскванне і доўгія гудкі. Ён павесіў трубку, пачыкільгаў у свой кабінет, не паспеў сесці за стол, як рэзка затрашчаў тэлефон. Рахункавод зняла трубку і неўзабаве паклікала Казакевіча.

— Макар Тарасавіч, вас... Той самы, здаецца, што ўчора званіў. А мо я памыляюся, бо чуваць кепска.

Праз шум і несціханы трэск ён пазнаў голас Пракапенкі.

— Здароў, Макар Тарасавіч! Што ты там бушуеш? Ты што, не прызнаеш савецкую ўладу?

— Уладу я прызнаю, Антон Яўсеевіч. Жыццё за яе аддаць гатовы. А вось некаторых яе прадстаўнікоў... Я б паслаў далёка, куды мой цёзка Макар і цялят не ганяў...

— Ты ўлічы, што ў сельсавеце пяць калгасаў. Ваш,

хатыніцкі, самы моцны эканамічна. І ты раптам падводзіш. Зрываеш план. Што тады гаварыць пра іншыя?

— Мы сянні пачынаем вазіць лес і праз дваццаць дзён выканаем увесь план.

— Ну, мілы мой, калі вы сянні толькі пачалі, то вы і за месяц ці справіцеся,— усумніўся Пракапенка.

— Мы нарыхтавалі тры чвэрці плана лесу. Цяпер кінем усе сілы на вывазку. А некалькі чалавек будуць валіць дрэвы. І праз дваццаць дзён я вам дакладваю...

— Што ж, паверым. Дай божа нашаму цяляці ды ваўка спаймаці,— голас у Пракапенкі павесялеў, бо лесанарыхтоўкі яго таксама вельмі непакоілі.— А са Свідэрскім ты не заядайся. Ну, пагарачыўся чалавек. Мы яму даём накачку...

— Каб етыя накачкі памагалі справе, то мы б даўно разбагацелі. Кантралёраў, рэвізораў, упаўнаважаных у нас хапае... А толку з етага мала.

— Ну вось што, Макар Тарасавіч, калі праз дваццаць дзён выканаеш план — пахвалім, а не — будзем біць.

— Гэ, у мяне ёсць чым адбівацца. Нага адна, затое мыліцы дзве. Магу накастыляць, будзь здароў. Ды і што ета за жыццё! Раней мучыў пан, а цяпер — план,— Казакевіч чуў, як рагоча на тым канцы провада Пракапенка, і таму яшчэ дадаў: — Прыехаў бы калі, Аўсеевіч, а то даўно не бачыліся... Сядзіш там у паперах...

— Прыеду, як дні падаўжэюць. А то не паспееш азірнуцца, ужо цёмна. Ды і спраў усялякіх — па самае горла. І ўсе неадкладныя, паперы грозныя. Тэрміновыя...

— А ты неадкладвай на заўтра, што можна зрабіць паслязаўтра. Асабліва, браце, сустрэчы нельга адкладваць.

— Улічу, Макар Тарасавіч. Ну, бывай здаровенькі...

Казакевіч павесіў трубку, зірнуў на дзяўчат, якія ціха пасміхаліся ў рукаў, і сам заўсміхаўся.

— Ну што, паедзеце лес вазіць?

— Паедзем, Макар Тарасавіч! — дружна адказалі яны.

Старшыня калгаса падумаў, што карысці з іх будзе ў лесе як з казла малака, але раптам успомніліся Андрэйка і Данілка, што везлі на санічках дровы. Вясковыя людзі з маленства прывучаны да цяжкай пра-

цы. І калі гэтыя дзяўчаты галлё будуць складваць у кучы, паліць іх або есці звараць — і то падмога. Некаторыя грузіць лес дапамогуць, бо ўскаціць бервяно на сані лягчэй, чым на калёсы. А на стале ў старшыні ляжаў спіс, як ён гаварыў: рэзерв галоўнага камандавання. Былі ў тым спісе настаўнік Мамута, крамнік Сямён Чукіла з бацькам, ляснік Захар Махавікоў, фінагент Іван Сырадоеў...

— Эх, каб я быў на нагах! Усіх бы падняў і сам бы першы паехаў,— уздыхнуў Макар Тарасавіч.

Раніца ў нядзелю, на радасць Казакевічу, была ціхая і светлая. Хатынічы і пасёлак Мамонаўка абудзіліся ад скрыпу палазоў. Усе ехалі ў лес. На кожных санях сядзела па некалькі чалавек: мужчыны, жанчыны, дзяўчаты. На першых санях ехаў старшыня калгаса Макар Казакевіч.

А праз нейкі час з Хатыніч ціха выехалі яшчэ тры лесарубы: Андрэйка, Данілка і Паўлік, якому таксама захацелася прывезці смалякоў і хворасту. Той раз малым дрывасекам пашанцавала: амаль дадому іх давёз старшыня калгаса.

Апошнія дні ішоў снег. У лесе ён быў глыбокі, вышэй каленяў. Хлапчукі вельмі стаміліся, пакуль насеклі смаловых карчоў, бо яны цвёрдыя, як жалеза, сякера адскоквае ад іх. Напачатку Андрэйка лёгка махаў сякерай, потым угрэўся, зняў вязёнкі, адчуў халоднае, выслізганае далонямі тапарышча, ямчэй ухапіўся за яго. Здаецца, моцна замахваўся, сек з усяе сілы, але цвёрдае смаловае карэнне не паддавалася. Будзёнаўка наязджала на вочы, пот ліў градам.

Давялося Андрэйку зняць і шапку. Ён стаміўся, цяжка дыхаў, а корч усё не паддаваўся, моцна трымаўся ў зямлі. Хлапчук размахнуўся з усяе сілы і секануў тоўсты корань, корч адразу кульнуўся набок. Наверх на санкі хлапчукі накідалі галля, насеклі хворасту — у печы ўсё згарыць. Увязалі свае вазы вяровачкамі. Данілка прыхапіў двума старымі ручнікамі, звязнымі вузлом. І паехалі.

У лесе было добра. Па ўкатанай дарозе санкі беглі лёгка, а як выехалі на луг, у твар ударыў калючы халодны вецер-сібірнік, палазы быццам прыцягваў магнітам настылы снег, а карчы пацяжэлі. Санкі так цяжка рухаліся, ногі аж падгіналіся ад напружання, дрыжалі калені, вяроўка ўразалася ў жывот скрозь

куфайку. І так хацелася спыніцца, перадыхнуць. Але спераду, угнуўшыся, цягнуў санкі Паўлік. Ён нагадваў аднаго з бурлакоў з карціны Рэпіна, што ёсць у падручніку па рускай літаратуры. Адзаду кашляў, бухаў, як у бубен, Данілка. Калі пераехалі Бесядзь, Андрэйка спыніўся, бо не мог далей цягнуць санкі. Сеў на хворост перадыхнуць. Спыніўся і Данілка. Паўлік азірнуўся, кінуў санкі, падышоў да іх:

— Што, прысталі, рысакі?

— Нагу нацёр,— зманіў Андрэйка.— Анучы, відаць, збіліся і муляюць,— хлапчук і сапраўды адчуў, што нешта муляе ў левай бурачцы.

— Можа, снегу ў буркі набілася? Мае во лапці не баяцца ніякага снегу. Толькі ваду прапускаюць,— пахваліўся Данілка сваімі лапцямі.

— А мае чуні, дык і вады не баяцца. Віцька так шчытна іх сплёў... Піць так хочацца,— Паўлік хапануў жменю снегу.

— Выкінь снег! А то будзеш пярхаць, як я,— строга сказаў Данілка.— Цярпі. Блізка ўжо. Ну што, паехалі?

— Давай тваё санкі зрушым з месца, а то палазы прымерзлі. А тады з Паўлікам мае. А Паўліку я памагу,— разважыў Андрэйка.

— Я сам. Мне лягчэй па накатаным услед за вамі,— не згадзіўся Данілка, зноў закашляў, патупаў да сваіх санак.

Андрэйка пайшоў следам за ім, удвух яны лёгка скранулі маленькі, але такі цяжкі воз, калі цягнеш адзін. Паўлік дапамог Андрэйку, а той падштурхнуў Паўлікавы санкі. Дрывасекі паехалі далей.

У вёсцы, ля выгану, Паўлік павярнуў налева, а два сябрукі пасунуліся направа, на Шамаўку. Каля сваёй хаты Андрэйка спыніўся, нібыта каб развітацца з Данілкам, а на самой справе ў яго не было ўжо змогі ўсцягнуць санкі на ўзгорак ля варотцаў.

— Давай падсоблю ўсцягнуць! — крыкнуў Данілка.

— Я сам. Адчыню зараз варотцы,— цяжка пераստаўляючы ногі, якія зрабіліся нібы ватныя, Андрэйка падышоў да варотцаў, адчыніў, і так яго пацягнула ў цёплую хату. Ён ведаў, што Ваські дома няма, паехаў з дарослымі ў лес. Маці прала кудзелю на самапрадцы, а з ляжанкі прыўзняла галаву Марына.

— А, лесаруб з'явіўся! Стаміўся, Жэўжык? — ласкава спытала сястра.

— Зірніце, колькі я прывёз дроў! — з гонарам сказаў хлапчук і, зняможаны, апусціўся на парог.

А потым быў доўгі зімовы вечар. Вярнуўся з лесу бацька, стомлены, абсыпаны снегам, на валёнках снег намёрз белымі жалудамі. Бацька зняў армяк, ватоўку — гімнасцёрка на плячах была мокрая, аж дымілася парою. Андрэйка сядзеў на печы і з любасцю пазіраў, як бацька разуваецца, шкадаваў яго — ён так намарыўся, бо сам ужо зведаў, як цяжка працаваць у лесе, і яму захацелася пахваліцца, што і ён прывёз поўныя санкі дроў. Але зірнуў на Ваську, які прываліўся да сцяны і павольна разматваў, нібы аддзіраў ад ног, намерзлыя абмоткі, выкалупваў снег з бацінак. Старых вайсковых абмотак Васька не любіў, але бацька прымусіў яго абкруціць імі ногі, каб цяплей было.

— От уладзілі вы вярнуцца,— увайшла ў хату маці з бярэмам дроў.— Вецер-сібірнік усхадзіўся. Акурат з поля, як нож, рэжа.

— За ноч усе дарогі пазабівае,— сказаў бацька, здымаючы гімнасцёрку.— Сычас ляжанку пратопім. Чаю з салам нап'ёмся. Намудохаліся мы з Васькам сянні...

— Ці ж толькі вы? Андрэйка вунь прыцягнуў санкі смалячча. Марына прыйшла з дзяжурства ледзь жывая,— уздыхнула маці.— Добра, што завідна ўсе вярнуліся. Во буран скыгочыць, ёсць табе сабака...

Андрэйка прыслухаўся і пачуў, як гудзе вецер у коміне.

— А дзе ж наш Жэўжык? — спытаў Васька.

— Я тут. Грэюся на чарэні,— хлапчук басанож шуснуў з печы.

— Абуй, сынок, атопкі. Масніцы халодныя. Застудзішся,— бацька падсунуў яму абрэзкі старых валёнак.

Васька пачаў жартаваць: не можа быць, каб Андрэйка змог прывезці поўныя санкі дроў. Малодшы брат з крыўдай даводзіў, якія цяжкія былі санкі, які глыбокі снег. Васька хмыкнуў, маўляў, тваё санкі, як пушынка, ён з бацькам калоды варочаў. Андрэйка разумеў, што калоды цяжкія, але не мог пагадзіцца і з тым, што ягоныя санкі былі лёгкія. Наспявала спрэчка, яе перапыніла Марына.

— Андрэйка, зірні, якую кніжку я прынесла. На сталe ляжыць...

Хлапчук вопрамеццю кінуўся да стала, з хваляваннем узяў у рукі белую халаднаватую кніжку, на вокладцы якой цямнеліся вусатыя коннікі, вялікія літары: Леў Толстой «Казаки».

— Што ж ты раней не сказала? Я б ужо столькі прачытаў,— трохі з крыўдай, з прыхаванай радасцю сказаў Андрэйка.

— Забылася. Паспееш, начытаешся яшчэ...

— Ты дзякуй скажы, а не дакарай,— падаў голас бацька.

Марына не прызналася, што яна знарок не сказала пра кніжку, каб ён адагрэўся на печы, а то сеў бы ля акна чытаць, бо добра ведала братаву прагу да чытання. Дровы ў печы разгарэліся, чырвонае зыркае і цёплае святло трапяталася ў паўзмроку. Хлапчук падсунуўся бліжэй да печкі, разгарнуў кніжку... і забыўся пра ўсё на свеце. І вось ён ужо з нейкім Аленіным едзе на Каўказ...

Пасля вячэры Андрэйка ўладкаваўся за сталом пры лямпе-шахцёрцы. Усе ляглі спаць, а ён чытаў. Калі перагортваў старонку, агеньчык палахліва ўздрыгваў, гатовы патухнуць,— лямпа была без каўпака,— потым зноў сцішана свяціў, толькі патрэскваў кнот.

— Тушы лямпу, хлопец! Што ты сабе думаеш, неслух? Карасін увесь выпаліў. Заўтра будзе час. Начытаешся,— сонным голасам сказала маці.

Гэта было ўжо не першае папярэджанне, і таму хлапчук моўчкі хукнуў на лямпу — і ўсё ахуталася цемраю. Вецер скуголіў яшчэ мацней, быццам прасіўся ў цёплую хату, сыпаў снегам у балонкі. Андрэйка ўгледзеўся за акно і ўбачыў, як віхор узняў белы вірлівы слуп снегу і закруціў яго па двары. Слуп увачавідкі рос, кружыўся, быццам велізарны ваўчок, узнімаўся ў цёмнае неба. «Буря мглою небо кроет, вихри снежные крутя; то, как зверь, она завоет, то заплачет, как дитя, то по кровле обветшалой вдруг соломой зашумит...» Андрэйка слухаў завыванне ветру, яму падалося, што ён чуе, як вецер шамаціць саломаю, і ўпершыню адкрыў для сябе, як проста, праўдзіва, здорава сказана ў гэтым вершы. Ён чытаў яго ўголас, калі завучваў, чытаў на ўроку ў класе і не заўважаў чароўнай музыкі і геніяльнай прастаты пушкінскага вер-

ша... Падумаў з радасцю, што заўтра сціхне завея і можна будзе з гурбаў катацца на санках да саменькага вечара. «Здароў, марозны, звонкі вечар! Здароў, скрыпучы, мяккі снег! Мяцель не вее, сціхнуў вецер, і волен лёгкіх санак бег...» — усплылі ў памяці радкі Максіма Багдановіча.

Хлапчук пашкадаваў, што няма ў яго кніжкі Пушкіна, Багдановіча, ёсць толькі пра лётчыка Марэсьева і маленькая кніжыца без вокладак пра смелага хлапчука з Парыжа — Гаўроша. Яе Андрэйка таксама прачытаў некалькі разоў, але не ведаў, што гэтыя старонкі — маленькая частка вялікай кнігі французскага пісьменніка...

А ў гэты час у Мамонаўцы-Парцюкоўцы ўкладваўся спаць Макар Казакевіч. Нага разбалелася: намучыў за дзень — і цяпер яе нібы рвалі сабакі. Каб суцішыць боль, ды і сагрэцца знутры, кульнуў Макар чарку перад вячэраю і цяпер, засынаючы, слухаючы шалёны вой завірухі, з радасцю падумаў: «Ладнага мы сянні ўхапілі лесу. Выканаем план... Засталося меней... Здужаем...»

Спрадвечная завея шалела над Хатынічамі.

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, люты 1950 г.*

*1. Гродна. Закончана будаўніцтва электрастанцыі ў калгасе «Перамога» Шчучынскага раёна.*

*3. Вена. Паводле звестак, якія паступілі з Лінца, амерыканскія ўлады маюць намер перавезці з Аўстрыі ў ЗША дом, дзе нарадзіўся Гітлер.*

*16. Шанхай. Паведамленне аб падпісанні ў Маскве савецка-кітайскага Дагавору аб дружбе, саюзе і ўзаемнай дапамозе Шанхай сустрэў з велізарнай радасцю.*

*23. Полацк. Калгасы Полацкага раёна, датэрмінова выканаўшы сезонны план нарыхтовак і вывазкі лесу, абавязаліся ў чэсць выбараў у Вярхоўны Савет СССР вывезці 1000 кубаметраў лесу звыш плана.*

*24. У Мінск прыехалі прадстаўнікі Усесаюзнага Дома гуказапісу. Яны зробяць запісы новых твораў беларускіх кампазітараў, народных песень.*

## XI

Свідэрскі толькі прыехаў з Мамонаўкі, увайшоў у свой катух-кабінет, распрануўся, павесіў на тоўсты цвік доўгі кажух, як увайшла загадчыца аддзялення сувязі — пошта і сельсавет месціліся ў адным будынку, падзеленым перагародкаю на дзве паловы.

— Раман Піліпавіч, вам тэлефанаграма. З райкома. Толькі што прыняла,— і падала аркуш са школьнага сшытка ў касую лінейку, на якім буйнымі круглымі літарамі было напісана: «Старшыні Белагорскага сельсавета Свідэрскаму і фінагенту Сырадоеву прыбыць заўтра 15 лютага к дзесятай гадзіне на бюро райкома...» Перадала Гаўрыленка.

Хто ў райкоме Гаўрыленка? Загадчык аддзела агітацыі і прапаганды. А чаму ж яна перадае тэлефанаграму і чаму раптам фінагента выклікаюць на бюро? Свідэрскі некалькі разоў перачытаў радкі, напісаныя буйным школьным почыркам. І чым больш чытаў, тым больш паўставала пытанняў. Ніколі за пяць гадоў яго работы не было выпадку, каб фінансавага ці харчовага агента выклікалі на бюро. Большасць агентаў былі беспартыйныя, караў і мілаваў іх упаўнаважаны па нарыхтоўках, а фінансавых — і загадчык райфа. Асабліва трывожыла, чаму перадавала тэлефанаграму Гаўрыленка? Свідэрскі прыгадаў, што дзён дзесяць назад яна прыязджала ў Хатынічы, заходзіла ў школу. Гэты візіт не выклікаў падазрэння: у школу вярнуўся былы загадчык, можа, яна прыязджала праверыць, як ён пачынае работу, бо на плечы Мамуты цяпер ляжа і лекцыйная і культурна-асветная дзейнасць.

Не, між тым прыездам Ніны Пракопаўны Гаўрыленка і гэтым выклікам на бюро сувязі не праглядвалася. Але трывога ўсё мацней забірала Свідэрскага. Здаецца, з лесанарыхтоўкамі пайшла справа. Хатыньчане ўжо выканалі план — Казакевіч слова стрымаў, услед за імі падцягнуліся іншыя калгасы. І тут гэты незразумелы выклік... Ён не мог дачакацца Сырадоева, каб папытаць у яго, можа, ён штосьці ведае.

Як толькі ўвайшоў Сырадоеў, як заўсёды, у форме: цёмна-зялёным шынялі, у фуражцы, нягледзячы на мароз, малады, расчырванелы, Свідэрскі падсунуў яму тэлефанаграму і, пакуль той чытаў, не зводзіў вачэй з ягонага твару, нібы спрабаваў адгадаць, убачыць,

прачытаць што-небудзь. Сырадоеў хуценька прабег вачамі радкі тэлефанаграмы, ніводзін мускул не здрыгануўся на ягоным твары, ні ценю заклапочанасці не прамільгнула. Ён пацісну плячамі, зірнуў на Свідэрскага:

— А чаму мяне? Якое там пытанне?

— Я ў цябе хачу спытаць. Можа, нашкодзіў дзе?

— Ды не. Нікога не прыбіў, не аблаяў. План за мінулы год выканалі. Мо якія новыя інструкцыі? Але чаму на бюро? Не разумею. Можа, новая падпіска на пазыку?

— Ну, не будзем гадаць. Трэба — значыць трэба,— заключыў Свідэрскі, нібы адсеяў і свае сумненні.— Выедзем раней. Каб гатовы быў...

Калі б цяпер Свідэрскі ўважліва зірнуў на Сырадоева, то мог бы ўбачыць устрывожанасць і непакой у маладых і ясных вачах фінагента.

«Няўжо дазналіся пра Вольгу?» — апякла яго думка. А яму ж здавалася, што ніхто не ведае і нават не здагадваецца пра ягоныя заляцанні да маладой кабеты. Пачалося гэта мінулым летам, пачалося нечакана. Неяк адвячоркам пайшоў Іван да Бесядзі, цалюткі дзень скародзіў у полі бульбу, наглытаўся пылу — пясок аж храбусцеў на зубах, напякло гарачае сонца. Ён [illegible] асалодаю кінуўся ў ваду. Ласкавая, мяккая вада роднай рачулкі люляла яго на сцішанай плыні.

Іван плаваў, ныраў, адчуваючы, як знікае стома, цела наліваецца бадзёрасцю, сілай. Ён вылез на бераг, са смакам выцерся льняным ручніком, азірнуўся вакол, убачыў жанчыну ў белай кофце, якая мыла каля пераходу бялізну. Захацелася прайсці паўз Бесядзь, бо вельмі ж прыемна было ступаць босымі нагамі па мяккай, халаднаватай ад расы траве. Здалёк ён пазнаў Вольгу, падышоўшы бліжэй, гукнуў:

— Здароў, Вольга!

— Ой, напалохаў ты мяне, Іван. Каб ты здароў быў,— яна разагнулася, загарэлаю, паўнаватаю, прыгожаю рукой адкінула з твару пасмачку валасоў, зірнула на яго. У другой руцэ трымала мокрую кашулю. Спадніцу падаткнула вышэй, былі відаць яе белыя круглыя калені.

— Цябе не надта напалохаеш,— сказаў Іван, не зводзячы вачэй з яе каленяў.

— Чаму? Шчыкоткі баюся...

— Няўжо? Праверым,— хлопец злаўчыўся і абхапіў яе за пояс.

— Ты што, здурнеў? Людзі кругом... Як агрэю зараз мокраю кашуляю, дык будзеш ведаць...

Хлопец зразумеў, што гэта не пустая пагроза, і таму адразу адскочыў.

— А, спужаўся,— зарагатала Вольга.

Яна весела глядзела на Івана, у яе невялікіх шэрых вачах нібы скакалі гарэзлівыя чорцікі. Іван, плячысты, шыракагруды, здавалася, што палінялая сіняя кашуля ў палоску аж трашчыць на ім, таксама смяяўся, паказваючы здаровыя белыя зубы.

— Давай паплаваем, Вольга...

— Я ж не ўмею плаваць. Ды і няма ў мяне етага... кусцюма купальнага, як у гарадскіх дзевак. Ты ж цяпер усё на гарадскіх заглядаешся... А мы — што? Не падыходзім ужо...

— А што там гарадскія? — хмыкнуў Іван.— Ты спытай у дзеда Гылігора пра іх. Неяк сабраліся мужчыны каля крамы, а дзед і кажа: «Быў у райвоне ўчора. Што ета за жанчыны цяперацька? Ножкі танюсенькія. Быццам дзве сярнічкі хто ў гарбуз уваткнуў. Як ёй і дзіця нарадзіць... Бывала, суседка Гапка запрагае каня, задзярэ нагу, каб хамут засупоніць, а ў яе між ног вецер, як у гарлачы: гу-гу-гу...»

— Ах, і бессаромнікі вы! І дзед, і ты еткі. От, каб анучаю мокраю перахрысціў,— Вольга гарэзліва зірнула на хлопца.

Тым часам сонца ўжо зайшло, над вадою падняўся бялёсы туманок, сцішана сплываў уніз па цячэнні. Вольга склала бялізну ў вядро, але не спяшалася ісці дамоў. Іван зноў пачаў угаворваць пакупацца.

— Хіба вунь там, каля ручая. Там хоць кусты ёсць... Ты пасядзіш на беразе, а я трохі акунуся.

Іван кіўнуў у знак згоды, узяў вядро з бялізнаю, яны пайшлі берагам ракі. Туман гусцеў, нібы кужалёвым покрывам захінуў увесь поплаў. Ля канюшні чуліся галасы, іржалі коні, у вадзе плёхалася рыба. Вольнай рукой Іван абняў Вольгу. Яна не адхінулася, сцішаная, нібы абмяклая, моўчкі ступала побач. Іван чуў, як моцна тахкае яго сэрца. Ля ручая Вольга хуценька скінула з сябе адзенне, асцярожна ўвайшла ў ваду, узмахваючы рукамі, нібы баялася ўпасці. У густым, белым, як малако, тумане Іван бачыў толькі яе цёмныя

рукі. Ён таксама распрануўся і ціха-ціха пайшоў следам за ёй.

— Якая вада! Цёплая, што сырадой! — усклікнула Вольга.

— Ага, цёплая,— ціха адазваўся Іван, падышоў да Вольгі, якая па грудзі стаяла ў вадзе.

— Ну, чаго ж ты сюды...

Дагаварыць яна не паспела — Іван закрыў ёй рот прагнымі губамі. Потым ён, нібы п'яны, цалаваў яе грудзі, халаднаватыя, тугія. Яна гладзіла яго валасы, шаптала на вуха:

— Баюся тут... Вадзянік які схопіць. Хадзем на сухое...

Ён падхапіў яе на рукі і панёс на бераг.

Цішыня стаяла вакол. Дзесьці падала голас перапёлка, за ракой азваўся драч: драп-драп, быццам прадзіраў праз асаку сабе сцежку...

Пасля таго купання ў тумане ўсё і пачалося. Для адводу вачэй Іван у адкрытую пачаў заляцацца да Валі, маладой дзяўчыны з Мамонаўкі, пляменніцы Свідэрскага. Старэйшы брат Свідэрскага, Хвядос, загінуў на фронце, засталося тры дачкі, Валя была старэйшая. Невысокая, танклявая, з доўгай русай касой, яна даўно прыглянулася Івану, ён зрэдку праводзіў яе пасля танцаў і раней, але жаніцца не збіраўся. Цяпер ён рашуча браў яе за руку і вёў на пасёлак. Пастаяўшы хвіліну-другую, сонна пазяхаў, маўляў, стаміўся за дзень.

— Дабранач, Валюха, пацягнуся дахаты,— таропка цмокаў яе ў шчаку.

Валя не затрымлівала яго, толькі яе вялікія вочы быццам маўкліва пыталіся: чаму ты так спяшаешся, чаму не хочаш пабыць са мной?

Мінуўшы крайнюю хату Мамонаўкі-Парцюкоўкі, зварочваў да Бесядзі, разуваўся, бо трэба пераходзіць Канчанскі ручай, а ён каля ўпадзення ў раку разліваецца шырока, потым цераз луг Іван бягом імчаў у Хатынічы, крадком стукаў у акно Вольгінай хаты... А калі на Градзі паставілі стагі, яны сустракаліся там... Зімою бачыліся рэдка, бо ў пуню не пойдзеш, а ў хаце сын, якому пяць гадоў ужо.

Што б ні рабіў Іван у той вечар перад паездкай на бюро райкома, усё думаў пра Вольгу, усё мацней брала трывога. «Калі што якое, скажу, што ажанюся з ёй. Я ж вольны, яна бязмужняя... Усынаўлю сына...» І тут

жа адганяў гэтую думку: а Цімох? А яго, Іванава маці, якая заўсёды асуджае Вольгу... «От, дурань, чаму не напісаў ёй з фронту... Хоць бы пару слоў... Як бы хораша жылі! Яна такая ласкавая, такая жаданая... А мо таму такая, што не муж я... А што рабіць з Валяй?..»

Выехалі з Хатыніч цёмначы. Ля Белай Гары развіднела, калі дабраліся да Баравухі, выкацілася з-за лесу чырвонае настылае сонца.

Свідэрскі захутаўся ў кажух, адчуваў, як мароз лезе за пазуху, хапае за нос, пакасіўся на Сырадоева, які сядзеў збоч у фуражцы, у шыняльку з паднятым каўняром, абшлагі якога пакрыліся бела-блакітным інеем. Свідэрскі згадаў, як сам тыя гады скрозь усю зіму хадзіў у жоўтым англійскім шынялі, бо другога не меў нічога, сёлета ўзбіўся на кажух, а як пацяплее, зноў давядзецца апранаць шынель.

— Ну, як марозік, прабірае? — выдыхнуў пару Свідэрскі.

— Хапае, каб яго ліха,— Сырадоеў сцепануў плячамі.— Прабягуся трохі, сагрэюся...

Ён саскочыў з саней, хрумстаючы снегам, бег услед за санямі. Задыханы, расчырванелы, зваліўся, нібы куль, на сена ў вазок.

У Лабанаўку прыехалі акурат перад пачаткам бюро, але ім сказалі пачакаць, бо першае пытанне іх не датычыць. Чакаць давялося з гадзіну. Сядзелі ў катуху прыёмнай, хадзілі па цемнаватым калідоры, бо акно на вуліцу замураваў мароз тоўстым слоем шызаватага інею-моху. Нарэшце з кабінета першага сакратара выйшлі тры чалавекі, апранаючыся працягвалі размову, не зважаючы на іншых.

— Таварыш Свідэрскі і таварыш Сырадоеў, заходзьце,— высунулася з кабінета Гаўрыленка, прапусціла іх наперад і зачыніла дзверы.

У кабінеце сядзела чалавек сем — членаў бюро. За сталом, накрытым зялёным сукном, схіліўшы кучаравую пасівелую, бы прыхопленую інеем, галаву, нешта пісаў Акапян. Ён зірнуў на Свідэрскага, кіўнуў яму:

— Праходзьце, таварышы, сядайце. Ну што, Раман Піліпавіч, мароз вас там не памарозіў у Белай Гары?

— У нас цяплей. Мы ж на пятнаццаць кіламетраў на поўдзень,— пажартаваў Свідэрскі, узрадаваны, што Акапян, здаецца, у добрым настроі.

— Праўду кажаш, душа любезны. Белая Гара — бліжэй да маёй Арменіі...

— Трэба туды райцэнтр перанесці. Белагорскі раён — гучыць,— падаў голас упаўнаважаны па нарыхтоўках Жмуроўскі, які сядзеў ля акна на вуліцу поплеч з Пракапенкам.— Белагорская крэпасць, як у Пушкіна.

— Лепей не трэба. А то ў нашых лясах і Пугачоў знойдзецца,— усміхнуўся Пракапенка.

— А Пугачоў некалі быў у Беларусі. Хаваўся ў лесе на Гомельшчыне ад царскіх улад,— аўтарытэтна засведчыў рэдактар газеты, лысаваты мужчына ў акулярах, які сядзеў паблізу Акапяна за сталом, прыстаўленым упрытык да акапянаўскага. Напроці рэдактара сядзела хударлявая, бледнатварая Гаўрыленка.

Свідэрскі прымасціўся на крэсле ў кутку, побач з ім на краёк другога крэсла прысеў Сырадоеў.

— Ну што, таварышы, пачнём? — Акапян зірнуў на Свідэрскага, потым на Сырадоева, затым павярнуў галаву да загадчыка аддзела агітацыі і прапаганды Гаўрыленкі, якая рыхтавала гэтае пытанне.— Давайце, Ніна Пракопаўна, дакладвайце.

Ніна Пракопаўна паднялася, трымаючы канверт з прыколатым да яго лістком са школьнага сшытка.

— У райком паступіла заява з вёскі Хатынічы. Подпіс — грамадзянін Энскі. Па сутнасці — гэта ананімка. Напісаў яе вучань ці вучаніца, бо почырк дзіцячы. Але стыль паперы даволі казённы. Відаць, напісана пад дыктоўку дарослага...

— Прачытайце заяву,— нецярпліва перапыніў яе Акапян.

Пачуўшы пра заяву, Сырадоеў увесь наструніўся, падумалася, што паскардзіцца мог Апанас Шкурдзюк, але ж не ён тут вінаваты, а прадагент Драздоў Парфір. Між тым Гаўрыленка чытала заяву, у якой гаварылася, што фінагент камуніст Сырадоеў Іван Ягоравіч верыць рэлігійным забабонам, нядаўна быў за кума на хрэсьбінах у грамадзянкі Петрачэнкі Пёклы, а муж яе прыходзіцца родным пляменнікам былому старасту, нямецкаму прыхвасню Ахрэму Куцаёву, які цяпер сядзіць у турме, што па вёсцы Сырадоеў ходзіць задраўшы галаву — так ганарыцца сваёй формай, што фінагент-партыец часта бывае п'яны і ў такім стане можа згубіць сумку з казённымі грашамі...

Сырадоеў пачырванеў як вараны рак. Чаго-чаго, а гэтага ён не чакаў, бо хрэсьбіны былі яшчэ летась, ужо і забыліся, у глыбіні душы мільганула радасць: пра Вольгу ні слова, і тут жа ўспыхнула і раздражненне, злосць на яе, бо гэта яна, Вольга, угаварыла яго пайсці кумам да сваёй сяброўкі Пёклы. Сырадоеў ёрзаў на крэсле, яму хацелася ўсхапіцца, крыкнуць, што гэта няпраўда...

А Свідэрскі, наадварот, супакоіўся, зразумеў, што яму нічога не пагражае, ну, наківаюць трохі, і нават са зларадствам ён падумаў: «А, даскакаўся, галубок. Цяпер я цябе прыцісну...» Ён рэкамендаваў Сырадоева на пасаду фінагента: хацелася яму, каб быў свой, хатыніцкі чалавек, малады, рухавы, паўплывала і тое, што Іван заляцаўся да пляменніцы Валі. Апошнім часам Свідэрскага злавала, што фінагент быццам бы не хоча парадніцца, не збіраецца ажаніцца з Валяй. Пра хрэсьбіны ён чуў ад жонкі, якая не прамінула і туды схадзіць. Вяскоўцы клікалі іх заўсёды і на вяселлі, і на хрэсьбіны, на любыя святы — як не паклікаць сваё ж начальства. Свідэрскі, бывала, не адмаўляўся, а іншы раз служба не адпускала, затое жонка хадзіла ўсюды. Пачуў ён ад яе, што нібыта фінагент «ходзіць» да Вольгі, і цяпер, калі атрымалі тэлефанаграму, калі ён пытаўся ў Сырадоева, мо нашкодзіў дзе, ён меў на ўвазе Вольгу.

Як толькі Гаўрыленка скончыла чытаць, Сырадоеў усхапіўся:

— Таварышы, ета не так было...

— Сядайце, Сырадоеў! — строга сказаў Акапян, і яго густыя чорныя бровы сышліся на пераноссі.— Мы дадзім вам слова... Вы ездзілі правяраць, Ніна Пракопаўна. Усё пацвердзілася?

— Хрэсьбіны былі. Таварыш Сырадоеў у якасці кума...

— Але ж у царкву я не ездзіў! — зноў вытыркнуўся Сырадоеў.

Акапян пагразіў яму пальцам, а Ніна Пракопаўна гаварыла далей:

— Праўда, п'яным Сырадоева ніхто не бачыў. Усе гаварылі пра яго, што ён ветлівы, акуратны, працавіты... І па службе ў яго заўваг няма...

— Усё ў вас, Ніна Пракопаўна? У каго пытанні да таварыша Сырадоева? — Акапян абвёў вачамі членаў

бюро і раптам нібы спахапіўся, зірнуў на Свідэрскага.— А дзе ваш парторг сельсавета?

Свідэрскі не чакаў гэтага пытання, не спяшаўся адказваць, і Гаўрыленка апярэдзіла:

— Парторгам у іх завуч Белагорскай школы. Яна хварэе зараз.

— Дык як наконт гарэлкі, таварыш Сырадоеў? — адарваў галаву ад папер рэдактар газеты.— Можа, вы зусім не п'яце? Можа, тут няпраўда напісана?

— Калі сказаць, што зусім не бяру, то і будзе няпраўда,— адкрыта і шчыра сказаў Сырадоеў і ўбачыў, як некаторыя члены бюро заўсміхаліся.— Ну, свята калі якое, госці... Ну, жывыя ж людзі...

— Гэта, канечне, правільна. Усе мы жывыя людзі,— спакойна, нетаропка загаварыў Пракапенка.— Але да камуніста патрабаванні асаблівыя. Мы павінны быць узорам і на службе, і дома. Увогуле ва ўсім жыцці... Дзе вы ўступалі ў партыю? І калі?

— Пад Берлінам. Вясною сорак пятага,— ціха сказаў Сырадоеў і дадаў: — Акурат перад наступленнем.

— І ўзнагароды ў вас ёсць? — зноў спытаў рэдактар газеты.

— Ёсць. Ордэн Славы трэцяй ступені, медалі...

— Вы сказалі, што не былі ў царкве. Вы лічыце, што гэта здымае вашу адказнасць за тыя хрэсьбіны? — спытаў упаўнаважаны па нарыхтоўках Жмуроўскі, кашлянуў у далонь, закінуў нагу на нагу, бліснуўшы новымі хромавымі ботамі.

— У царкве я не быў. Яны там без мяне хрысцілі... А ў хату зайшоў. Прасіла маці малога... Ну, бацька яе загінуў на фронце. Два браты ваявалі...

— А дзядзька мужа быў старастам? — зноў спытаў Жмуроўскі.

— Старастам-то ён быў, але шкоды людзям не рабіў. Невядома, каб другога паставілі каго, мо і горш было б,— Іван сказаў гэта з упэўненасцю, рэдактар падняў галаву і пільна зірнуў на яго. Гэты позірк і стрымаў Івана, каб не дадаць, што і яго выратаваў былы стараста, інакш паліцай Воронін прыкончыў бы. Замест гэтага ён сказаў: — Старасту ж не расстралялі. Людзі ўсе за яго...

— Ну, таварыш Сырадоеў, вы зараз пачняце тут усіх паліцаяў, усіх нямецкіх прыслужнікаў апраўд-

ваць,— жорстка сказаў Акапян.— Вам было пытанне, як вы самі расцэньваеце свой учынак?

— Я лічу, што паступіў няправільна. Ну, як вам сказаць? Не падумаў... Па нявопытнасці,— чырванеў, заікаўся, бы школьнік, Сырадоеў.— Болей такога не будзе...

— Будзем лічыць, што вы асазналі сваю памылку. І ўсё ж вы заслугоўваеце суровага пакарання,— Акапян зірнуў на гадзіннік.— У каго якія прапановы?

— Дайце мне слова,— падняўся Чэпікаў, загадчык райфа, які дагэтуль маўчаў як вады ў рот набраўшы.— Прашу мяне зразумець правільна. Не думайце, што я кідаюся абараняць свайго падначаленага ці абараняю гонар мундзіра. Але я павінен сказаць, што таварыш Сырадоеў — адзін з лепшых нашых работнікаў. Энергічны, патрабавальны. За кароткі час навёў парадак у Белагорскім сельсавеце. Цяпер там няма нядоімшчыкаў, сельсавет датэрмінова выканаў план. Сырадоеў мае ўзнагароды, баявы ордэн...

— Тое, што сельсавет выканаў план, заслуга не толькі фінагента,— перапыніў Чэпікава Акапян.

Свідэрскі з удзячнасцю зірнуў на першага сакратара райкома, бо лічыў, што яго заслуга ў выкананні плана большая, чымся фінагента. Ён згадаў той далёкі вечар, калі выступаў на калгасным сходзе і як пасля таго Акапян папрасіў яго зайсці ў райком, прапанаваў выбраць Свідэрскага старшынёй сельсавета.

— Я згодзен, што гэта заслуга членаў выканкома, старшынь калгасаў, дэпутатаў сельсавета. Але калі б план быў не выкананы, то ў першую чаргу мы б спыталі з фінагента і пакаралі б яго. Значыць, калі ёсць поспехі, то і хваліць...

— Сцяпан Ігнатавіч, душа любезны, мы выклікалі сюды таварыша Сырадоева не для таго, каб хваліць,— павысіў голас Акапян.

— Я разумею гэта, Сяргей Хачатуравіч. Але і караць на падставе дзіцячай ананімкі... Мы будзем пладзіць ананімшчыкаў,— Чэпікаў свядома зрабіў упор на ананімшчыкаў, бо помніў, што і сам Акапян атрымаў некалі вымову за аднаўленне Дома культуры пасля ананімкі.

— Што вы прапануеце? Якое пакаранне? — нецярпліва спытаў Акапян.

— Гэта хай вырашаюць члены бюро.

— Ну, а ваша думка як непасрэднага кіраўніка Сырадоева?

— Думаю, што вымову трэба даць,— развёў рукамі Чэпікаў, маўляў, нічога не папішаш, вінават...

— Дазвольце мне,— апіраючыся на кульбу, падняўся Даўгалёў.

— Яшчэ адзін адвакат,— усміхнуўся Акапян.— Слухаем вас, Міхаіл Касьянавіч, давай, душа любезны...

— Я не збіраюся абараняць і хваліць таварыша Сырадоева. Але я таксама родам з Хатыніч. Ведаю іхнюю сям'ю і яго помню, калі ён без порткаў бегаў. Вымову за гэтыя хрэсьбіны, яму, канечне, трэба даць. Але на гэты выпадак варта паглядзець як на сігнал трывогі, што нам трэба палепшыць атэістычную работу. Бібліятэкі і хаты-чытальні вельмі рэдка і некваліфікавана займаюцца такой прапагандай. Ну, мяркуйце самі, якая-небудзь дзяўчынка пасля школы... Што яна можа? Выдаць і прыняць кнігу. А ў царкве служэнне... Уявіце сабе Саковіцкі сабор. Велічная будыніна. Поп, які скончыў духоўную семінарыю, хор пеўчых. Тут цэлы спектакль, добра пастаўлены. У ім усё прадумана, стагоддзямі адпрацавана...

Акапян слухаў Даўгалёва і зноў падумаў са шкадаваннем: дарэмна не настояў тады, каб выбраць Даўгалёва сакратаром райкома па ідэалогіі, паслухаўся Пракапенкі і Лугаўцова. Ён, канечне, на месцы і як намеснік старшыні райвыканкома: і культура, і асвета ў ягоных руках, але такога работніка варта мець у райкоме.

Потым выступала Азарава. Яна нібы адчула думкі Акапяна і таксама гаварыла аб паляпшэнні атэістычнай і ўсёй ідэалагічнай работы, што царква актывізуе сваю дзейнасць, што на ўсяночную ў Саковічы ідуць з усёй акругі, гаварыла аб ролі сельскіх інтэлігентаў, асабліва настаўнікаў у асветніцкай рабоце, аб вучобе кадраў, што і Сырадоеву пажадана вучыцца, раіла паступіць завочна ў тэхнікум...

— Ну што, будзем заканчваць, таварышы? А то зацягнулася наша пасяджэнне,— рашуча сказаў Акапян.— Значыць, ёсць прапанова аб'явіць таварышу Сырадоеву вымову. Другіх прапаноў няма?

— Я лічу, што трэба аб'явіць суровую вымову,— рэдактар газеты паправіў акуляры і дадаў: — А то мы

тут спіхнулі на актыўнасць царквы, на розныя аб'ектыўныя фактары. А дзе актыўнасць камуніста? Яго персанальная адказнасць, ідэйная перакананасць?

— Слушная прапанова,— ухваліў Акапян.— Тады галасуем. Хто за тое, каб аб'явіць таварышу Сырадоеву суровую вымову і запісаць яе ў картку, прашу галасаваць,— і сам падняў руку. Але галасавалі не ўсе члены бюро, ён спахмурнеў і сказаў: — Хто супраць? — убачыў адзінокую руку ўпаўнаважанага па нарыхтоўках і з непрыязнасцю падумаў: «І тут ён свае тры грошы ўсунуў».— Хто ўстрымаўся? — падняў руку Пракапенка.— «Ясна, гэты ў падтрымку Даўгалёва»,— і ўголас заключыў: — Большасцю галасоў камуністу Сырадоеву аб'яўляецца суровая вымова...

Устрымацца Пракапенку прымусілі нечаканыя развагі. Ён слухаў тлумачэнні разгубленага Сырадоева, выступленні членаў бюро і думаў: нарадзіўся новы чалавек, у сям'і радасць, прыйшлі сваякі, суседзі павіншаваць, падзяліць гэтую радасць. Спрадвеку так вялося... Мы кажам, што хрэсьбіны — перажытак мінулага. А што прапануем новага? Анічога. У сельсавеце афармяць паперы... Цікава, як у Арменіі адзначаюць нараджэнне дзіцяці? Пракапенка не раз чуў ад Акапяна, што армяне вельмі шануюць сваю гісторыю, мову, народныя звычаі. Значыць, ім гэта можна, а іншым? Паспрабуй загаварыць пра сваю гісторыю, родную мову — нацыяналізм.

Вось спытаць бы пра гэта ў Акапяна, як у Арменіі святкуюць нараджэнне дзіцяці? Мабыць, забыў ужо. Сваё забыў, а нашага не ведае, мала цікавіцца. Чужое... Дзень і ноч мы стараліся перасяліць людзей з бліндажоў і зямлянак у хаты. І Акапян стараўся, не шкадаваў сябе. Што праўда, то праўда. Але ж хата — гэта не толькі чатыры вуглы, вокны, дзверы. Гэта ж цэлы свет. Свет радасцяў і захапленняў, плач немаўляці і матчына калыханка, гутарка за вячэрай, песня за вясельным сталом і плач над труною...

Чорт пабірай, думаў Пракапенка, мы глядзім на чалавека як на сродак вытворчасці. Каб з цёмнага да цёмнага рабіў на калгасным полі, каб здаваў малако, мяса, яйкі, воўну, плаціў падаткі. Адным словам, вінцік, шрубка... Шрубка вялізнай машыны. Адну шрубку лёгка замяніць на іншую... Няўжо так? Людзі ж неаднолькавыя. У кожнага свой характар, свой розум. Кож-

ны — чалавек... А як ён жыве, гэты чалавек? Што ён думае, якія песні спявае? Цяпер ужо ад голаду ніхто не пухне, хоць улетку яшчэ і тугавата пракарміцца, да новага хлеба збожжа не хапае.

Пра хлеб мы думаем. А пра душу? Чым яна жыве, душа чалавечая? Чаму ў ёй спрадвеку месцяцца і дабро і зло? Як мала мы ведаем пра гэта... Вот жа нейкі гад угаварыў дзіця напісаць кляўзу. Хай бы сам выступіў на сходзе, калі такі змагар супраць рэлігіі. Дык не, цішком, як шаўка з падваротні. Адкуль гэта? Няўжо з тых даваенных часоў, калі пісанню гэткаму далі разгул? Я ж вот таксама не спытаўся ў Акапяна пра іхнія традыцыі, святы, пабаяўся, што не так зразумеюць... Вось пасля гэтых разваг Пракапенка і ўстрымаўся.

Калі засталіся толькі члены бюро, Акапян сказаў:

— Тут правільна гаварылі пра актыўнасць царквы. А што, калі нам закрыць саковіцкую царкву? Дапусцім, спачатку на рамонт. Памяшканне старое...

— Сабор пабудаваны амаль дзвесце гадоў назад. Помнік архітэктуры. Яго трэба берагчы. Будаваў яго не пан, а нашы людзі, продкі. Помнік іхняму ўмельству,— усхвалявана загаварыў Пракапенка.

— От зачынім і будзем берагчы,— катэгарычна, бы адрэзаў, сказаў Акапян.

— Слухай, Сяргей Хачатуравіч, у Арменіі разбураюць помнікі, саборы? — спытаў Пракапенка.

— А пры чым тут Арменія? Даўно там не быў, не ведаю.

— Думаю, што не разбураюць. І вайна не зачапіла. А ў нас да вайны самадуры палілі, разбуралі цэрквы, маёнткі. Маўляў, панскае. Потым вайна разбурала. А цяпер мы будзем давяршаць. Руйнаваць памяць народа,— яшчэ болей расхваляваўся Пракапенка.

— Антон Яўсеевіч, душа любезны, не разумею цябе. Ты што, супраць барацьбы з рэлігіяй? Супраць сталінскай палітыкі дружбы народаў? Так можна далёка зайсці,— Акапян сціснуў кулакі і ўпёрся імі ў стальніцу.— Нездарма некаторыя кіраўнікі... Да слова, Лаўрэнцій Фаміч Цанава пастаянна нагадвае пра палітычную пільнасць.

— Лаўрэнцій Паўлавіч Берыя — таксама. А ты, Сяргей Хачатуравіч, палітыку мне не прышывай. Вернасць савецкай уладзе я даказаў крывёю. І вернасць дружбе народаў. Мы з табою працуем не першы год.

Я лічу, што дружна працуем. А хіба паспрачацца мы не можам? — ніяк не мог супакоіцца Пракапенка.

— Чаму? Можам. От скажы, душа любезны, чаму ты ўстрымаўся?

Члены бюро моўчкі пераглядваліся між сабою. Азарава сядзела ўсхваляваная, з чырвоным тварам. Даўгалёў нервова кусаў губы: ён, мабыць, болей за ўсіх разумеў, што гэтая спрэчка можа кепска скончыцца для старшыні райвыканкома, чалавека, якога ён вельмі паважаў і нават любіў, як бацьку ці старэйшага брата.

— Устрымаўся таму, што вы,— Пракапенка чамусьці перайшоў на «вы»,— парушаеце партыйную дэмакратыю.

— Як гэта я парушаю? — твар Акапяна паступова бляднеў, цямнейшымі рабіліся густыя бровы, глыбей прарэзаліся зморшчынкі на белым лобе.

— Вы парушылі працэдуру галасавання. Спачатку паставілі другую прапанову на галасаванне. А потым першую...

У Акапяна ад здзіўлення акругліліся і зрабіліся зусім цёмнымі яго карыя вочы. Жмуроўскі зарыпеў новымі ботамі. Даўгалёў хацеў падняцца, але выпусціў кульбу, і тая ляснулася аб падлогу. У цішыні, якая ўсталявалася ў кабінеце, раптам пачуўся смех Акапяна.

— Толькі ўсяго? Ну, душа любезны,— рагатаў першы сакратар райкома.— Твая праўда, Антон Яўсеевіч. Прызнаю сваю памылку,— Акапян схіліў кучаравую галаву.— Але чаму не сказаў: давайце, маўляў, прагаласуем спачатку за першую прапанову, а потым за другую. Дык не, змоўчаў.

— Я не паспеў і спахапіцца, як ты ўжо руку падняў,— усміхнуўся Пракапенка, які ў душы ўхваліў хітрасць Акапяна: спусціць канфлікт на тармазах, жартам прыгладзіць, бо лепей худы мір, чым гарачая бойка.

...Тым часам старшыня сельсавета з фінагентам хадзілі па магазінах, раз ужо трапілі ў райцэнтр. Потым абедалі ў сталоўцы. Настрой у Сырадоева быў паганы, і яму так хацелася кульнуць кілішак, але прапанаваць Свідэрскаму выпіць ён не адважыўся. Пахапкам пасёрбалі капусты, з'елі па катлеце і паехалі.

— Здаецца, пацяплела. Глядзі ты, сонца свеціць і сняжынкі пырхаюць,— заначыў Свідэрскі.

У душы ён ціха радаваўся, што выклік на бюро райкома для яго абышоўся добра — толькі пажурылі, радавала і суровая вымова фінагенту: будзе больш паслухмяным, мо і ажэніцца хутчэй з ягонай пляменніцай.

— Хо, дык ета ж сянні стрэчанне! — падхапіўся Сырадоеў. Ён хоць і сядзеў побач, не мог ведаць, пра што думае сусед.— Зіма з вясною сустракаюцца. Якое сянні надвор'е, такая будзе вясна.

— Любіш ты, Іван, етыя прыхаметы, забабоны розныя,— ухмыльнуўся Свідэрскі.— Няўжо мала табе сянні дасталося?

Сырадоеў нічога не адказаў. Яго думкі зноў і зноў вярталіся да ананімкі: хто мог яе напісаць? Хто такі гэты школьнік, што выводзіў літары пад дыктоўку дарослага? Хто гэты бацька, «грамадзянін Энскі», які дыктаваў сыну ці дачцэ? Фінагент перабіраў па памяці ўсіх парцюкоўцаў і хатыньчан і не знаходзіў адказу. Падазрэнне пала на лесніка Захара Махавікова: можа, ён угаварыў свайго хлопца нашрайбаваць паперу, бо некалі ў лесе Іван схапіўся быў загрудкі з Махавіковым: ляснік прычапіўся, што лішніх пару дрэў ссек. Людзі разнялі іх. Потым паміры́ліся і чарку, здаралася, разам бралі. Няўжо ён успомніў старое? А мо Парфір? Дык я ж яму не замінаю, не перашкаджаю, ён займаецца сваёй работаю, ды і малога школьніка ў яго няма. Пра Андрэйку Сахуту ён і падумаць нават не мог...

Згадаў Вольгу. Зноў абудзілася прыкрае пачуццё, што яна ўцягнула яго ў гэтую гісторыю з хрэсьбінамі. Але прыгадалася і тое вячэрняе купанне ў Бесядзі, і гарачыя сустрэчы каля стагоў, і пачуццё прыкрасці знікла, больш таго, вельмі захацелася пабачыцца з Вольгаю, добра, што сёння ніхто пра яе не гаварыў, значыць, ніхто не ведае пра іхнюю таямніцу.

Не мог ведаць тады Іван Сырадоеў, што ён быў ужо на падазрэнні ў Свідэрскага. Аднойчы восеньскім вечарам той вяртаўся дамоў і пачуў ціхі стук у шыбіну Вольгінай хаты, убачыў, як мужчынскі цень матлянуўся да варотаў у пуню, і падалося, што на галаве чалавека была фуражка. Потым ціха рыпнулі дзверы хаты, Вольга з вядром пайшла ў пуню. Свідэрскі адразу падумаў на Бравусава, прысеў каля плота. Потым падумаў на лесніка Махавікова, і той носіць фуражку, але старааты ўжо. Па вуліцы ішлі дзяўчаты, гаманілі.

Галодны, стомлены за дзень і няблізкую дарогу з Белай Гары, ён пайшоў дадому, увесь час думаючы, хто гэта мог быць. Успомніўся і Сырадоеў, які зусім нядаўна атрымаў новую форму. Але ўпэўненасці, што гэта ён, не было, і Свідэрскі маўчаў.

## XII

З кожным днём усё раней прачыналася сонца. Вокны ўжо не замярзалі, не пакрываліся блакітным інеем, як у час зімовых канікул. Цяпер, калі прачынаўся Андрэйка, сонца вісела ўжо над лесам. Пасля Новага года яно падымалася акурат напроці хаты, але паступова быццам пасоўвалася ўлева, на ўсход, нібы кацілася да Бабінай Гары. Малы Сахута любіў гэты час, калі ўвачавідкі падрасталі дні. Ён паспяваў зрабіць усе ўрокі, а на двары было яшчэ відна. Апоўдні ўжо капала са стрэх, снег ля падмурка хаты быў «падзяўбаны» капяжом.

Вуліца горбілася сумётамі. Снег зляжаўся, коні і людзі ўтрамбавалі яго, удзень сям-там блішчалі лужынкі, за ноч яны пакрываліся лёдам, вада збягала, а тонкі лядок, белы і крохкі, гучна і звонка крышыўся пад нагамі.

Пад вечар Андрэйка часам падвязваў вяровачкамі свае снягуркі. Беглі яны добра па выслізганай палазамі дарозе, а з сумётаў можна было імчаць, бы з горкі. Падаў хлапчук рэдка — навучыўся за доўгую зіму шпарка лётаць на каньках, хоць па дарозе не разгонішся так, як па лёдзе, калі ён катаўся ад вёскі і да лесу, затое на дарозе няма палонак.

Цяпер Андрэйка падоўгу не катаўся: нацешыўся за зіму, і яму хацелася, каб хутчэй растаў снег, разлілася Бесядзь, тады б яны, хлапчукі, паплылі на лодцы ў лес. А там, на Бабінай Гары, расцвіце сон, падпусцяць яны бярозы, выдзяўбуць асінавыя карытцы і пачнуць збіраць бярозавік. А яшчэ хлапчук з нецярпеннем чакаў, калі вернецца з лесанарыхтовак бацька: усе хатыньчане ўжо вярнуліся, бо план выканалі, а бацьку ўгаварылі застацца працаваць прыёмшчыкам сплаўной канторы.

Неяк уранні маці сказала Ваську:

— Сынок, не забаўляйся нідзе пасля ўрокаў. Пры-

ходзь двору. Мучыцы трэба змалоць. Заўтра саракі. Напяку птушак, галушак.

— Саракі ўжо заўтра? О, здорава! — узрадаваўся Васька.— Не ўгледзеў, калі і зіма прамільгнула. Жэўжык, са школы бягом дамоў! Пасобіш малоць. А то галушкі любіш... А любіш катацца, любі і саначкі вазіць.

— Ты і адзін справішся. Я ў школу іду і малако нясу. А ты пару сшыткаў за пазуху і пайшоў,— сказаў Андрэйка.

— Дык мне ж далёка ісці. Цераз Бесядзь, цераз лес, а табе тут пад бокам,— Васька ўжо быў ля дзвярэй.— Ну, матка, я пайшоў. Прыйду рана. Я, можа, з апошняга ўрока збягу.

— Не, сынок, ты ўжо дабудзь там да канца,— запярэчыла маці.— Дзень цяперыцька ўжо з год. Хопіць часу. Можа, сянні бацька вернецца, дык ён у цябе дзённік спытае.

— А ў мяне дзённіка няма,— ухмыльнуўся Васька.— Затое і двоек няма. Ніводнай. Учора дзве чацвёркі адхапіў. Так што, матка, не перажывай. Школу я сёлета закончу. І паеду на Данбас.

— Куды? — здзівіўся Андрэйка.

— На Данбас паеду. Шахцёрам буду. І Віцька паедзе. Грошай заробім. Боты куплю хромавыя, гадзіннік на ланцужку. А табе, Жэўжык, касцюмчык прышлю.

— Ідзі ўжо, хваст. А то спознішся,— сказала маці, і Андрэйка пачуў у яе голасе прыхаваную радасць.

На гэты раз урокі падаліся яму асабліва доўгімі, як і ўся гэтая бясконцая трэцяя чвэрць. Пётр Еўдакімавіч не выклікаў Сахуту, бо ў таго адзнак было багата — па ўсіх прадметах пяцёркі, а некаторым трэ было выпраўляць двойкі. Настаўнік ганяў усіх строга, часта паўтараў, што вясной будуць іспыты, потым яны пойдуць хто ў Белагорскую школу, а хто ў Зарэчанскую.

Думкі Андрэйкі ўсё часцей вярталіся да птушак і галушак, якія маці заўтра спячэ, і таму слухаў тлумачэнні Пятра Еўдакімавіча не так уважліва, як звычайна.

Скончыўся апошні ўрок, Пётр Еўдакімавіч сказаў:

— Дзеці, заўтра да нас можа прыехаць інспектар. Ён цяпер у Белагорскай школе. А потым і да нас завітае. Так што каб усе зрабілі ўрокі як след. А то сорамна будзе перад інспектарам і мне, і ўсім вам.

Гэтае паведамленне Андрэйку насцярожыла, ён перахапіў настаўнікаў позірк, які быццам гаварыў: цябе выклічу абавязкова.

Хлапчук прыбег дамоў, калі Ваські яшчэ не было. Маці наліла яму міску гарачай капусты, кубак малака. Сын тут жа падзяліўся навіною, сказаў, што прыедзе ў школу інспектар з раёна.

— А хто ён такі, еты шпектур? — спытала маці, разводзячы пойла карове.

— Не шпектур, а інспектар,— засмяяўся Андрэйка, дапіў малако і ўстаў з-за стала.— Ён усе школы правярае.

— А ты, сынок, яго не пужайся. Гавары, што ведаеш, ды і ўсё. І еты самы шпектур — такі ж чалавек, як і ўсе, хоць і начальнік... Давай, сынок, вынесем карове...

Маці ўзяла шайку-ражку за адно вушка, сын — за другое, і ўдваіх яны вынеслі пойла ў хлеў. Хлапчук адразу вярнуўся ў хату і сеў за ўрокі. Пачаў, як заўсёды, з арыфметыкі. Першую задачу рашыў хутка, а другая доўга не паддавалася, і ўсё ж раскусіў і яе, узрадаваўся, калі адказ сышоўся. Потым выканаў практыкаванні па роднай мове, прачытаў у падручніку па геаграфіі пра моры Паўночнага Ледавітага акіяна, адшукаў іх на карце.

Звычайна ён падоўгу сядзеў над картаю, бывала, цэлага паўдня мог падарожнічаць па розных краінах, дзіцячая фантазія малявала яму людзей, якія там жывуць: калі негры, то цёмныя, бы чыгун, адно зубы блішчаць, калі японцы, то жоўтыя з твару, а вочы вузкія, бы асакою прарэзаны. Карты ён любіў разглядаць і ў Васькавым падручніку. За геаграфіяй яго і заспеў брат, які, расчырванелы, вясёлы, увайшоў у хату.

— Ну, матка, усе шэсць урокаў выседзеў. І сянні дзве чацвёркі зарабіў,— задаволена сказаў Васька.— Есці хачу...

Маці ўжо налівала яму поўную міску капусты, добра ведаючы сынаў апетыт.

Па абедзе хлопцы ўзяліся малоць пшаніцу. Васіль быў такі дужы, так лёгка і хутка круціў жорны, што Андрэйка ледзь паспяваў матаць рукою. За адзін раз жорны трушчаць зерне на крупы, каб атрымаць муку, трэба гэтыя крупы засыпаць зноў у ступку і перамалоць. Калі малолі крупы, жорны круціліся цяжэй, а

грукаталі яшчэ мацней, здавалася, на ўсю вёску, але гэта не палохала малога Сахуту. Цяпер не тое, што тады, калі маці малола калгасныя каласкі летам сорак пятага, а малы сын сядзеў на лавачцы і пільнаваў, каб ніхто не ішоў: збожжа не было ні ў кога. І калі жорны грукочуць, значыць, чалавек недзе ўкраў.

Згадаў Андрэйка, як потым, пазней, яны малолі з Васькам, якія цяжкія былі жорны, а рукі так хутка налівaліся, бы свінцом, стомай.

Хлопцы канчалі малоць другую ступку, калі раптам дзверы расчыніліся, і парог пераступіў бацька ў шынялі без хлясціка, але па-вайскоўваму туга падпяразаны рэменем, у зімовай шапцы, за плячыма ў яго вісеў ладны хатыль.

— Ну, здаровы былі! — сказаў бацька, пагрукаў ботамі ля парога, выціраючы іх аб анучу, сігануў да стала, зняў на слонец цяжкі хатыль.

Маці перастала круціць самапрадку, паднялася, атрасаючы фартух:

— Здароў, здароў, Мацвеечка. Я ж казала ўжо хлопцам, што сянні бацька вернецца.

— Адкуль жа ты дазналася? — ■ няверай спытаў бацька.

— Сарока на хвасце прынесла. Чула мая душа. Пара ўжо табе вярнуцца. А то заўтра сaракі, пагоняць снег да ракі. Як жа тады перабярэшся?

— Яшчэ не пагоняць. Нанач марозік бярэцца,— бацька развязаў хатыль, пачаў выкладваць на стол гасцінцы: дзве буханкі хлеба, некалькі бляшанак кансерваў, у прамасленай паперы ладны пакунак селядцоў.

У другім, меншым пакуначку былі цукеркі-падушачкі: жоўтыя, ружаватыя, з палоскамі, абсыпаныя цукрам, яны зліпліся ў камяк. Малы адкалупнуў спачатку жоўтую, а за ёй пацягнулася і ружовая, пачуў прыемны саладкаваты пах, які нагадваў водар мяты, асцярожна лізнуў языком — цукерка была шурпатая ад цукру, халодная і салодкая, што мёд. Хацелася хутчэй дазнацца, што ўнутры яе: павідла або цвёрды цукровы лядзяш. Андрэйка надкусіў — пацягнулася цёмнае пахучае густое павідла.

Радасць ахапіла яго: у пакунку было багата цукерак, а ён гэтак даўно іх не спрабаваў, і гэтулькі не было ў іхняй хаце ніколі. Малайчына, бацька, паклапаціўся, не забыў пра гасцінцы.

Летась па вясне, калі вярталіся сплаўшчыкі, Паўлік даў яму палову падушачкі. Якая смачная была тая полова цукеркі! Андрэйка ніколі не забудзе таго смаку. І яму захацелася пачаставаць Паўліка, даць яму цэлую падушачку, добра было б і Даньку пачаставаць, бо ён пасабляў у лесе, калі ездзілі па смалякі.

Бацька тым часам сёрбаў капусту, расказваў, як там жылося і працавалася ў лесе, маці слухала, падтаквала. Хлопцы, з'еўшы па цукерцы, зноў узяліся за жорны.

Назаўтра Андрэйка прачнуўся раней звычайнага, прачнуўся ад смачнага цёплага паху: на стале жаўцелася з дзесятак птушак, яны акружалі курганок галушак, каб тыя не раскаціліся.

— А, адзін жаўранак ужо ўспароўся,— ласкава сказала маці, убачыўшы, што малы падняў стрыжаную галаву.— Паспі, яшчэ рана. На во табе адну птушачку і галушачку. Паспрабуй, ці ўдаліся яны? Цеста чамусьці не хацела падыходзіць,— маці падала цёплую духмяную птушку і гарачую галушку.

Птушка была нават з чубком, як у сапраўднага жаўранка. Хлапчук з'еў спачатку галушку, якая проста раставала ў роце — такая была смачная, а птушку пачаць не адважваўся, шкадаваў... Але есці хацелася, і птушка паляцела ўслед за галушкаю. Андрэйка сцішыўся зноў на сваёй ляжанцы, ды неўзабаве пачаў адзявацца: успомніў пра інспектара і спужаўся, што спозніцца ў школу.

Інспектар такі прыехаў. Увайшоў ён у клас разам з Пятром Еўдакімавічам. Гэта быў другі ўрок, арыфметыка. Невысокага росту, грузны, шыракатвары, інспектар пратопаў хромавымі ботамі да акна і сеў там на апошняй парце, на якой сядзелі Данілка і Паўлік.

Пётр Еўдакімавіч пазіраў услед інспектару, і ў яго-ным паглядзе Андрэйка ўбачыў усхваляванасць, насцярожанасць, хоць гладка паголены маладжавы твар з першым вясновым загарам быў спакойны, засяроджаны. Хатняе заданне праверылі хутка. Рашаць новую задачу Пётр Еўдакімавіч выклікаў Андрэйку. Спачатку малы Сахута нават спалохаўся, і калі ішоў да дошкі, ногі чамусьці дрыжалі ў каленках. Настаўнік прачытаў задачу, у ёй гаварылася, што гідраплан праляцеў столькі-та кіламетраў за паўгадзіну, другую палову гадзіны ён ляцеў удвая хутчэй, колькі ўсяго кіламет-

раў праляцеў гідраплан. Задачка была нескладаная, і Андрэйка рашыў яе хутка.

— А што гэта такое гідраплан? — пачуўся густы басісты голас інспектара.

Андрэйка збянтэжыўся і не ведаў, што адказаць.

— Раз ён праляцеў, гаворыцца ў задачы, значыць, што гэта такое? — спрабаваў выручыць вучня Пётр Еўдакімавіч.

— Гідраплан — ета такі самалёт,— пачаў хлапчук і змоўк.

— Што за самалёт? Відаць, ён незвычайны, бо называецца інача́й,— ракатаў бас інспектара.

— Гідраплан можа садзіцца на ваду,— успомніў нарэшце Андрэйка.

— Правільна. А ты не бачыў яго?

— Толькі на малюнку...— Андрэйку здзівіла пытанне інспектара, яму карцела сказаць, што ён не мог бачыць гідраплан, бо яшчэ ніколі не быў у горадзе, ні разу не ездзіў цягніком, ні разу не фатаграфаваўся.

Інспектар нібы адчуў, пра што думае вучань, і сказаў:

— Нічога, хлопча, у цябе яшчэ ўсё наперадзе. Можа, і лётчыкам станеш. І на гідраплане паляціш. Кім хочаш стаць? Лётчыкам ці мараком?

Пасля пастаноўкі п'есы, у якой ён выконваў ролю прафесара арыфметыкі і чыстапісання, хлапчука дражнілі «прахвесарам», і ён іншым разам думаў: мо і варта стаць гэтым «прахвесарам», толькі як, дзе трэба вучыцца. От бы спытаць пра гэта ў інспектара, але тады ўвесь клас можа зарагатаць. Не, лепш не трэба, і Андрэйка ціха адказаў:

— Яшчэ не ведаю. Можа, мараком... На самалёце я ні разу не лятаў. А на лодцы і ў чоўне я ўжо катаўся. І Бесядзь наша вясною разліваецца, як мора.

— Ну што ж, малайчына, разумна разважыў,— зарагатаў інспектар.— Раз у чоўне катаўся, то ўжо і мора па калена...

Інспектар смяяўся гучна, ад душы. Заўсміхаўся і Пётр Еўдакімавіч. Госць з раёна сядзеў і на астатніх уроках, давялося Андрэйку і чытаць верш Максіма Багдановіча.

Дома ён расказаў пра ўсё маці. Тая дзівілася і радавалася, што сын атрымаў дзве пяцёркі, якія паставіў

яму сам «шпектар». Так яна і сказала дзядзьку Парфіру, які прыйшоў увечары.

Дзядзька выслухаў, пахваліў пляменніка і тут жа перавёў гутарку на іншае, што яго болей займала:

— Ты чуў, Мацвей, выклікалі ў райвон Сырадойчыка Івана. Далі пад хвост,— хіхікнуў дзядзька.— Што не ведае цяпер, дзе яму і сесці. І ўсё шукае, хто еты грамадзянін Энскі.

Андрэйка пачырванеў, яму захацелася дзесьці схавацца, каб не чуць дзядзькавага смеху. Бацька ўспрыняў гэта паведамленне спакойна, без аніякай радасці, і гэта трохі супакоіла хлапчука, але ён такі шмыгнуў на вуліцу.

На двары было яшчэ відна, сонца, чырвонае, вялікае, вісела каля сасны, што самотна чарнела над заснежаным Бярозавым балотам. Здавалася, што да галінак дрэва падвешаны вялізны барвовы шар. Снег на гародзе асеў, сям-там цямнеліся камлюхі зямлі. Раптам над галавой пачулася жаўрукова песня, звонкая, залівістая, але яна хутка абарвалася, неяк жаласліва піснуўшы, жаўрук спікіраваў долу. Андрэйка ўзрадаваўся: маці гаварыла, што вельмі добра, калі на сараке пачуеш жаўранка, тады будзе цёплая вясна.

Сонца неўзабаве скацілася з дрэва і схавалася за курганом. Паветра адразу набрыняла шэрым змрокам, увачавідкі пачало цямнець. Хлапчук пасунуўся дадому. Адчыніўшы дзверы, ён аж падскочыў ад радасці: ля парога на калодачцы сядзела Марына і здымала валёнкі з бліскучымі галёшамі.

— О, які бальшун стаў наш Жэўжык,— здзівілася Марына.— Які месяц усяго не бачыла, а як падрос. А ў мяне ёсць гасцінцы...

Сястра паднялася, цмокнула брата ў шчаку, падхапіла кашолку і патэпала ў ваўняных шкарпэтках да стала, пачала выкладваць ільсняна-жоўтыя абаранкі, кулёк рознакаляровых цукерак-гарошын.

— Пакуль во стаіць дарога, дык надумалася адведаць вас. У Лабанаўцы ўдзень ужо руччы бягуць. Дзяцей на канікулы скора адпусцяць.

— А нам да першага красавіка вучыцца,— уздыхнуў Андрэйка.

— Ну, заўсёды так. У вёсцы канікулы на тыдзень пазней. Затое цяплей будзе. Налётаешся на вуліцы, нагуляешся,— суцешыла яго Марына.

— Яму во на гасцінцы падвязло. Учора бацька прынёс. А сянні ты... А я ўранні напякла і птушак і галушак,— пахвалілася маці, з любасцю гледзячы на дачку і сына.

— О, дык вам добра жывецца,— Марына паставіла кашолку ў кут каля жорнаў, села побач з Андрэйкам, прыхінула яго да сябе.— А дзе ж бацька?

Маці адказала, што бацька пайшоў з дзядзькам Парфірам да Арцёма, Васька па абедзе адразу пакіраваў да Віцькі, каб разам з ім вучыць урокі.

— Ну, а ў цябе, дачушка, якія навіны? — маці стаяла ля печы і пільна пазірала на дачку.

Андрэйка зразумеў, якіх навін чакае маці: яна ўсё бядуе, што дачка не выходзіць замуж.

— Нічога, у мяне ўсё па-старому,— сумна сказала Марына.

Маці моўчкі пачала даставаць з печы вячэру.

Апошні тыдзень чвэрці здаўся хлапчуку незвычайна доўгім: дні былі такія вялікія, сонечныя, і так не хацелася брацца за ўрокі. Ледзьве дачакаўся ён канікул. Але ў першы ж дзень доўга спаць не давялося: маці пабудзіла, каб нёс малако. Паснедаўшы, узяў ён графін, абшыты матэрыяй, і пакіраваў на вуліцу.

На дварэ снегу было ўжо мала, паводка заліла ўвесь луг да самага лесу. Ноччу выскачыў невялічкі марозік, лужынкі на дарозе зашкліла бліскучым крохкім лядком. Настрой у хлопца падняўся, ён прыбавіў кроку, каб хутчэй здаць малако і пабегчы да Паўліка. Да хаты, дзе жыла прыёмшчыца малака Матруна Махавікова, было ўжо недалёка, наперадзе бліснула лядком вузкая лужынка. Андрэйка разагнаўся, дакладней, ён і сам не разумеў, як гэта адбылося: быццам самі ногі разагналіся і паехалі па лёдзе. Мусіць, разгон быў занадта моцны, лужынка скончылася, хлапчук спатыкнуўся і шлёпнуўся. Затрашчаў лёд, глуха дзынкнула шкло, і на зямлю палілося малако.

Хлапчук ускочыў, падняў вышэй графін, з яго яшчэ мацней пацёк белы струменьчык. Балела пабітае калена, шкада было графіна і малака. Андрэйка нават сціпшана ўсхліпнуў і, кульгаючы, пацягнуўся дадому. Ішоў і не бачыў перад сабою дарогі, не бачыў свету, бо слёзы засцілалі вочы. Сонечны вясёлы ранак адразу страціў усе свае колеры і ўсю прывабнасць. Прыкра і сумна было на душы.

— Андрэйка, што з табою? — пачуў ён раптам голас, падняў галаву — перад ім стаяў у прыгожым шынялі з бліскучымі гузікамі фінагент Іван Сырадоеў.— Хто цябе пакрыўдзіў?

— Ніхто,— выціснуў з сябе хлапчук і адвярнуўся, бо адчуў віну перад гэтым чалавекам, і мацней заплакаў.

Іван узяў яго за плячо, нахіліўся:

— А, дык ты графін разбіў... Пакаўзнуўся? — малы моўчкі кіўнуў, бо гаварыць не мог — яго душылі слёзы.— Падумаеш, такой бяды. Ці варта плакаць з-за етага? Ці ты ўдарыўся моцна?

— Калена пабіў...

— Нічога... Пакуль жаніцца, усё загаіцца,— весела сказаў Іван. Тое, што ён вясёлы, не перажывае пасля паездкі ў раён, пра якую гаварыў дзядзька Парфір, і што форму ў Івана не адабралі, найбольш супакоіла хлапчука.— Пайшлі ў краму. Калі там ёсць графіны, дык я куплю...

— Не, дзякуй, бацька купіць. Ён з лесу нядаўна прыехаў. Грошай там зарабіў...

— Значыць, усё будзе добра. З кім не бывае? І дарослыя людзі спатыкаюцца. Ну, як тваё калена? Перастала балець?

— Ужо не баліць,— весялейшым тонам адказаў Андрэйка і, развітаўшыся з Іванам, пакіраваў дадому.

Ішоў і адчуваў, што ягоны твар палае ад сораму... і крыўды.

Маці ўзрадавалася, што ён хутка вярнуўся, але зірнула на разгублены сынаў твар, мокры футляр графіна і ўсё зразумела:

— Ну во, накоўзаўся. Такі графінчык размалаціў.

— Не коўзаўся. Ішоў і паслізнуўся,— праз слёзы выціснуў сын.

Гэта было падобна на праўду, і як ні шкадавала маці графін, да матузоў справа не дайшла: кожны можа пакаўзнуцца. Назаўтра панесла малако сама ў гладышку, вярнулася сярдзітая і адразу пачала ўшчуваць сына:

— Дык што ж ты галаву мне дурыш, хлопец? Рыпіна ўсё бачыла ў акно. Як ты разагнаўся, праехаў па лядку, а тады і паваліўся. Каб ішоў строгенька, дык бы і графін быў цэленькі... Во, несмысель, нарабіў

шкоды. Няўжо ты не накоўзаўся за зіму на коніках? Трэба яшчэ і бацінaчкі дарваць апошнія. Лёгка яны табе даліся... Скажу бацьку, хай ён цябе рэменем адлупцуе...

Бацька сварыўся моцна і хоць за рэмень не ўзяўся, першыя дні канікул былі сапсаваны. А вясна брала сваё. Паводка пачала спадаць. Кожнай раніцы ўсё болей курганоў выторквалі свае рудыя шапкі з-пад вады. Нарэшце Паўлік, Данька і Андрэйка выпрасілі лодку ў дзеда Гылігора. Стары дапамог спіхнуць яе на ваду, бо за ноч паводка адступіла і ўся лодка апынулася на сухім.

— Глядзіце ж асцярожненька сядзіце. Роўненька, не гайдайце лодку, а то перакуліцеся. Ды і патапіцца можаце. З вадою ды з агнём жарты кепскія.

— Дык мы ж плаваць умеем, дзед,— запэўніў старога Данька, упіраючыся вяслом у дно.

Але дзед Гылігор не супакоіўся і ўсё наказваў хлапчукам быць асцярожнымі:

— Паўлік, ты ж большы, глядзі, каб усё было добра. Вада не любіць дурыкаў. Ды яшчэ такая вада... Бесядзь цяперыцька вунь якая бурлівая. Паводка сёлета вялізная. Як трэсачку панясе лодку...

Паўлік сеў з вяслом на карму, з другім вяслом, цяжкім, тоўстым, сеў у «кокат», на месца заграбнога, Данька. Андрэйку для раўнавагі давялося ісці ў самы нос лодкі і сядзець без вясла.

— Данька, ты павяслуй трохі, а тады я,— прапанаваў Андрэйка.

— Пераплывём Бесядзь, станем дзе-небудзь ля куста, тады памяняецеся,— распарадзіўся Паўлік.

Спачатку плылі па ціхай вадзе, на дробных хвалях пагойдваліся сухое голле, чарот, трэскі — усё несла паводка на балота. Чым бліжэй была рака, тым мацней адносіла лодку. Данька ўсё часцей закідваў вясло і сам адкідваўся спінаю назад, «кокаты» — самаробныя драўляныя ўключыны, як птушыныя кіпці-кокаты, трымалі вясло. Паўлік таксама гроб з усяе сілы. Цячэнне ракі было прыкметна не толькі па верхавінках алешніку, які рос па берагах,— верхавінкі зыбаліся нібы над ветрам, яно адчувалася па імклівай плыні, якая віравала і пенілася. Плынь падхапіла лодку, бы чаўначок з сасновай кары, якія выразаў Андрэйка ў маленстве, і панесла. У яго аж сэрца закала-

цілася ад страху, ён бачыў, як налягаў на вясло Паўлік, мацней адкідваўся і Данька.

— Паўлік, кіруй у старую Бесядзь. Туды вада сама панясе,— параіў Андрэйка, згледзеўшы злева наперадзе лазовыя кусты, якія стаялі па берагах старога рэчышча.

Паўлік імгненна ацаніў прапанову, загадаў Даньку падняць вясло, а сам кіраваў лодку да лазняку. Як толькі яна наблізілася да кустоў, Андрэйка ўхапіўся рукой за галінку, каб падцягнуць лодку, але галінка абламалася, імклівая плынь тут жа развярнула іхнюю пасудзіну і панесла па старыцы.

— Ледзь не перакуліліся. А тут жа глыбіня! З галоўкаю будзе,— паварушыўся Данька.

— Нічога, выбраліся. Заграбай мацней, зараз на луг пакіруем,— спакойна сказаў Паўлік.

— Давайце памяняемся. Колькі я буду сядзець тут? — абурыўся Андрэйка.— Данька, ідзі на маё месца...

Тым часам лодку вынесла на луг, па неглыбокім раўчуку, між рудаватых курганоў, яна плыла да лесу. Андрэйка перасеў на Данькава месца, з асалодаю веславаў.

— Нам трэба падняцца вышэй. Пад лесам плынь ціхая. Можна і да Бабінай гары даехаць,— важна сказаў Паўлік, цыркнуў скрозь зубы сліну, выцер рукавом старэнькай, палатанай куфайкі ўзмакрэлы лоб.

— Ты не вяслуй. Кіруй толькі. Я адзін спраўлюся,— адчуваючы сілу ў руках і вялікае жаданне веславаць, сказаў Андрэйка.

Ён азірнуўся вакол — радасць запоўніла яго сэрца: пад вясновым сонцам зіхацела паводка, на курганах квола зелянелі шыльцы маладзенькай травы, а ў чысцюткім высокім блакіце неба заліваўся жаўрук. І раптам Андрэйка аж здрыгануўся: згадаў, як імчаў на каньках па лёдзе і ледзьве не ўскочыў у паніўку. «Ета ж мяне ўжо магло не быць. І сяння лодка магла перакуліцца,— з жахам падумаў ён.— У нас і так ужо Колі няма. Пятрок загінуў. Матка і цяпер плача, як успомніць пра яго. Добра, што я застаўся жыць!» — ад гэтых думак дзень падаўся яшчэ прыгажэйшым, а ягоныя дружбакі — Данька і Паўлік — найлепшымі хлопцамі ў свеце.

Жаўрук не сціхаў, лодка бясшумна плыла наперад, карычнева-зялёны лес весела глядзеўся ў каламутную вясновую ваду.

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, сакавік 1950 г.*

*2. Бухарэст. Усе румынскія газеты публікуюць поўны тэкст пастаноў аб новым зніжэнні цэн у СССР і аб пераводзе курсу рубля на залатую базу і шырока каменціруюць гэтыя пастановы.*

*17. Брэст. З пачуццём глыбокай радасці і задавальнення сустрэта ў вобласці паведамленне Цэнтральнай выбарчай камісіі. У гарадах і сёлах праходзяць мітынгі, прысвечаныя бліскучай перамозе сталінскага блока камуністаў і беспартыйных.*

*19. Мінская фабрыка імя Куйбышава асвоіла выраб пакрышак для валейбольных мячоў. У гэтым годзе іх будзе выпушчана 40 тысяч.*

*24. У мінскім Палацы піянераў адбылося ўрачыстае адкрыццё «Тыдня дзіцячай кнігі», які ўпершыню праводзіцца ў нашай рэспубліцы.*

## XIII

Вясна прынесла багата новых клопатаў старшыні сельсавета Свідэрскаму. Здаецца, нядаўна радаваўся, што ўсе пяць калгасаў выканалі план лесанарыхтовак, і раней за ўсіх, вядома, хатыньчане, хоць і пазней пачалі траляваць лес, але затое дружна, Макар Казакевіч падняў усіх, хто мог трымаць лейцы ў руках. Свідэрскі павіншаваў хатыніцкага старшыню калгаса, калі той пазваніў і вясёлым голасам пахваліўся, што план закрылі.

— А ты гарачку пароў, паніку паднімаў,— ушчуваў Казакевіч старшыню сельсавета.— Кажу ета я дзеля прафілактыкі... Каб ты меней гарачыўся...

Свідэрскі моўчкі слухаў, бляднеў, чырванеў, моцна сціскаў тэлефонную трубку, кусаў ад злосці тонкія вусны: не мог ён забыць тую сутычку ў канторы калгаса, калі Макар Казакевіч, грукнуўшы мыліцаю, паказаў яму на дзверы.

Вясною, самым растаропам, Свідэрскі мала ездзіў па вёсках, пакуль дабіраўся з Мамонаўкі да Белай Гары, конь быў мокры, вазок праз раўчукі ледзь не плыў. А потым пачалася гэтакая бездараж, што ні на санях, ні на калёсах не праехаць. Вымушаны быў Свідэрскі начаваць у Белай Гары, адну ноч пракачаўся на драўлянай лаўцы ў сельсавеце, а тады загадчыца пошты адвяла яго да сваёй цёткі, немаладой адзінокай кабеты. Да маладзейшай ён бы не пайшоў, каб не даваць прычыны для плётак.

Клопату ў яго хапала: здача малака, выплата падаткаў, самаабкладанне, страхоўка і самы галоўны клопат — сяўба.

Неяк уранні пазваніў Даўгалёў, пагаварылі пра жыццё-быццё, пра вясну, пасяўную. Свідэрскі ўсё чакаў, калі Даўгалёў скажа тое, дзеля чаго ён пазваніў.

— Слухай, Раман Піліпавіч, як ты змагаешся там з самагоншчыкамі? Ці ў цябе іх няма?

— Змагаюся ўсімі сродкамі. Ты ж ведаеш, сам амаль што не п'ю. І другім не даю.

— Я сур'ёзна пытаю. Званілі з вобласці. Пыталіся, як мы выконваем Указ ад сёмага красавіка сорак восьмага года аб узмацненні барацьбы з самагонаварэннем. А раз цікавіліся, то і камісію могуць прыслаць. Так што ўлічы.

Даўгалёў на гэтым развітаўся, а Свідэрскі задумаўся. Камісій і ўсялякіх праверак ён дужа пабойваўся. Значыць, трэба ўзмацніць барацьбу. Самагоншчыкаў старшыня сельсавета ненавідзеў люта і спуску ім не даваў. Злаваў на ўчастковага інспектара Бравусава, які часам не столькі дапамагаў, колькі імкнуўся сяго-таго выгарадзіць, змякчыць пакаранне. Свідэрскі не раз лаяў яго за гэта, той ухмыляўся, яшчэ ніжэй насоўваў на вочы фуражку з малінавым аколышам, адводзіў вочы ўбок, а потым гаварыў:

— Раман Піліпавіч, жыццё дужа хітрая штука. Пад параграхвы ўсё не падвядзеш і ў рамачку не ўціснеш.

— Зато цябе яны падвядуць пад манастыр етыя параграхвы. І мне праз цябе ўляціць.

— Не бядуй, Раман Піліпавіч. Там, дзе трэба, Бравусаў не падвядзе і маху не дасць. А за пляшку гаркухі ў каталажку садзіць удаву-салдатку я не магу.

— Удовы бываюць розныя. Калі яна адкрыта гоніць самагонку і прадае налева і направа...

— Э, Піліпавіч, такіх у нас няма. Каму прадаваць? Кліентаў у нас няма. У нас кожны, каму спатрэбіцца, нешта робіць сам. Такое, брат, жыццё,— Бравусаў папраўляў фуражку і глядзеў некуды ўдалячынь. Твар яго быў задуменны, сур'ёзны. Цяжка было ў ім пазнаць таго адчайнага партызана, які мала задумваўся над тым, што даводзілася рабіць і тады ў партызанах, ды і пазней, на фронце.

Пасля размовы з Даўгалёвым Свідэрскі вырашыў яшчэ раз паўшчуваць участковага, бо калі раптам прымчыць камісія, каб ніхто не папаўся. Вырашыў сам паездзіць па вёсках, пагаварыць з усімі старшынямі калгасаў.

Аднойчы ехаў ён дамоў у канцы дня па белагорскай вуліцы, павярнуў направа на Хатынічы. Тут жыла ўдава Маруся Лапчанкава, мела яна вялікі сад, пасаджаны яе бацькам яшчэ да вайны, да калгасаў. Свідэрскаму самому давялося пералічваць усе яблыні, бо неяк паступіў сігнал, што Маруся не ўсе дрэвы запісала, няпоўнасцю плаціць падаткі. Факт пацвердзіўся: адна яблыня была не ўлічана. Памылку выправілі, але з таго разу Свідэрскі бачыў, што Лапчанкава пазірае на яго скоса, хоць і вітаецца ветліва, нават ліслівa ўсміхаецца. Ён разумеў, што тое здарэнне, той дзень, калі пералічваў дрэвы ў садзе, яна не забыла. Свідэрскі і цяпер зірнуў на двор Лапчанкавай і ўбачыў Марусю, якая несла ў хату бярэмца дроў, занадта кароткіх, карацейшых, чымся звычайна паляць у печы. Згледзеўшы старшыню сельсавета, яна крутанулася ўбок, крысом ватоўкі прыкрыла дровы. Пасярод двара высілася куча караткаватых бярозавых паленцаў.

«Чаму яна так спалохалася? Нібы ўкрадні дровы нясе. Ды і навошта яна іх нясе ў хату? Грубку тапіць, дык на вуліцы цёпла. Ясна, сушыць на чарэні на печы. Ды і паленцы кароткія вельмі. Відаць, збіраецца самагонку гнаць»,— разважыў Свідэрскі.

Ён разумеў, што надыходзіць акурат той час, калі без гаркухі цяжка абысціся: трэба сеяць соткі, наймаць людзей, прасіць каня ў брыгадзіра, вялікдзень блізіцца...

Свідэрскі вырашыў праверыць свае падазрэнні, але назаўтра дзень выдаўся турботны, тэрмінова давялося

ехаць у раён, там гаварылі зноў аб узмацненні барацьбы з самагоншчыкамі, пра пазыку, пра пасяўную. Успомніў ён пра свой намер, калі вяртаўся дамоў, праязджаў міма хаты Лапчанкавай. Вырашыў не адкладваць, прывязаў каня, адчыніў рыпучыя варотцы. Дзверы хаты былі зачынены знутры на крук. Ён стукнуў раз, другі, падалося, што мільгануў цень ля акна, пагрукаў мацней, ніхто не абзываўся. Свідэрскі патаптаўся на ганку, яшчэ раз тузануў дзверы і пайшоў да каня. Спачатку быў памкнуўся ехаць па ўчастковага, але разважыў: скора ацямнее, а пакуль ён знойдзе Бравусава, ды невядома, ці знойдзе яго, мо паехаў куды, павярнуў каня на Хатынічы.

Раніцай наступнага дня Свідэрскі разам з Бравусавым прыйшоў да Марусінай хаты: на дзвярах вісеў замок. Свідэрскі сунуўся пад акно і ўбачыў, як нехта варухнуўся за шырмай ля печы. Ён пастукаў у акно, моцна, гучна, аж дрыжала шкло.

— Што грукаць, калі замок вісіць,— Бравусаў сышоў з ганка, пакіраваў на вуліцу.— Я пазней наведаюся. Можа, увечары... Тады яна будзе дома.

— Яна і цяпер дома. Схавалася за шырмай. І ўчора нехта быў у хаце... Адчыняй, Мар'я, па-добраму! — крыкнуў Свідэрскі і нагою грукнуў у дзверы.

Бравусаў абышоў ганак, там былі дзверы на двор, тузануў іх — зашчэплены знутры. Участковы крутнуўся назад і ледзь не сутыкнуўся са Свідэрскім, які парывіста ішоў насустрач.

— Усё пазачыняна,— Бравусаў ціха вылаяўся, падкавырнуў ботам іржавы шворан, які ляжаў пад вуглом.

— Што рабіць? Трэба вырваць прабой,— рашуча сказаў Свідэрскі.— Ета ж безабразія, калі мы з самагоншчыцай не справімся. Бяры шворан і ламай.

— Як ламаць? Сярод белага дня? Без панятых нельга,— сказаў Бравусаў і адвярнуўся, ссунуўшы фуражку на патыліцу.

— Панятых паклічам, калі гарэлку знойдзем,— гнуў сваю лінію Свідэрскі.

— А як не знойдзем? Можа абжалаваць нашы дзейсцвія... Ета ж разбой сярод белага дня,— прыгадаў ён словы пракурора Ясючэні, калі той даваў яму прачуханкі за тое, што прастрэлілі цабэрак у жонкі былога паліцэйскага Вароніна.

— Вось што, няма чаго тут анцімоніі разводзіць. Бяры шворан і вырывай прабой. Адказнасць я бяру на сябе... Не будзем шукаць, дык ні храна не знойдзем. А калі прыедзе камісія, тады будзе позна...

— Раман Піліпавіч, я зайду вечарам і знайду, калі што ёсць. Складу акт, усё чын чынам. Хіба першы раз...

Свідэрскі нічога не адказаў, са злосцю схапіў шворан, ускочыў на ганак... У хаце, як толькі ўвайшлі, у нос ударыў цёплы пах з печы і нейкі кіславаты, настоены водар. Спрактыкаваны Бравусаў зразумеў, што недзе стаіць брага. Тым часам Свідэрскі адхінуў квяцістую шырму, якая была падвешана на катўшках з-пад нітак, і гэтыя катушкі глуха клацнуліся адна аб адну, нібы хтосьці клацнуў зубамі. За шырмаю на палку ляжала ў куфайцы, захутаная хустаю, Маруся. Яна прыўзнялася, у стомленых вачах з чырвонымі павекамі бліснулі слёзы. Свідэрскі памкнуўся да накрытага дзяружкаю цабэрка, які стаяў у кутку ля печы.

А Бравусаў застыў, бы ў здранцвенні, і моўчкі камячыў рукою шырму... Адразу, як убачыў Марусю, яе вочы, нібы выплыў з памяці скрыўлены ад злосці твар салдата Якава Рацэева, і яго словы: «Ты накляпаў на мяне, шчанюк?» А потым была атака, і Бравусаў упаў ля куста і ўзяў на мушку Рацэева, цэлячыся ў яго шырокую спіну. Але стрэліць не паспеў: слуп зямлі і дыму выбухнуў з-пад ног Рацэева... Потым яго хавалі, Бравусава моцна ванітавала, і цяпер, праз шэсць гадоў, ён помніць тую атаку, як зараз, помніць твар Рацэева, ён паўстае перад ім даволі часта. І думка: мо каб я не хацеў яго забіць, ён бы і не загінуў, прыгнятае Уладзіміра Усцінавіча Бравусава.

Праз гадзіну старшыня сельсавета і ўчастковы інспектар выйшлі з Марусінай хаты. У скуранай сумцы ўчастковага ляжаў свежанькі акт, падпісаны панятымі, а кішэню форменных штаноў адцягвала пляшка самагону, моцна заткнутая гумовым коркам — «вяшчэственнае даказацельства».

Брагі ў цабэрку было толькі на дне, гаспадыня не паспела вымыць яго. Свідэрскі быў памкнуўся перакуліць цабэрак, але Бравусаў адгаварыў, маўляў, навошта, хай лепей карове зробіць пойла: пракурораў наганяй назаўсёды запомніўся Бравусаву, помніліся і ягоныя словы — не азлабляйце дарэмна людзей.

Акт цяпер быў афармлены як трэба — не прычэ-

пішся, але ўчастковага гэта не радавала, наадварот, на душы было пагана. Ён выдатна ведаў строгасць закону і таму настояў, каб напісаць у акце: факт самагонаварэння без мэты збыту. Так яно і было ў сапраўднасці, бо збываць сваю гаркуху Маруся нікому не збіралася. Але і ў гэтым выпадку могуць прысудзіць ад аднаго да двух гадоў турмы або да прымусовай работы ці штрафу. Трохі супакойвала, што ў Марусі двое дзяцей, і суд не можа гэта не ўлічыць.

Ведаў Бравусаў і суддзю Васіленку, маладога хлопца, які пазалетась прыехаў у Лабанаўку адразу пасля інстытута, і яго выбралі народным суддзёй. Убачыўшы яго ўпершыню, Бравусаў здзівіўся: зялёнае хлапчанё, а ён ужо вяршыць справядлівасць, хаця ведаў артыкул канстытуцыі: калі чалавек мае адпаведную адукацыю і яму споўнілася дваццаць тры гады, то ён можа быць выбраны суддзёй.

А сутыкнуўся Бравусаў з Васіленкам нечакана. Свідэрскаму нехта падказаў, што ў Хатынічах Змітрок Пацюпа выгнаў самагонку. Тады толькі прынялі гэты ўказ ад сёмага красавіка. Усё пацвердзілася. Справу на Пацюпу перадалі ў суд, і атрымаў самагоншчык два гады турмы.

Быў на судзе і Бравусаў. Пацюпу раней ён не ведаў, але на судзе пашкадаваў яго. Пацюпа не адпіраўся, усё прызнаў, быў маўклівы і вельмі сумны, сядзеў звесіўшы галаву, быццам яму сорамна было паглядзець людзям у вочы. Малады суддзя Васіленка ўшчуваў яго:

— Што, сорамна зірнуць людзям у вочы? Здаровы чалавек, гаспадар, бацька траіх дзяцей... У вас жа тры дачкі растуць. А бацька стаў на коўзкі злачынны шлях самагонаварэння. Хіба ім, думаеце, не сорамна?..

Пацюпа раптам пачаў крытыкаваць старшыню сельсавета Свідэрскага, загаварыў пра суседзяў, якія гоняць самагонку, і гэтым раззлаваў засядацеляў...

Бравусаў атрымаў тады падзяку ад начальства, а праз нейкі час яму прысвоілі званне лейтэнанта, на бліскучых пагонах з'явілася другая зорачка, знікла крыўдная прыбаўка «малодшы», або «мл.».

Праз год Пацюпу выпусцілі: захварэў на сухоты. Неяк Бравусаў вяртаўся з Саковіч, павярнуў на Хатынічы, праміну выган, новую пяцісценку Сахутаў, пад сэрцам ёкнула, бо не мог ён забыць сваё няўдалае за-

ляцанне да Марыны, ды і ведаў, што яна дасюль так і не выйшла замуж, і ў яго зноў варухнулася думка: мо паспяшаўся ажаніцца? Марына Сахута — адзіная дзяўчына, якая не пажадала выйсці за яго замуж, а іншыя ж былі гатовы на ўсё, а ўдовы ды і пераспелыя дзяўчаты ахвотна дарылі сваю пяшчоту.

Здалёк Бравусаў угледзеў натоўп людзей, наперадзе ішоў павольна конік, на дузе матлялася чорная стужка. Дзень быў ціхі, светлы, якія часта надараюцца на пачатку восені. Пачуўся плач, участковы здагадаўся, што некага вязуць на могілкі, павярнуў свайго каня да плота бліжэй, каб размінуцца з сустрэчным возам. На калёсах у труне Бравусаў убачыў завостраны худы жаўтлявы твар нестарога яшчэ мужчыны з рэдкімі пасівелымі валасамі. Нешта падалося знаёмае ў гэтым твары, але Бравусаву не далі лепей прыгледзецца: да яго наблізілася старэнькая бабуля, паківала галавою ў чорнай вялікай хусце з махрамі.

— Картуз бы хоць зняў, чалавеча,— прашамкала яна, зірнула з дакорам і адвярнулася.

Бравусаў похапкам сцягнуў з галавы фуражку, сцёбнуў са злосцю каня, той ірвануўся з месца. Ля Шамаўскага ручая конік заматаў галавою, пачуўшы ваду, і Бравусаў павярнуў у аб'езд моста, да броду, каб даць каню напіцца. Два басаногія хлапчукі ў закасаных вышэй каленяў портках кашом торкалі пад берагі — лавілі шчупакоў.

— Хлопцы, а хто ета памёр? — спытаў Бравусаў.

— Пацюпа Змітрок,— адказаў большы хлапчук.— Ён у турме сядзеў за самагонку. І захварэў тамацька. І памёр ад етага... ад беркулёзу...

— А рыба хоць ловіцца?

— Ды злавілі пару шчупачкоў.

Усю дарогу да Белай Гары думаў Бравусаў пра Змітрака Пацюпу. Каб не паслухаўся ён тады Свідэрскага, не аформіў акт, жыў бы чалавек, але ж як ён мог не выканаць свой службовы абавязак? Маглі б напісаць у райаддзел, а то і ў вобласць, што ўчастковы такі-та патурае п'яніцам, самагоншчыкам.

Прыгадалася, як ехалі яны тады ў Хатынічы: намеснік начальніка міліцыі капітан Студзянцоў, даволі малады яшчэ, але настырны, які чакаў і не мог дачакацца, калі пойдзе ў запас маёр Гоманаў, каб заняць яго крэсла. Быў з імі і старшына Міхалёў, той самы,

з якім Бравусаў арыштоўваў хатыніцкага старасту Куцаёва. Свідэрскі не паехаў, маўляў, я жыву там, у яго багата іншых спраў.

Студзянцоў прыехаў у Белую Гару без пэўных намераў, праведаць, як яны працуюць, як змагаюцца з самагоншчыкамі, ён знаёміўся тады з раёнам, з кадрамі. А тут Свідэрскі вазьмі і скажы: да яго дайшлі чуткі, што Пацюпа Змітрок гоніць самагонку. Студзянцоў адразу і загарэўся: паедзем, трэба праверыць.

Бравусаў павёў іх іншаю дарогаю, цераз Сараселле, паўз Бесядзь. Ён і сам не ведаў, чаму выбраў гэты шлях: паказаць прыгожыя мясціны, ціхія, запаветныя, а мо таму, што і сам даўно не быў на хутары. Падумалася і пра тое, што і там можна знайсці такіх, як Пацюпа, тады і ў Хатынічы ехаць не давядзецца.

На Стараселлі Бравусаў спыніўся ля крайняй хаты, у якоў жыў знаёмы дзед. Зрэшты, участковы ведаў амаль усіх жыхароў пасёлка. Дзядок аказаўся дома, пачаставаў малаком.

— Дзед, а мацнейшага пітва няма? — спытаў Бравусаў.

— Даражэнькі, Усцінавіч, няма. Зерне, якое ёсць, беражэм для насення. Ды і бульбы саўсім мала засталося.

— А можа, у суседзяў у каго ёсць? — не адступаў участковы.

— Не чуў, каб хто етым займаўся. І паху няма ў нас.

«Хітры дзед»,— падумаў Бравусаў.

Фурманка з міліцыянерамі пакіравала далей. Наперадзе быў невялікі лапік старога лесу, а за ім аж да Хатынічаў цягнуўся па курганах густы малады хвойнік, перасечаны двума раўчукамі, па якіх збягала ў Бесядзь веснавая вада з палёў. Сонца прыгравала, міліцыянеры паздымалі фуражкі, парасшпільвалі кіцелі, цешыліся добрым надвор'ем, дыхалі свежым вясновым водарам лесу. Раптам наперадзе паказалася фурманка, яна звярнула ўбок, сам фурман сігануў у лес і пабег, толькі галлё трашчала.

— Што за фокус? — Студзянцоў надзеў фуражку, скочыў з воза, памацаў кабуру, нібы пераконваўся, ці ёсць там пісталет.

Пад'ехалі бліжэй. Конік скуб траву, на возе быў

прысадзісты цабэрак брагі, накрыты драўляным вечкам.

— На лаўца і звер бяжыць,— ухмыльнуўся Бравусаў.— Але дзе ж чалавек?

— Ён ужо далёка адсюль,— падаў голас Міхалёў.— Ірвануў дай бог нозі.

— Паехалі ў Хатынічы на канюшню. Конюх скажа, каму ён даваў гэтага каня,— прапанаваў Студзянцоў.

Бравусаў хацеў сказаць, што пасёлак адносіцца да Белай Гары і на канюшню трэба ехаць туды, але яго ахапіў азарт паляўнічага:

— Таварыш капітан, адну хвіліну. На возе ніякага іншага начыння няма. Значыць, ета ўжо не першы рэйс. Паспрабуем пусціць коніка. Мо ён і прывядзе на месца злачынства.

Так і зрабілі. Участковы падганяў коніка, а лейцы не чапаў. І рахманая гнядая кабылка неўзабаве спынілася каля разгалістай хвоі. Далей у нізінцы курылася вогнішча, стаялі два абмазаныя глінаю чыгуны. Вакол нікога не было, а з трубы па нітачцы капала сінявата вадкасць у вялікі жоўты карэц з абламанаю ручкай.

— Ну што ж, Бравусаў, ты маладзец. Нюх маеш,— Студзянцоў узяў карэц, спачатку панюхаў, зморшчыўся, потым глынуў.— Моцная, халера. Першачок. Ды яшчэ цёпленькі.

Пад сасной стаялі два цынкавыя вядры: у адным мутна-рыжая вада з раўчука, а ў другім светлая, бы сляза, вадзіца. Міхалёў прынюхаўся і адразу змікіціў, што ў другім вядры, павярнуўся да Студзянцова:

— Таварыш капітан, тут во хлеб у жыдкім відзе. Рэквізуем?

— Рэквізуем усё. І прылады таксама. Гэта ж улікі,— хромавым ботам ён перакуліў чыгуны.

Гнядую кабылку прывязалі тут. Самі паехалі ў Хатынічы, маючы намер заехаць сюды зноў, калі будуць вяртацца.

Неўзабаве яны былі на двары Змітрака Пацюпы. Той не чакаў такіх гасцей, гарэлку далёка не хаваў, знайшлі чыгуны, трубу і карыта. Адпірацца Пацюпу не было куды. Збялелы як палатно, дрыжачымі рукамі ён прыціскаў да сябе дзяўчынку гадоў двух у доўгай кужэльнай кашульцы. Малая захліпала, убачыўшы

незнаёмых людзей, бацька супакойваў яе, нешта ўсё гаварыў і гаварыў, пакуль яна супакоілася. Бравусаў зірнуў на малую, на бацьку, шкада зрабілася Пацюпу, бо адразу падумаў, што дачушка некалькі гадоў не пабачыць бацькі. Мабыць, пра тое ж падумаў і Міхалёў, бо неяк спахмурнеў, калі ўчастковы дастаў паперу, паслініў хімічны аловак.

— Таварыш капітан, а можа, хопіць таго, што напужалі чалавека? Ён болей не будзе етым займацца,— ціха сказаў Міхалёў.

— Адставіць разгаворчыкі! — абарваў яго Студзянцоў.— Пішыце, Бравусаў, акт...

Для старшыні Міхалёва гэта гісторыя ледзь не закончылася звальненнем, вядома, не за тое, што ён пашкадаваў Пацюпу.

Тут быў зусім іншы паварот. Рэквізаваную самагонку ён прывёз у міліцыю. Быў позні вечар, ягоныя сябрукі, якія дзяжурылі тады, не доўга думаючы, спусцілі з бачка ваду, што стаяў у калідоры, і вылілі туды гарэлку. Ля бачка стаяла алюмініевая конаўка. Назаўтра пра бачок і пра тое, што ў ім ёсць, ведалі амаль усе, апроч начальства. Бачок памалу пусцеў, затое ўсё весялейшыя рабіліся галасы ў двары, у некаторых кабінетах.

Пад канец дня маёр Гоманаў пачуў ад сваіх падначаленых падазроны пах. Ён прыкмеціў, што яны надзвычай ахвотна прыкладваліся да вады. Уранні капітан Студзянцоў далажыў пра паездку ў Хатынічы, паказаў рэквізаваны самагонны апарат і сказаў, што самагонкі ўзялі мала, вылілі ў ручай, бо не было ў чым везці. І тут падазрэнне пасялілася ў душы бывалага маёра. Ён падышоў да бачка, узяў конаўку, прынюхаўся, потым нацадзіў «вады», каўтануў пару глыткоў, зморшчыўся, плюнуў, выліў усё з конаўкі ў тазік, начапіў акуляры і адкрыў бачок: на самым дне пялёхалася трохі вадкасці.

— Дзяжурны, капітана Студзянцова да мяне!

— Таварыш маёр, капітан Студзянцоў паехаў у Балыкавічы па заданню...

— Ах, да,— спахапіўся Гоманаў, зняў акуляры.— А дзе старшына Міхалёў?

Старшына Міхалёў быў на месцы. Высокі, вузкаплечы, ён увайшоў у кабінет даволі цвёрдым крокам,

але язык не слухаўся яго. Міхалёў глядзеў на свайго начальніка і шырока ўсміхаўся.

— Што з вамі, старшына? Чаму вы хістаецеся? — строга спытаў начальнік міліцыі, пільна зірнуў з-пад акуляраў на Міхалёва.

Той перастаў усміхацца, спахмурнеў і, заікаючыся, сказаў:

— Са мной што... Мне яго шкада. Пацюпу Змітрака. П-прападзе чалавек... А ў яго трое малых дзетак. Пашкадуйце яго, таварыш маёр. Век вам буду дзякаваць,— голас Міхалёва ўздрыгнуў, ён гатовы быў заплакаць.

— Ты праўду кажаш. Прападзеш ты, браце, калі не паразумнееш. Сядай. І скажы мне чэсна...

Міхалёў прываліўся да стала.

— Таварыш маёр... Я паважаю вас... Як бацьку роднага паважаю... А Бравусаў склаў акт. Я гаварыў: не пішы. А С-студзянцоў кажа: адставіць разгаворчыкі.

— Бравусаў і Студзянцоў чэсна выканалі свой абавязак. А цяпер ты скажы чэсна, адкуль у бачку гарэлка?

— Не ведаю, таварыш маёр. Мы ў ручай вылілі. Усю да кропелькі... Ета я помню, а болей — не помню нічагуткі... От, сем год працую, людзей абіжаю... Шкада іх, людзей нашых...

— Вось што, дарагі мой, давядзецца і мне цябе абідзіць. Пра гэта пагаворым заўтра. А зараз — дамоў і ціха спаць...

Начальнік паклікаў дзяжурнага і загадаў адвезці Міхалёва. А сам, ашчаперыўшы буйную лысую галаву, доўга сядзеў над сталом, потым пацёр левую грудзіну — «матор» працаваў з перабоямі. Усхваляваў яго Міхалёў, калі загаварыў пра малых Пацюпавых дзяцей: зашчымела даўняя незагойная рана — на свайго сына атрымаў ён пахаванку, загінуў на Проні, пад Чавусамі. Сам Гоманаў быў тройчы паранены, шрам на лбе — памяць пра Сталінград, дзе яго драпануў асколак. А каб мацней дзеўбануў?.. Ужо б і косці даўно папрэлі, і не пабачыў бы ён свайго ўнука.

Унука, гадавалага карапуза, Гоманаў вельмі любіў, часам яму здавалася, што і свайго сына ён так не любіў, і дачку малую бачыў рэдка — не было калі — служба. І вось яна, ягоная дачка, стала маці, нарадзіла

яму ўнука... Мабыць жа, і Пацюпа любіць сваіх малых дзяцей... Справа яго ўжо закруцілася, і каталажкі яму не мінуць.

А што рабіць з Міхалёвым? Ёсць усе падставы звольніць. Але ж даўно служыць. Дэзерціраў лавіў, бандытаў, паранены ў мірны час... Трэба даць добрую прачуханку... Правая рука начальніка міліцыі зноў пацягнулася за пазуху — сэрца шчымела, «клапаны грукалі». З Міхалёвым размова адбылася назаўтра. Ніхто не ведаў, пра што яны гаварылі, але выскачыў той ад начальніка міліцыі чырвоны, як пасля лазні.

Бравусаў дазнаўся пра ўсё гэта многа пазней, калі прыехаў на суд, дзе ён і пабачыўся з суддзёй Васіленкам.

І цяпер, калі Свідэрскі прывёў участковага да Марусінай хаты, ён яскрава ўспомніў гісторыю з Пацюпам. Думаў Бравусаў пра гэта і дома. Пляшка мутнавата-сіняй вадкасці стаяла на стале. Ён выцягнуў корак, панюхаў, нібы хацеў пераканацца, што гэта не вада, а іншае зелле. І тут яму прыйшла думка, як выратаваць кабету. Бравусаў усміхнуўся сам сабе, мацней заціснуў корак, заматаў яго дратваю. Калі рабіць па ўсіх правілах, то пляшку трэба апламбіраваць, заляпіць сургучом, але сургучу ў яго не было, ды і следчыя гэтак не рабілі.

Тое, што ён надумаў — справа рызыкоўная, хаця віну яго не так проста і даказаць. Зрэшты, што мне зробяць, разважыў ён, дадуць вымову або проста паўшчуваюць. Свідэрскі будзе мець зуб пасля гэтага, бо ён-то зразумее, чыя гэта работа.

І ўсё ж Бравусаў адчуў нейкую палёгку на душы.

## XIV

Канікулы заўсёды пралятаюць хутка, асабліва вясеннія, калі так хочацца палётаць басанож па вуліцы, калі пасля доўгай зімы так цёпла і хораша на двары, а ў вокны плешча серабром паводка. Штораніцы Андрэйка спачатку бег да акна — зірнуць на луг, дзе які новы курган вытыркнуўся з вады, як падаўжэлі рыжыя прагаліны, дзе курганы злучыліся між сабою. З кожным днём вада адступала, цёмна-руды колер усё болей распаўзаўся па лузе, кусты алешніку, што вы-

значалі рэчышча Бесядзі, нібы ўвачавідкі раслі, бо ўсё вышэй тырчалі іх верхавіны.

Уранні ён ішоў у школу ў баціначках, а назад вяртаўся басанож, баціначкі нёс у руках, не таму, што дужа шкадаваў іх, хоць і гэта было, а хацелася ісці босымі нагамі, адчуваць цёплы пясок роднай вуліцы. Малы Сахута не думаў пра тое, што вось па гэтай дарозе хадзілі босыя ногі яго дзядоў і прадзедаў. Ды ён і помніў толькі бабу Васілісу, якая памерла, калі Хатынічы вызвалілі ад немцаў, але пачуццё роднасці са сваімі далёкімі прашчурамі падсвядома, дзесьці ў глыбіні душы жыло ў ім. Сябрукі таксама ўсе разуваліся, ідучы са школы, а Данька і ўранні бег басанож.

— А мне дык лягчэй. Мне і бацінкі несці не трэба,— радаваўся Данька, што дачакаўся вясны.

Андрэйка яму нават трохі зайздросціў, бо яго, Андрэйку, маці не пускае раніцай басанож, праўда, не пярэчыць, што потым, пасля ўрокаў, ён бегае басанож, аж пакуль сцямнее.

Гулялі хлапчукі ў розныя свае гульні. Калі было гразка на вуліцы, снег толькі сыходзіў, то найперш гулялі ў «кана», або яшчэ называлі ў «шэя». Расчэрчвалі квадрат, дзве каманды па тры ці чатыры чалавекі, у кожнай камандзе свая «матка» — капітан. Для гульні патрэбен мяч, нават пашыты з анучы ішоў у ход, бо гумовы быў тады вялікай рэдкасцю. Ігракі адной каманды сыходзіліся ў гурт і хавалі між сабою мяч, потым станавіліся па вуглах квадрата, а ў сярэдзіну — ігрок другой каманды. Яго трэ было «выбіць». Тут важна ўгадаць, у каго мяч, тады ад яго трымацца далей, а да іншых ігракоў можна падыходзіць зусім блізка.

Гульня выяўляла і артыстычныя здольнасці, кожны паказваў, што ў яго мяч, трымаў руку за пазухай ці ў кішэні порткаў, замахваўся. Данька гэта ўмеў рабіць адмыслова. Неяк Андрэйка быў у адной камандзе з Паўлікам, а Данька ў другой. Надышла чарга станавіцца на «кон» Андрэйку, а Данька са сваімі «шэіў». Сталі яны па кутах, усе грозяцца, што ў іх мяч, Данька нават паказвае, як мяч адтапырвае кішэню.

— Хадзі бліжэй, а то баюся прамахнуцца,— пацвельваўся Данька.

Ён, мусіць, трохі перайграў, занадта ўжо гразіўся, і Андрэйка здагадаўся, што ў яго мяча няма, і падыходзіў да яго ўсё бліжэй, а потым і стаў зусім побач.

— Ну, дзе твой мяч? Выбівай. Ты ж хваліўся, гразіўся...

Мяча ў Данілкі не было, ён адштурхоўваў Андрэйку ад сябе, але правілы строга забаранялі яму сыходзіць з кута. Цяпер пагроза была ўжо толькі з трох бакоў. Астатнія трое ігракоў таксама ўсім выглядам паказвалі, што кожны з іх мае мяч. Даводзілася пільна сачыць за ўсімі, але адлегласць павялічылася, бо ён стаяў не на цэнтры. Андрэйка згледзеў, як адзін з ігракоў замахнуўся, і паспеў крутнуцца ўбок, камячок анучаў са свістам праляцеў міма.

Колькі было радасці для ігракоў Андрэйкавай каманды! Яны ўсе заскакалі, закрычалі: «Мазілы, мазілы!» Прыціхлая каманда «праціўнікаў» аддала мяч, і цяпер ужо іхні ігрок станавіўся на «кон».

Калі падсыхала вуліца, пачыналася гульня «ў мяча», па сутнасці тое, што называюць лаптой. Дзве каманды, а яны могуць мець чатыры, пяць і болей ігракоў, мяч, пажадана гумовы, гілка — доўгая моцная палка, поле — дзве рысы, на адной стаяць і б'юць па мячы, і другая метраў за сорак — пяцьдзесят, да якой бегчы і вяртацца назад,— вось і ўсё, што патрэбна для гульні. Ігракі ў полі павінны або злавіць мяч — злавіць «вісака», і адразу тады другая каманда ішла ў поле, або схапіць мяч ужо на зямлі і пацэліць у ігрока. Спачатку капітаны-маткі браліся рукамі на гілцы — чый верх, каманда таго будзе біць. Ігракі другой каманды ідуць у поле, адзін застаецца гіліць — падкідваць мяч. Тут цэлы спектакль. Дзяўчаткі звычайна толькі «прамахваліся», адзін раз махалі гілкаю, каб не папасці па мячы, бо можа атрымацца «вісак», які зловяць у полі. Апошнім б'е звычайна капітан, ён мае права біць некалькі разоў, нават калі і пацэліць па мячы і той паляціць, але не далёка, то каманда не бяжыць, стаіць, чакае лепшага ўдару, каб можна было збегаць туды і назад.

Гэтую гульню Андрэйка любіў асабліва. Ён налаўчыўся біць па мячы так моцна і трапна, што той ляцеў высока і далёка, ігракі каманды паспявалі збегаць туды і назад вярнуцца на зыходны рубеж. Злавіць мяч пасля такога ўдару таксама ўдавалася рэдка. Тут яшчэ многае залежыць ад таго, хто як «гіліць» — падкідвае мяч.

Часцяком успыхвалі спрэчкі.

дасць яму бацька грошай? — задуменна сказаў Андрэйка.— Добра, каб гармонь у нас была.

Вестка пра гармонік узрадавала хлапчукоў, і яны доўга абмяркоўвалі яе. Данька даводзіў, што ён хутчэй навучыцца іграць, бо спрабаваў ужо рыпаць, калі да іх прыходзіў гарманіст з Лясковічаў.

Мікола не забыў сваё абяцанне. Усе доўгія дні і халодныя, ядраныя ночы, калі смылелі патрэсканыя, пазбіваныя да крыві рукі, Мікола грэў сябе думкаю, цешыў надзеяй, што займее гармонік. І абяцаў ён не толькі Паўліку, а і сваёй ухажорцы Клаве.

Праўда, не сказаць каб яе дужа ўзрадавала гэтае абяцанне, яна, прыхінуўшыся да яго, ціха прашаптала: «Можа, там гарус убачыш дзе ў Гомлі...» Каб купіў — сказаць такое язык не павярнуўся, але і так усё зразумела: прыгожая хуста дзяўчыне, ох, як патрэбная.

Да Гомеля яшчэ было далёка, а Мікола ва ўсіх распытваў, як плацяць за драўніну. Аказалася, што найбольшая цана за дуб, потым за бярозу і асіну, а танней за ўсё каштавала елка, бо яна самая лёгкая і сплаўляць яе лягчэй. А бярозу, дуб трэба звязваць уперамешку з лёгкай драўнінай і ўвязваць трэба гужбой моцна, а гэта багата клопату. Бярозы і дубу ў Міколавым плыце не было зусім, асіна і сасна меліся, а найболей было елкі. Так што на вялікі заробак разлічваць яму не даводзілася.

І ўсё ж атрымаў Мікола амаль дзве тысячы рублёў — сасна і асіна выручылі. Перш-наперш пастараўся выканаць матчыну просьбу: купіў чыгун і каструлю, затым знайшоў у невялічкай краме на рынку гарус, прыгожы, у вялікія чырвоныя і жоўтыя кветкі, не забыў і пра бацьку — яму купіў дыяганалевыя галіфэ, хлопцам, меншым сястрычкам — падушачак і абаранкаў.

А вось гармонікаў не было ні ў магазінах, ні на рынку. Бачыў Мікола акардэон, за які прасілі дзве тысячы. Пашкадаваў ён грошай: не мог ён аддаць увесь заробак, вярнуцца дамоў без гасцінцаў ды і лічыў акардэон нямецкай музыкай. Гармонік — тут душа спявае: а акардэон хрыпіць і рохкае, як сыты парсюк.

Прыехаў Мікола ў Лабанаўку сумны, завітаў нанач да цёткі, старэйшай бацькавай сястры. Расказаў пра свой клопат.

плыты, тармазіць аралам яны пачыналі яшчэ ад Лукі. У зямлю забівалася колле, да іх прывязваліся плыты. Ноч яны ціха стаялі ля берага, а ўранні сплаўшчыкі адвязвалі іх, выпраўляліся далей.

Неяк пасля апошняга ўрока Андрэйка з сябрукамі выбег на ўзгор'е. Па Бесядзі якраз ішлі плыты. Хлапчукі скаціліся ўніз да ракі.

— Куды, галыдзьба! У ваду зваліцеся! — крыкнуў Арцём, які стаяў на першым тарку з даўжэзным шастом, а на апошнім быў яго сын Мікола, што нядаўна вярнуўся з арміі. Мікола памахаў хлапчукам, весела крыкнуў:

— Ну, хто смелы? Хто хоча са мною ў Гомель?

— Дык вас і так двое,— разважліва сказаў Данька.— Плыт не вытрымае. І ў будцы месца не хопіць.

— Бацька толькі да Парцюкоўкі плыве. А далей я адзін паганю...

— Вазьмі мяне з сабою! — крыкнуў Паўлік, падкасаў порткі і скочыў на плыт.

— О, ёсць адзін смелы! — рагатаў Мікола.— Будзе мне кампанія. А вам прывязу гасцінцаў. Чакайце праз два тыдні.

— Паўлік, ты што, здурнеў? Як жа ты цяпер злезеш? — крыкнуў стары Арцём, адпіхваючы плыт на сярэдзіну ракі, бо ля вусця Канчанскага ручая было мелкавата.— Паплывеш цяпер да Парцюкоўкі.

Паўліка гэта не спалохала. Ён пачуў, што дзядзька Арцём плыве да Парцюкоўкі, то і ён там сыдзе разам і прытэпае дамоў. Сябрукі пазайздросцілі яму і неахвотна пацягнуліся дадому. Андрэйка разы два азірнуўся на плыт, які ўсё аддаляўся. Данька таксама ішоў і ўсё аглядаўся на раку, мабыць, у думках быў разам з адчайным сябрам.

А як ужо хваліўся потым Паўлік! Ён і шастом плыт адпіхваў, нават сам дзядзька Арцём даў яму пакіраваць галаўным тарком. Хлапчукі слухалі, дзівіліся і яшчэ болей зайздросцілі сябру.

— Мікола ведаеце што сказаў? — Паўлік вытрымаў паўзу, каб надаць большай важнасці моманту.— Ён сказаў, што купіць у Гомлі гармонь. Будзе іграць у нашым клубе. І я навучуся іграць. Тады старшыня калгаса на курсы пашле. Ён жа гаварыў. А раз ён сказаў, то і зробіць. Купіць баян.

— Яшчэ невядома, ці купіць Мікола гармонь. Ці

Тоўстыя пальцы музыкі рухаліся не дужа спрытна, відаць, што іграць ён быў не вялікі спец.

Пасля ягоных слоў у Міколы нібы абарвалася сэрца: не хапае грошай. «Дурань, цялё няшчаснае, гарус купіў... Галіфэ. Ета ж у любы час можна ўзяць»,— Мікола не зводзіў вачэй з гармоніка і ўжо хацеў прасіць Грышку, каб пазычыў сотню, а той непрыкметна сціснуў яго за локаць і загаварыў:

— Пабойся бога, чалавеча. За такія грошы карову можна купіць. А гармоняй сыты не будзеш.

— Не хочаш, не бяры,— музы́ка сціснуў гармонік, ён жаласліва рыпнуў, аж у Міколы зашчымела ўнутры.— Ну, а колькі ты даеш? — музыка ўважліва зірнуў на Грышку, а потым на Міколу.

— Даю тысячу. І магарыч,— важка сказаў Грышка.

— Хо, тысячу,— грэбліва хмыкнуў музыка, але вочкі яго забегалі неяк мітусліва, ён пагладзіў няголены падбародак.— Сотню накінеш — твая...

Мікола ўжо раскрыў рот і палез у кішэнь, але браценнік перапыніў яго рашучым жэстам:

— Не, браток, тысяча, магарыч і закусь. Усё як трэба. Замочым, каб не рассохлася...

— Дзе ж ты возьмеш? Крама зачынена яшчэ,— каўтануў сліну музыка, аблізаў перасохлыя, абсіверапыя губы.

— Ёсць. Я тут жыву блізка. Стаіць на стале бутэлька. Матка бліны пячэ са скваркамі... Па руках? — ухмыльнуўся Грышка.

— Ну і змей! Такую гармонь хочаш адхапіць за нішто. Ета ж італьянская хромка. Ёй цаны няма... Цябе я ведаю. Ты ж у лясгасе круціш баранку... Але хлапца мне шкода. Бачу, як у яго зуб гарыць,— музыка зняў гармонь і павесіў яе на плячо Міколу.— На, іграй, весялі людзей...

Мікола ад радасці не знаходзіў сабе месца, ён абняў музыку, цмокнуў у няголеную шчаку.

Дамоў Мікола не ішоў, а бег, хоць за спінай боўтаўся цяжкі рэчмяшок з чыгуном, каструляю і гасцінцамі, а на плячы вісела і ззяла пад сонцам гармонь. Каля Баравухі дагнаў яго Апанас Шкурдзюк, які прывозіў прадаваць парасят. Гандаль у яго быў удалы, раскупілі ягоны тавар хутка, задаволены Апанас паблажліва пасміхаўся, нібы кот на сонейку.

— Сядай, Мікола, падвязу! — крыкнуў ён.

— Не бядуй, калі яшчэ засталося што ў кішэні, уранні сходзім на базар. Бываюць у нас гармоні,— суцешыў Міколу браценнік Грышка, які працаваў шафёрам у лясгасе.

Мікола пералічыў заробак: мелася ў наяўнасці тысяча сто рублёў.

— З такімі грашыма можна смела ісці на базар. Сходзім уранні. Базар тут недалёчка. Я пабуджу цябе. А ты спі, братуха. На плыце нябось мулка было,— пасля чаркі Грышка быў у добрым гуморы.

— Ой, не пытай! Які там сон. Бывала, і ноччу плылі,— пазяхаючы, адказаў Мікола.

Спаў ён моцна. Прысніўся яму сон. Вялізны пярэсты бык з грозным рыкам ганяўся за ім. Мікола ўскочыў на дрэва, тоўстую вярбу, што расла каля іхняй хаты, азірнуўся і ледзь не сарваўся — на рагах быка вісеў расцягнуты гармонік, а на задніх нагах — галіфэ. Бык матаў галавой, гармонік жаласліва рыпеў і расцягваўся ўсё шырэй. Мікола саскочыў з дрэва, схапіў каструлю, якую купіў у Гомелі, пачаў грукаць у яе кулаком, як у бубен. Бык задраў хвост, пярэднімі капытамі рыў зямлю, а заднімі нагамі, на якіх матляліся галіфэ, тупаў у такт гармоніку і шалёнымі чырвонымі вачамі пазіраў на Міколу. Размахваючы каструляй, хлопец адчайна кінуўся на яго... і прачнуўся. У хаце было яшчэ цёмна, але верхнія шыбіны ўжо святлелі. Мікола пачаў таропка адзявацца: раптам гармонік будзе, а нехта перахопіць, тады кусай сябе за локці.

Неўзабаве прачнуўся і Грышка, хуценька пакіравалі на базар. На невялікім пясчаным пляцы тоўпіліся людзі. Мікола здалёк угледзеў чалавека з гармонікам. Ён адчуў, як гулка забілася яго сэрца, рука міжвольна памацала ў кішэні грошы.

Падышлі да гарманіста. У Міколы перахапіла дых ад хвалявання, і ён не мог вымавіць ні слова, як зачараваны пазіраў на белыя перламутравыя гузікі галасоў, чорна-белыя кнопкі басоў, бліскучыя планкі, якія ў промнях ранішняга сонца ззялі дзівосным бляскам.

— Колькі хочаш за сваю музыку? — абыякавым тонам, як бы паміж іншым запытаў Грышка.

— Нямнога. Тысячу дзвесце,— адказаў чалавек, расцягнуў гармонь, націснуў на перламутравыя гузікі, каб паказаць малінавыя мяхі і голас, пявучы, залівісты голас гармоні.

што яна з'ела ўвесь сынаў заробак, а ён быў ужо распланаваў, якія дзюркі заткнуць у сямейным бюджэце.

— Ну што, упёр грошыкі? — строга зірнуў ён на сына, які ўсміхаўся на ўвесь рот да вушэй.—Значыцца-брат, іграй цяперыцька, весяліся, пустадом... А я памагаў табе і гужбу круціць, і плыт вязаць. Як той дурань праводзіў цябе да Парцюкоўкі... І дачакаўся падзякі... Тваю маць... Прасіў жа, як чалавека, купі машынку для стрыжкі. Абрыдла авечымі нажэнцамі стрыгчыся. Дык не... На ета розуму не хапіла... Схавай, каб вочы мае не бачылі ету бандуру! А то парэжу нажом...

— Ну ён жа сам зарабіў,— заступілася Хадора.— Ты зірні на яго рукі... Да крыві парэпаліся...

Мікола моўчкі паставіў гармонь на стол, зняў рэчмяшок.

— Бацька, не крычы. Машынак няма. Усе крамы абышоў... На-ка во, прымерай,— і падаў галіфэ.

Арцём моўчкі ўзяў скрутак і схаваўся за шырму. Праз хвіліну ён выйшаў расчырванелы, узрадаваны, невялікія зеленаватыя вочы яго свяціліся, пазіралі на сына ласкава і шчасліва.

— Значыцца-брат, як на мяне шыты. Акурат падышлі... Ну, сынок, дагадзіў. За галіхве, значыцца-брат, вялікае табе дзякуй...

— Ну во, а то раскрычаўся. Паглядзі, які чыгун купіў і каструлю еткую красівенную,— свяцілася ад шчасця Хадора.— Будзе ў чым і бульбы зварыць, і капусты...

Хадора ласкава гладзіла серабрыста-белы алюмініевы чыгун, разглядала густа-зялёную каструлю, абмацвала дно, падняла яе і зірнула на сонца — ці няма якой шчылінкі. А Манька ўжо хрумстала абаранкі разам з цукеркамі-падушачкамі, запіваючы халоднай вадою. Арцём зноў зірнуў на гармонь, падышоў бліжэй, асцярожна пагладзіў бліскучыя гузікі, злёгку пацiскаў іх, але гуку яны не далі, толькі захлопалі.

— Хітрая штуковіна... Ты вось што, сынок, схадзі да Гылігора. У яго павінна быць бячоўка. А я злажу на столь. Там недзе быў шматок цялячай скуры. Дык бубен зробім... З сабачай быў бы лепшы, ды няма ж сабак... Самім есці нечага... Палезу...

— Ты ж хоць штаны здымі,— спахапілася Хадора.— А то ў іх і палезеш...

— А навошта іх здымаць? Я ў іх і спаць цяперыць-

Хлопец узрадаваўся аднавяскоўцу, ускочыў на воз, і адразу — гармонь ад пляча і да пляча. Спачатку ўрэзаў «барыню», потым «страданіе», «на рэчаньку». Рукі, патрэсканыя ад вады і ветру, з крывавымі мазалямі і драпінамі ад шаста і арала, балелі, пальцы не хацелі згінацца, але Мікола не чуў ніякага болю. Душа яго спявала мацней, чым італьянскі гармонік.

— Адкуль у цябе гармонь? — спытаў Апанас, з павагаю і захапленнем гледзячы на музыку і ягоны інструмент.

— Купіў у Гомлі. За тысячу дзвесце,— зманіў Мікола, бо лічыў, што гармонь каштуе намнога болей, чым ён заплаціў.

— Ф'ю,— свіснуў Апанас і вытарашчыў вочы.— Такія грошы ты аддаў за гармонь! Ёлкі-маталкі, ета ж цэлая свінаматка. Я вунь прадаў восем парасят і то ўсяго шэсцьсот наскроб. А ты ўпёр столькі грошай!

— А што табе маіх грошай шкода? — узбурыўся Мікола.— Я ж не ўкраў іх. Чэсна зарабіў. Купіў гармонь. У нас жа ў Хатынічах ні ў кога няма...

— Ну, дык і што калі няма? Ці табе болей за ўсіх трэба? Кусцюм сабе купіў бы, боты хромавыя... А то голым задам свеціш, а такія грошы пускаеш на вецер.

— Не, Апанас, я не шкадую, што купіў гармонь. Ета ж такая радасць! — Мікола разануў «Лявоніху», аж конік застрыг вушамі і, здаецца, пабег весялей.

Як толькі пад'ехалі да Хатынічаў, хлопец зноў расцягнуў гармонік. За дарогу ён прылаўчыўся да свайго інструмента, раней іграць даводзілася мала: падвучыў яго трохі лясковіцкі гарманіст, які прыходзіў да Параскі на ігрышчы.

Цяпер Мікола ўрэзаў з усяе сілы, і яму здавалася, што ягоную музыку чуе ўся вёска, чуе ўхажорка Клава... Ля Шамаўскага моста гулялі дзеці, усе кінуліся насустрач, потым беглі ўслед за возам, галёкалі, падскоквалі ад радасці, кідалі ўгору высмяглыя на сонцы кепкі. Мікола злез з воза каля дому і пад музыку — гармонь пела і залівалася — увайшоў у хату.

Андрэйка выбег на вуліцу, як пачуў музыку. Данька і Паўлік былі ўжо тут, прыбеглі ўслед за возам з паўтузіна хлапчукоў з Шамаўкі. Усім хацелася пабачыць бліжэй гармонь, паслухаць, як яна іграе.

А ў хаце сустрэлі Міколу не дужа ласкава. Дзядзька Арцём коса зірнуў на гармонь і адразу зразумеў,

ка буду,— шырока ўсміхаўся Арцём, паказваючы жоўтыя пракураныя і з'едзеныя за некароткі ўжо век зубы.— Сын купіў. Значыцца-брат, берагчы трэба...

Арцём ляпнуў сына па плячы і падаўся на вуліцу, каб усе пабачылі яго новыя галіфэ. І перш-наперш павярнуў да суседа Мацвея Сахуты.

Праз нейкі час выйшаў на вуліцу і Мікола, вынес жменю цукерак і пачаў частаваць дзятву. Цукеркі пазліпаліся, Мікола адрываў іх адну ад адной, стараўся, каб кожнаму выпала не меней чым дзве.

— Ну што, Паўлік, я сваё абяцанне стрымаў. Гармонь ёсць! — Мікола пагладзіў бялёсы Паўлікаў віхор.

— Дай пайграць,— не разгубіўся малы.

— І мне таксама,— падступіў бліжэй да суседа Андрэйка.

— Пайграць яшчэ паспееце. Вось вырасцеш,— прыхінуў ён да сябе Андрэйку,— зганяеш плыт у Гомель і сабе купіш...

— Мікола, з вяртаннем цябе! — пачуліся галасы ад правулка: гэта ішлі Васька і Віцька.

Мікола дастаў пачак папярос. На ім быў намаляваны матацыкл, салдаты ў касках з аўтаматамі і надпіс «Красная звезда». Усе ўтрох дружна задымілі.

— Ну, як даплыў? Нармальна? — спытаў Васька.

— Усё добра. Во рукі ніяк не загояцца... Затое гармонь, хлопцы, купіў...

— Што ты кажаш? — аж падскочыў ад радасці і здзіўлення Віцька.

У гэты момант выйшла Хадора.

— Сынок! Я ж цябе дажыдаю... Хадзі, рукі памажу шмальцам... Хутчэй будуць гаіцца.

— Не клапаціся, матка. Яны і так загояцца... Нам во бубен рабіць трэба,— Мікола павярнуўся да сяброў.— Бацька кажа, што ў Гылігора павінна быць бячоўка. У нас ёсць скура... Для звону бляшкі патрэбны.

— А я зараз выражу з гільзы. Артылерыйская, звонкая. І блішчэць будуць, як залатыя,— узгарэўся Васька.

— А я да Гылігора,— крутнуўся Віцька і подбегам пашыбаваў у правулак.

Хадора глядзела на сына і не магла нагледзецца. Ёй здавалася, што за гэтыя два тыдні, пакуль зганяў плыт у Гомель, сын падрос, падужэў, шырэй зрабіўся

## XV

Суддзя Васіленка прачнуўся ў той дзень рана, зірнуў на гадзіннік — яшчэ не было шасці. Спяшацца няма куды: у сталоўку ўранні ён не хадзіў, а дабірацца на работу — дзве хвіліны, бо жыў у гэтым жа доме, дзе знаходзіўся народны суд, толькі ўваход з другога боку. На сняданне звычайна гатаваў сабе чай, смажыў яечню або варыў яйкі ўсмятку, выпіваў малако, калі меў яго. Жыў суддзя па-халасцяцку, і гаспадарка яго-ная была вельмі сціплая.

Сын вясковых настаўнікаў, Яўген Васіленка добра вучыўся ў школе, у сорак чацвёртым скончыў дзесяты клас, і пацягнула яго ў горад: надумаўся паступаць у юрыдычны інстытут. Маці адгаворвала, маўляў, надта ж галаваломная будзе работа, яна хацела, каб сын стаў настаўнікам, бо лічыла, што гэта самая паважаная работа, і калі ўцягнешся, дык знаёмая, звыклая, хадзі па адной і той жа сцежцы, выкладай урокі, дзеці слухаюць і глядзяць табе ў рот, у класе чыста, зімою цёпла напалена. Усё для цябе падрыхтавана. І самы паважаны і адукаваны чалавек у вёсцы — настаўнік, і кожны здаля яму кланяецца. Бацька, наадварот, не пярэчыў, не адгаворваў Яўгена, у душы спадзяваўся, што юрыдычны інстытут раскрые перад сынам куды большыя перспектывы, чымся настаўніцкі.

Вучыўся Яўген Васіленка з вялікаю ахвотаю і скончыў інстытут на «выдатна». Папрасіўся, каб накіравалі на Магілёўшчыну. У самім Магілёве праходзіў стажыроўку, потым прапанавалі яму паехаць у Лабанаўку на працу.

— Не ведаю, ці добра гэта. Я там нарадзіўся. Свая-кі кругом, родзічы,— усумніўся Васіленка.

— Нічога, едзь. Меней хамутаць будзеш...— пачуў ён у адказ.— Узрост адпаведны маеш. Дваццаць тры табе ўжо стукнула. Працуй, Яўген Іванавіч.

Некалькі спраў напачатку яму вярнулі з абласнога суда: то перавышаў пакаранне, то знаходзілі памылкі ў афармленні.

А першая справа яму трапіла такая. Даяркі адной фермы напісалі пракурору, што іхні вартаўнік за ноч адпівае па літру, а то і па два малака. Па сутнасці гэта — кража калгаснага дабра. Завялі справу, пачалі разбірацца. Вінаваты чалавек — крадзе, а тагачасныя

ў плячах. Яна радавалася, калі ён прыйшоў з арміі — высокі, чысты, у гімнасцёрцы з пагонамі, тады ён падаўся ёй нейкім незнаёмым, бо доўга не быў дома, у незнаёмай форме. А на гэты раз разлука была кароткая, і вось ён стаіць у тым жа самым шынялі наапашкі, але ягоны твар, буры ад вясновага загару, радасна-ўзбуджаны, і па-даросламу мужны, і па-хлапечы тонкі, кволы.

«Гармонь купіў. Цяперыцька дзеўкі будуць хадзіць за ім талакою. Жаніць трэба, каб не сцягаўся»,— думала Хадора і зноў паклікала сына, каб памазаць шмальцам рукі.

— Мама, пазней. Нанач памажам... Я схаджу да Ваські і скора вярнуся...

Мікола і Васька гучна абмяркоўвалі, колькі трэба бляшак-бомаў, каб звонкі атрымаўся бубен. Але на двор да Сахутаў Мікола не пайшоў. Як толькі згледзеў, што маці павярнула ў хату, ён зашпіліў шынель і хуткім крокам пашыбаваў у Канчанскі бок. За пазухаю ў яго грэўся квяцісты гарус для Клавы.

Андрэйка і Данька глядзелі яму ўслед, і кожны думаў пра сваё. Але доўга яны не стаялі — кінуліся на дапамогу Васілю. Зрэшты, ён бы справіўся і без іх. Але ж так цікава паглядзець, ды і памагчы патрымаць што ці падаць. Паўлік памчаў разам з Віцькам да дзеда Гылігора. Уся дзятва разбеглася па вёсцы, несучы радасную вестку: Мікола купіў гармонь, і цяпер у Хатынічах свая музыка і штовечар у клубе будуць танцы.

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, красавік 1950 г.*

*1. Прага. Тут пачаўся працэс 10 каталіцкіх свяшчэннікаў — агентаў Ватыкана.*

*2. Магілёў. Калектыў Магілёўскага лакамабільнага завода адправіў у калгасы Беларусі, а таксама Украіны, Прыбалтыкі, Сібіры сотні лакамабіляў звыш плана.*

*4. Пхеньян. У гарадах і сёлах Паўночнай Карэі працягваюцца сходы працоўных, на якіх ствараюцца мясцовыя камітэты абароны міру.*

*19. Барысаў. Стаханаўскую вахту ў гонар 1 Мая нясуць рабочыя ўсіх цэхаў шклозавода імя Дзяржынскага.*

салдатка, рабочая льнозавода, і немалады ўжо дзесятнік сплаўной канторы — адасабляецца на нараду.

— Ну, што будзем рабіць? Які вынесем прысуд? — Васіленка стаяў ля дзвярэй невялікага катуха, нібы загароджваў, каб ніхто не ўвайшоў, хоць уваходзіць сюды ніхто не меў права.

— Думаю, Яўген Іванавіч, што два гады трэба даць. А ёй, сцерве, дык бы і тры не пашкодзіла б... Пайшоў мужык на фронт, дык яна, сучка, са свёкрам скруцілася...— жанчына змоўкла і сурова падціснула поўныя, па-жаночы прывабныя губы.

— Я супраць,— падскочыў дзесятнік.— А куды дзяцей? Сірат і так зараз тысячы. Усе дзіцячыя дамы перапоўнены...

— Ну і пакідаць без пакарання такое нельга,— не згаджалася ўдава.

— Вы паглядзіце на старога... Ад яго ўжо адзін цень застаўся. Ён сам сябе карае... І мацней мы ўжо яго не пакараем. А жыць... Калі нявестка здзекуецца, есці не дае — няўжо соладка? Як здаровы быў, дык яна не грэбавала, а цяпер ён не патрэбен,— разышоўся засядацель-дзесятнік.— Я прапаную запісаць... Як там ета называецца?..

— Прыватнае вызначэнне,— падказаў Васіленка.

— Во, во... Запісаць прыватнае вызначэнне, каб яна карміла старога і даглядала як след, інача яе трэба судзіць!

— Ну, так нельга катэгарычна,— запярэчыў суддзя, хоць у глыбіні душы ён быў згодзен з дзесятнікам.

Але як павярнуць справу так, каб і гэтая ўдава-засядацель прызнала справядлівасць рашэння, а раптам і нявестка пачне скардзіцца.

— Я лічу, што прапанову адваката падтрымаць варта,— з прыхаваным хваляваннем сказаў суддзя.— Стары вінаваты. Віну яго прызнаём, а меру пакарання вызначаць не будзем. І запішам прыватнае вызначэнне, каб жонка даглядала мужа.

Засядацель-удава спахмурнела, моўчкі ёрзала на стуле, а дзесятнік задаволена кхекнуў і сказаў:

— От, ета разумна. Ета па-чалавечы...

— Ну, глядзіце, таварыш суддзя, вам відней. Вы — чалавек вучаны. А я што? Цёмная, малаграматная баба,— разамкнула вусны ўдава-салдатка.

законы вельмі сурова каралі за крадзеж: за пяць кілаграмаў зерня — да сямі гадоў турмы, за паўторны крадзеж — мінімум дзесяць. Але вартаўнік не адліваў малако, дамоў не насіў, ніхто гэтага не бачыў, і сведкі такога не сцвярджалі. Адпіваў таму, што жонка дома не давала есці. Перад маладым суддзёй адкрылася складаная жыццёвая сітуацыя. Жылі ў аддаленай лясной вёсцы за Бесяддзю стары з сынам і нявесткаю, раслі двое ўнукаў. Як пачалася вайна, узялі сына на фронт. І як пайшоў, ніводнага пісьма не атрымалі ад яго. Жонка старога памерла да вайны, а ён яшчэ быў дужы, крэпкі дзядок. Нявестка маладая, здаровая жанчына. І праз нейкі час нарадзіла яна дзіця ад свайго свёкра. Скончылася вайна, вяртаецца сын. Дазнаўся, што да чаго, і з'ехаў некуды. Больш яго ў той вёсцы і не бачылі. Стары затужыў, шкада зрабілася сына, сорамна перад ім і людзьмі. І так затужыў, што захварэў, ды і жонка, былая нявестка, даймала яго, што ён зламаў жыццё і ёй, і сыну. Яна спрабавала і праганяць старога, але ж хата яго, і дзіця малое ад яго расце, ды і старэйшыя яму не чужыя.

На судзе памочнік пракурора,— сам пракурор Ясючэня на той час быў у ад'ездзе,— патрабаваў два гады турмы. Суддзя лічыў, што гэтае пакаранне справядлівае. Але адвакат, пажылы, хударлявы мужчына з бародкаю клінком, у круглых акулярах, рашуча адвяргаў гэтую прапанову: ён даводзіў сваё — вінаватым чалавека прызнаць, а пакаранне не вызначаць. Штраф плаціць яму няма з чаго — гэта будзе ўдар па сям'і, па малалетніх дзецях, пасадзіць у турму — таксама ўдар па дзецях і гэта на руку нявестцы, якая таксама вінавата, бо не маленькая была, калі грашыла, а цяпер хоча спіхнуць усё на старога.

Суддзя Васіленка часта пазіраў на старога. Быў той лысы, твар зморшчаны, як печаны яблык. Сядзеў ён звесіўшы галаву, але зрэдку адтапырваў вуха рукою, прыўзнімаў галаву — мабыць, недачуваў, і кідаў спалоханыя, насцярожаныя позіркі ў залу, дзе сядзелі жанчыны-сведкі, маладая шыракатварая і крутаплечая жонка-нявестка. Неяк Васіленка перахапіў позірк старога, скіраваны на яго, і ўбачыў у старэчых вачах тугу і адчай. Стары хуценька адвёў вочы ўбок, а ў суддзі нешта нібы абарвалася ўнутры. І вось суд — гэта значыць ён, Васіленка, два народныя засядацелі: удава-

рагатаў Даўгалёў.— Якраз у яблычка пацэліў... Як у сук уляпіў... Хаця, браток ты мой, калі праўду казаць, я сваёю Люсяю задаволены. Бывае, пабурчыць, не без таго...

— Дык што гэта за жонка, якая не бурчыць? — усміхнуўся Ясючэня, пагладзіў параненую левую руку, замест кісці яе быў пратэз, на які нацягнута чорная пальчатка.— Іншы раз і трэба мужа паўшчуваць. А зрэшты, ад мужыка залежыць... Я маўчу-маўчу, а потым: «Ну, годзе, раскудахталася. Хопіць!» І адразу пык-мык — і заціхае. Бабе толькі паддайся, дык на шыю сядзе і вяроўкі будзе віць. Гэта на будучыню табе настаўленне. Так сказаць, жыцейская мудрасць.

— За настаўленне дзякуй. Толькі, мабыць, няскора яно спатрэбіцца мне,— бесклапотна жартаваў Васіленка.

— Ты што, бабылём вырашыў застацца? Ажэнім, мілок,— запэўніў Даўгалёў.— Столькі дзяўчат у Лабанаўцы. Зірнеш іншым разам і падумаеш: «Хэ, чорт пабірай, дзе мае васемнаццаць год...» Ну, у нас вайна адабрала маладыя гады, пакалечыла, знявечыла... А ты сапраўды як манах-затворнік жывеш. Няўжо ты думаеш, калі сходзіш на танцы, то аўтарытэт твой пахіснецца? Ці гэтым ты падмочыш рэпутацыю? Не выберуць зноў у суддзі?

— Няма ў мяне такіх думак,— не зусім шчыра адказаў Васіленка, бо падобныя думкі, асабліва на першым часе работы, не пакідалі яго.— Неяк не прыахвоціўся да танцаў. Да вайны малы быў. У студэнцкія гады не да таго было... А цяпер, праўду кажучы, і няёмка мне ісці на танцы. Усе будуць глядзець...

— Ну, дзівак ты ўсё-такі,— перапыніў яго Ясючэня.— Трэба цябе жаніць неадкладна. А то чым далей, тым будзе цяжэй... Занадта шчыра ты ўлягаў у навуку, а яна, брат, мазгі сушыць.

— Вунь у нас, у Хатынічах, аднарукі Цімох усіх удоў і дзевак перамацаў. Адна дзіця ад яго нарадзіла. Ладны ўжо хлопчык. І дзеўка была відная. А куды дзенешся? Столькі хлопцаў палегла...— Даўгалёў спахмурнеў, цяжка падняўся, апіраючыся на кульбу, сярдзіта рыпнуў пратэз, і ўжо каля дзвярэй, быццам спахапіўся, дадаў: — А той самы Пацюпа Змітрок, ну, каторага за самагонку судзілі, памёр...

— Даў ты, браце, яму на поўную катушку,— пакі-

Такі прысуд і вынеслі. У зале нават воплескі пачуліся. Суддзя глядзеў, як па няголенай шчацэ старога скацілася светлая, як пацерка, слязінка. Доўгі час Васіленка з трывогаю чакаў, што гэтую справу або вернуць на перагляд, або жонка-нявестка падасць на апеляцыю, але справу не вярнулі. А дзесьці праз год старшыня сельсавета сказаў яму, што дзед з жонкаю жывуць ціха, дзеці растуць. Стары выглядае лепей, працуе з усяе сілы: амаль штодня ходзіць на работу ў калгас, а ноччу вартуе на ферме. Даяркі болей на яго не скардзяцца. Васіленка з палёгкай уздыхнуў і нават пахваліў сябе, што прыняў правільнае рашэнне.

А сёння суддзі належала разглядаць справу аб самагонаварэнні: абвінавачвалася Маруся Лапчанкава з Белай Гары. Гэтую вёску Васіленка ведаў, бо не раз хадзіў і ездзіў міма яе, нават канец вёскі, мост цераз рачулку, што ўпадала ў Бесядзь, даводзілася не мінаць — іншай дарогі ў Лабанаўку не было. Справа сённяшняя нескладаная і не павінна забраць многа часу.

Васіленка падняўся, памахаў рукамі, але зарадку рабіць не было настрою, бо ўчора зайшлі да яго пракурор Ясючэня і намеснік старшыні райвыканкома Даўгалёў. Пасядзелі, пагаманілі. З Ясючэнем спачатку адносіны былі нацягнутыя, мабыць, пракурор паставіўся вельмі насцярожана да хлапчука-суддзі, але мала-памалу пераканаўся, што суддзя — чалавек з галавою, сваю справу ведае, паводзіць сябе вельмі прыстойна. Значыць, разумее, як гэта важна, бо калі нехта ўбачыць суддзю «пад мухай», адразу падумае: то якое маеш ты права судзіць іншых? А хлопец малады, нежанаты, яму і на танцы схадзіць не выпадае.

Даўгалёў адразу па-таварыску паставіўся да Васіленкі, праўда, спачатку, як да земляка, бо Хатынічы недалёка ад Саковіч, да вайны і сельсавет быў адзін. Потым ён пачаў паважаць суддзю за розум, адукаванасць, як-ніяк чырвоныя дыпломы пасля інстытута даюць не кожнаму. Вось толькі б жаніцца пара земляку. Пра гэта ён і ўчора завёў гаворку, калі абмяркавалі розныя справы ды і пляшку расціснулі.

— Рана мне жаніцца. Штосьці я не чуў, каб нехта з вас дужа хваліў сваю жонку, га? — пасміхаўся суддзя-халасцяк.— Нябось і да мяне прыйшлі, каб спакойна пасядзець і па чарцы кульнуць...

— Бескампрамісны ты хлопец, Яўген Іванавіч,—

— Што, данос нашрайбуеш? Ці малады калега мой падаткне?.. Дык у Сібір мяне не пашлюць. Карысці з мяне мала: лес валіць не магу. Як і ты, Касьянавіч, таксама. Так што, не петушыся. Я — аднарукі, а ты — аднаногі... Два боты — пара... Вось ты сказаў пра канстытуцыю. Твая праўда. Ёсць канстытуцыя. Прынялі ў трыццаць шостым самую дэмакратычную ў свеце. А ў трыццаць сёмым стралялі нявінных... Як надакучыла дрыжаць і баяцца! Эх, рабская натура чалавечая...— Ясючэня скрыгатнуў зубамі, рашуча сігануў за дзверы, але тут жа вярнуўся.— Бывай, Яўген Іванавіч, дзякуй за вячэру. Прабач маю буркатню. Не бяры да галавы. Усё будзе нармальна,— ён паляпаў разгубленага Яўгена па плячы.

Даўгалёў шырокаю далонню абхапіў на развітанне спатнелую далоньку маладога суддзі, ціха, нібы некага баяўся, шапнуў:

— Пра ўсё, што мы тута гаварылі — ні гуку... Сам разумееш, чаго не ляпне чалавек пасля чаркі...

Вось пасля ўчарашняй размовы, а такую размову ён чуў упершыню, і балела ў суддзі галава, ды і гарэлку піў вельмі рэдка, затое самагоншчыкаў караў бязлітасна.

Нямала розных спраў разглядаў суддзя за час работы ў Лабанаўцы, але Змітрака Пацюпу ўспомніў, бо яго справа была адной з першых. Ён лічыў, што ніякага перавышэння, ні тым больш — парушэння, суд не дапусціў. Ну, а памёр чалавек, значыць, здароўе было слабое. Хаця ў душы і варухнулася думка: калі б Пацюпу не асудзілі, то ён, можа, і жыў бы. Але ж чалавек парушыў закон, участковы інспектар і старшыня сельсавета падалі справу ў пракуратуру. Адступаць яму, Васіленку, не было куды. Праўда, прысудзіць, магчыма, можна было і меншы тэрмін, а мо штрафам абысціся... Усіх акалічнасцей таго судовага працэсу, вядома, ён не памятаў. У адным быў перакананы, што вырашана ўсё сумленна, справядліва, і раз далі два гады, а не адзін, то на гэта меліся сур'ёзныя падставы.

Разгляд справы Марусі Лапчанкавай ішоў звычайным ходам. Выступалі сведкі, зачыталі акт, складзены ўчастковым інспектарам міліцыі, напісаны і падпісаны па ўсіх правілах. Суддзя прадчуваў, што ўсё абыдзецца штрафам, можа, і немалым.

Лапчанкава сядзела, слухала, кусала вусны, завяз-

ваў галавою і з дакорам зірнуў на Яўгена пракурор.— І дзяцей не пашкадаваў.

— Што значыць, не пашкадаваў? Я дзейнічаў па закону,— узгарэўся малады суддзя.

— Дарагі калега, закон — што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла,— Ясючэня рэзка падняўся з-за стала, таксама патупаў да парога.

— Ну, братка-законнік, не чакаў ад цябе пачуць такое,— Даўгалёў крутнуўся да Ясючэні, аж зноў жаласліва зарыпеў пратэз.

— А ты хіба не ведаў пра гэта? Ты лепш спытай у Яўгена Іванавіча, колькі разоў яму званіў Акапян, каб не чапаў таго ці іншага... Або каб змякчыў прысуд. А за беднага Пацюпу не было каму заступіцца.

— Я павінен вам сказаць, што Акапян не званіў мне ні разу,— хвалюючыся, чырванеючы, бы сарамяжлівая дзяўчына, сказаў Васіленка.

— Затое мне ён званіў шмат разоў,— Ясючэня схаваў за спіну чорную пальчатку пратэза, а здаровай рукой цёр пераносце, нібы сіліўся нешта ўспомніць.— Як падумаеш, бывае, колькі мы дроў наламалі... А колькі яшчэ наламаем?! Уся бяда ў тым, што ў нас не закон кіруе людзьмі, а людзі кіруюць законам. Выгадна яму так, ён і паверне...

— Як ета паверне? А для каго канстытуцыя? Кодэксы розныя... Ёсць генеральны пракурор... А ты ў раёне сачы, каб не парушаліся законы. Ета твой святы абавязак,— Даўгалёў прыхінуўся да вушака, паслабіў руку, якой апіраўся на кульбу.

— Канечне, ёсць канстытуцыя, ёсць генеральны пракурор. А што бацька Сталін скажа, тое і робіцца...

— Ну, а як ты хацеў? — павысіў голас Даўгалёў.— Каб у краіне панавала анархія? Каб ніхто нікога не слухаўся? Ну, знаеш, за такія размоўчыкі... Ты язык свой не распускай. І сцены маюць вушы...

Яны стаялі насупраць: прысадзістыя, плячыстыя лысы Ясючэня і высокі, ссутулены Даўгалёў. А збоч пераступаў з нагі на нагу танклявы русавалосы суддзя-хлапчук, разгублены, бо ўпершыню пачуў такія словы, гатовы даказваць, што ягоны калега пракурор Ясючэня памыляецца. Яўген шукаў самыя дакладныя, моцныя словы, каб выказаць сваю нязгоду, але Ясючэня яго апярэдзіў, загаварыў, з ухмылкай гледзячы на Даўгалёва:

адразу спытаў ён у Бравусава, як толькі павіталіся.— Афармляеш справу ў суд на самагоншчыцу, а ў пляшцы падсоўваеш ваду. Гэта ж безабразіе!

— Таварыш маёр, а чаму вы думаеце, што ета я ўтварыў? А можа, нехта захацеў пахмяліцца? Я прывёз гарэлку... Цяпер ніхто не дакажа...

— Хіцёр ты, аказваецца, Бравусаў. Усё я вучыў цябе працаваць. І навучыў на сваю галаву... Але ж трэба чэсным быць,— ціха сказаў Гоманаў, памаўчаў.— Аб'явім табе вымову.

— А калі я не вінаваты...— пачаў апраўдвацца ўчастковы, але Гоманаў перапыніў яго:

— Твая віна ў тым, што не апламбіраваў бутэльку. Яўнае парушэнне... Можа, завёў шуры-муры з гэтай жанчынай? Глядзі, сам загрыміш за краты...

— Ну што вы, таварыш маёр. Я ж не такі дурань. У вёсцы ж усё відаць як на далоні. Мая жонка вокны б ёй павыбівала... Хіба можна? Я ж воўчы закон ведаю.

— Што, што? Які закон?

— Воўчы закон. Воўк дзе жыве, там не шкодзіць.

Гоманаў усміхнуўся, зняў трубку тэлефона, папрасіў злучыць яго з народным судом.

— Яўген Іванавіч, ты хацеў пагаварыць з участковым Бравусавым. Ён у мяне. Што? Дужа заняты? Ды прахучанку я даў... Спагнанне? Вымову дадзім... Канечне, каб іншым была навука,— Гоманаў гаварыў у трубку і коса пазіраў на Бравусава, заўважыў, як той павесялеў, калі пачуў пра занятасць суддзі, бо і зразумеў, што яму будзе запісана простая вымова.— Значыць, адпускаць яго? Ну, то бывай здароў!

Начальнік яшчэ пагаварыў некалькі мінут з участковым, наказваў больш займацца прафілактыкай хуліганства, каб не даваў папускі самагоншчыкам...

Гарачы маёвы дзень дагараў, калі Бравусаў пад'язджаў да сваёй вёскі. Конік стомлена трусіў па пясчанай дарозе, але падганяць яго не даводзілася: ён сам бег дамоў хутчэй, каб напіцца духмянай чыстай вады ў Бесядзі, паскубці сакавітай расянай травы. Збоч дарогі зелянела густая і ўжо даволі высокая — у калена, рунь. Над полем грымелі жаўранкі. Чырвонае сонца закацілася за цёмна-зялёную шапку могільніка.

На душы ў Бравусава быў мір і пакой. Справу Лапчанкавай ён па сутнасці выйграў, вымова яго не турбавала, бо ён меў ужо болей дзесятка падзяк, запісана

вала і развязвала вузялок хусткі пад барадой, а потым устала і заявіла:

— Ета ўсё паклёп. Не гнала я гарэлкі. Вы паглядзіце, што ў бутэльцы. Ці ж ета самагонка?

Усе адразу сціхлі, народныя засядацелі пераглянуліся. Суддзя Васіленка нават разгубіўся ад нечаканасці. І тады ў цішы пачуўся хрыплаваты голас пракурора Ясючэні:

— А што ж там, святая вадзіца? Цуд у рэшаце, дый годзе.

Сакратар суда, сталага веку кабета ў акулярах, дрыжачымі рукамі падала «вяшчэственнае даказацельства» пракурору. Той не мог адною рукой адкаркаваць бутэльку, пакруціў яе, паціснуў плячыма, перадаў адвакату:

— Адкаркуйце, калі ласка...

Адвакат спрытна разматаў ніткі, выняў корак, вярнуў бутэльку пракурору. Са стала суддзі перадалі шклянку. Ясючэня наліў светлай вадкасці, панюхаў спачатку, каўтануў, потым яшчэ раз, бровы яго ўзняліся на лоб:

— Чорт ведае што робіцца. Сапраўды — вада...

Бутэльку перадалі на сцэну. Пакаштавалі пітво на смак засядацелі, вымушаны быў выпіць і суддзя. Ён зразумеў, што паклёпу не магло быць: не такі чалавек Свідэрскі, каб да гэтага дайсці, ды і Бравусаў не навічок. Нехта вырашыў выратаваць кабету, а ў міліцыі пляшку не апламбіравалі, следчы на гэта не звярнуў увагі, а мо і ведаў. Цяпер ён адгаворыцца, маўляў, паверыў міліцыі.

— Пасяджэнне суда на гэтым закрываецца. Справа вяртаецца на дадатковае вывучэнне. Бутэльку — на экспертызу ў лабараторыю спіртзавода... Вы свабодны, таварыш Лапчанкава,— аб'явіў суддзя, разумеючы, што дадатковае вывучэнне нічога не дасць, справу гэтую давядзецца закрыць.

Усе разыходзіліся, сёй-той пасміхаўся, сёй-той паціскаў плячыма. Маруся Лапчанкава ішла з высока ўзнятаю галавой...

Пракурор абвінаваціў следчага, той спіхнуў на міліцыю. Урэшце ўсе абвінавачванні скрыжаваліся на асобе ўчастковага Бравусава, і таго выклікаў начальнік міліцыі маёр Гоманаў.

— Што ў цябе там дзеецца, Уладзімір Усцінавіч? —

выплыла з памяці Зінаіда, салдацкая ўдава з недалёкай вёскі на Браншчыне, у якой начаваў, калі вяртаўся, выходзіў з акружэння. Паранены, брудны, галодны... Падалося, што і цяпер помніць пах таго чырвонага абмылка туалетнага мыла. А потым, пад раніцу, Зінаіда цёплаю, мяккаю далонню пагладзіла ягоны твар, і ён, Бравусаў, упершыню ў жыцці пацалаваў жаночую руку. Болей такога з ім не было, не паўтаралася...

«Чорт пабірай! Чаму я не з'ездзіў да яе? Папрашу ў начальніка матацыкла і адскочу. Тут і сотні кіламетраў не будзе... Можа, вярнуўся яе мужык, а можа, і не... Дзеці ўжо ладныя... Дзеці... Мабыць, няварта туды ехаць. Трэба сваіх дзяцей гадаваць».

І думкі Бравусава канчаткова вярнуліся дамоў, ды і ехаў ён ужо вуліцаю роднай вёскі.

...А ў гэты час суддзя Яўген Васіленка ляжаў на сваім мулкім ложку, на сенніку, напханым саломаю, якая зляжалася, збілася няроўнымі пластамі. Ложак быў вузкі, металічны, з дашчаным насцілам. Яўген закінуў рукі за галаву і пазіраў у столь — шырокія нефарбаваныя дошкі, на якіх цямнеліся круглыя карычнева-бурыя сучкі. Нізкае сонца свяціла ў акно, высвеціла адзін сучок, і ён увачавідкі зрабіўся жоўта-ружовым.

Сёння ў суддзі быў цяжкі, тлумны дзень, вывучаў судовыя справы, потым няспынныя званкі па тэлефоне, наведнікі, таму ён і не змог пабачыцца з Бравусавым, ды і не хацелася яму гэтай сустрэчы пасля таго, як уранні пагартаў справу самагоншчыка Пацюпы. Перачытаўшы прысуд, убачыў прыпіску: асобая думка суддзі, гэта значыць яго, Васіленкі. Тут гаварылася, што суддзя лічыць меру пакарання, на якой настойвалі засядацелі, завышанай. Чым далей чытаў, тым выразней згадваў тон судовы працэс... Сярэдняга росту ціхманы Пацюпа раптам рэзка пачаў абвінавачваць старшыню сельсавета Свідэрскага, маўляў, той помсціць яму — некалі пасварыліся з-за страхоўкі, што суседзі часцей гоняць самагонку і нават прадаюць, а ён першы раз гэтым заняўся. Тады засядацелі раззлаваліся і настоялі, каб даць яму на поўную катушку.

Васіленка быў не згодзен, але пераканаць засядацеляў не змог, затое настояў, каб запісаць яго асобую думку.

«Які ж я нягоднік! — стукнуў ён сябе па лбе.—

падзяка і за Пацюпу... Згадаўшы гэта, Бравусаў неяк інстынктыўна зняў фуражку, выцер хусцінкаю ўзмакрэлы лоб. Свежы ветрык кудлаціў валасы, ласкава абвяваў твар, халадзіў шыю. З памяці выплыў той дзень, калі ў Хатынічах хавалі Пацюпу. Успомніўся і салдат Якаў Рацэеў... Пра яго Бравусаў апошнім часам згадваў усё радзей, але тут на табе — паўстаў, як жывы...

Конік набліжаўся да могілак, сонца падсвечвала высокія дрэвы, і яны здаваліся гіганцкімі свечкамі, якія паставіў нехта над магіламі. Тут пахаваныя бацька Бравусава, дзед і дзве бабулі. А другі дзед, матчын бацька, загінуў дзесьці яшчэ ў царскую вайну... Жаваранкі не заціхалі, але Бравусаў не глядзеў угору, ён углядаўся ў пясчаную, шэра-жоўтую зямлю і думаў, што там, у зямлі, людзей куды болей, чымся тут, на ёй, якія жывуць цяпер. Міжволі падумалася: колькі разоў мог загінуць ён, Бравусаў, а ён жыве, гадуе дзяцей, нясе сваю службу.

Участковы інспектар надзеў фуражку і, як звычайна, насунуў нізка на лоб казырок, быццам сонца сляпіла яму ў вочы.

— Хітрая штука жыццё,— уголас сказаў ён.

Конік стрыгануў вушамі, фыркнуў, махнуў хвастом і наддаў ходу.

Ужо віднеліся белагорскія хаты, і думкі закружыліся вакол вясковых спраў. Дойдзе да ягонай жонкі, што ён абараніў Марусю Лапчанкаву, і пачне яна падазраваць яго, бо Маруся — жанчына маладая і прывабная. «А яна б цяпер і не адмовіла мне...— гулліва падумаў ён і тут жа астудзіў сябе: — Вялікі ты грэшнік, Валодзька Бравусаў. І калі толькі ёсць на тым свеце пекла, не мінаваць яго табе...» Але звычайная невынішчальная жыццялюбнасць і аптымізм узялі верх над змрочнымі думкамі. А прыгадаўшы размову з Гоманавым, участковы весела ўсміхнуўся, пачаў насвістваць, а потым ціха заспяваў: «Вперед, мы — сталинцы лихие...»

Зноў успомніўся бой пад Рагачовам зімою сорак чацвёртага, і зноў выплыў з памяці пашкуматаны снарадам салдат Якаў Рацэеў, у спіну якому цэліўся Бравусаў, але стрэліць не паспеў: нямецкі снарад апярэдзіў... «Хвакцічаскі, я ж не забіваў яго... Няўжо ўсё жыццё будзе ён помніцца? І будзе мучыць мяне...» — Бравусаў адагнаў прэч гэтыя ўспаміны, затое раптам

мам — не дзіва, што тыя замежныя чаравікі звальваліся.

— Ніна Пракопаўна, а можна пытанне?

Яна рэзка павярнулася, бо па голасе адчула, што пытанне будзе не службовае, на яе твары, стомленым, матава-бледным, атуленым густымі, кароткімі валасамі, успыхнула адкрытая, амаль дзіцячая, цікаўнасць.

— Чаму ж не? Слухаю вас.

— Скажыце, калі ласка, які памер вы носіце... Ну, туфлі...

— І вы ведаеце, што я — упаўнаважаны з банцікам,— яна ўсміхнулася, бледныя шчокі злёгку заружавеліся.— Я нашу трыццаць пяты памер. А што?

— Я на днях паеду ў Магілёў і куплю вам самыя лепшыя туфлі. І мы пойдзем з вамі на танцы.

— Ну, Яўген Іванавіч, а вы — жартаўнік. Толькі мне і не хапала танцаў. Ды яшчэ з вамі, вяршыцелем правасуддзя.

— А чаму не? Мы ж вольныя, маладыя. Чаму нам не схадзіць у кіно, на танцы? Нашы аднагодкі ходзяць...

— Калі мы з вамі сходзім, дык назаўтра пра гэта будзе ведаць увесь райцэнтр. Акапян выкліча мяне і скажа: «Душа любезны, чаму пра вас плёткі ходзяць?» — яна памаўчала, уздыхнула, твар яе зрабіўся сумным і журботным.— Мае аднагодкі ўжо маюць сем'і, дзяцей. Я ўжо зусім старая. Мне дваццаць сем...

— Ну і што? Зусім нямнога. Мне дваццаць шэсць скора. Я думаў...— у яго ледзь не сарвалася з языка: я думаў, што вам намнога болей.

— Што вы думалі?

— Я даўно думаў, як вам сказаць... Ну, што вы падабаецеся...

— Яўген Іванавіч, што з вамі сёння? — шырока раскрытымі, здзіўленымі вачамі яна глядзела на яго.— Суду ўсё ясна. Вам трэба жаніцца.

— Менавіта так, Ніна Пракопаўна,— падхапіў ён.— І лепшай нявесты, чым вы, не знайсці.

— Не там вы шукаеце, дарагі Яўген Іванавіч... Якая з мяне нявеста? Сяжу да цёмнага ў райкоме, матаюся па раёне. Дома пішу кантрольныя работы, грызу навуку. Неўзабаве сесія ў педінстытуце. Апошняя. Канчаю сёлета.

— Вось і цудоўна! Скончыце — і вяселле...

Чаму ж не паслаў справу далей? У Вярхоўны суд, у Мінск... Мог бы выратаваць чалавека. А так дзеці засталіся сіротамі...» Васіленка ашчаперыў галаву і доўга сядзеў над сталом, лаяў і бэсціў сябе апошнімі словамі за тое, што не выканаў свой прафесійны абавязак: калі суддзя запісвае сваю асобую думку, то справу абавязкова трэба накіраваць у Вярхоўны суд, які мае права адмяніць прысуд, зменшыць меру пакарання.

«Які сорам! Пабаяўся за справядлівасць пазмагацца... Паленаваўся, лайдак». Але ў глыбіні душы «загаварыў» адвакат, які сядзіць у кожным чалавеку: я завалены работаю па горла, свету белага не бачу, я ж зусім яшчэ малады, нявопытны... На будучае Васіленка вырашыў: калі ёсць сумненне ў правамернасці пакарання — змагацца да канца за справядлівасць. Тое, што адкрылася ў справе Пацюпы, сапсавала настрой на ўвесь дзень. Чым бы ні займаўся суддзя, з кім бы ні гаварыў, у душы, нібы стрэмка, сядзеў прыкры ўспамін аб той даўняй памылцы, якая, магчыма, і паспрыяла трагічнаму зыходу. І ён упершыню гэтак востра адчуў, як лёгка можа абарвацца нітка чалавечага жыцця. Не выходзілі з галавы словы пракурора Ясючэні пра закон...

Пад канец дня пазваніла з райкома партыі Ніна Пракопаўна Гаўрыленка, папрасіла зайсці. З ёй пераглядзелі план лекцыйнай работы: Яўген часта ездзіў па раёне, чытаў лекцыі пра нашу савецкую дэмакратыю. З Нінай Гаўрыленка ён пазнаёміўся ў першыя дні пасля прыезду ў Лабанаўку і ўбачыў яе першы раз у сталоўцы — апынуліся за адным сталом. Размову пачала яна, бо ведала аб ягоным прыездзе, бачыла яго здаля, здзівілася: малады, танклявы, бы хлапчук, а ўжо суддзя. Яўгену тады яна падалася намнога старэйшай за яго, бывалай жанчынай, якая мае сваю сям'ю. Потым ён дазнаўся, што Ніна Пракопаўна адзінокая, пачуў і пра яе мянушку «ўпаўнаважаны з банцікам», бо некалі ёй дасталіся па ЮНРРА вялікаватыя замежныя туфлі, і яна падвязвала іх стужкамі.

План абмеркавалі, усё абгаварылі, можна было ўжо ісці, рабочы дзень скончыўся. Ніна Пракопаўна паднялася з-за стала, каб пакласці ў шафу папку з паперамі, і Яўген упершыню ўбачыў, што ў яе стройная фігурка, перацягнутая вузкім цёмна-бліскучым раменьчыкам, маленькія прыгожыя ногі з высокім пад'ё-

станеш трактарыстам ці шафёрам. Мо і далей захочаш вучыцца. Улетку ўсе вы павінны пасабляць сваім бацькам, а ў вольны час і пачытаць трэба, і пакупацца. А ўвосень зноў у школу. Толькі ўжо не ў нашу. Але мы заўсёды будзем рады бачыць вас у нашай школе, хай сабе невялічкай, але яна родная для вас назаўсёды. Шчаслівай вам дарогі...

У класе нейкі час стаяла цішыня. Потым Ганна Мікітаўна захлопала ў ладкі, і тады ўсе дружна заапладзіравалі.

Дамоў Андрэйка Сахута ішоў нетаропка. Не верылася, што скончыліся іспыты, што заўтра, і паслязаўтра, і ўсё лета не трэба вучыць урокаў. І ў той жа час неяк трывожна было на душы: як там, у Белай Гары? Мусіць, там вялікая школа, багата настаўнікаў, і ўсе незнаёмыя. Але адчувалася і вялікая палёгка — здадзены першыя ў жыцці іспыты, здадзены на пяцёркі. Па ўсіх прадметах Андрэйка адказваў першы.

— Хто захоча адказваць першы, адразу, без падрыхтоўкі, таму адзнака павышаецца на бал,— неяк сказаў Пётр Еўдакімавіч.— Ну, і хутчэй у нас будзе ісці справа. Выцягнуў білет і адказвай. А іншыя тым часам рыхтуюцца.

Андрэйка гэта запомніў і на першым экзамене сказаў, што будзе адказваць без падрыхтоўкі. З хваляваннем выцягнуў ён білет, і пакуль настаўнік запісваў у ведамасць нумар білета, прачытаў пытанні. Перад экзаменам здавалася, што нічога не ведае, у галаве «каша», усё пераблыталася, а цяпер нібы выплывалі з памяці адказы на гэтыя пытанні, усё іншае, непатрэбнае зараз, быццам некуды адступала, адсейвалася.

— Я гатовы адказваць,— смела, хоць і хвалюючыся, сказаў малы Сахута.

— Малайчына, давай! — падбадзёрыў Пётр Еўдакімавіч.

Потым гэта паўтарылася і на ўсіх наступных экзаменах.

— Сянні пойдзем у клуб на танцы,— падаў голас Паўлік.— Мікола іграць будзе на сваёй гармоні.

— А няўжо ты скакаць навучыўся? Нешта я ні разу не бачыў. Выйдзеш у круг і як карова на лёдзе...— пасміхнуўся Данька.

— У круг я не пайду. А паглядзець жа можна. І ты ж скакаць не ўмееш,— упікнуў сябрука Паўлік.

— Не, вы дзівак, Яўген Іванавіч. Не думала, што вы такі жартаўнік.

— Я сур'ёзна, Ніна... Можна, я буду зваць проста — Ніна. Імя ў вас такое харошае... І сама вы такая незвычайная...

— Канечне, упаўнаважаны з банцікам не так часта сустракаецца,— рагатала яна, і чым весялейшай яна рабілася, тым прыгажэйшым быў яе твар, нібы падсвечаны знутры святлом радасці.— Ну, калі сур'ёзна, то давайце адкладзём нашу размову. От здам сесію, вазьму адпачынак... Калі вы не знойдзеце сабе маладзейшую, тады пагаворым.

Доўга не мог заснуць на мулкім сенніку суддзя Яўген Васіленка. Размова з Нінай каторы раз пракручвалася ў ягонай галаве. І чым болей ён думаў, тым болей пераконваўся, што Ніна Гаўрыленка — самая лепшая дзяўчына ў райцэнтры, а можа, і ва ўсім белым свеце.

## XVI

— Ну вось, дарагія вучні, дарагія мае хлопчыкі і дзяўчынкі, вы і закончылі пачатковую школу,— Пётр Еўдакімавіч агледзеў усіх выпускнікоў, памаўчаў, пракашляўся, востры кадык яго падскочыў угору і апусціўся зноў уніз.— Цяпер вы пойдзеце далей. Хто ў Белую Гару, хто ў Зарэчча...

— Пётр Еўдакімавіч, а я не хачу болей у школу хадзіць,— Данька падняўся за партаю, стаў, пераступаючы з нагі на нагу.— Я хачу на работу хадзіць. Матцы памагаць...

Нехта з вучняў хіхікнуў. Пётр Еўдакімавіч строга зірнуў у той бок, а Ганна Мікітаўна нават паківала пальцам. Сядзела за сталом і Вацянціна Сцяпанаўна — усе настаўнікі Хатыніцкай школы прыйшлі на ўрачыстае развітанне з чацвёртым класам.

— Сядай, Данька. Ты правільна думаеш. Працаваць у калгасе трэба. Праца на зямлі спрадвеку была і заўсёды будзе самай важнай і патрэбнай. Але ты яшчэ малы...— Данька падхапіўся, хацеў нешта сказаць, мусіць, запярэчыць, але Пётр Еўдакімавіч перапыніў яго.— Пачакай, пачакай. Я ведаю, што ўлетку ты працуеш у калгасе. Але трэба закончыць сем класаў абавязкова. За гэты час ты падужэеш, вырасцеш. Потым

прашала, але тая заўсёды адмаўлялася. Маці паглядзела толькі адзін фільм...

Неяк пасля вайны разнеслася чутка, што прывезлі кіно і будуць паказваць бясплатна каля школы. Як сцямнела, народу сабралася там быццам на кірмашы: і старыя, і малыя. На школьнай сцяне павесілі экран, нібы прасціну.

І вось пачалося кіно. Замільгалі літары, загучала бадзёрая музыка. Маці чытаць не ўмела, як і некаторыя іншыя жанчыны, таму вакол пачуліся галасы чытальнікаў і каментатараў. Неўзабаве паявіліся першыя кадры — выбеглі хлопцы ў доўгіх трусах, з тоўстымі пальчаткамі на руках і пачалі лупцаваць адзін аднаго.

— А божачкі,— здзівілася маці.— Чаго ж яны ў трусах і ў вязёнках? Калі ўжо штаны здзелі, дык жа цёпла на вуліцы. Ці, можа, халодна, дык яны і махаюць рукамі, каб сагрэцца. Глядзі, глядзі, так і цаляе па ноздрах...

— Ета ж бокс. Такі спорт,— тлумачыў Васька.

— Хай яго ліха, етакі шпорт,— не ўпадабала маці фільм.

Да поўначы ля школы над Бесяддзю грымела кіно, татахкаў рухавічок. А за рэчкаю грымелі салаўі, у лужынах безупынку гучаў тысячагалосы харал жабоцек, зрэдку падаваў голас саліст-драч, нібы прадзіраўся праз густыя кусты лазняку. Калі скончылася кіно, заціх, быццам захліпнуўся, рухавічок, уся гэта музыка — спрадвечная сімфонія майскай ночы, абрынулася на гледачоў. І тады выразна пачуўся голас дзеда Гылігора: «Не, браточкі, што ні кажыце, ета нячыстая сіла. Ета ж учудзіцца можна. Павесіў прасціну на хату — і глядзі сабе. Там і п'юць, і ядуць, і б'юцца, і мілуюцца...» — «Акурат як ты з Самклідаю на печы»,— крыкнуў нехта. Гучны рогат пакаціўся над прыціхлаю вёскаю.

Болей маці ў кіно не хадзіла. «Яшчэ рубель аддаваць. Ты прыплаці мне, дык я не пайду. Натопаешся за цэлы дзянёчак, дык жджэш не дажджэшся, каб хутчэй легчы...»

Бацька зрэдку хадзіў. Здаралася гэта, калі заходзіў дзядзька Парфір і ўгаворваў яго пайсці за кампанію. Білеты, вядома, браў кожны паасобку, бо ў кожнага рублі былі на вялікім і строгім уліку.

О, гэта пасляваеннае вясковае кіно! Колькі прыно-

Насустрач ехала падвода, за ёй беглі басаногія хлапчукі.

— Відаць, кіно вязуць! — здагадаўся Андрэйка. Самавітыя выпускнікі прыбавілі крок. На возе сядзеў хлапчук іхняга ўзросту, важна трымаў лейцы, кепка з паламаным казырком была ссунута на патыліцу і ледзь трымалася на русявай галаве. За падводаю ішоў кіншчык Міша. Ён прыязджаў не першы раз, хлопцы ведалі яго, ведалі, што ён не галоўны кіншчык, а ўсяго толькі матарыст, заводзіць рухавічок і пільнуе яго. А ставіць кіно Сяргей, ён прадае білеты, можа прапусціць і бясплатна, калі яму нечым дагадзіць удасца.

— А што за кіно будзе? — спытаўся Паўлік.

— Фільм называецца «Мы з Кранштата»,— адказаў Міша.— Пра вайну. Дужа інцярэсны. Балтыйскія маракі там немцаў б'юць, белых калашмацяць, розную погань нішчаць. Так што бярыце рублі і прыходзьце.

— Можа, афішу трэба павесіць? — падбег да кіншчыка Данька.

— У вашым баку павесілі ўжо. У Парцюкоўку трэба аднесці...

— Давайце я аднясу. Я ведаю, дзе там павесіць,— Данька нібы прыкіпеў да Мішы.

— Ну, калі хочаш, збегай.— Міша ўзяў з воза скручаную ў трубку афішу.— Як цябе завуць?

— Данька... Даніла.

— Добра, Данька. Нясі афішу і прыходзь потым у кіно. Я цябе запомніў. Прапушчу.

— Я таксама з ім. І мяне тады пусціш? — падскочыў Паўлік.

— Ну што ж вы, усёй вёскай адну афішу будзеце вешаць? Хай адзін бяжыць,— не пагадзіўся Міша.

— А за два яйкі пусціш? — дапытваўся Паўлік.

— Прынось, паглядзім,— Міша кінуўся даганяць падводу з рухавічком, рознымі скрынкамі і белымі бляшанымі каробкамі, у якіх ляжала таямнічая кінаплёнка.

«Хоць бы Марына прыйшла,— падумаў з надзеяй Андрэйка.— Яна дала б рубель». Праўда, звычайна яму даводзілася трохі хітраваць: ён гаварыў, што гэты фільм патрэбны па праграме і яго трэба абавязкова паглядзець. Так было і з «Аляксандрам Неўскім», і з «Суворавым», і нават з кінакарцінаю «Сямёра смелых». Марына зрэдку і сама хадзіла з ім, яна і маці за-

прашала, але тая заўсёды адмаўлялася. Маці паглядзела толькі адзін фільм...

Неяк пасля вайны разнеслася чутка, што прывезлі кіно і будуць паказваць бясплатна каля школы. Як сцямнела, народу сабралася там быццам на кірмашы: і старыя, і малыя. На школьнай сцяне павесілі экран, нібы прасціну.

І вось пачалося кіно. Замільгалі літары, загучала бадзёрая музыка. Маці чытаць не ўмела, як і некаторыя іншыя жанчыны, таму вакол пачуліся галасы чытальнікаў і каментатараў. Неўзабаве паявіліся першыя кадры — выбеглі хлопцы ў доўгіх трусах, з тоўстымі пальчаткамі на руках і пачалі лупцаваць адзін аднаго.

— А божачкі,— здзівілася маці.— Чаго ж яны ў трусах і ў вязёнках? Калі ўжо штаны здзелі, дык жа цёпла на вуліцы. Ці, можа, халодна, дык яны і махаюць рукамі, каб сагрэцца. Глядзі, глядзі, так і цаляе па ноздрах...

— Ета ж бокс. Такі спорт,— тлумачыў Васька.

— Хай яго ліха, етакі шпорт,— не ўпадабала маці фільм.

Да поўначы ля школы над Бесяддзю грымела кіно, тататахкаў рухавічок. А за рэчкаю грымелі салаўі, у лужынах безупынку гучаў тысячагалосы харал жабоцек, зрэдку падаваў голас саліст-драч, нібы прадзіраўся праз густыя кусты лазняку. Калі скончылася кіно, заціх, быццам захліпнуўся, рухавічок, уся гэта музыка — спрадвечная сімфонія майскай ночы, абрынулася на гледачоў. І тады выразна пачуўся голас дзеда Гылігора: «Не, браточкі, што ні кажыце, ета нячыстая сіла. Ета ж учудзіцца можна. Павесіў прасціну на хату — і глядзі сабе. Там і п'юць, і ядуць, і б'юцца, і мілуюцца...» — «Акурат як ты з Самклідаю на печы»,— крыкнуў нехта. Гучны рогат пакаціўся над прыціхлаю вёскаю.

Болей маці ў кіно не хадзіла. «Яшчэ рубель аддаваць. Ты прыплаці мне, дык я не пайду. Натопаешся за цэлы дзянёчак, дык жджэш не дажджэшся, каб хутчэй легчы...»

Бацька зрэдку хадзіў. Здаралася гэта, калі заходзіў дзядзька Парфір і ўгаворваў яго пайсці за кампанію. Білеты, вядома, браў кожны паасобку, бо ў кожнага рублі былі на вялікім і строгім уліку.

О, гэта пасляваеннае вясковае кіно! Колькі прыно-

сіла ты радасці і ўцехі, колькі таямнічасці і прывабнасці было ў табе, бо адкрывала ты вялікі свет. Але колькі было крыўд і няўдалых прыгод. Бывала, лезеш у дзірку пад вуглом, укачаешся ўвесь у пясок, збярэш на галаву ўсё павучынне пад мостам-падлогаю, праз маснічыну, якую загадзя паднялі старэйшыя змоўшчыкі, улезеш, вынырнеш пад слонцам-лаваю, між нечых ног, а тут бязлітасная рука кіншчыка балюча бярэ цябе за вуха і вядзе да парога. Усе на цябе глядзяць, спачуваюць, шкадуюць, а хто і здзекліва пасміхаецца...

Колькі крыўды, сораму, прыкрасці ўздымаецца ў хлапечай душы рызыканта! Але што зробіш, не пашанцавала. Пабяжыш да Бесядзі, абтрасешся, спаласнеш твар і глядзіш кіно праз акно. Шкада, гуку не чутно і бачыш толькі галовы людзей, дахі будынкаў, затое самалёты відаць як след. Астатняе ўсё зразумееш, калі будзеш ісці разам з усімі дамоў. Аднарукі Цімох Емяльянаў, які не прапускаў ніводнага фільма, будзе гучна каменціраваць, а нехта будзе не згаджацца, то Цімох успомніць іншыя падрабязнасці і дэталі, што ты ўсё зразумееш лепей, чым паглядзеўшы кіно ў клубе за рубель.

У той вечар Марына не прыехала. А як чакаў яе Андрэйка! Ён адважыўся папрасіць рубля ў бацькі. У той дзень бацька скародзіў калгасную бульбу, а надвячоркам і свае соткі паскародзіў. І твар, і шыя ў яго былі ўкрыты пылам, нібы шараватаю мукой. Бацька доўга мыўся, Андрэйка паліваў яму на рукі ваду.

— Ну і сухмень! Пыл слупам стаіць. На зубах пясок аж пішчыць,— бацька фыркаў, піў ваду, паласкаў у роце. Сын паліваў яму шыю, бурую ад вясновага загару. Халодная вада цякла пад кашулю, між лапатак.— Дос, не лі болей,— задаволена крактаў бацька, расціраўся палатняным ручніком з чырвонымі пеўнікамі.

— Тата, у нас сянні быў апошні экзамен,— нясмела пачынаў Андрэйка.

— Ну, і як ты здаў?

— Пяцёрка,— і для большай важкасці дадаў: — Усе пяцёркі.

— Малайчына, сынок. Сёлета ў нас два выпускнікі,— усміхнуўся бацька, яго радавала, што і Васька пакуль што здае без троек.

— У клуб кіно прывезлі. Пра вайну. «Мы з Кранштата» называецца,— вёў далей гутарку Андрэйка.—

Кажуць, што ў пятым класе мы пра ета будзем вучыць. Як абараняли Кранштат.

— А што ета за Кранштат?

— Ну, ета крэпасць такая на Балтыйскім моры. Я на карце знайшоў,— упэўнена адказаў сын.

— Крэпасць, кажаш... Канешне, ета добра, калі ведаеш. Тое, што знаеш, за плячамі не носіш,— бацька ўздыхнуў.— Кожны па-свойму хлеб зарабляе. Адзін бульбу скародзіць, другі ў кіне выскаляецца... Але скародзіць кожны дурань можа, а ў кіне толькі вучаныя, дрэсіраваныя выступаюць... Ну, добра, збірайся. Дам я табе рубель... Страхоўку заплацілі, самаабкладанне — таксама. Пазыку палову аддаў...

—А падаткі? Каб не Марына, дык бы даўно без штаноў хадзіў па тваіх заробках у калгасе,— падала голас маці.

— А ты што, болей зарабляеш? — узбурыўся бацька.— Я з лесу семсот прывёз. Думаеш, лёгка яны даліся?

— Ну дык і раздай іх. Аднаму на кіно, другому на г...

— Я ж сам не йду...

— Тата, зато я хачу паглядзець фільм. Нам гісторыю здаваць. І ў білетах ёсць пра еты Кранштат,— скарыстаў момант Васька.

— Ты, шалапута, і так штодзень да рання ходзіш... Дзіўлюся, як ты здаеш? — усміхнуўся бацька.

— Здаю, як усе. І дайжа лепш за некаторых,— Васька адчуў, што ёсць шанс трапіць у кіно.— Вось гісторыі баюся...

— А ты не бойся. Калі прачытаў, ведаеш, дык няма чаго баяцца. Вунь Андрэй усё на пяцёркі чэша...— бацька палез у кішэню старых, запыленых галіфэ.

— Ну во, тараваты нешта ты зрабіўся,— маці стаяла каля печы, апіраючыся на вілачнік.— Можа, і мы з табой пойдзем? Пад ручку возьмемся...

— А можа, і трэба было б? Пайсці як людзі ды пасядзець... Усё роўна етыя грошы, як пясок між пальцаў, уцякаюць...— бацька стомлена прываліўся да стала.— Давай вячэру. А то ў роце ўсё пасмягла.

У кіно браты Сахуты ішлі разам. Васіль у нямецкім кіцелі, на каўнер, на якім былі чорныя пятліцы, ён выпусціў белы каўнерык кашулі. Кіцель быў ужо цеснаваты хлопцу, бо шылі яго на малога немчыка, шылі

яшчэ да вайны, у трыццаць дзевятым годзе. Андрэйка тэпаў у сваіх зялёных чаравіках. Праўду кажучы, ён не хацеў іх абуваць, але старэйшы брат настояў: «Абувай, увечары будзе холадна». Сам ён абуў салдацкія бацінкі, якія яшчэ некалі бацька прывёз з Бранска. Былі яны ўжо сям-там залатаныя, але падэшвы крэпкія і абцасы не пазбіваліся. Цяпер у малога Сахуты ўжо былі порткі з крамніны, футболка, якую нядаўна купіла Марына.

Між тым каля клуба, што стаяў над Бесяддзю ля кузні, людзей сабралася поўна. Міша, перапэцканы, разгублены, корпаўся ў рухавічку, які чамусьці не хацеў заводзіцца. Сяргей, кучаравы, каржакаваты хлопец, настроіў сваю апаратуру, павесіў экран, стаяў ля дзвярэй, лускаў чорныя сланечнікавыя семкі, прадаваў білеты. Але купляць іх пакуль што не спяшаліся хатыньчане.

І ў адным канцы вёскі, і ў другім чуліся песні. На лавачках каля палісаднікаў сядзелі дзяўчаты і спявалі. Яны, канечне, ведалі пра кіно, але ў клуб не ішлі: браць білет не было за што, а пасля першай часткі Сяргей пускаў дзяўчат і хлопцаў так, бясплатна. Спявалі пакуль што нягучна, нібы спрабавалі галасы. Асабліва загучаць іхнія песні, калі будуць ісці з кіно. Цімох з мужчынамі і малымі хлапчукамі паперадзе яшчэ будуць нанава перажываць падзеі фільма, а дзяўчаты з хлопцамі будуць ісці ўслед за імі. І, канечне, з песнямі, усплёскамі смеху, усклікамі: «Ой, не чапіся! Куды палез, кот збродлівы...»

Спяваць пачыналі ад благавешчання, якое звычайна бывае сёмага красавіка. Надвячоркам садзіліся каля Хадорынай хаты на лавачцы жанчыны, найбольш сталага веку, і заводзілі: «Вясна красна, што ты нам прынясла, ці кораб яец, ці берасцень малака...» Спявалі іншыя вясновыя песні, і кожную страфу канчалі гучным выдыхам «гу-у-ух». Веснавая паводка падхоплівала гэтае «гух» і несла аж да самага лесу, адтуль назад кацілася прыглушанае рэха. Андрэйка вельмі любіў гэтыя вечары, калі спявалі жанчыны. Потым, нібы эстафету, пераймалі ад іх песні дзяўчаты і спявалі амаль усё лета, але асабліва стараліся вясною.

Выйдзеш цёплым маёвым вечарам на вуліцу: на Шамаўцы пяюць, у Канчанскім баку — аж разлягаецца ад песень. Над маладою бярозкаю гудуць самавітыя

хрушчы, за Бесяддзю грымяць салаўі на фоне звонкай, несціханай сімфоніі жаб. Часцей за ўсё паварочваў Андрэйка ў Канчанскі бок: па гэтай дарозе хадзіў у школу, у Канчанскім баку ў хаце цёткі Рыпіны ён пражыў першую пасляваенную зіму. За выганам недалёка жыў Паўлік, а разам з сябрам і смялей і весялей. Каля дзяўчат, якія на лавачках абмахваліся галінкамі бярозы ад камароў, аціраліся і хлопцы. Большыя з іх паводзілі сябе даволі вольна: абдымаліся, стараліся сесці на калені да якой дзяўчыны або самому пасадзіць каторую да сябе. Дзяўчаты адбіваліся, адмахваліся ад хлопцаў, як ад настырных камароў, рагаталі, пішчалі. І па ўсім было відаць, што хлапечыя жарты ім падабаюцца.

Андрэйка, Паўлік і Данька таксама таўкліся тут.

«Як ета хлопцы не саромеюцца абдымацца?» — дзівіўся малы Сахута. Ён баяўся нават дакрануцца да дзяўчыны, хоць і ў ім пачала абуджацца нейкая незразумелая, таямнічая цікавасць да дзяўчат. Калі здавалі экзамены, ён стараўся памагчы сваёй суседцы Ніне Варонінай, радаваўся, калі яна атрымлівала чацвёркі. За зіму яна падрасла, нават перагнала трохі Андрэйку, па вясне яе тварык абсыпала рабаціннем, але, як ні дзіўна, яна стала болей падабацца, і ён цішком шкадаваў, што далей яны будуць вучыцца ў розных школах, і яму хацелася хутчэй вырасці, навучыцца танцаваць, каб сустракацца з Нінай у клубе, праводзіць яе дахаты ў Парцюкоўку.

Вечарамі большыя хлопцы адчайна дымілі цыгаркамі. Папяросы былі вялікаю рэдкасцю, нават танныя, як «Спорт», «Норд», «Ракета». Курылі махорку, самасад. Арцём, напрыклад, не прызнаваў папярос, бо дужа яны слабыя, а вось накрышыш карэньчыкаў, зацягнешся, дык усё нутро прадзірае. Курыць спрабаваў і Андрэйка. Летась, калі пасвілі цялят, рабілі цыгаркі з сухога альховага лісця або выскубвалі мох з-пад страхі канюшні — там ён быў сухі, зеленавата-белы, акурат толькі з лесу. Аднойчы Андрэйка цішком адламаў два шырачэзныя лісты табакі на Арцёмавых градах, высушыў іх на чарэні пад куфайкай, пакрышыў кінжалам і потым частаваў сябрукоў на лузе. Тытунёвы дым драў у горле, на вочы наварочваліся слёзы. Узацяжку Андрэйка яшчэ не ўмеў курыць, а Данька ўжо мог зацягнуцца, сказаць: «Калечына-малечына, ці далёка да

вечара» і потым выпусціць дым. Вядома, на ўсю фразу ягонай вытрымкі не хапала: кароткімі тонкімі струменьчыкамі дым пачынаў выходзіць раней.

Цяпер увечары хлопцы дымілі ваўсю і гэтым бараніліся ад камарэчы. Калі ў аднаго тырчала ў роце цыгарка, другі мог папрасіць: «Дай пацягнуць»,— і яму давалі пацягнуць, а то і дакурыць. Адмовіць лічылася вельмі не па-сяброўску. Ды і як пашкадаваць недакурка, калі ў тыя гады людзі дзяліліся апошняю скарынкаю хлеба, калі разам на сабе аралі соткі плугам, разам будавалі зямлянкі і хаты. Калі славутае прыслоўе: «Хто не пойдзе на талаку, таго за чуб прывалаку» ўспаміналася часцяком, але за чуб цягаць нікога не даводзілася, бо ішлі ўсе, хто мог нечым памагчы, пасобіць суседу, а то і незнаёмаму чалавеку.

Увайшла Бесядзь у берагі, спала вірлівая вясновая паводка. Але паводка радасці разлівалася ўсё шырэй. Паводка радасці ў суровы час халоднай вайны, калі над светам павісла злавеснае ядзернае воблака, калі арсеналы зброі пачалі няспынна папаўняцца і круглая наша планета ўсё шчыльней ахутвалася хімічным смуродам, ядавітым смогам вялікіх гарадоў, калі зямлю аблытвалі шэрыя, бы вужакі, стужкі бетонных аўтастрад. Імкліва ляцела ў касмічнай прасторы планета Зямля па сваёй спрадвечнай арбіце. І ўсё імклівей пачынаў жыць чалавек. Ён спяшаўся... Куды? Пра гэта думалі далёка не ўсе.

Людзі напалову спаленай вёскі Хатынічы спяшаліся радавацца, нібы стараліся дабраць тое, што не маглі атрымаць за доўгія гады вайны. Хлопцы і дзяўчаты гэтай прыбяседскай вёскі спявалі і весяліліся, і былі яны цвярозыя, калі п'янелі, то ад хмельнай радасці жыцця. Андрэйка, як і ягоныя сябрукі, радаваўся, што пераадолеў першую жыццёвую прыступку — скончыў пачатковую школу. А гэта цешыла і ягоных бацькоў.

Гэта была паводка радасці сярод зімы.

Настаўнік Мамута радаваўся асабліва: скончыўся навучальны год, растуць яго ўласныя дзеці, пераЖылі халодную ды яшчэ і галаднаватую зіму, але да гэтай радасці прымешвалася адчуванне трывогі, усё часцей прыгадвалася Юзя — падлічыў, што прайшло дзевяць месяцаў з таго незабыўнага вечара. Аднойчы Юзя прыснілася: нібыта збіраюцца яны ў кіно ці то ў тэатр,

выйшлі з хаты, і тут яна агледзела, што Пётр кепска пачысціў свае боты, нахінулася і пачала анучай драіць абцасы, потым выпрасталася і давай яго цалаваць. І тут аднекуль з'явілася Тацяна, выхапіла анучу з Юзіных рук і ўзялася анучаю лупцаваць Пятра, прыгаворваючы: «Вось табе, кот памаўзлівы, вось табе!» Потым кінула анучу Юзі ў твар: «Прэч адсюль, сучка!» А сама сцягнула мужаву мокрую кашулю, што вісела на шнуры, закрылася ёю і моцна, уголас, завыла...

Тут Пётр прачнуўся, у роце ўсё пасмягла, у галаве шумела, аж грукала ў скронях. Ён ціхутка выйшаў на двор. Неба пасвятлела ўжо, над Бесяддзю ўспыхнула ранішняя зара, у бярэзніку цёхкаў салоўка. Пётр успомніў, што сёння трэба пайсці ў лясніцтва — выпісаць лесу на лазню, якую даўно наважыўся паставіць у бярэзніку над ручаём. Хараство прыроды, бадзёрасць золаку, думка пра лазню трохі супакоілі яго, быццам выціснулі Юзю з галавы. Калі зноў укладваўся на ложак, Тацяна праз сон спытала: «Кароў яшчэ не гналі?» — «Ды не, яшчэ рана. Спі, я выганю...» Жонка прыхінулася, паклала цёплую руку яму на грудзі, тады і ён пацягнуўся да яе...

У той жа дзень прыйшло пісьмо ад Юзі. Паштарка прынесла яго на кватэру апоўдні. Адрасавана яно было на школу, але там нікога не аказалася. Тацяну спачатку мала зацікавіла пісьмо, трохі пакамечаны канверт яна паклала на падаконнік. Малы Юрка запытаўся, ад каго пісьмо, яна адказала, што, мабыць, з райана, зноў узяла ў рукі канверт: круглыя літары выдавалі — пісала жаночая рука, на цёмным штэмпелі выразна значылася: Мінск, ёй падалося, што ад канверта патыхае незнаёмым тонкім водарам духоў. Як толькі дзеці выбеглі на вуліцу, яна ўзяла пісьмо, раптам ёй вельмі захацелася дазнацца, што ў ім напісана, дрыжачымі рукамі асцярожна пачала распячатваць. Канверт быў заклееexcellent моцна, і сям-там атрымаліся надрывы, але Тацяна не магла спыніцца, нібы прадчувала, што там нешта сакрэтнае, таямнічае, важнае для яе. Нарэшце яна выцягнула з канверта аркушык паперы са школьнага сшытка ў касую лінейку і ўпілася вачамі ў фіялетавыя радкі:

«Здрастуй, Пётр! Не ведаю, чакаеш ты майго пісьма ці не, можа, пра ўсё забыў даўно, а я ўсю зіму ажыдала цябе. Думала: вернешся ці хоць напішаш пару

слоў... Разумею, у цябе сям'я, дзеці, ты іх любіш... Дык вось, дарагі мой Пецечка, у цябе прыбавілася на адно дзіця. Нарадзіла я сына. Помніш, гаварыла, што хачу яго... Харошы такі хлопчык, на цябе падобны як дзве кроплі вады. Назвала Пецем. Хай расце Пётр Пятровіч. Я рада, а маці лае мяне, кажа, з двума байструкамі ніхто не возьме... Што ж, можа, і так. Усё роўна няма каму браць... Усё вайна праклятая нарабіла... Ты не палохайся, мне ад цябе нічога не трэба. Жыві спакойна, гадуй дзяцей. Калі будзеш у Мінску, зайдзі, паглядзіш на свайго сына... Будзе ён расці бязбацькавічам, ды што зробіш. Ці ж ён адзін такі? А рубаху тваю берагу. І цябе ніколі не забуду. Твая назаўсёды Юзя».

Тацяніна сэрца калацілася ў грудзях, як не выскачыць: «Ну, кабель, во, як ён вучыўся! Мала яму сваіх дзяцей, мала яму жонкі... Ну, я табе пакажу...» У роспачы яна сціснула аркуш з фіялетавымі радкамі, слёзы навярнуліся на вочы, зноў узялася чытаць ліст, літары расплываліся перад вачамі, і раптам як скаланула думка: а што, калі пісьмо прачытала цікаўная паштарка і ўсе Хатынічы дазнаюцца, што настаўнік Мамута прыжыў у Мінску байструка? Імгненна высахлі Тацяніны вочы, яна ўважліва агледзела канверт, не, здаецца, ніхто не распячатваў, апрача яе, разгладзіла пакамечаны аркуш у касую лінейку, зірнула на подпіс: твая назаўсёды Юзя... Ах ты, сучка гарадская. Дудкі я табе аддам свайго Пецю, мы з ім столькі пражылі ўжо, чацвёра дзяцей маем... Законных, а ты двух байструкоў нагуляла ад розных бацькоў... Зноў Тацяна перачытала пісьмо, зноў слёзы заслалі вочы гарачым туманам, і нечакана ёй па-жаночы зрабілася шкада гэтай незнаёмай, мабыць, яшчэ маладой кабеты, муж якой, магчыма, загінуў на фронце, нездарма яна піша, што ўсё вайна праклятая нарабіла...

Пётр Еўдакімавіч вяртаўся з лесу ўжо надвечар, ішоў стомлена, у адной руцэ нёс нешта ў палінялым салдацкім рэчмяшку, а ў другой трымаў Юркаву далоньку. Малы аб нечым голасна апавядаў бацьку. Тацяна яшчэ здаля ўбачыла мужа і меншага сына, сэрца яе затрапяталася ад любасці, трывогі, радасці і надзеі. Надзеі на тое, што ўсё абыдзецца, што Пётр не кіне яе, не памчыць у Мінск так, як прыляцеў адтуль, кінуўшы вучобу і маладую кабету, калі даведаўся пра хваробу Юркі.

— Мама, тата грыбоў назбіраў! Поўную кайстру лісічак! — крычаў узрадаваны хлапчук.

Пісьмо Таццяна схавала на самае дно куфра.

Ноччу яна горача абдымала і цалавала мужа. Пётр не мог даўмецца, чаму раптам нахлынула на жонку хваля пяшчоты, прыгадалася ўжо далёкая восень сорак трэцяга, калі вызвалілі Хатынічы, ён атрымаў позву з ваенкамата. Таццяна галасіла на ўсю хату і залівалася слязьмі, а праз колькі дзён ён вярнуўся з Крычава. Усплыў з памяці высокі сівагаловы маёр, які сказаў яму: «Вайна вайною, а дзяцей вучыць трэба». Як выплакала ўжо ад радасці Таццяна, моцна абдымала, вынікам той радасці было нараджэнне Юркі.

— От ліпнеш да мяне, а не думаеш, чым гэта можа скончыцца... У нас і так поўная печ дзяцей,— прашаптаў Пётр у цемры.

— А да каго ж мне яшчэ ліпнуць? Ты ж у мяне адзіны... Працаўнік ты мой любы,— церлася цёплаю шчакою каля вуха Таццяна.— Ну, а калі дзіця будзе, дык і добра. Дзе чацвёра, там і пяцёра. Хіба не пракормім, не вырасцім? Мы ж яшчэ не старыя...

Адказаць Пётр Еўдакімавіч нічога не паспеў. Гарачыя, прагныя Таццяніны губы адшукалі ягоны рот... Потым Пётр Еўдакімавіч моўчкі ляжаў, стомлена дыхаў... Нешта падазронае пачулася яму ў словах жонкі, у яе паводзінах, успомнілася Юзя, падумалася праз сон ужо, што, мабыць, яна зрабіла аборт, не адважылася нарадзіць... Нейкае шкадаванне і прыкрасць варухнуліся ў душы, але цёплая Таццяніна рука, што абвіла яго за шыю, адагнала прэч усе падазрэнні і шкадаванні. Заснуў Мамута шчаслівым чалавекам.

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, май 1950 г.*

*4. Маладзечна. Працоўныя вобласці з вялікім уздымам сустрэлі вестку аб выпуску новай дзяржаўнай пазыкі.*

*5. Мазыр. Калгасы Палескай вобласці завяршылі сяўбу кок-сагызу.*

*6. Вілейка. 2000 жыхароў Вілейкі сабраліся на ўрачыстасць з нагоды ўстанаўлення ў гарадскім парку скульптуры таварыша І. В. Сталіна.*

*17. Будапешт. Усе венгерскія газеты на першых*

*старонках апублікавалі тэксты пісьмаў, якімі абмяняліся Ото Гротэваль і І. В. Сталін з нагоды скарачэння рэпарацыйных плацяжоў Германії.*

## XVII

Перад майскімі святамі ўсю Лабанаўку ўскалыхнула радасная падзея: на вуліцах райцэнтра паявіліся дзве навюткія бліскучыя «Пабеды». Адна з іх належала райкому партыі, другая — райвыканкому. Паўстала праблема, дзе знайсці вадзіцеляў. Да Акапяна неўзабаве прывялі каржакаватага хлопца ў гімнасцёрцы, які ў арміі быў шафёрам.

— Каго вазіў у арміі, душа любезны? — спытаў у яго Акапян.

— Спярша вазіў камандзіра палка. Потым далі новую машыну. «Віліс» амерыканскі. Пачаў вазіць камандзіра дывізіі. Генерал-маёра. Вясёлы быў мужык.

— Ну, дык ты, выходзіць, ас. А на «Пабедзе» не ездзіў?

— Пакуль што не. Але баранка ж тая самая. І таксама чатыры колы. Асвою...

Акапян задаволена паляпаў вадзіцеля па плячы, даў закурыць «Казбеку».

— Ты мне падабаешся, душа любезны. Будзеш працаваць у нас.

А ў райвыканкоме машына стаяла. З базы прыгнаў яе старшына міліцыі Міхалёў, які таксама займеў вадзіцельскія правы ў арміі, а цяпер ганяў міліцэйскі матацыкл. Некалькі разоў Пракапенка з'ездзіў з ім і на раён, але ўбачыўшы за рулём чалавека з пагонамі, усе прымалі старшыню райвыканкома за начальніка міліцыі. Аднойчы Пракапенка пачуў, як стары дзядок прашамкаў за яго спінаю: «Во якое начальства стала пышнае. Дайжа целахраніцеля маець». Болей старшыню Міхалёва не турбавалі.

Неяк пазваніў Даўгалёву загадчык райфа Чэпікаў.

— Дайшлі да мяне чуткі, што вы шафёра ніяк знайсці не можаце.

— Так ужо й не можам,— незалюбіў Даўгалёў.— Мы ўсё можам. Выбіраем. Каб надзейны кадр быў.

— Адзін фінагент наш на фронце круціў баранку.

Праўда, ён патрэбен і мне. Работнік талковы, акуратны, вельмі пунктуальны. І ў чарку не заглядае.

— Мы якраз такога і шукаем. Як прозвішча?

— Навум Сыркін. Я праўду кажу, шкада аддаваць. Але разумею, што фінагента цяпер лягчэй знайсці, чым добрага шафёра. Дарэчы, ён яшчэ і вясёлы чалавек. Калі паедзеш з ім на раён, не засумуеш.

Праз колькі дзён Даўгалёў прывёў у кабінет Пракапенкі невысокага, хударлявага чалавека з вясёлымі карымі вачамі, з вострымі залысінамі на кучаравай галаве. Пракапенка распытаў, дзе Сыркін ваяваў, на якіх машынах ездзіў, ці зможа працаваць на «Пабедзе».

— Антон Яўсеевіч, калі я «студабекар» вадзіў, то ездзіць на легкавушцы гэта проста адпачынак. Ды яшчэ з добрым чалавекам за кампанію,— усміхнууся Сыркін.

— Дапусцім, я не такі ўжо добры, як некаторым можа здавацца,— падміргнуў неўзаметку Пракапенка свайму намесніку.— Але хто добра працуе, таго ў крыўду не даю. Ну што ж, будзем працаваць, Навум... Як вас па бацьку?

— Бацьку майго звалі Янкель. Але каб прасцей, то я завуся Якаўлевічам. У вёсках нашага Акапяна завуць Харытонавічам.

— Значыць, Навум Якаўлевіч, з заўтрашняга дня афармляем вас...

— Я гатовы. Як скажаце, так і будзе,— ускочыў Сыркін.

— Тады, як кажуць, па руках? — Пракапенка выйшаў з-за стала і моцна пацiснуў руку свайму будучаму шафёру.

Ясным чэрвеньскім днём па дарозе на Белую Гару каціла новая «Пабеда». Машына паблісквала густа-зялёнаю фарбай, бліскучым нікеляваным радыятарам. Здалёку яна нагадвала порсткага жучка, які шпарка бяжыць па дарозе і цягне за сабою бялёсы шлейф пылу. Праз адчыненае шкло ў кабіну ўрываўся свежы ветрык, прыемна халадзіў твар. Пракапенка аглядаў усё, што было вакол дарогі. З правага боку расло жыта, яно ўжо каласілася. Каласы былі няроўныя, сям-там доўгія і шырокія, і сцябліны аж ільсніліся пад сонцам, а ў іншых месцах, асабліва на курганах, каласкі дробненькія .«Каласкі — што камарыныя наскі,— уздыхнуў Пракапенка.— Не відаць нам тут стопудо-

вага ўраджаю. Здаецца, і гной вазілі. І дождж сёлета не мінае. Часцяком сыпле. Бедная наша зямелька,— убачыў агрэхі-плешыны, сінія ад валошак, падумаў: — І пустазелле душыць нас. Рабуе сярод белага дня...»

Нібы адгадаўшы ягоныя думкі, Навум сказаў:

— Прыкідваеце ўраджай, Антон Яўсеевіч. Пакуль не наліло, дык ніхто не вызначыць. Мажа, пудоў па восемдзесят і будзе. Ва ўсякім разе, калі і засушыць, салома ўжо ёсць. І трава ў лузе высокая.

— Твая праўда, Навуме, салома ўжо ёсць. І дожджык падлівае часта. Каб не заліло... А трава ля Бесядзі, на заліўных лугах, усюды добрая. Нават на сухадолах травастой неблагі. Каб парою ўдалося ўсё прыбраць, зберагчы, мо па вясне не давядзецца гумны раскрываць...

Твар старшыні райвыканкома спахмурнеў, бо прыгадалася, як пад вясну ў многіх калгасах раскрывалі гумны і саломаю са стрэх кармілі кароў, бо сена не хапала. Таму яго радавала, што жыта даволі высокае, трава ў лузе добрая. Можа, удасца вырвацца з бяскорміцы, якая мучыць усе пасляваенныя гады.

Наперадзе ўжо віднеліся хаты Белай Гары, калі легкавік параўняўся з падводаю, якая ехала насустрач. Яшчэ здаля Пракапенка пазнаў па малінавай фуражцы, нізка насунутай на вочы, участковага Бравусава.

— Тармазні на хвілінку,— кіўнуў Навуму.

Машыну ахутала пылам. Пракапенка счакаў, пакуль вецер аднясе далей пыл, адчыніў дзверцы. Бравусаў саскочыў з воза, казырнуў:

— Здравія жалаю, Антон Яўсеевіч!

— Здароў, Уладзімір Усцінавіч! Як маешся? Як справы? — Пракапенка падаў яму руку, пільна зірнуў у твар, нібы хацеў упэўніцца па вачах, піў ці не піў сёння ўчастковы.

— Справы? Як справа, так і злева. Поўны ажур, Антон Яўсеевіч,— з усмешкаю адказаў Бравусаў.

— Усё ціха? Здарэнняў ніякіх няма?

— Пакуль усё нармальна. Рыхтуемся да сенакосу. А там і жніво. Справы такія, што толькі паспявай... А калі работы многа, тады і грашыць няма калі...

— Лета, Уладзімір Усцінавіч, на работу шчодрае. І на пажары, браце, таксама. Правер на сваім участку пажарныя дружыны. Каб усюды, дзе трэба, былі бочкі

з вадою, скрыні з пяском, бусакі, ламы, насосы. Ну, сам ведаеш, як павінна быць па правілах супрацьпажарнай бяспекі. Я скажу Свідэрскаму, каб ён таксама ўзяў гэта пад кантроль. Ён там на месцы?

— На месцы. Чакае вас, Антон Яўсеевіч. А наконт пажару мы не забываем. Усе населеныя пункты падзелены на дзесяцідворкі. Таблічкі, ну, каму што несці, на кожнай хаце. Каму тапор, каму вядро, лом ці лесвіцу. Вось будзеце ехаць праз Белую Гару — убачыце. Я ў Баравуху якраз па гэтаму пытанню еду. Праверыць, як у іх там справы.

«Свідэрскі наўмысна яго адправіў, каб не быў у сельсавеце, калі я прыеду»,— падумаў Пракапенка, бо ведаў, што адносіны ўчастковага са старшынёй нацягнутыя, асабліва пасля кур'ёзнага здарэння з Марусяй Лапчанкавай.

Калі легкавік ад'ехаўся, Навум, не паварочваючы галавы, бо дарога была калдобістая, спытаў:

— А што з гэтай самагоншчыцай, Антон Яўсеевіч?

— З якой? — чамусьці перапытаў Пракапенка, хоць ён адразу здагадаўся, пра каго пытаецца Навум, і нават падумаў, што той нібы падслухаў яго думкі.

— Ну, з гэтай, белагорскай, у каторай вада аказалася...

— А, з гэтай... Не ведаю. Гэта справа міліцыі і пракуратуры. Хай яны разбіраюцца.

Хоць пэўным чынам разбірацца давялося і Пракапенку: пазваніў неяк Свідэрскі з вялікаю крыўдаю на Бравусава, які падвёў яго пад манастыр, што ўчасковы пакрывае самагоншчыкаў, не праводзіць прафілактычную работу і што ўвогуле Бравусаву не месца ў міліцыі. Пракапенка супакоіў Свідэрскага, абяцаў разабрацца, дамагчыся, каб вінаватага абавязкова пакаралі. Начальнік міліцыі маёр Гоманаў даў добрую характарыстыку ўчастковаму, сказаў, што віна яго не ўстаноўлена, некаторае парушэнне інструкцыі ён дапусціў, за што і атрымаў спагнанне. Пра звальненне ён і слухаць не стаў, маўляў, з кім жа тады працаваць, калі звальняць такіх энергічных, смелых, вопытных і ўжо заслужаных людзей, як Бравусаў.

Як толькі закончыў Пракапенка размову з начальнікам міліцыі, пазваніў Акапян: «Слухай, душа любезны, што ў вас робіцца ў судзе? Па ўсім раёне чуткі

пайшлі, што суддзя Васіленка апраўдаў самагоншчыцу. Свідэрскаму я поўнасцю давяраю. Раз гэты чалавек падпісаў акт, значыць, быў факт самагонаварэння. А ўчастковы Бравусаў, відаць, падмяніў бутэльку. А мо сам выпіў?»

Давялося Пракапенку амаль усё, што пачуў ад начальніка міліцыі, пераказаць Акапяну. Той уважліва выслухаў, а потым сказаў: «А зрэшты, суддзя наш галавасты. Яму відней...» Пачуўшы гэта, Пракапенка не мог не ўсміхнуцца, бо помніў, як спачатку Акапян не хацеў прымаць усур'ёз маладога суддзю.

Ехалі ўжо вясковаю вуліцаю, і Пракапенка ўважліва прыглядаўся да новых дамоў, убачыў на адным таблічку, на якой было намалявана вядро, далей мільганула на фанернай таблічцы сякера.

«Працуе Бравусаў»,— падумаў ён, але тут жа сам сабе зазначыў, што гэта заслуга не толькі ўчастковага інспектара.

З левага боку вуліцы, між новых дамоў, сіратліва тулілася прысадзістая зямлянка. Невялічкае акенца яе было завешана фіранкаю, якая ўдзень была адхінута, на падаконніку стаяў гаршчок з агеньчыкам — кветка чырванела ружовымі зорачкамі, нібы сапраўды свяціліся агеньчыкі. «Мабыць, удава нейкая жыве. Трэба спытаць у Свідэрскага... А ўвогуле белагорцы спраўна будуюцца. Амаль усе хаты новыя. Пяцісценкі, не абы-якія катухі»,— з прыемнасцю адзначыў старшыня райвыканкома. Затрымлівацца ў Белай Гары ён не збіраўся. Меркаваў абгаварыць са Свідэрскім некаторыя неадкладныя справы, потым разам з ім паехаць у Хатынічы, дзе ён, Пракапенка, даўно ўжо не быў.

Старшыня сельсавета выйшаў на ганак, як толькі машына спынілася, вільнуўшы ўбок на густую, як воўна, прыдарожную траву. Быў Свідэрскі, як заўсёды, падцягнуты, у нязменным цёмна-сінім кіцелі, добра выгаралым ужо ад сонца, але падкаўнерык чысты, свежы, хударлявы твар гладка паголены, вялікія сталёва-шэрыя вочы зірнулі пільна, насцярожана. Пракапенка выйшаў з машыны, падаў яму руку, тонкія губы Свідэрскага расцягнуліся ў скупую ўсмешку, паказаўшы дробныя ніжнія зубы.

Праз паўгадзіны зялёная «Пабеда» імчала далей. Навум часта сігналіў — гук нагадваў гучны акорд

гармоніка,— бо па вуліцы хадзілі куры, круціліся порсткія малыя парасяткі.

— Дзе паваротка на Хатынічы? — Навум павярнуў кучаравую галаву да Свідэрскага.

— Метраў праз дзвесце направа,— Свідэрскі ледзь не сказаў: там будзе хата, а за ёю сад.

То была хата Марусі Лапчанкавай. Ад успамінаў пра тую гісторыю ў яго адразу псаваўся настрой, бо ніякага «дадатковага расследавання» ніхто не праводзіў, ды і што яно магло даць. Не дура Маруся трымаць дома гарэлку ці апарат, які яна недзе пазычыла. Бравусаў разам з панятымі напісаў паперу, што нічога не знайшлі. А сам Свідэрскі туды не паказваўся і сёння ў Пракапенкі не стаў пра тую гісторыю пытацца, бо ведаў, што Бравусаву абʼявілі вымову і на гэтым справа закрыта.

Старшыню райвыканкома займалі іншыя клопаты: як рыхтуюцца калгасы да сенакосу, ці падрыхтаваны такі для малацьбы? На мінулым тыдні Свідэрскі абʼехаў усе пяць калгасаў сельсавета, становішча спраў ведаў, і Пракапенка застаўся задаволены інфармацыяй. Машына вырвалася за вёску, Навум націснуў на акселератар, але Пракапенка паклаў руку на яго калена:

— Не разганяйся дужа. А то ўсё мільгае. Нічога не разгледзіш. Не, на коніку лепей ехаць. Дзе захацеў, там і спыніўся. А дзе трэба, махнуў пужкай...

— Ды і я так магу,— усклікнуў Навум.— Вось толькі марудна ехаць не магу. Матор перагрэецца. Праўда, гэта калі доўгі час паўзці марудна. А па нашых адлегласцях — не страшна.

З гары, дзе дарогу абступалі старыя бярозы, былі ўжо відаць Хатынічы. А ўдалечыні цьмяна паблісквалі цыбуліны саковіцкай царквы. Удала выбралі месца нашы дзяды, якія будавалі царкву,— здалёку бачна, падумаў Пракапенка, перавёў позірк на хатыніцкія прысады. Злева шырачэзны зялёны луг абвівала бліскучаю звілістаю стужкаю Бесядзь. Далей, за рэчкаю і поплавам, стаяў лес. І ў каторы ўжо раз Пракапенка залюбаваўся гэтым надзвычай маляўнічым краявідам.

— Навум, адарвіся ад баранкі, глянь, якая прыгажосць,— ён развёў рукі, шыбы паказваў панараму, якая адкрывалася вачам.— Раман Піліпавіч бачыць гэта кожны дзень, дык ён ужо і не заўважае.

— Чаму не заўважаю? — адгукнуўся Свідэрскі.— Такое нельга не заўважаць. Хаця мае вочы прывыклі ўжо. Бывае, едзеш на падводзе, задумаешся, конік сам па сабе трусіць. Глядзіш — ужо і Хатынічы.

— Да добрага лёгка прывыкнуць,— глыбакадумна сказаў шафёр.— А сапраўды прыгожыя ў нас мясціны. Дзе я не быў! І ў Польшчы, і ў Германіі, і ў Чэхіі. А тут лепей. Я ж у Лабанаўцы радзіўся. А ў народзе кажуць: дарагая тая хатка, дзе радзіла матка.

Навум змоўк, нібы асекшыся. Пракапенка яго зразумеў, бо ведаў, што маці і бацьку Навума немцы расстралялі.

Злева на курганістым полі, за якім зеляне́ў густы хвойнік, бачыліся белыя хусцінкі жанчын.

— Гэта ўжо хатыніцкія? — павярнуўся Пракапенка да старшыні сельсавета.

— Лён полюць. Звяно Праскоўі Баханьковай.

— Трэба падысці да іх.

Пракапенка вылез з машыны. Адразу за дарогай пачыналася льняное поле. Пяшчотна-зялёныя кучаравыя сцяблінкі дружна цягнуліся ўгору. У ботах боязна было ступіць, бо лён рос густа і роўна. Пракапенка сігаў праз дарогу, шукаючы мяжу, каб падысці да жанчын, але насустрач ужо ішла звеннявая, атрасаючы рукі, з закасанымі па локці рукавамі старэнькай клятчастай кофты, лёгка ступаючы босымі, загарэлымі да каленяў нагамі.

— Добры дзень, Праскоўя Восіпаўна,— першым павітаўся Свідэрскі.

— Здароўце вам,— проста, як прынята ў Хатынічах, павіталася яна.

— Добрага здароўя! — з паклонам адказаў ёй Пракапенка.— Гляджу і вачам не веру. Нідзе ні травінкі. Такое чыстае поле ў вас. Любата!

— Дык ета ж мы ўжо другі раз полем. А да пасеву яшчэ, калі скародзілі поле, мы за бараною ўслед хадзілі. Граблямі, а дзе і лапатаю, разбівалі камлюхі, каменне збіралі. Выносілі ўсё з участка. Лён жа, Антон Яўсеевіч, трэба даглядаць, як дзіця малое...

Падышлі астатнія жанчыны, сарамліва віталіся з прыезджым начальствам, слухалі звеннявую, згоднаківалі галовамі.

— Мы ўжо сяння за даабеддзе два гектары прапалолі. Можа, да вечара і яшчэ два прадзярэм,— Параска

агледзела сваю каманду і дадала: — Стараемся ж, каб і ў нас было, як у добрых людзей. Летась за лён і мануфактуры далі, і абутак. Ета мы ў поле басаnож, каб лягчэй было. А так у нас ёсць што абуць і надзець.

— Калі ў клуб на танцы ці ў кіно, дык усе ў тухвельках ды ў боціках,— сказала Хадора, ёй хацелася пахваліцца, што танцы іграе ў клубе яе сын Мікола, але адчула, што не той момант.

— Ну, як жыццё? Памалу ўсё наладжваецца? — спытаў Пракапенка.— Мо ў каго якія крыўды? Тут і Раман Піліпавіч — ваша мясцовая ўлада, возьме на заметку. І мы дапаможам, калі што якое...

— Ёсць яшчэ непаладкі,— рашуча пачала Параска.— Коней малавата ў калгасе. Як соткі сеяць, дык ходзіш-ходзіш за брыгадзірам, каб якога каняку вырваць. Або дроў прывезці...

Тут усе жанчыны загаманілі, што ў раён не выбрацца. Калі трэба якую даведку ці ў бальніцу, дык і бяжы за дваццаць вёрст.

— З кармамі туга. Таму і коней малавата. Вы ж ведаеце,— уступіў у гаворку Свідэрскі.

— Дык адкуль жа яны будуць тыя кармы? Атава летась засталася някошанай.

— Мы ўсю восень, як бульбу ды буракі выбралі, лёнам займаліся. Дык атава пайшла пад снег. Хай бы па дварах раздалі....

— Ну, жанчынкі, вы ж ведаеце, колькі ў нас мужчын... Ніхто не сядзеў без работы. Снапы малацілі да снегу. У вашым калгасе яшчэ лепш справы, чым у другіх,— Свідэрскі павярнуў размову ў другое рэчышча.— Летась у суседзяў выдалі на працадзень па два кілаграмы бульбы, а ў вас па тры з паловай.

— Дык ета ж бульба не з неба звалілася,— размахваючы рукамі, наступала на Свідэрскага Параска.— Мы ж самі яе вырасцілі. І гной вазілі, і попел, і курыны памёт збіралі...

— Вы правільна ставіце пытанне, Праскоўя Восіпаўна. Вырасцілі добры ўраджай, то і працадзень павінен быць больш важкім. І коней трэба мець болей. Значыць, жарабят важна ўсіх зберагчы. Гадаваць іх,— Пракапенка зірнуў на Свідэрскага, маўляў, улічы гэта.— Нічога, жанчынкі, з кожным днём, з кожным годам жыццё паляпшаецца.

— Ета праўда, Яўсеевіч,— падступілася бліжэй

Хадора.— А вот скажыце вы нам адкрыта... У газетах нешта пішуць, нібыта мірыканец еты зноў вайны хоча... Колькі ж тут гадочкаў прамінула пасля немца. Хаты людзі паставілі, жыць бы ды жыць. А етыя імперыялісты зноў бонбай махаюць...

Усе жанчыны прыціхлі, чакаючы адказу.

— Так, амерыканскія імперыялісты зноў крычаць пра вайну. Размахваюць атамнай бомбай,— сумна ўздыхнуў Пракапенка.— Але бомба ёсць і ў нас. І не горшая... Простыя людзі, рабочыя, сяляне ні ў Амерыцы, ні ў Англіі, ні ў Германіі вайны не хочуць. І мы тым больш яе не хочам... Працуйце і жывіце смела і спакойна. Наша партыя і ўрад наш, таварыш Сталін усё робяць, каб не дапусціць новай вайны. У нас моцная армія. І калі хто сунецца, дык атрымае па зубах... А мы... Чым лепш будзем працаваць, тым багацейшай, мацнейшай будзе наша краіна...

Ужо ў машыне Пракапенка злавіў сябе на думцы: ці пераканаўча адказаў на пытанне аб вайне, і адчуў, як у самога балюча заныла душа. Сапраўды, толькі ж пачалі загойвацца раны. Няўжо зноў будзе вайна?

Машына прагрукатала па Шамаўскім мосце. Навум прытармазіў, бо здаля ўгледзеў свайго былога калегу фінагента Івана Сырадоева.

— Антон Яўсеевіч, падвязём чалавека? — спытаў ён у Пракапенкі.

— Чаму ж не падвезці? Канечне...

— Сядай, Іван Ягоравіч,— Свідэрскі шырока расчыніў дзверцы машыны.

— Ды я ўжо дома. Мне тут два крокі ходу,— сказаў Сырадоеў, павітаўшыся.

— Сядай. На машыне хутчэй будзе,— рашуча сказаў Навум і дадаў: — Я правязу не так, як ты на палутарцы ехаў...

Навум узрадаваўся сустрэчы з Сырадоевым. Па дарозе раздумваў, дзе ўдасца паабедаць. Пракапенку ведаў яшчэ мала, пра тое, што Свідэрскі скупы і што ў яго вялікая сям'я, чуў не раз. І тады згадаў былога калегу, а тут ён і сам трапіўся, праўду кажуць, на лаўца і звер бяжыць.

А наконт палутаркі ён сказаў таму, што Сырадоеў аднойчы расказаў яму гісторыю: спяшаўся, нёс грошы здаваць у Лабанаўку, даганяе машына, ён прагаласаваў, але машына не спынілася, хоць і прыцішыла

хаду, бо якраз быў паварот. Іван спрытна ўкінуў партфель у кузаў, учапіўся за борт. А ў кузаве бочкі катаюцца ва ўсе бакі, залезеш туды — ногі адаб'юць. Неўзабаве бочкай моцна стукнула яму па пальцах, ён аж завыў ад болю, але другой рукой трымаўся з усяе сілы, бо ў кузаве партфель з грашыма. Да самай Барavyхі вісеў, а там ля мосціка шафёр прытармазіў, Іван выхапіў партфель і кульнуўся ў канаву. Збіў яшчэ зайлокаць, пальцы ў крыві, выкачаўся ўвесь у пясок. Зайшоў у крайнюю хату, абмыўся, абчысціўся і ледзь датупаў да райфа. Здаў грошы, уздыхнуў з палёгкаю і ў сталоўцы за куфлем піва расказаў пра сваю прыгоду калегам. Расказваў і смяяўся, нібы было гэтае здарэнне не з ім, а з кімсьці другім.

Цяпер гаварыць пра гэта пры начальстве яму не хацелася, Навум гэта зразумеў і пра палутарку болей не ўспамінаў. Між тым легкавік каціў па Хатынічах, дзятва ва ўсе вочы глядзела на незвычайную машыну. Пракапенка загаварыў з Сырадоевым, які асабліва запомніўся яму пасля таго пасяджэння бюро райкома.

— Як працуецца? План ідзе? Нядоімшчыкі яшчэ ёсць?

Іван не паспеў адказаць на ўсе пытанні, як пад'ехалі да ягонай хаты.

— Ну вось мой дом. Прашу ў госці. Перакусілі б трохі...

— Дзякуй. Паедзем у кантору,— адказаў Пракапенка.

Навум выйшаў з машыны, стукнуў нагою па скатах, нібы правяраў, ці моцна накачаныя, адвёў Івана ўбок.

— Будзеш дома? Я заскочу на хвілінку. Адвязу іх у кантору і вярнуся. Ну, калі не загадаюць адразу куды-небудзь ехаць...

«Пабеда», ззяючы на сонцы радыятарам, фарамі і падфарнікамі, кранулася з месца, калі з правулка высунуліся Андрэйка, Паўлік і Данька. Такую машыну яны бачылі ўпершыню і застылі як укопаныя ад здзіўлення, стаялі і глядзелі ёй услед.

— Што, не ўдалося бліжэй пабачыць? — усміхнуўся Іван.— Не бядуйце, яна скора сюды прыкоціць зноў. Тады і памацаць зможаце.

Хлапчукі атабарыліся ля Андрэйкавай хаты. Уранні яны напасвілі цялят, загналі іх у хлеў, бо ў гарачы-

ню — самая заедзь, схадзілі пакупацца ў Бесядзі і вярталіся дамоў. Цяпер яны ляжалі на мяккай мурожнай траве, духмяных рамонках і чакалі; ім вельмі хацелася пабачыць дзівосны легкавік.

А ў канторы калгаса «Пяцігодка ў чатыры гады» размова ішла такая. Пракапенка даўно ведаў і паважаў Макара Казакевіча, старшыню аднаго з лепшых калгасаў, ён рэкамендаваў яго на гэтую пасаду і быў рады, што справы ў Хатынічах ідуць на лад, і ехаў ён сюды заўсёды нібы на сустрэчу з добрым другам. Макар Тарасавіч ведаў, што прыедзе старшыня райвыканкома — Свідэрскі папярэдзіў, хоць і рабіў гэта нехаця: не мог забыць тую сутычку падчас лесанарыхтовак. Макар Тарасавіч убачыў, як спыніўся ля канторы шыкоўны легкавік, вядома, не пабег на адной назе на сустрэчу начальства, але як толькі Пракапенка пераступіў парог, ён падняўся, моцна паціснуў руку госця, шчыра радуючыся прыезду чалавека, якога вельмі паважаў.

— Слухай, Антон Яўсеевіч, калі лаяць мяне дужа не збіраешся, дык запрашаю на абед. А то я рана снедаў. Язвачка мая далася ў знакі. Стараюся яе не дражніць, абедаць у час.

— Я такі думаў цябе трохі палаяць. Але, можа, і праўда лепей спачатку паабедаць, а, Раман Піліпавіч? — Пракапенка помніў пра канфлікт падчас лесанарыхтовак і хацеў праверыць, як паставіцца Свідэрскі да такой прапановы.

— Паехалі да мяне. Збірайся, Макар.

— Раман Піліпавіч, у канторы калгаса камандую я. І я першы выказаў такую прапанову... А за што ж ты хацеў мяне лаяць, Антон Яўсеевіч? А то раптам забудзеш, дык я і не дазнаюся, які недахоп у нас маецца? — Казакевіч устаў, звыкла заціснуў мыліцу пад пахаю, у другую руку ўзяў карацейшую кульбу і стаяў у чаканні.

— Не, брат, нізашто не здагадаешся, з якога боку я хацеў табе прачуханца даць. Каб не мучыць доўга, скажу: за супрацьпажарную бяспеку.

— Ну-у, дзівосы! Пакуль што ў нас — цьфу-цьфу, пажараў не было, так што лаяць мяне няма за што. Я думаў — за здачу малака ці за падаткі пачнеш драіць,— зарагатаў Казакевіч.— Пра сенакос ці пра жніво...

— Сядай у машыну. Будзе і пра гэта гаворка. На машыне ўсюды паспеем. Паглядзім і поле і сенажаць.

— Дык што? Да мяне ў Мамонаўку? — забег наперад Свідэрскі.

— Мы тут абое госці, Раман Піліпавіч. Раз галава калгаса запрашае, адмаўляцца не выпадае,— Пракапенка стаяў ля машыны.— Макар Тарасавіч, можа, спераду табе будзе зручней?

— Ды не. Мы во тутацька з Піліпавічам,— Казакевіч спрытна падцягнуў на руках сваё даволі ўжо грузнае цела.— Шыкоўная каляска, скажу я вам. Калі ета мы разбагацеем, каб старшыня калгаса не бегаў пехатою ці на коніку тросся. А як чалавек ездзіў на машыне.

— Гэта, браце мой, будзе скора. Што іншае вырашыць цяжэй, а машына ў вас будзе,— запэўніў Пракапенка.

— Дай божа чутае бачыць. Піліпавіч, вы не заязджалі да кузні? Там пажарны пункт пад паветкаю. Насос там што трэба.

— Можна заехаць. Я вось што прыкмеціў,— Пракапенка павярнуўся да старшыні калгаса,— малавата ў Хатынічах маладых лісцвенных дрэў. Асабліва ў тым канцы, які згарэў. А ў лесе ж хапае і бярозак, і рабінак. А клён, дуб! Гэта ж такая прыгажосць!

— Дрэўцы ёсць. Але і праўда малавата. З машыны гледзячы, неяк болей можна адразу ўбачыць, га? — заўсміхаўся старшыня калгаса.— Увосень арганізуем пасадку.

— Хачу паглядзець ваша гумно, ток. Каб я ведаў, як ты рыхтуешся да жніва,— гаварыў далей Пракапенка. Пра галоўную прычыну свайго прыезду ў Хатынічы ён яшчэ не сказаў, усё адкладваў, прыглядаўся да Казакевіча.

А прычына была вось якая. Пачыналася ўзбуйненне калгасаў, дзве-тры дробныя гаспадаркі аб'ядноўваліся ў адну. У Белагорскім сельсавеце было пяць калгасаў, меркавалася зрабіць з іх два. Значыць, тры старшыні павінны былі развітацца з хай сабе і мулкім, але начальніцкім крэслам, развітацца з сімвалам улады — круглаю пячаткаю.

Да Хатыніч планавалася далучыць пасёлак Казельскі і вёску Вішні, а да Белай Гары — Баравуху. Са Свідэрскім пра аб'яднанне размова была. «Казакевіч

пацягне большую гаспадарку? — спытаў Пракапенка ў старшыні сельсавета.— Вопыт мае. І яшчэ не стары...» Свідэрскі адказаў не адразу. «Усё правільна. Толькі вось здароўе... З адной нагой...» — «А што яму ўперагонкі бегаць? Тут, брат, галава важней... А калгас у Хатынічах неблагі».— «Ды я не супраць»,— паспяшаўся згадзіцца Свідэрскі, успомніўшы пра даўнія сяброўскія адносіны Пракапенкі з Казакевічам, але сваю непрыхільнасць да старшыні калгаса схаваць не змог, таму і загаварыў пра здароўе.

Машына тым часам параўнялася з крамай, Навум запытаўся:

— Куды ехаць?

— Прама, а потым будзе налева,— пачаў тлумачыць Казакевіч, але Пракапенка яго перапыніў:

— Здаецца, крама адчынена? Давайце зірнём, што там ёсць. Мы з Раманам Піліпавічам. А ты, Макар Тарасавіч, пасядзі, пагавары з Навумам, растлумач яму далейшы маршрут.

Крамнік Сямён Чукіла згледзеў шыкоўную «Пабеду» і адразу змікіціў, што прыехалі важныя госці, можа, нават з вобласці. Похапкам працёр анучаю прылавак, схаваў далей пачатую пляшку гарэлкі: іншым разам ён і сам прыкладваўся, ахвотна наліваў некаторым настойлівым аматарам — гэта спрыяла выкананню плана, мацавала сяброўскія адносіны з патрэбнымі людзьмі. Цяпер у краме было толькі некалькі дзяўчынак, якім хацелася цукерак, але не было на гэта грошай.

Пракапенка нетаропка вылез з машыны, агледзеўся, адзначыў для сябе, што і каля крамы тырчаць усяго два пахіленыя дрэўцы, кінуў вокам на расклад работы магазіна, напісаны чырвоным алоўкам на аркушы са школьнага сшытка. Свідэрскі расчыніў шырока дзверы, прапускаючы госця наперад. У краме пасля зыркага сонечнага святла падалося зусім цемнавата, хоць збоч прылаўка было шырокае акно, але яно выходзіла на поўнач, і сонца сюды не заглядвала.

— Дзень добры ў хату! — гучна павітаўся Пракапенка.

— Добры дзянёк вам! — расплыўся ва ўсмешцы Сямён, і яго зуб-фікса заззяў, здаецца, аж пасвятлела ў памяшканні.

Крама была звычайная: на прылаўку пад шклом

ружавелі брускі туалетнага мыла, бледна-бурыя вялікія, бы паўцагелак, брускі гаспадарчага мыла, пачкі махоркі, папярос, у скрынцы цукеркі-падушачкі, якія пазліпаліся, у другой — featureрознакаляровы гарошак, таксама цукеркі, далей адкрыты бачонак селядцоў, на паліцах паблісквалі бляшанкі кансерваў, на цвіку вісеў хамут, побач на палічцы стаялі наўскасяк некалькі запыленых кніжак, далей у кутку збіліся ў шчыльны круг лямпы-дзесяцілінейкі, перавернутыя дном угору гранёныя шклянкі. «Нарэшце мы пабагацелі. Мыла ўжо якое хочаш ёсць. І лямпы, і шклянкі,— адзначыў Пракапенка.— А які быў гэта дэфіцыт пасля вайны...»

— Ну, як жыццё-быццё? План выконваеце? — спытаў ён у крамніка.

— План выконваем,— першае пытанне Сямён прапусціў, бо яно было не зусім пэўнае.— Вось каб нам яшчэ мукі часцей давалі. Ці хлеб саковіцкая пякарня пастаўляла. Тады было б і зусім добра.

— А што, мука бывае рэдка?

— Увосень і зімой давалі часта. Перад маем была. Размеркаваў сярод пайшчыкаў па шэсць кіло. А цяпер у сельпо кажуць: да восені мукі не чакай.

Пракапенка зірнуў на Свідэрскага.

— Я званіў ім, Антон Яўсеевіч. Тое самае сказалі: няма на складзе. І райспажыўсаюз не абяцае.

— Паспрабую я памагчы. Пазваню ў Магілёў. Можа, на сенакос трохі дадуць. Хаця, вы ж самі ведаеце, з хлебам пакуль што цяжкавата,— уздыхнуў Пракапенка.— Хіба Кубань дапаможа... Там жніво ўжо ідзе... Дайце нам селядцоў штук пяток і паўкіло падушачак.

Сямён спрытна ўзважыў селядцы, загарнуў іх у газету, зрабіў кулёк з аркуша паперы, насыпаў туды цукерак.

Свідэрскі пацягнуўся ў кішэню, але Пракапенка спыніў яго:

— Чакай, Піліпавіч, я сам расплачуся. А то я магу расцаніць гэта як падхалімства. Вось трымай селядцы.

Пракапенка заплаціў за пакупкі, пачаставаў цукеркамі малых, тыя спачатку саромеліся, аднекваліся, а потым узялі па дзве падушачкі, падзякавалі нерашучымі сцішанымі галасамі.

— Чаго ета вы накуплялі тут? — здзівіўся Казакевіч, убачыўшы іх з пакункамі.

— У цябе пад бокам багатая крама. Селядцоў навілі. Пакуль калгас не мільянер, то і старшыня не багатыр,— усміхнуўся Пракапенка, сеў побач з вадзіцелем.

— Хай сабе не багатыр, але маю свежую рыбу. Так што павязеш, Яўсеевіч, селядцы ў Лабанаўку...

— Ну што ж, запас бяды не чыніць,— настрой у Пракапенкі быў добры: радавала новая бліскучая машына, цёплы летні дзень, парадавала і крама: можа чалавек сёе-тое купіць. Вось толькі з хлебам тугавата...

Падумаў пра сваіх сыноў. Ён успомніў пра іх, калі ўбачыў у краме дзяцей, згадаў, як любілі яго хлопцы цукеркі, калі вярнуліся з эвакуацыі, худыя, бледныя, асабліва меншы, Вадзік. Цяпер ён ужо ладны хлопец— дванаццаць гадоў, у шосты клас перайшоў. А Генка амаль дагнаў бацьку, яно і не дзіва — дзесяцікласнік. Мінулую зіму хлопцы амаль што не хварэлі, а першыя гады пасля вайны даліся ў знакі. Генка пасля тыфу дужа кволіўся, Вадзіка ангіна часцяком мучыла, адвыклі дзеці ад беларускіх маразоў, бо чатыры ваенныя гады жылі ў далёкім Узбекістане.

З цеплынёй падумаў пра жонку: на яе плячах ляжалі ўсе хатнія клопаты, некалькі гадоў яна не працавала, затое была выдатнай хатняй гаспадыняй: і дзеці, і муж заўсёды дагледжаны, накормлены. А летась адкрылася дзіцячая бібліятэка, і Азарава ўгаварыла пайсці туды загадчыцай. Пракапенка быў запярэчыў, маўляў, у Арыны толькі сем класаў, але сакратар райкома пераканала: дзяўчына, што прыехала з Магілёва пасля тэхнікума, ведае бібліятэчную справу, але як загадчыца яшчэ не пацягне работу...

Між тым легкавік спыніўся каля старшынёвай хаты, яшчэ даваеннай пяцісценкі з вузкімі вокнамі, саламяным дахам, які каля вільчыка парос зеленаватым мохам. Бярвенні былі тоўстыя, крэпкія — магутныя дрэвы раслі ў прыбяседскім лесе. Да старой хаты быў прыбудаваны новы ганак з жоўтых смалістых дошак.

— А як наконт новай хаты, Макар Тарасавіч? — спытаў Пракапенка, аглядаючы новы ганак.

— Пакуль што не думаю. Палову Хатыніч немец спаліў. Яшчэ ў зямлянках людзі жывуць. Мне грэх будавацца,— Казакевіч убачыў цёмную бухматую хмару за Бесяддзю.— На дождж збіраецца. Хай бы прайшоў. Пыл прыбіў...

— Каб толькі без граду,— занепакоена ўглядаўся ў неба старшыня райвыканкома.

Навум далікатна адмовіўся ад абеду, сказаў, што яму трэба адскочыць у адно месца, а Свідэрскаму адступаць не было куды, ён асцярожна ступіў на ганак, перад гэтым доўга выціраў аб мураву запыленыя боты. Твар у яго быў сур'ёзны і хмуры. Пракапенка зрабіў для сябе вывад, што старшыня сельсавета рэдкі госць у хаце кіраўніка калгаса...

Хлапчукі ўжо сталіліся чакаць, хацелі разыходзіцца дамоў, як раптам у Канчанскім баку пачуўся гул матора, і неўзабаве зялёны легкавік спыніўся каля хаты Івана Сырадоева. Данька ўсхапіўся першым і памчаў туды, услед за ім прыпусцілі Андрэйка і Паўлік. Калі яны падбеглі, шафёра ў машыне ўжо не было. Спачатку яны разглядалі дзівосную машыну здаля, потым памалу пачалі набліжацца. Ад машыны патыхала гарачым бензінавым смуродам.

Такі пах заўсёды разліваўся ў паветры, калі па вуліцы праязджаў аўтамабіль. І гэты нязвыклы пах трымаўся доўга, нібы вясковы водар, настоены на духмянай мяце, што расла амаль ва ўсіх палісадніках, на садовай квецені, на рамонках, расяным бульбоўніку і крапіве, упарта не прымаў бензінавы смурод і не хацеў з ім змешвацца. Падзьмуў мацней вецер, над пацямнелым Забесяддзем мільганула звілістая стужка, быццам нейкі пастух узмахнуў вялізнаю пугаю, грымнуў гром, упалі першыя кроплі дажджу.

— Дожджык, дожджык, секані, бабу з поля прагані...— праспяваў Паўлік і дадаў: — Пайшлі двору. А то сычас ліне як з вядра.

Андрэйка і Данька пайшлі разам, Паўлік павярнуў у Канчанскі бок. На цёплым прыдарожным пяску выразна адбіліся сляды ад колаў машыны: прамыя і звілістыя рысы, а пасярэдзіне між імі квадрацікі, нібы грудкі рафінаду.

— Ты б хацеў ездзіць на такой машыне? — спытаў Андрэйка ў сябра.

— Я спярша навучуся ездзіць на трактары. А тады перасяду на машыну. Лепей на грузавік. На такі, на якіх салдаты бульбу ад нас вазілі. Во ета машына. Студыбекір называецца,— задуменна, як дарослы, адказаў Данька.

Андрэйка хацеў сказаць сябру, што машына назы-

ваецца трохі не так, але ён не быў цалкам упэўнены ў сваёй праваце, ды і дождж прыпусціў мацней, таму ён моўчкі павярнуў да сваёй хаты.

Дождж быў кароткі, але моцны, дружны, сапраўдны лівень. Гром яшчэ лянiва вуркатаў над Бесяддзю, а над Канчанскім бокам ужо выбліснула сонца, і вялізная ружова-фіялетавая дуга вясёлкі апаясала Хатынічы.

Малы Сахута выбег на вуліцу, калі дождж яшчэ сыпаў, але ўжо радзеў, увачавідкі слабеў. Машыны каля фінагентавай хаты не было. На дарозе каля выгану ўтварылася шырокая лужына мутнавата-пеністай вады. З поля каціўся імклівы ручай. Хлапчук закасаў порткі і пайшоў па цёплай, як сырадой, вадзе.

Якая гэта асалода хадзіць па лужынах пасля летняга дажджу! Ідзеш і нібы набіраешся сілы, сокаў роднай зямлі, дыхаеш свежым, чыстым, азоністым пасля навальніцы паветрам,— яно аж пашчыпвае ў носе. Пазіраеш на вясёлку, якая робіцца ўсё ярчэйшай, побач віднеецца другая, трохі слабейшая, менш прыкметная align рознакаляровая дуга. Здаецца, што абедзве вясёлкі п'юць ваду з Бесядзі, ад яе набіраюцца сілы і колераў.

Невыказная, першародная радасць жыцця перапаўняе да краёў душу гарэзлівага падлетка. Веліч і прыгажосць прыроды, яе колеры і пахі, цеплыню зямлі і чысціню неба падсвядома, усёй сваёй істотаю прагна ўбіраў Андрэйка Сахута, жыхар напалову спаленай, напалову забітай, змучанай голадам і бядотаю вёскі Хатынічы. Ён рос, дужэў і радаваўся насуперак «гарачай» і халоднай войнам, насуперак злавеснаму ценю атамнага грыба.

У той час, калі ён хадзіў па цёплай лужыне і любаваўся вясёлкаю, па вузкай палявой дарозе імчаў зялёны легкавік. Пракапенка на ўсе грудзі ўдыхаў свежае паветра і радаваўся. Яго радаваў добры дождж, незвычайна яркая вясёлка, высокае зялёнае жыта, вялікае гумно, якое яны толькі што агледзелі. Гумно было на чацвёра варот — у кожнай сцяне заезд, далей ток з прывадам для коннай малатаркі, еўня-асець, дах якой нядаўна падрамантавалі. Па вясне палову страхі раскрылі: гэтаю саломаю кармілі кароў, цяпер тут бялелася свежая гонта.

Па ўсім адчувалася, што ў калгасе «Пяцігодка ў

сялянску мудры і няспешны. Яму па плячы і большая «чатыры гады» ёсць гаспадар, клапатлівы, дбайны, пагаспадарка. Калі аглядалі ток, Пракапенка нарэшце сказаў пра аб'яднанне калгасаў:

— Мы от думалі з Раманам Піліпавічам. Цяпер думай, Тарасавіч, ты са сваімі праўленцамі. Можа, вазьмі пад сваё крыло пасёлак Казельскі і вёску Вішні. Будзе шэсць брыгад. Кампактны, моцны калгас. Будзеце мець не толькі конны прывад. Можаце на Бесядзі электрастанцыю паставіць...

— Я і думаў, што ты, Яўсеевіч, не так сабе прыехаў,— Казакевіч памаўчаў, мацней сціснуў мыліцу пад пахаю.— Дык мо і старшыню другога? Маладзейшага. Разумнейшага. Я падбіўся ўжо...

— Не прыбядняйся, Макар. Справішся. Гэта думка і мая, і Акапяна... А вось назву калгаса, мабыць, трэба новую, карацейшую...

За могілкамі машына выскачыла на шырокую дарогу, якая звязвала Хатынічы з саковіцкім бальшаком, улетку па ёй ганялі кароў у Бярозавае балота. За балотам прыляпіўся пасёлак Казельскі, які налічваў каля двух дзесяткаў хат, а за ім ладная вёска Вішні.

Каля канторы высадзілі Макара Казакевіча.

— І я магу тут выйсці,— падхапіўся Свідэрскі.

— А хіба па тваёй Парцюкоўцы праехаць нельга? Я даўно не быў там. Сядай, паедзем.

Неўзабаве машына спынілася каля хаты Свідэрскага, вялікай навюткай пяцісценкі.

— Слухай, а мне падабаецца твая Парцюкоўка. Глядзі, якія хаты! Як звон! — азіраўся Пракапенка.— Шырокая роўная вуліца. А бяроз колькі!

— Мы ж не згарэлі ў вайну. Засталіся дрэвы. І садок амаль у кожнага, і пчолкі,— пахваліўся Свідэрскі.— Праўда, пасля вайны адзін дзядок свой сад высек. Прыйшлі мы з фінагентам, апісалі дрэвы. А ён і кажа: «Не лічыце, заўтра іх не будзе. Усе пасяку. Грошай яны мне не даюць. Дзе я прадам той яблык? У Саковічах сваіх хапае, а ў Лабанаўку на плячах не занясу». Я кажу: «Пасячэш — аштрафуем, лепш бяры майго каня і вязі яблыкі на базар».— «Не аштрафуеш. Сам садзіў, сам і пасяку». І спляжыў сад. Летась увосень пасадзіў новы. Не магу, кажа, каб на гародзе ніводнай яблынькі не было. Пакуль яны вырастуць, мо і падаткі адменяць... Ці зменшаць.

— Хітры дзед. Трэба, каб калгасы давалі болей прадукцыі, тады падаткі не толькі паменеюць, а і зусім адменім. Вот вам факт для агітацыі за ўзбуйненне калгасаў. Жыццё патрабуе, Раман Піліпавіч.

Свідэрскі згодна ківаў галавою, настойліва запрашаў госця ў хату. Пракапенка зайшоў, але неўзабаве вярнуўся разам са Свідэрскім.

— Ну, здароў будзь, Раман Піліпавіч. За Парцюкоўкай твая вотчына канчаецца. Дарогу да Саковіч я не забыў. Праедзем.

Дождж наліў лужыны ў нізінках, але зямля была цвёрдая, каляіны не разбітыя, «Пабеда» лёгка іх пераадольвала.

— Колькі мы ўжо сёння накруцілі? — Пракапенка зірнуў на спідометр.

— Ды ўжо трыццаць кэмэ,— адказаў Навум, спрытна крутануў руль, аб'язджаючы калдобіну.

— І яшчэ вёрст сорак наматаем. Добры конік машына. Дзякуй таму, хто прыдумаў.— Пракапенка зірнуў на неба і ўбачыў яшчэ высокае сонца. Значыць, паспеем пабываць у Саковіцкім сельсавеце, заехаць на свінарнік і агледзець палі.

У Навума таксама быў добры настрой: радавала новая машына, добра паабедаў у Сырадоева, пагаманілі, пасмяяліся — Іван расказаў, як аднойчы трапіў пад моцны дождж, лівень, сам вымак да ніткі і грошы ў партфелі намоклі, як потым разлажыў іх на чарэні і яны сохлі цэлую ноч. А потым згадаў і свой пад'езд на палутарцы. Частаваў ён госця ад душы, у фляжачку, абшытую лямцам, якую вазіў з сабою Навум, наліў малака для пяцігадовай Асі.

Роўна гудзеў матор. Зялёны легкавік порстка каціўся па дарозе між высокага расянага жыта, кучаравых радкоў бульбы, нібы кланяліся яму вусатыя каласы ячменю. А ў высокім чэрвеньскім небе, узрадаваныя цёплым дожджыкам, несціхана звінелі жаўранкі.

## XVIII

Улетку вясковыя дзеці прачынаюцца рана. Прачынаюцца, вядома, не па сваёй ахвоце: будзяць іх матчыны рукі і ласкавы голас, будзяць шкадуючы, але ўставаць усё роўна так не хочацца. Андрэйка звычайна

прадзіраў сонныя вочы, калі маці лёгенька тармасіла яго за плячо:

— Уставай, сынок. Відна ўжо. Сонца ўзыходзіць. Бычок рыкае ў пуні на ўсю галовачку... Падымайся, мой любы...

— Устаю, устаю,— мармытаў хлапчук, соладка пацягваўся.

І гэтак цёпла было пад старэнькаю дзяружкаю, і гэтак мякка на старым вайсковым лапленым бушлаце! Здаецца, толькі лёг, няўжо ноч праляцела? А мо гэта сутонне?

Спаў хлапчук на падлозе, бо на ляжанцы было горача ад печы, якую тапілі і летам: варылі яду на цэлы дзень, грэлася вада, каб мыць посуд. А на падлозе, у кутку за сталом, было зручна: бушлат пад бок, бацькавы ватнікі пад галаву і дзяружка накрыцца. Што яшчэ трэба чалавеку для спачыну? Цалюткі дзень, даўжэзны, як усё роўна год, лётаў Андрэйка, калі цямнела, падаў і адразу засынаў. Шкада, што летняе сонца гэтак рана ўставала з-за лесу і падымала басаногую вясковую дзятву. Вясковыя дзеці ўлетку — гэта дзеці сонца, з ім яны кладуцца спаць і з ім устаюць.

Андрэйка выганяў бычка, па вуліцы ішлі яны побач: хлапчук клаў руку на храсцец бычку і басаналож тэпаў па настылым за ноч пяску. На лузе халодная раса аж пякла ў пяткі. Андрэйка, як гусак, стаяў то на адной назе, то на другой.

Рака і лес хаваліся ў тумане, сінявата-белым, нібы перагон. І раптам з туману выкочвалася густа-барвовае сонца, не круглае, а нейкае пляскатае, быццам сплюшчылася за ноч. Доўгія вузкія аблачынкі, нібы крылы птушкі, мацней ружавелі, сонца кацілася вышэй, ягоныя промні быццам награваліся, разганялі палахлівы туман, які камякамі ваты плыў уніз па Бесядзі.

Пасвіць цялят дазвалялася толькі па канаву, што вяла ад крыніцы да ракі. Пракапалі яе, мабыць, вельмі даўно. Вясною вада бегла па выгане, затым цераз дарогу ў правулак і потым па гэтай канаве далей. Справа ад канавы былі высокія курганы, потым кузня, за ёю калгасныя свірны. А злева пачынаўся поплаў, які ў дваццатых чыслах мая «закрываўся», і нікога нельга было туды пускаць. Дык вось калі Андрэйка праганяў бычка першым, то пускаў яго і на забаронены бок канавы, дзе трава была лепшая. Вядома, па самым кра-

ёчку. Бычок смачна скуб, удзячна махаў пушыстым на канцы хвастом, а пастушок стаяў, як вартавы на пасту, гатовы ў любы момант адагнаць бычка за канаву, калі мільгане аднакрылая постаць вартаўніка Цімоха. Мог і старшыня калгаса паявіцца, ён іншы раз аб'язджаў на калёсах палі і лугі.

Тым часам паяўлялася ўсё болей цялят, пастушкоў і пастушак. Андрэйка адганяў бычка далей на курганы, а сам бег да лазні, садзіўся на парог: там не было расы, ногі памалу адаграваліся.

Гадзін пасля дзесяці сонца пачынала моцна прыпякаць, авадні налятал на цялят, тыя ўсё часцей задзіралі хвасты, зыкалі-гізавалі, утрымаць іх было немагчыма. Пастушкі са сваімі гадаванцамі разбягаліся па дварах. Дзесьці пасля чатырох гадзін яны сыходзіліся зноў. Памалу гарачыня спадала. Жоўта-бялёсае сонца ўжо вісела над Канчанскім бокам. Цяляты супакойваліся, а пастушкі распачыналі свае гульні: дзяўчаты ў каменьчыкі, а хлопцы ў ножыка. Мець ножык-складанчык — была запаветная мара ўсіх хлапчукоў. Але рэдка ў каго ён быў. Марыў займець складанчык і Андрэйка. А вось каменьчыкаў ля Бесядзі было колькі заўгодна, прычым самых розных і па форме, і па колеры.

Дзяўчаты выбіралі пяць каменьчыкаў, з добрую гарошыну велічынёю, а мо і большыя, і пачыналася гульня. Падсцілаўся нечы пінжачок ці куфайка, бо ў траве заблытаешся, браліся ўсе пяць каменьчыкаў у кулак, адзін падкідваўся ўгору, а чатыры — на пінжак, потым па адным трэба было іх збіраць, ловячы той, які падкідваецца, потым па два — так званая парка, потым тройка — тры і адзін. Каменьчыкі могуць раскаціцца далёка адзін ад аднаго, трэба паспець іх загрэбці ў далоньку і злавіць пяты. А потым усе пяць падкідваліся ўгору, падстаўлялася далонь тыльным бокам, каб тры-чатыры каменьчыкі затрымаліся між складзеных пальцаў, лепш, калі і ўсе зловіш, а горш, калі затрымаецца толькі адзін — гугель. Тады ўступаеш месца другому гульцу. Былі тут свае майстры і чэмпіёны, якія спраўляліся з усімі фігурамі, не ўраніўшы ніводнага каменьчыка. Часцей за ўсё гэта ўдавалася дзяўчынкам, самай спрытнай сярод іх была Хадорына Манька.

Затое «ў нажа» гулялі толькі хлапчукі. Трэба ўтыркнуць нож у зямлю, пускаючы яго ўніз з далоні,

ад локця, кідаючы, калі стаіш ва ўвесь рост. Хто часта мазаў, той атрымліваў пакаранне: забіваўся ў зямлю драўляны калочак, тырчаў толькі кароткі кончык, і віноўнік зубамі выцягваў яго.

Вясёлая была гульня ў «пераскочкі». Садзіліся двое, упіралі ногі ў ногі, а ўсе ўдзельнікі гульні пераскоквалі, затым ставілася нага на нагу — было ўжо трохі вышэй, затым ногі рассоўваліся ўшыркі, атрымліваўся своеасаблівы ромб. Пасля гэтага двое браліся за рукі, стоячы наўколенцах, астатнія пераскоквалі, затым планка-рука паднімалася яшчэ вышэй. І ў заключэнне ўжо толькі для хлопчыкаў: адзін станавіўся, угнуўшы галаву, другі пераскокваў, спыняўся, бо наступны павінен быў пераскочыць цераз яго. Гэта вядомая чахарда, толькі хатыніцкія дзеці такога слова не чулі. Андрэйка іншым разам задумваўся над тым, хто вынайшаў гэтыя гульні. Неяк сказаў сябрукам:

— Як вы думаеце, хто прыдумаў нашы гульні?

— Хто? Можа, мой дзед,— нядоўга думаючы, выпаліў Данька.

— А чаму не мой? — запярэчыў Паўлік.— Мой прадзед!

— Ну вось мы з вамі ў школу чатыры гады прахадзілі. Чытаць-пісаць умеем. А ніводнай гульні не прыдумалі,— разважыў Андрэйка.— А раней не вучыліся. Ні пісаць, ні чытаць не ўмелі. І столькі ўсяго прыдумалі. Самалёты, аўтамабілі, паравозы зрабілі...

— Як вырасцем, можа, і мы нешта прыдумаем,— сказаў Паўлік, згледзеў, што яго цялушка наблізілася да шкоды, памчаў яе адганяць за канаву.

Напасвіўшы цялят, хлопцы купаліся ў Бесядзі, вярталіся дамоў, бо хацелася есці. Выпіўшы малака з праснаком — хлеба ўлетку не было, Андрэйка браўся чытаць. Мінулае лета ён чытаў казкі: беларускія і рускія, асабліва яму падабаліся казкі Пушкіна. На лузе расказваў іх сябрам. Слухачоў набіралася многа: усе пастушкі збіваліся ў гурт і слухалі разявіўшы рот. Апавядальніка гэта яшчэ болей натхняла. Ён расказваў з такім захапленнем, што слухачы забываліся на цялят, забываліся пра ўсё на свеце. І толькі калі канчалася казка, усе кідаліся на пошукі сваіх гадаванцаў.

Сёлета ніякіх новых кніг у Андрэйкі не было, а чытаць хацелася. І тады хлапчук зноў узяўся за газеты. На пачатку лета маці з Марынаю абклеілі хату

новымі газетамі. Спачатку хлапчук перачытаў сцяну напроці стала, бо тут была драўляная канапа, на ёй можна зручна ўладкавацца, потым падстаўляў табурэтку і чытаў далей.

Разумеў далёка не ўсё, вельмі багата ўзнікала пытанняў. Спытаць не было ў каго, адказы часам знаходзіў сам у іншых артыкулах. Найбольш цікавілі яго артыкулы пра вёску, пра сельскую гаспадарку. Часта трапляліся артыкулы акадэміка Лысенкі. Асабліва здзівіла хлопца сцвярджэнне акадэміка, што пырнік можа задушыць дрэвы лясных палос, бо ягонае карэнне выдзяляе атрутныя рэчывы.

«Як ета пырнік можа задушыць дрэва?» — Андрэйка доўга раздумваў над гэтым, бо столькі насіў пырніку парсюкам. І сам яго рваў, ірвецца ён лёгка, але карэнне застаецца ў зямлі. Маці, калі матычыла бульбу, выбівала пырнік з карэннем, потым накладвала два кашы травы, чапляла іх на каромысел і несла мыць на Бесядзь. Карэнне пырніку — гэта Андрэйка бачыў на свае вочы,— яна «адкручвала». Памытую траву на ўсю поўніцу ела карова і парсюкі.

«Выходзіць, маці ведае тое, што і акадэмік. А яна ж чытаць не ўмее»,— дзівіўся хлапчук. Многа пазней ён параўнае таго акадэміка з атрутным пырнікам.

У суседняй газеце хлапчук прачытаў артыкул сакратара ЦК Кампартыі бальшавікоў Карэла-Фінскай ССР Ю. Андропава аб вучобе і выхаванні кадраў, аб тым, што некаторыя работнікі абаранілі кандыдацкія дысертацыі. Тут узнікалі пытанні: што такое дысертацыя, чаму і ад каго яе трэба абараняць? Далей у артыкуле гаварылася, што адзін кіраўнік з міністэрства асветы абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму: «Самастойная работа вучняў у школе па прыродазнаўстве». З гэтага Андрэйка зрабіў выснову: дысертацыя — гэта такое сачыненне на пэўную тэму і абараняць яго трэба ад настаўнікаў, каб не паставілі двойку.

Памалу ён дабраўся і да матэрыялаў сесіі Вярхоўнага Савета, якая праходзіла ў Маскве. Здзівіўся, што ў газеце «Известия» паведамленне аб сесіі было надрукавана на многіх мовах. Ён прачытаў гэтае паведамленне па-руску, потым па-беларуску, некаторыя украінскія словы былі падобныя на беларускія, іншыя лёгка параўнаць: па-беларуску было напісана — дзе-

сятага сакавіка, а па-ўкраінску — дзесятага березня... Прачытаў прамову Старшыні Савета Міністраў Беларусі Кляшчова, які выступіў першым. Гаварыў ён пра тое, што беларуская зямля аднаўляе разбураную гаспадарку, што будуюцца новыя заводы, расце ўраджайнасць калгасных палёў, і выказаў некаторыя просьбы.

Андрэйка перачытаў просьбы некалькі разоў, каб запомніць і расказаць на лузе сябрукам. Запомніць было нескладана, бо хлапчук зразумеў іх душою і сэрцам. Ну як не зразумець першую просьбу: частка насельніцтва яшчэ жыве ў непрыстасаваных дамах, у зямлянках, таму просім павялічыць асігнаванні на будаўніцтва мясцовым Саветам на дваццаць мільёнаў рублёў. Наступная просьба: павялічыліся пасевы льну, а льнозаводы яшчэ не адноўлены, таму трэба пабольш грошай на сем мільёнаў рублёў. Далей гаварылася пра Мінск, што ён не толькі аднаўляецца, а будуецца нанава, і патрэбна на гэта дадаткова сем мільёнаў. Хлапчук умеў лічыць добра: у яго атрымалася трыццаць чатыры мільёны, якія папрасіў выдзеліць дадаткова беларускі прадстаўнік. Як жа ён узрадаваўся, калі ў наступнай газеце прачытаў: просьбы ўрада Беларусі задаволены.

Калі сям'я вячэрала — на той раз і Марына прыйшла дамоў,— Андрэйка ёрзаў на месцы, бо вельмі хацелася сказаць, што ён вычытаў.

— Тата, я сянні ў газеце чытаў, што Беларусі далі многа грошай. Болей за ўсіх...

— Якія грошы? — няўцямна зірнуў на яго бацька.

— Была сесія ў Маскве. Ну, Вярхоўны Савет засядаў,— хвалюючыся, пачаў тлумачыць Андрэйка.— Выступаў Старшыня Савета Міністраў Беларусі Кляшчоў і сказаў, што ў нас людзі яшчэ жывуць у зямлянках... Ну і трэба нам дадаткова дваццаць мільёнаў. Яшчэ на льнозаводы сем і на будаўніцтва Мінска таксама сем. А ўсяго трыццаць чатыры мільёны звыш плана. І далі. Напісана, што Вярхоўны Савет задаволіў просьбу...

— Дык ён, мусіць, ведае, еты Савет, як мы жывём,— уставіла слова маці.

— Павінен ведаць. На тое мы выбіраем яго. Ды і нашы ездзяць на сесіі. І Пракапенка, і Акапян. Яны ж там дакладваюць,— сказаў бацька.

— Учора нехта прыязджаў на «Пабедзе». Я сам бачыў,— пахваліўся Андрэйка.

— Во ета і быў Пракапенка, старшыня райвыканкома,— бацька стомлена пазяхнуў, бо ездзіў касіць з Васькам.

Малому не цярпелася спытацца ў бацькі яшчэ:

— Тата, а канструктар Дзегцяроў... Што ён выдумаў?

— Дзегцяроў? Кулямёт прыдумаў.

— Я ў салдат яго бачыў. На ножках такі,— паказаў свае веды і Васька, бо пазайздросціў малодшаму брату, які не лянуецца чытаць газеты.

— Марына, а ты чула пра кампазітара Асаф'ева?— дапытваўся малодшы брат.

— Нешта чула. Ён сімфоніі пісаў, песні складаў.

— У газеце напісана, што жонцы Дзегцярова... Ну, калі муж памёр, далі пяцьдзесят тысяч дапамогі, а жонцы етага кампазітара ўсяго дваццаць. Чаму так няроўна? — сказаў Андрэйка.

— Калі б у нас не было зброі, мы б немцаў не разбілі. А без сімфоніі можна жыць,— разважыў бацька.— Вунь у нас Мікола пайграе на гармоні — і добра.

— От, Жэўжык, каб ты пацягаў касу цэлы дзень, дык бы ў газету ці ў кніжку і не зірнуў,— зазначыў Васька.

— Ты і без касьбы дужа не заглядаеш. Куды збіраешся? — бацька заўважыў, што сын расчэсвае грабянцом густыя валасы.

— Выйду на вуліцу да хлопцаў. Я ненадоўга.

— Заўтра рана ўставаць. Не цягайся, кладзіся спаць,— строга сказаў бацька.— А паслязаўтра паедзем у Саковічы пілаваць дошкі. Хоць трохі грошай заробім... Калі цяцюха мяне не зваліць,— бацька сцепануў плячамі, нібы яму было холадна.

Пасля вайны, амаль кожную вясну і лета, бацьку трэсла малярыя, ратаваўся жоўценькімі таблеткамі хіны, якія раздабывала Марына. Яна і зараз адшукала ў прыскрынку жоўценькую таблетку, Андрэйка хуценька засіліў конаўку вады. Бацька ўзяў у рот таблетку, зморшчыўся, запіў вадою. Твар у яго быў стомлены, худы, толькі шырокая лысіна паблісквала ў паўзмроку. Андрэйка лёг на свой «мяккі» ложак. Калі вярнуўся Васіль, ён ужо не чуў, бо заснуў адразу, нібы праваліўся ў прадонне.

У лесе яшчэ не было ні грыбоў, ні ягад, і хлапчукі туды не хадзілі. Напасвіўшы бычка, Андрэйка купаўся, грэўся на пяску, калі быў сонечны дзянёк, а то сядзеў дома, пільнаваў курэй і вывучаў далей прэсу. І гэтае чытанне ўсё больш уцягвала яго, і чым вышэй ён караскаўся ўгору на табурэціку, тым болей разумеў, нібы перад ім расчыняліся новыя далягляды.

Сярод лаўрэатаў Сталінскай прэміі знайшоў ён Якуба Коласа — лысы дзядзька з вусамі пазіраў сур'ёзна і заклапочана, у падручніку па роднай літаратуры ён выглядаў трохі не такім. Быў сярод лаўрэатаў і Аркадзь Куляшоў, малады, з медалём на штрыфлі пінжака — прэмію ён атрымаў за паэму «Новае рэчышча», якую Андрэйка яшчэ не чытаў. Доўга разглядаў ён здымак маладога хлопца ў вайсковым кіцелі. На здымку быў старшы сяржант Калашнікаў, які стаў лаўрэатам за распрацоўку новага ўзбраення. «Што ён такое прыдумаў? — дзівіўся хлапчук.— Можа, гармату вынайшаў? Але ж гарматы былі і раней. І «кацюша» ўжо ёсць...»

Не ведаў ён тады, што менш чым праз дзесяць гадоў давядзецца яму насіць аўтамат Калашнікава, страляць з яго, разбіраць, чысціць аж тры гады службы.

Адна старонка газеты была цалкам занята выступленнем Грамыкі на пленарным пасяджэнні Генеральнай Асамблеі. Слова «пленарнае» спачатку ён не зразумеў, але з перапынкамі — балела шыя, ды і трэба было выскокваць на вуліцу, ганяць курэй з гарода, каб у грады не лезлі,— чытаў далей,— і здагадаўся, што пленарнае пасяджэнне гэта калі прысутнічаюць усе.

Асабліва ўсхвалявала хлопца выступленне Героя Савецкага Саюза Аляксея Марэсьева на Сусветным кангрэсе прыхільнікаў міру. «Кожны малады чалавек павінен спытаць сябе: «Што я раблю сёння ў абарону міру?» — гэтыя словы моцна запомніў Андрэйка, і так яму хацелася хутчэй вырасці, каб змагацца за мір, як Аляксей Мерэсьеў — любімы герой яго маленства.

Пра ўсё можна было дазнацца з газеты. На першай старонцы адной з іх прачытаў ён адказ Сталіна на тэлеграму Кінгзберы Сміта. У тэлеграме амерыканскага журналіста гаварылася, што прэзідэнт Трумэн быў бы

рады мець магчымасць сустрэцца са Сталіным у Вашынгтоне. Сталін дзякаваў і шкадаваў, што ўрачы рашуча пярэчаць супраць «сколько-нибудь длительной поездки, особенно по морю или по воздуху».

У газетах часта друкаваліся тады вялікія партрэты Сталіна. У нумары за дваццаць трэцяга лютага Сталін сядзеў прама ў вайсковай форме, у фуражцы, даволі нізка насунутай на лоб. З-пад казырка пільна глядзелі прыжмураныя вочы, і Андрэйку здавалася, што ён, правадыр, ведае ўсё пра яго, Андрэйку, нібы хоча запытацца, як ты вучышся, чаму бычка пускаеш у калгасны луг?

Пазіраючы на партрэт «правадыра і настаўніка», хлапчук згадаў участковага Бравусава, бо той таксама нізка на лоб насоўваў сваю малінавую фуражку. На Першага мая Сталін быў у профіль, быццам пазіраў на маршала Васілеўскага, здымак якога друкаваўся побач. На Дзень Ваенна-Марскога Флоту партрэт Сталіна быў іншы: без фуражкі, у светлым кіцелі. Надзвычай усхвалявала хлапчука адна старонка, уверсе якой буйнымі літарамі было напісана: «Сталин, как солнце, наш путь озаряет», а ў нізе старонкі быў артыкул, які называўся: «Наше счастье — Сталин».

Андрэйка чытаў і радаваўся, што ёсць на свеце Сталін, мудры правадыр і настаўнік, сябар савецкай дзятвы. Асабліва яго ўразілі радкі: «В Сталине мы видим свет разума и кристальный источник, откуда черпаем силы для великих замыслов и свершений... Наше прекрасное счастье — великий Сталин!»

Хлапчук гэтак начытаўся газет, што яму захацелася напісаць верш пра Сталіна. Ён пачаў шукаць паперу. Сшыткаў новых Марына яшчэ не купіла. У кутку на этажэрцы ляжалі працоўныя кніжкі калгасніка. На зялёна-шэрай вокладцы леташняй кніжкі, выпісанай на імя Сахуты Кацярыны Патапаўны, узяўся пісаць верш. Гаварылася ў ім, што ў савецкіх дзяцей ёсць бацька і маці, якія іх нарадзілі, і ёсць яшчэ бацька, які глядзіць на іх з Крамля, з Масквы, думае пра іх, клапоціцца, і хай доўга жыве бацька Сталін.

Падумалася Андрэйку: ці не паслаць верш у газету «Піянер Беларусі», пашукаў канверта, але не знайшоў ніводнага. Вырашыў адкласці да прыходу Марыны. Яна прыйшла ўвечары, стомленая, прывалілася да стала, сумна сказала:

— Хацела купіць што Андрэйку да школы, а тады ўспомніла, што падаткі ж трэба плаціць,— Марына памаўчала, уздыхнула.— Вылічылі падаходныя, халасцяцкія... Мала чаго асталося...

— От, каб не прыдурвалася, а выйшла замуж... І халасцяцкія... Бугаёўшчыну б ету не плаціла,— маці адвярнулася, палезла віламі ў печ.

— Мам, ну што ты мяне дакараеш? Не пайду ж я за абы-каго... Ці ж я вінавата, што мае кавалеры палеглі на вайне...

Андрэйка ўбачыў слёзы на вачах сястры. Яна шморгнула носам і пайшла ў сенцы. Рыпнулі дзверы на гарод.

Маці наліла міску крупені забеленай, з жоўта-ружовай пенкай, адламала кавалачак праснака.

— Сынок, гукні ідзі Марыну. А то крупеня прастыніць...

Андрэйка выбег на гарод, азірнуўся, шукаючы сястру, і ўбачыў яе каля яблынькі.

— Зірні, Андрэйка, якія ўжо яблыкі ладныя. Аж цэлых пяць штук,— у голасе Марыны ён пачуў весялейшыя ноткі, і ў яго адлягло на душы.

— Матка есці заве. Крупеня стыніць,— сказаў ён сястры.

Пра канверт пасаромеўся запытацца і пра верш таксама не заікнуўся. Неўзабаве ўвайшоў у хату бацька.

— От добра, Мацвейка. Якраз пад вячэру,— узрадавалася маці.— Думала, позна будзеце, забавіцеся... А дзе ж Васілёк?

— Каня пагнаў на канюшню. Нарабіліся мы сянні да ачмурэння. Рук не падняць... Васька, бедны, намарыўся...

Малы сын з любасцю і спагадаю зірнуў на бацьку, яму падалося, што бацькаў твар пацямнеў, яшчэ болей завастрыўся. Хлапчук ліў з конаўкі ваду ў бацькавы прыгаршчы, цёмныя ад смалы, з курганкамі зацвярдзелых мазалёў, і яму было сорамна за свой верш.

Сям'я канчала вячэраць — есці заўсёды імкнуліся разам, каб не лезці часта ў печ, чыгункі не адкрываць і посуду не займаць, бо елі ўсе з адной міскі,— калі дзверы адчыніліся, у хату ўвайшоў дзядзька Парфір. Як заўсёды, гучна павітаўся, зняў старэнькую кепку, прысеў на слончык ля печы, прыгладзіў яшчэ густыя, але ўжо з ніткамі сівізны, валасы.

— Ну як, Мацвей, зарабіў троху?

— Ат, не пытайся. Зарабіў як Хама на воўне: кажух абстрыг, а воўну не прадаў,— скупа ўсміхнуўся бацька.— Толькі намарыліся. А грошай тых кот наплакаў... Мо яшчэ адскочым калі. Прасілі людзі прыехаць. Работа ёсць... Трэба ж на падаткі наскрэбці...

— Ох, замучылі падаткі. А вучыцель жа наш... Друг усіх працоўных і кузнец усявобшчага шчасця,— дзядзька кіўнуў на вялікі партрэт Сталіна ў газеце на сцяне,— з немца плацяжы зменшыў. Ну, етыя рэпарацыі. А з нас усе сокі выціскае. Фрыцаў, гадаў, якія нішчылі, спапялілі ўсё, іх шкадуе. Дабрадзей, тваю маць... Помніш, Мацвей, як ён выступаў пасля вайны і дзякаваў рускаму народу за доўгацярпенне? — Бацька моўчкі хітнуў галавою, а дзядзька гаварыў далей: — У вайну цярпелі і цяперацька прымушае цярпець. Душыць падаткамі. Малака больш як дзвесце літраў здай, сорак кілаграмаў мяса і сотню яек аддай. Фунт воўны з гакам з кожнай авечкі... Калі б куры даіліся, усіх абклаў бы падаткамі... Усё б выціснуў...

— Дзеці во голыя, галодныя, а тут апошнія рублі плаці... Падаткі, пазыку. І дакуль ета будзе? — са злосцю сказаў бацька.

— Каб не падмагала Марына, яй-бо застаўся б ты без штаноў. Хіба ж у калгасе заробкі? — уздыхнула маці.

— Дзіва што, усё ж аддай, а сам зубы на паліцу... Чуў я, нібыта пасля вайны амерыканец даваў Сталіну пазыку. Ну, каб справіцца з нястачаю. А ён у адказ: «Мы самі з вусамі». Відаць, ужо тады рашыў: мужыка прыціснем, з яго ўсё можна выціснуць... І ціснe, душыць, каб ён сам задушыўся, нягоднік, тваю маць...

— Дзядзька, ты не лайся. Кажуць людзі, што каб не Сталін, дык мы б не перамаглі,— рашуча запярэчыла Марына, прыбіраючы посуд са стала.

— Дурань той, хто так гаворыць. Каб ён не пазнымаў камандзіраў нашых, у турму іх не пасадзіў, немец пабаяўся б і сунуцца да нас.

— Здымалі і ў турму садзілі ворагаў народа,— усхвалявана сказала Марына.

І Андрэйку таксама хацелася крыкнуць, што дзядзька гаворыць няпраўду. Хлапчук сеў на лаве каля Марыны, нібы хацеў абараніць яе ад папрокаў дзядзькі.

— Ага, ворагі,— крыва ўхмыльнуўся Парфір.— Рэвалюцыю рабілі. На грамадзянскай вайне кроў пралівалі. А тут раптам зрабіліся ворагамі народа. Ды якія людзі! Блюхер, Ягораў, Убарэвіч, Тухачэўскі, Якір... Цвет камсаставу... Мой камандзір палка...— дзядзька перасеў на лаву, бліжэй да бацькі і гаварыў нібы толькі яму.— Дык вось мой камандзір служыў з чалавекам, які ведаў Жукава. І вось хацелі Жукава арыштаваць. А ён, доўга не думаючы, шарах тэлеграму ў Маскву Сталіну. І Жукаў ацалеў, не зачапілі яго...

— Ну во, бачыце, Сталін ведаў, каго браць за шкірку,— пазяхаючы, сказаў Васька і крутнуўся за парог.

— Каб ён так жыў, як ён ведаў,— пачаў Парфір, але маці не дала яму дагаварыць.

— Хопіць табе, Пархвір, тут балабоніць. А то яшчэ і цябе возьмуць... Вунь, кажуць, адну бабу ў райвоне пасадзілі. На станцыі было. Сказала на суседку: ты маніш, як сталінскае радзіва... Дык і пасадзілі...

— А вот сама ерундовіну гародзіш,— не стрываў бацька.

— Прыдумалі бабы. Цяперацька ўжо не бяруць... Няма куды... План выканалі. Ёсць каму бясплатна лес валіць у Сібіры, чыгункі будаваць,— хіхікнуў дробненька Парфір, раптам, нібы спахапіўшыся, уздыхнуў: — Ну, і ўрэмечка, Мацвей, мы перажылі... Вось табе і бацька Сталін,— дзядзька тузануў злёгку малога пляменніка за бялявы віхор.

Андрэйка рэзка адхіснуўся. Яму хацелася плакаць, крычаць, што гэта няпраўда, што дзядзька ўсё выдумаў, вунь у газеце надрукавана чорным па белым: Сталін — наша сонца, шчасце, радасць. Як ён мог некага садзіць у турму, страляць? Толькі ворага. Але чаму ж тады бацька не запярэчыў дзядзьку Парфіру? І Марына прыціхла, нastрунена слухала. Каму ж тады верыць?

— Вось ты, Андрэйка, газеткі чытаеш,— гнуў сваю лінію дзядзька.— Пашукай на сцяне тую, дзе пра сесію Вярхоўнага Савета...

— Ёсць,— узрадаваны малы скокнуў на лаўку.— Вось ён сядзіць. Сталін.

— Ага, сядзіць. Ды дзе? — хітра ўхмыльнуўся дзядзька Парфір.— На саменькім апошнім радзе. У прэзідыуме. Адзін-адзінёшанек. Маўляў, гаманіце сабе, вырашайце. А як я скажу, так і будзець.

— Ну, чаму ўжо так? Ён жа саветуецца,— запярэчыў бацька.— Засядае ж етае Палітбюро.

— Толку з таго, што засядае. Акружыў сябе падпяваламі, лізаблюдамі. Летась было яму семдзесят гадоў. І ў газетках яшчэ дасюль ідзе паток прывітанняў. Паток ялею...

— Дык і мы ж летась пісалі,— бацька стомлена пазяхнуў, але цярпліва слухаў госця.

— Ну, мы з табой не пісалі. Нам чыталі напісанае. Ты ж помніш? Прыехалі з райвона, сабралі людзей. Прачыталі...

— Ета калі буран быў? — успомніла маці. Яна ўважліва слухала, а Марына цішком пайшла на вуліцу, мабыць, на Бесядзь мыцца.

Успомніў той дзень і Андрэйка. Калі сабраліся ў клубе ля кузні вяскоўцы, раптам усчалася навальніца, падхапіўся моцны вецер, град выбіў шыбіну ў акне, буран сарваў дах.

— Прымушаюць людзей тэлеграмы, пісьмы слаць. Ета ж учудзіцца, нібыта ўсім навыперадкі хочацца яму лізнуць у зад. Так разбэсцілі людзей,— сцішаным голасам сказаў дзядзька, быццам сам спалохаўся сваіх слоў.

— Няпраўда,— праз слёзы сказаў Андрэйка.— А хто Янку Купалу прымушаў? Паслухайце, што ён піша пра Сталіна,— хлапчук гучна і звонка, як на ўроку ў школе, дэкламаваў:

Як песня, жыве яго імя ў народзе,
У кожным здарэнні, у кожнай прыгодзе,
Ці майскае свята ў жывым карагодзе,
Ці свята Кастрычніка ў хаты прыходзіць,—
Як песня, жыве яго імя ў народзе...

— Во хто такі Сталін. А вы паклёп наводзіце,— крычаў Андрэйка.

— Чакай, чакай, хлопча. Адкуль ты ведаеш, што етага твайго Янку не паклікалі да начальства і не сказалі: «Нут-ка, таварыш дарагі, напішы вершык пра бацьку Сталіна...»

Малы нічога не адказаў, бо слёзы душылі яго. Маці ўзялася супакойваць сына, пераняла гаворку ў іншы бок:

— Вось ты кажаш, Пархвірачка, пра немцаў. А не ўсе ж яны ліхадзеі былі. Матку ж нашу вывелі з хаты і падушку пад галаву падклалі. А то б і згарэла ў хаце...

— Пашкадаваў воўк кабылу... Усё спляжылі, а старую вывелі. Памірай, баба, з голаду. Але, відаць, трапляліся і сярод іх людзі,— дзядзька злёгку штурхануў Мацвея пад локаць, бо той ужо засынаў.— Мархва мая расказвала. Прыйшоў немец: «Матка, яйкі!» Яна паказвае пусты кош. Ён гыркнуў на яе, пайшоў шукаць сам. Адчыняе хлеў. Там у кутку на скрыні было гняздо. І як на шчасце, адзін толькі поклад у ім. Немец паверыў, што няма болей яек. Убачыў у закутку ладнага кабанчыка і кажа: «Матка, пуф-пуф»,— бярэ ў рукі вілы. У Мархвы ўсё і абамлела: застрэліць ці віламі заколе кабана. А немец давай віламі ўздзіраць гной і выкладваць сценку. І так спрытна, хутка. Мабыць, вясковец. І зубы скаліць. Потым вілы ўбок, паказвае рукой, дакуль трэба выкласці сценку, тады «нікс пуф». Так і ацалеў кабан, а то б з'елі фрыцы.

— Відаць, камуніст быў,— падаў голас бацька.— Яны ж за Тэльмана галасавалі. Пяць мільёнаў тады галасавала за камуністаў...

Андрэйка не паверыў сваім вушам: немцы галасавалі за камуністаў.

— Тата, значыць, тыя немцы былі за Сталіна?

— Хто іх ведае. Свой быў кіраўнік у іх. Эрнст Тэльман. Ён з рабочых быў. Гітлер загнаў яго ў турму. Ета ж ён жывы ці не? — павярнуўся бацька да Парфіра.

— Прыкончыў Гітлер. Яшчэ ў вайну. Здаецца, у сорак чацвёртым.

Дзядзька не спяшаўся ісці дамоў, хоць і бачыў, што ў гаспадара ўжо вочы зліпаюцца. Мусіць, ён меў нейкі пільны інтэрас да Сахутаў, але не мог падабраць моманту, каб сказаць пра яго, а мо замінаў хлапчук.

— Сынок, сцямнее скора. Збегай палотны збяры,— сказала маці.

Гэтую работу Андрэйка любіў і адразу шуснуў за парог. Палотны ўранні адносіла на расу маці, і цэлы дзень яны ляжалі, выбельваліся пад сонцам на Градзі, на кургане. Палотнаў было багата: усе гаспадыні рассцілалі сваё тканнё, здаля здавалася, што курганы нібы спавітыя вялізнымі белымі стужкамі.

Андрэйка з падскокам памчаў у правулак. Ідучы міма Гылігоравай хаты, міжволі згадаў, як дзед Гылігор кіраваў плугам, а бацька, маці, суседзі, нават Васька цягнулі плуг. А потым падышоў дзядзька Парфір:

ён у той дзень вярнуўся дамоў з вайны, на ягоных плячах блішчалі золатам афіцэрскія пагоны. Сам ён быў гладка паголены, ад яго прыемна патыхала адэкалонам. Ён абдымаўся і цалаваўся з усімі, цмокнуў у шчаку і Андрэйку. «Памажы, браточак»,— папрасіла яго маці. Дзядзька нетаропка расшпіліў шырокі камандзірскі рэмень, са шкадобаю зірнуў на свае блішчастыя, як люстэрка, боты і ступіў на мяккую раллю, з якой тырчалі шматкі гною. Бліскучы лямеш плуга ўехаў у зямлю, Андрэйка з малымі грабелькамі ішоў услед за дзедам Гылігорам па свежай разоры і спіхваў шматкі гною ўніз, каб яны лепей прэлі ў зямлі, хутчэй аддавалі сваю жыццядайную ўрадлівую сілу.

На траву апала ўжо раса, унізе, ля кладкі, даволі густая і халодная. А на кургане шорсткая трава была яшчэ сухая. Андрэйка пазнаў здаля іхнія палотны: два даўжэйшыя і два карацейшыя, ды і на кожным чырванелася вышытая метка — літара «С», як серпік месяца. Хлапчук стаў наўколенцы і пачаў хуценька падцягваць да сябе палатно, складваць яго стосам-гармонікам. Верхні выбелены бок яшчэ трымаў сонечнае цяпло, а ніжні, рудавата-шэры, ужо настыў, прыпаў расою. Пахла палатно чаборам, палыном і яшчэ нейкімі кветкамі, якіх не ведаў Андрэйка. Ён склаў палотны ў два «гармонікі», ускінуў іх на плечы. Звычайна пераносіў іх за два рэйсы, а на гэты раз вырашыў забраць адразу і, падтрымліваючы іх рукамі, памалу пайшоў. Палотны былі цяжкія, на кладцы ён пахіснуўся і ледзь не ўпаў. Сэрца аж закалацілася: намачыў бы палотны ў ржавай балотнай вадзе — ля кладкі была лужына. Некалі Андрэйка і Коля каталіся тут па першым лядку, і малы шчабоўкнуўся ў ваду, намачыў новыя бурачкі.

— Лень табе схадзіць яшчэ раз. Дык напінаешся етак. Кілу нажывеш змалку, тады век будзеш мучыцца,— пачуўся хрыплаваты голас дзеда Гылігора, які сядзеў на лавачцы і курыў самакрутку.— Пакладзі адзін стус на лаўку. Аднясеш еты, прыбяжыш за другім. Я папільную...

— Яны няцяжкія,— задыхана вымавіў хлапчук, але ўсё ж паслухаўся, ды і плечукі ўжо замлелі ад цяжару, скінуў палотны з левага пляча.

Цяпер ісці было лягчэй, малы наддаў кроку, вольнай рукою намацаў за пазухаю матчыну працоўную кніжку з вершам пра Сталіна. Прынесеныя палотны

ён склаў у сенцах на старую скрыню і пабег па астатнія. Дзед па-ранейшаму курыў, паміж барадою і рудымі вусамі ледзь віднеўся недакурак, здавалася, што дым нараджаўся ў роце сам сабою. Дзед быў у валёнках, абутых у старыя бахілы, у выгаралых галіфэ невядомага колеру, на галаве цёмна-шэрая кепка з паламаным казырком.

— Ну во, паслухаўся мяне, старога, бачыш, як хутка злётаў. Ета ж толькі дурны, лянівы ды яшчэ завідны хапаюць багата, каб аж пуп трашчаў,— дзед выняў недакурак, трымаў яго ў карычнева-рудых пальцах з тоўстымі доўгімі пазногцямі.— Пасядзі пакамісь. Перадыхні троху. Бацька дома?

— Дома. Ён сянні ездзіў з Васькам у Саковічы. Калоды там пілавалі на дошкі.

— Дык ён там ціжбу грошай зарабіў? — дзед Гылігор пільна зірнуў на хлапчука, нібы прасіў сказаць яму праўду.— А то мне хоць бы траячку пазычыць у каго на махорку. Мая тыбака кончылася.

— Не ведаю, колькі ён зарабіў. Вы самі папытайцеся. А я ў вас хачу запытаць... У газетах усё пішуць пра Сталіна. Што ён — бацька і сонца... А вы, дзеду, любіце Сталіна?

— Сталіна? А што ён мне? — хмыкнуў дзед, падштурхнуў кепку на патыліцу, нахмурыў белы лоб, зморшчынкі-баразёнкі збегліся шчыльней.— Я з ім, пакамісь, дзяцей не ксціў, гарэлкі не піў... От каб ён падаткі адмяніў, тады б я яго палюбіў. А так няма за што, Андрэйка.

Хлапчук паклыпаў дадому, нёс палотны, зноў намацаў працоўную кніжку за пазухаю. Калі ўкладваўся спаць, то схаваў пад ватнік і свой верш.

Ноччу прысніўся Андрэйку сон. Укленчыў ён на кургане і складвае ў стос палатно. І раптам адчувае, што не пацягнуць палатно, нехта моцна яго трымае, быццам камень цяжкі зваліўся на яго. Зірнуў і аж здрыгануўся: нехта ў бліскучых хромавых ботах ідзе да яго па белым палатне, за ім цягнуцца чырвоныя сляды. Андрэйка падняў галаву і яшчэ болей спалохаўся: перад ім быў Сталін у малінавай фуражцы, белым кіцелі з жоўтымі пагонамі, у зубах дымілася люлька. Сталін выняў з рота люльку, пусціў клуб дыму, прыгладзіў вусы, рудыя, як у дзеда Гылігора: «Ты пазнаў мяне, таварыш Сахута?» — «Пазнаў, Іосіф Ві-

сарыёнавіч. Вы — наш бацька, мудры настаўнік і правадыр»,— Андрэйка падняўся і смела паглядзеў Сталіну прама ў вочы.

Сталін усміхнуўся, блікнулі яго дробныя, белыя і вострыя зубы, паклаў на плячо Андрэйку мяккую цяжкую руку: «Я чуў, што ты выдатнік. Гэта добра. Ведаю, што верш пра мяне напісаў. Ну, прачытай». Сталін сеў на палатно, зняў фуражку, дзвюма рукамі прыгладзіў густыя валасы, белыя, нібы абсыпаныя снегам. «Добра, я прачытаю. Толькі вы нікому не кажыце, што гэта я напісаў...» — «Чаму? — здзівіўся Сталін, нетаропка пастукаў люлькай аб падэшву бота, здзьмухнуў попел, што насыпаўся на палатно, пільна зірнуў на хлапчука.— Калі верш добры, дык няма чаго саромецца. Чатай, хлопча».

Гучна і звонка, нібы са сцэны калгаснага клуба, пачаў Андрэйка дэкламаваць свой верш. Ён убачыў, як да кургана з усіх бакоў ідуць людзі, але блізка да іх ніхто не падыходзіць: участковы Бравусаў у маліна-вай фуражцы, такой, як і ў Сталіна, стаіць з наганам і нікога не падпускае.

«Слухай, хлопчык, ты напісаў добры верш. Няўжо сам?» — прыжмурыўся Сталін, вочы яго быццам свідравалі хлапчука. «А хто ж? Сам. Во, мой почырк...»

Сталін узяў працоўную кніжку калгасніка, прачытаў верш, апошнія радкі нават уголас, па складах, нібы школьнік:

Як горны арол, ты лятаеш высока,
Як бацька наш родны, глядзіш ты далёка.
Вядзі, правадыр, нас да шчасця людскога,
Хай светлаю будзе для ўсіх нас дарога...

— ...Для ўсіх нас дарога,— ухмыльнуўся Сталін і раптам сказаў: — Ну, а зараз паглядзім, колькі працадзён у тваёй маці... Сэрца ў Андрэйкі закалацілася ад страху: а раптам правадыр скажа Бравусаву забраць маці ў турму... Сталін тым часам пагартаў кніжку, дробненька хіхікнуў, як дзядзька Парфір: «Многа працадзён у тваёй маткі... Гэта добра».

Андрэйка ўзрадаваўся, пасмялеў, хацеў сказаць, што гэтыя працадні — проста палачкі, за іх нічога не даюць, а падаткі — малако, мяса, яйкі, воўну — трэба здаваць, што ў яго, Андрэйкі, няма свыткаў, што ён даўно не еў хлеба і бульба ў іх скончылася, адно шчаўе

ды малако ядуць, а бацьку кожную вясну трасе цяцюха...

«Твой вершык мы надрукуем у «Пионерской правде». Папросім таварыша Ісакоўскага зрабіць пераклад... А можам і Твардоўскаму даручыць. Ён хоць сын кулацкі, а паэт хвацкі. Рыфмамі круціць умее... У маладыя гады і я пісаў вершы... Ну што ж, паэтаў трэба натхняць. Вось табе траячка на цукеркі,— Сталін выцягнуў з кішэні галіфэ з шырознымі чырвонымі лампасамі новенькую зеленаватую траячку і падаў Андрэйку.— І вось што, хлопча, бычка не пускай у калгасны луг. Гэта не чэсна. Піянеры так не робяць. А вось што напісаў у райком пра камуніста Сырадоева, гэта правільна... Шкада, не той час цяпер, а то загрымеў бы ён як міленькі...»

Раптам пачуўся гул матора, і падкаціла бліскучая зялёная «Пабеда», яна пераехала ўсімі чатырма коламі белыя палотны, на іх засталіся чорныя ўзорыстыя палосы, нібы шрамы на целе. «Што вы робіце!» — роспачна закрычаў Андрэйка, але Сталін заціснуў яму далонню рот і панёс да машыны. Андрэйка брыкаўся з усяе сілы, вырываўся. Краем вока ён згледзеў, як ад Гылігоравай хаты кінулася да іх маці ў доўгай белай кашулі, з распушчанымі валасамі. Яна бегла і крычала: «Што ты робіш, душагуб! Аддай маё дзіця!..»

І тут хлапчук прачнуўся — маці тармасіла яго за плячо:

— Уставай, сынок. Заспаў ты сянні. Бычка трэба выганяць. А чаго ты брыкаўся? Мо блохі кусалі?

— Не, не,— прамармытаў малы.— Я ўстаю, мама, устаю...

Ён сеў на бушлаце, працёр кулачкамі вочы і глядзеў на маці, нібы не пазнаваў яе, нібы не верыў, што ён у сваёй хаце.

— Што ты еткі напалоханы? — маці схілілася над ім, прыгладзіла яго ўскудлачаныя валасы.— Сон страшны сніўся?

Хлапчук моўчкі пахітаў галавою, зірнуў на акно, шыбіны якога заружавеліся, абвёў вачамі хату, пераканаўся нарэшце, што ён дома, што страшны бацька Сталін абыякава глядзіць на яго з парыжэлай ад сонца газеты. Маці ўжо ляпнула клямкай у сенцах, мабыць, пайшла па дровы. Андрэйка дастаў з-пад ватніка працоўную кніжку калгасніка, выдраў старонку

з вершам, скамячыў яе і хацеў бегчы за пуню, дзе была «шпакоўня», якую бацька збіў з аполкаў, але раптам нечага спалохаўся, зірнуў на партрэт на сцяне і аж скалануўся, хуценька разгладзіў вырваны аркушык, уклаў яго ў матчыну працоўную кніжку, засунуў яе назад пад ватнік, тады патэпаў да дзвярэй. Ля парога зноў паглядзеў на партрэт, і падалося хлапчуку, што Сталін усміхаецца ў вусы. Андрэйка шуснуў за парог і моцна зачыніў за сабою дзверы.

На вуліцы звонка і весела шчабяталі ластаўкі.

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, чэрвень 1950 г.*

*2. Па колькасці вучняў Савецкі Саюз займае 1-е месца ў свеце. У школах краіны вучацца 34 мільёны дзяцей, што ў 4 разы перавышае колькасць дзяцей, якія вучыліся ў дарэвалюцыйнай Расіі.*

*9. Берлін. Каментатар берлінскага радыё Карл Гас заявіў, што скідванне амерыканцамі з самалётаў каларадскага жука — адно з самых буйных злачынстваў пасляваеннага часу.*

*19. Нью-Йорк. Нацыянальны камітэт амерыканскай прафсаюзнай канферэнцыі ў абарону міру накіраваў Трумэну петыцыю, падпісаную 150 тысячамі амерыканцаў, якія патрабуюць міру і забароны атамнай зброі.*

*28. Мінск. У памяшканні тэатра імя Янкі Купалы адбыўся вечар, прысвечаны памяці народнага паэта рэспублікі Янкі Купалы. Вечар адкрыў паэт Аркадзь Куляшоў.*

## XIX

Неяк надвячоркам Андрэйка нёс дамоў палотны, толькі выйшаў з правулка на дарогу, як яго паклікаў Данька.

— Ты чуў, кіно сянні будзець? А пасля танцы.

— А якое кіно? — спытаў Андрэйка.

— Пра нейкую нявесту. Ці то багатая, ці то далёкая,— няпэўна адказаў сябар.— А танцы будуць да рання.

— Адкуль ты ведаеш?

— Мікола сказаў, што будуць танцы да ўпаду. Пакуль кароў на ранкі не пагоняць. Пойдзеш? Я ішоў да цябе. Дам кіншчыку два яйкі, дык ён нас абаіх пусціць,— Данька паказаў на два курганкі ў кішэні.

— Хадзем,— узрадаваўся Андрэйка.

Кіншчык паглядзеў яйкі на святло, пераканаўся, што свежакі, а не баўтуны, і пусціў хлопцаў у кіно. Закончыўся фільм позна, бо тры разы рвалася стужка, потым заглух рухавічок, які татахкаў на вуліцы. Пасля кіно сталага веку і самыя малыя хатыньчане на чале з Цімохам пайшлі дамоў. Большыя хлопцы хутка прыбралі ўслоны. Віцька прынёс вядро вады з Бесядзі, чэрпаў жменяю і ліў яе на падлогу. Дзяўчаты палыновымі венікамі змялі смецце.

Мікола сеў на ўслоне на сцэне, побач прымасціўся з бубнам Сямён-крамнік. Спачатку Мікола прабег пальцамі зверху ўніз па гузіках галасоў, быццам размінаў пальцы ці пераконваўся, што гармонік не страціў гук, затым паправіў на плячы рэмень, зручней усеўся, павярнуў чамусьці галаву набок: ці прыслухоўваўся да сваёй музыкі, ці каб дзяўчаты не сароменіся яго, выходзячы на круг, шырока расцягнуў мяхі «хромкі» і рэзнуў «страданіе». Сямён трасянуў бубен, які заліўся звонам, правёў адтапыраным вялікім пальцам па нацягнутай скуры — бубен азваўся яшчэ мацней і званчэй — і ўдарыў драўлянаю барабанкаю ў такт музыцы.

Дзяўчаты пайшлі на круг. І першай была Ксеня, малодшая дачка былога старасты Куцай-Гарнеца. Яна выйшла разам з Вольгаю. Танцоркі прыстоялі, чакаючы такту, і потым з дробным перастукам абцасаў закружыліся. Вольга была за «кавалера», але Ксеня, зграбная, ладная, паўнагрудая смуглявая цыцоха, з такім імпэтам выстуквала абцасамі сваіх просценькіх чаравікаў, што ўсе глядзелі на яе. Крокі чатыры танцоркі ішлі з прытопам, потым разы чатыры кружыліся, з прытопам спыняліся і зноў ішлі па крузе.

Пачалі хлопцы запрашаць дзяўчат, рабілі гэта проста, без цырымоній: бралі дзяўчыну за руку і вялі ў круг. Пасля танца дзяўчаты самі ішлі на сваё месца, а хлопцы сунуліся да парога. Мікола ўрэзаў «дасаду». Зноў Вольга і Ксеня першымі выйшлі на круг. Фігуры танца таксама былі нескладаныя, толькі тут кавалер

і барышня спачатку ішлі два крокі наперад, потым два крокі назад, мяняліся месцамі, кавалер паднімаў угору руку, барышня кружылася, а пасля гэтага кружыліся разам. Ксеня і цяпер выстуквала абцасамі «драбняка», спявала высокім чыстым голасам:

Ох, дасада, ты дасада,
Ты мяне сдасадзіла,
На чужую старану
Заўлётачку справадзіла...

— Во як стараецца,— шапнуў Данілка на вуха Андрэйку.— А вунь і ўхажор яе — кіншчык.

З вуліцы ўвайшоў кіншчык Сяргей, кучаравы, з паўкруглым дзявочым грабянцом у густых і яшчэ мокрых валасах — відаць, купаўся ў Бесядзі. Ксеня ўбачыла яго, і абцасікі яе застукалі з яшчэ большым імпэтам. У паводзінах Ксені быў свайго роду выклік: хай сабе мой бацька адбывае пакаранне, вы лічыце яго нямецкім прыслужнікам, але ж ён нікога не забіў, а я прыгожая і самая вясёлая. І гэта было сапраўды так. І ўсё ж хатыніцкія хлопцы да яе не заляцаліся. А вось кіншчык Сяргей упадабаў. Канечне, ён ведаў пра лёс яе бацькі, але ўстаяць не мог перад чарамі Ксені ды і разумеў, што ў ягонай вёсцы пра гэта дазнаюцца не скора.

Была свая «дасада» і ў Вольгі: хай сабе я ў дзеўках нагуляла дзіця, я ж невінавата, што мае хлопцы палеглі на вайне, а я ж зусім яшчэ маладая, прыгожая, і так хочацца мне любові... Да таго ж Вольга спадзявалася пабачыцца тут з Іванам. І пад яе белаю кофтаю ўздрыгвалі ў такт музыкі высокія поўныя грудзі, тахкала маладое гарачае сэрца, прагнае да кахання і шчасця.

Танцы былі ў разгары, калі ўвайшоў Бравусаў у фуражцы, як заўсёды насунутай на лоб, нібы ў вочы білі сонечныя промні, хаця ў клубе цьмяна свяціла адзінокая лямпа, што вісела на цвічку ля сцэны. Але прывычныя вочы вяскоўцаў бачылі ўсё, што трэба. Следам за Бравусавым ціха пераступіў парог Іван Сырадоеў, ён быў у форменных цёмна-зялёных фінагентаўскіх штанах і белай кашулі. Участковы і фінагент пакіравалі да сцэны. Бравусаў кіўнуў музыкам: Сямёна-крамніка ён добра ведаў, а з Міколам пазнаёміўся нядаўна, падсунуў фуражку вышэй на патыліцу, агледзеў залу. Мабыць, не ўбачыў нічога падазронага,

але і месца, каб прысесці, не знайшоў. На ўслонах сядзелі дзяўчаты і малыя хлапчукі.

— Чаму не спіцё, малышня? — павярнуўся ён да дзяцей.

— Яшчэ рана. Каровы на ранкі яшчэ не гналі,— адазваўся Данька і смела зірнуў на ўчастковага.

— Ну, басякі,— задаволена зарагатаў Бравусаў.— Пасуньцеся тады. Дайце сесці.

Хлапчукі дружна пацясніліся. Сямён перадаў бубен Віцьку, які даўно чакаў гэтага моманту, а сам скокнуў са сцэны да гасцей. Ён паважаў патрэбных людзей, а ўчастковы і фінагент былі якраз такімі людзьмі. Павдароўкаўся, пагаварыў з імі пра тое-сёе, пераканаўся, што фінагент і ўчастковы наважыліся весяліцца без чаркі, зірнуў на гадзіннік, успомніў, што яму пара ўжо дахаты.

— Ну што, браткі, маё звальненне скончылася. Толькі да дваццаці чатырох нуль-нуль дазваляе мая Мікітаўна...— Сямён усміхнуўся, бліснуў фіксаю, развітаўся і пайшоў на выхад.

Мікола тым часам зайграў кракавяк. Віцька па-заліхвацку малаціў барабанкаю ў бубен.

— Пойдзем, Іване, тупнем,— Бравусаў рашуча падняўся, падышоў да Вольгі і ўзяў яе за руку.

— Можа, хай пачынаюць, а то неяк боязна,— гуліва сказала Вольга, але руку сваю не адняла.

— А чаго баяцца? Я, апроч шчыкоткі, нічога не баюся,— рагатнуў Бравусаў і павёў Вольгу на круг.

Кіншчык Сяргей быццам таго і чакаў: адразу памкнуўся да Ксені. Тады падняўся і Сырадоеў, пакіраваў да дзяўчат, якія прыціхлай купкаю стаялі каля пабеленай грубкі. Яму насустрач падалася Валя, нібы баялася, што ён падыдзе да іншай дзяўчыны.

— Хадзі, Валюша, і мы крутанём...

Валя заружавелася, паправіла, падаткнула вышытую хусцінку, што выторквалася з-пад рызінкі кароткага рукава жоўтай кофты. Іван абняў яе за талію і павёў у круг. Мабыць, ніхто не згледзеў, як стрэльнула на іх вачамі Вольга з-за бліскучага пагона Бравусава: і боль, і горыч, і шкадаванне, і разуменне, што нічога не папішаш,— былі ў тым паглядзе. Усе дружна сыпанулі ў танец. У зале зрабілася цесна, тлумна, некаторыя, асабліва дзяўчаты-падлеткі, таўкліся ў сярэдзіне круга. Андрэйка ўбачыў сярод іх і цыбатую Нінку

Вароніну, і яму вельмі захацелася павучыцца танцаваць, але пра тое, каб выйсці ў круг, ён і думаць баяўся.

Скончыўся імклівы «кыркавяк» — так называлі танец у Хатынічах,— дзяўчаты дружна абмахваліся хусцінкамі, хлопцы пакіравалі на вуліцу, задымілі цыгаркамі.

— Мікола, сыграй-ка падыспанец,— крыкнуў Бравусаў.— Падыспанец — харошы танец,— участковы хвацка тупнуў нагою, зноў запрасіў Вольгу.

Аматараў падыспанца знайшлося не дужа багата: не ўсе ўмелі яго танцаваць, затое Бравусаў цешыўся ад душы, гэтак імкліва, спрытна круціў вакол сябе Вольгу, што яе спадніца задзіралася веерам, агаляючы белыя калені. Ды і Вольга скакала з гэтакім імпэтам, што здавалася, вось-вось вылузнецца са свайго адзення і яе спадніца птушкай выпырхне на волю, але танцорка час ад часу сарамліва стрымлівала рукою яе палёт. Пасля падыспанца Мікола трасянуў чубам і ўрэзаў польку. Бубнам завалодаў Васька, яго неахвотна перадаў яму Віцька, бо сам яшчэ не здаволіўся, сеў побач, нібы сумняваўся, што ў сябра атрымаецца добра, а калі не, то ён зноў падхопіць звонкі бубен. Але сумняваўся ён дарма: у Васькавых руках бубен грымеў і заліваўся звонам на ўсё наваколле.

Бравусаў зняў фуражку, выцер хусцінкай узмакрэлы белы лоб, азірнуўся і раптам падаў фуражку Андрэйку.

— Патрымай, хлопча, а то горача.

Сам зноў запрасіў Вольгу, тупнуў адной нагою, другою, хіснуўся з боку на бок і закружыў сваю «барышню», у той толькі мільгалі старэнькія, добра паношаныя танкеткі. Не адставаў ад яго і Сырадоеў, кружыў сваю Валю. Кіншчык Сяргей моцна абняў Ксеню і кружыў яе то ўправа, то ўлева. Іван Сырадоеў, разгарачаны, спатнелы, з расшпіленым каўняром кашулі, моцна тупнуў, крыкнуў:

— Полька злева! — адпусціў Валю, а сам павярнуўся, шырока раскінуў рукі, быццам лавіў у абдымкі Ксеню, якую неахвотна адпусціў, бы ад сэрца адарваў, Сяргей.

Мікола трохі прыцішыў тэмп, але як толькі дзяўчаты перайшлі да новых кавалераў, рэзнуў яшчэ шпарчэй. Тым часам Іван зноў закамандаваў «полька злева»,

і гэта паўтаралася некалькі разоў, пакуль не дайшло да сваіх дзяўчат, тых, з якімі выходзілі на танец.

Андрэйка трымаў фуражку, ад якой пахла потам і адэкалонам. Данька цішком выпрасіў у яго прымераць фуражку, яна накрыла яму лоб і вочы, толькі нос быў відзён, хлапчук прыклаў брудную далоньку да казырка: «Здравія жылаю!» Ён і рот не паспеў закрыць, як Паўлік сцягнуў фуражку з ягонай галавы, надзеў на свой абчыкрыжаны нажніцамі «качан». Андрэйка не даў яму доўга цешыцца: баяўся, каб не ўбачыў Бравусаў і не сварыўся на яго потым. Хлапчук трымаў у руках чырвоную міліцэйскую фуражку і згадаў свой сон пра Сталіна: той быў акурат у такой фуражцы і гэтаксама, як і Бравусаў, насоўваў яе нізка на лоб. Думкі хлапчука перапыніў гучны рып гармоніка: стомлены Мікола нарэшце звёў мяхі сваёй музыкі, быццам выдыхнуў усё паветра, зняў з пляча рэмень, паставіў свой пявучы інструмент на слонец і сігануў са сцэны. Васька і Віцька скокнулі за ім. Усе танцоры, і хлопцы і дзяўчаты, сыпанулі за парог.

— Ну, як тут, фуражку маю не ўкралі? — Бравусаў падзякаваў Андрэйку, паляпаў яго па плячы.— Пойдзеш на службу ў міліцыю?

— Вы пра ета ўжо ў нас пыталіся,— уставіў свае тры грошы Паўлік.

— Пытаўся? Калі? — здзівіўся ўчастковы.

— А ля Шамаўскага моста. Калі Куцай-Гарнеца забралі. Мы там гулялі,— удакладніў Данька.

— Ну, дык быў час абдумаць. Абмазгаваць ета дзела. Хвакцічаскі даўно было.— Бравусаў надзеў фуражку, падміргнуў хлапчукам.— Прыходзьце, як школу кончыце. І вучыцеся на пяцёркі. А то ні храна не прымем. Малаграматных у нас і так хапае...

Клуб апусцеў. Дзяўчаты, і першай сярод іх Ксеня, узяліся за венікі, пырскалі вадою з вядра, бо ў паветры слупам стаяў пыл, на падлозе шархацеў пясок.

Хлапчукі таксама пасунуліся на вуліцу.

Ноч была ціхая, зорная, над Бесяддзю плаваў густы бялёсы туман. Жаўтлявы месячык, падобны на літару «С», яшчэ нізка вісеў над лесам — была апошняя квадра. Дзесьці за ракою ў расянай траве «драпаў» драч, несціхана спявалі-крумкалі жабоцькі. І раптам над вёскай ударылі першыя пеўні.

— Маць тваю за нагу... Не ўгледзеў, як час праля-

цеў. Ноч на другі бок павярнулася. Хвакцічаскі, ранне скора. Трэба ехаць дахаты,— Бравусаў падышоў да воза. Конь ціха заржаў, задаволена фыркнуў, што зараз паедуць дамоў.— Ну што, Іване, сядай, падвязу.

— Не, Усцінавіч, мы сваім ходам...

— А калі вяселле? Не забудзь пазваць,— Бравусаў адвязаў каня, падабраў прывялую траву, якую не даеў конь, кінуў яе на воз.— Мікола, закругляйся, можа. Хвакцічаскі, позна ўжо... Глядзіце, каб усё было ў парадку...

— Усё нармальна. П'яных няма,— пачаў Мікола, але кіншчык Сяргей перапыніў яго:

— Цвярозых таксама...

— Ну, калі хто і выпіў, дык ета ты адзін. Думаеш, не бачу? — строга сказаў Бравусаў.

— Адзін не п'ю, Уладзімір Усцінавіч. Мы па грамульцы,— ухмыльнуўся Сяргей.

— Глядзі, хлопец, разап'ешся на сабачую пугу... Не будзе з цябе пуця... Малады яшчэ. Жыць трэба, дзяцей рабіць, а не ў чарку зазіраць... Ну, бывайце! — Бравусаў тузануў за лейцы, конік лёгка скрануў вазок.

Пасля перадыху танцы ўсчаліся з новым імпэтам.

Ніхто з хатыньчан не ведаў тады, што далёка за акіянам добра ўкормленыя і апранутыя мужчыны — былі сярод іх ваенныя і вучоныя-атамнікі,— абвялі кружочкамі Маскву, Мінск, Магілёў, іншыя буйныя гарады як мішэні для атамнай бамбардзіроўкі. Халодная вайна ўсё мацней сціскала ў жорсткіх абдымках круглую нашу планету, як цісне восенькі прымаразак храбусткі, сакаўны качан капусты, спыняючы яго далейшы рост і развіццё.

А хатыньчане весяліліся... Малыя хлапчукі чакалі з нецярпеннем, калі зайграе Мікола вальс, бо танцуюць яго з рознымі фігурамі і зацягваецца ён на паўгадзіны, а то і на цэлую гадзіну. Мелодыя вясковага вальса своеасаблівая, даволі аднастайная. Андрэйка яшчэ не ўмеў адрозніваць музыку ўсіх танцаў, напрыклад, «на рэчаньку» ці «дасады», а вальс пазнаваў адразу. І вось нарэшце Мікола трасянуў чубам, нешта сказаў Ваську, які, мабыць, надоўга завалодаў бубнам, потым нізка схіліў ацяжэлую, стомленую галаву на гармонік і ўпэўнена пачаў: ту-ба-ба-ту-ба... Доўгачаканы вясковы вальс.

Іван Сырадоеў запрасіў сваю Валю, пайшоў у круг,

за ім кіншчык з Ксеняй і ўсе астатнія. Пары кружыліся, зноў узняўся пыл, як туман. Іван моцна тупнуў.

— Вальс-прагулка! — узяў пад руку сваю «барышню» і пайшоў карцінна, хоць і ўразвалку, зрабіў круг, ля дзвярэй павярнуў да сцяны, што выходзіла к Бесядзі і мела два акны, ля сцэны спыніўся, усе пары выстраіліся ў адну лінію.— Стоп, каманда! Павярнуліся, усміхнуліся... А цяпер, к-кавалеры, пяць крокаў назад, шагам арш!

Хлопцы адступілі назад, Віцька збіўся і зрабіў шэсць крокаў, ледзь не наступіў на ногі малым, якія пачалі штурхаць яго ў спіну. Усе вакол заўсміхаліся, толькі Ганна Сырадоева, Іванава сястра, пачырванела, засаромелася за свайго кавалера, адкінула назад пышную касу, прыкусіла прыпухлыя чырвоныя вусны.

— Кавалер злева, барышня справа — вальс! — крыкнуў Іван.

Ад канца кавалерскай шарэнгі выйшаў хлопец, а з дамскага гурту дзяўчына. Іван счакаў, пакуль яны зрабілі два кругі, крыкнуў: «Наступная пара!» Калі ўсе пары прайшлі, ён скамандаваў:

— Вальс-турнік! Тры кавалеры злева...

Выйшлі на круг тры хлопцы. Двое паклалі адзін аднаму рукі на плечы, а трэці павінен перакульнуцца, бы на турніку. Потым партнёры мяняліся, пакуль кожны з іх не даказваў свой спрыт. А тады запрашалі на танец сваіх дзяўчат. Кіншчык Сяргей імклівым рыўком спрытна кульнуўся, аж з кішэні выслізнуў кавалачак тоўстага шкла — ягонае люстэрка, з валасоў выпаў грабянец, пружыніста падскочыў да дзявочай шарэнгі. Вольга падняла яго.

— Сярога, навошта табе такі грабянец? Даў бы мне,— пацвельвала яна.

— Мне самому ўхажоркі падарылі. А даванага не даюць,— ухмыльнуўся кіншчык, ладкуючы грабянец у свае спатнелыя кудры.

Больш не пашанцавала Віцьку: зачапіўся нагою за галаву хлопца і пад рогат усіх адваліўся назад, не пераадолеўшы «турнік».

— За штаны яго лавіце! — крыкнуў нехта ад парога.

Зноў выбухнуў рогат, зноў Ганна кусала вусны: шкада ёй было свайго нехлямяжага кавалера. Стрымана пасміхаўся і Паўлік, у душы саромеючыся за брата.

Не смяялася і Вольга, зірнуўшы на Ганну, хоць і парадавалася, што тая гэтак перажывае: у душы яна хацела, каб Віцька і Ганка ажаніліся, тады б і яна парадніласся з Іванам хоць такім чынам. Віцька зноў падкінуў ногі, хлопцы падхапілі яго за шырокія штаніны-калашыны і перакінулі цераз «турнік». Спрытней за ўсіх аказаўся Іван: адштурнуўся ад падлогі, падцягнуўся на руках — і толькі боты мільганулі. Андрэйка пазайздросціў яму, а Данька нібы ўгадаў ягоныя думкі, бо сказаў:

— Івана ў арміі наўчылі. Ён казаў, што дайжа сонца круціў на турніку.

— Якое сонца? — не зразумеў Паўлік.

— Якое? Што на гародзе расце,— хмыкнуў Данька, а потым дадаў: — Круг рабіў на турніку. Бо сонца ж круглае. Паглядзіце, на вуліцы ўжо святлее. Дзень скора. Пайшлі зірнём...

— Не, сычас вальс-кабыла будзе,— не пагадзіўся Паўлік.

Хлапчукі засталіся на месцы, бо вальс-кабыла іх вельмі цікавіў. Тым часам усе кавалеры даказалі, што яны спрытныя, куляцца ўмеюць. Іван закамандаваў: «Вальс-кабыла! Два кавалеры злева!»

Выйшлі два хлопцы. Адзін стаў, угнуў галаву, другі пераскочыў цераз яго і таксама стаў, прыгнуўся, чакаў, пакуль партнёр пераскочыць. Потым абодва запрасілі дзяўчат, кружыліся, але нядоўга, Іван вёў рэй далей: «Два кавалеры злева...» Калі ўсе хлопцы адолелі «кабылу», Іван аб'явіў вальс са сваімі, затым праходку, зноў пастроіў у шарэнгі.

— Цяпер будзе вальс-сярнічка. Хлопцы з дзеўкамі пачнуць цалавацца,— сказаў Паўлік сябрам, калі яны зноў вярнуліся на свае месцы, бо на вуліцы было зябка, ад Бесядзі цягнула холадам.

Але Паўлік не ўгадаў: Мікола аб'явіў вальс-ластаўку. Што тут рабілася! На круг выходзіла дзяўчына, яе абступалі з усіх бакоў хлопцы. Яна кідала ўгору хусцінку, і хто з хлопцаў паспяваў злавіць, той і запрашаў яе на танец. Кіншчык Сяргей быў тут самым спрытным: болей за ўсіх злавіў ён «ластавак».

Іван дужа не кідаўся лавіць хусцінкі і нават за Вольгіну не змагаўся — Мішка-матарыст сваю «барышню» не ўпусціў. Вельмі хацелася Івану падскочыць вышэй за ўсіх, схапіць белы цёплы камячок, які пахне

рамонкамі, кветкавым адэкалонам, вадою з Бесядзі — так пахлі Вольгіны валасы,— потым абняць моцна за талію разгарачаную маладую жанчыну і кружыць, кружыць яе ў бясконцым танцы. Але напроці стаяла і ўкрадкаю пазірала на яго танклявая дзяўчына ў жоўтай кофце, нібы сарамлівая і сціплая вяргіня ў палісадніку. Яе хусцінку Іван нікому не ўступіў: амаль што выpваў з Сяргеевых пальцаў. Віцьку і тут не пашанцавала, але яго выручыў Іван — злавіў хусцінку сваёй сястры, потым быццам незнарок ураніў яе прама на Віцьку, і той маху не даў.

Нарэшце Іван дастаў з кішэні карабок запалак, абʼявіў:

— Вальс-сярнічка! Барышня злева, кавалер — справа...— разламаў напалам сярнічку і падаў дзяўчыне.

— Разламай яшчэ напалам! — крыкнуў кіншчык.

Вакол пачуўся рогат, бо чым карацейшая сярнічка,— а яе трэба дастаць з вуснаў дзяўчыны,— тым мацней можна пацалавацца.

— Калі дзеўка захоча, дык зубамі перакусіць,— рагатнула Вольга, з дакорам зірнула на Івана: маўляў, што ж ты баішся нават падысці да мяне.

Малыя з асаблівую ўвагаю глядзелі, як хлопцы дастаюць сярнічкі. Сяргей-кіншчык зрабіў гэта спрытна, а потым зноў абняў Ксеню:

— А цяпер хай яна дастане...

— Адставіць! Ета вы зробіце ў другім месцы... Наступная пара! — няўхільна вёў рэй Іван.

Андрэйку падумалася: калі б ён быў дарослы, то запрасіў бы на танец Вольгу, асабліва на вальс-сярнічку... Ён пачаў думаць пра яе пасля таго, як летась стагавалі сена, калі яна апошняй спускалася са стога і крыкнула: «Адвярніцеся, малыя, а то схватаграхвірую...» Неяк неўзабаве пасля таго ён сядзеў ля Бесядзі і чытаў. Убачыў на тым беразе Вольгу, якая несла кош грыбоў. Яна агледзелася — Андрэйку хавалі кусты алешніку, ды і нізкае сонца біла ёй у вочы — нікога не ўбачыла, задрала падол і ступіла ў раку. Малы сцішыўся і, чырванеючы ад сораму, глядзеў. Вада ў рацэ пасля дажджоў прыбыла, і Вользе давялося высока падняць спадніцу і крыссё старэнькага мужчынскага пінжака. Вышэй каленяў ногі ў яе былі надзвычай белыя і тоўстыя... Яна перайшла раку, паставіла кош на

пясок, узялася мыць ногі. Андрэйка ціхутка адпоўз далей, потым падняўся і пабег. Ён бег і чуў, як тахкае ў грудзях сэрца...

І цяпер ён разумеў Віцьку, калі той пачырванеў як вараны рак, стоячы напроці Ганны, баючыся і саромеючыся нахіліцца і выцягнуць з яе вуснаў сярнічку. Віцька стаў так, каб загарадзіць святло лямпы, якая ўжо слаба свяціла, затое ў вокны ўжо біла магутнае зарыва ранішняй зары.

— Тушы лямпу! Карасін кончыўся,— кіншчык пад рогат залы патушыў лямпу, чырвоны кнот задыміўся, бы цыгарка.

Сяк-так Віцька дастаў сярнічку. Хлапчукі нарагаталіся. Андрэйка пашукаў вачамі Нінку Вароніну і не знайшоў — мабыць, пабегла ўжо дадому. А пад канец танцаў на сярэдзіну круга выходзілі і малыя — вучыліся танцаваць.

«Хутчэй бы вырасці, навучыцца скакаць,— думаў Андрэйка.— І чаму Васька не танцуе? Відаць, саромеецца. Бо і я ні разу не выходзіў на круг. А Паўлік з Данькам ужо спрабавалі скакаць, калі канчалася вечарынка. Але сёння да канца яшчэ далёка, бо Іван аб'явіў: «Капрыз кавалера! Барышня справа, кавалер злева...»

З канца кавалерскай шарэнгі — гэта значыць злева, выйшаў хлопец, з пачатку дзявочай выйшла на круг барышня.

— Ета да ўсходу сонца,— пазяхнуў Паўлік.— Мо пойдзем ужо дамоў?

Але сябрукі яго не падтрымалі: хацелася хоць раз пабыць у клубе да канца вечарынкі.

А капрыз быў такі: хлопец выходзіў на круг, набліжалася дзяўчына, калі ён тупаў нагою і адварочваўся, яна ішла на сваё месца, выходзіла яе суседка. Кожны хлопец меў магчымасць станцаваць з той, якая яму падабаецца. Калі дайшла чарга Івана праявіць свой «капрыз», да яго першай выйшла Вольга. Ён быццам забыў пра ўсё на свеце: і на «капрыз», і на ўхажорку, што, як сланечнік, жаўцела між дзяўчат, неяк нерашуча, асцярожна ўзяў Вольгу за талію і пачаў вальсіраваць. Ён стараўся надаць твару абыякавы выраз, маўляў, мне ўсё роўна з кім танцаваць, абы час доўга не бавіць. Вольга моцна сціснула яго далонь, ціха шапнула: «Прыйдзі заўтра...» Пачуўшы гэтыя сло-

вы, ён адразу спыніўся і гучна скамандаваў: «Капрыз барышні», быццам хацеў заглушыць у сабе пачутыя словы ці баяўся, што нехта яшчэ пачуў рэха таямнічага шэпту. Ён нікога не бачыў, Вольгін твар нібы плыў перад вачамі, затое выразна бачыўся той туманны вечар і адчуваў цёплую, пяшчотную ваду Бесядзі.

Цяпер ужо дзяўчына выбірала, каго яна хоча, астатнім хлопцам тупала нагой. Ксеня Куцаёва рабіла гэта карцінна: стаяла рукі ў бокі, грукала абцасам, нібы заганяла ў маснічыну цвік, і адварочвалася. Віцька, пакрыўджаны, тупнуў ёй у адказ, перадражніў, як рабіла яна. І Вольга ўсім адмаўляла, пакуль не выйшаў Іван, і яна памкнулася да яго. Мікола зайграў весялей, падміргнуў Ваську, і той мацней забухаў у бубен, хоць і не ведаў таго, што дайшло да вушэй гарманіста. Вулька Сырадоева прагаварылася Хадоры: сын хоча жаніцца з Вольгаю, а яна, Вулька, сказала наадрэз: нагі етай распусніцы не будзе ў маёй хаце. А Хадора, ведама жанчына, прагаварылася пра гэта сыну Міколу. Праўда, той нікому не сказаў, але тут не стрымаўся і паказаў сваю сімпатыю да гэтай пары. Іван адчуў няёмкасць моманту, а тут яшчэ Вольга зноў шапнула: «Прыйдзеш?» Ён кіўнуў, падняў угору правую руку, пакружыў «барышню» разы тры пад руку і крыкнуў: «Наступная барышня».

Неўзабаве дайшла чарга паказаць свой капрыз Валі. Панурая, быццам абыякавая да ўсяго, што тут адбываецца, выйшла яна на круг, ціха, сарамліва тупала старэнькімі боцікамі, нібы баялася, што яны разваляцца, пакуль не падышоў Іван. Яна падняла галаву, смела зірнула яму ў твар, моцна тупнула нагой і адвярнулася. Іван ад нечаканасці аслупянеў, але тут жа спахапіўся і з робленай, вымучанай усмешкаю пайшоў на сваё месца. Валя выбрала кіншчыка Сяргея, прыхінулася да яго ў танцы. Іван доўга не даваў каманды, маўляў, хай нацешацца, але Ксеня не вытрымала:

— Камандзір, заснуў? Ці голас адняло?

— Капрыз гарманіста! Кавалер злева, барышня справа...

Цяпер надышоў час выявіць свае сімпатыі Міколу. На круг да хлопца выходзіла дзяўчына, як толькі яны пачыналі танец, музыка абрывалася, дзяўчына ішла на месца. Мікола недалюбліваў Ксеню і таму не даў ёй патанцаваць з Сяргеем,— перастаў іграць, Куцаіха, як

дражнілі Ксеню, неахвотна выйшла з круга. Сваю Клаву звёў з Віцькам: да яго не раўнаваў. Гарманіст праявіў свой капрыз поўнасцю: звёў Івана з Вольгаю, Сяргея з Валяй.

Але на гэтым капрызы не скончыліся: быў яшчэ ў запасе капрыз барабаншчыка. Цяпер усё залежала ад Ваські, ён дыктаваў сваю волю і пастараўся звесці Івана з Валяй, а Ксені не даў паскакаць з Сяргеем, звёў таго з Клаваю. Праўда, гэта не спадабалася Міколу, іграў ён вяла, без імпэту. Гэта адчуў Іван і закамандаваў:

— Вальс са сваімі!..

Між тым на дварэ развіднела. Неба за Бесяддзю, над Бабінай гарой набрыняла чырванню, зоркі быццам расталі, туман падняўся вышэй, нібы рос як на дражджах. Вечарынка канчалася. На развітанне Мікола ўрэзаў польку. У сярэдзіне круга таўклася дзятва. Данька кружыўся з Паўлікам. Андрэйка з імі не пайшоў. Вось каб Нінка дачакалася апошняга танца... Але ў душы жыло сумненне, што і з ёй ён пайшоў бы скакаць — не адважыўся б.

Вярталіся хлапчукі дамоў, калі ўжо было зусім відна. Астылы за ноч прыдарожны пясок, вільготны ад расы, наліпаў да босых ног. І хоць ноч прайшла без сну, стомы Андрэйка не адчуваў, час прамільгнуў хутка, ён і не заўважыў. І ўсё ж калі згадаў, як нёс учора палотны і яго сустрэў Данька, сказаў пра кіно, падалося, што было гэта даўно. Пачаўся новы дзень, а яны, хлапчукі, яшчэ не клаліся спаць. Насустрач ішоў дзед Гылігор з доўгаю пугаю, якая вісела на плячы, а канец яе, што вужака, цягнуўся па пяску. Услед за дзедам ішлі Хадора і Манька.

— Зірніце, Гылігор ужо ідзе кароў выганяць,— сказаў Данька і соладка пазяхнуў.

Андрэйка адчуў, што і ягоны рот сам сабою разяўляецца. Здзіўлены Гылігор строга спытаў:

— Мальцы, дзе ета вы былі?

— На танцы, дзед, хадзілі,— весела, з гонарам адказаў Паўлік.

— Якія ж танцы да рання? Каб вас пранцы з вашымі танцамі,— забурчаў дзед.— Ета ж цалюткую ноч бадзяцца. І хто вас пускае?

— А мы самі з вусамі,— хіхікнуў Данька і наддаў ходу, нібы баяўся дзедавай пугі.— Давайце крыкнем

каму: «Выганяй кароў!» Дзядзьку Пархвіру. Хай Мархва падзівіцца.

Хлапчукі якраз ішлі міма хаты прадагента Парфіра Драздова. Данька пастукаў у вароты, гучна крыкнуў:

— Цётка Мархва! Гані карову!

Малыя рызыканты схаваліся за суседняй хатай. Неўзабаве зарыпелі вароты, высунулася заспаная Марфа ў куфайцы, венікам-гальнём выганяла сваю рагулю.

— А дзе ж каровы? Няма нікога,— разгублена азіралася яна.

Дзяўчаты і хлопцы ішлі з клуба, зарагаталі:

— Нехта пашуткаваў. Дзед Гылігор і Хадора пайшлі выганяць...

Усё гэта чулі хлапчукі і цешыліся сваім жартам. Але час быў разыходзіцца. Андрэйка ціхутка адчыніў веснічкі, затым дзверы ў сенцы, па лесвіцы ўскараскаўся на гару — спаў ён з Васькам на хаце, на сене, засланым саматканаю дзяружкаю,— памацаў рукою ў цемры: брата яшчэ не было. На вуліцы пачуўся хрыплаваты голас дзеда Гылігора: «Каця, гані карову!»

Рыпнулі дзверы з хаты. Па шоргаце босых ног Андрэйка здагадаўся, што ўстала маці.

— Ідзі, Красуля! Разлеглася, ваўкарэзіна,— маці выганяла карову на падворак, зачыніла за ёй вароты, каб не выскачылі куры. Карова сцішана зарыкала, затым пачулася характэрнае хлюпанне: плясь-плясь-плясь.

— Ну во, налажыла. У хляве ты не магла, ваўкарэзіна. Ідзі да кароў! — сярдзіта крыкнула маці.

У гэты час адчыніліся дзверы ў сенцы з гародчыка, і на гарышча ўскараскаўся Васька, у цемры наваліўся на Андрэйкавы ногі.

— Пяхцер, што ты на ногі ўспёрся?

— Ціха, Жэўжык, матка ідзе...

У сенцах зноў затупала маці. Браты стаіліся. «Добра, што бычка ўжо здалі ў калгас»,— падумаў Андрэйка і нібы праваліўся ў прадонне моцнага сну.

## XX

Лета павярнулася на другі бок. Даспявала збажына, жыта пабялела ўжо на ўзгорках, на Градзі вырасціліся духмяныя стагі сена, любоўна абгладжаныя, за-

вершаныя адказным за стагоўку Мацвеем Сахутам. Наліваліся сакаўныя яблыкі ў калгасным садзе, які пасадзілі перад вайною.

Ясным ліпеньскім ранкам Макар Казакевіч аб'язджаў палі свайго калгаса. Ранішні нарад ён адмяніў, бо ўчора позна засядала праўленне, засядала ў такім складзе апошні раз. На сёння прызначаны агульны сход хатыньчан, жыхароў пасёлка Казельскі і вёскі Вішні. З раёна прыедзе сам Акапян, учора ён званіў па тэлефоне, пацікавіўся, як ідзе сенакос, як расце збажына, а потым адразу ў лоб:

— Ну што, душа любезны, гатовы ўзяць на плечы большую ношку?

— Хто яго ведае? Як людзі скажуць? Мо каго захочуць маладзейшага...— няпэўна пачаў Казакевіч.

— Не, душа любезны, нам патрэбна ясная пазіцыя. Партыйная пазіцыя. А хто што скажа, хто каго пажадае — нас мала цікавіць... У цябе быў час усё абмазгаваць. Я думаю, што справішся. Будзе моцны калгас. Перадавы... Адступаць позна, душа любезны. На які час прызначылі сход?

— Прызначылі на пяць гадзін. К шасці збяруцца. Пакуль гаспадарку даглядаць, кароў даіць, можна нагаварыцца...

— Я прыеду раней. Пакажаш свае ўладанні.

І вось цяпер Макар Казакевіч ехаў па нешырокай палявой дарозе, збоч якой густа раслі рамонкі, далей з радкаватага жыта выглядвалі фіялетава-сінія вочы васількоў. На густой, як воўна, мураве, на вострых пажаўцелых лістках жыта серабрылася раса. Сонца яшчэ невысока ўскацілася на мутнавата-бялёсы купал неба, але пачынала ўжо прыпякаць. Спявалі жаўрукі, хоць і не так галасіста і звонка, як вясною ці на пачатку лета: стаміліся, наспяваліся. Ужо даўно заціхла зязюля, не спявае за Бесяддзю салоўка, і драч ужо не дзярэ асаку вечарамі, і жабоцькі прыціхлі. А жаўрукі спявалі. Мабыць, маладое пакаленне, сёлетняе, славіла жыццё, радавалася сваім птушанятам... На дварэ стаяла другая палова ліпеня, скора Ілля, які наробіць гнілля, а там і восень. Аціхае прырода, нібы вучыцца маўчаць, бо наперадзе зіма.

Мабыць, і чалавек ціхшэе, калі яму паўсотня ўжо блізка, падумаў Казакевіч і не паверыў самому сабе, што праз год яму стукне пяцьдзесят. Дзіўна, ці так даў-

но ламаў галаву: уступаць ці не ўступаць у калгас, ці даўно адчыкрыжылі вышэй калена нагу, і потым бяссоннымі начамі ў шпіталі думаў: як жыць далей, як сям'ю карміць, гаспадарку весці, бо за плугам яму ўжо не хадзіць, ды і касец ён ужо не той... Ці даўно быў марозны зімовы вечар, калі яго выбралі старшынёю калгаса. Акапян і тады праводзіў сход. Ці даўно? А прамільгнула больш як пяць гадоў... І ўвогуле, калі добра падумаць, дык шмат пражыта ўжо, нават і стаміўся жыць, змагацца... Хоць бы калі пасядзеў з вудаю на Бесядзі, дык не — усё няма часу. А цяпер як далучаць яшчэ дзве вёскі, тры брыгады, гэтулькі зямлі. Намнога паболее клопату.

Макар уз'ехаў на гару Маяк, унізе паўз Бесядзь раскінуліся Хатынічы, далей праваруч віднеліся прысады, стрэхі парцюкоўскіх хат. Павярнуўся назад: за Бярозавым балотам цямнеліся купчастыя вербы, якія атулялі Казельскі пасёлак, сваёю вуліцаю пасёлак упіраўся ў саковіцкі бальшак. А прама за дарогаю бяleліся хаты вішаньцаў, вялікай вёскі, што, як і Хатынічы, цягнулася з усходу на захад вярсты на дзве.

Конь прагна скуб расяную мураву, а Макар сцішана сядзеў на возе, азіраўся па баках, нібы з нечым развітваўся, нібы занава прыглядваўся да роднага наваколля. Прыгадаў, што ў Вішнях яшчэ жыве радня па матчынай лініі, чуў, што ёсць там некалькі сем'яў баптыстаў: калісьці пераехалі аднекуль і прыжыліся ў гэтай глушэчы. Ведаў і тамашняга старшыню Змітрака Раўнягіна, амаль на дваццаць гадоў за яго маладзейшага, з невялікай адукацыяй — сямігодкі Змітрок не адолеў, а вось наконт чаркі быў спец, пра гэта неяк пісала і раённая газета. Гэта яго меў на ўвазе Макар, калі намякаў Акапяну пра маладзейшага старшыню. Сакратар райкома, мабыць, зразумеў гэты намёк і таму сказаў, што Раўнягіна трэба пакінуць брыгадзірам, калі яго прыструніць, то ўсё будзе ў парадку...

Сонца паднялося вышэй, пачало мацней прыпякаць. Макар Казакевіч выцягнуў з кішэні круглы гадзіннік на бліскучым ланцужку — была дзесятая гадзіна, успомніў, што нічога яшчэ не еў, жонка прасіла дужа не забаўляцца. Ён пацягнуў за лейцы і паехаў у кірунку Казельскага пасёлка, там паверне ўлева і трапіць у Хатынічы.

Акапян, як і абяцаў, прыехаў задоўга да пачатку сходу. Быў ён у белым парусінавым кіцелі, у галіфэ колеру хакі і ў нязменных хромавых ботах. На смуглявым твары тапырыліся кароткія цёмныя вусы. Хударлявы, падцягнуты, жылісты, увесь напяты, нібы спружына, Акапян моцна пацісну Макараву руку, паляпаў па плячы:

— Харашо выглядаеш, душа любезны. А то расплакаўся: стары, нямоглы... Арол! Будзеш старшынёй узбуйненага калгаса імя таварыша Хрушчова. Параілі з вобласці прысвоіць яго імя. Не пярэчыш, душа любезны? А то няма ў раёне калгаса імя Хрушчова. Непарадак.

— Ды не. Чаго тут пярэчыць? Шчасце сына ці дачкі не ад імя залежыць. А што адзіны ў раёне, то добра... Меней блытаніны. Імя Сталіна маюць пяць калгасаў. Толькі сельсаветы розныя...

— Цяпер будзе адзін. Імя Леніна таксама адзін... Ну што, душа любезны, давай-ка падскочым у твае новыя вёскі. Пагамонім там з народам, з былымі старшынямі,— усміхнуўся Акапян, нібы яго радавала, што тыя людзі ўжо не будуць кіраўнікамі, але, мабыць, адчуў няёмкасць за сваю ўсмешку і сур'ёзна дадаў: — Можа, у Вішнях адну брыгаду зрабіць? І даручыць Раўнягіну, а, душа любезны, як мысліш? Дысцыплінку ён будзе трымаць.

Казакевіч не спяшаўся нічога адказаць, ды і няпростае было пытанне: даверыць Раўнягіну ўсю вёску, значыць, пакінуць яго, лічы, поўным гаспадаром, усе людзі нават мацней, без пасрэднікаў брыгадзіраў, будуць залежаць ад яго.

— Вялікая дужа будзе брыгада. Распаўзецца, як воз няўвязаны. У Хатынічах дзве брыгады. Дык яно лаўчэй гаспадарыць...

Акапян нахмурыўся — не любіў, калі яму пярэчылі, але памаўчаў, вырашыў уступіць і міралюбна сказаў:

— Ну што ж, няхай будзе дзве. А там пабачым... Паехалі?

«Пабеда» порстка ўзяла з месца, нібы застаялы стаеннік. Акапян пільна аглядаўся па баках. Дарога ішла паўз сад, на яблынях, нібы снегіры, чырванеліся ўжо ладныя яблыкі.

— О, глядзі, яблыкі ўжо зачырванеліся. Добры

ўраджай будзе. Тармазні-ка,— скамандаваў ён шафёру, выйшаў з машыны. За ім выкуліўся і Казакевіч.— У цябе, відаць, сонца болей, душа любезны? Такіх яблыкаў нідзе ў раёне не бачыў.— Акапян сарваў крамяны чырванабокі яблык, з хрумстам надкусіў: — Ужо саладкаваты, хоць і цвёрды. Люблю зяляніну ўсялякую. Мабыць, ад бацькі ў генах закладзена...

— Ета цітаўка. Добры сорт. Скора паспее. А белы наліў яшчэ скарэй будзе гатовы,— задаволены Казакевіч паказаў мыліцаю на высокую яблыню, усыпаную васкова-жоўтымі яблыкамі.

Госць абцёр хусцінкаю яблык белага наліву, таксама захрумстаў, пахваліў, што дужа смачны, аж у роце растае. І такі духмяны!

Надзіва смачныя яблыкі раслі ў пасляваенныя гады ў Прыбяседдзі! Ніякай табе хіміі, не было яшчэ кіслотных дажджоў, пчолы шчыра апылялі сады ўвесну, ветрык, настоены на лугавых красках, на аіры і чаромусе-калакалушы, на смале-жывіцы, пяшчотна абвяваў завязь, сонца ласкава грэла, спяліла чырванабокія пестуны.

Колькі радасці давалі галоднай дзятве саладкавыя «рэпачкі», кіславата-салодкія цітаўкі, духмяныя восеньскія антонаўкі! Сын сонечнай Арменіі Акапян паспеў ацаніць смак тутэйшай садавіны, любіў яблыкі ягоны сын і асабліва дачушка-пястуха, якая нарадзілася ўжо ў Лабанаўцы.

— Слухай, Макар Тарасавіч, як бы купіць у вас яблык? Малая дачушка мая вельмі любіць іх. А на рынку яшчэ пуста. Мне б кілаграмаў паўсотні...

— Зробім, Сяргей Хачатуравіч. Днямі буду ў раёне, завязу. Даставім на кватэру. Грошы потым,— запэўніў Казакевіч.— Нам іх няма куды дзяваць етыя яблыкі...

Сход пачаўся а шостай гадзіне. Людзей сабралася багата, у клубе ўсім не хапіла месца. Вырашылі праводзіць на вуліцы, вынеслі стол, накрылі яго сацінавым чырвоным абрусам, павыносілі доўгія ўслоны, дзяды і бабулі паселі на іх, дзятва і мужчыны размясціліся прама на траве, балазе дзень быў гарачы, спякотны. К вечару гарачыня апала, ад Бесядзі павяваў свежы вільготны ветрык.

Акапян выступіў з прамоваю, тэкст быў напісаны, але ён заглядаў у яго рэдка, бо ведаў усё на памяць: не першы раз выступаў, зачытваў толькі цытаты, якіх бы-

ло небагата. Першым чынам імкнуўся паказаць перавагі буйной гаспадаркі: можна лепей выкарыстоўваць новую тэхніку, будаваць вялікія фермы, мець спецыялістаў. Сказаў і пра электрастанцыю, якую можна пабудаваць на Бесядзі, тады ў хатах засвецяцца лямпачкі Ільіча, а пакуль што ў калгасе вельмі малы непадзельны фонд.

— Таварыш Сталін вучыць,— надаў голасу большай урачыстасці Акапян,— што калгасы могуць паказаць цуды гаспадарчага будаўніцтва. Усё залежыць ад вас, таварышы, ад вашай працы, ад стараннасці, сумленнасці...— Акапян зноў зірнуў у паперы, зрабіў перадышку і гучна, на ўсю моц свайго голасу гаварыў: — Галоўная задача, лічыць таварыш Хрушчоў, заключаецца ў тым, каб забяспечыць арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне ўсіх калгасаў...

Цытаты на гэтым канчаліся, і Акапян уздыхнуў вальней, загаварыў прасцей, нават голас прыцішыў.

— Цяпер узбуйнены ваш калгас — гэта будзе вялікая дружная сям'я. Сапраўды, чатыры вёскі, шэсць брыгад. Сіла! Магутны кулак. Ну-ка, ці адным пальцам тыцнуць, ці кулаком урэзаць. Вялікая розніца. Сілы многа, людзей многа, зямлі таксама. Толькі арганізаваць работу талкова...

— Праўду кажаш, таварышу начальніку,— падтрымаў дзед Гылігор, скруціў новую цыгарку, прыкурыў.

Закончыў Акапян заклікам: памнажыць поспехі сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, умацаваць магутнасць нашай вялікай дзяржавы. Дружныя воплескі пакрылі яго апошнія словы, і вецер панёс гэтыя воплескі, нібы салаўіны пошчак, па наваколлі. Затым выступіў старшыня сельсавета Свідэрскі, ён таксама даводзіў пра перавагі буйной гаспадаркі, у новым калгасе будзе свая партыйная арганізацыя. Настаўнік Мамута выказаў меркаванне, што буйному калгасу па плячы пабудаваць новую сямігодку, дзеці хатыньчан не будуць тады хадзіць у школу ў Белую Гару або ў Зарэчча.

Гэта ўсім было зразумела, усе ўхвалялі і хлопалі настаўніку вельмі шчыра, асабліва яго былыя вучні Андрэйка, Данька і Паўлік, якія ўжо колькі дзён чакалі сходу, жылі прадчуваннем перамен. Узрадавала іх навіна: у кузні цяпер будзе працаваць каваль з Казельскага пасёлка, які ўсё ўмее рабіць, ахвотна майструе складанчыкі. Ён прыехаў на сход на веласіпедзе.

— Хто яшчэ хоча выступіць? — Акапян уважліва аглядаў вяскоўцаў і раптам убачыў Арцёма Шандабылу.

— Арцём Іванавіч, душа любезны, давай... Ты ж першы пасляваенны старшыня, скажы... Дарэчы, мы з Арцёмам Іванавічам працавалі на лесанарыхтоўках, і скажу вам, што работнік ён — будзь здароў. Табе слова, Арцём Іванавіч.

Арцём Шандабыла разгублена азіраўся, і так не хацелася яму паднімацца, нешта гаварыць.

— Я што, Харытонавіч... Спасібачкі за памяць, значыцца-брат, што ўспомнілі, як мы рабілі ў лесе. Яно, значыцца-брат, тапаром лаўчэй, чымся языком...

Вакол усе зарагаталі, Арцём стаяў разгублены, не ведаючы, што гаварыць далей.

— Бацька, скажы, што ўхваляеш палітыку партыі,— шапнуў Мікола, які стаяў у гурце моладзі ззаду.

— Я ўхваляю нашу палітыку, нашу партыю бальшавікоў за тое, ну, значыцца-брат, што мы лепей сталі жыць. Я за тое, каб нам злучыцца...

Вакол зноў зарагаталі, а Арцём махнуў рукой і сеў.

— Можа, хто яшчэ хоча выступіць? — дапытваўся Акапян.

— Дайце мне сказаць,— рашуча падняўся дзед Гылігор, сцягнуў з галавы паліналы картуз з пакамечаным казырком, сціснуў яго ў руцэ.

— Ета, канечне, дзела добрае, каб гуртам вялікім усё рабіць. І канечне, пальцам таго не зробіш, што кулаком, як вы правільна сказалі, таварыш начальнік. І шэсць брыгад — ета не тое, што адна. І вось тутацька ёсць такі мамент...— дзед зрабіў перадышку, каб перавесці дых, хапануць паболей паветра і счакаць, пакуль усе супакояцца, прыціхнуць, каб пачуць пра нейкі «мамент».— Мой бацька такую прыхамету расказваў. Вёз мужык капусту ў Саковічы прадаваць. Конь занатурыўся. Дык мужык яго бізуном. Конь як ірвануў, качаны і пасыпаліся з воза. Збірае іх мужык і лаецца: «Растуды вашу качалку, калі ўжо зваліліся, дык ба і ляжалі радком. Дык жа не — раскаціліся. Ведама, што галава, то й розум». Я да таго вяду,— павысіў дзед голас, ледзь не зрываўся на фальцэт, каб перакрыць шум і рогат,— што шэсць брыгадзіраў — ета шэсць галоў. Каб яны не цягнулі кожны ў свой бок. Як у той байцы пра лебедзя і рака...

— Правільна, ацец, кажаш. Мудра. Як вас завуць? Рыгор Аўціхавіч? Дзякуй вам за мудрае слова. Правільна, трэба, каб дысцыпліна была ў калгасе. Без дысцыпліны, строгасці калгас не можа існаваць.

— І не толькі брыгадзіры каб рабілі,— падала голас Параска.— Каб усе не ляніліся. А то ў Вішнях любяць позна спаць. Раніцай — росна, удзень — млосна, вечарам — камары, так і не выберуць пары, калі на работу выходзіць...

Зноў рогат пакаціўся над Бесяддзю, але пачуліся і пакрыўджаныя галасы:

— Ета няпраўда. Напрасліну, цётка, узводзіш.

— А хто ж за нас робіць? — апраўдваліся вішаньцы.

— Цішэй, таварышы, нам трэба выбраць старшыню калгаса. Райком партыі рэкамендуе на гэтую пасаду Макара Тарасавіча Казакевіча. Ну, хатыньчане яго добра ведаюць. Жыхары іншых вёсак ведаюць менш.

— Знаем! Добры прысідацель,— выкрыкнуў высокі жаночы голас.

Акапян пачаў расказваць біяграфію Казакевіча, але з усіх бакоў загаманілі: «Давай галасаваць».

— Хто за тое, каб выбраць старшынёю ўзбуйненага калгаса Казакевіча Макара Тарасавіча, прашу галасаваць...

Падняўся лес рук. «Хто супраць?» Над гуртам моладзі вытыркнуліся дзве рукі. «Хто ўстрымаўся?» Над тым жа гуртам паднялася рука. Акапян урачыста абвясціў, што большасцю галасоў выбіраецца таварыш Казакевіч. Далей ён сказаў, што трэба даць назву новаму ўзбуйненаму калгасу, што ёсць прапанова прысвоіць гаспадарцы імя Хрушчова, ён расказаў, што Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў — выдатны дзеяч партыі, шмат ўвагі ўдзяляе ўмацаванню калгаснага ладу.

— Колькі яму гадоў? — крыкнуў нехта з жанчын.

Акапян не чакаў такога пытання, выручыла тая акалічнасць, што неяк яму ўрэзалася ў памяць: Хрушчоў старэйшы за яго на дзесяць гадоў.

— Нарадзіўся Мікіта Сяргеевіч у 1894 годзе, у беднай сям'і. Значыць, яму зараз пацьдзесят шэсць...

— Дык ужо не маладзён,— пачуўся жаночы голас.

— Але ж яшчэ і не стары. На дзевяць гадоў маладзей за мяне,— гучна сказаў дзед Гылігор.

— Дзед яшчэ Самкліду абдымае, значыць, і еты...—

сцішана рагатнуў нехта, але пачулі яго ўсе. Сёй-той заўсміхаўся. Тут не вытрываў старшыня ўзбуйненага калгаса:

— Цішэй, таварышы. Справа сур'ёзная, а вам ханькі...

За назву прагаласавалі дружна. Акапян хацеў закрываць сход, як зноў паднялася Параска Баханькова:

— А ці можна запрасіць да нас етага Хрушчова? Хай бы прыехаў, паглядзеў, як мы жывём. Тады мо ў краме і соевая мука паявілася б, а то дзеці з галадухі пухнуць...

— Хіба ў яго іншага клопату няма? Надумалася, цётка,— крыкнуў нехта з моладзі.

— Не ведаю, ці зможа ён прыехаць да нас. Усё можа быць. А наконт мукі мы разбяромся самі. Будзе мука,— цвёрда паабяцаў Акапян.

Гаманлівымі купкамі разыходзіліся калгаснікі пасля сходу. Вішаньцы і казельцы паселі на вазы, іншыя пайшлі пехатою. Хлапчукі бачылі, як новы каваль, сутулы, хмурны з твару мужчына, зашпіліў прышчэпкамі шырокія калашыны штаноў унізе, ускочыў на веласіпед з бліскучымі коламі і нетаропка паехаў па пясчанай дарозе.

А праз колькі дзён Макар Казакевіч ехаў у райцэнтр. Трымаў лейцы конюх Сідар, ён іншым разам выконваў ролю персанальнага «вадзіцеля» старшыні калгаса, бо таму з адной нагою цяжка было нават запрэгчы каня. Сідар, высокі, з шырачэзнымі плячамі, маўклівы, аднавокі, жыў удваіх з жонкаю, дзяцей у іх не было, і, можа, пагэтаму ўсю душу ён аддаваў коням — і дняваў і начаваў каля іх.

Настрой у Казакевіча быў добры. Пад сенам ляжаў мяшэчак духмяных, сакаўных яблыкаў — самых лепшых, учора разам з Сідарам ён зрываў іх, укладваў. Бухгалтарцы даў пяцьдзесят рублёў, сказаў апрыходаваць грошы за яблыкі, якія ён, старшыня, узяў для сваёй патрэбы. Тая здзівілася, адмаўлялася браць грошы, маўляў, якія цяпер яшчэ яблыкі і хто за іх будзе плаціць па цэламу рублю за кілаграм. Казакевіч не стаў і слухаць пярэчанні, паклаў на стол грошы і строга сказаў аформіць усё як належыць.

У раёне мелася ў старшыні багата клопату. У райком да Акапяна вырашыў зайсці пазней, а яблыкі

адвезці на кватэру зараз. На плошчы яны спыніліся, Казакевіч паказаў Сідару на драўляны дом з блакітнымі аканіцамі, папрасіў аднесці туды яблыкі, сказаць гаспадыні, што гэта гасцінец ад старшыні хатыніцкага калгаса. Сідар лёгка, нібы пушынку, узяў мех пад паху і пакіраваў па ўтравелай сцежцы, ступаючы вялізнымі старымі кірзачамі. Далей сцежка раздвойвалася, Сідар нерашуча павярнуў налева і пастукаў у дзверы з тарца. Дзверы адчыніліся, і высокая фігура Сідара схавалася за імі. Неўзабаве ён выйшаў з пустым мехам, туга скручаным у рулончык.

— Не забыў сказаць? — спытаў Казакевіч, ведаючы маўклівасць свайго «вадзіцеля».— Хто быў дома?

— Бабка нейкая. Можа, цешча? Я сказаў усё, як трэба. Дужа дзякавала. Да стала запрашала...

— Дык мо пойдзем перакусім? — настрой у Казакевіча яшчэ палепшаў, з плячэй зваліўся клопат: выканаў абяцанне.

Хатыніцкі старшыня ніколі не быў падхалімам, не любіў угодніцкіх замашак, хоць і разумеў, што асабістая прыязнасць часам вельмі спрыяе вырашэнню справы, ведаў і народнае прыслоўе: не кінеш наперад, не знойдзеш ззаду. О, каб ён ведаў тады, як павернуцца падзеі далей! Зусім іншы быў бы ў яго настрой. Але пакуль што пакінем старшыню калгаса ў добрым гуморы, бо дзень сапраўды турботны, гаспадарку ўзваліў на плечы немалую, а шкандыбае ён на адной назе.

Пакуль заехалі ў банк, у райвыканком, на хлебапрыёмны пункт, у райком трапіў пад канец дня. Акапяна на месцы не аказалася, паехаў на раён. «Ну што ж, пабачымся другім разам. Я слова стрымаў. А нечага прасіць сянні ў сакратара райкома было б проста няёмка,— успомніў пра грошы, якія заплаціў за яблыкі, махнуў рукою.— Некалі разлічымся». З добрым настроем вяртаўся ён дамоў. Па дарозе разгаварыўся з Сідарам.

— Слухай, браце, а што, калі нам сваю электрыку займець? Як ты мысліш?

— Якую электрыку? Лакамабілю купіць? — павярнуўся да яго ўсім корпусам Сідар.

— Не, брат, станцыю на Бесядзі трэба ставіць. Чуў жа на сходзе? Акапян гаварыў... У райвыканкоме сянні разведаў. Абяцалі падтрымаць. Выдзеляць крэдыт. Потым разлічымся. Хопіць пры карасіне вочы сля-

піць. У школе, у клубе, ва ўсіх хатах віднаты... На вуліцы лямпачкі свецяць. Маторы ваду качаюць на ферме, кацёл грэюць... Ета, Сідар, вялікая справа...

Конюх доўга маўчаў, памахаў пужкаю над конікам, бо той нібы прыслухаўся да размовы, прыцішыў хаду. Хоць Сідар яго і не сцёбнуў, конік пабег хутчэй.

— Знаеш, Тарасавіч, ета ж хітрая штуковіна лектрастанцыя. Ета ж запруду рабіць трэба... А Бесядзь... яна свой карахцір мае. Вунь вясною што вытварае. Знясе ўсё к чортавай мацеры. І крыхдзіт еты твой лясне.

— Дык жа вучаныя людзі будуць рабіць. Праект намалююць, дзе што будзе. Месца выберуць. Ета ж не з бухты барахты. У іншых калгасах ёсць ужо станцыі. Свецяць ваўсю.

— Я не проця,— сказаў Сідар, памаўчаў, загаварыў зноў: — Слухай, Тарасавіч, скора Ілля. Хачу з'ездзіць у Саковічы на кірмаш. Боты мае саўсім развальваюцца...

— І мне трэба падскочыць. Паедзем разам,— Казакевіч змоўк. Маўчаў і Сідар. Кожны думаў пра сваё.

Старшыня калгаса ўяўляў, як у Хатынічах засвецяцца лямпачкі, каля крамы ноччу дыміць ліхтар, а будзе ззяць, бы сонейка, электрыка. Чамусьці падумалася, як будуць дзівіцца вішаньскія баптысты, калі правядуць электрычнасць: вось вам святло нашай улады, рукамі, а не малітвамі, здабытае... Хацелася старшыні марыць, хацелася шмат добрага зрабіць на гэтай зямлі, хацелася яшчэ доўга жыць і нават трошкі хацелася славы: пішуць жа пра іншых старшынь у газетах, узнагароды даюць. А чым ён горшы? І зямля тут не самая кепская, і людзі не лянівыя.

Свежы ветрык лашчыў твар, нібы навяваў радасныя думкі. І ў душы Казакевіча мацнела надзея, што ён выведзе ўзбуйнены калгас імя Хрушчова ў перадавікі.

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, ліпень 1950 г.*

*1. Гомель. На прадпрыемствах і ўстановах Гомеля пачаўся збор подпісаў пад Адозвай аб забароне атамнай зброі.*

*11. Гродна. У сацыялістычным спаборніцтве за дастойную сустрэчу Дня чыгуначніка калектыў Гродзенскага аддзялення Брэст-Літоўскай чы-*

*гункі заваяваў першае месца па сетцы чыгунак Савецкага Саюза.*

*16. Стамбул. Паводле паведамлення газеты «Ватан» учора на падставе закону аб амністыі з турэмнай бальніцы вызвалены вядомы турэцкі паэт-дэмакрат Назым Хікмет.*

*29. Пхеньян. Адступаючы пад націскам Народнай арміі, амерыканскія войскі спальваюць карэйскія вёскі і забіваюць мірных жыхароў.*

## XXI

Аднойчы пад вечар бацька сказаў Андрэйку:

— Кладзіся спаць раней. Заўтра паедзем на кірмаш у Саковічы. Можа, і ты, Каця, паедзеш?

— Ай, Мацвеечка, куды ж я паеду? — уздыхнула маці.— А хто печ будзе тапіць? Яду сабе варыць, свінням...

— Прыедзем, тады і зварыш нешта. Перажывём.

— Не, едзьце вы. Купі во хлопцам якую-небудзь апратку. Гарлачык паліваны. А то наш трэснуў. Ці турлік які малако наліваць... Ды і купіла ж у цябе невялікае...

— Ну, троху ж з Васькам зарабілі, калі дошкі пілавалі. Нешта купім,— бацька выйшаў з хаты на двор, дзе ўжо стаялі калёсы.

Андрэйка бачыў у акно, як бацька вынес з-за хлява чорную дзягцярку, з якой тырчаў тоўсты квач, і пачаў мазаць каланіцаю восі. Хлапчук хуценька шуснуў з хаты, узяўся выцягваць загваздкі з колаў. Бацька ўхвальна кіўнуў, падняў калёсы з аднаго боку, ссунуў кола на самы край драўлянай восі і пачаў густа мазаць масляна-чорным дзёгцем. Малы Сахута любіў пах дзёгцю. У ім чуўся водар смалы, гаркавы дымок ад хваёвых шышак, калі яны гараць у кастры, востры пах шкіпінару, якім некалі яго націрала маці.

— Ну вось, цяперыцька калёсы не будуць скрыгатаць,— задаволена сказаў бацька.— І каню лягчэй будзе. Храноўскі той хызяін, у якога калёсы скрыгочуць на ўсё сяло...

Выехалі, як толькі ўзышло сонца. Бацька сядзеў з правага боку, спераду, Васька злева, а Марына і Ан-

дрэйка ззаду. Марына накрыла босыя Андрэйкавы ногі і свае калені дзяружкаю, бацька ўскінуў на плечы жаўтлява-шэры армяк з башлыком, бо раніца была золкая, з лёгкім туманцом, Ваську падсунуў старую ватоўку, каб апрануў, але той сцепануў шырокімі маладымі плячамі ў нязменным «немчуроўскім» кіцелі, нацягнуў ніжэй на лоб палінялую за лета кепку-шасціклінку: «Мне цёпла»,— і адмовіўся надзець ватоўку.

Падмазаныя колы мякка, бясшумна каціліся па вясковай вуліцы. Андрэйка не ўгледзеў, калі праехалі могілкі, леваруч ужо віднеліся цёмна-зялёныя — парaслі мохам з паўночнага боку — стрэхі парцюкоўскіх хат. Некаторыя дамы былі накрыты свежаю жаўтляваю дранкаю-дорам.

Па дарозе ішлі і ехалі людзі, бялелі хусткі маладзіц, і цямнелі кепкі і картузы хлопцаў і мужчын. Як вясною ручаіны зліваюцца ў Бесядзь, так у гэтую раніцу з усіх бакоў ішлі ў Саковічы кірмашоўцы. Андрэйка здаля ўглядаўся ў бліскучыя на сонцы купалы-цыбуліны саковіцкай царквы, якія ўсё набліжаліся, нібы выраслі. Збоч царквы прасторны мястэчковы пляц аж стракацеў ад людзей. Яшчэ на падыходзе да пляца каля платоў былі прывязаныя каровы, на вазах у скрынках і мяшках верашчалі парсюкі. На другім баку плошчы стаялі машыны з адкрытымі бартамі — там ішоў бойкі гандаль. Грузавікі гэтыя прымчалі з Бранскай, Гомельскай і ажно з Чарнігаўскай абласцей, бо слава саковіцкіх кірмашоў грымела далёка, збіралі яны тысячы людзей.

Чаго тут толькі не было! Самых розных колераў мануфактура — аж вочы разбягаліся, маляўнічыя гарусы ў буйныя кветы, валёнкі і буркі, чаравікі і кірзачы, паліто і куфайкі. І ўсюды — людзі, прынядзеленыя, прыбраныя ва ўсё лепшае, што ў каго мелася. Дзяўчаты і жанкі ў большасці былі басаниж, але твары свяціліся радасцю.

Гамана стаяла вакол, смех, віскат парасят, рыканне кароў, і над усім гэтым лунала музыка. Андрэйка пачуў пявучыя гукі ліры. Іграў сляпы старац з Казельскага пасёлка, якога вяла за руку басаногая дзяўчынка. У кайстры сляпога музыкі ўжо нешта целяпалася — дарункі ўдзячных кірмашоўцаў.

Васька аглядаўся па баках, вітаўся з хлопцамі, а тут былі і ягоныя знаёмцы і з Белай Гары, і з Зарэчча.

Яму хацелася адкалоцца ад сваіх, ды пакуль жа нічога яшчэ не купілі.

— Вось пройдзем, агледзімся, а тады будзем купляць. Прыкмячайце, дзе што ёсць,— сказаў бацька.

Сахуты прайшлі амаль да царквы, дзе на ўзгорку на траве сытна ружавелі, цёпла залаціліся высокія выгінастыя збанкі, прысадзістыя макотры і турлікі, маленькія круглабокія кухлікі.

— Посуду хапае,— сказаў бацька Марыне,— можна тое-сёе выбраць. Пайшлі боты паглядзім, штаны хлопцам...

Бацька звяртаўся перш за ўсё да Марыны, бо разлічваў і на яе капейчыну, калі не хопіць ягонай кішэні. Каля машыны, дзе прадавалі абутак, тоўпіліся людзі. Прадавец, малады хударлявы мужчына, круціўся ва ўсе бакі, а жанчына, што стаяла за ім, больш назірала, каб хто, прымераўшы абутак, не сігануў у натоўп, забыўшыся расплаціцца. Кірзачы Ваську купілі хутка. Ён прымераў, тупнуў, расчырванелы, усхваляваны.

— Якраз на мяне, тата. Бяром. А то мае бацінкі ўжо даўно разінулі рот... Я б хоць тут у ботах пахадзіў. Пайду на возе пераабуюся...

Андрэйка зірнуў на братавы бацінкі з белымі мысамі ад расы і зразумеў, чаму ягоны брат не скакаў у клубе... Усхваляваны Васька, які адразу стаў вышэй ростам, горда агледзеўся вакол, шчасліва і ўдзячна ўсміхнуўся Марыне, тузануў за віхор Андрэйку, прытупнуў, нібы пад Міколаў гармонік. У ягонай душы была свая музыка — душа спявала ад радасці: мае такія шыкоўныя боты! На суседняй машыне прадавалі адзенне, касцюмы, штаны, рубахі.

— Марына, можа б, табе на восень купіць гэтыя боцікі бліскучыя. Хадзіла б як пані,— бацька паказаў на гумовыя боцікі, што стаялі ў кутку на машыне.

— А можа, табе галіхве купім? — пачала Марына, хоць па ўсім было відно, як хочацца ёй мець такія боцікі.

— Спярша купім табе, а тады паглядзім. Дайце нам тыя боцікі прымераць,— папрасіў бацька.

Боцікі аказаліся трошкі велікаватымі, Марына засумнявалася, бацька пераканаў, што гэта добра, можна цёплыя ваўняныя шкарпэткі абуць, цяплей будзе. Цяпер ужо Марына стрымана радавалася сваёй пакупцы. Неўзабаве і Андрэйка прымерваў новыя штонікі, цём-

на-шэрыя, у палоску, былі яны трохі даўгаватыя, але яго ўгаварылі, што лепей купляць навырост. Малы баяўся, што бацька перадумае і не купіць яму ніякіх штаноў, калі гэтыя не падыдуць. Купілі штаны і сінюю кашулю Ваську. Бацька паглядзеў яшчэ раз на галіфэ і тут жа рашуча адвярнуўся.

— Пойдзем, купім гарлач, а ў яго мёду...

Андрэйка ледзь не падскочыў ад радасці — будзе ў іх цэлы гарлач мёду. Гамана вакол гусцела, мацней чулася музыка. Васька з Андрэйкам пакіравалі да воза, каб надзець новыя пакупкі. Уладкаваўшыся на возе, Васька абуў новыя боты, зняў абрыдлы «немчуроўскі» кіцель, надзеў кашулю, а штаны ўсцягнуць новыя пасаромеўся, ды і шкада было іх адразу камячыць у халявах ботаў. Затое Андрэйка прыгнуўся за калёсамі і ўлез у новыя порткі, унізе іх давялося падкасаць, але гэтая дробязь не магла азмрочыць радасці. Ды і ўсё вакол радавала: сонца, святочна апранутыя людзі, музыка...

Кірмаш мацнеў, набіраў сілу, уцягваў у свой вір усё болей людзей. Андрэйка ішоў побач з братам, які свяціўся ад новых рэчаў: ад такіх хвацкіх кірзачоў і новай сіняй кашулі. Ішлі браты на голас Міколавай гармоні і звон хатыніцкага бубна. Неўзабаве яны ўбачылі Міколу, разлахмачаны ветрам ягоны чуб жаўцеў здаля. Віцька малаціў у бубен з усяе моцы, і той звінеў і заліваўся на ўсё мястэчка. Васька неўзабаве завалодаў бубнам, бо Віцька ўжо нацешыўся. Малы Сахута ўспомніў, што бацька паабяцаў купіць мёду, выправіўся яго шукаць. Бацьку і Марыну ён убачыў каля бочак, дзе было густа людзей, якія пілі нешта пеністае, жоўта-рудое. Бацька піў з кухля, а Марына са шклянкі.

— Андрэйка, хадзі сюды,— паклікаў бацька.— Вось мой малодшы,— сказаў ён, звяртаючыся да двух мужчын, якія стаялі побач з ім. Уважліва зірнула на Андрэйку і незнаёмая смуглявая дзяўчына з цёмнымі кароткімі валасамі, якая гаварыла з Марынаю.

— А, здароў, Андрэй Мацвеевіч! — высокі мужчына з кульбаю падаў хлапчуку шырокую вялікую далонь.— У які ты клас перайшоў?

— У пяты,— ціха сказаў Андрэйка і дадаў: — У Белую Гару буду хадзіць.

— Малайчына, Андрэйка,— ласкава сказала смуглявая незнаёмка.— Вялікі ўжо вырас... Ты не помніш

мяне? Мы заходзілі да вас з Ганнай Мікітаўнай. Мы тады падарункі франтавікам збіралі. А ты сядзеў на печы і з-за коміна крыкнуў, што будзеш вучыцца толькі на пяцёркі. Помніш?

— Помню. Вы яшчэ сказалі матцы нашай: «Дзякуй вам ад усяе Чырвонай Арміі»,— смела адказаў хлапчук.

— Суду ўсё ясна,— прыемным басавітым голасам сказаў русявы мужчына.— Хлопец будзе пракурорам ці следчым. Памяць у яго добрая. Ды і смелы ён, адкрыта ў вочы пазірае.

У суддзі Васіленкі быў добры настрой. Ён радаваўся, што Ніна Гаўрыленка згадзілася паехаць з ім на кірмаш, а самае галоўнае, што яны неўзабаве пажэняцца, ён глядзеў на сваю смуглявую прыгажуню, такую сур'ёзную і недаступную, і ўспамінаў, якая пяшчотная і ласкавая была яна мінулаю ноччу.

Мацвей Сахута піў халаднаватае піва, словы суддзі, сказаныя пра яго сына, былі яму як маслам па душы. Ён вырашыў пачаставаць півам і Андрэйку. Хлапчук ніколі не спрабаваў піва, каўтануў, зморшчыўся: гэтакае рэзкае, кісла-горкае было пітво, што сын аддаў яго назад бацьку. Ніна Гаўрыленка падала яму шклянку ружаватай, з фіялетавым адценнем, як разведзенае чарніла, вадзіцы, сказала, што гэта — морс, яго любяць усе дзеці. Халаднаваты, прыемна саладкавы морс спадабаўся хлапчуку.

— Даўно ты, Касьянавіч, не быў у Хатынічах. Аб'ядналіся мы з Вішнямі і Казельскім пасёлкам,— расказваў бацька высокаму з кульбаю мужчыну.

Андрэйка ўспомніў, што гэта Даўгалёў, з іхняй вёскі, што ён прыязджаў, калі адкрывалі калгасную лазню, парыліся ў ёй першы раз. У тое лета скончылася вайна.

З натоўпу вынырнулі Данька і Паўлік, паклікалі Андрэйку. Бацька кіўнуў яму, узрадаваны, шчаслівы хлапчук у новых штоніках памчаў з сябрукамі.

Кірмаш усё болей падвясельваўся, бо сёй-той ужо глынуў не толькі піва. І ўчастковы Бравусаў нюхам чуў, што атмасфера напаўняецца весялосцю. Ён яшчэ ніжэй насунуў на лоб сваю прыгожую фуражку, вочы пільна пазіралі з-пад казырка, яны ўсё бачылі і ўсё разумелі. Кожны год прыязджаў ён на кірмаш, пакуль што надзвычайных здарэнняў тут не адбывалася, але

ўсё можа быць. Сёлета людзей сабралася як ніколі. Ён ведаў, што ўлетку вяскоўцы ні гарэлкі, ні віна не п'юць: работы поўна, грошай няма, збожжа няма, то і гаркухі выціснуць няма з чаго. І ўсё ж Бравусаў быў гатовы да любой неспадзяванкі.

Прыехаў на кірмаш і капітан Студзянцоў — для яго навіна, першы раз такое бачыць. З ім хадзіў цыбаты старшына Міхалёў, яны прымчалі на матацыкле, а Бравусаў, як заўсёды, на сваім коніку, якога прывязаў у цяньку ля бальніцы.

Неўзабаве да музыкі, густой вясёлай гаманы далучыліся звонкія прыпеўкі. На зялёным курганку збоч царквы Мікола рэзаў на гармоніку, Віцька адчайна стукаў у бубен, маладыя жанчыны скакалі і гучна спявалі прыпеўкі. У шчыльным натоўпе, які абкружаў весялух, быў і Андрэйка з сябрукамі, віднелася фуражка Бравусава. Гледачы падбадзёрвалі танцорак, і тыя стараліся з усяе душы. Да іх выйшаў на падмогу немалады ўжо мужчына, тэпаў, шырока расстаўляючы ногі, лупцаваў далонямі па халявах старых запыленых кірзачоў, хрыплым голасам гучна спяваў:

А бабачкі, я ўвесь ваш,
Паехалі на кірмаш,
А з кірмашу ды дадому,
Ды ў ячную салому...

Сонца звярнула з паўдня, калі Марына адшукала Андрэйку і павяла яго да воза. Бацька запрагаў каня, укладваў шчыльней усё на возе. Нарэшце адшукаўся Васька, і Сахуты паехалі дамоў.

А кірмаш яшчэ гаманіў, спяваў, весяліўся, купляў і прадаваў. Тут яшчэ ўладарылі два імкненні: прадаць даражэй, набыць як танней, а тым часам багата кірмашоўцаў паварочвалі ўжо аглоблі дамоў.

Сахуты пад'язджалі да Хатынічаў, калі пачаўся дождж. Марына з Андрэйкам схаваліся пад дзяружкаю, а бацька ахінуў сябе і старэйшага сына каляным суконным армяком. Дождж неўзабаве скончыўся. Наперадзе цераз усё неба ўспыхнула яркая, маляўнічая вясёлка. Андрэйка пазіраў на рудаватую грыву гнядой кабылкі, бачыў калючкі дзядоўніку, што ўблыталіся ў грыву, старэнькую нефарбаваную дугу, абслізганую рукамі і ветрам, абпаленую сонцам і часам — яна збераглася яшчэ з даваенных гадоў. Хлапчук глядзеў на драўляную дугу, што зыбалася над галавою

кабылкі, і на велізарную дзівосную дугу на небе. Між імі, гэтымі дугамі, упісвалася шырокае курганістае поле з Бярозавым балотам і самотнаю кашлатаю сасною, стрэхі хатыніцкіх хат, удалечыні старыя бярозы на гасцінцы ў Белую Гару, па якім ён скора пойдзе ў пяты клас. Справа цямнеўся лес, паблісквала звілістая стужка Бесядзі, а яшчэ бліжэй высіліся купчастыя дрэвы над кладзішчам.

І нечакана жахлівая, балючая думка нібы апякла яго: а Колі няма на свеце пяць гадоў ужо, а як бы ён радаваўся гэтай вясёлцы. І Пятрок іхні так і не вярнуўся з вайны, успомнілася бабуля Васіліса, як хавалі яе... Іх даўно няма, а ў прыродзе ўсё ідзе сваёю хадою, выпадае і растае снег, адлятаюць у вырай і вяртаюцца назад птушкі, успыхвае пасля дажджу і знікае вясёлка.

«Дождж перастае, таму і вясёлка знікае,— разважаў хлапчук.— Выпараецца вада. А людзі, мабыць, раствараюцца ў зямлі. Толькі застаюцца косці. Мы ходзім па касцях...— ён аж сцепануў плечукамі ад гэтай думкі.— Я толькі яшчэ ў пачатку етай вясёлкі. Расту, вучуся, караскаюся ўгору...»

Багата чаго разумеў ужо Андрэйка, але і зараз яшчэ болей, чым раней, здзіўляла яго агромністасць і таямнічасць свету, трагічнасць і прыгажосць жыцця.

— Добра, што дождж кароткі. Пыл прыбіў, і хопіць. Усё ж Ілля памачыўся ў Бесядзь,— бацька зняў армяк, махнуў пужкаю, кабылка весялей затрусіла па мяккай палявой дарозе.— Заўтра, Андрэй, пойдзеш каласкі збіраць. Жыта кончылі жаць. Як раса абсохне, так і пойдзеце. Усіх малых арганізуем. Усё ж нейкая падмога. А потым пусцім кароў на ржэўнік. Травы багата на полі...

— Жэўжык, не ўздумай у новых штанах бегчы на поле. Захочаш пахвастацца перад Манькай Хадорынай,— падсміхнуў Васька.

— Ён жа не такі, як ты. Едзеш і ўсё чабаты выстаўляеш, каб усе бачылі, што яны новыя,— упікнула брата Марына.

Цяпер усе засмяяліся, і Васька ўсміхаўся, ён не пакрыўдзіўся, бо гэта была чыстая праўда, ды дужа добры меў ён настрой, каб сапсаваць яго такім бяскрыўдным дакорам.

— От прыедзем дамоў, яшчэ можна ў грыбы адскочыць. Пару кашоў прыцягнем, здадзім Гылігору, бу-

дуць грошы. Казлякоў поўна за Бабінаю гарой,— Ваську не цярпелася аддзячыць за ўсе свае абновы, бо галіфэ сабе бацька так і не купіў.

Андрэйку таксама захацелася ісці ў грыбы, згадзілася і Марына. Бацька ў грыбы хадзіў рэдка, хіба што восенню ў апенькі, тады ён браў мех і прыцягваў амаль паўнюткі.

На жаль, шчаслівыя дні заўсёды кароткія, прамільгнуў і гэты, вясёлы кірмашова-грыбны дзень, хай сабе і яшчэ даволі даўгі. Чырвонае сонца, якое абяцала назаўтра вецер, заходзіла за Бярозавае балота, калі Андрэйка і Марына падышлі да берага Бесядзі, яны ўдваіх неслі кош грыбоў, услед тэпаў Васька, ён адзін нёс поўны кош маслякоў. Найбольш нарэзалі грыбоў у маладым хвойнічку, траплялiся там і жоўта-залацістыя лісічкі, смягла-карычневыя баравічкі, бралі і маладыя рознакаляровыя сыраежкі-капялюшыкі.

Грыбавар дзед Гылігор, які разам з Самклідаю адкрыў на Бесядзі, непадалёку ад кузні, грыбаварню, найбольш прымаў масляты, маладыя падбярозавікі, чырвонагаловыя падасінавікі, ахвотна браў сушаныя баравікі, але мала хто іх здаваў: берагл і на зіму, бо кінеш сушаны баравік у бульбу ці ў капусту — зусім іншы смак.

Каля Бесядзі Сахуты разуліся, Андрэйку давялося і штонікі зняць. Хлопцы перайшлі першымі, чакалі сястру на беразе, стаялі, не аглядваліся, бо ведалі, што Марыне давядзецца высока задзіраць спадніцу, бо вада ў рацэ прыбыла пасля дажджоў. Далей тэпалі басанож. Васька нёс у руках старыя бацінкі, Андрэйка — клееныя-пераклееныя бахілкі, у якіх мякка было хадзіць па лесе, Марына несла старыя галёшы — новыя боцікі абуць у лес яна пашкадавала, надзела старэнькі пінжачок, палінялую спадніцу ў буйныя шэра-блакітныя кветы, на галаву белую хусцінку ў чырвоныя гарохі. Выглядала Марына стомленай, учора позна прыбегла з дзяжурства, сёння рана ўстала, а заўтра раніцай зноў пойдзе на работу за дваццаць кіламетраў.

Андрэйка цішком зірнуў на сястру і ўбачыў каля яе вачэй тоненькія зморшчынкі-павучынкі, і нос на схуднелым твары неяк завастрыўся. Згадаў, як маці ўсё перажывае, што Марына не выходзіць замуж. Столькі хлопцаў і маладых мужчын было сёння на кірмашы ў Саковічах, а Марына кажа, што яе кавале-

ры палеглі на вайне. Запомніўся яму і танклявы русявы суддзя з дзявочым тварам і густым басістым голасам. «Можа, ён і праўду казаў... Трэба вучыцца на пракурора. Змагацца за справядлівасць. Каб усім было добра. Каб ніхто не плакаў. Каб ва ўсіх былі грошы, колькі каму трэба...»

Васька завёў гутарку, што сёння трэба перабраць грыбы, казлякі аблупіць, іх будзе цэлы кош, і ён заўтра здасць іх Гылігору, астатнія грыбы трэба падсмажыць, каб уволю наесца. Марына ўсміхнулася, але нічога не сказала.

Грыбнікі Сахуты выйшлі з правулка на дарогу і сутыкнуліся з Бравусавым, які ехаў з кірмашу. Калі народ разышоўся, ніякага чэпэ не адбылося, старшына Міхалёў пакаціў капітана Студзянцова ў раён на матацыкле. Бравусаў завітаў да знаёмага саковіцкага крамніка, знайшлася ў таго пляшка віна, выпілі за ўдалы гандаль і за парадак на ўчастку інспектара міліцыі, і цяпер задаволены Бравусаў вяртаўся дадому, жонцы вёз гарус, дзецям цукерак і мёду. Фуражка ягоная, як і заўсёды, была насунута нізка на лоб, бо вочы проста зліпаліся — гэтак хіліла ў сон, але ўбачыў Сахутаў, устрапянуўся, паправіў фуражку вышэй, павітаўся. Марыну ён бачыў на кірмашы здаля, а з Васькам і пагаварыў трохі, пацікавіўся, колькі каштуюць боты.

— Ну і малайцы, Сахуты! Хвакцічаскі, столькі грыбоў налаташылі,— здзівіўся ён.

— Хто дбае, той і мае. І мы ў шапку не спім, Уладзімір Усцінавіч,— адказала Марына, і ў голасе пачуўся нейкі дакор ці то выклік.

Бравусаў на хвіліну зніякавеў, няўцямна спытаў:

— А хто спіць? — і тут жа спахапіўся, павярнуўся да Васіля.— Дзе ж твае новыя чабаты? Не згубіў па дарозе?

— Чаго-та буду я губляць? Я ж не п'ю гарэлкі...

— Малаток, хвалю за чэснасць! — выскаліўся Бравусаў, сон з яго нібы рукой зняло.— Паехалі, Андрэйка, са мной. Школу паглядзіш. Пераначуеш у нас, а заўтра ўранні прыбяжыш дамоў. А то і прывезці магу...

— У мяне другое заданне,— важна, як дарослы, адказаў Андрэйка.— Заўтра будзем каласкі збіраць на полі. І ў калгас потым здадзім.

— Ну што ж, ета дзела сур'ёзнае... Бывайце здаровенькі,—сказаў Бравусаў, калі наблізіліся да хаты Сахутаў.

— Усяго вам добрага! — адказала Марына, адвярнулася і прыбавіла крок, нібы спяшалася хутчэй схавацца за веснічкамі.

А Бравусаў сцёбнуў коніка з нечаканай злосцю, той жвава затрусіў, аж заёкала селязёнка-каса. За вёскаю ўчастковы расшпіліў кіцель, зняў фуражку, паслабіў рэмень з цяжкаю кабурою, прылёг на бок і адразу заснуў. Прахапіўся ўжо ля Белай Гары, зашпіліў кіцель, адчуў сябе свежым і бадзёрым, нібы не было сёння вялікага напружанага тлумнага дня. Ён ехаў па вясковай вуліцы, у прыцемках убачыў Марусю Лапчанкаву, якая ішла насустрач з вядром вады.

— Павязець табе, Усцінавіч, з поўным стрыкаю,— пявучым, сцішаным голасам сказала Маруся.

Высокая, зграбная, прамая, як дошка, усохлая за гады бязмужняга жыцця, яна яшчэ была прыгожая, бы позняя восеньская кветка, якую прыхапіў зазімак, але калі прыгрэе сонца, то расцвіце яшчэ яркім апошнім харaством. Бравусаў ведаў, што яна добра спявае, у дзявочыя гады яна была ці не самая галасістая дзеўка ў Белай Гары. Быў адзін маленькі недахоп: шчарбінка-свістун між пярэдніх зубоў, і таму яна трохі шапялявіла, заместа «ч» вымаўляла «ц». Участковаму нават падабалася, як яна гаварыла — Усцінавіц, была ў гэтым нейкая мілая прывабнасць.

— Мне, Маруся, заўсягды вязець,— азваўся Бравусаў.— Як табе жывецца?

— Ат, не пытайся. Жыву як гарох пры дарозе... А ты ўсё міма ездзіш. Заехаў бы калі. Ці жонкі дужа баісся? — яна паставіла вядро, чамусьці паслабіла вузялок хусткі, нібы тая замінала дыхаць.

Спыніў каня і Бравусаў, азірнуўся, ці не цікуе хто за імі.

— Знаеш, Маруся, не баіцца воўк сабакі, а звягі не любіць... Так і я... Апроч шчыкоткі, хвакцічаскі, нічога не баюся,— выдаў сваю любімую прымаўку Бравусаў.

Пасля таго кур'ёзнага суда Маруся разы два пыталася ў яго, ці моцна сварыліся за тое, што ён выручыў яе ад штрафу ці турмы. Ён жартам адказваў, што яго трохі паўшчувалі, запісалі вымову, а гэта яму — што пугай па вадзе. Яна запрашала ў госці, але заехаць

неяк не выпадала. Сёння Бравусаў імгненна ацаніў сітуацыю: у хаце Марусіны дзеці, заходзіць няёмка, лепей другі варыянт...

— Ёсць адно дзела да цябе. Я сычас павярну на луг. Распрагу каня. Хай вады пап'е ў Бесядзі. Прыйдзі, пагамонім троху...

Ціхая ядраная жнівеньская ноч ахінула сваім нячутным крылом Прыбяседдзе. Прагна скуб расяную траву здарожаны конік. Бравусаў ляжаў на возе, адчуваючы босымі нагамі цёплыя, пяшчотна-шурпатыя Марусіны лыткі. Маруся гладзіла яго валасы, гладзіла асцярожна, нерашуча, быццам рабіла гэта ўпершыню, быццам і не мела мужа, не раджала дзяцей. І цалавала нясмела, ледзьве датыкалася мяккімі сухімі вуснамі. На галаве ў яе была ягоная фуражка казырком назад, каб не замінала. Здаволены Бравусаў ляніва адказваў на яе пацалункі і раптам успомніў Якава Рацэева, таго салдата, якога хацеў застрэліць, нават узяў на мушку ў часе атакі, але яго апярэдзіла нямецкая куля — Рацэеў упаў, а потым у тое месца бухнуў снарад. Апошнім часам Рацэеў згадваўся, успліваў у памяці рэдка, але вось сёння — на табе. Падумалася, што недзе жыве яго жонка-ўдава, а мо яна зноў выйшла замуж, пра былога мужа і думаць забыла... Выплыла з памяці Зінаіда, згадалася тая незабыўная ноч, калі выходзіў з акружэння. Маладая ўдава Зінаіда — муж як пайшоў на фінскую, так і не бачыла яго болей,— абмыла, накарміла, дала чарку і на світанні цалавала так, як ніводная жанчына раней яго не лашчыла... Успомнілася Марына Сахута, якая не прыняла яго любоў, мабыць, і не зведала ніколі мужчынскай ласкі... «А ўсё ж вайна праклятая... Каб не яна, Зінаіда, Маруся мелі б сваіх мужыкоў... Марына Сахута выйшла б за хлопца, якога любіла. А кім бы я стаў?» — мільганула нечаканая думка. Ён, Бравусаў, звычайны, малаадукаваны вясковы хлопец, кім бы ён стаў, каб не вайна? Пастух, рабочы на заводзе. А мо за навуку ўзяўся б! Ён жа не дурань, зараз вунь участковы інспектар, лейтэнант міліцыі...

— Неста ты маўцыс, Усцінавіц? — пацерлася сваёй шчакой аб ягоную Маруся.

Перад вачамі Бравусава зноў паўстала Зінаіда, і ён, паранены, ледзь жывы, абдымае яе на світанні, калі трохі адаспаўся, падужэў. Хваля вялікай удзячнасц

той жанчыне, адчуванне віны перад жонкай, якую так рэдка мілуе, накаціла на яго. Ён моцна прыхінуў да сябе Марусю, пачаў прагна і горача цалаваць. Потым прыўзняўся, нібы нечага спалохаўся, пакорпаўся ў сваім партфелі і падаў Марусі мяккі халаднаваты пакунак.

— Вазьмі... Ета гарус... табе.

— Ты сто, Валодзецка? Ты ж купляў не для мяне... Не вазьму.

— Бяры, дурніца,— грубавата сказаў Бравусаў і закрыў ёй рот прагнымі губамі.

Яркія бухматыя жнівеньскія зоры мігцелі, быццам падміргвалі ў небе. На возе сядзела жанчына ў квяцістым гарусе, мужчына ў прыгожай малінавай фуражцы. Было ўжо за поўнач. Над вёскай дружна і звонка грымнулі пеўні. У гэтым хоры чуліся і хрыплаватыя нядужыя яшчэ галасы маладых певуноў. Раптам успыхнула зорка-знічка, прачарціла залатую сцежачку і знікла. Бравусаў пазіраў, як падала зорка, абдымаў за плечы сцішаную Марусю, і яму хацелася плакаць...

## XXII

Моцна спалася Андрэйку пасля кірмашу: як лёг, так і заснуў, і нічога не снілася, і раптам маці тармосіць яго:

— Уставай, сынок, ужо сняданак на стале...

Хлапчук пачуў пах яечні, варанай бульбы з кропам, і яму так захацелася есці, аж засмактала пад лыжачкаю.

Пасля снядання адразу пачаў збірацца ў поле.

— У што ты будзеш каласкі класці? Можа, во ету кайстрачку вазьмі,— маці падала белую палатняную торбачку.— Павесіш на шыю, і будзе добра. Рукі вольныя.

— Ну во, буду хадзіць, як старац казельскі...

— Хто цябе там будзе бачыць? Абы зручна было. На ногі лапцікі абуй,— рашуча сказаў бацька.— Іржэўнік калючы.

Напамінак пра лапцікі зусім засмуціў малога, ён сапраўды ўявіў казельскага старца, якога бачыў на кірмашы з лірай на грудзях, яго твар з чырвонымі павекамі невідушчых вачэй. Дзед наводзіў жах на хаты-

ніцкую малечу, але ён і цікавіў: спыняўся ля хаты, іграў і спяваў. Хадзіць пачынаў з вясны, заўсёды ўранні, калі гаспадыні палілі печы. Вадзіла яго то малая дзяўчынка, то драбнатварая хударлявая жанчына, мабыць, ягоная жонка. Старац уваходзіў у хату, гучна вітаўся і адразу пачынаў круціць ручку ліры, якая віселa на грудзях, кола чапляла струны старой цёмна-карычневай ліры, і нараджалася скрыпуча-звонкая мелодыя. Давалі жабраку лірніку што ў каго мелася: акраец хлеба, яйка, яблык, гуркі, а калі ў каго заводзіліся грошы, то і рубель. Грошы ён складваў асобна, за пазуху, дзе была патайная кішэня. Спяваў часцей за ўсё «Раскинулось море широко...», хоць ведаў і рэлігійныя песні, і народныя беларускія.

Андрэйка разумеў, што спрачацца з бацькам няварта, кайстру яму давядзецца чапляць на шыю, а лапцікі проста не возьме, скажа, што раса цяпер доўга трымаецца, навошта мачыць абутак. Ногі ягоныя за лета настолькі задубелі, што ім ніякі ржэўнік не страшны.

Сабраліся малыя хатыньчане каля гумна, дзе стаяла малатарня, гулка татахкаў трактарок «ХТЗ» з вялізнымі зубчастымі коламі. Гаспадарылі тут каваль Яўхім і незнаёмы трактарыст, дапамагалі Мікола Шандабыла, зухаваты гарманіст, і аднарукі Цімох Емяльянаў з алоўкам за вухам. Хлапчукам карцела пастаяць і паглядзець, як глытае малатарня развязаныя снапы жыта, а з другога боку сыплецца цёплае буйное зерне, з тарца вывальваецца вялізнымі бярэмамі жоўта-залацістая салома. Андрэйка, Данька, Паўлік і леснікоў Пецька так і застылі тут, але Хадорына Манька не дала доўга стаяць.

— А каласкі хто будзе збіраць? Вуньдзе-ка сонца, як высока! — Манька сярдзіта зірнула вялікімі шэрымі вачанятамі на хлапчукоў.— Пайшлі. А то паразяўлялі раты...

Апошнія словы пачуў Цімох і адразу падтрымаў дзяўчынку:

— Праўду кажаш, Манька. А то айш вы, разулі вочы. Хто ў вас за старшага?

— Нікога. Мы самі,— адказаў Паўлік.

— А ў класе хто староста?

— Сахута Андрэй,— на гэты раз усіх апярэдзіў Данька.

— Значыць, ты, Андрэй, будзеш старшым,— як даросламу, сказаў Цімох.— Вунь, глядзі, жытнішча пачынаецца каля Упярочнага рова і аж да маяка цягнецца. Спярша займіце паласу паўз дарогу і шнуруйце да маяка. А тады хадзіце ўпоперак, туды і назад, як чаўнок у кроснах. Кайстры будуць цяжэць, а вы будзеце набліжацца да гумна. Усё ж лягчэй. Ці ад маяка торбу прыперці, ці ад рова. Розніца вялікая.

— А што, так багата калосся? — здзівіўся Андрэйка.

— Ну, не багата, а пракідаюцца. Не спяшайцеся. Шырока не разыходзьцеся, каб не прапускалі каласкоў. А то заўтра кароў пускаем на ржэўнік. Яны ўсё змесяць... А кайстры зважым, хто колькі назбіраў,— закончыў Цімох інструктаж.

Тое, што кайстры будуць узважваць, моцна падштурхнула малых, і яны бягом памчалі па дарозе. Хлапчукі ўсе былі басанож, а Манька шлэпала ў велікаватых старэнькіх галёшах, падвязаных вяровачкамі.

Каля жытнішча Андрэйка расставіў сваю каманду: Маньку паставіў самай крайняй ад дарогі, каля яе — Даньку, затым Паўлік, Пецька і апошнім стаў сам. Іржэўнік неміласэрна калоў ногі. Андрэйка злаўчыўся ставіць нагу «з працягам» — спярша прыціскаў зрэзаныя сцяблінычы жыта, а потым ужо ступаў на ўсю ступню. Трава — густая, нібы воўна, макрыца, высокі пырнік-брыца, доўгія косы бярозкі-ўюнка,— была яшчэ мокрая ад расы, хоць сонца ўжо даволі высока вісела на бясхмарным, мутна-бялёсым небе. Каласкі траляліся часта. Андрэйка спрытна кідаў іх у торбу, косячы вокам убок, дзе хутка, навыперадкі, збірала каласы яго брыгада. Шапатлівая кайстра непрыкметна цяжэла, вяровачка мацней уразалася ў плячо, націрала шыю. З-пад ног часта пырхалі перапёлкі, жаўрукі.

— Чаго ты ў мяне з-пад рук хапаеш каласкі? — закрычаў Данька.

— Я першы яго ўбачыў. Я іду прама перад сабою. А ты не лезь, байструк, на маю тэрыторыю,— даводзіў сваё Паўлік.

— Хлопцы, чаго вы счапіліся? Затое не прапусцім ніводнага каласка,— разважліва сказаў Андрэйка, супакойваючы сябрукоў.

Леснікоў Петрык моўчкі шкандыбаў па ржышчы, як і бацька, ён быў маўклівы.

Да кургана, дзе некалі стаяў маяк — цяпер ад яго тырчалі толькі чатыры абгарэлыя бервяны,— дайшлі хутка, павярнулі ў бок Галнага балота. Тут Манька ўзбунтавалася: не пайду зноў з краю, маўляў, каласкоў мала, і дробныя яны.

— Ідзі на маё месца,— нядоўга думаючы, вырашыў Андрэйка.

— Няхай на маё,— падбег Данька, яму хацелася быць далей ад Паўліка, які назваў яго байструком, гэтае крыўднае слова заўсёды раніла хлопца-бязбацькавіча.

Андрэйка пагадзіўся, брыгада на хаду правяла пэўныя перастаноўкі і рушыла далей. Данька цяпер сігаў крайнім ля вузкай дарогі, за якой лапушыліся зялёныя радкі-баразёнкі бульбы. Сям-там трапляліся каласкі і на дарозе — падалі з вазоў, калі перавозілі снапы. Данька спрытна іх падбіраў і вырваўся наперад. Але памалу і ён прыцішыў хаду: бачыў, якое вялікае поле наперадзе і як многа і доўга ім тэпаць-шлэпаць па ржэўніку, ды і цяжэюць іхнія шапаткія кайстры.

Спачатку Андрэйка пільна прыглядаўся да жытнішча, каб не прамінуць ніводнага каласка, якія то віселі на зломанай сцябліне, то, пераеханыя колам, ляжалі на зямлі, і ўсе думкі былі пра каласкі. Паступова вочы і рукі прызвычаіліся і самі, нібы аўтаматычна, рабілі сваю справу. А думкі скіраваліся ў мінулае, хай сабе і недалёкае: згадалася леташняя восень. Аднойчы пагодлівым восеньскім днём іх, трэцякласнікаў, павялі прама са школы «браць» лён. Парабілі яны да абеду, але ў Андрэйкі далоні гарэлі агнём: застарэлы, высахлы лён цяжка вырываць з цвёрдай, спавітай каранямі пустазелля зямлі. Некалькі дзён школьнікі хадзілі на лён, а потым настаўніца Ганна Мікітаўна сказала: «Заўтра будзем выбіраць каноплі. Усім быць у дзевяць раніцы каля гумна».— «Ура!» — пачуліся звонкія хлапечыя галасы. Радаваўся і Андрэйка. Вырываць каноплі яшчэ цяжэй, чым лён. Праўда, канапляныя сцябліны таўсцейшыя, не так рэжуць рукі, да таго ж каноплі — лепшы восеньскі ласунак дзятвы, калі ў сланечнікаў пахучыя шапкі ўжо скручаны і палушчаны, гарбузікі матка хавала на зіму — найлепшы сродак лячыць жывот,— тады паспяваюць каноплі. Высокія, цёмна-зялёныя, з пацямнелымі кучомкамі-макаўкамі, нібы карлікавы елавы лес, каноплі высілі-

ся на полі. Калі кучомкі робяцца цёмна-бурымі — гэта першая прыкмета, што каноплі паспелі: патрэш гэтую кучомку, і з яе лёгка выслізгваюць бліскуча-шэрыя, бы шрот, канаплінкі. Сып іх у рот — і толькі трэск пойдзе, так лушчацца яны на зубах, прыемным алеем сцякаючы на язык. І ніякай табе аскомы, адно не лянуйся церці кучомкі, падстаўляць далоні, ну і дзьмухаць, каб здуваць мякіну. І хрумстай сабе, толькі язык пашчыпвае мякка-лагодны алей. Падумалася Андрэйку, што сёлета каноплі ён будзе рваць ужо не на сваім полі, а каля Белай Гары, бо ў пяты клас пойдзе ў гэтую вёску. Там давядзецца, можа, і лён выбіраць, і бульбу капаць.

Сонца звярнула з паўдня, калі зборшчыкі каласкоў, стомленыя, сасмяглыя, але вясёлыя, задаволеныя, з прыхаваным спадзяваннем у душы — кожны спадзяваўся, што назбіраў болей за ўсіх,— прыйшлі на ток.

— Ну што, назбіралі троху? — сустрэў іх Цімох.— Стаўце на вагі.

Андрэйка паставіў сваю торбачку з патаемным хваляваннем: колькі заважыць?

— Стаўце ўсе разам. Вагі вялікія, а торбачкі маленькія. Няма калі мне цыркацца,— перакрываючы грукат матора, крыкнуў Цімох.

Хлапчукі шчыльна саставілі свае торбачкі на вагі. Апошняй зняла з плечукоў туга напханую каласкамі, залатаную, але чысцюткую кайстру Манька і паставіла яе з краю, каб усе бачылі, колькі ў яе каласкоў. Цімох падсунуў да кучы і Маньчыну кайстру.

— Малайцом, дзеўка, напакавала як за грошы. Некаму добрай жонкай будзеш.— Цімох дастаў з-за вуха аловак, пакратаў рычажок вагаў. Паўлік хмыкнуў і закрыў далонькаю рот.— А што ты хмыкаеш? Каторая кайстра твая?

Паўлік не зварухнуўся, бо добра разумеў, што ў яго, мабыць, меней за ўсіх каласкоў. Тады даходны Данька выхапіў хударлявую, няпоўную торбачку.

— Во, яго... Меней, чымся ў Манькі.

— Так што, Паўлік, няма чаго хмыкаць. От калі б ты стаханаўцам быў, тады б іншая справа. Можаш пасміхацца. Ну, колькі пацягнула? Колькі вы назбіралі? — Цімох прыгледзеўся да вагаў.— Дваццаць пяць кіло, дый з паходам... Лічы, больш як паўтара пуда хлеба. А то б кату пад хвост. Так што недарэмна пахадзілі. На кіно зарабілі. У канцы года палучыце...

— А колькі з етых каласкоў будзе бахонак хлеба? — спытаўся Андрэйка, чуючы крыўду ў душы, што дзядзька Цімох не зважыў, як абяцаў, кожную торбачку асобна.

— Бахонак колькі? Ну, з прыпёкам болей як трыццаць будзе. Лічыце, што кожны з вас сабраў па шэсць бахонак хлеба.

— Дзядзька Цімох, а ноччу сянні будзеце малаціць? — падаў голас маўклівы Петрык.

— А як жа? Будзем. Цяперыцька і ўдзень і ўноч працаваць трэба. Прыходзьце на падмогу,— Цімох павярнуўся і пайшоў да малатарні.

— Давайце прыйдзем, хлопцы,— загарэўся Андрэйка.

— І я таксама прыйду,— сказала Манька.

— Цябе матка не пусціць,— упікнуў Паўлік, бо злаваў на Маньку, што яна так спрытна збірала каласкі.

— Ты іншых дзяўчынак падгавары, і прыходзьце,—выступіў у абарону Данька.

Па дарозе дамоў малыя ажыўлена гаварылі пра начны паход на ток. І мацней за іншыя чуўся голас Паўліка: як ён будзе бегаць вакол стагоў саломы. Андрэйку хацелася яго ўпікнуць, што крычыць многа, а каласкоў сабраў мала. «Дарэмна Цімох не ўзважыў»,— зноў падумаў ён. Не ведаў тады хлапчук, што Цімох кілаграмы тры накінуў, каб запісаць кожнаму па пяць кіло.

Праз шмат гадоў, калі Андрэй Сахута будзе сутыкацца з ураўнілаўкаю і абязлічкаю, заўсёды будзе згадваць кайстру каласкоў і малапісьменнага інваліда-франтавіка дзядзьку Цімоха, які па-свойму вяршыў справядлівасць. І што гэтая ўраўнілаўка так спрыяла выхаванню лайдакоў і абібокаў.

Маці была на двары, узрадавалася сыну, кінулася да яго. На яе твары бачыліся ўстрывожанасць, насцярога, што малы азірнуўся — ці не бяжыць хто за ім і палохае маці.

— Вось добра, што ты прыйшоў, сынок. Можа, і ты чуў? Кажуць, вайна пачалася. Мірканец напаў на Карэлію...

Андрэйка як стаяў, так і сеў на парог. Рой думак закружыўся ў галаве: зараз бягу да хлопцаў, будзем збірацца ў партызаны... Маці сказала, што пра вайну

паведаміла ёй паштарка, якая прынесла газету. Невялічкая раённая двухпалоска ляжала на стале, хлапчук прачытаў на другой старонцы невыразны загаловак: «Падзеі ў Карэі»,— і ўсё зразумеў, бо пра вайну ў Карэліі не было ні слова.

— Мам, дык ета ж далёка ад нас. Амерыканцы напалі на Карэю, а не на Карэлію...

— Ну, нашы ж многія хатыньчане ў етай Карэліі лес валяць...

— А то Карэя. Саўсім іншая дзяржава. Яна мяжуе з Кітаем.

— О, дык ета і праўда далёка. Але ж во лезе еты мірканец... Якога ражна яму трэба?

Сын прачытаў, што напісана ў газеце: амерыканскія імперыялісты адступаюць пад ударамі карэйскай Народнай арміі. Гэта супакоіла маці, яна папрасіла сына прынесці з грады пару свежых гурочкаў на абед, бо скора прыйдуць бацька і Васька, яны звозяць снапы з поля, а яна, маці, стагавала салому.

Пайшлі хлапчукі на ток пасля вячэры, калі ўжо сутонела. Цямнее ў жніўні хутка. Здаецца, толькі свяціла гарачае сонца, але быццам пакалолася аб калючы ржэўнік, імкліва закацілася за курганістае, зжатае, нібы палыселае, поле. На небе высыпаюць яркія мігатлівыя зоры, на зямлю ападае пякуча-халодная раса. Хлапчукі басаною тэпалі па халодным пульхным пяску раз'езджанай дарогі. Здаля яны пачулі татахканне трактара, грукат з падвывам малатарні, смех і гучную гаману. Андрэйка ўбачыў ля вагаў бацьку, побач з ім стаяў Цімох. Апанас Шкурдзюк шырокаю драўлянаю лапатай-шуфлем зграбаў зерне ў кучу. Бацька паклікаў сына бліжэй:

— Што табе, не спіцца? — запытаў з усмешкаю.

— Паглядзець захацелася. Усе хлопцы ішлі,— Андрэйка быў задаволены, што бацька сустрэў яго ласкава.

— Ну што, брыгадзір? Каласкоў назбіралі багата, цяперацька малаціць прыйшлі? — шырокай далонню адзінай сваёй рукі Цімох паляпаў хлопца па плячы, нешта яшчэ сказаў, але голас ягоны патануў у грукаце.

Каб не замінаць дарослым, хлапчукі паселі на драўляныя крылы коннага прывада, назіралі за малацьбой. Угары Вольга і Параска падавалі развязаныя снапы ў жарало малатарні. Па самыя вочы жанчыны былі заху-

таныя хустамі, бо пыл стаяў слупам, лез у нос, у вочы, забіваў вушы. Ззаду малатарні выкульвалася салома. Мужчыны адкідвалі яе далей. Каваль Яўхім і Мікола, абое перапэцканыя, запыленыя, стомленыя, сачылі за работай трактара і малатарні. Бацька і Апанас Шкурдзюк ставілі мяхі на вагі, потым адцягвалі ўбок пад павець. Васька і Віцька валакушамі адвозілі салому за дарогу, дзе жанчыны, дзяўчаты складвалі яе ў стог. Адтуль чуліся несціханая гамана і смех. Мікола часта пазіраў туды, скупа ўсміхаўся, крывячы замурзаны твар.

Андрэйка не мог уседзець на месцы, яму таксама хацелася працаваць, памагаць дарослым, агульны рабочы рытм нібы падхапіў яго на крылы. Душа хлапчука спявала і радавалася, ад цёплага паху хлеба, грукату матораў, ад шуму, тлуму аж кружылася галава. Ён падбег да Ваські, папрасіў дазволіць яму зацягнуць валакушай хоць адну капу саломы. Васька паблажліва зірнуў на малодшага брата:

— Жэўжык, ты ж пакінеш палову саломы на дарозе...

Не дазволіў і Віцька свайму брату Паўліку адвезці салому. Затое ніхто не мог забараніць хлапчукам куляцца ў саломе каля стога. Бегалі малыя і вакол стагоў, гулялі ў жмуркі. Андрэйка крычаў, галёкаў, лётаў з сябрукамі. «Як добра, што няма вайны, Карэя вельмі далёка, ды і Народная армія перамагае»,— на імгненне прамільгнула гэтая думка, нібы зорка-знічка.

Трактар нечакана зачмыхаў і спыніўся. Малатарня яшчэ грукатала па інерцыі, але ўсё цішэй і цішэй. На стозе таксама прыціхлі, сцішыліся і малыя хатыньчане. І раптам вялікая цішыня жніВеньскай ночы запанавала над усім. І тады пачуўся хрыплаваты голас каваля Яўхіма.

— Трахтар затаміўся. Вады захацеў. Перакур на паўгадзіны,— сказаў ён, запальваючы ліхтар.

Вольга і Параска злезлі з гары, атрасалі пыл. З'ехалі са стога ўніз і дзяўчаты. Хлопцы — тут як тут, і пачалася вясёлая валтузня. Клава выбавілася з нечых абдымкаў, пайшла да малатарні, мабыць, ёй хацелася паглядзець на Міколу.

— От добра, што спынілася ваша тарахцелка,— гучна сказала Клава.— А то хлопцы завалілі саломаю...

— Канечне, добра, калі хлопцы завалілі ў салому,— рагатнуў Яўхім.

Мікола з цікаўнасцю зірнуў на Клаву, нібы ў паўзмроку хацеў нешта разгледзець, а потым, нядоўга думаючы, адхіснуўся ад трактара і чысцейшай левай рукой абхапіў яе за талію, прыхінуў да сябе.

— Ой, як ты смуродам прапах! Замурзаны, як дзягцярка,— пішчала Клава, а сама прыхіналася мацней да хлопца.

А за малатарняй стаіліся Вольга і Цімох. Потым Вольга цішком пайшла за дальні стог саломы. Здаецца, ніхто не бачыў, як праз нейкі час, прыгнуўшыся, услед за ёй пасунуўся Цімох. Быў ён за стогам нядоўга, неўзабаве вярнуўся, хмурны, сярдзіты, пачаў мацаць, ці добра завязаны мяхі.

Параска і Хадора ўскінулі на плечы ватоўкі, сядзелі на прывадзе, на другім крыле ўладкаваліся Мацвей Сахута і Апанас Шкурдзюк.

— Цімох, нешта ты мацаеш мяхі, як дзеўку ўсё роўна,— азвалася Параска.

— Галоднай куме — хлеб на вуме,— агрызнуўся Цімох і патупаў за гумно.

Вольга пайшла да дзявочага гурту ля стога, неўзабаве адтуль пачулася звонкая вясёлая песня.

— Андрэй, ідзі дамоў ужо. Замерзнеш. Паглядзелі, і хопіць,— сказаў бацька.

— І ты, Данька, бяжы двору. Нацягаўся за дзень,— падала голас Параска.

Хлапчукі памалу пацягнуліся дахаты. Пясок быў ужо халодны, а раса на траве здавалася ледзяною. Ішлі моўчкі. Раптам у ядранай цішы жнівеньскай ночы пачуўся голас Данькі: «Як вырасту, дык завярбуюся і паеду ў Карэлію. А можа, на Данбас. Матка кажа: едзь, сынок, а то тутацька за палачку ўсю жысць будзеш гарбець з цёмнага да цёмнага».— «А матка адна застанецца? Яна ж цябе карміла, гадавала»,— разважліва сказаў леснікоў Петрык. «Як зараблю грошай багата, дык і матку забяру да сябе. Хай у горадзе аддыхнецць хоць троху. Там жа адрабіў сваё — і на бакавую. У горадзе не такая жысць, як у нас...» Андрэйка хацеў запярэчыць сябру: а хто ж застанецца ў Хатынічах, але ўспомніў бацькаву параду — вучыся добра, дык будзеш хлеб з навукі есці, а не ў гнаі калупацца,— і змаўчаў. Размова абарвалася. Кожны

думаў пра сваю будучыню. Ад гумна данёсся трэск матора, нібы ўзрадаваўся трактар, што яго зноў уключылі, пачуўся стукатлівы грукат малатарні.

Спаў Андрэйка моцна, а калі прачнуўся ўранні, выбег на гарод, ля Хадорынай хаты пачуліся галасы: вяскоўцы са смакам абгаворвалі навіну — Цімох з Вольгай хадзілі за стог. Гаварылі, рагаталі, але ніхто з іх не ведаў, чаму Вольга зноў успомніла сваё даўняе каханне.

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, жнівень 1950 г.*

*2. Нью-Йорк. У паведамленнях друку з Карэі гаворыцца аб прасоўванні карэйскай Народнай арміі і аб адступленні амерыканскіх і лісынманаўскіх войск.*

*12. На Сонечнай вуліцы, што на ўскраіне Мінска, будуецца 29-я сярэдняя беларуская школа.*

*13. Кастрама. За сем месяцаў сярэдні надой малака ад кожнай каровы ў саўгасе «Караваева» дасягнуў 3788 кілаграмаў.*

*15. Гомель. Гэтымі днямі са станцыі Гомель адпраўлены ў Данбас эшалон з крапяжом і рудніч-най стойкай.*

*25. Магілёў. Рабочыя абласнога будаўнічага трэста рашылі датэрмінова здаць у эксплуатацыю радзільны дом.*

## XXIII

Той дзень для старшыні калгаса Макара Казакевіча выдаўся вельмі тлумны: уранні адправілі ў раён абоз — дзесяць падвод — збожжа: дзвесце пудоў жыта, ды і не абы-якога, а чыстага, сухенькага, адборнага, бубка ў бубку. Старшыня сам быў на таку, назіраў за ўсім, і хоць ён загадаў звечара ўсё падрыхтаваць, але, як заўсёды, далёка не ўсё было падрыхтавана. І калі ўжо ад'ехаліся, здарылася яшчэ адна неспадзяванка: зламалася дуга ў Апанаса Шкурдзюка. Казакевіч не стрымаўся, адмацюкаў яго, потым спахапіўся, куснуў сябе за язык: мацюкамі не паможаш

справе, вырашыў загладзіць сваю нястрыманасць жартам:

— Мабыць, жонку перакаціў ноччу, таму і дуга лопнула...

Мужчыны зарагаталі, Апанас ухмыльнуўся:

— Дзякуй богу, што тутацька зламалася, а не ў дарозе....

Але і тут іншай дугі не было, як толькі ў старшынёўскім вазку. Шкада было дугі і часу шкада, бо не трымаць жа ўвесь абоз, і ён аддаў сваю. Арцём Шандабыла папрасіў каня, каб вярхом адскочыць на канюшню і прывезці дугу. Вярнуўся ён даволі хутка, у руках, нібы вялізную падкову, трымаў дугу, на сярэдзіне яе нават цямнелася металічнае колца. «Відаць, сваю выязную адшкадаваў»,— падумаў Казакевіч, гледзячы, як спрытна запрагае каня Арцём.

Старшыня ўскінуў на воз мыліцы, потым цяжка ўскараскаўся сам.

— Ну, кіруй тут, Арцём Іванавіч. Паеду ў Вішні. Пакуль надвор'е стаіць, трэба штурмаваць. Каб круглыя суткі ішла малацьба...

— Дык мы, значыцца-брат, і штурмуем. Праз пару дзянькоў яшчэ адправім абоз,— Арцём дастаў з кішэні капшук, адарваў шматок газеты.

Казакевічу нечакана моцна захацелася закурыць. Арцём ахвотна насыпаў яму табакі, якая славілася сваёю моцаю на ўсю вёску.

— Табака сёлетняя. Праўда, карэньчыкаў троху леташніх падсыпаў, каб мацней была. Значыцца-брат, як зацягнешся, дык усе вантробы прадзярэ,— Арцём усміхнуўся, скрывіўшы даўно няголены твар.

Па дарозе Казакевіч аглядаў палі, памалу супакоіўся, табака сапраўды прадзірала ў горле, ён аж закашляўся да слёз, але настрой палепшыўся. Калёсы лёгка каціліся па ўтрамбаванай палявой дарозе. Дарога заўсёды супакойвала, ды і цешыла думка, што ўдалося адправіць абоз. От каб вішаньцы не падкачалі: Раўнягін абяцаў таксама сёння адправіць сем падвод...

У Вішнях на таку было заціпша. Некалькі жанчын і хлопцаў-падлеткаў насыпалі ў мяхі збожжа. Казакевіч адразу зразумеў, што ніякі абоз тут не адпраўлялі. Неўзабаве паявіўся расчырванелы, але гладка паголены Раўнягін, пачаў апраўдвацца, што малатарня

ламаецца пастаянна, зерне сыраватае, няма чаго здаваць, але па абедзе падвод пяць паедуць у раён.

— Хатыньчане вунь дзесяць адправілі сянні. І жыта ў іх зарадзіла. Адзін дождж ідзе, адно сонца свеціць...

— Не скажыце, Тарасавіч, у вас зямля лепшая...

Ад Раўнягіна патыхала самагонкаю, па ўсім было відаць, што ён паспеў пахмяліцца. «Ну і работнічак...— у думках мацюкнуўся Казакевіч.— Далучылі на сваю галаву нахлебнікаў... Пачакай, Змітрок Раўнягін, я за цябе вазьмуся. Будзеш ты круціцца як вуж на патэльні».

— Вы не думайце, Тарасавіч, што мы тутацька спім у шапку. Усю ноч сянні малацілі... Трахтарыст во пайшоў перакусіць. Мужчыны рыхтуюцца ў дарогу,— Раўнягін крута павярнуўся, пачаў лічыць насыпаныя мяхі. Шырокаю чырвонаю далонню ён тыцкаў у кожны мех, мармытаў пад нос, потым гучна і радасна сказаў: — Во, шашнаццаць ёсць. І яшчэ будзе,— ён акінуў паглядам ладную кучу зерня.— І яшчэ столькі можа быць. Чэсны бог, можа быць. Хай сабе трыццаць мяхоў. Ета шэсць вазоў. Сто дваццаць пудоў з гакам. Сянні павязём. Во, спадзе гарачыня, і паедзем. Да цёмнага дабяромся. Там жа вочарадзь. З усяго раёна хлеб вязуць,— мусіць, адчуваючы сваю віну, даводзіў старшыні Раўнягін.— Ета дайжа і лепей — паехаць па абедзе. Не так горача...

Казакевіч ледзь стрымліваў сябе і, мабыць, даў бы прачуханку Раўнягіну, але тут падышоў трактарыст з напарнікам, за імі следам ішлі некалькі жанчын...

— Во, яны ж ноч укалывалі. І зноў прыйшлі. Працадні я пішу, а што на іх будзе? — гучна сказаў, нібы ішоў у наступ, Раўнягін.

— Што ўсім, тое і вам будзе. Не адны вы такія сіраты. Хатыньчане хіба аб'ядаюцца пірагамі? Таксама дзень і ноч працуюць. І абоз сянні ўжо адправілі,— Казакевіч разумеў, што такая размова не давядзе да дабра і што перад незнаёмымі людзьмі ён можа апраставалосіцца, і таму павярнуў іначай: — Давайце, браточкі, пастараемся. Пакуль надвор'е церпіць... Потым будзем адсыпацца. Паеду на пасёлак Казельскі...

Ён адчуваў сябе пагана, бо па сутнасці ўцёк ад людзей. А што ён мог ім абяцаць? Абяцаць лёгка, а як выканаць абяцанне? Калі ўсё пад мятлу, апроч насен-

нага фонду, загадана здаць. А як захочацца Акапяну адрапартаваць, перавыканаць план, то і насенны фонд выкатаюць, а тады вясной вазі з раёна сюды... Падумалася, што Акапян чамусьці не пазваніў, не падзякаваў за яблыкі...

Апоўдні прыпякло сонца — сухая жнівеньская спёка ўладарыла ў прыродзе. Уранні было так золка, ядрана, а зараз смаліць, як у пятроўку. Казакевіч з трывогаю падумаў пра сваіх абознікаў; хоць бы даехалі, хоць бы вось ні ў кога не зламалася — усе калёсы на драўляным хаду.

«І калі гэта скончыцца, тваю маць... Робіш як чорны вол, а застаешся ні з чым... Усё здай, а потым вясной прасі насення»,— Казакевіч з прыкрасцю плюнуў на пыльную дарогу.

Па абедзе ён адчуў сябе зусім пагана, разбалелася нага-кульця, спіна разламвалася. Мабыць, на дождж, падумаў ён, прылёг на ложак і — задрамаў. У хаце нікога не было: малы сын пайшоў на Бесядзь, жонка пабегла на работу. Раптам ён пачуў, што рыпнулі дзверы, расплюшчыў вочы і не паверыў ім: на парозе стаяла бухгалтарка Дуня, маладая, ружовашчокая. Мусіць, яна дужа шпарка ішла, бо грудзі пад кофтачкай у яе высока ўздымаліся, па шчацэ ад вуха струменіўся ручаёк поту.

— Тарасавіч, прабачце, што я да вас... Званілі з раёна. Ну, еты Пракапенка, прасіў, каб яму пазванілі. Абізацельна. Так прасіў ужо. Збегайце, кажа, дамоў, перадайце неадкладна...

— Што ў іх там загарэлася? — прабурчаў Казакевіч, пацягнуўся спрасоння, зірнуў на Дуню, і нават грэшная думка прамільгнула ў туманнай пасля сну галаве.— А што прыйшла, дык, можа, і няблага?

— Дык там жа нешта зрабілася,— стоячы ў парозе, выціраючы ражком палінялай касынкі пот, разгублена адказала Дуня.

— Ты вось што...— старшыня памаўчаў, нібы збіраўся з думкамі,— сядай ідзі на калёсы. Паедзем разам.

— Я пайду, можа...

— Чаго табе ісці? Паедзем разам. Не бойся, не з'ем...

І без таго чырвоная Дуня яшчэ болей заружавелася, цішком пасунулася за парог.

«Добра, што конь за хатаю. Не трэба далёка хадзіць»,— падумаў Казакевіч, тупаючы следам за Дуняю.

Да канторы пад'ехалі хутка. Толькі ён увайшоў у свой катух-кабінет, як затрашчаў тэлефон. Званіла Азарава. Казакевіч нават не пазнаў спачатку яе голас — гэтак ласкава яна з ім ніколі не гаварыла, павіталася, падзякавала за гасцінец.

— Які гасцінец? — міжволі вырвалася ў старшыні.

— За яблыкі. Ці гэта не ад вас? Маці перадала мне: прынёс мужчына мех яблыкаў і сказаў, што з Хатыніч, ад старшыні калгаса... Алё! Чуеце, Макар Тарасавіч? Алё...

Казакевічу перахапіла дых, ён маўчаў, а на лбе адразу выступілі дробныя кропелькі-пацеркі поту. «Ну, Сідар, падкузьміў... А я чакаю падзякі ад Акапяна...»

— Чую, Дар'я Трафімаўна! — як мага спакойна і добразычліва крычаў у трубку Казакевіч.— Ну, ці спадабаліся нашы яблыкі?

— Яблыкі цудоўныя! Здаецца, зроду такіх не ела. Цяпер буду ведаць, што самыя смачныя яблыкі ў Хатынічах. Чым і аддзячыць вам, не знаю? Будзеце ў раёне, заедзьце калі ў госці... Хачу накіраваць да вас агітбрыгаду з Дома культуры. Можа, хай на таку выступяць ці ў клубе. Глядзіце самі, як вам зручней...

Казакевіч, вядома, не пярэчыў супраць прыезду агітбрыгады. Не паспеў ён павесіць трубку, як тэлефон зверашчаў зноў: падумалася, што гэта звоніць Акапян, сярдзіты, раззлаваны. Але праз шум і трэск ледзь пазнаў голас Пракапенкі, бо крычаў той сярдзіта: чаму ён, Казакевіч, не здае хлеб, каб заўтра прыехаў у Лабанаўку на бюро райкома... Пракапенка доўга алёкаў, бо Казакевіч маўчаў, нарэшце крыкнуў у трубку на ўвесь голас, што дзвесце пудоў адправілі сёння з Хатыніч і паўтараста з Вішань — ён свядома трохі прыбавіў, каб зрабіць большае ўражанне.

— Адправілі? Ну, тады лягчэй. Тваё шчасце. А то Акапян усхадзіўся... На бюро Казакевіча, страгача ўкатаць...

— Дзіва што... Ёсць прычына...

— Ты жартуеш там? А мы ледзь загрудкі не схапіліся...

— Ды не да жартаў мне. Прыхварэў я. Радыкуліт скруціў...

Цяпер маўчаў Пракапенка, а потым сказаў, што ён прыедзе сёння сам, спачатку заедзе ў Саковічы, а тады заскочыць у Хатынічы, калі ў праўленні нікога не будзе, ён можа заехаць дамоў.

«Відаць, Акапян там нешта задумаў. Яблыкі ён не дарує... Ах, Сідар, Сідар, падклаў свінню... Хаця я сам вінаваты. Не сказаў толкам, у якія дзверы заходзіць. Ды і я не ведаў...» — уздыхнуў Казакевіч і адчуў, як боль у паясніцы памацнеў.

Падзеі ў райцэнтры развіваліся сваім парадкам. Акапян прагаварыўся дома, што скора прывязуць прыгожых смачных яблыкаў, малая дачушка заскакала і запляскала ў ладкі ад радасці. Ішлі дні, а гасцінца з Хатыніч не было. Акапян колькі разоў спрабаваў пазваніць, здымаў трубку, але гонар не дазваляў: хіба мог старшыня калгаса забыць просьбу сакратара райкома, ды абяцаў жа так, што ён, хлапчук які, сур'ёзны мужык, франтавік... Не дачакаўшыся хатыніцкіх яблыкаў, Акапян пад'ехаў у прыгарадны калгас, паміж іншым пацікавіўся, які ўраджай у садзе, сказаў пра дачушку, пра яе любоў да садавіны, і яму тут жа ўмомант напакавалі ладную скрыню яблыкаў. Перад сямейнікамі ён апраўдаўся, але крыўду на Казакевіча затаіў. Асабліва яго заела, што чалавек абяцаў і не зрабіў, ён, Акапян, гатовы быў заплаціць. Увогуле ён пазбягаў паднашэнняў, ніхто не мог упікнуць яго, што недзе пакарыстаўся сваім службовым становішчам, жыў чэсна, на зарплату, як і ўсе раённыя кіраўнікі. А хто спрабаваў блытаць дзяржаўную кішэню са сваёй, хутка пападаўся, як той самы Крупадзёраў. Помніў Акапян і вымову, якую адхапіў за рамонт Дома культуры, а стараўся ж ён не дзеля сябе, дзеля людзей, але пераступіў мяжу — адказвай. І тады ж ён узяў віну на сябе, не хітрыў, не выкручваўся. Будучы няўрымслівым, гарачым чалавекам, мог накрычаць, нават незаслужана каго пакараць, мог паспяшацца адрапартаваць, але ўсё гэта, лічыў ён, робіць дзеля карысці справы, што ён чэсна і бескарысліва служыць партыі і народу.

Неяк уранні праглядваў раёнку і ўбачыў, што сярод гаспадарак, якія марудзяць з хлебанарыхтоўкаю, калгас імя Хрушчова. Акапян аж заёрзаў на крэсле, жаў-

лакі захадзілі пад скураю, рука пацягнулася да тэлефона, зняў трубку, задумаўся: пачне «чахвосціць» зараз старшыню Казакевіча, той зразумее, што помсціць за яблыкі, зрывае злосць. Злосць у ім сапраўды бушавала: падрыў аўтарытэта! Месяц назад раёнка распісала сход у Хатынічах, як праходзіла аб'яднанне калгасаў, пісала, што Акапян выступіў там з палымянаю прамоваю. А выходзіць, што ён не змог мабілізаваць калгаснікаў на выкананне хлебанарыхтовак. «На бюро старшыню Казакевіча. За зрыў важнай палітычнай кампаніі выключыць пустабрэха з партыі»,— як тыгр у клетцы, тупаў па кабінеце Акапян. Ён зноў кінуўся да тэлефона, пазваніў Пракапенку, каб той зайшоў, маўляў, трэба абгаварыць парадак дня наступнага пасяджэння бюро райкома.

Увайшоў Пракапенка, як заўсёды нетаропкі, упэўнены ў сабе, лёгкі парусінавы касцюм зграбна сядзеў на яго каржакаватай шыракаплечай фігуры, вочы былі спакойныя, засяроджаныя, караткаватыя вусы тапырыліся пад носам. Ён павітаўся, падаў руку. Акапян буркнуў у адказ «дзень добры», вяла пацісну́ў руку старшыні райвыканкома, сам стаяў, не прапанаваў сесці і таварышу:

— Слухай, душа любезны, ты ведаеш, што раён зрывае план хлебанарыхтовак? — цёмныя круглыя вочы Акапяна нібы свідравалі Пракапенку.

Той моўчкі сеў, дастаў з нагруднай кішэні блакнот, дзе былі свежыя дадзеныя: ён толькі што пазваніў на хлебанарыхтоўчы пункт. А перад гэтым была ў яго размова з Лугаўцовым, той таксама паўшчуваў за марудную здачу хлеба, сказаў, што новы сакратар абкома, якога нядаўна выбралі на пленуме — былы партызанскі камбрыг,— пачынае закручваць гайкі. На развітанне Лугаўцоў паабяцаў накіраваць у іхні раён некалькі вайсковых грузавікоў і што заўтра яны могуць прыбыць, трэба разумна выкарыстаць транспарт.

Пракапенка не спяшаўся з адказам яшчэ і таму, што ведаў Акапянаў характар, калі яму пачаць адразу пярэчыць, той пачне яшчэ актыўней даказваць сваё, і спрэчкі не мінуць, а гэта не паспрыяе вырашэнню справы. Была і яшчэ адна прычына: Пракапенку хацелася ведаць, ці не званіў хто з абкома Акапяну, мо нават новы першы сакратар даў яму раскрутку.

— Дык у чым справа? Чаму раён топчацца ў хвас-

це? Ты раёнку чытаеш ці не? — ужо спакайней спытаў Акапян, падсунуў госцю газету, дзе чырвоным алоўкам быў падкрэслены радок: калгас імя Хрушчова і пастаўлены вялізны пытальнік.

Акапян сеў, нецярпліва пазіраючы на старшыню райвыканкома. Пракапенка адзначыў сам сабе, што першы націск ён збіў, а потым спакойна сказаў, якія ёсць новыя дадзеныя, пра гутарку з Лугаўцовым, пра вайсковыя грузавікі.

— Не трэба спадзявацца на дзядзьку збоку. Распусціліся... Няма ніякай дысцыпліны. Адзін з самых буйных калгасаў — імя Хрушчова нават і не пачынаў хлебаздачу. На сходзе і старшыня, і брыгадзіры білі кулакамі ў грудзі, абяцалі, што будуць у перадавіках, неблагі ўраджай расце. А на справе — пшык. Паслязаўтра бюро райкома. Асноўнае пытанне аб ходзе хлебанарыхтовак. Трэба выклікаць Казакевіча і закаціць страгача, а то і вырашыць яго партыйнасць. Хопіць чыкацца і ліберальнічаць!

— Толькі аб'ядналіся. Далучылі слабыя гаспадаркі,— пачаў Пракапенка.

— Хатынічы даўно топчуцца на месцы. Хто ў гэтым вінаваты? Разгільдзяйства вакол. Распусціў Казакевіч усіх. Гэта ж трэба! Лета, гарачая пара, а ён адпусціў Мацвея Сахуту ў заработкі, дошкі пілаваць у Саковічы. А Сахута ж — член праўлення. Які прыклад для іншых? Я не прыдумаў. Вось пісьмо з Хатыніч. На, пачытай, душа любезны,— Акапян падсунуў пажаўцелы аркуш паперы са школьнага сшытка.

Пракапенка адразу зірнуў уніз, шукаючы подпіс. Унізе стаяла невыразная закарука, за якую схаваўся аўтар-ананімшчык. Крывыя літары, мноства памылак выдавалі малапісьменнага чалавека. «Мо той самы Энскі? Тады быў дзіцячы почырк... Нехта іншы. І зноў Хатынічы»,— з прыкрасцю падумаў Пракапенка.

У пісьме гаварылася, што Казакевіч не змагаецца за ўмацаванне дысцыпліны, дазволіў у час жніва ехаць людзям на кірмаш...

— Вось таму і не пачалі хлебанарыхтоўкі. Такое становішча не толькі ў Хатынічах... І райвыканком, Антон Яўсеевіч, не змагаецца за навядзенне цвёрдай дысцыпліны. Ёсць спецыяльная пастанова Саўміна СССР ад 18 красавіка 1948 года, якая абавязвае райвыканкомы штомесячна разглядаць, як працаздольныя

калгаснікі выконваюць мінімум. Штомесячна... Ніхто гэтую пастанову не адмяняў. А каго вы слухалі ў мінулым месяцы? — круглыя вочы Акапяна строга пазіралі на старшыню райвыканкома.

Пракапенку заўсёды здзіўляла памяць Акапяна на ўсялякія пастановы, інструкцыі, выказванні славутых дзеячаў. Сам ён заўсёды разы па два з алоўкам чытаў пастановы, каб глыбока зразумець сутнасць, а вось дату, назву дакумента мог і забыць.

— У мінулым месяцы амаль кожны дзень праводзіліся сходы ў калгасах. Усе супрацоўнікі выканкома былі на раёне. А перад гэтым такая работа праводзілася рэгулярна. Барацьбу за ўмацаванне дысцыпліны ніхто не паслабляў.

— Дык чаму ж яе няма? — узвіўся Акапян.— Людзі гавораць, абяцаюць, а справа на месцы. Трэба ў гэтым месяцы паслухаць калгас імя Хрушчова. Выклікаць усіх брыгадзіраў, членаў праўлення. І каго трэба, сурова пакараць...

«Што ён прычапіўся да гэтага калгаса? Ці трэба так даваць веры ананімкам? Сам жа гаварыў, што сход прайшоў вельмі добра. Але ж хіба могуць яны адразу рвануць наперад. Хіба ж ім манна нябесная пасыплецца толькі таму, што на сходзе пабыў сакратар райкома»,— падумаў Пракапенка, а ўголас сказаў:

— Мы рыхтуем калгас «Бальшавік». Яны раней аб'ядналіся.

— Я катэгарычна настойваю абмеркаваць становішча спраў у калгасе імя Хрушчова,— ледзь не крычаў Акапян.

— Слухай, Сяргей Хачатуравіч,— ледзь стрымліваючы сябе, сказаў Пракапенка.— Што ты мне дыктуеш? Ды яшчэ такім тонам? За гаспадарчыя справы ў раёне перш-наперш адказваю я. З мяне спытаюць. Райвыканком — гэта савецкая ўлада. А ты займайся сваім, ідэалагічнай работай, палітычным выхаваннем. Я табе не дыктую, каго ставіць на бюро. Але галасаваць па тваёй указцы не буду. Ты гэта ведаеш. Лічу, што рана тут чыхвосціць Казакевіча. Трэба праверыць ананімку, хоць пазваніць... Казакевіч — не лайдак, не п'янтос...

— Франтавік, інвалід... Гэта дэмагогія. Нам ніхто не даруе зрыву хлебанарыхтовак. Важнай палітычнай кампаніі. І слухаць мы яго будзем. І старшыні сельса-

вета Свідэрскаму трэба холку намыліць. І не вучы мяне, душа любезны, што мне рабіць...

Пракапенка адчуваў, што яшчэ хвіліна і ён не стрымаецца, і тады невядома, што можа здарыцца... Ва ўсякім разе працаваць ім сумесна будзе немагчыма.

— Вучыць я цябе не збіраюся. Жыццё навучыць... Я паеду зараз на раён. На таках пабываю. Пагляджу, як малоцяць у другую змену,— крутнуўся і, не развітаўшыся, выйшаў.

З Саковіч Пракапенка вяртаўся, калі ўжо заходзіла сонца. Гарачыня спала, свежы, халаднаваты ветрык урываўся ў акно машыны. Каля Казельскага пасёлка звярнулі з гасцінца, даволі шырокая дарога цераз курганы праставала ў Хатынічы, шырокая таму, што служыла выганам для жывёлы, кароў і коней ганялі па ёй у Бярозавае балота. Ужо блізка былі Хатынічы, віднеліся стрэхі дамоў, калі ад гумна даляцела татахканне трактара і падвыванне малатарні.

— Як бы нам на ток праскочыць? Глядзі, можа, улева будзе дарога,— сказаў ён шафёру, разумеючы, што ў канторы зараз нікога не будзе, дамоў да старшыні можна заехаць і потым.

Навум збавіў хуткасць, пільна глядзеў наперад. Неўзабаве пад'ехалі да развілкі: направа бегла вузкая дарога на Мамонаўку-Парцюкоўку, прама — вяла ў Канчанскі бок, а ўлева, мабыць, ішла да гумна. Зялёная «Пабеда» пакацiла па ёй, паднімаючы шэры шлейф пылу.

На таку было шумна, людна. Нізкае чырвонае сонца, бы вялізны пражэктар, падсвечвала людзей, якія там варушыліся. Здаля Пракапенка пазнаў Казакевіча, які, нібыта бусел, стаяў на адной назе. Ну і добра, што паехаў сюды. Быў тут і Мацвей Сахута. Яго Пракапенка не бачыў даўно, паспачуваў у душы: стомлены, худы, глыбока запалыя вочы, і ўсё тая ж выгаралая да белага гімнасцёрка.

Пра ўраджай, пра малацьбу прыезджы распытаў у Казакевіча, Арцёма Шандабылы, пераканаўся, што калгас імя Хрушчова неўзабаве выканае план хлебанарыхтовак, значыць, ён, старшыня райвыканкома, мае рацыю, а не Акапян. Але не давала спакою думка пра ананімку. Можа, той чалавек зараз тут і ў душы

пасміхаецца... Пракапенка адвёў убок Мацвея Сахуту, распытаў яго пра сям'ю, пацікавіўся, як здароўе.

— У Саковічах мне гаварылі, што ты там дошак напілаваў горы, грошай зарабіў кучу. А ты ўсё ў той жа гімнасцёрцы ходзіш. Купіў бы на Іллю на кірмашы бостонавы касцюм... Мусіць, у куфры ціснеш грошы...

Сахута ўсміхнуўся, тонкія маршчынкі веерам збегліся ля вачэй.

— Хто ж вам так данёс? Пару разоў з'ездзіў у выхадныя дні з сынам. Зарабіў як Хама на воўне: кажух абстрыг, а воўну не прадаў. Людзі голыя, галодныя. Памагчы трэба. Якія там заробкі...

Пра ананімку Пракапенка не сказаў — язык не павярнуўся, ды і вырашыў спачатку абгаварыць усё са старшынёй калгаса, бо менавіта на яго ўвесь агонь скіраваў Акапян.

— Ну што, Макар Тарасавіч, ёсць яшчэ ў мяне пару пытанняў. Дзе б нам паталкаваць, каб без чужых вушэй...

— Паедзем да мяне. Ты во дзень матаешся, нябось і не абедаў? Во сядзем на воз і паедзем. А Навум пад'едзе без нас,— Казакевіч пачыкільгаў да свайго вазка, упэўнены, што адмаўляцца госцю не выпадае.

Навум успрыняў такі варыянт з радасцю, сказаў, што заедзе да фінагента Сырадоева, а потым да старшыні.

Быў позні жнівеньскі вечар. Звонкая цішыня панавала вакол. Толькі чуўся аддалены грукат трактара на таку — гук, які радаваў Пракапенку, бы найлепшая музыка: малацьба ідзе поўным ходам. Заўтра прыйдуць машыны, іх нагрузяць хлебам... За сталом, калі вячэралі, размову пра сутычку з Акапянам не пачынаў. Затое тут, на ганку, абгаварылі ўсё. Казакевіч расказаў пра гісторыю з яблыкамі, як падкузьміў яго конюх Сідар. Пракапенка адкрыта, без утайкі пераказаў сваю размову з Акапянам, згадаў і пра ананімку.

— От жа знайшоўся нейкі гад. Ці даўно на Івана Сырадоева нехта накатаў. Зноў, тваю маць... Што за людзі...— з прыкрасцю ў голасе сказаў Казакевіч.— Навучыліся пісаць даносы... Што ж, калі вялікі вучыцель і друг бласлаўляе на ета. Ён і навучыў... Вунь ужо скора год ідзе ў газетах паток прывітанняў... Навыперадкі стараюцца лізнуць... І мы ж пісалі летась. Дык буран усхапіўся, страху знесла ў клубе. Прырода ўжо

не вытрымлівае. А людзі змушаны цярпець. І дакуль ета будзе?

— Покуль дуба не дасць... Не людзі стараюцца лізаць. Падхалімы, лізаблюды, якія вакол яго круцяцца. Вось таму яно, брат, так і вядзецца,— уздыхнуў Пракапенка.— Помню выбары сорак шостага года. Чытаю выступленне аднаго дзеяча, які гаворыць, што ў вайне мы перамаглі дзякуючы геніяльнаму вадзіцельству велічайшага народнага правадыра і палкаводца ўсіх часоў... Адзін раз выехаў на фронт у браніраваным вагоне — і вялікі палкаводзец, генералісімус... А Жукаў, Конеў, Ракасоўскі, значыць, не палкаводцы... Мільёны людзей леглі на вайне, а яшчэ раней колькі... Заместа вынішчэння кулакоў, заместа праполкі, бралі жменяю. Спускалі разнарадку на вёску, колькі ў ёй павінна быць ворагаў народа...

— А хто так сказаў, што палкаводзец усіх часоў?..

— Хто? Жалезны нарком Кагановіч...

— Дажыліся. Адзін жалезны, а другі стальны. Дзіва што няма чалавечнасці. Дзіця піша данос... Як ета мы з табой выжылі? Я хоць без нагі, але яшчэ шкандыбаю па зямлі, жонку абдымаю, дзяцей гадую. Слухай, Яўсеевіч, не паеду я на бюро. Скажы Акапяну, што захварэў... Не, лепей я сам пазваню. От машыны адправім заўтра, я і адрапартую. Паглядзім, што ён запяе, душа любезны. Яблыкі ён мне не дарue... Ну, трэба ж такая гісторыя... Але не паеду. Што будзе, тое будзе... Завочна вымовы не даюць,— рашуча сказаў Макар Тарасавіч.

— Можа, і правільна будзе. А мы на выканкоме паслухаем ваш калгас. А ты дай раскрутку брыгадзірам, падрыхтуй спіс працаздольных, у якіх мала працадзён і чаму...— Пракапенка памаўчаў, зноў загаварыў: — Я вось думаю пад'ехаць у Магілёў, параіцца з Лугаўцовым. Скажу, што мы з Акапянам як два павукі ў слоіку. Нас трэба развесці... Здаецца ж, неблагі чалавек, а ўсё болей пачынае браць горлам, грукаць кулаком. Бярэ прыклад з вялікага правадыра... Ты знаеш, Макар, іншы раз бяссонне нахопіцца, усё думаецца... Каб Ленін пажыў болей, можа б, шмат што ў нас было не так. І ў калгасы, можа, людзей не так бы зганялі...

— Можа, і вайны б не было, га? — падхапіў яго думку Казакевіч.— І праўда, як падумаеш, галава

кругам. Шкада, чалавечае жыццё нельга пражыць нанава...

Спачатку сядзелі на ганку, а потым уладкаваліся на лавачцы каля палісадніку, у якім цвілі высокія жоўтыя і ніжэйшыя, але затое буйнейшыя цёмна-чырвоныя вяргіні. У цемры замільгалі фары, гэта ехаў Навум на «Пабедзе».

— Ну, трымайся, не хварэй,— Пракапенка падаў руку, хоць яму хацелася абняць Макара.— Рабі так, як надумаў...

Назаўтра прымчалі тры грузавікі, нагрузілі па тры тоны збожжа на кожны. Раўнягін прыскакаў на кані, сказаў на нарадзе, што адправілі паўтараста пудоў. Казакевіч павесялеў і, як толькі разышліся праўленцы, узяўся круціць тэлефон. Доўга не мог дазваніцца, нарэшце праз шоргат і трэск пачуўся далёкі голас Акапяна. Макар Тарасавіч аблізнуў сасмяглыя губы, адчуў, што ў горле ўсё перасохла, мацней сціснуў чорную тэлефонную трубку, якая ўжо нагрэлася ў ягонай далоні, і з усяе моцы пачаў крычаць:

— Сяргей Хачатуравіч, добры дзень! Ета Казакевіч. Дакладваю: сянні во толькі што адправілі на машынах дзевяць тон збожжа. З вёскі Вішні павезлі на конях паўтараста пудоў... Алё, чуеце, Сяргей Хачатуравіч?

— Чую, Макар Тарасавіч! Гэта добра. Неблагі каравай.

Макар вырашыў перахапіць ініцыятыву, пачаў гаварыць, што ў іх малацьба ідзе круглыя суткі, вось толькі ён прыхварэў: радыкуліт замучыў, спасу няма, спіна разламваецца...

Акапян доўга маўчаў, потым праз шум і трэск пачулася:

— Папарыцца трэба ў лазні. Венікам бярозавым пахвастацца, і радыкуліт як рукой здыме. Не хварэй, душа любезны. Жадаю поспехаў! Бывайце здаровы!

Казакевіч трымаў ля вуха трубку і не верыў, што размова скончылася. Ні слова пра бюро... Не паспеў ён павініцца і за яблыкі, потым разважыў, што, можа, так і лепей: не крычаць жа пра такое па тэлефоне, а бюро, мабыць, адклалі.

А тым часам Акапян ужо званіў Пракапенку і як ні ў чым не было, нібы і не спрачаліся яны ўчора, сказаў, што ў калгасе імя Хрушчова з хлебанарыхтоўкай

справы пайшлі на лад, то заўтра на бюро выклікаюць старшыню калгаса імя Сталіна Бяседавіцкага сельсавета.

— А Казакевіча ты, душа любезны, абмяркуй на выканкоме. Брыгадзірам дай накачку. І гэтага... Саху-ту прыструні. Тады і закрыем гэту ананімку... Дысцыпліну трэба падцягваць, інакш мы вылецім у трубу... Да, Антон Яўсеевіч, здаецца, мы ўчора занадта гарачыліся...

— Хто гэта «мы»? Я не гарачыўся,— сказаў Пракапенка з усмешкаю, маўляў, прымаю правілы гульні і гатовы забыць мінулае.

Акапян гэта адчуў і добразычліва сказаў:

— Ну, бывай, душа любезны...

Пракапенка доўга сядзеў над сталом, думаў і зразумеў, што нікому ён не будзе скардзіцца.

## XXIV

Вулька падаіла карову, малака тая давала з кожным днём усё меней, бо ацялілася рана, а тут ужо канчалася лета, і ўсё ж амаль на трэць драўлянай даёнкі паднялася пышная сінявата пена сырадою. Вулька ўзялася за клямку дзвярэй, калі пачула, што ля двара спынілася падвода. Яна паставіла даёнку, мітнулася да варотцаў, зірнула на вуліцу, і сэрца яе ўзрадавана затахкала: на возе ў квяцістым гарусе сядзела нявестка Валя, Свідэрскі абкручваў лейцамі вярбу — прывязваў каня.

Яна ўспомніла, што ўчора на заручынах маладыя дамовіліся паехаць сёння ў горад, купіць сяго-таго, запрасіць гасцей на вяселле — усё раённае начальства. Вулька і радавалася, і ганарылася, і баялася: ці змогуць яны дагадзіць начальнікам, ці хопіць яды і пітва. А найболей яе радавала, што ўдалося адбіць сына ад гэтай распусніцы Вольгі, што яму не давядзецца гадаваць чужога байструка. Вопрамеццю кінулася старая ў хату, паставіла даёнку пад лаву, зняла запэцканы фартух, крыкнула сыну ад парога, што прыехалі госці. Іван ужо ўбачыў калёсы ў акно, апрануў цёмназялёны фінагентаўскі кіцель з жоўтымі бліскучымі гузікамі і крутнуўся за парог. А Вулька паставіла на стол яешню са скваркамі, чыгунок бульбы і міску са-

лёных гуркоў, ад якіх запахла кропам і часнаком на ўсю хату. Свідэрскі і Валя адмаўляліся ад снядання, але не так проста адбіцца ад Вулькі.

— Мае даражэнькія, вы ўжо не грэбуйце. Чым багаты, тым і рады. Сядайце, дарога ж няблізкая. Перакусіце троху, сядайце, мае мілыя,— нібы квактуха, мітусілася па хаце Вулька.

Іван ледзь не сілком пасадзіў за стол Валю, тады зняў палінялы картуз і Свідэрскі, нерашуча прысеў на лаву.

Неўзабаве сельсавецкі вазок каціў па хатыніцкай вуліцы. Андрэйка Сахута высунуўся з двара — зірнуць, ці не гоняць кароў. Ён стаяў басаніж на халоднай, вільготнай ад густой расы мураве.

— Ну што, Андрэй, паехалі ў горад. Кніг табе купім,— душа Івана Сырадоева спявала ад радасці, і яму хацелася ўсім рабіць нешта добрае.

— Няма калі. Ды і грошай няма,— сур'ёзна адказаў хлапчук, сумна падумаў, што ён яшчэ ніколі не быў у горадзе, які ўяўляўся яму надзіва вялікім і прыгожым, вядома, не такім, як Масква ці Магілёў, але ж у ім ёсць мураваныя дамы, драўляныя тратуары, у ларках і крамах прадаюць цукеркі, пячэнне, морс, і нават ёсць там кнігарня.

Андрэйка з сумам глядзеў услед фурманцы, бачыў, як выйшла з двара з віламі Вольга Чарнякова. Але не мог хлапчук бачыць, як падціснула вусны і адвярнулася ад суперніцы Валя, адчуваючы ў грудзях ганарлівую радасць перамогі, на імгненне варухнулася і адчуванне віны, трывогі: ці назаўсёды забыў сюды сцежку яе малады муж. Краем вока яна згледзела, як нібыта абыякава прывітаўся Іван у адказ на Вольгіна «Здароўце вам», як успыхнулі, зачырванеліся мочкі па-хлапечы адтапыраных вушэй.

— Здароў, Вольга! — гучна павітаўся Свідэрскі. У ягоным вітанні пачулася непрыхаваная радасць. Але яго радавала не сустрэча з Вольгаю, а тое, што вязе сваю пляменніцу ў горад за шлюбнымі пакупкамі, а ўчора са смакам выпіў чарку на яе заручынах, што цяпер фінагент Сырадоеў будзе яму сваяком, працаваць і жыць яны будуць яшчэ болей зладжана.

Андрэйка вырашыў адведаць Даньку, тэпаў па вуліцы і раптам убачыў: па сцежцы паўз плот ішла Вольга, яе па-мужчынску дужыя плечы неяк апусціліся

ўніз, вочы блішчэлі ад слёз, моцныя, загарэлыя да каленяў ногі быццам нехаця неслі раптоўна пацяжэлае, абвялае цела, толькі шыракаватая смуглява-шакаладная далонь моцна сціскала вілы-тройню. Хлапчуку падалося, што яна не заўважыла яго, і ён моўчкі спыніўся, здзіўлены, уражаны. Сэрца яго балюча зашчымела. Ён чуў пра тое, што Іван «ходзіць» да Вольгі, верыў і не верыў гэтаму, бо ці мала што плявузгаюць у вёсцы. А цяпер сэрцам адчуў: праўда. І так яму зрабілася шкада Вольгі: чаму яе сын расце без бацькі? Чаму Цімох не ажаніўся з ёю, але тут жа ўспомніў, што ў Цімоха ёсць свая жонка. А Іван жа быў вольны, халасты, ён жа мог узяць Вольгу, дык не — пагнаўся за гэтай вышчаркай з Парцюкоўкі. Згадаў і чутае ад старэйшых: да вайны Вольга была ўхажоркаю іхняга Пятра.

«От каб наш Пятрок вярнуўся з вайны, ён бы ажаніўся з Вольгаю... Яго няма, і яна засталася адна... Каб я быў дарослы, абавязкова ўзяў бы Вольгу сабе ў жонкі. Яна такая прыгожая, здаровая. І працуе, і спявае, і скача лепей за ўсіх»,— думаў хлапчук, і недзе глыбока, у падсвядомасці, мільгануў успамін: Вольга, высока задраўшы спадніцу, пераходзіць Бесядзь, а ён цікуе з-за кустоў, бачыць яе калені... Ад гэтага ўспаміну яму зрабілася сорамна, ён спалохана азірнуўся: Вольга была ўжо каля выгану, толькі паблісквалі трохзубыя вілы на яе плячы.

Вольга павярнула на выган, праз слёзы ёй адкрылася шырокае роднае поле, новае калгаснае гумно, ток, стагі саломы. Вочы памалу высыхалі, на душы святлела. Ішла яна павольна, адчуваючы пад сэрцам цёплы камячок — там расло, дужэла новае жыццё. Можа, не трэба мне яшчэ адно дзіця, снаваліся думкі, з двума яшчэ цяжэй выйсці замуж. А за каго выходзіць? Адзіная была надзея, хоць і вельмі кволая, што Іван адважыцца, бо так горача абдымаў і цалаваў пры кожнай сустрэчы. Апошні раз нават раўніва пачаў дакараць: чаму яна так адкрыта з Цімохам хадзіла за стог саломы? Вольга не стрымалася, гулліва зарагатала: «Раўнуеш? Ой, як ета прыемна! Дык, можа, пажэнімся?» — «Ну во, ты з Цімохам цягаешся... Уся вёска балабоніць...» — «Нікуды я не цягаюся... Страмнік ты, бяссовесны... Дзіця ў мяне будзе. Ад цябе. Таму і Цімоха за стог пазвала... Каб на яго падумалі...» — яна

заплакала, Іван пачаў яе суцяшаць, цалаваць, лашчыць. І так горача, нібы рабіў гэта апошні раз... Не, хай будзе дзіця, рашуча страсянула галавою Вольга, нібы з некім спрачалася. І каб дзевачка... Будзе сястра ў Пеці. Ужо не сіратою сынок будзе расці. Матка ёсць і сястра. Неяк жа пракормімся. Дзе адзін байструк, там і другі...

Іван Сырадоеў таксама думаў пра Вольгу. Яго непакоіла і трывожыла, што ў яе будзе дзіця, а калі нарадзіцца сын, падобны на яго, Івана, тады ўсе здагадаюцца, хто сапраўдны бацька. Ад гэтай думкі прыкра зрабілася на душы, адчуванне віны перад Вольгаю захліснула яго, а потым нібы выплыла з глыбіні душы і пачуццё ўдзячнасці ёй, удзячнасці за гарачыя пацалункі і абдымкі, за незабыўныя, радасныя сустрэчы і нават за тое, што адвяла ад яго падазрэнні... А можа, Цімох сапраўды заходзіў да яе? Мо і праўда гэта яго дзіця? І тут жа адагнаў гэтую думку прэч, пачаў дакараць сябе: «Прахіндзей ты, Сырадоеў. Яна да цябе ўсёй душою, а ты з адной быў на танцах у клубе, а з другою абдымаўся пад стогам... Усё, трэба з етым канчаць,— ён зірнуў на Валю, якая хінулася да яго цёплым плячом.— Валю буду жалець. Ніхто мне болей не патрэбны. А Вользе буду цішком памагаць, калі дзіця народзіцца»,— і ён адчуў моцнае жаданне, каб хутчэй Валя нарадзіла яму сына.

Свідэрскі падганяў каня. Калёсы каціліся лёгка па ўкатаным гасцінцы, неўзабаве паказаліся хаты Белай Гары.

— Едзьце каля саду. Напрасткі, а я прайдуся да сельсавета... Ты, Іване, перш-наперш запрасі Даўгалёва, а потым іншых, каго захочаш. Ну, трымай лейцы,— лёгка саскочыў з воза і размашыста пасігаў па вясковай вуліцы.

Сонца паднялося вышэй, паветра пацяплела, разгараўся светлы жнівеньскі дзянёк. Старыя яблыні згіналіся пад цяжарам чырванабокіх, жоўта-залацістых яблыкаў. Валя развязала гарус, апусціла яго на плечы, папраўіла туга заплеценую касу. Іван абняў сваю маладую жонку, пацалаваў. Яна прыльнула да яго. Конік скасавураным вокам азіраўся на іх, ішоў усё цішэй, а потым спыніўся, скубануў роснай прыдарожнай муравы. Іван быў замахнуўся пугай, але яго руку затрымала Валя:

— Хай троху скубане. На саковіцкім бальшаку такой муравы няма,— і зноў прыхінулася да свайго жаніха.

Конік са смакам скуб траву, задаволена фыркаў. З правага боку маладых закрывала зялёная сцяна густых вярбовых прысадаў, а злева разбягаліся ўдалячынь шарэнгі яблынь. Радасць жыцця перапаўняла Івана Сырадоева. Мабыць, яшчэ большую радасць адчувала і яго нявеста, бо яшчэ ніколі так не цалавала яна ніводнага хлопца, да таго ж мела яна сваю мэту, дасягнуць якой імкнулася пяшчотаю.

— Ну дык як, Ваня, паедзем вянчацца?

— Зноў ты пра сваё. Нельга мне. Я ж табе казаў, як мяне прапясочылі за тое, што на ксьціны хадзіў... А за вянчанне з партыі выключаць, з работы вытурацць...

— Нічога з тваёй парціяй не зробіцца, калі мы як людзі абвянчаемся. Спрадвеку так вялося...

— От запішамся ў сельсавеце. Вяселле згуляем. І жыць будзем лепей, чымся тыя, хто ў царкве вянчаўся,— супакоіў Іван сваю нявесту і сцёбнуў пугаю коніка.

У райцэнтры маладым шанцавала: у раймагу даволі хутка купілі чаравікі, у іх нявеста падалася вышэй ростам, і так яны лоўка сядзелі на зграбных загарэлых да каленяў нагах. Валя з удзячнасцю глядзела на свайго жаніха, і поўныя, пульхныя губы яе моршчыліся ад жадання пацалаваць яго. Ад радасці яна гатова была смяяцца і плакаць. Пашанцавала ім і ў райвыканкоме: Даўгалёў быў на месцы, сустрэў іх цёпла, па-зямляцку шчыра, паабяцаў абавязкова прыехаць на вяселле. Узрадаваны, Іван выказаў жаданне запрасіць і старшыню райвыканкома, бо некалі на бюро райкома ён устрымаўся, не галасаваў за вымову фінагенту Сырадоеву. Але Даўгалёў астудзіў пыл жаніха, сказаў, што Пракапенка паехаў у Магілёў, запытаў, ці запрасіў сваё начальства з райфінаддзела. Сырадоеў не паспеў нічога адказаць, як дзверы кабінета расчыніліся, на парозе стаяў упаўнаважаны па нарыхтоўках Жмуроўскі:

— Ты заняты, Касьянавіч?

— Заходзь, Міхаіл Сямёнавіч. Гэта во землякі да мяне награнулі. Жаніх і нявеста...

— Ну, жаніха-то я ведаю,— Жмуроўскі падаў фін-

агенту руку.— Нейкім чынам калегі. А вось нявесту бачу ўпершыню.

Валя заружавелася, як макаў цвет, і зрабілася яшчэ больш прыгожай і прывабнай.

— Вунь якая прыгажуня. Дзіва што ён нікому яе не паказваў,— усміхаўся Жмуроўскі.

— Дык вось, Міхаіл Сямёнавіч, запрашаем вас на вяселле. Прыязджайце ў суботу ў Хатынічы,— адразу пайшоў у наступ Сырадоеў.— Касьянавіч абяцае быць...

Жмуроўскі зірнуў на Даўгалёва, шырока развёў рукі:

— Рад бы ў рай, ды часу няма... Абяцаць не магу... Зрэшты, пабачым. Ва ўсякім разе, віншую вас, жадаю шчасця і кучу дзяцей... Касьянавіч, можа, я потым зайду?

— Мы пайшлі ўжо,— Сырадоеў рашуча ўзяў за руку нявесту.— Чакаем на вяселлі. Прыязджайце, не пашкадуеце...

— Ты ўжо так не хваліся, —папікнула яго Валя, калі выйшлі на вуліцу.— Такія важныя начальнікі. А ў нас ні посуду людскага, ні прысмакаў якіх...

— Не бядуй, Валюха. Усе начальнікі з такога ж цеста, як і мы з табою. І ўсе яны ходзяць голымі пад сваім адзеннем, так гаварыў мой камбат. А ён быў чалавек разумны... Загінуў, бядняга,— ціха дадаў Сырадоеў.

Райфінаддзел знаходзіўся ў асобным будынку, і пакуль ішлі да яго, жаніх не сказаў ні слова: успамін пра камбата, пра іншых сяброў, якіх ужо няма на свеце, з нечаканай сілай і болем абрынуўся на яго.

Чэпікава таксама не аказалася на месцы, і жаніх яшчэ болей замаркоціўся. Валя адчула яго настрой, прапанавала паабедаць. Яны зайшлі ў сталоўку, што месцілася насупраць раённага Дома культуры. Быў час абеду, амаль усе сталы занятыя, але ў кутку ля акна Сырадоеў здаля ўгледзеў вольны стол і пацягнуў туды Валю. Толькі яны ўселіся, як падышла другая пара. Сырадоеў пазнаў суддзю Васіленку і даўнюю знаёмую Ніну Гаўрыленка з райкома партыі, згадаў, што нядаўна бачыў іх разам на кірмашы ў Саковічах, і падумаў: мабыць, і ў іх будзе скора вяселле.

За сталом разгаварыліся, Іван расказаў, які клопат прывёў яго і Валю ў райцэнтр, запрасіў суддзю і яго сяброўку на вяселле.

— А што, гэта вельмі цікава. Паедзем, Жэня? — І, не чакаючы адказу, Ніна дадала: — Хатынічы мне ўрэзаліся ў памяць, калі падарункі франтавікам збірала. Апошняе аддавалі людзі...

А потым густым баском загаварыў суддзя.

— Шкада, што мы ў наступную суботу ад'язджаем... Мне таксама хацелася б пабыць на вясковым вяселлі. А заручыны ў вас яшчэ робяць?

Сырадоеў не спяшаўся адказваць на гэтае пытанне, бо яшчэ не забыў, як далі яму прачуханку за хрэсьбіны, затое Валя, узрадаваная, што яе жаніха ўсе ведаюць у раёне, ставяцца да яго з павагаю, захацела паказаць сябе:

— А як жа? Бываюць заручыны. На іх дамаўляюцца, калі будзець вяселле. Нявеста падносіць маладому ручнік. На ім хлеб і соль...— у гэты час яна адчула, што нехта наступіў ёй на нагу.

На хвіліну Валя разгубілася, убачыла, як непрыкметна міргануў ёй Іван, але не зразумела, што гэта азначае: хіба і пра гэта нельга гаварыць, бо чалавек жа пытаецца, слухае так уважліва. І яна апавядала далей:

— На стале скацірць белая. Нявеста абносіць гарэлкаю таварышак і хлопцаў. Матка нявесты запальвае свечку... Сяброўкі нявесты, на вяселлі яны будуць паднявесніцамі, ну, дружкамі, песні пяюць...

У гэты час Іван зноў ціскануў ёй нагу. Валя прыкусіла язык, зачырванелася.

— Ну, а далей што? — наперабой пыталіся суддзя і галоўны агітпроп раёна.

Сырадоеў зразумеў, што адступаць няма куды, зрэшты, і гаварыла Валя не пра свае заручыны, а пра тое, як увогуле ў Хатынічах выдаюць дзеўку замуж, ён супакоіўся і нават падахвоціў апавядальніцу:

— Калі ўжо сказала «а», дык гавары і «б». Не дражніся...

— Дык от матка запальвае свечку, ставіць яе ў цэлы бохан хлеба. Кладзе на хлеб падарункі. Сватам — паршырынкі, ета хусткі такія саматканыя, а жаніху паркалёвую хустку. А дзеўкі спяваюць: «Ляцелі гусачкі — не крычалі, толькі адна гусачка пракрычала, чуючы зімачку халодную, чуючы марозы траскучыя. А йшлі дзевачкі — не плакалі, толькі адна...— Тут імя дзяўчыны ўстаўляецца,— заплакала...» Пяюць і жартоўныя

песні. Як сваты хаты дай не ведалі, ды ў хлеў заехалі. Бычку ручку далі, а кароўцы шапку знялі, а з цялушкай прывіталіся, авечачцы пакланіліся...

Ніна Пракопаўна заўсміхалася, а суддзя нават сцішана зарагатаў. Павесялеў і хатыніцкі жаніх, з гонарам зірнуў на сваю нявесту, маўляў, во якая прыгожая і разумная, колькі песень ведае...

Афіцыянтка прынесла абед. Ніна Пракопаўна падсунула талерку мужу, другую — да сябе, узяла кавалачак хлеба, усім выглядам паказваючы, што трэба абедаць. Але суддзя, усхваляваны расказам Валі, не спяшаўся есці, задуменна сказаў:

— Добра, што гэтыя звычкі яшчэ жывуць між людзей.

— Не так ужо і добра. Забабоны гэта. Цемната,— важка, як адрэзала, сказала Ніна Пракопаўна.

— Не, мая мілая, я з табою не згодзен. Рэлігія — опіум. Але народныя традыцыі, звычкі, песні хай жывуць,— упэўненым басам даводзіў суддзя Васіленка.

«Які харошы, разумны чалавек,— здзіўлена слухала яго Валя.— Хоць і суддзя, а саўсім не страшны». А вось пра Ніну Пракопаўну яна пачала думаць без ранейшай прыхільнасці, нават чамусьці ёй зрабілася шкада маладога мужа: ці будзе ён шчаслівы? Мабыць, ён бы дазволіў Івану і пад вянец з'ездзіць, а гэтая жоначка-райкомаўка абавязкова запярэчыць. Валя вырашыла пра вянчанне і не заікацца.

Моўчкі сёрбала суп Ніна Пракопаўна, маўчаў і Сырадоеў, а суддзя Васіленка не заціхаў: сказаў, што вяселле іхняе было ў мінулую суботу, сабраліся сябры, калегі, пасядзелі, паспявалі, разы са два крыкнулі «горка». Пры гэтых словах маладая жонка суддзі паморшчылася, зірнула дакорліва, але малады муж лагодна ўсміхнуўся і гаварыў далей: шчырасць Івана і асабліва Валі выклікала ў яго шчырасць у адказ, жаданне расказаць пра сваё, бо ён адчуваў сябе шчаслівым, у думках лаяў сябе, што раней так баяўся схадзіць з дзяўчынай на танцы, каб пра яго нечага не падумалі благога і яго аўтарытэт не пахіснуўся.

Дамоў ехалі Іван і Валя стомленыя, шчаслівыя. Перад Хатынічамі нявеста зноў загаварыла пра вянчанне, Іван зноў адказаў сярдзіта, маўляў, хопіць пра гэта гаварыць.

— Ну, калі мы ў царкву не паедзем, дык ужо іншае

ўсё хай будзе як у людзей. І песні, і каравай, і дараванне...

Тут жаніх не пярэчыў, моўчкі прыхінуў да сябе нявесту.

А ў Хатынічах і ў Мамонаўцы-Парцюкоўцы рыхталіся да вяселля. Вулька параіла сыну, каб за свата запрасіў хроснага бацьку Арцёма Шандабылу, а Міколу за музыку. Ну, а барабаншчыкаў хапае, і ўсё ж нехта павінен быць запрошаны і на гэтую ролю. Выбар паў на Ваську Сахуту. Андрэйку і Даньку таксама дасталося заданне — прынесці з лесу дзеразы, каб ёю ўпрыгожыць дугу жаніховай падводы.

Амаль уся вёска рыхтавалася да вяселля, як да вялікага свята. У Шамаўскім руччы, дзе ўпадае Упярочны роў, Хадора і Параска гналі самагонку. На гэты раз яны нікога не баяліся, бо ведалі, што Свідэрскі не пакрыўдзіць пляменніцу, участковы Бравусаў таксама будзе гуляць на вяселлі.

Кіпела работа і ў нявесцінай хаце: шылі вянчальнае плацце, маладому рубаху, вышывалі ручнікі, хусцінкі, рыхтавалі вянок. Парцюкоўцы спявалі песні нявесце. Дзяўчынкі-падлеткі, якія пасвілі кароў ля Бесядзі, і тыя спявалі вясельныя песні, славілі нявесту Валю. І ў гэтым велічальным хоры вылучаўся высокі і звонкі галасок Варонінай Нінкі.

І вось надышоў дзень вяселля. Ужо зранння каля хаты Сырадоевых тоўпіўся гаманкі натоўп. Усхваляваны, расчырванелы жаніх у белай шаўковай кашулі і цёмназялёных фінагентаўскіх штанах, як чаўнок, снаваў з хаты на вуліцу. Сват Арцём, не выпускаючы з рота цыгарку, аддаваў апошнія распараджэнні. Кіраваў і дзед Гылігор. Паднядзелены, у навюткіх картовых штанах у палоску, запраўленых у кірзачы, шчодра вымазаныя каланіцаю, у старым, але акуратным цёмным пінжаку дзед выглядаў урачыста і строга.

— Чакай, Арцёмка,— перапыніў ён свата, калі той закамандаваў пячы каравай.— Жанкі, дайце мне венік і ўціральнік.

Вулька хуценька падала венік і ручнік. Дзед спаважна падперазаўся ручніком і пачаў падмятаць хату, крэкчучы і прыгаворваючы: «Косці старыя не хочуць гнуцца. Ды чаго не зробіш дзеля шчасця маладых!» — дзед узвысіў голас, убачыўшы на парозе жаніха. Падмёўшы хату, Гылігор тры разы стукнуў праваю нагою ў

печ: «Спячы добры каравай. Каб Іванку жылося добра. Каб пілося, елася і яшчэ хацелася... Нут-ка, бабы, падымайце дзежку вышэй...»

Хадора, Параска і Кацярына Сахута высока, аж пад самую столь, паднялі дзежку з каравайным цестам. Затым Кацярына садзіла цеста ў печ на доўгай драўлянай лапаце, а стомлены дзед Гылігор сціпіана сеў у дальні кут, каб каравай яго не палохаўся і не разышоўся.

Іван між тым прыслухоўваўся, ці не загудзе машына — чакаў раённых гасцей. Але прыехалі яны на падводзе. Ён здаля пазнаў саламяны брыль Даўгалёва і шэрую кепку Чэпікава, свайго непасрэднага начальніка. Пашкадаваў, што госці не на машыне — не той шык, ды што зробіш, значыць, нешта не атрымалася з транспартам. Іван не кінуўся насустрач гасцям, счакаў, пакуль яны пад'едуць да хаты, тады нетаропка пайшоў да іх. Услед за ім пачыкільгаў Арцём Шандабыла — галоўны сват. Выбегла Вулляна, гучным голасам загаманіла:

— А госцейкі дарагея, міласці просім да нас...

Даўгалёў па-зямляцку вітаўся з усімі, падаваў руку, настаўніка Мамуту абняў па-сяброўску. Многіх ведаў і Чэпікаў, бо не раз даводзілася яму бываць у Хатынічах.

— У цябе ж канікулы, а ты нешта схуднеў? Хвалюешся перад новым навучальным годам? — дапытваўся ў настаўніка Даўгалёў.

Схуднеў Мамута з іншае прычыны, але ахвотна ўхапіўся, як за выратавальны круг, за новы навучальны год, сказаў, што работы поўна, толькі закончылі рамонт, падручнікаў не хапае. «Калі што якое, зазірні да мяне, чым магу, памагу»,— Даўгалёў паляпаў яго па плячы і павярнуўся да дзеда Гылігора.

А зблажэў Мамута вось чаму: Юзя прыслала другое пісьмо, якое паштарка прынесла ў школу. З яго ён і даведаўся пра сына, здагадаўся, што першае пісьмо трапіла ў Таццяніны рукі. Юзя пісала, што малы Пеця хварэе, а ён, бацька, і вачэй не кажа, хоць бы прыслаў якую сотню рублёў на лекі... Таццяна прызналася нядаўна, што зацяжарыла, і Мамута зразумеў: дарога ў Мінск для яго закрыта надоўга. Грошы ён вырашыў адправіць з палучкі.

Вакол віравала вяселле, яно ўцягвала ў свой вадаварот і настаўніка. Жанчыны, якія ўсю ноч варылі, гата-

валі, а потым знялі пробу ды і прычасціліся па кроплі, прамачылі горла, заспявалі:

> Вой, на дварэ ельнік-бярэзнік паслаўся,
> Малады Іванька ў дарогу сабраўся...

— Ельніку не бачу, а бярозавых дроўцаў Іван накалоў багата,— кіўнуў Даўгалёў на ладную вярсту дроў пад страхою.

— А ета, братка, ты мой Касьянавіч, Іванка наш умеіць. Мой вучанік... Дровы калоць ён майсцер,— высунуўся наперад дзед Гылігор.— Я вучыў яго: «Бі ў цэнтру тоўстага сука. Тады любы кругляк разаб'еш...» Ета ж бацька мой нябожчык расказваў. Была ў аднаго лесніка, ну, ці ляснічага, адным словам, багатага мужыка, дужа зграбная, слічная дачка. Жаніхі адзін за адным... Бацька кожнага правяраў. Рабіў екзамент. Прымушаў раскалоць тоўстае сукаватае палена. Жаніхі пацелі бедныя, тапарышчы ламалі, а разбіць тое палена не маглі. І вось прыйшоў харошы такі хлопец, высокі, гожы. Панаравіўся ён дачцэ. Бацька яму тапор у рукі — раскалі палена. Пачаў той гахаць з усяе сілы, а палена не паддаецца. Дачка глядзіць у акно і слязамі abліваецца. Думае, як бы яму памагчы. І тут, на шчасце, свіння з хлява выскачыла. Дачка вопрамеццю на двор, заганяе свінню, крычыць: «Аюсь у хлеў! Бі ў сук...» Хлопец думае: звар'яцела дзеўка, ці што? А потым датумкаў, як урэзаў тапаром у сук — палена напалам. Так і ажаніўся...

Вакол зарагаталі ўсе. Скупа ўсміхнуўся і галоўны сват,— яго пад бок штурхала Вулляна, каб даваў каманду садзіцца за сталы, але перапыніць дзеда Гылігора ён не адважыўся і цяпер запрасіў гасцей у хату. Прыезджыя і тутэйшыя дружна паселі за сталы.

А праз гадзіну песні зноў узляцелі над Хатынічамі. Мікола трасянуў русявым чубам, расцягнуў сваю гармонь. Васька ўдарыў у бубен, той заліўся малінавым звонам, «барыня» падхапіла на круг усіх заўзятых танцораў.

— Які скамарох, такое ігранне, павёў казу ў лазу на цэлае ранне...— высокі Парасчын голас лунаў над наваколлем, а яе шырокі андарак веерам матляўся на смуглявых паўнаватых нагах, на якіх зіхацелі новыя чаравікі, купленыя на кірмашы ў Саковічах.

Вяселле набірала сілу і моц. Нарэшце захмялелы

сват крыкнуў маладому, што пара запрагаць каня і ехаць да маладой. Жанкі зацягнулі песню:

Матка сына ды выражывала,
Месяцам падпяразывала,
Зоркаю засцягнула,
Доляю абгарнула:
З богам, з богам, да дзіця з богам
І з усімі святымі...

Жаніх моршчыўся, слухаючы гэтую песню, нібы ў яго балелі зубы, але дзявацца яму не было куды: спяваць песні не забароніш, на чужы раток не накінеш платок, ды і абяцаў ён маці не пярэчыць супраць таго, каб вяселле рабілася як у людзей, калі ўжо без вянчання, дык з улікам усіх іншых звычаяў і правіл. Ён пазіраў на Даўгалёва і Чэпікава, тыя былі вясёлыя, ажыўлена гутарылі, прыцішана смяяліся, словам, паводзілі як і ўсе, як і належыць на вяселлі. Калі госці паўставалі з-за сталоў, сват Арцём гучна закамандаваў:

— Бярыцеся праз хусткі за рукі! — выцягнуў з кішэні галіфэ скамечаную хусцінку, падаў руку Парасцы, тая сваю далонь з хусцінкаю сунула Даўгалёву.

Арцём нетаропка абвёў усіх вакол сталоў, звяртаючыся да сваякоў жаніха: «Благаславі, айцец, матка і добрыя людзі!» Парфір Драздоў, які з боханам хлеба стаяў ля дзвярэй, крыкнуў: «Бог благаславіць!» Напроці Парфіра таксама з боханам стаяў Мацвей Сахута. Сват узяў жаніха за руку і павёў яго да выхаду. Парфір і Мацвей паднялі боханы ўгору: госці праходзілі праз гэтыя «вароты».

Малады сеў на падводу. Дуга была абвіта аксамітна-зялёнаю дзеразою, развіваліся рознакаляровыя стужкі: гэта пастаралася Ганна, сястра жаніха. Невысокая, рухавая, сёння яна цвіла, як ружа, свяцілася ўся ад радасці: брат жэніцца, вяселле іграе Мікола, яна прыкмеціла, што ён разы тры зірнуў на яе, падалося, што нават падміргнуў. На танцах Ганна чула, што Мікола нібыта пасварыўся з Клаваю, быццам кошка прабегла між імі... І вось цяпер ён падышоў з гармонікам да Ганны:

— Ну, Ганулька, куды мяне пасадзіш? На які воз... Давай разам з табою! — Міколавы вочы хітра ўсміхаліся.

— Не, Мікола, сянні ты паедзеш на другім возе. А я з родным братцам.— Ганна прыхінулася да Івана, абня-

ла яго, той расчулена цмокнуў яе ў шчаку — мабыць, ці не першы раз у жыцці пацалаваў ён сястру, а мо цалаваў, калі вярнуўся з фронту.

Вясельны поезд з музыкаю і спевамі ехаў па вёсцы. Каля крамы вуліца аказалася перагароджанаю — хлопцы трымалі ў руках доўгую жардзіну: лавілі зайца. Ганна падала Івану жменю цукерак, каб заплаціў выкуп. Меншыя хлапчукі ахвотна расхапалі іх, а большыя не крануліся з месца, і жэрдка не зрушылася, нібы шлагбаум, вісела над пясчанаю вуліцай.

— Не, браток Іван, цукеркамі ты не адбаярышся,— бліснуў фіксаю крамнік Сямён, які таксама трымаў жэрдку.

Ганна выцягнула з-пад сена бутэльку. Лаўцы «зайца» адразу павесялелі і далі дарогу вясельнаму поезду. Песні загучалі яшчэ мацней, на ўсю моц залівaўся Міколаў гармонік. Васька малаціў у бубен, той звінеў і грымеў на ўсё Забесяддзе.

А тым часам у хаце маладой усё было гатова для бяседы. Рыхтаваліся і памагалі ўсе парцюкоўцы. Яны здаля пачулі музыку і спевы. Вясельны поезд памалу пераехаў цераз Канчанскі мост, трываласць якога выклікала сумненні. Мікола надаваў смеласці музыкаю, але трохі прыцішыў гармонь, калі ехалі міма могілак. Васька падумаў: от Коля парадаваўся б вяселлю, азірнуўся — хацеў убачыць, ці бяжыць услед Андрэйка, але спачатку згледзеў маці і бацьку на возе, а потым у гурце дзятвы пазнаў бялявую віхрастую галаву брата.

Падвода жаніха ўжо ўз'ехала на парцюкоўскую вуліцу, калі Параска і Хадора заспявалі:

Лятаў саколік кругом шатра,
Пытаў саколік, куды ў шацёр.
Цяперака ездзіў Іванечка,
Пытаўся ў Валечкі, куды на двор!
Дурачок Іванечка, неразумненькі,
Адчыні вароты, уз'едзь на двор.

Заспявалі дзяўчаты і ў хаце маладой. У песні нявеста прасіла матку, каб запірала вароцікі, бо інакай яе, маладую, возьмуць у палон: «Ай, палын, палыночак, Іванечка, палынянка, палынянка, Валечка».

Узрадаваная сваццся выкацілася з хаты ў кажусе шэрсцю ўверх і ў шапцы-аблавушцы на галаве, з хлебам-соллю. Абсыпала жытам маладых, каб жылі яны багата, высокім пявучым голасам запрасіла гасцей у ха-

ту. На самым куце пасадзілі Ганну, па левую руку ад яе — маладога, каля яго селі паджанішнікі. Каля маладога пакінулі месца для нявесты. Сват Арцём падняў чарку, прыгубіў і перадаў далей. Чарка абышла ўсіх і вярнулася да яго. Арцём выліў рэшту гарэлкі, крыкнуў: «Хай нашы маладыя так жывуць і падскокваюць».

Неўзабаве дзверы расчыніліся — Галіна, жонка Свідэрскага, вяла за руку маладую: яна даводзілася ёй дзядзінаю, на вяселлі выконвала ролю заводніцы. На далоні левай рукі заводніца несла хлеб, пояс і хустку — падарункі жаніху, а музыкам кожнаму па ручніку.

Нявеста ўжо была ў вянку, у белым плацці. Вялікія вочы яе ззялі ад хвалявання і прадчування радасці. Іван зірнуў на яе, і сэрца яго затахкала, устрапянулася: прыгожая ў яго будзе жонка, маладая, здаровая, добра, што паслухаўся маткі. І тут на імгненне ўспомнілася яму Вольга, прыгадалася нядаўняя іх сустрэча, нібы ўвачавідкі пачуўся яе шэпт: «У нас будзе дзіця...» Думкі яго перапыніла заводніца, яна падала яму падарункі, пацягнулася да яго цераз стол, каб пацалавацца. Раўнівы Свідэрскі нахмурыўся, адвёў вочы, нехта крыкнуў «горка!».

— Мне здаецца, маладым «горка», бо не п'ецца гарэлка,— нягучна сказаў Даўгалёў, але ўсе пачулі яго словы, з усіх бакоў закрычалі: «Горка!!! Горка!!!»

Іван падняўся, паднялася і Валя, яны ўпершыню адкрыта, пры ўсіх пацалаваліся. Потым селі, жаніх узяў чарку і адчуў, што яму хочацца есці і піць. Да яго з усіх бакоў цягнуліся рукі, каб стукнуцца чаркаю. Ён падышоў да гасцей з раёна. «За здароўе маладых!» — сказаў расчырванелы Чэпікаў. Даўгалёў падміргнуў Івану, шапнуў на вуха: «Добрую дзеўку адхапіў, малайчына». Макар Казакевіч прыгладзіў свой яршысты чуб, ляпнуў жаніха па плячы:

— Не лянуйся, Іване, дзяцей рабіць. Нам патрэбны кадры...

— А школе патрэбны вучні,— дадаў Мамута.

Іван сеў на сваё месца, абняў нявесту, паглядзеў ёй у вочы:

— Ну што, мілая, усе п'юць за нас, давай і мы вып'ем.

Валя прыгубіла сваю чарку, а Іван кульнуў да дна, мацней прыхінуў нявесту і адчуў сябе шчаслівым...

А ў гэты час Вольга з няпоўным кошыкам грыбоў сядзела на Бабінай гары, пазірала на вёску. Мамонаўка-Парцюкоўка адсюль была амаль што не відна, толькі бачыліся купчастыя вяршаліны дрэў. У Хатынічах было ціха, ні музыкі, ні песень не даносіў вецер. Вольга чула і бачыла, як вясельны поезд выязджаў ад Сырадоевых, выразна чуліся звонкія пілíканне гармонікa і глухое буханне бубна.

Унізе ціха струменілася Бесядзь, зрэдку ўсплёсквала рыба, асыпаўся з ціхім шоргатам жоўта-белы пясок. Вольга пазірала на ваду, сачыла за імклівымі цёмнымі колцамі, якія віравалі на павароце ракі... От бы скочыць адсюль уніз галавою. І ўсё скончана... Вада панесла б уніз па цячэнні. Можа, каля Парцюкоўкі і знайшлі б... Каму б яна адпомсціла? Нікому. Асіраціла б малога Петрыка, ён і так расце без бацькі. Загубіла б яшчэ адно жыццё, тое, што носіць пад сэрцам... Не, трэба жыць дзеля дзяцей. Ці ж толькі я без мужа? Колькі іх, удоў-гаротніц, у адных Хатынічах... У кожнай вёсцы. Колькі дзевак-векавух засталося, якія ніколі не зведаюць мужчынскай ласкі, не адчуюць сябе жанчынай-маці. Вунь і Марына Сахута ходзіць дасюль у дзеўках. А я ўсё-такі хоць трохі шчаслівая...

Успомніўся Пятрок Сахута, яе першае нясмелае каханне, такое незабыўнае. Яны нават ні разу не пацалаваліся, некалькі разоў ён праводзіў яе з клуба, сядзелі на лаўцы, абдымаліся, а пацалавацца не адважыліся — лічылася гэта за вялікі грэх. От каб ён вярнуўся, мо яны і пажаніліся б, і была б яна, Вольга, жонкаю Пятра Сахуты...

Вольга зняла старыя кірзачы, ступаючы босымі нагамі па шорсткай сухой траве, сышла ўніз па сцежцы, стала на ўтравелую купіну, якая зыбалася: вясною вада падмывала тут бераг. Ступіла з купіны на пясок, памыла ногі — вада была чыстая, халодная — канчалася лета, ночы ўсё даўжэлі і сцюдзянелі. Набліжалася восень. Вольга не хацела думаць пра восень, пахадзіла па траве, пакуль абсохлі ногі, абулася, рашыла прайсці ўскрайкам лесу, дзе раслі рыжыкі, маслякі, маглі трапіцца і беланогія смугла-жаўтлявыя баравікі-асілкі, якія шчодра раслі ў прыбяседскім лесе.

Андрэйка Сахута ў гэты час ішоў дамоў з вяселля. Ішоў адзін. Галава злёгку кружылася, ногі нібы самі неслі яго па зямлі, а зямля чамусьці гайдалася, неяк

прыцягвала да сябе, хацелася легчы, выпрастацца і заснуць. Такое адчуванне было яму ўпершыню, а з'явілася яно, гэтае адчуванне, пасля таго, як нейкая жанчына пачала выносіць з нявесцінай хаты гарэлку ў сіняй металічнай конаўцы і частаваць хлапчукоў. Андрэйка адмовіўся, але жанчына ласкава сказала: «Выпі, хлапец, за здароўе маладых. Тут жа калявіначка. Ад етага дрэнна не будзе». Андрэйка заплюшчыў вочы і зрабіў некалькі глыткоў пякучай вадкасці. Жанчына разламіла напалам тоўсты пернік і дала адну палавіну яму, а другую — Паўліку. Тут з хаты гуртам пасыпаліся госці з песнямі, выйшаў Мікола і расцягнуў гармонь. Жанчыны адразу пайшлі ў скокі, размахваючы рукамі з хусцінкамі, гучна спявалі, тупалі нагамі. Хадора, Параска, Кацярына Сахута таўкліся побач. Сват Арцём стаяў у сярэдзіне круга, зрэдку прысядаў, моцна ляпаў далонямі па халявах ботаў і крычаў: «Весяліцеся, людцы добрыя. Вяселейка сяння ў нас».

Жанчыны заспявалі прыпеўкі. Параска моцна тупнула новымі боцікамі, гучна заспявала:

А дзе ж дзеўся Васілёк Еўчын?
А ён мяне ўсю ноч мэнчыў.
Узяў мяне ў ахапачку, панёс мяне на канапачку,
Уклаў свае ножкі ў мае,
Іх стала аж чатыры ў мяне,
А пятая шавялушачка, шавялілась каля брушачка...

Смех, рогат пачуліся вакол. «Парасся, ты хоць бы малых пасаромілася»,— паўшчувала спявачку Хадора, але сват Арцём рашуча запярэчыў:

— Добрая, вясёлая песня. Усё як у жызні бывае...

— Я табе пакажу — бывае! — замахнулася на яго Хадора, але грозны муж і галоўны сват Арцём з нечаканым спрытам нырнуў у людскі вірлівы гурт.

Вяселле набірала сілу і моц. Ужо і меншыя дзяўчынкі пачалі прытопваць босымі нагамі. Нінка Варонiна з такой жа цыбатаю сяброўкай кружылася пад музыку. Андрэйка, пасмялелы, адчуў, што яго цягне нейкая сіла ў круг, і каб не было так відна, пайшоў бы ў скокі.

З хаты высунуўся і сам жаніх Іван Сырадоеў, ведучы за руку Валю. Рознакаляровы нявесцін вянок засвяціўся на сонцы, і сама нявеста яшчэ болей заружавелася.

— Вальс для маладых! — закамандаваў Арцём,

шырока развёў рукі, нібы адсунуў убок шумлівы, галасісты жаночы гурт.

Нявеста паклала руку на плячо жаніху, прыжмурыла вочы — ці то ад зыркага сонца, ці то ад прадчування шчасця, Іван рашуча тупнуў ботам і спаважна закружыў нявесту па зялёнай мураве, што густа расла на двары. Андрэйка сачыў за імі, і раптам яму зрабілася сорамна: ён жа пісаў у райком на Івана, мабыць, яго лаялі там, хацелі выключыць з партыі, добра, што гэтага не зрабілі, што насуперак дзядзьку Пархвіру Іван гуляе сваё вяселле. Хлапчук пазіраў, як жаніх лоўка, спрытна кружыць нявесту, і адчуў, што і ён пачаў кружыцца таксама. Спачатку вельмі здзівіўся, бо не рабіў ні кроку з месца, потым да яго дайшло: гэта кружыцца галава, спалохаўся, што ўпадзе, і цішком пасунуўся на вуліцу, патэпаў далей, сам не памятаў, як апынуўся на могілках. Тут яму зрабілася вусцішна, трохі ацверазеў, адшукаў Колеву магілку — зялёны курганок зямлі, над якім узвышаўся пацямнелы драўляны крыж, парослы зеленаватым мохам. Побач была магілка Маруські, далей — бабы Васілісы, дзеда Патапа, якога малы Сахута зусім не помніў, бо памёр дзед яшчэ да вайны.

Хлапчуку захацелася плакаць, асабліва шкадаваў ён Колю. Сёння вяселле, хатыньчане і парцюкоўцы скачуць, песні пяюць, а Коля іх не чуе і не бачыць... І Пятрок не вярнуўся з фронту...

Андрэйка сеў на лавачку, якую яны з Васькам змайстравалі каля братавай магілкі. Згадалася радаўніца: усе вяскоўцы па абедзе сабраліся на могілках, людзей сышлося, нібы на кірмашы. Маці заслала магілкі белымі абрусамі, на Колевай магілцы, таксама засланай абрусам, паставіла міску аладак, талерку яечні-драчоны, парэзанае сала, іншую закусь, пляшку сіняватага пітва. Усе паселі вакол магілкі. Хвіліну сядзелі моўчкі. Свяціла зыркае сонца, вецер матляшыў яшчэ голыя дрэвы, на якіх толькі раскрывалася зялёнае кволае лісце. На буслянцы гучна заклекатаў бусел. «Ну што, пачнём? Суседзі абедаюць ужо»,— сказаў бацька.

Маці паклікала ўсіх радзіцелькаў — і малых, і старых на абед. Вакол чулася сцішаная гамана. Памалу пусцелі бутэлькі, галасы гучнелі, мацнелі. Падышоў Парфір Драздоў, бацька наліў яму шклянку. Мужчыны выпілі, маці і Марына толькі прыгубілі. Васька дапіў сваю шклянку, выцер абсіверанай шырокай далонню

прыпухлыя вусны, узяў ладны кус сала і блін. Андрэйку заўсёды хвалявала сцішаная ўрачыстасць радаўніцы, белыя абрусы на могілках. Колькі ён памятае, у гэты дзень заўсёды было сонечна і ветрана, крычалі гракі і галкі, клекатаў бусел. Абедаць збіраліся вялікімі сем'ямі — родзічы, суседзі. Потым гаманлівымі купкамі, з лёгкімі кайстрамі і вузялкамі, з пасвятлелымі тварамі вярталіся дамоў.

...Галава ў Андрэйкі кружылася ўсё мацней, ён баяўся, што засне тут, і таму пайшоў хутчэй з кладзішча, перайшоў Канчанскі ручай і павярнуў налева, каб не ісці праз усю вёску, а вярнуцца дамоў па загуменнай дарожцы. Ён тэпаў па цупкай сцежцы, і неўзабаве наперадзе забялеўся тонкімі дрэвамі бярозавы гаёк, далей віднелася настаўнікава хата. У бярэзнічку стаяла новая лазня, над якой курэўся дымок: Іван Сырадоеў папрасіў Мамуту пратапіць лазню, каб памыцца пасля вяселля і, чыстаму, бязгрэшнаму, абдымаць сваю маладую жонку.

Андрэйка падыходзіў ужо да свайго гарода, калі ўбачыў, што па дарожцы ад Шамаўскага рова ідзе дзяўчына ў чырвонай у белыя гарохі касынцы. Ён здагадаўся, што гэта Марына, і подбегам памчаў насустрач. Бег лёгка, ад радасці не чуў зямлі пад сабою. Марына таксама ўзрадавалася яму, спытала, чаму рана вярнуліся з вяселля, ён адказаў, што ўсе яшчэ там у Парцюкоўцы, а яму захацелася дамоў. Сястра дастала з кашоўкі кніжку: гэта была чытанка па беларускай літаратуры для пятага класа. Хлапчук ішоў услед за сястрой і гартаў кніжку, убачыў партрэт прыгожага кучаравага юнака з цёмнымі вусамі і адразу пазнаў яго — то быў Максім Багдановіч.

Хлапчуку карцела пахваліцца перад сябрукамі, ён выйшаў на вуліцу, спадзеючыся ўбачыць Паўліка ці Даньку. Ён стаяў ля хаты, потым сеў на лавачку, чытаў кніжку і пазіраў на вуліцу. З правулка выйшла Вольга, яна несла поўны кош грыбоў, ішла павольна, стомлена. У цёмным старым пінжаку, белай хустцы яна нагадала Андрэйку буслiху, якую ўчора бачыў на макаўцы стога сена. Хлапчук адклаў кніжку, зірнуў на парыжэлы луг, бліскучую стужку Бесядзі. Тры буслы кружылі над Забесяддзем.

Падумалася, што хутка паляцяць птушкі ў вырай, успомніўся сон пра жураўоў, які прысніўся Андрэйку

на пачатку мінулай восені. Як даўно гэта было, які вялікі год! Але ўспомнілася ўсё да драбніц, нібы гэты сон прысніўся ўчора. Як хутка ляціць час!

Канчалася, адлятала на птушыных крылах яшчэ адно лета. Набліжалася восень. Андрэйку Сахуту чакала школа, незнаёмая, у суседняй вёсцы. Чакалі незнаёмыя настаўнікі, новыя сябры.

Чакала новае жыццё.

...А Вольга, стомленая, знямоглая, кінулася ў хаце на ложак, абхапіла рукамі падушку і завыла. Ёй хацелася галасіць на ўсю моц, каб хоць плачам заглушыць сваё гора, крыўду, што вярэдзіла душу: «Чаму я такая няшчасная? Чаму бог долечкі не даў? Чаму вышчарка парцюкоўская смяецца і скача, а я душуся слязьмі? Крычаць «горка» ім, а горка мне, як ад палыну»,— плакала і прычытала яна. Нешта кальнула пад сэрцам, Вольга села на ложку, абмацала свае тугія, як налітыя грудзі — апошнім часам яны пачалі паўнець, падумала пра дзіця. Галава кружылася, нібы ўчадзела, перад вачамі расплываліся вірлівыя колцы вады, якія бачыла на Бесядзі. Раптам ёй падвярнула пад грудзі, яна ледзь паспела дабегчы да вядра ў парозе — пачало ванітаваць...

Над Мамонаўкай-Парцюкоўкай звінелі песні, нястомна залівaўся гармонік, радасна і гулка грымеў самаробны бубен.

Ціха струменілася чыстая вада ў Бесядзі. Пахла вада аерам, лазовым лісцем і водарасцямі.

Спрадвечная рака цякла ў далёкі вечны акіян.

*1983—1987*

# ПАРТЫЗАНСКАЯ МАДОННА

## I

Цягнік спыніўся на станцыі Пагодзіна. Маладая гаманлівая хваля студэнтаў сельгасакадэміі рынулася ў вагоны. Некалькі хлопцаў і дзяўчат з лёгкімі партфелямі, сакваяжамі, фарсістымі дыпламатамі ўвайшлі ў наша купэ. Зрабілася тлумна, цесна. Пажылая кабета, што сядзела ля акна, напроці мяне, пазірала на студэнтаў, і яе абсівераны, хударлявы твар увачавідкі святлеў. Невялікія, глыбока запалыя вочы, бляклa-шэрыя, нібы выцвілыя, пацяплелі.

— Во будзе радасці маткам. Памочнікі прыехалі. Самы час бульбу капаць. За выхадныя можна багата ўхапіць, калі надвор'е не падвядзе,— сказала яна глухаватым голасам.

— У каго выхадныя, а ў каго практыка. Гуляй ды не хачу,— ухмыльнулася дзяўчына з русявай грыўкай валасоў, начэсаных на лоб, чмыхнула кірпатым носікам, абсыпаным рабаціннем, бы жаўрукова яйка.

— Што гэта за практыка такая? — здзівілася кабета.

— Скончылася практыка. Прыехала я ў калгас. Вучуся на гідрамеліяратыўным. Чацвёрты курс. Прыехала, а мне кажуць: «У нас план гарыць. Дажджы пазалівалі ўсё. Нам не да цябе. Можаш ехаць дамоў адпачываць». Вось і ўсё. Як будзем працаваць? Падумаеш, аж страх бярэ.

— Як жа так? Столькі гадоў вучыцца, пакутаваць. А паступіць як цяжка. А дзеля чаго? — кабета блізка да сэрца прыняла словы студэнткі.

— Каб з дыпломам удала выйсці замуж,— хмыкнула дзяўчо ў вялікіх круглых, бы веласіпедныя колы, акулярах.— Жаніхі пераборлівыя...

— Трэба неяк адбіраць студэнтаў. Не ведаю, як там

у меліярацыі. А ў школе і ў медыцыне павінны працаваць толькі тыя, хто любіць сваю прафесію. Іншых і блізка не падпускаць,— рашуча сказала кабета.

— Дзе ж набрацца тых, якія любяць. Ды і не ўсім удаецца паступіць,— сказала дзяўчо ў акулярах.— Хаця ёсць упартыя. Мая сяброўка пяць гадоў паступала ў медыцынскі. Санітаркаю пайшла рабіць у бальніцу. І паступіла.

— Во, гэта будзе доктар! Але ж трэ было пяць гадоў сцерці,— паспачувала кабета.— Куды глядзела тая камісія? Бачаць жа, чалавек не першы год здае. І працуе ў бальніцы. Навошта мучыць? А то коску не там паставіла, формулу мо якую забыла. Ці ў гэтым справа? У першую чаргу прымаць такіх. Бо яны працаваць будуць... А не дні адбываць, як некаторыя.

— Дзевачкі, памажыце разабрацца. Гэта па вашай часці,— высунуўся доўгавалосы хлопец з суседняга купэ.— Від канапы. Літар многа.

— Кушэтка,— сказала русявая.

— Тахта, сафа,— дадала дзяўчына ў акулярах.

— Не, не падыходзіць. Думайце. Хто адгадае, атрымае прыз: гарачы пацалунак у тамбуры,— хлопец весела выскаліўся і знік.

— У вайну так хацелася паспаць хоць бы ноч у пасцелі і ў цяпле. Хай бы на драўляным ложку,— уздыхнула кабета.

— А вы былі на вайне? — павярнулася да яе дзяўчына ў акулярах.

— Не, на фронце не была. А гора нацярпелася, хай бог сцеражэ...

— Дык, можа, вы ў партызанах былі? — спыталася русявая.

— Муж быў у атрадзе. Была і я ў лесе. Усім хапіла. І ў лесе, і ў хаце. Усюды было пекла,— жанчына адвярнулася да акна і змоўкла.

## II

За акном мільгалі заружавелыя бярозкі, чырвоныя трапяткія асінкі. Вераснёўскі дзень дагараў. Неба праяснілася, абяцаючы назаўтра пагодлівы дзянёк.

— А дзе вас захапіла вайна? — не ўцярпеў я, каб не спытаць.

— У Слуцку. Педвучылішча канчала,— ахвотна адказала кабета.— Увечары 21 чэрвеня былі танцы ў двары інтэрната. Разышліся мы вясёлыя. Некаторыя засталіся стаяць з хлопцамі. Хоць камендант не дазваляў, лаяўся. Але дзе ты ўтрымаеш? Маладыя ж былі,— мякка ўсміхнулася жанчына.— І вечар быў цёплы, ціхі. У пакоі доўга смяяліся. Не маглі супакоіцца. А назаўтра па радыё аб'явілі — вайна. У горадзе ўсчалася мітусня. У нашым вучылішчы пачалі фарміраваць навабранцаў. А нам яшчэ застаўся апошні экзамен — руская мова і літаратура. Здавалі ўжо ў інтэрнаце. Выкладчыкі былі сумныя, мы — таксама. Здалі экзамены, атрымалі даведкі: дыпломы не паспелі выпісаць. Па размеркаванні я мелася ехаць у Гродзенскую вобласць. Куды ж паедзеш, калі Гродзеншчына пад немцамі ўжо. Пайшла з сяброўкаю ў сваю вёску. Толькі мы выйшлі з горада, як загуло ў небе. Чорныя самалёты з крыжамі, як груганнё, наляцелі. Семнаццаць штук мы налічылі. Пачалі яны бамбіць станцыю, склады, вёску Агароднікі. Ля дарогі бомбы рваліся. Зямля стагнала ад выбухаў. Мы і беглі, і падалі, і ў кусты хаваліся. Напужаліся да смерці. Адчулі, што такое вайна.

Ну, дабралася дадому. Хадзіла з маці ў поле. Лета ж на дварэ, работы хапае. Бацьку ўзялі на фронт. Брат старэйшы служыў недзе пад Беластокам... І вось аднойчы мы з мамай палолі лён на агародзе. І зямлянку там выкапалі. Дзень цёплы, птушкі спяваюць. Раптам затрашчала нешта ля слуцкай дарогі. Бачым, ляцяць немцы на матацыклах. Хочацца пабачыць, якія яны, і страшна. Забеглі мы ў хату і праз акно цікавалі. А яны прамільгнулі, толькі смуродам у фортку запахла... Пачала ўлада нямецкая ўстанаўлівацца. Старастам зрабілі некага Баркоўскага Рыгора. Хата яго стаяла ў канцы вёскі. Каб заваяваць сабе аўтарытэт, ён, падлюка, выдаў пятнаццаць нашых мужчын, актывістаў Савецкай улады. Пахапалі іх немцы і ўсіх расстралялі...— жанчына дастала насоўку, памаўчала, адвярнуўшыся да акна.

Вярнуліся дамоў некаторыя з акружэння. Хаваліся па лесе, па хатах. Неяк адзін наш хлопец, Пятрок, ён таксама прабіўся з акружэння, і кажа мне: «Анюта, ці ведаеш ты, што ў нас партызаны ёсць?» — «Ну, чула. А бачыць не бачыла».— «Ты будзеш нам дапамагаць?» — «Каму гэта вам?» — «Партызанам. Я маю з

імі сувязь. Толькі пра гэта нікому ні слова».— «За каго ты мяне лічыш?..» Пётр, малады, прыгожы, стройны такі быў. Згадзілася я дапамагаць. Пачалі мы сустракацца. А там і ажаніліся. Вайна вайною, а жыццё, маладосць сваё бярэ...

Студэнткі пераглянуліся, заўсміхаліся. Цягнік часта спыняўся, ледзь не ля кожнага слупа, людзей усё менела ў вагоне. Цямнелася, але святла не ўключалі, і таму купэ было ахутана паўзмрокам.

— Жылі памалу, працавалі. Я перабралася да Пятра. Зямлю раздалі па дварах. І вось аднойчы раніцай... Гэта ўжо сорак трэці год. Здаецца, ліпень месяц. Жніво пачыналася. Усталі мы рана, як заўсёды. Дзесьці недалёка пачуліся стрэлы. Зірнула на вуліцу — немцы з паліцаямі шныраюць. Сядзім у хаце як мышы пад венікам. Потым гадзін пад восем, якраз я карміла малую, прыходзяць тры паліцэйскія, два незнаёмыя, а трэці з суседняй вёскі. «Дзе гаспадар?» Свякруха мая разгубілася, слова не можа сказаць, уся калоціцца, баіцца за сына. А Пётр коні павёў на начлег і ў любую мінуту можа прыехаць проста ў рукі ім. «Дзе гаспадар Каранеўскі Пётр?» Я кажу, няма яго дома, паехаў па загаду немцаў лес рэзаць. А паехаў свёкар і другія мужчыны, найбольш старыя. Пастаялі, пайшлі. Я бягом у край вёскі, перастрэла Пятра на выгане. Уцякай, кажу, у лес і да вечара не паказвайся. Ён распытаў, што, як, нахіліўся з каня — пацалаваў мяне і памчаў...

Прыбягаю дамоў. Зноў увальваюцца паліцаі. Тыя самыя і адзін новы. «Дзе ваш гаспадар?» Я кажу, як і раней: паехаў лес рэзаць. І ў вочы гляджу ім нахабна, смела. «Каранеўскі Пётр?» — «Ён самы. Паехаў у абоз...» Некалькі разоў перапыталі. Пайшлі. Адыходзячы, адзін зірнуў на мяне з такой лютай злосцю. Ну, думаю, калі хто падкажа, канец мне. Забралі яны тады чалавек дзесяць і паехалі... Свякруха на радасцях цалуе мяне: «Дзякуй табе, што не збаялася, сыночка ўратавала роднага». Я сабе думаю: калі ён табе сыночак родны, дык мне муж родны... Любіла я свайго Пятра, дзяўчаты, ой як любіла. Даўно было, а ўсё помніцца. Мусіць, ніколі яно не забудзецца. Але ўспамінаць пра той час дужа цяжка і балюча... І той ноччу сяджу ля акна не распранаючыся. Чую, ціха адчыніліся весніцы. Прыйшоў Пётр. І свёкар быў ужо дома, вярнуўся ўвечары з абозу. Збірайцеся, кажа Пётр, паедзем у лес,

Запрэглі кабылу, ускінулі на воз клункі, я загадзя іх звязала. У лесе цемень, як у коміне. Пятра сустрэў нехта, пагаманілі ціха. Сказалі, трэба пачакаць, разведаць, ці няма засады на мосце. Стаім, чакаем. Свякруха давай плакаць: куды я еду, хворая, нямоглая, пайду дамоў. Мы яе адгаворваць, куды ты пойдзеш цёмначы. А яна злезла з воза і пайшла. Пазней даведаліся, што яна заблудзіла і ледзь пад раніцу прыцягнулася ў вёску. Праз нейкі час прыехалі немцы. «Матка, дзе сын? Партызан! Піф-пах»,— застрэлілі старую на гародзе ля пограба. І суседа. Таксама стары быў, сям'я ўся ў лесе, а ён быў адзін дома. Людзі пахавалі іх. Пётр дужа перажываў, учарнеў увесь. Я пра сваю маці бедавала, як там яна? Адна ж засталася...

Ну, Пётр у атрад, а нам загадалі ехаць далей. Намучылася я з дзіцем. Плача, і ўсё тут. Цыцку даю — не бярэ, плача, заліваецца. Паўгодзіка тады было Верцы. Ехалі мы два дні. Дабраліся да вёскі Жывунь. Гэта Любанскі раён. Можа, месяцы два ці болей прабылі там. Зрэдку Пётр наязджаў. Абсціраю яго, падрамантую адзенне. Ён мала чаго расказваў. Але аднойчы кажа: «Ну, з Баркоўскім разлічыўся. Адправілі старасту на той свет». Другі раз сказаў, што падарвалі цягнік нямецкі з баявой тэхнікай і немцаў многа пабілі... Пайшла б і я ў атрад, але куды там з малым дзіцем дзенешся. Восень пачыналася, дождж, холад. Загадалі партызаны ехаць далей. Ехалі начамі, на дарозе лужыны, калдобіны. Неяк кабыла наша ўвалілася ў яму, калёсы абярнуліся, я з дзіцем у ваду. Вымакла да ніткі. У лесе быў нейкі будан, і людзі сядзелі там. Падышла я, а тут дзіця як заплача. Не пусцілі мяне, кажуць, усіх нас выдасі, немцы пачуюць. Села я пад кустом, калачуся, зуб на зуб не пападае. Тады свёкар паслаў на возе ўсё наша барахло, лягла я на карачках, накрыла малую сваім целам і так ноч перабыла.

Раніцай паехалі далей. Дзіця я падвязала па-цыганску, цыцку ёй у рот. Яна дундзіць і маўчыць. Праміналі нейкую вёску. Там быў млын. Даганяюць нас дзве падводы. Адзін фурман быў хмуры, маўклівы, а другі такі ўжо лапацень. Распытаў, хто мы, адкуль, куды едзем. І ўсё на мяне пазірае. Потым падсеў да нас на воз. Паедзем, кажа, да мяне на кватэру, і так ужо глядзіць на мяне, вачамі есць. Свёкар касавурыцца на яго, і мне няёмка. Сам ён не вялікі прыгажун, шчуплы, тан-

клявы, але языкаты. Залатыя горы абяцаў. Я ганю яго з воза. Ідзі, кажу, на свае калёсы, не трэба нам твая кватэра. Калі спыніліся, я цішком спытала ў другога мужчыны, што гэта за прыліпала. А той кажа: прымака наш, жонка ў яго намнога старэйшая і дзяцей няма. Тады я ўсё зразумела. На кватэру мы да яго не пайшлі. Едзем далей.

Помню, прыехалі ў вёску Баянічы, спыніліся насупраць адной хаты. Гаспадыня добра сустрэла нас. У яе таксама была малая, як мая Верка. На ёй быў каптурок з чырвонай матэрыі і кружаўчыкі ў два рады. Папрасілася я на печ. Абсушылася, усё павысушвала. Гаспадыня кажа, што я не вытрываю, бо печ надта гарачая. А я рада-радзёханька, што суха і цёпла. Ноч падалася мне як мінутка. Во вам, дзяўчаты, тахта і кушэтка, як у тым красвордзе... Уранні гаспадыня наварыла прасяной кашы. Есці хацелася страшэнна, але нас многа, а кашы адна місачка. І такая яна была смачная, здаецца, з роду нічога смачнейшага не ела. Я часта ўспамінаю тое ранне і тую кашу... Задурыла вам галаву, га? — жанчына расшпіліла гузікі зялёнай кофты, засунула пад хусцінку пасмачку пасівелых ужо валасоў.

— Што вы! Расказвайце далей,— папрасілі студэнткі.

— Далей самае страшнае... Перабыла я амаль да вясны ў гэтай вёсцы. Прала, вязала, рабіла ў людзей за кавалак хлеба. Аднойчы наехала партызанаў. Набілася іх і да нас. Паслалі саломы на падлогу, напалілі жалезную печку. Сярод іх аказаўся адзін знаёмы хлопец. Пятра ён ведаў, але яны былі ў розных атрадах, даўно бачыліся. Цалюткую ноч я мыла ім бялізну. Мыю і думаю: як там мой Пецечка? Хто яму памые бялізну? А мо ўжо і мыць не трэба? Мо ўжо няма яго?.. Вадою і слязьмі мыла тую бялізну... Прабылі партызаны два дні і пайшлі далей. Зіма той год была не надта халодная. Снегу было мала, вясна ранняя. Дайшлі да нас чуткі, што ідуць немцы. Блакада. Кінуліся ўсе ў лес. І мы таксама. А вецер пранізлівы, да касцей прабірае. Цемра вакол. У нейкіх кустах заначавалі. Агледзеліся раніцай — кругом людзі. Амаль пад кожным кустом. Бачу, дзве каровы прывязаны. Адна кабета, угледзеўшы, што я з малою, наліла мне конаўку малака.

Пасунуліся мы далей у балота і спыніліся ў алешніку. Пад вялізным вываратам, бура, відаць, паваліла дрэва, мы атабарыліся. Паслала пасцель на зямлі. Верцы пад бок паклала падушку. І свёкар побач з намі. Удзень мы сядзелі, бы краты. Ноччу воддаль раскладвалі цяпельца, варылі зацірку з мукі, ячменнай, нясеенай, з асцюкамі. Варылі без солі, вада з балота ржавая. Елі раз у дзень гэтай зацiркі. Неяк я несла варыва, спатыкнулася і разліла. Суткі зусім нічога не елі. Верка яшчэ грудзі ссала. І я так саслабела, што ўстану і падаю. А тут узнялася завіруха, засыпала нас снегам. З аднаго боку — гэта добра: замаскіравала. Мы ж сляды за сабой заграбалі. Вакол жа немцы. Але затое — халадэча дзікая.

Аднаго разу ўсчалася страляніна. Чуваць галасы, крыкі немцаў, плач дзяцей. Аказваецца, немцы захапілі людзей на востраве і гналі міма нас. А мая Верка ўздрыгвае за кожным стрэлам. Малю бога, каб не заплакала. На шчасце, Верка не падвяла, немцы нас не зацапалі. Потым мужчыны знайшлі забітую карову. Увечары зварылі зацiркі з мясам. Я тое мяса есці не магла, яно пахла ўжо, а зацiркі пасёрбала і дзіця накарміла. Увечары збіраліся пагаманіць. Расказалі, што адна жанчына, Дар'я, насіла з сабою дзяўчынку. І такое было напалоханае дзіця, падскоквала і плакала пры кожным стрэле. Дар'ю адусюль адганялі, каб не выдала. У часе блакады Дар'я закрыла малой рот падушкай, і яна захліпнулася. Тры дні насіла яе на руках, мёртвую, і так ужо галасіла, што аж лес стагнаў. Толькі на чацвёрты дзень адабралі ў яе дзіця і пахавалі... Адпакутавалі мы ў гэтым балоце тыдні тры, а мо і чатыры. Ніхто не ведаў, які дзень, якое чысло.

Вясна ўбіралася ў сілу. Трава ўжо адскочыла. Боты мае прагнілі і разявіліся. Падвязала я іх дротам, так і хадзіла. Аднаго дня добра прыгрэла сонейка. Палажыла я дзіця і дай, думаю, здыму боты, абсушуся. Хусту ссунула на плечы. На мне была тонкая бацістоўка і хуста з махрамі, цёплая. Косы нерасплеценыя злямчыліся. А ў мяне былі доўгія тоўстыя косы... Ну, разулася. Гляджу — пальцы мае ўсе аблезлі, панчохі ваўняныя збуцялі, згнілі. Села на купіну і давай сушыцца. Распляла косы, задумалася. Прамільгнула ў думках усё жыццё. У душы такая абыякавасць і стома, што і жыць не хочацца. Хай бы лепш

забіла мяне, толькі б разам з дзіцем, каб яно не гаравала без мяне. І ўсё ж шкада Веркі. Толькі нарадзілася. І Пятра шкада. Як ён будзе без мяне? А можа, яго ўжо забілі? Няўжо будуць немцы? Тады лепей памерці...

Раптам стрэлы, адзін, другі. А я басанож, і валасы расплеценыя. Закруціла валасы, хусту на галаву, схапіла панчохі, давай абувацца. Панчохі мокрыя, на ногі не лезуць, дзіця прачнулася ад стрэлаў, плача, заходзіцца. Свёкар падбег да мяне, хоча памагчы. Я кажу, уцякайце, вы мне не паможаце. Я сама. Суседка Мар'я з дзецьмі кінулася ў другі бок. Чую, немцы блізка гергечуць. А я не магу абуцца. Ні рукі, ні ногі не слухаюцца мяне. Панчохі, як пацягну — рвуцца. Басанож не пойдзеш. Холадна, снег у лагчынах ляжыць. Нацягнула адзін бот, сяджу. І так горка, крыўдна зрабілася. І такая ўспыхнула нянавісць да іх, фашыстаў... Здаецца, каб сілу мела, перадушыла б усіх... Страх, роспач і нянавісць — усё перамяшалася ў душы. І тут немец падыходзіць...

## III

Жанчына змоўкла, адвярнулася да акна, але яна не бачыла нічога за акном. Перад вачамі паўстала тая палянка, тоўсты насаты немец гоніць Мар'ю з дзецьмі. На Анюту вызверыўся: «Шнэль!» Прайшоў міма і ледзь не наступіў на Верку. Занёс вялізны брудны бот — у Анюты сэрца абамлела,— перасігнуў і да Мар'і: цягне з яе рук коўдру саматканую. Мар'я не аддае, паказвае, што дзецям трэба. Валтузяцца. Не помнячы сябе, схапіла Анюта цяжкі набрынялы корч і з усяго маху агрэла немца па шэра-зялёнай пілотцы, ля шыі яна была глянцавая ад бруду і поту. Немец асунуўся, бы мяшок. «А божачкі, што ж ты нарабіла? — ціха завойкала Мар'я, азірнулася.— Давай яго ў ваду...» Пад вываратнем была яма. Спіхнулі немца туды, закідалі галлём...

— А немец малады ці стары? — спытала студэнтка ў акулярах.

Жанчына ўздрыгнула, але адказала глухаватым спакойным голасам:

— Малады зусім. Стаў, пасміхаецца, што ў мяне рукі калоцяцца. Палапаў па кішэнях, дастае цукерку.

«Бітэ»,— і паказвае на малую. А я гляджу на яго няўцямна. Тады спахапілася, кажу: «Данке»,— я ж вучыла нямецкую, але цукерку не бяру. Ён тады: «Бітэ шон», а я яму: «Данке шон». Ён смяецца, кладзе цукерку каля малой. Верка плача на ўсю галаву. Немец давай яе супакойваць, лапоча нешта. Дастаў бліщчасты губны гармонік і выцінае нейкую вясёлую песеньку. І што вы думаеце — малая адразу супакоілася. Слухае.

Ну, абулася я, узяла дзіця. Было пасля паўдня ўжо. Ярка свяціла сонца, птушкі спявалі. Трава зелянела, у балотах лотаць зажаўцелася. Выгналі нас на паляну. Паселі мы на зямлю. Перакладчык, высокі і тонкі, як гліст, сказаў, што з намі нічога рабіць не будуць, пагоняць у вёску, каб мы там жылі... Тут падбег да яго немец і пачаў нешта хутка гаварыць. Немцы загергеталі. Абкружылі нас, аўтаматы наставілі. «Хто забіў нямецкага салдата?» Я думаю, калі скажуць, што ўсіх расстраляюць, а чым жа людзі вінаватыя? Страшна зрабілася. А жанчыны да перакладчыка: «Паночак, мы слабыя, ледзь ходзім, ён, можа, заблудзіўся ці ўтапіўся». Перакладчык сказаў старшаму. Стрэліў той тры разы ўгору. І дзесьці далёка, зусім у другім баку, пачуўся стрэл. Загергеталі яны між сабой, старшы зірнуў на гадзіннік і закамандаваў ісці.

Дарога, па якой нас пагналі, была суцэльная вада. Дзе глыбокая, дзе мялейшая. Нас было чалавек сорак, жанчын і дзяцей. Адна дзяўчынка хворая на тыф. Маці і чужыя людзі вялі яе пад рукі. Хворая трызніць, крычыць у гарачцы, каб яе забілі. Немцы па-руску мала чаго разумелі. Але як пачулі, што тыф, уцяклі наперад, ззаду ішоў толькі адзін з аўтаматам і крычаў: «Шнэль, шнэль, русіш швайн...»

Дабраліся мы да вёскі Жывунь. Я ўжо гаварыла, што жыла там у крайняй хаце. Прыгналі нас у хлеў маёй гаспадыні. У хаце — немцы. На двары, дзе мы секлі дровы, валяюцца каровіны ногі, косці. У хляве была салома, мы растрэслі яе, селі хто дзе. У дзвярах вартавы. А маё дзіця так плача, няма ратунку. Я і так калышу, і сяк, сама плачу. Немец прачыніў дзверы, зірнуў, пытае, чаго яна. Я маўчу, а жанчыны кажуць, што есці хоча. Праз нейкі час вартавы змяніўся. Ужо вечарэе. Памерзлі мы, адубелі ад халадэчы. Потым адчыняюцца дзверы, прыносіць той вартавы ў кацялку гарохавага супу і падае мне. Жанчыны кажуць: спытай, што з

намі будзе. Я спытала, немец адказаў, што пагоняць далей, а што там будзе, ён не ведае. Верка мая супу не ела, узяла ў рот і выплюнула. Аддала я суп большым дзецям.

Адвячоркам, гадзін каля сямі, прыходзіць хударлявы, насаты, як дзяцел, немец з палкай у руцэ. Узнагароды, крыжы жалезныя на кіцелі, і гаворыць на ломанай рускай мове. Загадаў усім устаць. «Вы есць рускі жанчыны і дзеці. Мы вас не трогайт. Вы пойдзеце ў дома жыць. Но после шэсць часов вечэра не выхадзіць уліца». І па чарзе пачаў пытацца: дзе твой муж, дзе твой бацька — у дзяцей. Мы падвучылі малых: кажыце — памёр, загінуў. Аднаму хлопчыку паказаў афіцэр шакаладку і пытае? «Дзе есць твай папка?» Хлопчык у адказ: «Не ведаю, што ён есць. Ён загінуў...» Дайшла чарга да мяне. Я сярод жанчын была ці не самая маладая. «Дзе твой муж? Партызан? Камісар?! Я цебя растрэляйт!» А я так напакутавалася, набедавалася. Думаю, тут хоць знаёмыя людзі ёсць, будуць ведаць, як загінула. Страляй, кажу. Толькі разам з дзіцем. Прытуліла Верку, а яна кугакае на ўвесь голас. Немец палкай тыцкае: «Фраў камісар! Растраляйт яе!» — і дастае пісталет.

Іншыя немцы, радавыя, стаяць збоку, моўчкі назіраюць. А мне падкацілa нешта пад сэрца, ніякага страху няма. «Страляй, вырадак!» — і гляджу яму ў вочы. Незнаёмая бабулька падышла да мяне, прасіся, кажа, можа, і памілуе. А я бы акамянела. Бабуля ў ногі яму: «Паночку, у яе няма мужа, загінуў. Яна адзінокая, сірацінка». Многія ведалі, што мой Пётр у партызанах. Але ніхто не выдаў... Малады немец і кажа афіцэру, што я магу па-нямецку. Тады ён пытае: «Какое твое последнее пожелание?» Я кажу, каб рускі салдат расстраляў тваю сям'ю. Спачатку па-руску, а тады на каверканай нямецкай. Думаю, ну, вось і ўсё, гэта апошняе, што я бачу на белым свеце, і Верку прытульваю да сябе. «Вы думайт, это возможно? — афіцэр доўга глядзіць на мяне.— Вы есть храбрый женщин. И еще очень молодой... Сегодня я вам дар'ю жизнь. Посмотрим, что подарите вы мне...» Потым другі немец нешта сказаў афіцэру, той скрывіў губы, ухмыльнуўся, адказаў нешта па-нямецку. Абое зарагаталі. Я не разабрала, што сказаў, бо ў галаве ўсё пераблыталася. Карацей кажучы, адпусцілі нас у вёску жыць.

Разышліся мы па хатах. Вокны ўсюды павыбіваныя, вецер гуляе. Пасяліліся мы ў адной хаце тры сям'і. Знайшлі ў пограбе трохі буракоў, хлапчук Мар'ін прынёс каровіну нагу з таго двара, дзе немцы стаялі. Варылі мы тую нагу пяць дзён. На шосты ўжо не было ніякага навару. Жанчыны хадзілі на работу, высякалі па загаду немцаў кусты ля дарогі, палілі іх. Я не хадзіла, бо дзіця не было на каго пакінуць. І вось у нядзелю адна жанчына дала мне жменю проса тоўчанага. Пачала я ў конавачцы варыць кашу. Гадзін у дзесяць убягае немец: усе на работу, збор у канцы пасёлка, увечары ўсе вернецеся, дзяцей пакідайце. Мы папрасілі жанчыну з суседняй хаты — у яе былі ногі абмарожаныя,— каб яна паглядзела нашых дзяцей. З намі жыла Валя з трыма дзецьмі: хлопчыкі дзесяці і сямі гадоў і дзяўчынка гадоў чатырох. Выйшлі мы, а мая Верка і зайшлася плачам. Вярнулася, узяла яе.

Сабралі нас усіх. Перакладчык і гаворыць: вы пойдзеце на работу, увечары вернецеся, дзяцей не бярыце. А я зашылася між жанчын з Веркай. Ну, пагналі нас. Немцы на конях, а мы пехатой. Гоняць і гоняць. І ўсе ўжо зразумелі, што не на работу. Як загаласілі жанчыны, каторыя пакінулі дзяцей, ды назад бегчы, а немцы іх нагайкамі. Я іду, дзіця на руках. Адкуль сіла бралася, не ведаю. Кашу нясу ў конавачцы, яна добра не даварылася, даю кашу Верцы. Жанчыны маладзейшыя памагалі мне яе несці...

## IV

Цягнік спыніўся. Студэнтка ў акулярах зірнула ў акно. «Ой, гэта ж Крычаў. Мая станцыя... Але поезд стаіць тут пятнаццаць мінут. Паспею. Ну, што далей было?» — падсела яна бліжэй да жанчыны.

— Чым далей, тым страшней,— апавядальніца сцепанула плячамі, бы ад холаду, зашпіліла кофту на ўсе гузікі.— З намі гналі трох партызан, незнаёмых. Змучаныя, у споднім, босыя, на нагах ланцугі, рукі звязаныя назад. Ісці яны ўжо не маглі. Адзін упаў, яго прыстрэлілі. Два яшчэ цягнуліся. Павярнуў адзін з іх убок, і таго застрэлілі. Потым трэці ўпаў, яго коньмі затапталі... Так нас гналі кіламетраў пятнаццаць. Прыгналі ў вёску Лясковічы. Там поўна немцаў. Баракі, у іх палон-

ныя. Загадалі нам сесці і сядзець. Усе пападалі на зямлю. Выйшаў перакладчык і сказаў: «Рускія граждане! Нямецкая ўласць вас не троне, калі вы самі аддасцё, што ёсць у вас з вяшчэй цэнных. Калі мы знойдзем — расстрэл». Паўтарыў ён тры разы. Усе маўчаць. Потым адзін немец пачаў абшукваць у першым радзе. Але нічога-нічагесенькі не знайшоў і кінуў шукаць.

Прасядзелі мы гадзіны тры. Зноў нас пагналі. І прыгналі ў вёску Забалацце. На краі стаяла хата, абгароджаная калючым дротам. Двор парос зялёнай травой. Раней тут была школа. Паселі мы на двары. Побач са мной Ядзя, маладая прыгожая кабета, па дарозе з ёй пазнаёмілася, і Насця з дзяўчынкаю гадоў чатырох. Сядзім, угнуўшы галовы. Прыходзіць апрануты ў цывільнае чалавек, з вусікамі, у капелюшы. Абышоў вакол, наблізіўся да нас. Угледзеўся на Ядзю. Яна і пытае: «Што з намі будзе?» А ён кажа: «Вас падзеляць на тры групы. А там будзе відаць».— «А ў якую групу лепей ісці?» — «Лепей з дзецьмі і старымі. Толькі твары не паказвайце...» Так і было. Прыйшоў начальнік. Сказаў па-нямецку. Перакладчык растлумачыў: жанчыны з дзецьмі — сюды, старыя — сюды, маладыя — сюды. Я пайшла да старых, Ядзя і Насця прыгнуўшыся, за мной. Перакладчык прайшоў, быццам праверыў, і кажа: «Сядзіце, не падымайцеся, пакуль начальнік не паедзе». Афіцэр згледзеў русявую жанчыну з цемнавокай дзяўчкай гадкоў пяці: «Юда? — паказаў стэкам на малую.— Кто знайт этот жэншчын?» Усе прыціхлі. Тады я кажу: «Я знаю. З нашай вёскі яна».— «Як яе імя?» — «Параска. Ну, Праскоўя, значыць. А дзевачку завуць Зоська». Жанчыны пацвердзілі. Афіцэр вырваў дзяўчынку з рук маці, пасадзіў яе пасярод двара. «Зоська застанецца тут. А матка паедзе ў Германію». Маці з плачам кінулася да малой. Салдаты схапілі яе, адцягнулі. Я тым часам узяла за руку дзяўчо і схавалася між людзей. Малая праз слёзы і кажа: «Я не Зоська. Мяне завуць Бэла. Бэла Міронаўна...»

— Ой, цётачка, мне трэба выходзіць,— падхапілася студэнтка ў акулярах.— Скажыце, Верка ваша жывая?

— Еду ў госці да яе. Унучку хачу пабачыць. Бульбу пасоблю выбраць... Пасля вайны адшукалі мяне Бэліны бацькі. Так ужо дзякавалі. Цяпер пісьмы пішуць, у госці прыязджаюць... Бэла замужам, сына гадуе.

— Ну і добра. Вам, цётачка, жадаю ўсяго самага найлепшага. Жывіце доўга, не хварэйце. Можна я вас пацалую? — і, не чакаючы адказу, пацалавала жанчыну ў шчаку, цмокнула сяброўку, кіўнула мне і выбегла.

## V

Цягнік ужо адыходзіў. Праплывалі міма светлыя шарыкі ліхтароў.

— А што было далей? Прабачце, як вас завуць? — спытаў я.

— Ганна Дзянісаўна... Што далей? Маладых пагналі ў Нямеччыну. Старых і з дзецьмі каторыя — жыць у хаты. Мы пайшлі разам — Мар'я з двума дзецьмі, Ядзя і Насця. Адвялі нам старую хаціну з маленькімі акенцамі. А цераз дарогу стаяў вялікі новы дом. Там жыў перакладчык. Ён прыжаніўся, і было ў яго малое, мо з паўгодзіка яму. Перакладчык часта прыходзіў да нас, расказваў пра сябе. Гаварыў, што працаваў настаўнікам пад Смаленскам, прымусілі яго немцы служыць ім, што яму давядзецца расплачвацца за сваю службу.

Неяк ноччу мы чуем моцны выбух. Раніцай выходжу, бачу, на вуліцы патрулі нямецкія ходзяць. Падбеглі да мяне двое, схапілі і павялі. Я плачу, прашуся напрамілы бог, нічога і слухаць не хочуць. Дагнаў нас перакладчык. Як пачаў ім гаварыць па-нямецку, як пачаў, а яны злыя, гергечуць і цягнуць мяне. Нарэшце адпусцілі. Уваходжу ў хату, белая што палатно. Цэлы дзень сядзелі мы дома. Адвячоркам заходзіць перакладчык і кажа, што партызаны замініравалі дарогу і падарваўся нямецкі начальнік. Вось немцы і забегалі. Заўтра будуць зноў хапаць у Германію маладых. Гэта будзе гадзін пад дванаццаць. Хавайцеся. Насця, Ядзя і я пайшлі ў хлеў. Там стаяў вялізны куфар. У ім былі клубкі льняной пражы. Мы іх перахавалі і залезлі ў куфар. Мар'я зачыніла нас і сама ў хату, а дзеці ляглі на падлозе — маўляў, тыф. Мы прачынілі вечка, каб дыхаць льга было, і сядзім. Чуем галасы, ідуць немцы ў хлеў. Перакладчык паторкаў кійком у салому, сказаў нешта па-нямецку, а мы ні жывыя ні мёртвыя сядзім, задыхаемся. Немцы

зачмыхалі ад пылу і пайшлі ў хату. Мы трохі паднялі вечка, уздыхнулі. З хаты немцы хутка выкаціліся. Потым прыходзіць Мар'я, кліча дамоў. Заходзім, а там сядзіць перакладчык, пасміхаецца: «Ну што, курапаткі, жывыя? Скажыце мне дзякуй». Начарціў нам план, як можна прайсці міма пастоў.

Рашыліся мы ноччу ўцякаць. Гародамі падаліся ў кусты. Усё асвятлялася ракетамі, відната, хоць іголкі збірай. Але кусты нас хавалі ад злога вока, а далей лес пачаўся... Ішлі мы цэлы тыдзень. Насця ведала дарогу. Заходзілі ў вёскі, дзе давалі чаго перакусіць. Адна бабуля, як сёння помню, зварыла рэдзенькай бульбы без солі, без нічога. Бульба мерзлая, салодкая. Я сама паела і малым дала. Як стала ўначы Верка плакаць, а за ёй і Бэлка, на ўсю хату. І старая насіла іх, і стары гушкаў. Ядзя з Насцяй спалі як забітыя. Прыцягнуліся мы зноў у Жывунь. Свёкар ужо вярнуўся сюды, узрадаваўся да слёз, калі ўбачыў мяне з Веркай. Хоць ты паратуеш, кажа, а то вошы заелі, а я пытаю, ці не бачыў Пятра? Не, кажа, не бачыў, а людзі перадавалі, што ён жывы, быў паранены ў нагу. «Дык што, ён без нагі?» — пытаюся, як дурніца, а сама думаю: хоць без нагі, абы жывы. «Казалі, ногі цэлыя. Дні тры назад чуў ад людзей...»

Узрадавалася: жывы мой Пецечка, жывы сокал мой ясны. Пасяліліся мы ў невялічкай цеснай хаціне. Гаспадыня Тэкля, мужык яе Аўхім, Мар'я з дзецьмі, свёкар і я [illegible] малымі. Тры сям'і ў адным катуху. І раптам Тэкля захварэла на тыф. Я спала з малымі на падлозе, [illegible] Тэкля на ложку кідалася ў гарачцы. Во, набралася страху... А есці няма чаго. Пяклі мы хлеб [illegible] адной бульбы. Церлі на тарку сырую бульбу і варылі, потым цёртую змешвалі з варанай і тады пяклі. Не помню, колькі мы пражылі тут.

Верка хадзіць пачала. Мар'іны дзеці і Бэла яе трэніравалі.

І вось аднойчы прачнулася раненька. А быў ужо канец красавіка. Цёпла, ціха, на золак бярэцца, птушкі зашчабяталі. Раптам стрэл, другі. Акно было адчынена, бо дыхаць няма чым, завешана кудзялянкаю, посцілкаю з лёну, каб не лезлі камары. А ўвечары прыехалі партызаны, засталіся нанач. У хаце напроці нас пяць чалавек, у другой астатнія. Прыехалі яны малоць хлеб у жорнах. Глянула ў акно — вядуць палі-

цаі вартавога, хата напроці нас ужо абкружана. Паставілі кулямёт пад нашым акном, крычаць: «Здавайцеся, такую вашу маць...» Партызаны пачалі адстрэльвацца. Адзін выскачыў праз акно і ўпаў, падкошаны, другі павіс на раме, двух забілі ў хаце, адзін у споднім узлез на гарышча, прадраў саламяны дах. Хата крайняя, з боку лесу расла крапіва, была там ямка, дзе валялася бітае шкло, дрот калючы ржавы. З таго боку акна не было, там ніхто не сцярог. Партызан скочыў у гэтую ямку, нагу параніў, вырваў з гарачкі шкло — мы бачылі акрываўленае потым, паўзком па агародзе і ў кусты. Так і ўцёк.

Хата, дзе былі партызаны, ужо гарыць як свечка. Ідуць паліцаі да нас, падпальваюць і нашу, крычаць: выхадзі! Мы ўжо стаялі гатовыя. Выходзім. Спачатку свёкар і Аўхім, потым я з дзецьмі і Мар'я са сваімі. Схапілі нашых мужчын і павялі. Пад вечар яны вярнуліся, расказалі, як дапытвалі іх п'яныя паліцаі, маўляў, вы — партызаны, прыкідваецеся старымі, бароды пагадавалі. А ім было па семдзесят год. Што тут прыкідвацца? Ну, катух наш згарэў. Дзе жыць? Пайшлі мы на другі пасёлак, дзе жыла кабета з нашай вёскі. І там дамы спалены. Бачу, з-за хлява высунуўся падлетак гадоў трынаццаці, рукі ў яго скрываўленыя. Я да яго. «Што з табой?» А ён кажа: «У мяне рукі перабітыя. Адна рука паранена ў мякаць, а другая ў косць». Як гэта было, пытаюся. І тады ён, Паўлікам яго звалі, расказаў:

«Уляцелі ў хату карнікі, закамандавалі ўсім легчы. Нас дзевяць чалавек было. І пачалі страляць. Потым накідалі саломы. Адзін малы закрычаў: «Мамачка мая!» Яго прыстрэлілі. Падпалілі салому і пайшлі. Чую, і Волька, суседская дзяўчынка, жывая. Яе паранілі ў ногі, калені перабілі. Яна паўзці не можа. Цягну яе з усяе моцы. Ужо на ганак выпаўз. Бачу, немцы яшчэ на вуліцы. Толькі яны пайшлі, я вылез, Вольку цягну за руку, а тут ганак і абваліўся. Я ўпаў, адкаціўся, а Волька засталася там, у агні...» Узялася я перавязваць яму рукі, у мяне быў пакет бінту. Як заплача ён, калі дакранулася да раны...

Пераначавалі мы ў хлеўчуку, а назаўтра пайшлі ў лес. У вайну лес — самы надзейны дом быў. Удзень прыходзілі ў пасёлак па ваду і па ежу. Аднойчы бачым, сунецца калона салдат. Гэта былі немцы. Ногі аб-

кручаныя анучамі, каторыя ў пілотцы, каторыя ў касцы, а каторы і з голаю галавой. Спыніліся ля студні, папілі вады. І пайшлі далей. Зразумелі мы, што немцы адступаюць, уцякаюць з нашай зямлі. Потым пачулі мы, што Случчына ўжо свабодная. Радасці нашай канца не было. Верка мая гаварыць трохі пачала. Я ўсё гаманю з ёй. Сон мяне пакінуў. Усё думаю, як прыедзем дамоў, ці жывыя матка, тата і брат. Ад Пятра ніякіх вестак. Ды ён і не ведае, дзе мы.

І вось едзем дамоў. Помню, прыехалі ў нейкую вёсачку каля Любані. Спыніліся пераначаваць. Гаспадыня сустрэла нас ветліва, дала таго-сяго павячэраць. Леглі спаць. Я з дзецьмі на лаве. Не паспела заснуць, як на мяне напалі скочкі. Верка і Бэла заплакалі. Запаліла я газнічку, не — лучыну, бачу, дзеці спрэс у чырвоных плямах... Ледзь прычакала дня, каб ехаць далей. К начы дабраліся дадому. Матчына хата стаяла цалёханькая. Грукаю ў дзверы, а ў грудзях сэрца калоціцца. Мама адчыняе і не верыць, хрысціцца, божкае, ніяк не можа даць веры, што я жывая, і Верка са мною ды яшчэ і сястрычка Бэла. Што ўжо было радасці, няма слоў, каб гэта выказаць.

## VI

Ганна Дзянісаўна паднесла да вачэй хусцінку, памаўчала, зірнула на гадзіннік.

— Ужо і мая станцыя скора. Цягнік стаіць адну хвіліну...

Я падняў сядзенне, дастаў яе сумку, напакаваную яблыкамі, грушамі.

— Частуйцеся грушамі,— студэнтка і я дружна адмаўляліся, але Ганна Дзянісаўна ўсунула нам па вялікай, цяжкой, не раўнуючы як граната-лімонка, васкова-жоўтай грушы.— Пётр насадзіў пасля вайны багата груш. Свёкар лаецца на яго, маўляў, падаткамі замучаць, а Пётр кажа: той не слуцак, у каго грушы не растуць, а падаткі адменяць... Так яно і сталася. Во, сумка лягчэйшая будзе. Я тэлеграму дала. Калі яна не заблудзіла, дык сустрэнуць. Яны тут недалёка жывуць. Вера ў школе працуе. Па маіх слядах пайшла. Здароўем не можа пахваліцца. Цяжкое маленства было. Але інстытут скончыла. А мне не было калі.

— Значыць, Пётр вярнуўся з вайны? — спытала студэнтка.

— Вярнуўся. У кастрычніку сорак пятага. Медалямі і ардэнамі ўсе грудзі ўвешаны... А я пасля прыезду злегла. Тыф. Усё не паддавалася, хадзіла. А тады неяк устала ўранні і звалілася. Жыў у вёсцы фельчар старэнькі. Паклікалі яго, ён і кажа: тыф, галубка. І адлежала я шэсць тыдняў. Потым занава хадзіць вучылася. А каса мая як была заплецена ў пляцёнку, так і адвалілася ад галавы. Ну, памалу акрыяла, рабіць пачала ў школе. І вось трыццаць пяць год адрабіла. Нажылі мы з Пятром яшчэ сына. У яго ўжо сваіх двое хлопцаў. Род Каранеўскіх не звёўся. А Пятра няма. Даўно памёр, у пяцьдзесят восьмым. У партызанах паранілі, на фронце таксама. У яго ў лёгкіх асколак сядзеў. Ён і звёў яго на той свет... Цяпер во ветэранам і гонар, і пашана. І мне далі медаль «Ветэран працы». А яго медалі ўсе пагубляліся. Дзеці гулялі з імі, пазакідалі недзе. Толькі ордэн Айчыннай вайны збярогся. Гэта яму за партызаншчыну далі. Ён цягнікоў многа падарваў... Замуж я болей не выходзіла. Дзяцей трэ было выводзіць у людзі. Абое інстытуты паканчалі. Хай жывуць. Абы во ціха было на свеце.

— А бацька і брат вярнуліся? — спытаў я.

— Не, загінулі...

«Можа, і дарэмна не сказала, што немца забіла,— падумала Ганна Дзянісаўна.— Хай бы ведалі праўду...»

Цягнік прыцішыў хаду. Я падхапіў сумку, Ганна Дзянісаўна ўскінула на руку паліто і разам са студэнткай ішла за мной. Мы стаялі ў тамбуры. Міма праплыў невялікі вакзал з яркай лямпачкай ля ўвахода. На цемнаватым пероне стаялі тры чалавекі: рослы мужчына ў расшпіленым плашчы, невысокая танклявая жанчына, за рукі іх трымала дзяўчынка ў белай шапачцы.

— Гэта мае. Вера, унучка Волька, зяць Сяргей...

На імгненне ўбачыў я палаючую хату, паранены хлопчык цягне за руку дзяўчынку Вольку, абрушваецца ганак, і ў полымі гасне немы крык...

Заспаная правадніца адчыніла дзверы, я вынес сумку. Ганна Дзянісаўна ўжо развіталася са студэнткай, спускалася па прыступках. Я падтрымаў яе пад локаць.

— Ну, бывайце здаровенькі! — Ганна Дзянісаўна падала маленькую шурпатую далоньку.

— Хутчэй, хутчэй. Стаім адну хвіліну,— нецярпліва буркнула праваднiца.

Я нічога ёй не адказаў, бо горла перахапіла, нібы застраў даўкі камяк.

Студэнтка сядзела на сваім месцы, калі я вярнуўся ў купэ. Вочы яе былі поўныя слёз.

На століку пагойдваліся дзве вялікія жаўтабокія грушы.

*1983*

# ГАЎРЫЛА І АНІССЯ

## I

Стары Гаўрыла даставаў з калодзежа ваду. Настылы абслізганы да бляску шурпатымі мазолістымі далонямі журавель гучна скрыпеў на ўсю іхнюю невялічкую — тузін двароў — вёску. Ля калодзежа намёрз курганок лёду, бо як ні старайся, а кропля вады сарвецца з вядра. Гаўрыла асцярожна падняў вёдры, павярнуўся ісці дамоў. Перад ім нібы вырасла з-пад зямлі суседка Хрысціна.

— Здароў табе, Міхайлавіч! — гучна павіталася яна, ведаючы, што Гаўрыла трохі тугаваты на вушы.

— Здароў, калі не жартуеш. А мы ж, здаецца, бачыліся. Толькі ты ўжо з вадой ішла. Уранні было. Я прыстоіў, каб не перастрэць з пустымі вёдрамі.

— Ой, і праўда бачыліся,— не то здзівілася, не то ўзрадавалася Хрысціна.— Во дзянёк падрос ужо. К вечару забываеш, што было ўранні. Дасць божачка, і вясны дачакаемся. А табе, Гаўрыла, прывет перадаюць...

— Прывет? Хто перадае? — няўцямна лыпаў выцвілымі вачамі Гаўрыла.

— Я перадаю. Ад Аніссі...

— Ад каго? Якой Аніссі? Што ты мянціш языком?

— Што, ужо і Аніссі не помніш? А некалі жаніліся, любіліся...

— Не дуры ты мне галаву. Было, ды быллём парасло. Паўсотня гадоў мінула...

— Яна дык во не забылася. Пісьмо прыслала. Прывет перадала... Мужык ейны памёр. Адна цяперацька. Дзеці разляцеліся.

— Ці ж толькі ў яе так? — сярдзіта сказаў Гаўрыла, зноў узяўся за вёдры і, горбячыся мацней звычайнага, пацягнуўся дамоў.

— Дык што ёй адпісаць? — крыкнула ўслед Хрысціна.— Ты во адзіночны... Як палец адзін у хаце...

— Хіба ж я адзінокі? Сірату знайшла,— пакрыўдзіўся Гаўрыла, паставіў вёдры на снег, выпрастаўся, распраміў плечы.— У мяне куча дзяцей. Сямёра. А ўнукаў паўтара дзесятка. Ты ж іх ведаеш. Я, калі хочаш, магу хоць заўтра паехаць да дзяцей у Магілёў, а то і ў Маскву.

— Э не, Міхайлавіч, а як жа кароўка твая без цябе, парсючок, авечкі? Дзеткі ж і ўнукі скварачку любяць. А ўлетку сырадойчык. Ды і нам без цябе нявыкрутка будзе. Ты ж у нас адзіны халасцяк...

Гаўрыла не слухаў яе далей, рашуча павярнуў да хаты, аж [illegible] вядра пралілася вада на старыя бахілы. Ён ішоў па вузкай утаптанай сцежцы, вёдры, нібы гіры-пудовікі, адцягвалі рукі ўніз, і такімі цяжкімі яны падаліся, што ён змушаны быў перадыхнуць. Азірнуўся — Хрысціна, нібы чорная галка, схілілася над калодзежам. Каб яна не падумала, што зацікавіла яго гэтым «прыветам», ён хутчэй пакрочыў.

Дома Гаўрыла спачатку вынес тоўчанай бульбы курам, потым наліў у карыта парсюку — той пачаў хлябтаць, аж вушы трэсліся.

— Во, вымерхаўся ты сянні,— сказаў Гаўрыла, радуючыся, што парсюк добра есць, што ён ужо ладны, даўгі.— К маю падгадую... Можа, хлопцы збяруцца,— міжволі ўспомніліся словы Хрысціны, што яны, дзеці, любяць скварку, ён пагладзіў кабана па халаднаватым гладкім шчэцці, прабурчаў сабе пад нос: — От, болматка. Чаму ж не любяць? А твае што, лысыя? Як прыедуць, дык пад мятлу гатовы ўсё вымесці. Усім трэба есці... А нам жа на радаўніцу трэба памянуць матку...

Сваю жонку, Матруну, ён, як выраслі дзеці, неўзаметку пачаў зваць маткаю. І толькі калі яны былі ўдваіх ці на людзях, называў па імені, і то рэдка, бо імя сваё яна чамусьці не любіла, нават саромелася, калі паявіліся нявесткі, відныя, чыстыя, модныя. Жонка старэйшага сына звалася Тамараю, потым другі сын прывёз Святлану, трэці — Аксану, а тады і малодшы — Святлану. Хоць нявесткі Святланы зусім непадобныя, але, як усе збіраліся, было тады жартаў, што браты зблытаюць сваіх жонак-Святлан.

Карова сцішана замычала, калі Гаўрыла напхаў у

яслі сена. Яслі-рашотку ён зрабіў, каб яна меней утоптвала сена пад ногі: давалася яно нялёгка, і кожны касмыль берaглі. Гаўрыла акінуў вокам раздутыя бакі каровы, памацаў крамянае вымя. Як толькі ён дакрануўся да цыцак, карова адставіла хвост, павярнула галаву, чуйна наставіла вушы. У адчыненыя вароты свяціла сонца, нізкае, вечаровае, і вялікія спакойныя, бы лясныя азёры, каровіны вочы ўспыхнулі чырвоным агнём. Гаўрыла аж сцепануўся — так бліскаюць чырвоныя агеньчыкі ля чыгуначнага пераезда.

— Ну што, Красуля, каго ты сёлета падорыш? Мусіць, бычка. Познішся ты, пераношваеш,— ён агледзеў падхвосніцу.— Значыць, пачынаеш. Скора ацёл. Трэба і ноччу паглядваць за табой. Э-хе-хе, не дасі ты спаць спакойна, Красуля.

Карова матнула галавой, нібы пацвярджала, што ўсё зразумела, і пацягнулася пысай да сена. Гаўрыла ўзяў у закутку бярэма драбнейшага сянца, пахучага, як чай, і кінуў авечкам.

Па вясне будзе год, як памерла Матруна, але гаспадарку Гаўрыла пакуль што не зводзіў, хоць сыны і дочкі ў адзін голас гаварылі: прадавай карову, дзе ты з ёй адзін справішся. Бацька слухаў дзяцей, зяцёў і нявестак і думаў сваё: вы гаманіце, але ніхто з вас не адмаўляецца ні ад малака, ні ад масла, ні тым больш ад скваркі. А малодшы Васіль, вясёлы, здаровы хлопец, вышэй за бацьку амаль на дзве галавы, увосень сказаў: «Жаніся, тата. Вазьмі якую ўдаву. І будзеце ўдваіх жыць-пажываць».— «Ніхто мне пакуль не патрэбны,— хмура адказаў Гаўрыла.— Ты от скаліш зубы: жаніся, тата. А яшчэ і ўгодкаў па матцы не справілі».

Васіль змоўк, нахмурыўшыся. Памерла маці раптоўна, не хварэла, неяк адразу зжаўцела, схуднела, усохла, бы падрэзаная кветка. Старэйшы сын на сваёй машыне адвёз яе ў Мінск у бальніцу, там зрабілі аналізы, знайшлі рак нейкіх залоз і сказалі, што памагчы ўжо не могуць.

## II

Гаўрыла набраў бярэмца дроў і панёс у хату. Потым ён сядзеў ля грубкі і задуменна глядзеў на агонь. Сухія, аблетавыя дровы патрэсквалі, гарэлі зырка. Неўзабаве ў калені пачало прыпякаць аж скрозь ватнікі. Гаўрыла адставіў зэдлік далей і зноў сеў.

Што б ён ні рабіў у гэты вечар, не-не ды і ўспаміналася Анісся. А цяпер, гледзячы на агонь, згадаў яе асабліва выразна: маладую, усмешлівую, з доўгай касой. Ён з хлопцамі хадзіў тады гуляць у суседнюю вёску Шарэйкі. Было гэта недалёка, якіх-небудзь тры кіламетры. А што гэта значыць для маладых ног у вечаровай цішы і свежасці прасігаць праз хвойнік, перайсці па кладцы ручай. І ў іхняй вёсачцы дзяўчат было поўна, вясновымі вечарамі сядзелі яны на лавачцы, спявалі, зазываючы кавалераў. А хлопцаў цягнула далей, бо сваіх яны бачаць штодня. Дзяўчаты з чужой вёскі заўсёды здаюцца прыгажэйшымі.

Дык вось моладзь сядзела на лаўцы, дымілася цяпельца, каб адганяць камароў. Дым курыўся, рэзаў вочы, але дзяўчаты весела спявалі, зрэдку каторая і пакашлівала, калі хапала дымку, і слязу выцірала, ды гэта толькі прыбаўляла смеху і весялосці. Гаўрыла даўно прыкмеціў дзяўчыну з касой, ведаў, што завуць яе Аніссяй, у той вечар яму пашчасціла сесці каля яе. Ён прыціскаўся шчыльней, яна не адсоўвалася. І гэта радавала хлопца, хоць і разумеў, што няма куды ёй адсунуцца — сядзелі ўсе шчыльна. Потым ён цішком паклаў ёй руку на плечы, адчуваючы халаднаватую, вільготную ад вечаровай вільгаці касу. Анісся моўчкі ўзяла яго руку, зняла з плячэй і паклала на ягонае калена. Праз нейкі час ён зноў абняў яе за плечы, мацней прыхінуў да сябе. «Не, хлопец, цяжкая ў цябе рука»,— Анісся зноў адхінулася. «Адкуль ведаеш? Ці ён біў цябе?» — хмыкнула другая дзяўчына. «А чаму ён павінен мяне біць? За што?» — незалюбіла Анісся. «Хто каго любіць, той таго й чубіць»,— рагаталі ўсе. Гаўрыла сядзеў чырвоны як бурак. Добра, што ў цемры гэта не было відно. А сэрца тахкала, рука нібы запомніла дотык мякка-вільготнай касы, ад якой пахла рамонкамі.

Зачасціў Гаўрыла ў Шарэйкі. Амаль штодня бачыў-

ся з Анiссяй, яны ўжо і абдымаліся, і цалаваліся, але Аніссіна маці ўсяляк адгаворвала дачку ад замужжа. Але чаму яна так супраць яго, хлопец не мог даўмецца. Неяк яны касілі з бацькам, селі палуднаваць пад кусцікам, тады бацька і кажа: «Ну што, сынок, упала табе ў вока Анісся з Шарэек? Дзеўка яна відная. Толькі і бацька, і маці яе ўпірацца будуць...» — «А чаму? Анісся хоча замуж. Дык што, яны дачцэ дабра не жадаюць?»

Бацька пільна зірнуў на сына, нахмурыў на пераноссі свае густыя бровы, са злосцю стукнуў варанае яйка аб кассё: «Такая тут закавыка, сынок, выйшла. У калектывізацыю быў я ў камісіі. Я ж пралетарыят. Бядняцкі элемент. Хоць кузню сваю і займеў акурат перад калгасамі. Шкада было яе, але аддаў. Сказаў, што буду ўсё рабіць для калгаса. А Кандрат, Аніссін бацька, мужык не лянівы і ў чарку не заглядваў. Ну, хіба мо ў каляды... Карацей, жыў ён крэпка. Ну, і прыходзіў я да яго са старшынёй сельсавета. Старшыня ўсё казаў яму: «Кандрат, не паслухаеш мяне, загрыміш на Салаўкі. Гэта некуды далёка, у Сібір, ці што». Кандрат слухаў і коса пазіраў то на старшыню, то на мае кулакі... Абклалі яго цвёрдым налогам... Усё ён выплаціў. Затое жывы застаўся. Дык вось яны і злуюцца на мяне. І радніцца не хочуць. Так што, сын, калі дужа будуць упірацца, плюнь на іх. У нас дзеўкі не горшыя...

Але вяселле згулялі. Першую ноч жаніх і нявеста бавілі на сенавале. І першая ноч аказалася апошняй. Прачнуўся Гаўрыла ўранні — цап-лап, а жонкі няма. Ён падумаў, што памагае матцы гатаваць сняданак. Сонечныя промні прабіваліся ў шчыліны, спявалі пеўні, гаўкалі сабакі, рыпеў калодзезны журавель, гаманілі людзі. Вёска сустракала новы дзень. Гаўрыла ляжаў і соладка думаў пра новае жыццё. Ноч яму здалася дужа кароткай. Анісся спачатку не давалася, усё гаварыла: «Ну, пачакай»,— і дрыжала ад хвалявання ці ад страху. А Гаўрыла, малады, здаровы, згаладалы па жаночай ласцы, так доўга чакаў гэтай ночы, то цяпер ужо трываць не мог... Заснулі яны пад раніцу. Анісся пачала яго прасіць і маліць, каб не чапаў болей...

Злез з сенавала Гаўрыла шчаслівым чалавекам. Радасць перапаўняла ўсю яго істоту, ён расправіў шырокія маладыя плечы, смачна пазяхнуў, пацягнуўся і, хоць спаў усяго дзве-тры гадзіны, ніякай стомы не

чуў, гатовы быў касіць цэлы дзень ці махаць молатам у кузні. Бацька, які паспеў пахмяліцца, стаяў у расшпіленай сарочцы: «Не бядуй, сын, што яна ўцякла... Знойдзем лепшую бабу. Раз уцякае, то з такой сучкай кручанай кашы не зварыш...» — «Бацька, што ты пляцеш? — узбурыўся на яго Гаўрыла.— Якой сучкай? Яна чэсная. Дзеўка была...» — «Была? А цяперацька ўжо спорчаная? Маладзец, сын. Не даў маху. Спорціў шарэйкаўскую багачку. Ну, дык прыбяжыць. Дзе яна дзенецца»,— бацька абняў сына і павёў у хату.

А потым прыйшлі бабы з Шарэек і перадалі, што нібыта Аніссіна маці сказала: нагі ейнай дачкі тут не будзе. Вопрамець кінуўся Гаўрыла з хаты, дружкі за ім. Але бацька дагнаў, заступіў дарогу, цяжка дыхаючы, схапіў сына загрудкі: «Сынок, богам цябе прашу, не ідзі. Не прыніжайся перад бабай. Сама прыйдзе. А то дасі папуску, дык яна заўсягды, калі што якое, будзе бегаць матцы жаліцца... Пакажы свой карахціp. Помні. Кавальчукі — людзі гордыя... Хоць і бедныя...» — «Можа, выдумляюць людзі? Я хачу пабачыць яе. Пусці, тата».— «Праўду кажуць, сынок. Калі б няпраўда, то Анісся была б тут. І з бацькам, і з маткай. З усёю радзінаю. А то ж няма нікога... Ну, гадаўка. Ну, кулацкае атроддзе...» — бацька са злосцю вылаяўся.

І гэта раптоўна ахаладзіла Гаўрылу. Ён павярнуў дамоў. Але на другі дзень цішком пайшоў у Шарэйкі. Сустрэла яго Аніссіна маці і адразу з парога пачала лямантаваць, што ён насільнік, п'яніца, галыш, зняважыў яе дачку. «Дзе Анісся? Хай выйдзе!» — «Няма яе ў двары. Ідзі з чым прыйшоў». А праз колькі дзён дачуўся Гаўрыла, што Анісся паехала на Данбас да сваякоў. Цяпер дайшло да яго, што яна не вернецца. Пабедаваў хлопец і назло ёй ажаніўся з суседскай дзяўчынай Матрунай, здаровай, рахманай, якая мела адну загану — трохі рабаватая з твару.

## III

Дровы даўно дагарэлі, ужо і вуголле пакрылася шаравата-блакітным мохам. Гаўрыла зачыніў юшку, уключыў святло і адразу пацягнуўся да старэнькага люстэрка, што вісела на цвічку. Калі галіўся, то

здымаў яго і ставіў на стол. І цяпер ён зняў люстэрка — з мутнаватага, запыленага шкла на яго пазіраў хударлявы чалавек з маршчакаватым, аброслым сівым шчэццем тварам.

— Чорт пабірай, стары я ўжо зусім,— уздыхнуў Гаўрыла.— Ды і яна ж не маладзіца,— і паставіў люстэрка на стол, каб не забыцца заўтра пагаліцца.

Неўзабаве ацялілася Красуля — прынесла бычка. Маразы стаялі невялікія, і Гаўрыла не ўносіў яго ў хату, як звычайна гэта рабіў з Матрунай і яна «з пальца» паіла цялё, падаіўшы Красулю. Цяпер бычок быў у маці каля боку. Гаўрыла часцяком заглядваў у хлеў,назіраў, як настойліва бычок торкаў пысай у вымя. Красуля сцішана мычала і нястомна лізала свайго пестуна. Гледзячы на іх, Гаўрыла згадваў сябе ў маленстве, калі пасвіў цялят. Амаль усё дарослае жыццё рабіў ён то ў кузні, то на трактары, то на камбайне. Уся хатняя жыўнасць была ў Матруніных руках. Калі жонка пачала хварэць, Гаўрыла апранаў яе кажушок, завязваў хусту, браў скібу хлеба і шыбаваў у хлеў. Карова адчувала падман, брыкалася, аднойчы нават абярнула вядро, але памалу прывыкла да суровай пяшчоты Кавальчуковых рук.

Дні большалі ўвачавідкі, зіма павярнулася на другі бок. Сонца свяціла зырка, да рэзі ў вачах. Пачыналася вясна святла. Гаўрыла старанна галіўся, часцей падмятаў у хаце, нібы некага чакаў.

Аднойчы яму прысніўся сон. Нібыта ён з бацькам у кузні. Бацька, вясёлы, усмешлівы, водбліскі на барадатым твары, выцягвае з горна чырвоны вялізны прэнт, які гарэў, нібы свечка, менеў, сціскаўся. «Падыдзі бліжэй, сынку. І не бойся. Ета саўсім не больна. Хадзем»,— яны выйшлі з кузні. Гаўрылу ўзялі пад рукі дзве жанчыны — Матруна і другая, незнаёмая, падвялі да вярбы, пад якой сядзеў за сталом доктар у белым халаце. «Ну-с, малады чалавек, раскрывай рот. Не бойся, гэта зусім не больна,— доктар узяў у бацькі шчыпцы, незнаёмая жанчына, нечым падобная на Хрысціну, толькі маладзейшая, падала малаток.— Шырэй рот раскрывай, шырэй! Загонім цвічок між зубоў. Будзе моцна трымаць. Да скону...» — «Вы што, здурнелі? Цвік між зубоў?» — закрычаў Гаўрыла,ірвануўся з усяе сілы. І... прачнуўся. Сэрца гулка тахкала ў грудзях, у роце ўсё пасохла. Хвіліну паляжаў,

прыслухаўся да цішыні, потым падняўся, выпіў вады, зірнуў на гадзіннік — была палова пятай.

Зноў лёг, цяплей укрыўся, бо хата за ноч выстыла, падумаў, што трэба лепей напаліць печ, нібы прадчуваў, што гэта прыдасца. З галавы не выходзіў сон. Што да чаго? Цвік забіваць між зубоў?! Страхоцце. Ніколі такога не снілася. Але ж крыві, здаецца, не было. Мо ніхто не памрэ з родзічаў... Так і не заснуў болей да рання. Затое па абедзе яго змарыў сон. Прахапіўся ад голасу, спачатку не мог ачомацца і даўмецца, хто яго кліча — нібы Матрунін голас. Нарэшце згледзеў ля парога Хрысціну.

— Што ета ты ляжыш? Захварэў, сусед, ці што?— Хрысціна прыглядалася да яго выцвілымі, падслепаватымі вачамі.

— Ды не. Задрамаў троху. Праходзь, садзіся. Што ты стала ў парозе? — Гаўрыла падняўся з канапы, сеў да стала.

Хрысціна была ў кажушку наапашкі, з-пад тоўстай хусты выглядвала цёплая зялёная кофта, якая абцягвала пустыя старэчыя грудзі.

— Няма калі сядзець. Прыйшла сказаць... Анісся прыехала.

— Куды прыехала? Да каго?

— Да мяне. Яна ж пасёстра мая. Радня. Хадзі, пасядзім троху.

— Ды я... Чаго мне? — разгубіўся Гаўрыла.— Карова нядоена, парсюка трэба накарміць...

— Ну дык падаі. Кінь ёй сена. Цэла будзе твая карова. І кабан не здохне... Хадзі. А то нам удзвёх скушна,— Хрысціна так умольна глядзела на яго, што Гаўрыла яшчэ болей разгубіўся.

— Ат, што з вамі, з бабамі... Падаю карову і прыйду.

— Толькі ж глядзі не баўся. Чалавек жа цябе дыжыдае,— Хрысціна крутнулася за дзверы.

— Дыжыдае... Я болей дыжыдаў,— буркнуў Гаўрыла, апранаючы кажух.

Так, у кажусе, ён і прываліўся да стала. Сэрца раптам сціснула ў грудзях, цяжка стала дыхаць. «От, стары корч, здзяцініўся. Пра любошчы задумаўся,— дакараў ён сябе.— Ну прыехала старая баба... Пабудзе і паедзе...»

Ён хутка дагледзеў гаспадарку, дастаў з шафы цёмна-сіні касцюм, прапахлы нафталінам, надзеў чыстую рубаху — сінюю, у палоску. Каўнер яе зрабіўся велікаватым. «Усыхаю»,— уздыхнуў Гаўрыла, пакруціў шыяй. Узяў быў здымаць валёнкі, каб абуць боты, нават сцягнуў адзін валёнак, а потым разважыў: што ён жаніх, ці што? Ды і мароз на вуліцы. Пінжак адзене, а ватнікі за сталом не відаць.

— Зірну на былую прысуху, ды і дамоў,— сказаў сам сабе Гаўрыла, на парозе прыстоіў у задуменні: — Не спытаў у Хрысціны, мо прыхапіць чаго з сабой? Няёмка з пустымі рукамі. Каб якога зелля пляшку. Дык жа няма...

На дварэ яшчэ не сцямнела, але вокны Хрысцінінай хаты ўжо ярка свяціліся. Гаўрыла ішоў, стараючыся не горбіцца, нібы баяўся, што за ім нехта сочыць. Дзверы ён адчыніў рашуча, і адразу яму кінулася ў вочы: за сталом на лаве сядзела незнаёмая мажная жанчына ў акулярах.

— Здароўце вам! З прыездам...— імя Анісcі не назваў, чамусьці язык не павярнуўся.

Жанчына ў акулярах даволі лёгка паднялася насустрач.

— Здароў, Міхайлавіч,— і падала яму мяккую белую руку.

Гаўрыла далікатна пацiснуў Аніссіну пульхную далонь. Анісся затрымала яго руку, доўга разглядала яго праз шкельцы акуляраў.

— Во ты які... Каб на вуліцы стрэла, не пазнала б...

— Столькі гадоў мінула. І я не пазнаў бы...

Ён прыглядаўся да Аніссі і нічога не знаходзіў ад той маладой, танклявай, прыгожай. У гэтай была круглая, бы качан капусты, галава на кароткай шыі, кароткія валасы, праўда, яшчэ даволі густыя і амаль без сівізны. Анісся шырока ўсміхалася, паказваючы роўныя штучныя зубы. Падобныя ж штучныя зубы красаваліся і ў роце Гаўрылы.

— Ну, сядайце, госцікі дарагея,— прашапялявіла Хрысціна.

Анісся лёгка павярнулася і, пакалыхваючы пышным азадкам, падалася да лаўкі, села далей, нібы запрашала Гаўрылу сесці побач. Ён неяк сумеўся, убачыў ля печы зэдлік, прыставіў яго да стала. Гаспадыня падсунула яму чарку віна.

— Ды я... праўду кажучы, не ўжываю апошнім часам,— пачаў адмаўляцца Гаўрыла.

— Што ета ты хвардабычыссся? Няма чаго прыкідвацца. І слухаць не хачу. За прыезд госці дарагой, пасёстры маёй. Можаш выпіць,— настойвала Хрысціна.— Ну, бярыцеся...

— Дык ты ўжо і віна не п'еш? — здзівілася Анісся, калі Гаўрыла адставіў недапітую чарку.— Выбраў норму ці здароўе не дазваляе?

— Якое ўжо тут здароўе? Стаптаўся. Клапаны грукаюць. Таму і ў чарку не заглядваю,— Гаўрыла ўзяў скрылёк купленай каўбасы, паволі жаваў, не чуючы смаку.

— Крэпкі ён яшчэ мужык. І косіць, і дровы возіць. Карову даглядае. Еткую гаспадарку трымае,— размахваючы відэльцам, гаварыла гаспадыня. Яна падпіла ўжо, схуднелы бяззубы твар яе злёгку расчырванеўся.

— Мой муж, нябожчык, як рабіў на шахце, трымаўся. Ну, у святы, выхадныя не без таго. А як на пенсію выйшаў, дык і распіўся на сабачую пугу. Чаго ні рабіла... Не памагло. Во, тры гадочкі, як няма яго,— Анісся дастала хусцінку, высмаркалася, цярнула вочы, зняўшы акуляры. І тут Гаўрыла пазнаў абрысы даўняй маладой Анісі: трошкі кірпаты нос, высокія надброўныя дугі і той няўлоўны выраз, які ўласцівы бадай што кожнаму чалавеку, прыдаючы яму адметнасць і непаўторнасць.

Анісся схавала хусцінку, неяк адразу супакоілася, пачала апавядаць пра сваіх дзяцей, якія яны добрыя, вучаныя, як іх на рабоце паважаюць — у яе дзве дачкі і сын, мае пяцёра ўнукаў. Гаворачы пра дзяцей, заўсміхалася, павесялела, пахвалілася кватэрай, у якой жыве разам з малодшай дачкой і зяцем, чалавекам вельмі добрым, уважлівым і гаспадарлівым. Гаўрыла слухаў яе і нечакана адчуў, што пачынае злаваць: навошта яна так хваліцца, хіба ў яго дзеці горшыя. Гэта, мусіць, адчула і Хрысціна, бо рашуча перапыніла госцю:

— А ў Гаўрылы яшчэ большая сямейка. Чатыры сыны. Ды хлопцы, як дубы. І дзеўкі тры...

— Дзеўкі,— хмыкнуў Гаўрыла.— Даўно ўсе замужам. У мяне ўжо шаснаццаць унукаў. Малодшы

сын, Васіль, прыслаў учора пісьмо. Другі хлопчык у яго нарадзіўся...

— Дык чаго ж ты маўчаў дасюль? — Хрысціна ўзялася за бутэльку.

На гэты раз Гаўрыла не ўпіраўся, але чарку не дапіў, таксама як і Анісся. Гледзячы на іх, адставіла сваю і Хрысціна.

— Ну, дык заядайце хоць. А то і не п'яцё, і не ясцё. Усё ж на стале. І скварка ёсць, і каўбаскі зрабіла. І купленыя гасцінцы. Гаўрыла, во з Украіны каўбаса, паспрабуй...

— Спасібачкі, суседка, я ўжо закусіў,— Гаўрылу не хацелася ні есці, ні піць, а карцела гаварыць пра сваіх дзяцей, унукаў, пра былую жонку, з якой пражыў больш як сорак гадоў.

— Дык ета ў Васіля хлопчык нарадзіўся? — перапытала Хрысціна.

— Ага, у Васіля. Ён у мяне вясёлы хлопец. І на работу здатны.

— Усе твае дзеці рабацяшчыя,— падхапіла гаспадыня.— А мне бог не даў сыночка. Тры дачкі... Праўда, унукі ёсць. Ужо і праўнук паявіўся... Мой жа Пракоп не прыйшоў з вайны...— Хрысціна памаўчала.— Цяпер во жыць можна. Усё ёсць. А здароўя няма. Ведама, восьмы дзесятак...

Анісся моўчкі слухала, мабыць, і яна падумала пра свае гады,— а ёй ужо нямала. Гаўрылу не хацелася гаварыць пра ўзрост, пра сваю старасць. От, каб расказаць што вясёлае, але не ўмеў ён жартаваць і гаварыць, як яго малодшы сын.

— Не думай, пасёстра, пра свае гады. Нашы гады — наша багацце,— як у той песні пяецца,— весела сказала Анісся.

— Можа, целявізар уключыць? — падхапілася Хрысціна.

— Ой, столькі не бачыліся, лепей пагаворым. Ці вы не нагледзеліся тэлевізара? Кожны вечар седзяце ля яго.

— Ета праўда,— уздыхнуў Гаўрыла.— Я дык з каровай гавару. Зімой. Улетку весела. Унукі панаедуць, дзеці, бывае, збяруцца. Дык і спяваем, і рагочам. Васіль мой мастак на розныя штукі. І жартаў, і анекдотаў ведае процьму...

— Цяперашнія дзеці не такія... Як мы былі нека-

лі,— Анісся зірнула на Гаўрылу, усміхнулася.— Ты ў маладосці быў такі маўчун. Такі маўмыра. Адно рукам волю даваў...

Гаўрыла не пакрыўдзіўся, таксама ўсміхнуўся.

— Мой Васіль такі жарт расказваў. Адна кабета падала ў суд на мужчыну, быццам той хацеў яе згвалціць. Ну, суд разглядае справу. Пракурор і пытае: вы пацвярджаеце, што ён пытаўся вас насільнічаць? А яна падхопліваецца і кажа: не, не пытаўся, не было такога. Суддзі не ведаюць, што рабіць. Аб'явілі перапынак. Давай ушчуваць жанчыну, што ты нам галовы дурыш, ты ж заявіла ну етаму... следчаму, што пытаўся... А яна кажа: каб жа ён папытаўся, а то наляцеў, як каршун...

Анісся раптам залілася тонкім, залівістым смехам.

— Ну й, Гаўрыла, каб цябе качкі... Не чакала, што ты станеш такім жартаўніком,— яна выцерла вочы хусцінкай, паправіла акуляры, цень смутку, нібы аблачына, набег на твар.— Як ты ўсё-такі жывеш адзін?

— Як жыву? А вось пойдзем у хату. Паглядзіш. Кажуць жа добрыя людзі: лепш адзін раз пабачыць, чымся сто разоў пачуць.

— Схадзі й праўда,— падхапіла Хрысціна.— Я тут прыбяру.

— Дык я падсоблю. Давай разам,— паднялася Анісся.

— Ідзі. Тут і адной няма чаго...— замахала рукамі Хрысціна.

## IV

На вуліцы Анісся ўзяла яго пад руку, і ён адчуў сябе няёмка, бо ніколі ў жыцці не хадзіў так. Увайшлі ў хату. Анісся хуткім паглядам акінула першы пакой, увайшла ў другі, патупала сюды-туды і ўсё аглядвалася, нібы збіралася купляць хату. Выдыхнула — пара ледзь прыкметным слупком растала ў паветры.

— Холадна ў цябе, гаспадар,— сцепанула яна плячамі, не здымаючы зімовае паліто з лісою на каўняры.

— Печ цёплая. А ў грубцы яшчэ не палена. Дро-

вы ўжо тут, толькі падпаліць,— Гаўрыла хуценька адкрыў юшку, сунуў у грубку смалячок і кавалак газеціны — і дровы загарэліся.— Прынясу яшчэ дроў,— ён шуснуў за парог.

Нейкае дзіўнае хваляванне ахапіла Гаўрылу, у яго трэсліся рукі, дробненька, бы ад холаду, клацалі зубы. Ён пастаяў пад паветкай, паглядзеў на асветленыя вокны прыхожай — шыбіны тонкім узорам распісаў мароз, але праз іх усё было відно, а паўцёмныя вокны другога пакоя адсвечвалі барвовымі водбліскамі. Ён, як злодзей, падкраўся да акна — Анісся цёмнай глыбай горбілася на зэдліку ля грубкі. Гаўрыла хуценька набраў бярэма дроў і важка, па-гаспадарску тупаючы, пайшоў у хату.

Гаворка ніяк не ладзілася. Гаспадар моўчкі сядзеў на канапе з рыпучымі спружынамі, а госця каля грубкі. Гаўрылу карцела, шчымела, як даўняя, застарэлая рана, спытаць, чаму тады яна не вярнулася, але не мог адважыцца. Ды і ці трэба? Нічога не перайначыш, жыццё пражыта. Інакшым сваё жыццё — без Матруны, без сваіх сыноў і дачок, без унукаў, уявіць не мог... І ўсё ж чаму?..

— Слухай, Гаўрыла, скажы па праўдзе... Як на споведзі... Ты на мяне злуеш? — глухаватым голасам спытала Анісся.

— За што?

— Ну, што ўцякла я тады...

— Перагарэла ета ўсё. Дужа даўно было,— уздыхнуў Гаўрыла.— Я добра жыў з Матрунаю... Злосці на цябе няма... А ўсё ж чаму? Інцярэсна ўсё-ткі, чаму збегла? Што не панаравілася?

— Напужалася я вельмі... Дурная была, не ведала нічагуткі... А ты, як той каршун, наляцеў. Ці як воўк галодны... Пасля дужа хацелася быць з табою. А матка ў адну душу: Кавальчукі — п'яніцы, разбойнікі, зладзеі. Едзь, дачушка, на Данбас да дзядзькі. Ну, і паехала. Там і знайшла свайго... І я пражыла жыццё. Усяго было. І радасці, і гора. Чалавек мой неблагі быў, грэх лішняе казаць. Праўда, апошнія гады запіваў. А ўсё дружкі, бяздзелле. Узяўся быў дачу будаваць, дык і піў меней. Потым і там знайшліся сябрукі... Улетку на дачы добра. А зімой сяджу, як у клетцы. Таблеткі глытаю. Ціск у мяне вялікі. Сяджу ды таўсцею... Праўда, не такая ўжо я тоўстая. Цяпер зі-

ма. На мне сорак адзёжак... Ой, у калені прыпякае. Угрэлася. Можна я паліто здыму? — і, не чакаючы адказу, паднялася, выйшла ў першую хату.

Гаўрыла патупаў за ёй услед, каб уключыць там святло. Яна прыстоіла за парогам, і ён з разгону стукнуўся ёй у плячо.

— Не трэба святла. А то Хрысціна прыбяжыць. І пагаманіць не дасць,— прыцішана, як змоўшчыца, сказала Анісся, вярнулася да грубкі, стала спінаю да агню — грэлася, расшпіліла кофту.— Бачыш, саўсім не таўстая,— узяла рукі ў бокі, зірнула на яго.

— На нашы гады дык нармальна. Бацька мой казаў: пакуль тоўсты сохне, дык худы здохне...— ён падышоў да акна, завесіў фіранку.

— Во, во, завесь. А то яшчэ хто падгледзіць. Скажа, выкручваецца, як маладая. Ты, можа, тут палюбоўніцу завёў, га? — усміхнулася Анісся.

— Адкуль тут яе возьмеш? Дый стары я ўжо. Скора семдзесят.

— Дык і мне ўжо нямала. Я ж на два гады толькі маладзейшая. А ўсё роўна. Жывому — пра жывое. Нешта ты як госць у сваёй хаце?

— Я от думаю... Чым і пачаставаць цябе? Гарэлкі няма.

— Як гэта ты ад гарэлкі адвучыўся?

— Жысць адвучыла.

— Другія кажуць, што жысць прывучыла. А ў цябе — наадварот.

— Была са мной такая прахціка,— Гаўрыла зноў сеў на канапу.— Гадоў дзесяць, а мо і болей, назад прыехаў мой старэйшы зяць Пятрок. Хлопец ён запальчывы, да трох не кажы. Я ж тады не ведаў, што ён гэткі. Селі за стол. І сыны мае былі. Ну, па чарцы і ўсё такое. За кумпанію і я нарэзаўся. Нечага хлопцы счапіліся. Тады зяць майго сына кулаком... Я ўсхапіўся, згроб зяця, як куронка... Я тады здаравейшы быў, хацеў гвазлануць, замахнуўся, ды Матруна на руцэ павісла. Зяць гады два сюды вачэй не паказваў. Дачка на мяне касавурылася. Матруна пілавала і ўдзень і ўночы. І даў я сабе зарок. Задумаўся. Ета ж я мог скалечыць чалавека, дачцэ паламаць жыццё. І ўсё праз чарку... З таго разу зарокся. Збяруцца дзеці. Сяду з імі, вып'ю кроплю для прыліку, каб ніхто не казаў, што я грэбую, ці што. Сяджу, гаманю, але ўсё

ў мяне пад кантролем. Калі што, дык я цвярозы... Памалу, ламалу і адвык. І ў хаце яе няма... Можа, чаю зробім ці малака вып'еш?

— Малака вып'ю, калі ёсць. А то ў роце смажыць.

— Чаму ж няма? Увечары падаіў. Свежанькае.

Гаўрыла прынёс карэц малака.

— Можа, хлеба з варэннем?

— Не трэба. Я так,— Анісся, смакуючы, выпіла поўны карэц.— От дзякуй. Найлепшае віно,— яна выцерла рот тыльным бокам далоні, неяк гарэзліва зірнула на Гаўрылу, абшчапіла яго аберуч за шыю і моцна пацалавала.

Старадаўні латунны карэц глуха стукнуўся аб падлогу...

## V

Яны ляжалі на печы, на цёплай чарэні. Гаварылі і не маглі нагаварыцца. Гаўрыла расказваў пра вайну, Анісся абмацала шрам ад ранення на ягоным плячы.

— Шчаслівчык. А маглі ж скубануць ніжэй... Крэпкі ты яшчэ мужык, Гаўрылка. Не сцягаўся, збярогся...

— Ніяк я не бярогся. Сорак гадоў адрабіў. І ў кузні, і на трактары. Вунь у шафе цэлы пук грамат. І пахвальных, і ганаровых. Ад работы ніколі не хаваўся. Парода наша моцная. Кавальчукі,— ён падняўся, пасунуўся з печы.— Выйду на хвіліну.

Гаўрыла выйшаў на двор, памачыўся, прытаптаў снег, каб не было знаць рудых пісягоў. Ноч была зорная, ціхая, ноздры аж зліпаліся ад марозу. І раптам ён уздрыгануў: гучна залопаў крыллем певень.

— Першыя пеўні, мабыць. Яшчэ рана,— і з радасцю адзначыў, што ён даўно так выразна не чуў пеўня ў хляве.— Ці ў мяне ад вушэй адлягло? Ці я маладзею? — ён развярнуў плечы, патупаў па чыстым рыпучым снезе.— Чорт пабірай, не такі я стары! На днях унучак яшчэ адзін радзіўся. Яшчэ адзін Кавальчук,— Гаўрыла зірнуў на неба і нечакана ўбачыў бліскучы чырвоны агеньчык, які мігаў, пульсіраваў, як светлафор, і плыў угары...— Самалёт, відаць. А мо касманаўты паляцелі? Во, не спяць людзі... Э-хе-хе, толь-

кі б вайны не было,— востра апякла яго трывожная думка.

Зноў закукарэкаў певень. Гаўрыла ўспомніў, што сёння стрэчанне, вясна будзе змагацца з зімой, а певень павінен напіцца вады са страхі, што скора вясна, можна лічыць, перазімаваў. І тут яму прыгадаўся сон. «Во, які ета цвік убіваюць між зубоў! Ета ж Анісся хоча ўбіцца між дзяцей, як той цвік. Але чым яна будзе замінаць? Калі прыедуць дзеці, унукі, няўжо яна не прывеціць іх? Ды я ж гаспадар! І хата мая. Калі яе дзеці прыедуць, няхай, на здароўе. Месца хопіць... А пачне яна хвардабычыцца, турну назад»,— падумаў ён, але ўспомніў зноў сваю адзіноту і адчуў, што ў яго мацнее жаданне, выспявае рашэнне ўгаварыць Аніссю застацца.

Ён вярнуўся ў хату, пасунуўся ў другі пакой, вобмацкам пачаў разбіраць ложак.

— Што ты тут робіш? — басанож тэпала да яго Анісся.

— Ложак разбіраю. Я, можа, тут лягу. Ці ты кладзіся. З дарогі...

— Хіба на печы кепска? Мне падалося, лепей, чым на пярыне. І я не стамілася... Пагрэлася на печы, дык неяк палягчэла. Нібы сем пудоў з плячэй звалілася,— Анісся прыхінулася да грубкі.— Падлога, як лёд, а грубка такая цёплая.

— Вазьмі мае атопкі,— ён падсунуў ёй абрэзаныя валёнкі, сам сеў на ложак.— Грубка хутка грэецца. Пасля вайны з бацькам склалі. Ён усё ўмеў рабіць...

— Я пасядзела ля грубачкі, дык проста душою адагрэлася... Дурныя людзі. Пішчом лезуць у горад, у камяніцы, у клеткі. А тут такая вольніца... І паветра чыстае, і снег белы...

— Затое ж у горадзе лягчэй жыць. Дровы не трэба. Сена не трэба. Прыйшоў з работы, дый на бакавую... Вунь Хрысціна спрацавалася...

— Ты ёй памагай хоць трохі,— ціха сказала Анісся.

— Памагаю. От заставайся... Будзем болей памагаць...

Анісся доўга маўчала, падышла да яго, паклала рукі на плечы.

— Ты праўда хочаш, каб я засталася?

— Праўда, Анісся... Заставайся. Тады ў нас не

атрымалася... Жыццё прайшло паасобку. Давай хоць дажываць разам...

— Дарагі ты мой чалавек... Ты не ведаў. Не здагадваўся. І падумаць не мог... А я ўсё жыццё цябе ўспамінала. Мой і спіўся ад таго, што не любіла...— Анісся зашморгала носам, уткнулася галавой яму ў плячо.

Шурпатай далонню Гаўрыла правёў па яе твары, мокрым ад гарачых слёз. Яму таксама хацелася плакаць, нейкае шчымлівае пачуццё непапраўнай віны захліснула ўсю яго істоту.

Ціхая марозная ноч стаяла над маленькім паселішчам. Глыбокім чыстым снегам была ўхутана зямля. Зрэдку на Бесядзі гулка трэскаў лёд, быццам рыхтаваўся да вясновага крыгаходу.

*1985*

# ПОЎНАЕ ЗАЦЬМЕННЕ МЕСЯЦА

## I

Пасля пахавання мужа Вольга Аржаноўская амаль штодня ездзіла на могілкі. Часу ў яе хапала: на работу не трэба — ужо год на пенсіі, дома нішто не трымала — засталася адна, сын памёр у пяцігадовым узросце, і болей дзяцей у іх не было. Жыла яна ў вялікім старым бацькавым доме, падзеленым надвае, за перагародкай месцілася сям'я роднага брата.

У хаце ўсё нагадвала Вользе мужа-нябожчыка, было проста невыносна трываць, яна брала пластмасавае белае вядзерца, зразала колькі свежых кветак і шыбавала на аўтобус.

Высокая, стройная, з прамою спінаю, у цёмным плашчы і цёмнай хусце яна была асабліва прыгожай. Выразны твар з буйнымі, але правільнымі рысамі, прыгожы рот з журботна апушчанымі ўніз куточкамі вуснаў, вялікія вочы пад цёмнымі вейкамі задуменна і сумна пазіралі вакол і, можна сказаць, не бачылі нікога. Затое на яе заглядваліся ўсе, асабліва мужчыны, тыя нават паварочваліся ўслед, як сланечнікі за сонцам.

Прыехала яна на могілкі і гэтым хмурным восеньскім днём. Тут было людна. Каля ўвахода бойкія гандляркі прадавалі кветкі. Па дарожках-алейках хадзілі людзі. Некаторых Вольга ўжо ведала ў твар, многія з ёй віталіся, бо і яе прыкмецілі штатныя наведнікі, найбольш жанчыны-пенсіянеркі. Вольга падыходзіла ўжо да роднай магілкі, здалёк нават не пазнала яе: замест узгорачка жаўтлявага пяску высілася зялёная магілка — нарэшце наглядчыца абклала яе дзёрнам. Зблізку Вольга ўбачыла, што дзёран укладзены таропка, абы-як.

«От, лайдачка, садрала трыццатку, а зрабіла абы з

рук»,— з прыкрасцю падумала Вольга, а ўголас ціха сказала:

— Нічога, муж мой дарагі, зараз я абкладу тваю дамоўку лепей. І кветачак я табе прынесла свежых,— вочы яе зноў напоўніліся слязьмі. Яна паставіла ў слоік кветкі, выкінула ранейшыя і ўзялася перакладваць дзёран.

Думкі яе скіраваліся да таго, што праз які тыдзень сарачыны, трэба заказваць помнік. Зноў вярэдзіла яе думка, як паставіць помнік, бо пахавалі мужа галавою да дарогі, нагамі да сцяны-агароджы. Магілы тут былі ў адзін рад, помнікі ставілі бліжэй да сцяны, фасадам да дарогі. Яна дакарала сябе, што ў дзень пахавання не звярнула на гэта ўвагі, што ніхто з блізкіх пра гэта не падумаў, а цяпер яна ўсё больш бедавала, бо давядзецца ставіць помнік у нагах, а гэта нядобра.

Неяк Вольга падзялілася сваім клопатам з наглядчыцай могілак, і тая параіла папрасіць далакопаў, яны могуць памагчы... Пакуль што яна не шукала тых далакопаў, хоць не раз бачыла мужчын, якія капалі магілы. Яна старанна перакладвала дзёран, далонямі прыціскала яго мацней, часам з вачэй зрываліся буйныя слязінкі і, нібы цвікі, прыбівалі дзёран да пяску. Неўзабаве пачуліся гучныя мужчынскія галасы, яна азірнулася і ўбачыла далакопаў, якія пачалі капаць новую яму.

Падумалася, што варта было б падысці да іх, але як сказаць пра такое, ды пры ўсіх, ці адазваць каго ўбок. Вырашыла пачакаць, калі яны закончаць работу. Яна не бачыла, калі наблізіўся да яе адзін з далакопаў, і знячэўку аж здрыганулася, пачуўшы:

— Што вы ўсё плачаце?

Вольга разагнулася, тыльным бокам далоні запхнула пад хусту пасмачку валасоў, зірнула на далакопа: высокі плячысты здаравяк у брызентавай штармоўцы стаяў перад ёй.

— Ды вось паклалі мужа галавою да дарогі. Цяпер невядома, як ставіць помнік.

— Мы можам павярнуць...

— Як павярнуць? — няўцямна перапытала Вольга.

— Дастаць труну і павярнуць,— ціха сказаў ён і дадаў: — Але гэта ўжо крымінальная справа,— ён павярнуўся і пайшоў.

Словы далакопа не супакоілі Вольгу, а наадварот яшчэ болей развярэдзілі душу. Слёзы гусцей пасыпаліся з вачэй. Часам яна дзівілася, адкуль у яе бяруцца слёзы: яна гэтулькі плакала, калі хварэў муж, а хварэў ён больш года, і вось ужо блізка месяц, як пахавалі яго, а яна ўсё плача.

Праз нейкі час далакоп зноў падышоў. Плячысты, мардаты, ён глядзеў на Вольгу з прыхаванай ухмылкай.

— Ну, што вы надумалі?

— Я згодна.

— Гэта будзе дорага каштаваць.

— Колькі?

— Нас трое. Ды трэба даць сяму-таму...

— Ну дык колькі?

— Чатыры сотні.

«Абдзіралы, нахабнікі! Нажываецеся на чалавечым горы»,— хацелася ёй крыкнуць у твар далакопу.

— Хопіць з вас трох...— сказала яна са злосцю.

Той моўчкі ўхмыльнуўся, невялікія зеленаватыя вочкі пільна ўглядаліся ў жанчыну.

— Рабіць гэта трэба ноччу...

— Няўжо ж сярод белага дня,— рэзка, нібы вялікае капрызлівае дзіця, гаварыла Вольга, хаваючы сваю бездапаможнасць і разгубленасць.

Далакоп, мабыць, адчуў яе разгубленасць, ціха спытаў:

— Вы не баіцеся? Ноч. Цемра. Магілы...

— Не баюся,— перапыніла яна.— Калі гэта можна зрабіць?

— Дзіўная жанчына... Пазваніце мне,— ён дастаў маленькі зашмальцаваны блакноцік, выдраў старонку, напісаў тэлефон, падаў ёй.— Спытаеце Анатоля.

— А па бацьку?

— Не трэба. Я пакуль што не дзед. Мне яшчэ толькі сорак пяць... А вы мне падабаецеся. Усё ходзіце на магілку. Усё плачаце... І такая прыгожая, смелая жанчына. Я такіх не сустракаў. Можа, пасябруем, га?

— Я ўжо старая. Мне пяцьдзесят,— адказала яна, хоць ёй было ўжо на шэсць гадоў болей. Жанчынам заўсёды хочацца хаваць свой узрост.

— Пяцьдзесят? Не можа быць! Больш сарака вам не дасі... Значыць, так. Будзьце ў гэтым самым адзенні. Грошы з сабой. І каб нікому ні слова. Інакш — турма. І гэтай не кажыце,— ён паказаў нагою на дзёран, і Вольга здагадалася, каго ён меў на ўвазе.— Язык у яе што памяло.

Далакоп павярнуўся і пайшоў не развітваючыся.

У гэты вечар Вольга не плакала, яна з трывогаю ўспаміналь размову на могілках, варухнулася думка: мо адступіцца, не рабіць гэтага або параіцца з братам. Апошні варыянт адкінула адразу: брат Уладзімір ужо гаварыў, што няма ніякай розніцы, як пахавалі, дзе будзе стаяць помнік. Яна дастала з шуфляды грошы, адлічыла тры сотні, злавіла сябе на думцы, што ёй нікольки не шкада грошай.

«Мо яны знарок гэтак пахавалі? Мо я не першая, каго яны абдзіраюць, нахабнікі...» — падумала яна і сказала сама сабе:

— Што мне грошы? Колькі таго жыцця засталося?

Кошка, пачуўшы яе голас, мяўкнула, падняла ўгору пушысты хвост, пацерлася аб нагу гаспадыні. Вольга павярнулася да трумо, пачала ўважліва разглядаць сябе, глядзела, нібы не пазнавала: высокі лоб прарэзалі маршчыны, твар не такі гладкі — раней яна рабіла нанач розныя маскі, мазала скуру прэсным агурком, доўгія, яшчэ густыя валасы фарбавала хной. Заўсёды ў яе была акуратная прычоска. Увогуле часу ў яе хапала, каб сачыць за сабой, апошнія гады былі і грошы, каб модна апрануцца, муж атрымліваў зарплату і пенсію, стараўся ёй дагадзіць усім, чым толькі мог.

— Пралящела жыццё ўпустую,— уздыхнула Вольга, зірнула на партрэт маленькага сына, шыракалобага хударлявага хлопчыка з тонкімі вуснамі, расцягнутымі ў нейкай не па-дзіцячы сумнай усмешцы.

Вольга адчула, што вочы яе робяцца вільготнымі, але яна не заплакала: задуманае прымушала сціснуць волю ў кулак.

Яна легла спаць. Сон не браў, наплывалі ўспаміны.

## II

Прыгадалася далёкае лета на пачатку пяцідзесятых гадоў. Яна загарала з сяброўкамі на возеры, збіралася ўжо дамоў, калі да возера падкаціла бліскучая «Пабеда». З яе выйшлі два мажныя дзядзькі, пачалі распранацца, асцярожна ступаючы босымі нагамі, рушылі да вады, а вадзіцель, высокі малады мужчына — да дзяўчат.

— Дзяўчаты, чаму не купаецеся?

— Накупаліся ўжо. Дамоў збіраемся,— адказала Вольга.

— Так мы вас і пусцім. А што ж мы без вас будзем тут рабіць? — вадзіцель шырока ўсміхаўся і не зводзіў з Вольгі вачэй.

— Як гэта вы нас не пусціце? Цікава. Глядзіце, дзяўчаты, які храбер? — смяялася Вольга.

— Не, праўда, давайце пакупаемся,— угаворваў вадзіцель.

— Вы сабе плавайце, а мы пойдзем дахаты,— сказала Вольга, зашпіліла гузікі сукенкі, запляла валасы ў доўгую касу.

— Ну, пайшлі паплаваем. Яшчэ рана дамоў. Мы вас падвязём. Ну, хадзем,— ён узяў Вольгу за руку, запрашаючы ісці плаваць.

Дзяўчына паспрабавала вырваць руку, тады хлопец падхапіў яе аберуч і панёс.

— Пусціце, што вы робіце? — крычала Вольга, брыкалася нагамі.

Але хлопец данёс яе да возера і кінуў у ваду ў адзенні. І сам паплыў услед. Усе вакол дружна рагаталі, а Вользе было не да смеху. На беразе пачала выкручваць мокрую сукенку. Сяброўкі яе таксама смяяліся. Гледзячы на іх, заўсміхалася і Вольга.

— Не крыўдуйце. Адвязём дамоў на машыне,— супакойваў хлопец.

— Не хачу я з вамі ехаць,— праз слёзы гаварыла Вольга.

І ўсё ж давялося ёй згадзіцца і сесці ў машыну, бо не паедзеш жа ў трамваі ў мокрай сукенцы і не будзеш чакаць, пакуль высахне адзенне.

Каля дома хлопец спытаў, як яе завуць.

— Мяне завуць Сяргей. Я заўтра прыеду, добра?

Вольга нічога яму не адказала. Сяргей прыехаў. І пачаў ездзіць ледзь не штодня. А праз некалькі месяцаў прапанаваў ёй стаць яго жонкай.

— Я цябе як убачыў, так і закахаўся. Жыць без цябе не магу.

Вольга згадзілася не адразу. Сяргей быў старэйшы за яе гадоў на дзесяць, ваяваў на фронце, быў жанаты — узяў жанчыну з дзіцем, але пражылі нядоўга, разышліся, і з таго часу халасцякаваў. Думала, думала Вольга і нарэшце згадзілася.

Першыя гады жылі яны шчасліва. Калі Вольга хадзіла цяжарнай, Сяргей быў надзвычай клапатлівы: насіў ваду, дровы, прывозіў прадукты, адну Вольгу нават у магазін не пускаў. А ў выхадныя дні разам хадзілі гуляць па ціхіх зялёных вуліцах Грушаўкі, ускраіны Мінска. Хапала тады і рознай шпаны, вечарамі здараліся бойкі, але побач з Сяргеем Вольга нікога і нічога не баялася.

Роды былі цяжкія, давялося рабіць кесарава сячэнне. Хлопчык нарадзіўся здаровенькі, прыгожы, вельмі падобны на бацьку. Гэтыя гады, калі яны жылі ўтраіх, калі ў іхняе жыццё ўвайшоў сын, былі самыя шчаслівыя.

Вольга працавала ў магазіне, яшчэ да замужжа яна скончыла гандлёвы тэхнікум, прызначылі яе загадчыцай секцыі. Сяргей у вольны час шчыраваў у садзе, у агародзе: тры соткі зямлі, што меліся ля хаты, давалі ім бульбы, гародніны, садавіны на ўсю зіму. Адно непакоіла Вольгу: усё часцей пачала праяўляцца мужава рэўнасць. Мабыць, таму, што Вольга расцвіла пасля родаў, апраналася яна прыгожа, з густам, магла купіць тое, што іншым не было даступна. Калі хадзілі ў госці да сваякоў, да сяброў, мужчыны заглядаліся на яе, а яна лавіла насцярожаныя позіркі Сяргея.

Гэта злавала, раздражняла Вольгу і ў той жа час дзесьці ў глыбіні душы радавала: раўнуе, значыць любіць. Сама яна яшчэ не ведала: любіць Сяргея ці не, хоць і гадавала ад яго дзіця, начамі горача і моцна абдымала, і ўсё ж было нешта незразумелае, невыказнае, што насцярожвала яе, не дазваляла верыць яму да канца. Мо тое, што ён быў жанаты, абдымаў і цалаваў некалі другую, а потым разлюбіў і цяпер вельмі не любіць успамінаць пра яе. Вольгу надзвычай усце-

шылі ягоныя словы: як убачыў, так і закахаўся. Яна і сама ніколі не забудзе той момант на возеры, калі Сяргей падхапіў яе на рукі, а яна інстынктыўна ашчаперыла яго за шыю, і ўнутры нібы нешта ёкнула: гэта ён, суджаны. Часам дотык цела гаворыць мацней за тысячы слоў, хоць і кажуць, што жанчыны любяць вушамі. Можа, праз словы яны больш пачынаюць любіць розумам, а не сэрцам. Вольга мала думала пра любоў і шчасце, яна жыла і радавалася жыццю.

Бяда падкралася нечакана: неяк зімой захварэў сын на запаленне. Вольга не магла даўмецца, дзе ён мог прастыць? У хаце ў іх было цёпла, увосень яны пазатыкалі ўсе шчылінкі, абклеілі вокны, тапілі грубку, не шкадуючы дроў, і на вуліцы малы не гуляў падоўгу. Хваробу хлопчык перанёс цяжка, потым пачаў кволіцца пасля яе і нарэшце захварэў на сухоты. Ён літаральна згараў на вачах, нібы свечка. Сяргей падняў на ногі ўсіх знаёмых, хлопчыка вазілі да лепшых дактароў, але выратаваць яго не змаглі.

Смерць адзінага сына — першага і апошняга, бо раджаць Вольга болей не магла — надзвычай балюча параніла маладых бацькоў. Сяргей пачаў запіваць. Аднойчы ён прыйшоў на падпітку, прываліўся да стала і праз слёзы сказаў:

— Вольга, мілая, ты такая прыгожая, здаровая... Ды і я не зломак... Няўжо мы пражывём, як пустацветы? І пасля нас нікога не застанецца...

Вольга як скамянела ад гэтых слоў. І не ад крыўды на мужа, што вярэдзіць душу, нібы сыпле соль на свежую рану, а ад няўмольнай праўды гэтых слоў. Так, у іх больш не будзе дзяцей, іхняе жыццё не прадоўжыцца ў родным чалавеку.

— А мо давай возьмем маленькае дзіця? Сіротку... Ёсць такія ў дзетпрыёмніку...— ціха сказаў Сяргей.

Яна не раз думала пра гэта і прыйшла да перакапання, што пасля свайго сына, якога так моцна любіла, не зможа любіць ніякае іншае дзіця. Але тады яна пярэчыць не стала, бо ведала круты характар Сяргея, асабліва калі ён быў выпіўшы. Яна сказала, што трэба ім гэта добра абдумаць. А потым, калі ён пачаў размову на другі дзень, Вольга доўга маўчала, быццам язык не паварочваўся выказаць тое, што яна думае.

— Сярожа, разумееш, у нас быў свой сын. Я не

магу яго забыць. І чужое дзіця не змагу любіць... Я гатова жыць для цябе, дзяліць з табой усё, што выпадзе на нашу долю...

Сяргей моўчкі пасунуўся з хаты, а Вольга хуценька сабралася і паехала на могілкі да сына. Ездзіла яна туды часта, маленькая магілка нагадвала клумбу кветак — такой яна была дагледжанай.

Людзі нездарма кажуць: бяда не ходзіць адна. Неўзабаве пасля смерці сына ў Вольгіну секцыю раптоўна награнула рэвізія, выявіла недастачу тавараў, пачалося следства. Вольга разумела, што ніхто чужы на такую суму не мог вынесці тавараў, мабыць, нехта са сваіх улучыў момант, што яна паслабіла кантроль. Прадаўшчыцы ўсе сямейныя, усе з дзецьмі, пашкадавала іх Вольга і ўзяла віну на сябе. Сяргей аблаяў яе за гэта, бо ведаў, што яна нічога не крала.

— Гэтага мне толькі і не хапала. Жонка — зладзейка. Тваю маць...— лаяўся ён.— Добранькая, бярэ віну на сябе. А пра мяне ты падумала? Як жыць аднаму? Што на рабоце пра мяне скажуць? За бацьку цягалі пасля вайны... Цяпер за жонку...

— А мне лягчэй, думаеш, там будзе?

— Дык не лезь сама ў бруд! Хай шукаюць, хай разбіраюцца...

— Я вінавата... Я ўсім давярала.

Вользе было вельмі шкада Сяргея. Пасля таго як ажаніліся, ён расказаў пра сябе, пра сваю крыўду: працаваў у міліцыі, начальства яго паважала, збіраўся вучыцца далей, пачаў афармляць дакументы, і тут выплыла, што ягоны бацька быў раскулачаны. Знайшліся «звышпільныя» асобы, Сяргею прапанавалі пашукаць іншую работу. Тады і прыдалася яму вайсковая прафесія — усю вайну круціў ён баранку і зноў сеў за руль.

Перайначыць Вольга нічога не змагла, адбыўся суд, і яна апынулася на лесараспрацоўках у Карэліі. Лютыя маразы, снег па пахі, цяжкая работа. Але як ні было цяжка, яна не плакала, неўзабаве выйшла ў перадавікі. Моцнае здароўе, маладосць дапамаглі вытаяць і перамагчы ўсе нягоды. Сяргей спачатку пісаў вельмі часта, а потым усё радзей і радзей. За добрую працу і прыкладныя паводзіны Вольгу адпусцілі датэрмінова. Прыехала ў Мінск. Сэрца калацілася ў грудзях, калі падышла да роднай бацькавай хаты.

На дзвярах вісеў замок. Пайшла на братаву палавіну. Брата дома не было, а ягоная жонка стрымана павіншавала з вяртаннем.

З братавай у Вольгі былі няпростыя адносіны. Быў час, калі падоўгу не размаўлялі, нават не віталіся. А сталася вось як. У братавай была сястра Данута. Аднойчы ў застоллі Дануцін муж убачыў Вольгу і ўтрэскаўся па вушы. Пачаў бегаць за ёю, бы хлапчук. Дачуўся пра гэта Сяргей.

— А што я магу зрабіць? На работу звоніць... Надакучыў як горкая рэдзька. Непатрэбен ён мне...

Сяргей хутка супакоіўся. Ды і ўхажор перακанаўся, што траціць час дарэмна, таксама астыў, а вось братавая помсціла доўга. Яна і цяпер з прыхаванай радасцю ўела:

— Сяргей дома не начуе. У яго другая жанчына...

Адамкнула Вольга хату, холадам, нежылым духам патыхнула з пакояў. Усюды пыл, павуціннe. Прынесла вады і ўзялася мыць падлогу. Мыла і сама ўмывалася слязьмі.

Праз колькі дзён прыйшоў Сяргей, павітаўся, сцішана прысеў ля стала, зірнуў на яе спадылба.

— Ну як ты, адбыла?

— Адбыла. Раней адпусцілі. Дамоў спяшалася...

Сяргей пасядзеў, памаўчаў.

— Нешта ў хаце холадна. Пайду-ка я з дрывамі разбяруся...

Начаваць ён застаўся дома. Пачалі зноў жыць разам.

## III

Заснула Вольга позна. Прысніўся ёй Сяргей, яны збіраліся на сваёй машыне ехаць у грыбы, ён доўга шукаў рыдлёўку. «Навошта табе рыдлёўка?» — дапытвалася Вольга. «Трэба. Вадзіцель заўсёды павінен мець рыдлёўку. А раптам у лесе забуксуем...»

Прачнулася з цяжкай галавой, адчувала сябе зусім разбітай. Апошнім часам галава балела амаль штодня, ныла сэрца, балела паясніца. Думала-гадала пра сон, успомніла размову на могілках, вырашыла сёння ў канцы дня пазваніць далакопу.

Дзень выдаўся светлы, неба па-восеньску чыстае, яшчэ даволі высокае. Вольга зрэзала кветак і паехала на старыя могілкі да сына. Паставіла кветкі, зграбла жоўтае сухое лісце, якое нападала з дрэў, пасядзела на пацямнелай ад часу лавачцы.

— От, сынуля мой любы, далёка ты ляжыш ад бацькі. У розных канцах горада,— сказала яна сама сабе і міжволі падумала, што ад яе сына застаўся толькі курганок зямлі і памяць у яе душы.

Дамоў ішла пехатой, ішла нетаропка, а час цягнуўся яшчэ марудней. Яна пастаяла каля аднаго тэлефона-аўтамата, намацала ў кішэні з паўтузіна двухкапеечных манетак, вырашыла, што званіць яшчэ рана, пакіравала далей. Спынілася каля наступнага тэлефона. «А раптам ён ужо дома. Трэба пазваніць...» Нерашуча зняла трубку, набрала нумар і адразу пачула мужчынскі голас.

— Ці ёсць Анатоль? — спытала яна.

— Я слухаю...

Вольга назвала сябе.

— Заўтра ў пяць гадзін будзьце на месцы. Сустрэнемся каля ўвахода...— у трубцы пачуліся кароткія гудкі.

«Чаму ў пяць? Гэтак рана... А што ж рабіць да ночы?» — разважала яна, але спытаць не было ў каго, званіць яшчэ раз не адважылася.

Прыехала яна раней прызначанага часу, таму пасядзела трохі на аўтобуснай станцыі. Адсюль да могілак вяла асфальтаваная дарога, а напрасткі цераз поле шырокая тупкая сцежка. Вольга пайшла сцежкаю, насустрач траляліся людзі — вярталіся з могілак, а туды болей ужо ніхто не ішоў.

Ля ўвахода яе сустрэў адзін з далакопаў, малады, русявы.

— Чакайце мяне ля магілы,— ціха сказаў ён і знік, як прывід.

Яна паліла вадою кусцікі, якія нядаўна пасадзіла, кветкі, бо восень стаяла сухая. Зграбла апалае лісце. Болей работы тут не было, яна сцішана сядзела на лавачцы з новай жаўтлява-белай дошкі. Цямнела, людзей усё менела, цішыня заступала на вахту на могільніку.

Нячутна падышоў малады далакоп, кінуў рыдлёўкі, вяроўку. Вольга здрыганулася ад нечаканасці. Вя-

роўка нагадала ёй скручаную ў колцы гадзюку. Сэрца затахкала ад страху.

— Вам не страшна? — зірнуў на яе далакоп.

— Не. Мне ўжо няма чаго баяцца,— яна памацала рукой халяву бота, дзе былі схаваныя грошы.

Мужчына ўзяўся здымаць дзёран, акуратна складваў яго ўбаку. Рабіў ён гэта спрытна, хутка.

— Раніцай я зраблю тут усё, як было... А вы ранавата прыйшлі... Да дзевяці яшчэ доўга...

— Як было сказана, так і прыйшла.

— Можаце з'ездзіць дамоў...

— Чаго ехаць? Я далёка жыву.

— А што вы будзеце рабіць тры гадзіны? З'ездзіце ў горад. Потым зайдзеце вунь праз тую дзірку ў плоце. Мы будзем тут.

Вольга пайшла цераз поле ў горад. Ішла паціху, каб час бавіць. Наперадзе, бы асветленыя пчаліныя соты, свяціліся вокны дамоў, ззяла агнямі аўтобусная станцыя. Трывожныя думкі апанавалі Вольгу: мо адступіцца, не пайсці на могілкі, паехаць дамоў, уключыць тэлевізар і піць чай у цёплай хаце... Не, гэтулькі дзён думала пра гэта, сарачыны неўзабаве, помнік трэба заказваць... Не, адступаць няма куды. Злавіла сябе на думцы, што сёння зусім не плакала. Мусіць, страх прагнаў слёзы. У душы выспела рашучасць усё перамагчы.

Яна блукала па вуліцах мікрараёна, часта пазірала на гадзіннік, а час нібы спыніўся, стрэлкі гадзінніка рухаліся марудна, як сонныя. Вечар быў халодны, пранізлівы вецер прадзімаў наскрозь. Яна вырашыла з'ездзіць на вакзал і назад — гэта зойме больш гадзіны. З акна аўтобуса яна глядзела на вуліцы горада, а думкі былі далёка ў мінулым.

## IV

Аднойчы яны з Сяргеем пасварыліся. Вольга заўсёды раней прыходзіла з работы, паліла ў грубцы, гатавала вячэру, чакала мужа. На гэты раз яго доўга не было. Яна ведала, што ён з сябрукамі бавіць час у піўнушцы. Пасля смерці сына амаль штодня Сяргей прыходзіў выпіўшы, але звычайна не пазніўся, бо рана ўставаць, сядаць за руль. «Мо здарылася што?» — не-

пакоілася Вольга. Той час у іх жыла Сяргеева цётка, прыехала з вёскі. Старая пачала таксама непакоіцца. Вольга апранулася, пайшла да кафэ. Дзверы піўнушкі былі ўжо зачынены, яна пахадзіла па вуліцы і вярнулася дахаты. Сяргей быў ужо дома, сядзеў нахмураны, сярдзіты, адразу пачаў: «Чаму я прыходжу, а цябе няма? Дзе ты ходзіш?» — «Цябе хадзіла шукаць, п'янтоса гэткага».— «Ах, дык я п'яніца! Ах ты, гандлярка, тваю маць...» І пайшло і паехала. Цётка схавалася ў другім пакойчыку, а Сяргей гучна крычаў, лаяўся. А потым, як быў у кашулі, выскачыў на двор.

Вольга са слязьмі на вачах сядзела ў спальні. Праз нейкі час да яе зайшла цётка. «Вольгачка, дачушка, вынесі ты яму пінжак».— «А куды яго несці?» — «Ды вунь сядзіць на ганку ў адной кашулі».— «Калі вам так шкада яго, дык і аднясіце».— «Дык жа не ўзяў ад мяне. Сказаў, каб ты выйшла...» — «Нічога. Ахаладаецца, сам прыйдзе».

Яна не пайшла, чакала яго і заснула. Прачнулася — мужа побач не было. Ціхутка выйшла і ўбачыла яго ў прыхожай: ён спаў не распранаючыся, скурчыўшыся на дзіцячым матрацы. Яна доўга глядзела на яго, і пачуццё вялікага жалю да мужа варухнулася ў яе: «Дзіця ты маё, вялікае неразумнае і ўпартае дзіця. Навошта ты мяне крыўдзіш?»

Падумалася і пра яго нялёгкае жыццё. Вольга ведала, што ён падлеткам застаўся без бацькоў, прыехаў у Мінск, уладкаваўся на вагонарамонтны завод, праз нейкі час стаў самым маладым стаханаўцам, вучыўся ў вячэрняй школе, затым пайшоў служыць у армію, канчаўся тэрмін службы,— грымнула вайна...

Вольга дакарала сябе, што не вынесла яму пінжак, мо і паміры́ліся б... Цэлы дзень Сяргей корпаўся ў двары, калоў дровы, нешта майстраваў. Увечары яны паміры́ліся... Але здаралася, ён гэтак дапякаў ёй рэўнасцю, выпіўкамі, скандаламі, што хацелася падаць на развод. Потым гэтая паласа праходзіла, ён быў добрым, клапатлівым мужам, дбайным гаспадаром. Піць стаў меней, калі вырашылі купіць машыну, пачалі збіраць грошы.

— Што рабіць, Вольга? — загаварыў ён аднойчы.— Агітуюць мяне паступаць на вучобу. У тэхнікум. Каб закончыў дзесяты клас, паспрабаваў бы ў інстытут.

А так пайшоў у армію пасля дзевяці... Пасля вайны не хацелася сядзець з хлапчукамі за партай... Каб тэхнікум меў, прызначылі б загадчыкам гаража. Ну, дык што рабіць?

— Глядзі сам. Гэта нялёгка — працаваць і вучыцца. Ды на тваёй рабоце. З цёмнага да цёмнага за рулём. А потым сходы, пасяджэнні...

— Эхе-хе,— цяжка ўздыхнуў Сяргей.— Мабыць, позна ўжо... Паўсотня скора... А машыну мы і так купім...

Збіралі грошы на машыну доўга. Вольга працавала эканамістам на заводзе, зарплату мела невялікую, ды і ў Сяргея выходзіла не намнога болей. Купілі машыну, калі Сяргею заставалася два гады да пенсіі.

Ранняй вясною яны паехалі ў аўтамагазін. Вёрткі малады мужчына выганяў на закрытую пляцоўку навюткія аўтамабілі. Сюды пускалі некалькі пакупнікоў. Сяргей агледзеў «Жыгулі» белага колеру: яны загадзя дамовіліся браць машыну белага або чырвонага колеру. Вольга прыглядалася да абіўкі ўнутры, а Сяргей прыдзірліва аглядаў набор інструментаў, каб чаго не забылі пакласці, як адкрываюцца дзверцы, ці супадае нумар матора з нумарам у паперы. Машын было чатыры, а пакупнікоў тры. Сяргей агледзеў усе чатыры аўтамабілі і выбраў «Жыгулі» чырвонага колеру.

— Ну вось гэту, рабінавую... Бярэм? — усхваляваны, узрадаваны, зірнуў ён на жонку.

— Бярэм,— кіўнула Вольга.— Рабінка ты мая,— ласкава сказала, і ёй захацелася хутчэй працерці шкло, навесці глянец, каб усё блішчала і ззяла, як люстэрка...

Вольга зірнула за акно: дзе гэта яна едзе? Здзівілася: аўтобус імчаў па праспекце Машэрава, значыць, села не на той... Вользе раптам заманулася тут выйсці, каб паглядзець на помнік гораду-Герою.

Помнік быў ярка асветлены пражэктарамі. Высокая белая стэла — стылізаваны сцяг Перамогі, на самым версе паблісквала Зорка, а ўнізе, з правага боку стэлы, высілася бронзавая фігура жанчыны, яна трымала высока ўзняты горн — славіла Перамогу.

Прыгадаўся той маёвы вечар, калі толькі адкрылі помнік. Дзевятага мая Сяргею захацелася схадзіць да яго. Зімою ён хварэў, доўга ляжаў у бальніцы, перад маем выпісаўся. Вольга прынесла яму паштоўку з

ваенкамата: выклікаюць для ўручэння ордэна Айчыннай вайны. Ён доўга чытаў паштоўку, перачытваў, твар святлеў, а вочы былі сумныя-сумныя, здавалася, што ён вось-вось заплача. Сяргей узяў Вольгу за руку — яго вялікая рука з доўгімі моцнымі пальцамі была халаднаватая, лёгкая, усохлая.

Вольга ўзрадавалася: Сяргей амаль усё з'еў, што яна прынесла. Назаўтра таксама еў з апетытам. Хадзіла яна ў бальніцу двойчы ўдзень: уранні да работы і ўвечары. Загортвала каструлькі ручнікамі і ўмудралася прывозіць мужу цёплыя булёны, нягледзячы на мароз. К маю Сяргей падужэў, доктар, ведаючы яго цяжкую невылечную хваробу, нават здзівіўся. А Вольга разумела: былы салдат-франтавік хацеў сустрэць дома свята Перамогі, атрымаць заслужаны ордэн.

У той вечар Сяргей, высокі, сутулаваты, з ордэнамі і медалямі на грудзях, стаяў поруч з Вольгай. Вакол гаманіў шматтысячны людскі натоўп. Пачало сутонець, новы помнік асвяцілі пражэктары, аглушальна ўдарылі гарматы. Над Свіслаччу пакацілася гулкае тугое рэха.

— Моцна б'юць гарматы, як на фронце. Такія залпы псіхалагічна прыгнятаюць,— сказаў Вользе над вухам Сяргей.

У небе раз-пораз успыхвалі рознакаляровыя агні. Сорак магутных залпаў пракаціліся над святочным горадам. Калі адгрымеў салют, пачулася музыка, загучалі галасы, смех, аднекуль з парку данеслася песня.

— Мне такія залпы помняцца са Сталінграда,— Вользе падалося, што голас мужа ідзе да яе здалёку, нібы адтуль, з вайны.— У Сталінградзе фронт стаяў блізка. Дык вось немцы лупяць з гармат, дамы разбураюць і давяць нам на псіхіку. А потым як паперлі мы іх, дык адвялі душу...

Вольга прыгадала першую сустрэчу з Сяргеем на возеры — ад помніка гэта зусім блізка, захацелася пасядзець там на лавачцы. Яна ўзяла мужа за руку і адчула, што далонь злёгку гарачая — значыць, зноў падымаецца тэмпература.

Дамоў ішлі пешкі, бо аўтобусы, тралейбусы былі перапоўненыя. Вольга моцна трымала мужа пад руку, і ў яе душы нават варухнулася надзея, што ён яшчэ можа паправіцца. Нібы ўгадваючы яе думкі, Сяргей сказаў:

— Пацяплее, паедзем у лес. Праз тыдзень ужо могуць ландышы быць. Ты ж іх любіш...

— Паедзем. Толькі папраўляйся,— Вольга мацней прыхінулася да мужавага пляча.

Суцэльны людскі натоўп каціўся па праспекце Машэрава, выліваўся на Нямігу і расцякаўся ручаінамі ва ўсе канцы горада. Вольга і Сяргей падыходзілі да сваёй хаты, калі пачаўся дождж. А потым загрукатаў гром, неба паласавалі маланкі. Сяргей любаваўся навальніцай, усміхаўся:

— Разбудзілі божаньку гарматным салютам. І ён свой феерверк наладзіў... А дождж з навальніцай гэта вельмі добра. Грыбы пачнуць расці. З'ездзім у лес, га? Смаржкоў, страчкоў назбіраем.

— Канечне, з'ездзім.

— Я выеду за горад. А там ты сядзеш за руль...

— Ой, я ўжо развучылася,— Вользе так хацелася верыць, што замест штодзённых паездак у бальніцу яны выберуцца ў лес, можа, удасца адшукаць ландышаў.

З усіх лясных кветак яна вельмі любіла ландышы і, калі даводзілася быць у лесе ў час іхняга цвету, заўсёды прывозіла маленькі букецік на магілку сына.

На жаль, у тое лета з'ездзіць у лес ім не ўдалося.

Вольга здаля агледзела падсвечаны помнік, перайшла на другі бок вуліцы і паехала на вакзал.

Тут, як заўсёды, віраваў людскі натоўп. Цямнеўся даўжэзны хвост чаргі на таксі. Свяцільнікі, нібы вялізныя фасоліны, залівалі плошчу малочна-бляклым святлом, а зверху над свяцільнікамі, над змрочнымі гмахамі дамоў вісела злавесна-цёмнае неба.

Рабіць на вакзале не было чаго, і Вольга паехала прама на могілкі. У аўтобусе яе зноў апанавалі ўспаміны...

Рабінавы «жыгулёнак» перайначыў іхняе жыццё. Улетку амаль кожныя выхадныя ездзілі ў лес, да знаёмых на дачу, у час адпачынку на Віцебшчыну да Сяргеевых сваякоў. Выпіваў Сяргей цяпер вельмі рэдка, стараўся быць заўсёды ў форме. Грошы яны не так ужо ашчаджалі: машына ёсць, гараж пабудавалі ў двары, купілі Вользе новае паліто, імпартныя боцікі, яна звязала мужу цёплы світэр.

Усё ішло добра. Жылі яны дружна, ладна. Але зімой Сяргей моцна захварэў: рамантаваў свой аўтобус

у гаражы і прастыў. Вольга штодня ездзіла да яго ў бальніцу. Адтуль ён вярнуўся нібы іншым чалавекам: саслабелым, пастарэлым, з бледным, нейкім прасветленым тварам, ні грубага слова, ні дакору не чула цяпер Вольга ад мужа. Мабыць, шмат ён аб чым перадумаў за час хваробы, адчуў, што на парозе старасць, дажываць ім разам. Сяргей рабіўся ўсё больш клапатлівым, ласкавым і чулым.

Вольга, нібы запозненая кветка, раскрылася насустрач гэтай ласцы і пяшчоце. Яны цалаваліся ўранні, ідучы на работу, і спяшаліся дамоў, каб зноў сустрэцца. За апошнія пяць гадоў Вольга нанава адкрыла для сябе свайго мужа і па-новаму палюбіла яго. Гэта было яе апошняе каханне.

Сяргею афармілі пенсію, але ўгаварылі застацца на рабоце, як і раней, ён быў прафсаюзным лідэрам. Калегі часта запрашалі яго ў госці, і, вядома, з жонкай. І яны ахвотна прымалі гасцей, грошай цяпер у іх было намнога больш, гатаваць Вольга любіла і ўмела. Ды і ў мужавых руках любая работа гарэла, ён усё ўмеў.

Здаралася, ён рабіўся сумным, уздыхаў:

— Мілая Волька, ты крыўдуеш на мяне? Сапсаваў я табе жыццё. Які я дурны быў раней! Не было каму біць...

— Не, дарагі мой, я сама вінавата...

— Ні ў чым ты не вінавата. Проста я быў дурны... Не ўмеў цябе шанаваць. Крыўдна, што позна прыходзіць разуменне жыцця...

## V

Аўтобус прыцішыў ход, павярнуў на канцавы прыпынак. Вольга зірнула на гадзіннік: палова дзявятай. Сцішана ўзрадавалася: ужо можна ісці.

Яна пакіравала ў поле. Ззаду падсвечвалі агні горада, па тупкай сцежцы ісці было не страшна. Але чым далей яна ішла, тым гусцейшай рабілася цемра, і неўзабаве перад ёй нібы паўстала суцэльная сцяна цемры. Жудасць ахапіла Вольгу, ногі быццам прыраслі да зямлі, але яна ішла, ціха гаварыла з сабой: «Муж мой дарагі, каб ты ведаў, як мне страшна...» Вочы памалу прывыклі да цемры, праз хмары раптам прабіўся вялікі круглы месяц, асвяціў поле малочна-шэ-

рым святлом. Зрабілася відна, удалечыні Вольга ўбачыла цёмныя дрэвы на могілках.

Месяц свяціў нядоўга, нейкі цень памалу напаўзаў на месяц і неўзабаве закрыў яго, толькі з правага боку застаўся бліскучы сярпок. Наваколле зноў ахуталася цемрай. Вольга ішла, пазіраючы на неба. Месяц зрабіўся мутна-ружовым, сярпок апынуўся знізу. Месяц усё наліваўся чырванню, быццам сіліўся вырвацца з абдымкаў цёмнага спрута. Вольга міжволі спынілася сярод поля, стаяла і глядзела на неба. Страх, здзіўленне запоўнілі ўсю яе душу: яна не ведала, што пачалося поўнае зацьменне месяца.

Тым часам сярпок знізу заблішчаў яшчэ ярчэй, здавалася, што на сярэбранай талерцы ляжыць вялізны чырвоны кавун і плыве па цёмным небе.

Вольга прымусіла сябе ісці далей. У пасвятлелай цемры неўзабаве ўбачыла агароджу могільніка, у цішы, нібы з таго свету, пачуўся голас:

— Гэта вы? — пытаўся Анатоль.

— Я,— выціснула з сябе Вольга і не пазнала свайго голасу.

— Пайшлі хутчэй!

Яна ўбачыла цень, які шпарка пасунуўся паўз агароджу знутры, і, спатыкаючыся, пабегла па полі. «Куды я бягу? Няўжо насустрач сваёй смерці?» — ліхаманкава білася ў галаве думка. Анатоль ужо чакаў яе каля дзіркі, працягнуў руку. Вольга баялася падаць сваю і нейкі час стаяла, бы ў здранцвенні.

— Ну, хутчэй! — нецярпліва сказаў Анатоль.

Вольга нерашуча працягнула руку ў цемру і адчула поціск моцнай шырокай далоні. «Няўжо яны заб'юць мяне? За што? Закапаюць тут, і ніхто не падумае шукаць на могілках»,— думала Вольга.

— Вам не страшна? — спытаўся Анатоль.

— Страшна. Няма чаго пытацца пра гэта,— са злосцю адказала Вольга.

— А вы мне падабаецеся,— хмыкнуў ён.

Удваіх падышлі да магілы. Труна ўжо стаяла на зямлі.

— Мы павярнулі,— сказаў малады далакоп, які разбіраў дзёран.

— Адкрыйце, я хачу паглядзець...

— І так відаць, што тут галава,— сказаў Анатоль.

— Адкрыйце. Я хачу пакласці каробачку...

— Якую каробачку? — дапытваўся Анатоль.

— Мо які дынаміт? — сцішана рагатнуў трэці далакоп.

— Звычайная каробачка. Ён клаў зубы ў яе...

— Яму гэта трэба там, як рыбе парасон...— хмыкнуў малады далакоп.

— Ад чаго памёр? — спытаў Анатоль.

— Рак лёгкіх...

— Гэта кепска. Трупны пах доўга трымаецца. А тут яшчэ і небяспека. Інфекцыя...

— Я нічога не баюся. Адкрывайце.

Далакопы прыўзнялі вечка, і яна ўбачыла твар мужа ў белым, нібы фасфарычным, арэоле. Здавалася, што свецяцца цёмны пінжак і белая кашуля. Муж быў жудасна прыгожы. У нос ударыў кіславата-рэзкі пах, падобны на водар язміну. Вольга прыладзіла карабочак у кутку труны — засунуць яго пад падушачку не хапіла духу.

Вечка ціха апусцілася на труну. Вольга стаяла бы скамянелая.

— Ну што, апускаем? Ці яшчэ хочаце зірнуць? — спытаў Анатоль.

— Адчыніце яшчэ,— рашуча сказала Вольга.

Зноў прыўзнялі вечка. Вольга пагладзіла халаднаватыя, трохі вільготныя валасы мужа і сама апусціла вечка.

Далакопы спрытна апусцілі труну, закапалі магілу.

— Пойдзем, я вас правяду,— сказаў Анатоль.

Вольга пайшла за ім услед. Месяц быў вялікі і мутна-чырвоны, знізу па-ранейшаму свяціўся пад ім сярэбраны спадак. Вецер шамацеў сухім лісцем.

— Сёння ж поўнае зацьменне месяца,— сказаў Анатоль, калі выйшлі ў поле.— Ну, давайце грошы.

— Зараз,— яна прыпынілася, выцягнула з-за халявы грошы і падала яму.

Ён узяў грошы, сунуў іх у кішэню.

— Бачыце, я нават не лічу.

— Хм, подзвіг які,— з'едліва сказала Вольга.

— Я вам веру. Вы — дзіўная жанчына. У вас можна ўлюбіцца.

— Я сваё адлюбіла,— ціха сказала яна.

— А чаму грошы не ў сумачцы? — раптам пацікавіўся Анатоль.

— Сумачку могуць выхапіць з рук. Ноччу на могілках усё можа быць,— Вольга пасмялела, бо ўжо блізка свяціліся агні горада.

— Праўда. Вы — бывалая кабета. Дарэчы, як вас завуць?

— Мяне? Вольга Пятроўна.

— Вольга Пятроўна, у мяне ёсць прапанова. Давайце будзем дружыць...

— Як, дружыць? Што вы маеце на ўвазе? Вы пра што?

— Не прыкідвайцеся, Пятроўна. Вы ж не маленькая. Будзем сустракацца...

— На могілках? — Вольгу нават развесяліла нечаканая прапанова далакопа.

— Не, лепей у рэстаране, у тэатры... Дзе захочаце... Я вельмі незадаволены сваім жыццём. Не думайце пра мяне кепска. Грошы магу вярнуць вам... Пазней. Хачу кінуць гэтую работу. Праўда, месца тут грашавітае, але надакучыла... Я ж будаўнік па прафесіі. Хачу будаваць дамы... А хто ваш муж быў, калі не сакрэт?

— Які тут сакрэт! Шафёр...

— Звычайны шафёр?

— Ну, не зусім звычайны. Выдатны шафёр. Майстар на ўсе рукі.

— Вы мяне здзівілі, Пятроўна. Вы так плакалі... Я думаў, што ён быў начальнік які... Плакаць трэба, калі памірае вялікі чалавек... Усе плакалі, калі памёр Сталін...

— А вот мой муж якраз тады не плакаў...

— Чаму?

— У яго былі свае прычыны...

Аўтобусная станцыя была ўжо зусім блізка, Вольга прыбавіла крок, але Анатоль узяў яе пад руку.

— Не спяшайцеся. Цяпер вам няма чаго баяцца. Зірніце вунь, які месяц. Калі яшчэ такое ўбачыце... А ведаеце, сённяшняе зацьменне для мяне як прасвятленне... Ну што такое чалавек? Мяшок касцей, кішак, трыбухі рознай... Людзі жывуць, ядуць, п'юць, пладзяцца... І ў ямку. Закапалі і забылі... А вы прымусілі мяне паверыць, што ёсць любоў, вернасць... Ёсць памяць... Не пашкадавалі столькі грошай... Пайшлі ноччу на могілкі... Хочаце верце, Пятроўна, хочаце не верце, вы перавярнулі ў мяне ўсё ўнутры...

— Я хачу вам верыць, Анатоль... Толькі вы больш

не гаварыце так. Ну, што чалавек — мяшок касцей... Гэта — цынічна, жорстка... А чаму вы, будаўнік, працуеце тут?

— Іронія лёсу. Я скончыў будаўнічы тэхнікум. Працаваў на будоўлі. Неяк па п'янцы ўлез у бойку. Далі тры гады. Вярнуўся, пайшоў далакопам...

Вольга аж здрыганулася, згадаўшы, як працавала ў далёкім лесе, але яна нічога не сказала.

— Глядзіце, Пятроўна, месяц святлее. Канчаецца зацьменне. Як пісаў паэт:

Вот, как призрак гробовой,
Месяц встал — и из тумана
Осветил безлюдный край...
Путь далек — не унывай...

Ведаеце, чые гэта вершы?

— Праўду кажучы, не ведаю.

— Фёдар Цютчаў. Верш называецца «На возвратном пути». Акурат пра нас...

— Вы любіце паэзію?

— Ну так, чытаю зрэдку... Некалі сам крэмзаў вершыкі... От, калі памірае вялікі паэт... Пушкін, Гётэ, Купала... Тады ўсім трэба плакаць... Вялікія людзі неўміручыя. А звычайны чалавек... Я ўжо гаварыў: мяшок трыбухі...

— Не кажыце так, Анатоль. Хіба вы маці не шкадавалі? А ў вас ёсць дзеці?

— Два сыны. Растуць, разбойнікі... Можа, вы і правы, Пятроўна... Мусіць, я занадта многа магіл закапаў...

Падышлі да аўтобуснай станцыі, спыніліся на прыпынку. Анатоль, дужы, плячысты, загарадзіў ёй дарогу да аўтобуса.

— Пазваніце мне, Пятроўна. Ці як вас знайсці? Скажыце адрас.

— Навошта? — Вольга зірнула яму ў твар, убачыла разгубленыя, умольныя вочы, і ёй зрабілася шкада гэтага чалавека.

— Пазваніце, я вас вельмі прашу. Вы паможаце мне пачаць новае жыццё... Пазвоніце?

— Не ведаю. Можа быць... Толькі не скора...

— Дзякуй. Я буду чакаць,— Анатоль далікатна падтрымаў яе пад локаць, калі яна ўваходзіла ў аўтобус.

Праз шкло яна ўбачыла, што Анатоль стаіць на

прыпынку і глядзіць услед аўтобусу. Вольга адчула вялікую палёгку на душы: нібы пабыла на тым свеце і зноў вярнулася да жыцця. Вочы яе свяціліся ад радасці: не збаялася, перамагла сябе, выканала тое, што задумала. Яна быццам новымі вачамі глядзела цяпер на ўсё. Наперадзе сядзелі дзве жанчыны і гутарылі між сабой.

...— Я ўстаю а палове сёмай, раблю зарадку, прымаю душ. У сем пятнаццаць буджу Валерыка, п'ём чай, я фарбуюся, перакурваю, і без чвэрці восем выходзім з дому...

«Ну, і сучасная кабета,— усміхнулася сама сабе Вольга.— Але якое гора прымусіла цябе перакурваць? Сына маеш. Жыла б ды радавалася...»

Вользе так захацелася сказаць гэтай жанчыне: «Што ты робіш, мілая? Навошта труціш сябе нікацінам? Які прыклад сыну даеш?..» Але дзе ж ты скажаш такое? Яшчэ аблае, маўляў, не падслухвай чужую размову.

Упершыню пасля пахавання мужа Вольга моцна спала. Уранні ёй не хацелася плакаць, а калі прыгадала развітанне з Анатолем, як настойліва ён прасіў пазваніць, нават усміхнулася. Пацягнулася да кніжнай паліцы, але Цютчава не знайшла. Вырашыла схадзіць у бібліятэку і пазваніць сяброўцы: яна згодна прыйсці да іх на працу.

*1986*

# АДНАЛЮБ

## I

Раніца была надзвычай росная, ядраная, якія часта надараюцца ў жніўні. Сямён калоў дровы. Памалу ўгрэўся, зняў кашулю. Плячысты, шыракагруды, у свае трыццаць пяць гадоў Сямён Кухта быў здаровым, жыццярадасным чалавекам, не змардаваным цяжкай фізічнай працай і рознымі жыццёвымі націскамі. У яго дужых загарэлых руках з шырокімі далонямі тапор здаваўся зусім лёгкім, нібы цацка. У горадзе працаваў ён з алоўкам, партатыўным камп'ютэрам, бо займаў пасаду інжынера-эканаміста.

Прыехаў ён на выхадныя ў родную вёску да маці. Прыехаў з жонкаю і пяцігадоваю пястухай-дачкой. Сын-школьнік быў у піянерскім лагеры. Сямён насек ладную кучу дроў, калі жонка паклікала яго снедаць. Ён падышоў да студні, засіліў з вядра вады, памыў рукі, прыгладзіў мокрымі далонямі валасы, міжволі акінуў паглядам наваколле.

Блізка да вёскі падступаў малады хвойнік, за гародамі, нібы лес, цягнулася ўгору калгасная кукуруза. Было ціха, толькі зрэдку перагукваліся вароны: адна сядзела на макаўцы дрэва, а другая прымасцілася на мачце высакавольтнай лініі і, мабыць, вывіжоўвала адтуль здабычу. Раптам нешта зашыпела, пачуўся кароткі гук, быццам нехта стрэліў,— варона кульнулася з мачты і глуха грукнулася аб зямлю. Над мачтай — двума бетоннымі слупамі, злучанымі ўверсе металічнаю перакладзінай,— паднялося воблачка шызаватага дыму.

Усё адбылося імгненна. Сямён так і стаяў з мокрымі далонямі. «Кароткае замыканне. Яшчэ адна ахвяра цывілізацыі»,— падумаў, ідучы ў хату, каля ганка спыніўся: чорны воран кружыўся над мачтай і гучна, трывожна каркаў. Ён лётаў нізка, але на зямлю не апус-

каўся: чуў небяспеку. Сеў на дрэва і настойліва клікаў сяброўку. Сямён чамусьці адразу вырашыў, што загінула самка, а плача і бядуе верны муж-груган. Вугальна-чорны, ён, здаецца, яшчэ болей учарнеў ад гора. «Абсохне раса, пайду зірну»,— падумаў Сямён.

— Сынок, нешта ты доўга ідзеш. Усё даўно на стале,— выйшла на ганак маці.

Пасля сняданку Сямён расказаў пра здарэнне — за сталом не гаварыў, каб не палохаць малую, якая расла ўражлівай, плаксівай. Адчыніў дзверы на вуліцу.

— Во, чуеце, як ён каркае?

Ад лесу даляцела прыглушанае, жаласлівае карканне ворана.

— І праўда, як плача ўсё роўна. Во, груган, еткі разбойнік. А перажывае, шкадуе, нібыта чалавек,— сказала маці.

— Звер, бывае, больш верны, чымся чалавек,— з яўным падтэкстам сказала жонка.

Яна мыла посуд і не глядзела на Сямёна, але ён ведаў, што твар у яе зараз сярдзіты, вочы злосныя, якімі бываюць пасля таго, як пасварацца і жонка потым некалькі дзён маўчыць.

— І чалавек можа быць верным. Ніякі звер, ніякая птушка гэтак не могуць,— запярэчыў Сямён.

— У кіно хіба што... А ў жыцці — рэдка,— стаяла на сваім жонка.

— І ў жыцці таксама бывае. І не так ужо і рэдка, як табе здаецца,— Сямён крута павярнуўся на вуліцу.

Мінулай ноччу яны спалі на сене, цалаваліся, мілаваліся. Сямён сказаў, што яму вельмі добра з ёй. «Нам бы яшчэ лепей было, каб ты не хадзіў па пустых сцежках, як памаўзлівы кот»,— упікнула жонка. І яны зноў пасварыліся. Але пад раніцу пагадзіліся. І ўсё ж тых слоў Сямён забыць не мог. Ён ведаў, што ягоная жонка раўнівая, разумеў, што часам дакарала яго не без падстаў, бо жанчыны не абыходзілі Сямёна ўвагай, пры выпадку ахвотна дарылі пяшчоту. З гадамі жонка ўсё радзей раўнавала, але зрэдку рэўнасць прарывалася, як вада з-пад лёду, слязьмі, гучным скандалам, аж да істэрыкі.

Сямёна гэта злавала, раздражняла і нават здзіўляла. У іхнім міністэрстве працавала багата жанчын, і яму часта даводзілася чуць пра мужоў, якія не давя-

раюць сваім жонкам. Неяк адна супрацоўніца іхняга адзела, якая даўно сімпатызавала яму, пад вялікім сакрэтам выдала «таямніцу» некаторых каляжанак: у адной муж настолькі раўнівы, што лічыць кожную хвіліну пасля канца рабочага дня, другі выдае толькі па рублю на абед, каб, крый божа, не пайшла ў кіно.

Неўзабаве жонка з малой выправілася ў ягады.

— Мо пойдзеш з намі, Сеня? — з нерашучай ласкавасцю спытала.

— Ды я і рады б пахадзіць па лесе. А хто дровы пасячэ?

— Нельга ж калоць дровы цэлы дзень. Брусніц трэба назбіраць. Зварым з яблыкамі. Ты ж любіш такое варэнне. І Аксанка хоча, каб ты пайшоў. Заві татку, дачушка.

— Хадзем, татка,— малая з працягнутай рукой пакіравала да яго, але тут пачуўся роспачны і тужлівы крык ворана. Яна спынілася.— Гэта той... грлюган? — малая трохі яшчэ картавіла, і «р» выходзіла падобным на «л».

— Мабыць, той самы.

— А можна паглядзець тую варлону?

— Там яшчэ раса вялікая.

— Там электрыка. Нельга, дачушка,— нібы паставіла кропку маці, пацягнула малую да сябе.— Ну, мы пайшлі. Далёка не будзем. За балотцам. Калі надумаеш, дык знойдзеш.

Сямён глядзеў ім услед, слухаў плач саругана і ўспамінаў.

## II

Выплыў з памяці светлы восеньскі дзянёк, надзіва светлы для другой паловы кастрычніка. Працаваў Сямён тады ў падшэфным калгасе. У групе было каля двух дзесяткаў чалавек, найбольш жанчыны. Убіралі капусту, грузілі на машыны. Капуста ўрадзіла. Сямён са смакам і азартам махаў секачом — паўметровым цесаком з вузкай ручкаю, абгорнутай ізаляцыйнай стужкаю, ссякаючы качаны.

— Сямён Антонавіч, надта вы рванулі. За вамі не ўгонішся! — пачуў ён голас Веры, хударлявай, жылістай кабеты ў акулярах. З мужам яна даўно развялася,

адна гадавала сына, які служыў у арміі. З першага дня ў вёсцы яна гарнулася да Сямёна.

Шэфы толькі прыехалі, як паявіўся брыгадзір, малады, танклявы, у расшпіленай ватоўцы.

— З прыездам, даражэнькія. Пасяляйцеся, і прашу трохі памагчы сёння. Вашы папярэднікі насеклі капусты, у кучы паскідалі, а пагрузіць не паспелі. Машыны ў полі чакаюць.

Першую машыну грузілі доўга. Не было спрыту, зладжанасці. Спачатку, пакуль задні борт быў адчынены, кідалі ўсе, як хто мог. Хапала мітусні, таўханіны, а потым зачынілі борт, кідаць зрабілася цяжэй, некаторыя качаны не залятала ў кузаў, падалі на грузчыкаў.

— Давайце па канвееры. Мужыкі, мы станем паўз борта, а жанчыны няхай нам кідаюць,— крыкнуў Сямён.

— Трымайце! — Вера падхапіла вялізны качан і кінула Сямёну.

Качан быў такі цяжкі, што Сямён ледзь утрымаў яго. «Дужая кабета,— падумаў ён,— а з выгляду худая, што трэска».

Другую машыну нагрузілі хутчэй, а вось трэцюю, апошнюю, не спяшаліся грузіць, бо той-сёй ужо цяжка дыхаў, выціраў пот: грузіць капусту — гэта не паперкі на стале перакладваць. Стамілася і Вера. Сямёну кідала качаны маладая дзяўчына, якую ён не ведаў, бо яна працавала ў іншым упраўленні іхняга міністэрства. Пад канец качаны засталіся драбнейшыя, але былі яны крамяныя і даволі цяжкія. Сямён спрытна лавіў іх і лёгка ўскідваў на машыну. Расчырванелая дзяўчына з цікавасцю пазірала на яго, па-дзіцячы прыпухлыя вусны яе злёгку ўсміхаліся, адкрываючы востранькія белыя зубкі, а пад махеравай кофтачкай тапырыліся ўзгорачкі грудзей. «Нішто сабе вавёрачка»,— падумаў Сямён, а ўголас сказаў:

— Трымаеш у далонях гэткі крамяны качан, і здаецца, што гладзіш нешта круглае, цёплае...

Краем вока згледзеў, як заружавелася дзяўчына, а Вера не ўтрымалася:

— Што вы маеце на ўвазе? Кавуны?

— Мабыць, тыя кавуны, што пад кофтай спеюць,— рагатнуў Васіль Патупчык, сталага веку мужчына з кароткімі вусамі.

Усе заўсміхаліся, а Вера гучна сказала:

— Вы бессаромнік, Патупчык. Райка вунь аж зачырванелася...

— Хіба ж я пачынаў? Не я ж сказаў «а». Я ўдакладніў...

На вячэры за сталом Сямён і Рая апынуліся побач, і на рабоце іх бачылі ўсё часцей разам.

Вось і цяпер Сямён азірнуўся на Верын голас, але вочы яго шукалі Раю. Ён сапраўды намнога вырваўся ўперад, нават і мужчыны, апроч яго, было іх шасцёра, адсталі. Сямён разагнуў спіну, выцер узмакрэлы лоб, адчуў, што добра ўгрэўся ў цёплым світэры. Ды і сонца, хоць і восеньскае, прыпякала шчыра — стаяла позняе бабіна лета.

«Ссяку гэтага асілка і перадыхну»,— вырашыў ён, гледзячы на вялізны качан наперадзе. Той пахіліўся набок, быццам цяжка было трымаць магутную галаву. Сямён адагнуў ніжнія лісты, секануў з размаху — качан скаціўся ў разору. А ніжняе лісце, нібы вялізныя пялёсткі блакітна-зялёнай кветкі, засталося ля качарыжкі.

Для прыліку Сямён ссек некалькі качаноў на Верыным радзе, а потым узяўся памагаць Раісе. Відаць, і яна пачала завіхацца хутчэй, бо неўзабаве дагнала яго. Сямён выпрастаўся, спіна адубела ад напружання, зняў мокрыя — раса трымалася амаль да паўдня — спяцоўкі-рукавіцы, правая парвалася каля вялікага пальца, і на далоні зачырванеўся мазоль.

— Што, нават спяцоўка не вытрымала? — убачыла дзірку Рая, ціха сказала: — Дайце я зашыю.

— Ат, што тут зашываць? Глупства. Абыдзецца,— ён паклаў рукавіцы на качан сушыцца, згледзеў лужынку вады на шырокім лісце, з асалодай памыў рукі. Сонца прыпякала, ён адышоўся трохі далей ад гурту, зняў світэр, кашулю і нават майку. У роце смягла, адсек ладны кавалак ад невялікага бела-зялёнага качана і з хрумстам жаваў. Падышлі да яго і Вера з Раісай. Ён адсек капусты і ім.

— Ніколі не думала, што сырая капуста гэтакая смачная,— дзівілася Рая.

— Дзіва што! Як паробіш у полі, дык чорта б з'еў. Вунь Антонавіч угрэўся, усё паздымаў,— усміхнулася Вера.

— Рабіць дык рабіць. Як людзі кажуць: на гэтым

свеце не стомішся, дык на тым не адпачнеш,— блазнаваў Сямён.

— Ты зноў дзеўкам зубы загаворваеш? — падышоў да іх Патупчык.

— Няўжо ж як ты, усё маўчком цаляеш прыціснуць,— упікнула яго Вера.— Ты бярэш прыклад са свайго гаспадара... Не ажаніўся дзед Кастусь?

— Ды не. Дзіўны стары. Сам карову доіць, парсюкоў гадуе. Сына малога мае... Узяў бы кабету. Столькі жанчын адзінокіх. Дзівак нейкі,— разважаў Патупчык.

— Пэўне ж, дзівак. Дзесятак жанчын яму сваталі. І ўсё не падыходзяць. Пераборлівы стары,— Вера адсекла яшчэ кавалак ад качана і падала Раісе: — На, грызі. Капуста супакойвае нервы...

— Дзед гаворыць, што не можа ажаніцца. Помніць сваю Гэльку. Жалеў яе моцна. Забыць не можа,— Сямён нацягнуў падсохлыя спяцоўкі і пайшоў на свой рад.

«Сапраўды, чаму?» — падумаў ён.

Усе ўзяліся за работу. «Ах, які качан! Асілак! — выгукнула Вера.— Дай-ка я цябе абдыму...» — і замахнулася секачом. «Вось гэта абняла! І тут жа секірбашка. Каварныя жанчыны»,— пацвельваўся Васіль Патупчык. «А як вы думаеце, Сямён Антонавіч?» — пільна пазірала на яго Раіса. «Наконт каварства жанчын? Я згодзен з Васілём»,— адказаў Сямён і спрытна замахаў секачом.

Па абедзе адна за другой падыходзілі машыны. Рая ўвесь час падавала Сямёну качаны, расчырванелася, як макаў цвет, расшпіліла верхні гузік кофты. Дзяўчына стамілася, цяжка дыхала.

— Перадыхніце, Рая. Нельга ж так. Я сам буду браць з кучы,— рашуча сказаў Сямён, падняў цяжкі, наліты сокам качан, міжволі падумаў: гэта ж таксама нялёгка — падняць яго і кінуць, хай сабе і не на машыну.

На першы погляд стараліся ўсе, але Сямён прыкмеціў ужо, як выбірае з кучы малыя качанкі Віктар Іванавіч, пажылы мужчына ў зялянковай ватоўцы і шэрым капелюшы. І сёй-той з маладзейшых не спяшаўся ўслед за машынай, калі яна пад'язджала да наступнай кучы капусты. Сямён з Патупчыкам не хітравалі. Нястомна кідала качаны ім, а то і на машыну Вера, шчы-

равала Рая. Пад канец дня адчуў стому і Сямён: плечы нібы пацяжэлі, рукі наліліся свінцовым цяжарам. Захацелася дамоў, памыцца ў ванне... Успомнілася жонка, дзеці.

Пра свае сем'і, пра дзяцей думалі ўсе. Сямён адшукаў вачыма мажную кабету, яна таксама расчырванелася, расшпіліла ватоўку. Ехала яна з Мінска з вялізным рукзаком, у аўтобусе гаварыла жанчынам: надавала мужу заданняў на цэлы тыдзень, як той Золушцы, каб не засталося часу думаць пра дурное, але баюся, каб не з'явілася Фея на дапамогу яму... Сямён Кухта ў першыя гады сямейнага жыцця таксама вельмі раўнаваў жонку, але з часам рэўнасць прыціхла, пра тое, ці можа здрадзіць жонка, стараўся не думаць.

Браліся шэрыя восеньскія прыцемкі, калі шэфы купкамі цягнуліся ў вёску. Амаль усе былі ў ватоўках, у ботах, і такія розныя ў сваім гарадскім жыцці, тут яны былі падобныя. У апошняй, найбольш людной купцы, ішоў і Сямён. «Як добра ў ватоўцы! Цёпла, лёгка, мякка,— гаварыла Рая.— Чаму ў горадзе іх не носяць? Ганяемся за сінтэтычнай дрэнню. Абы блішчэла...» Жанчыны дружна ўзяліся абмяркоўваць праблемы моды.

На разбітай машынамі дарозе сям-там ляжалі качаны. Некаторыя ўжо раструшчылі колы. Пару здаровых качаноў Сямён аднёс на ўзбочыну, паклаў на відным месцы, спадзеючыся, што нейкі вадзіцель падбярэ. Потым ён пачаў адносіць іншыя качаны і адстаў ад гурту, памалу тупаў адзін. Палявая дарога выходзіла на прамую шырокую гравійку, якая і вяла ў вёску. Ён убачыў, як ля гравійкі ад групы аддзялілася жаночая постаць. Здалёк пазнаў Раю — яна стаяла і чакала, і нейкае цёплае, светлае пачуццё варухнулася ў ім. Ён ужо даведаўся, што дзяўчына працуе ў бухгалтэрыі, завочна вучыцца на чацвёртым курсе інстытута, жыве ў сваякоў на кватэры.

— Вы гэтак стаміліся, што не можаце ісці? — з ласкавай усмешкай зірнула на яго.

«У яе прыгожыя вочы. Вялікія, блакітна-шэрыя. Нейкія глыбокія, таямнічыя, як лясныя азёры»,— падумаў ён, а ўголас сказаў:

— Куды спяшацца? На вячэру паспеем. Маю порцыю ніхто не з'есць. Ды я за сталом не сплю ў шапку...

— Вашаму апетыту можна пазайздросціць. Мне дык прыемна глядзець, як вы ясце.

— Чаму? — здзівіўся ён.

— Ну, неяк са смакам. З добрым настроем... Тут, у вёсцы, і ў мяне апетыт разгуляўся. Але не ўсё можна мне есці. Язва не дазваляе...

— Язва? Вы такая маладая, прыгожая. І ўжо язву нажылі?

— Нажыла. Але тут мая язвачка прыціхла... Ледзь не забыла. Дайце вашу рукавіцу. Зашыю, высушу. Наша гаспадыня паліць у печы.

— Ды бог з ёй, з рукавіцай! Будзеце вочы сляпіць,— адмахнуўся ён.

— Давайце, давайце,— сказала Рая, у яе вачах была такая настойлівая просьба, што ён моўчкі дастаў з кішэні старую спяцоўку.

## III

Пасля вячэры Сямён адразу пакіраваў дамоў. Хлопцы дзесьці затрымаліся. У пакоі была халадэча. Ля грубкі ляжала некалькі паленцаў дроў: дзед Кастусь адшкадаваў. Сямён распаліў агонь, збегаў на суседскі нежылы двор, прынёс гнілаватых штыкецін, бо дроў гаспадар выдзеліў малавата, потым сцягнуў гумовікі, развесіў сушыцца мокрыя ваўняныя шкарпэткі. Тут дзверы расчыніліся — на парозе стаяў дзед Кастусь у старой аблезлай вушанцы. Твар у дзеда расчырванеўся, было відно, што стары дзесьці ўзяў чарку.

— Здароў, Сеня,— гучна павітаўся ён, прычыніўшы дзверы.— От добра, прапалі грубачку. Цяплей будзе ў хаце.— Стары ўзяў табурэт і падсеў бліжэй да агню.— Такое, брат, жыццё, Сенька. Хрэнова справа,— уздыхнуў ён.

— А што здарылася?

— Сын, пустадомак, раззлаваў. Старэйшы, Віцік. Прылящеў на матацыкле. Віна пляшку прывёз. Ну, селі, выпілі. Я думаў, ён пераначуе, уранні паедзе. А ён кажа: давай яшчэ віна. А дзе я вазьму яго? Няма, кажу. Ён мяне загрудкі. Э не, кажу, сынок, ты яшчэ мяне хрэн здужаеш. А тут і Шурык малы падляцеў, за штаны яго пачаў тузаць. Раззлаваўся Віцік, выскачыў

на двор, на матацыкл і недзе паляцеў. Яшчэ галаву скруціць. Ці ж дзіва, што з жонкаю жыве бы кот з сабакам. Нявестка хоча на развод падаваць. Што ета робіцца на свеце? Ніхто нікога не паважае, не шануе. Ні дзеці бацькоў, ні мужы жонак сваіх,— дзед цяжка ўздыхнуў, памаўчаў.— Я з Гэлькаю жыў душа ў душу. І працавітая была, і акуратніца. І дужа ўжо ласкава абыходзілася...

Дзед Кастусь змоўк, і нейкая сумная прасветленасць расплылася па ягоным твары.

— І колькі вы ўжо без яе? — спытаўся Сямён.

— Ой, братка, пяты гадок ужо. Шурык тады ў першы клас хадзіў. А сёлета ў пятым ужо... А памерла чаму? Кіста ў яе была. Зрабілі аперацыю, ды позна... Так і застаўся я. Дачка ж у мяне ёсць. Алена. У Слуцаку жыве. Двое дзетак мае, і муж — чалавек з галавою. Добра жывуць... Пасля Алены Віцік нарадзіўся. Хадзіла Гэлька трэцім... І собіла ж ёй... Мыла хату перад тройцай і сені. А ў сенях стаяў мех жыта пудоў на шэсць. Яна ўзяла ды і пераставіла яго. Ну, і атрымаўся выкідыш у яе. Пачала хварэць. Куды ні ездзіла, чым ні лячылася, не памагала. Тады адзін доктар параіў: паспрабуйце яшчэ дзіця нарадзіць. А ёй ужо і саракоўка мінула. Але во Шурыка нарадзілі. Сядзіць там, урокі робіць. Слухай, Сенька, братка, пойдзем туды. Дровы дагарэлі, прычыні дзверцы. Хай грэецца грубачка. А мы пасядзім, пагамонім. Мядком пачастую. У мяне ж усё ёсць. І кароўка, і пчолкі, і на градах нешта расце, і ў садзе... Усё, як у добрых людзей. У мяне ж трыццаць тры прафесіі, не лічачы крадзяжу і п'янства. Я ўсё ўмею...

— Ну, дзед, хіба ж вы крадзяжом займаецеся?

— Гэта я пажартаваў. Я люблю ва ўсім парадак. І Гэлька парадак любіла. З цёмнага да цёмнага тэпала...

Яны выйшлі на вуліцу. Ужо ацямнела. Дзед прыстоіў пад рабінкай... На ёй было багата цяжкіх чырвоных гронак, аж голле гнулася. Цяпер ягады здаваліся чорнымі. Амаль штодня на рабіну налятала дразды, і дзед іх не чапаў, маўляў, хай дзяўбуць, ім таксама жыць трэба.

Шэфы месціліся ў прыбудове да хаты, у іх быў асобны ўваход. Гэтую прыбудову гаспадар зрабіў для Віціка, калі той надумаў жаніцца. Але жыў ён з мала-

дою жонкай у прыбудове з паўгода — перабраўся ў раён. Сямён ужо другі раз кватараваў у дзеда. Месяц назад убіраў бульбу, тады і пазнаёміўся з дзедам Кастусём, але пагаварыць душэўна ні разу не давялося. У хаце за перагародкаю грукатаў тэлевізар. Шурык сядзеў над кніжкаю, круціў пальцамі шарыкавую ручку, ды па ўсім было відно, што ён часцей глядзіць на экран, чым у кнігу і сшытак.

— Зноў дэфекцыў глядзіш? От я табе дам зараз! — дзед рашуча выключыў тэлевізар.— Гэта скрынка для лайдакоў і бяздзельнікаў. А ты вучы ўрокі... Пайшлі, на кухні прыткнёмся,— павярнуўся стары да Сямёна.

У невялічкай кухні-баковачцы стаяў стол, накрыты цыратай у палінялыя кветкі, ляжаў бохан хлеба, палова цыбулькі, цьмяна паблісквала нямытая талерка. Гаспадар па-старэчы крэкнуў, сагнуўся і выцягнуў трохлітровы слоік мёду, з халадзільніка — кавалак клінковага сыру.

— Мёд з сырам, братка,— найвялікшая смаката. Я люблю мёд і з агурком прэсным. Калі гурок толькі з грады і мёд свежы. Любата! — дзед аж вочы прыжмурыў ад салодкага ўспаміну, але раптам спахмурнеў.— Ведаеш, Сенька, душа баліць. Усё пра свайго аболтуса думаю. Супакоіцца не магу. На бацьку руку падняў... Да чаго я дажыўся? І ў каго ён гэткі ўрадзіўся? — Кастусь уздыхнуў.— Чакай, братка, лыжку дам,— і патупаў у сені.

Прынёс драўляную лыжку і запыленую паўлітэрку, зірнуў вінавата:

— Перажываю. Мо і трэба было даць яму? Мо выпіў бы і не паляцеў на матацыкле. А можа, яшчэ б мацней усхадзіўся? Ці ж ведаеш, што ў дурня, ды яшчэ п'янага, у галаве. Давай, Сенька, па кроплі. А то душа трапечацца...

— Кастусь Андрэевіч, па-мойму, мёд і гэтая атрута не спалучаюцца. Не хачу гарэлкі. Не трэба,— аднекваўся Сямён.

— Твая праўда, братка. А калі ўзяць з другога боку, дык не паспрабуеш горкага, не пачуеш і салодкага. Я ніколі за чаркай не ганяўся. І бацька, і дзед мой такія былі. Гаспадары, працаўнікі вялікія. Ну, вядома, чаму ў свята не выпіць чарку ці ў застоллі якім... А вось чаму сын распіўся? Не магу даўмецца. Ды ці ж ён адзін?

Брыгадзір наш пад мухай штодня ходзіць. Даяркі напіваюцца на ферме... Я табе трошкі,— Кастусь падсунуў шклянку, налітую да паловы, і сабе наліў столькі ж, чокнуліся.— Ну, лаві, душа...

Сямёну сапраўды не хацелася піць, ён толькі прыгубіў шклянку. А вось мёд еў ахвотна, хваліў яго: надта пахучы, на колер залацісты, з сырам дужа смачна. Гэтыя словы былі дзеду як мёдам па душы, настрой яго прыкметна падняўся. Кастусь рэзаў цыбулю на долькі, мачаў у соль і еў з салам.

— Я таксама мёд люблю. Але найбольш сала з цыбулькаю. Нішто яго не заменіць. Ніякія прысмакі. Цыбулю на фронце ўпадабаў. Я ж прайшоў усю вайну. Закончыў у Аўстрыі. Ой, братка, усяго было. Колькі буду жыць, буду дзівіцца, што мяне не забіла. Параніла тры разы. Але рукі-ногі цэлы. А ўсяго было на вайне. Вунь у цілявізары, бывае, пачнуць паказваць пра вайну, дык так і хочацца крыкнуць: «Не брашы, тваю маць! Кажы праўду, а то ботам запушчу...» Цяпер у нас два ворагі: гарэлка і цілявізар. Не, я люблю каментатараў слухаць, «Урэмя», «Панараму» гляджу, пра жывых людзей. Ну, без маны калі. Дык жа не пакажуць, як чалавеку хлеб даецца. Ці на заводах як людзі ўкалываюць. Не само ж усё робіцца. Дык не, красівую жысць паказваюць. Сядзяць, разваліўшыся ў мяккіх крэслах, бабы з папяроскамі. Папяроска ў роце, а п... у абароце...

Сямён не вытрымаў і зарагатаў.

— Думаеш, няпраўду кажу? Праўда, Сенька. Чыстая праўда. Жыццём праверана. Аблянелі бабы цяперашнія. Да мяне ўжо з дзесятак іх прыходзіла. Усе замуж хочуць. Пасядзім, пагамонім, я і пачастую. «Ой, Андрэевіч, якая ў цябе хата! Гэткая веліч. І як ты сам упраўляешся? І гаспадарка такая. І хлопец малы... Удваіх яно б лягчэй...» Чуеш, як пад'язджаюць? Я сабе слухаю, галавой ківаю, а тады і кажу: добрая ты кабета, спраўная, гладкая, панаравілася ты мне. Але падумаць трэба. Перадам табе, як надумаю... «Думай, Андрэевіч, дарагі ты мой. Зайдзі калі ў хату». Мо і зайду, кажу, я ня проця... А сам думаю: ідзі, галубка, з чым прыйшла. Хочаш на ўсё гатовенькае. Калі скапычуся, дык і заграбастаеш... Хай лепей Шурыку. Ён у мяне паслухмяны. Усё ўмее. І карову падоіць, печ выпаліць, дранікаў напячэ...

— Што вы кажаце? — дзівіўся Сямён, бо сам ніколі не даіў карову, не пёк у печы дранікаў, хоць і нарадзіўся ў вёсцы.

Дзед Кастусь задаволена ўсміхнуўся, зняў пінжак, застаўся ў адным світэры. Патупаў па кухні, потым засіліў конаўку вады, паставіў на стол.

— Мёд з халоднай вадой добра,— зачэрпнуў лыжку мёду, пачаў лізаць, як ліжуць дзеці марожанае.— О, якая гарчынка ў ім! Аж у горле казыча. Чэсны мёд. Без цукру... Пачакай, хлопча, ты ж так і не выпіў. Болей ліць не буду. А гэту выпі. Злосць не пакідай,— стары лінуў сабе кроплю, бутэльку старанна закаркаваў і схаваў пад стол.— Каб і не пахла тут. Аболтус мой, відаць, не паявіцца ўжо сёння... Хоць бы ён галаву дзе не скруціў...

— Тата! — паклікаў Шурык бацьку.

— Што, сынуля? Хадзі сюды.

Шурык стаяў ля парога, кароткім паглядам акінуў стол. Быў хлапчук сінявокі, як бацька, кірпаты нос, абсыпаны жаўруковым рабаціннем.

— Урокі я зрабіў. І праграма «Час» ужо скончылася. Пайду спаць. А мо бульбы памыць Рабчыку? Каб заўтра хутчэй...

— Кладзіся спаць, сынку. Я сам усё зраблю. Добрай ночы табе...

— І вам дабранач,— сур'ёзна, як дарослы, адказаў Шурык, кіўнуў Сямёну і прычыніў дзверы.

— Чуў? — таўхануў стары пад бок госця.— Ці трэба, кажа, бульбы памыць Рабчыку? Гаспадар расце. Чалавек, а не пустадомак. Працуе змалку. Гора прымусіла. Затое чалавек будзе... А Віціка залашчылі, залізалі. Тут і Гэлька вінавата. Адзіны сын, наследнічак, кармілец. П'янтоса і выгадавалі. Дачка добрая. А Шурык яшчэ лепшы. Каб толькі, крый божа, не сапсаваўся. Каб дэфекцівы не затлумілі галаву. Ён іх не надта каб любіў. Але ўсё ж глядзяць. Прыйдзе ў школу, будуць гаварыць, а ён не ведае. У цябе якая сям'я?

Сямён расказаў пра сваіх дзяцей, пра жонку, пра маці. Кастусь Андрэевіч слухаў уважліва, задуменна глядзеў на госця. Твар яго ўсё болей спакайнеў, святлеў, рэзкія маршчыны, што, нібы падкова, сціскалі твар ад носа да падбароддзя, здаецца, разгладзіліся.

— Я рад за цябе, Сенька, што ў сям'і ладна. Дзеткі

растуць здаровенькія. Ну, давай за мір у сям'і і на зямлі...

Яны яшчэ доўга сядзелі, гаварылі. Сямён міжволі падумаў, што, можа, людзі часам і бяруць гэтую праклятую кроплю, каб пагаманіць, душу адвесці. Не абмінуў Кастусь Андрэевіч міжнароднае становішча, усыпаў імперыялістам, адміністрацыі Рэйгана, ды і ў адрас прэзідэнта сказаў пару «ласкавых» слоў, і думкі яго зноў вярнуліся ў родную вёску.

— Ты знаеш, братка, як на маю дурную галаву, дык непарадак гэта... Ну, што вы з горада рабіць да нас ездзіце. Дужа накладна. Здымаць рабочага з канвеера, каб ён тут бручку рваў, аналжэнер капусту сек. Вось ты чалавек вучаны, як мысліш?

Такога павароту Сямён не чакаў і не мог адразу нічога адказаць, хоць пра шэфства яны, калегі, між сабой гаварылі шмат. І сёння, калі сказаў Веры, чаго едзе гэты стары Віктар Іванавіч, бо не можа працаваць, яна ўсміхнулася: «Чаму? А яму выгадна. Малака папівае, заробіць тры адгулы, надбаўку да прагрэсіўкі. Потым тры дні будзе на дачы працаваць, як бульдозер. Вось вам і нямоглы».

— Згодзен з вамі, Андрэевіч. Але ў горадзе расплодзілася гэтулькі кантор. Многія людзі пішуць там малапатрэбныя, а то і зусім непатрэбныя паперы. Хай лепей тут у зямлі пакалупаюцца. Бяда ў тым, што і ў калгасе ад іх мала карысці.

— Во, братка, як у сук уляпіў. Гэтулькі лайдакоў развялося. І ў горадзе, і ў вёсцы ад іх карысці як з казла малака. Колькі іх з нашай вёскі пакацілася! А ў нас жа можна жыць. Зямля добрая...

— Мне падабаецца ваша вёска. Акуратныя дамы, дарогі спраўныя. І возера зрабілі. Можаш рыбку павудзіць, пакупацца. Можна жыць...

— Парадку, браток, не было. Цяпер новы старшыня стаў прыціскаць. А то дажыліся, што злодзей на злодзеі ехаў... А скрынку ўключыш — там шык і бляск. Красівая жысць. Ну, і сыпанулі ў горад. А мой зяць цяпер кажа: хацеў бы я жыць у добрым калгасе... Я вось пра што думаю. Псуецца чалавек. Грамаце вучым. Радзіва, кіно, цілявізар, газеты, здаецца, павінны вучыць добраму. А чалавек драбнее. Пустазелле заглушае. А чаму? Можа, таму, што чэсныя, працавітыя і на вайне гінуць хутчэй. І ў мірным жыцці першы

ўдар на сябе прымаюць. Пры Сталіне колькі вынішчылі чэсных людзей. А круцялі розныя, хітруны, адным словам, пустадомкі, выжываюць, пладзяцца... Так што, Сенька, гадуй сваіх дзяцей. А я Шурыка... Ой, наплёў я табе сем кашалёў!

Сямёну хацелася запярэчыць, што добрых людзей заўсёды было болей, чым благіх, проста яны не так у вочы кідаюцца, але гэта б зацягнула гутарку, а заўтра рана ўставаць, і ён развітаўся з гаспадаром.

У прыбудове вокны не свяціліся. Хлопцы, мабыць, паснулі ўжо. Сямён адчуў, што стомленасці як і не было, ён мог бы і зараз пайсці працаваць у поле. Падумалася: чаго ён толькі не рабіў у гэтым калгасе! Сёлета два тыдні сушыў канюшыну, грузіў прывялую траву на сянаж, вазіў цюкі прасаваныя, абкашваў дарогі, потым убіраў бульбу і моркву, а зараз капусту. А мінулай восенню тыдзень рабіў на таку: прасяваў праз сіта насенне канюшыны. Працавалі ўтрох: адзін вядром насыпаў, двое люлялі сіта, калі зернейка прасейвалася, ссыпалі мякіну ў тачку. Работа для жанчын-пенсіянерак, а рабілі яе тры здаровыя дыпламаваныя мужы.

## IV

Прачнуўся ён рана. У пакоі было яшчэ цёмна, толькі пасвятлелі верхнія балонкі вокнаў. Тыя ночы хлопцы спалі ў світэрах, шкарпэтках. А зараз грубка грэла, і так прыемна ляжаць хай сабе на злямчаным цюфяку пад старэнькай коўдрай. Усё вырашае настрой чалавека. «Сёння перадапошні дзень. Канчаецца наш заезд»,— падумаў Сямён і нават пашкадаваў, што хутка прамільгнулі гэтыя дні. Яго думкі нібы падслухаў Васіль Патупчык, пазяхнуў, пацягнуўся:

— Ну што, мужыкі! Віншую з перадапошнім днём капуснага дэсанта! Я ўчора затрымаўся, а сёйтой прыйшоў яшчэ пазней. Цікава, што гэта азначае?

— Усё ты хочаш ведаць? — весела адгукнуўся Сямён.— Удаву падшукаў тут. Застаюся на другі тэрмін.

— Можа, да брыгадзіркі падкаціўся? Да Сяргееўны. Цёплая баба.

— Сіе ёсць вялікая тайна,— Сямён апрануўся, падаўся на вуліцу.

Весела і шумна прайшло сняданне: усіх радавала, што шэфскі дэсант блізіўся да фіналу. Сямён падняўся з-за стала, услед за ім выйшла Рая. На вуліцы дагнала яго, падала спяцоўку.

— Вось ваша рукавіца. Трохі залатала.

— Дзякуй вялікі. Цяпер я і нанач не буду яе здымаць...

— Чаму? Ах, вы жартаўнік, Сямён Антонавіч,— нібыта дакарала Рая, а сама аж свяцілася ад задавальнення.

Сямён трымаў рукавіцу, чыстую, сухую, цёплую ад печы і Раіных рук, латка была ледзь прыкметная, вакол яе акуратнае двайное шво. «Малайчына! Так пашчыравала,— з цеплынёй і ўдзячнасцю падумаў ён.— Некаму будзе добрая жонка...»

— Ці бачылі вы гэта дзіва? — Рая паказала на чырвоную рабінку, што расла на ліпе, вялізнай, разгалістай. У шчыліне між двух ствалоў на вышыні ля трох метраў ад зямлі тулілася тонкая кволая рабінка з гронкамі чырвоных ягад.

— Якая сіла жыцця! Але што з ёй будзе далей? Карані ў яе слабыя,— задуменна сказаў Сямён.

— А нашто ёй моцныя карані? Жыве чужым сокам. Дрэва-паразіт. Вось вам і дзіва,— наблізіўся да іх Патупчык.

— А як ёй жыць іначай? Калі б яна магла выбіраць: тут зямля, жыві сама, а тут — шчыліна дрэва. Неяк трапіла ягадка, птушкі, відаць, занеслі. Не загінула. Ніколі не бачыла, каб рабіна расла на іншым дрэве. Які ж яна паразіт? — не пагадзілася Рая.

— Значыць, яна вымушаны паразіт,— усміхнуўся Сямён, зірнуў на гадзіннік, зручней прыладзіў у кішэні цясак, памацаў спяцоўку.— Ну што, Васіль, рушым? Пайшлі, Рая?

— Я пачакаю Веру. Ідзіце, мы дагонім.

— Дзе ты ўчора так доўга быў? — дапытваўся Васіль.

— А ты дзе?

— Я з Верай трохі пагаманіў. Цікавая баба.

— Ну, а я з дзедам Кастусём. Цікавы дзед.

— О, ён мудрэц. Адналюб. «Не магу забыць Гэльку, і ўсё тут». І, ведаеш, Сеня, зайздрошчу яму. Калі б

жонка была добрая, на халеру шукаць яшчэ нейкае ліха. Што я — вораг сабе? Тыдня не магу без бабы? Хочацца нечага чыстага, светлага...

Сямён памацаў зноў у правай кішэні спяцоўку, здалося, што яна яшчэ цёплая: ці ад печы, ці ад маладых Раіных рук. Ён азірнуўся: хацелася бачыць Раю, гаварыць з ёй, злавіў сябе на думцы, што чакае вечара... Васіль таксама азірнуўся, убачыў, што блізка нікога няма, загаварыў глухаватым голасам:

— Разумееш, у мяне атрымалася недарэчна. Вучыўся ў інстытуце. Сябраваў з дзяўчынаю. Прыгожая, добрая. Так яна падабалася, каб ты ведаў. На чацвёртым курсе я ўжо думаў пра вяселле. І яна не пярэчыла, а тут яе сяброўка пачала каля мяне круціцца. Неяк мая Ніна паехала да бацькоў. Яе сяброўка і кажа: «Што ты так бегаеш за Нінай? Няўжо не бачыш, што яна думае пра іншага?» — «Пра каго іншага?» — «Так яна і скажа табе. А пра цябе яна сказала так: і з'есці гадка, і выплюнуць шкода». Мяне як абухом па галаве. І ўзненавідзеў Ніну. А яе сяброўка стала маёй жонкай...

— А з Нінай ты хоць пагаварыў?

— Пагаварыў... Праз дзесяць гадоў. Неяк сустрэліся. Каб ты бачыў, якая прыгожая жанчына! Пытаецца: «Скажы, Вася, чаму ты так зрабіў тады? Чым я цябе пакрыўдзіла?» — «Дык ты ж сказала пра мяне: і з'есці гадка, і выплюнуць шкода».— «Каму я так сказала?» — «Сяброўцы сваёй, Валі».— «Ну і сучка ж твая Валя. Нічога падобнага я ніколі не казала...» Хацеў са злосці адлупцаваць сваю, ды што цяпер зробіш. Два сыны-школьнікі растуць. Кватэра, дача. Усё разам нажывалі. Ды яна, Валя, гаспадарлівая, сыноў любіць. Здаецца, усё добра, а вось духоўнага кантакту не хапае. А ў Ніны адна дачка, муж выпівоха... Вось як бывае ў жыцці... А з Верай хораша,— ухмыльнуўся Патупчык.

Прайшлі моўчкі, Патупчык загаварыў зноў:

— Вось ты сказаў, што рабіна — вымушаны паразіт. Лёс прымусіў яе жыць сокамі іншага дрэва. Ну, а хто людзей прымушае рабіцца нягоднікамі, мярзотнікамі, дармаедамі?

— Мабыць, не заўсёды прымушае жыццё. Самі людзі...

— Слухай,— перапыніў Сямёна Патупчык.— Ка-

лі б мая не абдурыла мяне, магла б і застацца векавухай. А так мае сям'ю. Я, здаецца, не лайдак, не п'яніца. Ды і не бабнік, калі на тое...

Іх дагналі жанчыны, і размова сама сабой абарвалася.

Працаваў Сямён са смакам, жартаваў, а калі лавіў Раіны пагляды, радаваўся яшчэ болей. Ды і ўсе працавалі дружна: навучыліся, уцягнуліся ў работу, падужэлі, зрэшты, і зарабіць хацелася — у апошнія дні пра гэта часцей думаецца. На полі бялелася некалькі купак капусты, а машын не было. Падышла брыгадзір агароднікаў Ганна Сяргееўна.

— Ну, малайцы, гэтулькі наварочалі. Чыста ссякаеце. Налаўчыліся,— здалёк гучна гаварыла Сяргееўна.— Заставайцеся на другую змену. Бачыце, яшчэ колькі капусты. Мора!

Сяргееўна была ў доўгім плашчы, на галаве цёплая чырвоная хуста, твар шырокі, абветраны. Сямён часта думаў з удзячнасцю пра людзей, якія вырасцілі такую капусту, і пра Сяргееўну, якую бачыў ужо не першы раз.

— Як вам удалося вырасціць такую магутную капусту? Адкрыйце сакрэт, Сяргееўна,— спытаўся ён.

Сяргееўна любіла сваю справу і ахвотна пачала тлумачыць, як садзілі расаду, якія ўносілі ўгнаенні, як змагаліся са шкоднікамі. Усе слухалі, а Вера і тут уставіла свае тры грошы:

— Вясною вы не давалі нам ні хвілінкі адпачыць, перадыхнуць...

— Вясною аддыхаць няма калі. На гэта ёсць доўгая зіма. Вось у канцы года прыеду ў горад. У мяне дачка там жыве. Пойдзеце са мной у рэстаран? За мае грошы,— яна жартам абняла Сямёна.— Я ж не старая. Шчэ тры гады да пенсіі. У мяне і плацце ёсць доўгае, моднае. Я буду што каралева,— усміхнулася Сяргееўна, увачавідкі маладзеючы.— Пойдзеце? Жонка на вечар адпусціць?

— Чаму ж не? Хто ў яе пытацца будзе,— жартаваў Сямён, але злавіў дакорлівы пагляд Раі і сумеўся.

Тут пад'ехалі адразу тры машыны. Сямён прапанаваў падзяліцца на дзве групы, каб грузіць дзве машыны, меней будзе таўхатні.

— Вунь і чацвёртая машына коціць,— сказала Сяргееўна.

На поле звярнуў блакітна-шэры самазвал, аб'ехаў крайнюю машыну, заехаў наперад.

— Куды вы едзеце? Што вы капусту трушчыце! — памкнулася да яго Сяргееўна.

З кабіны самазвала вылез даволі малады, але ўжо з прыкметным пузам шафёр у паласатым, як зебра, світэры.

— Чаго ты раскрычалася? Падумаеш, качан раздушыў! Гіне тонамі. А табе шкода аднаго качана.

— Ты яе расціў? Табе не шкода, пустадомак няшчасны. Дарогі не бачыць, прэ па капусце. Штрафу ўлепім, дык будзеш ведаць,— не магла супакоіцца Сяргееўна.

— Ідзі ты знаеш куды... Штрафам яна пужае.

Сямён не помніў, як апынуўся каля машыны, ірвануў шафёра за плячо: «Ану прасі прабачэння ў жанчыны!» — «Што? Якое прабачэнне?» — грозна набычыўся ён, але ўгледзеў сякач у руках Сямёна, а тут яшчэ і Патупчык падышоў, аціх. «Не выпендрывайся, а прасі ў Ганны Сяргееўны прабачэння. А то паедзеш назад пусты»,— спакойна і цвёрда сказаў Патупчык. Шафёр зразумеў, што справа прымае сур'ёзны паварот, зусім зніякавеў, вочкі спалохана забегалі пад рудаватымі броўкамі: «Дзівакі нейкія. За качан капусты ўз'еліся... Паслухайце, Ганна Сяргееўна, я не хацеў вас пакрыўдзіць, прабачце»,— працадзіў ён скрозь зубы. Сяргееўна моўчкі адвярнулася і пайшла. «Грузіць будзеш сам, усёк?» — гучна сказаў Сямён, каб усе пачулі.

Напалоханы вадзіцель пачаў сам кідаць у кузаў качаны. Калі нагрузілі і трэцюю машыну, Вера кіўнула на самазвал:

— Глядзіце, зебра больш паловы накідаў. Давайце ўжо адпусцім яго. Хай едзе.

— Сямён Антонавіч, давайце паможам,— сказала Рая.

Усёй талакой за хвіліну дагрузілі самазвал, павесялелы вадзіцель асцярожна развярнуўся і гэтак жа асцярожна, каб не зваліўся ніводзін качан, паехаў па дарозе.

А потым была развітальная вячэра. Дзяўчаты напяклі дранікаў, малака заўсёды хапала, а тут яшчэ і

самавар прынеслі. За сталом Сямён сядзеў побач з Раяй, яна ўсё падкладвала яму дранікі. Сядзелі доўга, нетаропка пілі чай, рагаталі, спявалі, спяшацца не было куды — наперадзе доўгая восеньская ноч.

Разыходзіліся позна. Вечар быў надзвычай цёмны, тугі вільготны вецер зрываў апошнія яблыкі ў садах, грукаў аканіцамі, бы прасіўся на печ пагрэцца. Сямён і Рая выйшлі разам, Вера яшчэ засталася. На вуліцы Рая ўзяла яго пад руку, прыхінулася. На развітальную вячэру яна апранула паліто, хоць іншыя дні хадзіла ў куфайцы. Сямён не здрадзіў сваёй рабочай форме: і цяпер на ім былі ватоўка, гумовікі і світэр.

— Вось ужо і наша хата,— ціха сказала Рая.— Гаспадыня, відаць, спіць. Давайце яшчэ паходзім.

Ішлі моўчкі. Яна яшчэ мацней прыхінулася. Вецер памалу разагнаў хмары, там-сям у разрывах праклюнуліся зоркі. На краі вёскі яны выбралі ўтульную лавачку ля ціхай невялікай хаты, вокны яе былі забітыя дошкамі.

— Неяк вусцішна сядзець ля нежылой хаты. Быццам холадам патыхае ад яе, праўда? — вялікія цёмныя вочы глядзелі ў твар Сямёну.

— Так, праўда. Нехта жыў у гэтай хаце. Нехта нарадзіўся... Кожную раніцу ішоў з коміна дымок, пахла ў хаце хлебам. Цёплым, жылым духам...

— Ведаеце, Сеня? Можна, я вас так буду зваць? Мне здаецца, вы зусім малады...

— Канечне, мне ўсяго трыццаць тры.

— Дзесяць гадоў розніца. Гэта зусім нямнога. Дык вось нежылая хата нагадвае мне восеньскую шпакоўню. Калі шпакі паляцелі ў вырай. Але ж яны вернуцца вясной. Іхняя хата чакае... А сюды, мабыць, ужо ніхто не вернецца. Вы б хацелі пераехаць сюды жыць?

— А што б я тут рабіў? У мяне ёсць свая родная вёска. Хата стаіць. Маці там адна жыве.

— Якая я дурніца! І што мне цяпер... Навошта мы з вамі стрэліся? Лепей бы я вас не ведала...

— А што? Хіба я цябе пакрыўдзіў чым? — Сямён прыхінуў Раю мацней.— Лаўка сырая, халодная... Сядай на калені...

— Вы такі клапатлівы, адкрыты, вясёлы. Працаваць з вамі так хараша. А калі вы заходзіце ў сталоўку і кажаце: «Добрай раніцы! Смачна есці!», то ўсе

ўсміхаюцца, адразу весялеюць... Я ўжо гаварыла, што мне падабаецца глядзець на вас за сталом... Разумееце, я неяк душою адпачыла тут. Нават у Мінск не хочацца вяртацца... Я б згадзілася жыць з вамі ў гэтай хаце, рабіць любую работу...

Раптам яна змоўкла, бы асеклася. Яе твар, яе губы былі так блізка, што Сямён болей не мог трываць... Яны цалаваліся доўга і горача. Нарэшце Рая выбавілася з ягоных абдымкаў, закрыла твар далонямі, плечы яе ўздрыгвалі ад плачу.

— Ну чаго ты, мілая? Не трэба...

— Я ж сабралася замуж... І хлопец, здаецца, неблагі. У Віцебску жыве... А тут вас сустрэла... І ўсё ўва мне супраць замужжа...

Да Сямёна не адразу дайшлі яе словы. Але памалу ён пачаў цверазець, нібы спускаўся з аблокаў на грэшную зямлю, успомнілася жонка, дзеці. Хіба ж ён кіне іх? Рая слаўная, мілая дзяўчына, але ў яе гэта часовае захапленне. Нібы з туману выплыў раптам дзед Кастусь, успомніліся яго словы пра сваю Гэльку.

— А жонку вы любіце, Сеня? — спытала Рая.

— Канечне, люблю. Іначай чаму б я сыходзіўся з ёй? Ніякіх іншых разлікаў у мяне не было. Пазнаёміліся, закахаліся... Вось што я вам скажу, Рая. Выходзьце замуж. Калі добры хлопец, не раздумвайце. Я нічога вам абяцаць не магу. У мяне двое дзяцей... Вы падабаецеся мне. Але што зробіш? Позна сустрэліся...

Праз некалькі дзён пасля вяртання ў Мінск Рая пазваніла Сямёну, павіншавала са святам, потым зрэдку яны бачыліся ў сталоўцы. Аднойчы сустрэліся ў ліфце. Сямён павітаўся. Рая падала руку, і ён убачыў жоўты шлюбны пярсцёнак.

— Можна віншаваць? — спытаў ён і пацалаваў Раіну руку.

Рая шчасліва ўсміхнулася.

— Здаецца, усё добра. Дзякуй вам...

Сямён нічога не паспеў адказаць, ліфт спыніўся, дзверы яго расчыніліся.

## V

Сонца ўжо звярнула з паўдня, калі Сямён Кухта з жонкаю і дачкою вяртаўся з лесу. Ён нёс пластмасавае вядзерца белавата-чырвоных брусніц. Жонка несла поўную конаўку чарніц. Аксанка ішла між бацькоў і няспынна шчабятала, нібы ранішняя ластаўка. Яны падыходзілі да хаты, калі зноў пачулася самотнае крумканне ворана.

— Гэта той самы? — устрапянулася дачка.— Тата, ты абяцаў паказаць...

— Ну, пойдзем, паглядзім,— Сямён паставіў на ганак вядро.

— Пашкадуй дзіця. Паўдня ў лесе, на гарачыні. Паабедаем, тады сходзіце,— запярэчыла жонка.

Па абедзе малая заснула, і толькі надвячоркам Сямён выбраўся з ёй у лес. Яны дайшлі да прасекі, над якой віселі правады высакавольтнай лініі. Пад мачтай Сямён спярша ўбачыў рудаватае пер'е, а збоч мёртвую варону з распасцёртым крылом. Сямён падняў птушку, і яму падалося, што яна яшчэ цёплая. Гэта здзівіла яго, але тое, што ён убачыў, прымусіла здзівіцца яшчэ болей: у густой траве ляжала другая варона, чорна-сіняя, з прыгожай моцнай дзюбай, скурчанымі кіпцюрамі.

— Ёлкі-маталкі! Вось гэта дзіва. Каб хто сказаў, не паверыў бы.

— А што, татка? Якое дзіва? — дапытвалася дачка.

Сямён прыслухаўся, нібы хацеў пачуць самотнае крумканне гругана. Але вакол было ціха. Ён яшчэ раз агледзеўся вакол. Рудаватае пер'е сведчыла пра тое, што спачатку ахвярай цывілізацыі стала нейкая іншая птушка. Ліса ці вараннё расшкуматалі яе. А потым здарылася тое, што Сямён бачыў на свае вочы.

— Вось гэта птушка ўранні загінула. А гэта той, што клікаў яе. Мабыць, шукаў яе і трапіў сюды...

— А можа, ён не захацеў адзін жыць,— не па-дзіцячы сур'ёзна сказала малая.

— Можа, і так. Давай мы пахаваем іх разам.

Сямён выламаў з хвойкі сук, вострым канцом разгарнуў верхні пласт зямлі, усыпаны шыгаллем, далей быў сыпучы жвірысты пясок.

— Можна, я буду рукамі капаць? — спытала дачка і прысела наўколенцы.

Удваіх яны выкапалі даволі глыбокую ямку пад невысокай рабінкай. Сямёну прыгадалася рабіна каля хаты дзеда Кастуся, успомніўся сам гаспадар і ягоныя словы: «Гадуй, Сеня, добрых дзяцей...»

Дамоў ішлі, калі ўжо сутонела. Малая моцна трымалася за бацькаву руку, моўчкі тэпала і пра нешта засяроджана думала.

Ноч бралася ядраная. Спрадвечная раса ападала на зямлю.

*1986*

## ЗМЕСТ

*Литературно-художественное издание*

Леванович (Леонов) Леонид Киреевич

ПАВОДОК СРЕДИ ЗИМЫ

Роман, рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Левановіч (Лявонаў) Леанід Кірэевіч

ПАВОДКА СЯРОД ЗІМЫ

Раман, апавяданні

Рэдактар І. І. Канановіч. Мастак В. Ф. Александровіч. Мастацкі рэдактар М. Я. Шкурпіт. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Т. В. Трубач.

ІБ № 3149

Здадзена ў набор 06.12.88. Падп. да друку 25.07.89. АТ 06857. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 21,0. Ум. фарб.-адб. 21,21. Ул.-выд. арк. 21,79. Тыраж 12 000 экз. Зак. 2058. Цана 1 р. 80 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Левановіч Л.**

Л 34 Паводка сярод зімы: Раман, апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 397 с.: іл.

ISBN 5-340-00322-1.

Леванович Л. Паводок среди зимы: Роман, рассказы.

Раман «Паводка сярод зімы» апавядае пра цяжкія пасляваенныя гады, гады нястачы, сталінскага дэспатызму. У творы чытач внойдзе знаёмых герояў па рамане «Шчыглы», ёсць і новыя персанажы. Няпроста складваецца іхні лёс. Фінагент Іван Сырадоеў любіць Вольгу, тайна сустракаецца з ёю, але яна гадуе сына, «бязбацькавіча», Іванава маці асуджае Вольгу...

Апавяданні пра нашых сучаснікаў, іхнія клопаты, радасці і спадзяванні.

Л $\frac{4702120201-150}{М 302(03)-89}$ 11—89 ББК84Бел7